# ГОД НУЛЯВЫ

**Раман**

## I

У адну пору зелянела, у адну пору і цвіло ўсё.

Нязвыклаю была зіма, нязвыклаю перапала на гэты год і вясна. Не паспелі адкрасаваць дробныя вішні, не адсыпалі свой белы густы цвет вастраверхія грушы, як павеяла саладкаватым мяккім пахам ад ружаватых яблыневых кветак. І нечакана ў тую ж пору забушаваў бэз. Яго ясналіловы цвет заглушаў усё.

Садавіны ў Верасаве было мала: дзе за хлявамі старая ўкаранелая дзедаўская груша ці недагледжаная яблыня ды пры мяжы — купкі чэзлых, дзічалых сліў і вішняў, што выраслі тут самі па сабе — ад чужых, праточаных за плот карэнняў.

Цесныя, абгароджаныя яловым даўгавечным частаколам гародчыкі заглушаў адзін бэз. Яго густы, ясны навал цвету хаваў малыя падслепаватыя вокны верасаўскіх хат, аблягаў з плота на вузкую, сточаную дажджавою вадою пясчаную вуліцу.

Росным, гаркавата-халодным бэзам пахла цяпер і ў верасаўскіх хатах: дзяўчаты ды маладзіцы наломвалі цэлыя бярэмы ліловых букетаў і ставілі ў жоўтых паліваных збаночках на стол.

Толькі ў Корсакаў, асыпаючы карычняватыя, нібы падпаленыя, пялёсткі, на акне дацвітала лапка ад дзікай грушы. Некаторага дня яе адламала ды прынясла, каб пасадзіць у бутэлечку з вадою, Хрысця.

З гэтае дзікае грушы, а мо нават з тых пядаўніх хрэсьбінаў, пра якія так панура і зацята маўчаў Корсак, і па-

чалася перадрага: нібы шукаючы якога выпадку ці зачэпкі, Корсак цяпер ужо не стрываў. Натрапіў у хату якраз тады, калі Хрысця, наліўшы ў сінюю бутэлечку вады, ставіла ў яе гонкую, усыпаную белым цветам грушавую лапку.

Корсак нават спатыкнуўся на старым, што цягнуўся ад парога да стала, стоптаным ходніку.

Потым затупаў па ім, пакідаючы на зялёнай, з сінімі паскамі полцы жоўтыя плямы сыраватага пяску. Сарваўшы з галавы, нечакана ляпнуў зашмальцаванаю кепкаю па чыстым, з шырокаю прошваю абрусе, а потым ужо прыстукнуў і сваім сцятым ад злосці тоўстым кулаком:

— Што ты тут усё вырабляеш! Што ты садавіну нішчыш! Ці табе на балоце слепаты якой няма!

Ён нават стаў заікацца. Злосць дробненька трасла яго чорны, чамусьці толькі з аднаго боку пасівелы, дзён тры не голены падбародак. Пукатая лысіна блішчала ад поту, вываРочваліся раз'ятраныя вочы.

— І там падкінула агню ў хату... Што табе трэба? Што? — Ён нават прытупнуў юхтавым, змазаным пакостам ботам, успомніўшы пра Алесю, пра тыя нядаўнія хрэсьбіны, пра ўсё, што тады ўчыніла ў Ведравічах.

Хрысця сцялася каля акна, маўчала, крыўда і брыдкасць нейкаю млявасцю аблілі ўсё, не далі нават паварушыцца. Гэтак і стаяла, зніякавелая, каля тое грушавае лапкі, што схілілася ёй на плячо.

— Бачыш ты яе! Прыйшла з сяла і ганяе цябе з двара. Ужо не ўжыць тут пры ёй. Але не — на тваё не выйдзе! — і раптам, забыўшыся на стале зашмальцаваную кепку, закульгаў да дзвярэй, з грукатам папхнуў іх у сені: — Марш! Ідзі пакаштуй сабачага хлеба. Выняньчылі тут скулу...

Хрысця толькі ўхапіла са сцяны свой чорны, завужаны ў таліі сачык і, няпомнячыся, вышмыгнула на двор, подбегам пайшла вузенькаю пясчанаю вуліцаю. На яе густа наплываў, пах халоднаю гаркатою стары цяпісты бэз. У душы шчымела, пераварочвалася гарачым клубком крыўда. Перад вачыма сцямнеў, зажурыўся ясны вясновы дзень, счах і водсвет бэзу.

Як сляпая, Хрысця дайшла да Ваўчкоў. Накіп густога бела-ліловага цвету навальваўся на ружаватыя каменні. Каля іх, як куры ў пяску, грабліся Вользіны дзеці. Большая дзяўчынка трасла бутэлечку з разведзеным мелам — забаўлялася, рабіла «малако». Стрыжаны ножніцамі ў радкі галаваты хлопчык ляпаў рукамі па горбачцы пяску.

Хрысці нават зрабілася смешна ад гэтай іхняй забаўкі — спомніла нешта сваё, даўнейшае, з малых гадоў: вось гэтаксама каля прызбы забаўлялася з бутэлечкамі ды звітымі з анучак лялькамі. Як было даўно, як даўно ўсё прабегла. Нават гэтыя тры гады, як асталася тут у Верасаве, прайшлі, нібы адзін дзень.

На папярочнай вуліцы за Ваўчковым занядбалым садком, што спускаўся да рэчкі пад купы навіслых вербаў, натруджана рыпела нямазанае кола. Падымаючыся на пукаты грудок, напінаўся і трос доўгаю сіваю грываю белы Мондраў конь. Хрысця змярцвела, раптам згледзеўшы Імполя: ён ішоў каля расцялежанага воза — босы, у злінялай кашулі. З-пад ганарыстае кепкі, што сядзела набакір, крута віўся рудаваты, выгаралы на сонцы чубок.

Чужымі, здранцвелымі нагамі Хрысця адступіла назад.

У сінявым сырым цяньку пад вербамі мужчына перакочваў доўгія, неакораныя дзеравіны, яшчэ з зімы прывезеныя на мост. Міца ачэсваў гонкую хвойку — па белым, адбітым вяровачкаю шнурку гнаў шырокую тоўстую трэску. Тугі гук едкае сякеры аддаваўся звонкім ляскатам каля рэчкі. З-пад Ваўчковае хаты туды пад рэчку дзерава, мусіць, перавозіў Імполь.

Пад'юшчаная накіпам злосці сораму — усяго, што надоечы ўчынілася ў Корсакавай хаце, Хрысця рванулася міма фурманкі.

— Хрысця! Хрысця! — яшчэ большаю крыўдаю кальнуў у сэрца Імполеў голас, але як астудзіў гарачую злосць. Нейкая спакутаваная любасць да яго заварушылася на сподзе душы. Халодны смутак сцяў усю, што, можа, расстаецца з ім назаўсёды, на векі вечныя.

Перасільваючы сябе, каб не азірнуцца, каб ён не ўбачыў пякучых слёз, што раптам навярнуліся на вочы, прыспешыла хаду. Босыя ногі таптаплі нацярушаны з Ваўчковага садка, з мокрых нізкіх вішняў белы прывялы цвет.

Але раптам за плячыма задыхнуўся ён, ізноў Імполь:

— Куды ты, пачакай!

— Куды вочы глядзяць!

— Чаго ты такая? Скажы хоць,— ён памкнуўся забегчы ёй наперад.

— А што казаць, хіба ж не ведаеш?

— Што, Хрысця? Што?..

Убачыўшы праз мігатлівую навалоку слёз там каля рэчкі верасаўскіх мужчын, што перакочвалі гонкія дзеравіны, крута завярнула за Ваўчковым садком на балотца,

пад навісь старых вербаў, апякла ногі аб маладую, яшчэ ліловую крапіву, але болю не ўчула, чула толькі той, што млявою задухай падварочваўся пад сэрца.

Чорнаю тугою сцежкаю, што прытаптала муравую траву на балотцы, дабегла да кладкі. Вялікая дажджавая вада падняла роўна з берагамі вузенькую рэчку, заняла навіслыя карчы, затапіла выспы і купіны. Пад гібкаю кладкаю каламутна-жоўты вір круціў пухкую шапку пены і шуму. Сціскаючыся ад страху і чуючы, як млеюць, дрыжаць ад яго ногі, перайшла на другі бок рэчкі. І ўжо на мяккім затравелым беразе, чуючы пад нагамі ратунак зямлі, азірнулася туды, на дарогу: за рэдзенькім, што толькі выпусціў свае клейкія круглыя лісткі, алешнікам стаяў ён, увесь нейкі зняважаны,— Імполь.

І яна, раптам акрыяўшы душою, што ён любіць і не ўжыве без яе, пусцілася подбегам уздоўж каламутнае рэчкі. У грудзях яшчэ ўсё тлеў пякучы, як ад крапівы-жыгучкі, сверб крыўды.

Перад лабатым грудком вузенькі шнурок тупкае сцежкі разарвала рыжавая крынічка. З берага, што зарос восцем маладога хвашчу і нізкімі плешынамі ясна-жоўтае слепаты, сівае маладое асакі, адна перад адной у ваду захлюпалі зялёныя лупатыя жабы. Скалануўшыся спярша ад нечаканага страху, а потым ужо і ад гідкасці, Хрысця пераскочыла вузенькі, зацягнуты сіняватаю смугою плеўкі раўчачок і ў адзін дух узбегла на высокі, падрэзаны рэчкаю груд. Азірнулася зноў на чорныя, не абкіданыя лісцем старыя алешыны, на парасоны ясна-зялёных вербаў, што хавалі ад Хрысціных вачэй кладку. Там ужо не было чуваць і едкага стуку Міцевай сякеры. Толькі недзе блізенька ў маладым шара-ліловым алешніку працяжна пасвістваў, нібы дражніўся, падсалоўка.

Азірнулася на далёкае ўжо Верасава. Чорныя старыя алешыны і разложыстыя шчоткі вербаў засланілі яго ад Хрысціных вачэй. Толькі ў прагале жоўтых, як кроп, кляноў, што зацвілі перад вёскаю, шарым зношаным каўпаком высунулася страха Корсакавага гумна. Падварушаным агнём зноў пыхнула ў Хрысцінай душы нешта помслівае і злое. Не, яна ніколі не вернецца туды. Ніколі. Што ўжо ні будзе. І раптам з гэтай злосцю сэрца абвіў нейкі смутак, што яна пакідае гэтую вёсачку ў ліловым ясным бэзе, што свіціцца ўночы, што яна не ўбачыць больш яго, Імполя, якога, можа, і не любіла, а так сабе забаўлялася, праманвала, нарабіўшы, дурная, бяды сабе і яму. А цяпер трэ-

ба ўцякаць ад злых, куслівых языкоў, ад пякучае, як жыгучка, брыдкасці, помслівых абгавораў, ад усяго, што чынілася ў Верасаве.

Яна прайшла высокім падмытым берагам. Глыбока ўнізе, робячы луку, карычняватая і цягучая, як верасовы мёд, паволі плыла рэчка, ірвала бераг і нахіленай купкай маладога, у рэдзенькім лісці пруткага алешніку, закручваючыся глыбокімі лейкамі, бушаваў цёмны вір. Халодным страхам і жудасцю веяла ад яго.

Выплесканая нагамі сцежка, што абягала стромы бераг, раптам правалілася ў глыбокія прорвы ям. На краі іх сохлі выветраныя ялаўцовыя карэнні. Глыбока ўнізе на сыпкім жоўтым пяску зачапіўся і прырос кусцік ялаўцу. Сюды, на край грудка, падступіўся малады, ружаваты ад гонкіх, у залацістым шалушынні стрэлак лясок. Самлелымі пальцамі карэнняў за абрывісты бераг трымалася маладая прысадзістая хвоечка. Чорнай губою над высокаю прорвай завіс край берага. З-пад яго вытачыўся, аплыў жоўты сыпкі пясок. Хрысця аж жахнулася, убачыўшы глыбокую лёху з выветранымі карэннямі.

Востры жаль працяў усю, што хвоечка ўпадзе, зваліцца ўніз разам з гэтым падточаным і расколатым берагам. Вакол яе востра, як маланка, абягала глыбокая шчыліна. На які міг Хрысця нават убачыла, як будзе падаць падточаны бераг, як пахіснецца і з мяккім шумам паляціць галавою ўніз маладое дрэва, як будзе паволі аб'язджаць падточаны бераг, з лускам ірвучы тонкія залацістыя карэнні, як пакоціцца туды ўніз, і забухаюць у ваду цвёрдыя груды зямлі, пахіснецца, закалышацца і паляціць разам з глыбаю зямлі ў цёмны вір маладая хвоечка.

І нейкі лядовы страх абліў Хрысцю, што і яна, як гэтая маладая хваіна, апынулася на стромым падточаным беразе і вакол яе гэтак глыбока раскалолася зямля. Няўжо яе спасцігла такая доля расці, красаваць над стромым абрывам... І потым падаць.

На вачах замільгацела навалока пякучых слёз. Пад сэрца падкацілася гарачая слабасць, здушыла цяжкаю задухай. Далёка, нібы ў глыбокай яме, у надрэчных вербах кувала зязюлька. Хрысця паволі адступілася ад берага. Стаілася, чуючы, як трапечацца і замірае ў знямозе сэрца. Паслухала, і міжволі, у нейкім бяспамяцтве, пачала ўслед за ёю лічыць свае гады. Адзін, два, тры, чатыры. Налічыла да сямі і недзе спадыспаду душы, як у глыбокім калодзежы гаючая вада, вытачыўся ратунак: во колькі яна

будзе жыць. І крышку ўжо ахмялелая ад гэтае свае варажбы, пайшла пры беразе лесу, топячыся босымі нагамі ў вільготнай мякаці адсырэлага моху, што разаслаўся між стаўбунаватых, высокіх, як канапліны, кустоў ялаўцу. Вільготны густы гаркаваты чабаровы пах кружыў галаву. У счарнелым леташнім быльніку, як наеты вол з круглымі бакамі, разлёгся сівы абамшэлы камень. Хрысця прысела на яго гладкую ў расплясканых жоўтых кветачках моху спіну. Доўга і бяздумна глядзела, як на злінялай кветачцы калыхаўся чорна-карычневы паласаты чмель. Ценькі стваалок у дробных, павыцінаных, як у клёна, вострых лісціках сагнуўся пад яго цяжарам. Чмель сонна загуў, зрабіў некалькі сярдзітых кругоў над Хрысцяю і, падымаючыся над вялымі, яшчэ жаўтлявымі вяршкамі ялаўцаў, згінуў з вачэй.

І Хрысцю агарнуў жаль, душу цёмнаю хмараю абняла адзінота. Зрабілася нават шкода, што гіне з вачэй сярдзіты чорны чмель. Няўжо гэта маладая, з блішчастым пер'ем трава, гэтая кучаравая кветка палыну, купка наточанага жоўтымі дробнымі мурашкамі пяску, гэты чмель, што калыхаўся на ліловай кветачцы, гэты падпараны разамрэлы лес — мілейшыя за людзей? І чаму так добра, так салодка на душы, калі ты адна. І як чуе цябе і свеціць для цябе белаватае сонца, і дыхае вільготным цяплом, і лашчыць тваё валасы густы водар, і толькі для цябе цвірчыць і перасвістваецца там, з краю ляска, у палахлівым, абкіданым карычневым, яшчэ не акрыялым лісцем асінніку дробная, непрыкметная пташачка. Чаму ж так цяжка сярод людзей і чаму ж так добра тут, у зацішку, пры гэтым вясёлым разамрэлым ляску, на які, выбіўшыся праз жаўтлявыя хмары, глядзіць парнае белаватае сонца.

Вецер студзіў раз'ятраныя Хрысціны думкі, нёс іх, як нясе напрадвесні, сарваўшы з дрэва, леташні сатлелы лісток. І ён трапечацца адзін у вышыні і ніяк не дабярэ, дзе яму ўпасці. Не ведала і Хрысця, не магла з гарачкі дабраць, куды ёй ісці. Толькі не ў Ведравічы, не дадому. Каб кожны крыва глядзеў і падсмехваўся? Лепш ужо ў Дварчаны да якога яўрэя ў наймічкі.

Ціха, як зязюлька, Хрысця зляцела з настылага каменя. Варожачыся, каб не натрапіць на чужое вока, збегла ў неглыбокі, зарослы стаўбунаватым ялаўцом роў, што лукою падрэзаў хвойнік. Захлюпала па цёплых падпараных лужынах, абыходзячы павымываныя вадою ямы. У іх броснела дажджавая вада, адліваючы сіняватымі крыльцамі,

віліся чорныя казюркі. Недзе наперадзе, падымаючы гвалт, стракаталі сарокі. Высунуўшыся з-за высокага ялаўцу на прагал, Хрысця ўбачыла, што пры ляску, на сподзе зялёнага берага, сядзеў, мусіць, аглушаны іхнім раз'юшаным строкатам і крыкам, здурэлы заяц, тулíў доўгія вушы, не ведаючы, куды дзецца. Сарокі, заходзячыся ад свайго вострага строкату, віліся над ім, а некаторыя, сеўшы на зямлю, нейк смешна бокам падыходзілі да яго і як дзеля забаўкі адскоквалі назад.

Згледзеўшы Хрысцю, яны дружна адляцелі далей у шчытнік, застракаталі там ужо, мусіць, на Хрысцю, што адагнала іх ад вясёлае забаўкі, а заяц сядзеў, косячы невідушным лупатым вокам на Хрысцю, покуль яна не нагнулася, каб што схапіць у руку, і тады ўжо, падкідваючы белаваты азадак з кароткім хвастом, нехаця загальцаў, ізноў туды ў шчытнік лесу, дзе крычалі сарокі.

— Во які дурны,— зазлавалася Хрысця,— яшчэ задзяўбуць!

І замахала рукамі, гонячы яго далей ад гэтых дападных сарок.

Занятая вясёлым і смешным здарэннем, на які міг забылася пра Імполя, пра тую раз'юшаную Корсакаву злосць, покуль не ўчула, як нехта панура і злосна нокаў на каня.

На сцішнай дарозе, пераціраючы сыры пясок, плыла фурманка. У палукашку, нацягнуўшы на вочы кепку, пакалыхваўся дробненькі, з белымі вусамі чужы чалавек.

Хрысця ўскочыла ў задушлівы шчытны маладняк, закрываючыся локцямі ад порсткіх сухіх лап, выбегла на край сівавата-зялёнага лесу.

Яго густы шум мяшаўся з шапаткім шумам маладога, што завілося ў трубу, лапушыстага жыта. Каля яго на кашто рычнявата-ружаватым грудку зялёнымі яснымі радкамі ўзыходзіў нядужы ячмень. Мяккаю разораю каля цёмна-зялёнага, аж ліловага жыта Хрысця паднялася на грудок, спынілася на няезджанай сценцы, што бегла на блізенькія адсюль Прылуцкія хутары. У маладой засені гонкіх бярэзін і садкоў хаваліся шарыя, злінялыя на сонцы сцены і стрэхі гумнаў і хат. Сіратою сярод поля стаялі нічым не абсаджаныя і не абгароджаныя Рэпкавы будынкі — кароткая без сяней хата ў восцях вытыркнутых лат і аб'ехапае на дзін бок, знябожанае гумно. Перад хатаю лысеў жаўтаваты пясчаны грудок. Толькі ніжай зазелянеў рэдзенькі авёс. Нейкі дурны смех разабраў Хрысцю — ёй зноў успомнілася тое нядаўняе Сяргеева сватаўство.

Цяпер нат не верылася, што ўсё гэта было. І ці было яно? І гэтыя жартачкі з Імполем, і гэтыя дураслівыя да яго залёты.

Хрысця глядзела туды, дзе за цёмнаю пасмаю лесу ў старавечных прысадах хавалася маўклівае Верасава. Нейкай настыласцю адтуль дыхаў вецер, слязіў Хрысціны вочы. Яна злавіла ражок свае сівае ў чорнае балонкі хусткі, выцерла іх. І лёгка, чуючы, як падганяе тугі вецер, затупала па ясна-зялёнай, яшчэ не закурэлай траве ў ліловых кветачках буслікаў — вузкая сцежка з нераз'езджанымі каляінамі каля цёмнае канюшыны спускалася да чорствай дарогі. Далёка ў лагчыне, завешаныя лёгкай смугою вясны, бялелі атынкаваныя ды мураваныя хаткі мястэчка. Перад імі застылым бурым полымем падымаліся дзве вострыя вежы дварчанскага касцёла.

І раптам гэты неразгаданы таемны сіняваты свет зямлі, цёмных далёкіх лясоў, зялёных у маладой ярыне лабатых грудоў завесіла халодная слата крыўды, і Хрысцю абняла адзінота, агарнуў нясцерпны шчымлівы жаль, і ўсё гэта злілося ў адзін вялікі клубок страху,— а што жджэ яе там, у гэтым бясконцым і такім малым, цесным свеце, што раптам пасмутнеў і змерк для Хрысці.

## II

Новы, выштукаваны пад нямецкі вугол дом з цынкавым дахам і расхрыстанымі бела-нябескімі аканіцамі хаваўся ў цяньку пад ружаватымі старымі хвойкамі.

Ад бляшанага даху ў вочы калола сляпучая яснасць. У адчыненай палавінцы акна на жывым скразняку самлела ўздыхала накрухмаленая фіранка. На завостраны шчыкетнік плота сонна наваліўся жоўты куст акацыі. Ціхім рахманым гудам над ім звінелі ўвішныя пчолы, чапляліся на высалапленыя язычкі кветак. Ад куста, як ад нагрэтага ў полі лубіну, пахла цёплай пясчанай зямлёю, запыленымі калматымі пчоламі, густым духам вулляў.

За непрычыненай брамкай на высланым з цэментовых плітак ходніку пабліскавала нікеляванымі спружынамі і воськамі дзіцячая каляска.

Абапал ходніка чарнелі ад свежай тлустай зямлі выкладзеныя пастаўленымі на кант цэгламі пукатыя вочы двух кветнікаў. Вострымі верацёнамі на іх вытачыліся пасынкі невядомых кветак. Чужым і невядомым жыццём дыхнула на Хрысцю ад гэтага новага дома з прыгожым раз-

ным ганкам, ад чысцюткага дагледжанага надворка. За сухім шклом вокнаў, за сіняватым дымам гардзін, зашморгнутых на шнурок фіранак з выстрыгаванымі кветкамі, хавалася таемнае пекнае жыццё. І Хрысцю скамяніў раптоўны сполах.

Крадком адступіўшыся ад расхрыстаных веснікаў, стаілася за прывялым на гарачыні кустом акацыі, каб перачакаць, покуль пералекаціць гэты страх.

Азіралася назад, туды, на рог плота, за якім ужо хавалася, трасучы сваімі сівымі злінялымі валасамі Суля, што прывяла Хрысцю сюды, да гэтага дома з ганарыстым высокім дахам.

І Хрысця ўспомніла, як млела яна і ад гарачыні, і ад сарамяжлівасці ўчора, калі, ачуціўшыся ў Дварчанах, хадзіла па брукаваных сонных вуліцах, назіркам прыглядаючыся да чужых маўклівых вокнаў, і ніяк не магла дабрацца хаты, каб зайсці і спытаць, каму трэба служанка ці нянька да дзіцяці.

Нейкі сорам і брыдкасць адбіралі адвагу, і Хрысця, прыпыніўшыся на міг перад зашчэпленымі веснікамі, скоранька ішла далей, чуючы на сабе зірк цёмных патайных вокнаў. Зморaная наўнэт і збітая з панталыку, што ёй рабіць і куды дзецца — няўжо ісці ў Ведравічы, дадому? — яна раптоўна натрапіла на нізенькую з лазовым шчытком і саламянаю абамшэлаю страхою хатку і, учуўшы нейкі ратунак, скіравала на другі бок вуліцы да раз'еханых непрычыненых веснікаў. На парозе хаткі, трымаючы на прыполе гліняную міску з забеленым крупнікам, палуднавала старая гаспадыня ў карычневай камізэльцы.

Каля парога, збіўшыся ў купу, таптал і дзяўблі адна адну жоўтыя вялікія куры, мусіць, не падзяліўшы тое каліва крупніку, што плюхнула з лыжкі старая. Вялікая, з чачоткавым грэбенем і калматымі нагамі курыца, адганяючы, дзяўбла ў галаў маладую рабенькую шурпу.

Угінаючы галаў і прысядаючы, тая верашчала на ўвесь надворак, але не адбягалася.

— Ах, каб на цябе нарат, заб'еш,— махнула рукою старая, ратуючы маладую, рахманую, з натапыраным пер'ем курыцу, і ўжо закрычала на яе:— А ты стаіш, не рухаешся, нязграбацьl

Хрысця прыпынілася, чакала, покуль яе, мусіць, убачыць старая, але тая гаварыла да чубатае курыцы.

— Глядзіш, дэба, каб ты вочы ўставіла. Усё б'ешся, збрыдзела ты мне, нябось пакладу галаў на калодку.

Зачэрпнуўшы гушчы, старая ізноў плюхнула на малады ружаваты спарышнік лыжку крупніку — туды наперабой, адна перад адною, кінуліся куры — і падняла чырвонае заплаканае вока на Хрысцю: з ніжняга, вывернутага века на шчаку сачылася сляза.

— Ці патрэбна вам?.. — Хрысця спатыкнулася на астатнім слове.

— Што, дзеткі, кажаце? — старая рукою сагнала слязу.

— Наймічка ці патрэбна вам?

— Пытаеш у хворага здароўя,— старая нагнулася над міскай. Хрысця стаяла збітая з тропу, не ведаючы, што і казаць далей.

— Яна пытае наймічку,— старая выплюхнула з міскі астатак крупніку ў грумадку курэй і паднялася з парога: — У багатых трэба пытаць. У каго грошы, той і пан. Таму выгоды, і наймічкі, і шнаймічкі трэба. Спазнала гэтакую долю. Покуль маладыя — усім прыгодны. А стары — то й сабе збрыдзееш. Ані руху ў мяне, ані разгавору. Во бачыш, якавая стала. Дзе ўсё тое дзелася, а была ж такая, як і ты,— маладзенькая. З'елі маю маладосць...

Хрысця маўчучы слухала горкае нараканне на няўдачную долю — у чужым жалю было нешта блізкае Хрысці, і сэрца здушыла свая і гэтая чужая, змешаная з кіпячымі слязьмі крыўда.

— Да свінабояў падыдзі або во — да жыда, у цукерню да Сулі зайдзі,— старая прыціснула да сябе пустую міску, выскрабла там каліву крупніку, аблізала драўляную шчарбатую лыжку і сказала крышку шапялявым ад бяззубага рота голасам:

— Сіраціна, знаць?

Ад гэтае раптоўнае здагадкі ў Хрысці растапіўся скамянелы холад, на вачах запяклі слёзы.

— Знаць, не салодкая доля прыгнала цябе. Ой, знаць.

Хрысця, разжаленая наўнэт, кінулася да веснікаў, не бачачы за слязьмі свету, вышмыгнула на вуліцу, чула, што яе яшчэ нанач клікала старая. Убачыла, што сюды да веснікаў ідзе, трымаючы на плячы доўгае гарэхавае вудзільна і памахваючы за хвосцік лазіны вянком серабрыстае рыбы з чырвоным пер'ем, той самы чалавек, што зімою разам з Імполем малаціў у Мондравай Алесі, прыспешыла хаду.

Да Сулі ў цукерню яна прыйшла счакаўшы, покуль не высахнуць слёзы і не астыне на сподзе душы, не асядзе чорны, як каламуць, і пякучы жаль.

Доўга хадзіла па ўсыпанай конскімі жаўтлявымі яблыкамі вуліцы, потым прыпынілася каля выбеленых муракамі вуліцы, потым прыпынілася каля выбеленых мураваных крамаў, дзе драмалі, чуючы пах вэнджаных шынкаў ды кілбасаў, валачашчыя сабакі і дзе млелі папрывязваныя да плота ляйчынамі некалькі фурманак. Цярпліва і панура чакаючы, покуль управяцца з пакупкамі размораныя непаваротлівыя гаспадары, змучаныя на вясновым ворыве худыя вясковыя коні нехаця адмахваліся ад мух, пазвоньваючы цуглямі, траслі грывамі. Скура на іх нервова ўздрыгвала — коней дацінала раз'юшаная заедзь. На заднім возе, што стаяў напроці дашчанага ганка, разлёгшыся ў саломе, пыхкаў папяросаю расчырванелы пасля гарачае гарбаты ці мо скупое чаркі маладжавы, нечым нават падобны да Імполя мужчына, дзюбаносая маладзіца ўтоптвала ў воз тоўсты, звязаны выцвілаю хусткаю ванзэлак — куплены мо сабе на блузку паркаль ці танны, дзецям на порткі, корт.

Спатыкнуўшыся на цэментовым ходніку і заглядваючы ў твар дзюбаносай маладзіцы, Хрысця спытала, ці тут будзе Суліна цукерня.

— Ага, тутака яна,— махнула дзюбаносым тварком на дашчаны ганак маладзіца.

Хрысця яшчэ раз азірнулася на маладжавага, падобнага да Імполя, бо глядзеў гэтаксама спадылба, мужчыну і зайшла ў цукерню. Цёплы, перамешаны з карыцаю пах маладых пухкіх булак ды шапаткіх цукерак зварухнуў голад: толькі цяпер Хрысця ўспомніла, што ранічкаю ўхапіла лыжку жытняй, забеленай заціркі.

У цеснай цукерні, у духаце, прэлі адны мужчыны і з імі маладая смуглявая, з сінімі вочкамі маладзіца. І Хрысця сумелася, пазнаўшы па ліловых, як сліўкі, гузах на галаве, калі ён падняў, папраўляючы, кепку, таго высокага мужчыну, што быў у Ведравічах на хрэсьбінах.

Ён прыходзіўся нейкім сваяком. Якім — Хрысця нават не ведала. Але страх браў пра адно — каб ён хоць не пазнаў яе, і, збітая з тропу, не ведала, што рабіць: ці аставацца тут, у цукерні, ці вышмыгнуць на двор.

Яна адвярнулася, паклала на падаконнік свой пакунак — усё, што паспела выхапіць з куфра, уцякаючы ад Корсакаў,— глядзела ў акно, на ясную, залітую сонцам вуліцу, нічога там не бачачы, толькі чула спіною, што каля прылаўка таўчэцца і гаворыць гучным, трохі сіпаватым голасам мужчына з ліловымі, нарванымі ад натугі гузамі. У шыбу акна білася і падала на падаконнік вялікая муха.

Маладзіца, накупляўшы дадому гасцінцаў — па жмені рачкоў-цукерак ды па пахкай булцы з вочкамі-разынкамі,— высунулася з цукерні, забіраючы і гэтага мужчыну з парванымі гузамі. І ў Хрысці адлягло, памякчэла на душы. За грукам дзвярэй у цукерні раптам вырасла вялікая пустая сцішанасць. Толькі ў шыбу сослепу білася і падала на шуфляду акна вялікая чорная муха.

— Вуй, забі яе, забі! Цэлы дзень жыць не дае! — распяразваючы на сабе фартух, сюды з-за прылаўка вышчамілася тоўстая Суля.

Хрысця падняла свой лёгкі пакунак, махнула ім.

Муха, раз'юшана пабіўшыся ў акно, бзыкнула недзе назад за прылавак, стаілася ў нішы палічак.

— Во і ніяк не зніштожу,— Суля лупаватым вокам зіркнула на Хрысцю і паволі пакалывалася за прылавак, спытала адтуль: — Ну што? Ну чуеш, што маўчыш?

— Людзі нараілі да вас зайсці,— Хрысця пацерабіла рукамі свой пакунак.

— Людзі,— хмыкнула і затрасла сытым падбароддзем Суля.— А ці ўсе цяпер людзі? Пальцы на руцэ і тыя не роўныя, але які ні адсячы, кожны баліць. А што, не? Чуеш, не?

— Мусі, кожны,— кіўнула Хрысця.

— Што, няпраўду кажу? — Суля зноў скрыва зірнула па Хрысцю.— І табе нешто ж во баліць. А мо не?

— Дзецца няма дзе.— Хрысця ўчула, як зноў сухая балючая гарачыня сцяла дых.— У наймічкі, можа, хто возьме.

Суля чапіла вагі — адзін перад адным пляскатымі дзюбкамі замахаліся крута выгнутыя, як у коней, шыйкі вагаў,— падняла на Хрысцю рудыя вочы:

— У наймічкі?..

— Усё рабіцьму.

— А што ўмееш рабіць, што?

— Дзяцей даглядацьму.

— Яна кажа — дзяцей. Ты глядзі, яна кажа — дзяцей. А сама ты хто? — зноў затрасла цяжкім двайным падбароддзем Суля.

Хрысця, збітая з панталыку, ужо маўчала — не магла дабраць у галаве: ці распытвае, ці здзекуецца з яе Суля.

— Ну што маўчыш? Што я табе не ўнаравіла? Зацялася ўжо,— Суля распытвала доўга, усё паўтараючы гэтае сваё «а што, мо не праўду кажу», то адкуль яна, то колькі

год, то дзе бацькі, і, калі Хрысця прызналася, што ■ Верасава, раптам закрычала:

— Вуй, гэтае Верасава. Вуй, далося яно мне ў знакі. Як ужо і верыць каму. То гэты Літапар ваш стурбаваў мне галаву...

— Літавар мо? — перапытала Хрысця.

— Ну хай сабе Літавар, то Люпіна, другі год грошы не аддае. Пазычыла і не аддае. Вой, гэтае Верасава, вой, якія там людзі. І каму ўжо цяпер даваць веры? Ну каму? Бога не гняві і людзей не смяшы.

— З дому прагналі мяне,— сказала Хрысця.

— Дзіва што, гэткія людзі,— падтакнула Хрысці і, трохі памякчэўшы, адышоўшы ад злосці, спытала ўжо: — Галодная? — І адказала сама: — Ды няўжо ж.

Яна і накарміла ўчора Хрысцю, і нанач да сябе ўзяла. Паслаўшы ў цесным, абклееным зялёнымі шпалерамі пакойчыку на расхістаным тапчане, прынесла лёгкае рыпучае крэсла, пасядзела, трымаючы рукі на тоўстых каленях, пагаравала разам і, нагнуўшыся, каб хто не чуў з хатніх, спытала:

— А можа, праз хлопца што? Можа, бацька за грэх які?..

— Ой, што вы, які ў мяне грэх? — жахнулася Хрысця, раптам успомніўшы і хрэсьбіны ў Ведравічах, і тую сваю п'яную сварбу з Алесяю, і тую цалюткую ноч, калі ўсе хрэсьбеннікі, што асталіся начаваць, агледзеліся, што яе нідзе няма. І слёзы раптам запяклі, заслалі вочы.

— Вох, зноў угнявіла цябе? — Суля нібы з перапуду падпялася і прыставіла да перагародкі крэсла, суцешыла: — Не плач, знойдзем ратунак, кажуць, Грабянка папытвае няньку.

Суля яшчэ пастаяла ў дзвярах перагародкі, павохкала, жмурачыся на электрычную лямпачку з фарфоравым патропам, і, згасіўшы святло, патупала ў другі пакой — па рэдкай занавесцы яшчэ доўга поўзаў яе цень, рыпелі дошкі падлогі, і чуваць была неразборлівая для Хрысці яўрэйская гутарка. Суля гаварыла пра нешта з сваім пездароўчым з выгляду, нізенькім, усяго ёй па плячо, мужыком, што ўсё ціха соп, прыглядаючыся да Хрысці, калі яны прыйшлі ў хату.

А Хрысця вокам не звяла. Нейкім ясным і тапюсенькім, як вада з капяжа, струменьчыкам з памяці цадзілася тое даўняе здарэнне, калі яна малою першы раз прыбегла ў Дварчаны, незнарок адбіўшыся ад больших дзяўчат, аста-

лася адна на людпай вуліцы. Прыганула тое чутае, што ў смех расказвалі ўдома, як яўрэі ловяць і кідаюць у кадушку з цвікамі малых дзяцей. Ды яшчэ качаюць тую кадушку, а з цябе свішча кроў. А потым чалавечую кроў у мацу дабаўляюць.

І Хрысця, здранцвеўшы ад страху, паляцела што было моцы з мястэчка, азіраючыся на яўрэйскія крамы, каб праўда хто спадцішка не схапіў і не ўкінуў у тую бочку з панабіванымі цвікамі.

І, божа літасцівы, як яна перапалохалася і як заенчыла немым крыкам, калі незнарок на рагу вуліцы наскочыла на кульгавага з жоўтаю кацубою яўрэя і, падняўшы вочы, убачыла яго чорную, на два доўгія кліны, бараду. Гэта быў ён, мусіць, Сулін мужык.

Потым, пасталеўшы ўжо, брыдзілася есці, калі хто даваў пакаштаваць гэтую сухенькую, прэсную, мусіць, спечаную на адной пішчымнай вадзе, іхнюю мацу — баялася ўсё, што, можа, і праўда ў ёй ёсць чалавечая кроў...

На чым разарваўся гэты ясны шнурок успамінаў, Хрысця сёння і не помніла, як і не помніла свайго зблытанага і нейкага спакутаванага сну.

Разбудзіў яе ранні шчэбет ластавак. І ад іхняй вясёлай вострай шчабятні, ад яснасці ў акне і малінавай чырвані, што, коса прабіўшыся ў куток пакойчыка, затлелася на вялікіх зялёных кветках шпалераў, Хрысцю ўзяла нечаканая радасць. Яна нават забылася пра ўсё тое, што так страшна і раптоўна навалілася на яе ўчора разам з гэтым злым і помслівым крыкам старога Корсака, пра ўсё тое, што перадумала, бегучы ў Дварчаны, а сёння, здаецца, яна ачуняла, як ад цяжкае абложнае хваробы, ад усяго таго свету, што захмурнеўся і змерк перад ёю ўчора, і яна, ужо нібы адыходзячы ад памяці, нічога не бачыла і не разбірала перад сабою.

Цяперашняя радасць была танюткая і бліскучая, як павучынка, і пераліvалася мігатлівай чырванню, як пераліваецца ў лесе на лапічку сонца нацягнутая між шурпатых камлёў хвоек ці аброшаных густых ялін танюткая павучынка. Яна шчымела ў душы, займаючыся і яснеючы, як дзень. І Хрысці зноў прыгануўся Імполь. Хмуры смутак нечаканага жалю разарваў гэтую танютку, што востра блiснула, павучынку радасці. Як жа ж ён там, у злым, зайздросным Верасаве. Пэўна ж, трудна аднаму сярод помслівых плётак і чужых абгавораў. Ды як жа ж жыць, калі на цябе нават міла не ўзгляне яна, заюхленая ад злосці

Алеся. Літасці ад яе не чакай. Не... Трэба яму сысці ад усяго таго грэшнага і злога, што ўчынілася там, у Верасаве. Звяла яна са свету свекрыву з залувіцаю, звядзе і яго.

Хрысця задыхнулася ад страху: божа, што яна думае! Ды нашто яны ёй: Імполь, Алеся. Яны завілі сваё гняздо. Якое ўжо ні ёсць. А што жджэ яе, Хрысцю?

Ізноў усё ўчарашняе, як страшная абложная хмара, завалакло, заслаціла перад вачмі свет.

Ужо не чуючы ні гэтага пералівістага шчэбету ластавак, не бачачы ні яснай чырвані маладога маёвага дня, што распальваўся за акном, скоранька ўсхапілася з тапчана.

За дашчанай, абклеенай шпалерамі перагародкай пад цяжкаю хадою, нібы просячыся, суха зарыпела падлога.

Хрысця спалохана адскочыла за карычневую, на высокіх ножках шафу — баялася, каб, крый бог, хто не ўбачыў яе ў незашнураваным стапіку. Цікавала адтуль адным вокам на выцвілыя салатавыя занавескі. Нечыя пухлыя кароткія пальцы злавілі і зграблі лёгкі паркаль. У пройму дзвярэй усунулася Суля. Склаўшы на пукатым цяжкім жываце голыя, упэцканыя ў цеста і абцярушаныя мукою рукі, спытала:

— А ты ўжо не спіш?

Хрысця захінулася далей за шафу, скоранька накінула на сябе паркалёвую блузку.

— Чаго ты хаваешся, чаго? Чуеш? — Суля скрыва, адным вокам старалася зазірнуць за шафу.— Я ўжо збегала да Грабянкоў. Нараіла ім цябе. Чуеш?

Раптоўны холад страху, нібы скразняком, абвіў Хрысцю — няўжо так нечакана перамяніцца яе жыццё, і, бог святы ведае, якое яно цяпер будзе? Холад, што падняўся спадыспаду душы, закалаціў рукі. Дрыготкія пальцы ніяк не маглі злавіць кругленькія бубкі звязаных з ніткі гузікаў.

— Я ўжо не ведаю, як вам і дзякаваць,— Хрысця нарэшце зашпіліла іх, правяла рукою зверху ўніз — ці ўсе, і высунулася з-за шафы.

— Дзякуй скажаш потым, а цяперака ідзі снедаць,— сытаю, упэцканаю ў цеста рукою Суля развяла лёгкія салатавыя занавескі і схавалася за імі.

Пераходзячы прасторную святліцу, нечакана, нават сумеўшыся, Хрысця ўбачыла збоку сябе нібы знаёмую лупавеценькую дзяўчыну і прыстаўнула, каб прапусціць яе. І раптам жахнулася, пазнаўшы ў вялікім з вытачанай аправай люстэрку самую сябе.

Спярша дзіва, а потым і смех разабраў Хрысцю — гэта ж жарты, не пазнала сама сябе. Але ж калі яна глядзелася ў гэтакае вялікае люстэрка? Хіба толькі ў цёмную, з радужным адлівам шыбу, калі бегла на сяло і прыпынялася перад акном, каб паправіць хустку ды падгладзіць пад яе растрэпаныя валасы.

Стоячы перад гэтым вялікім, у прыгожай аправе люстэркам, Хрысця нават залюбавалася сабою, сваімі густымі, высакавата, па цяперашняй модзе, падрэзанымі валасамі, сваім надзьмутым дзіцячым тварком, усёй сваёй спрытнай паставай. Адну толькі ганьбу дала сабе — нізкаватая і дробная. І ніколечкі не горшая за гэтую сытую, што разлілася ў сваёй паўнаце, Алесю.

Крышку павесялелая, усцешаная, як забаўкаю дзіця, увайшла ў невялічкую, прапахлую смажанаю цыбуляю ды цымусам Суліну кухню.

За доўгім, засланым прапаленаю цыратаю шкапчыкам сядзеў, нацягнуўшы нізка на лоб пляскатую замусоленую кепку, Сулін муж. Сапучы ў даўгаваты нос, сёрбаў рэдзенькую, забеленую пшонную зацірку.

«Вой, дык чаму ж ён у шапцы есць?» — Хрысцю зноў разбіраў гэты дзіцячы, перамешаны з дзівам смех.

— Ну, садзіся, не бойся яго,— Суля, мусіць, злавіла гэты перапалоханы Хрысцін зірк.

— Дайце ж рады, я хоць твар спаласну.

— Умывальнік вунь у сенцах,— паказала Суля па філянговыя, з вострым ромбікам пасярод планак, непрычыненыя дзверы.

Пасвяжэлая, расчырванелая ад халоднай вады і ручніка, Хрысця вярнулася ў кухню ўжо тады, калі Сулінага мужыка тут не было — на табурэце, з прарэзанаю для трох пальцаў дзіркаю, сядзеў шары, з зеленаватымі прыжмуранымі вачмі сыты кот. Муркаў у натапыраныя сіваватыя вусы. З талеркі пахла смажанымі катлетамі. Суля ўкалола ў іх вострым трохзубым відэльцам, кінула дзве на спадак перад Хрысцяй.

— Вой, больш не трэба.

— Што, маладая і не з'ясі дзве катлеты?

— А я не ведаю, я іх ніколі не каштавала.

— Вой, дзеўка, смех мяне бярэ, на цябе гледзячы. Як ты жыць будзеш? Як? — Суля, падпёршы рукою сытае падбароддзе, глядзела на Хрысцю рудымі лупаватымі вачмі. Над правым брывом падымалася рудаватая барадаўка, растапырваючы чырвоныя валаскі.

— Ці ж я ведаю,— прызналася Хрысця, каштуючы катлету і крышку дзівячыся, што з яе за смак — чуваць адна цыбуля.

— Вы чуеце, яна не ведае,— нібы перадражніла яе Суля, а потым суцешыла і сябе, і ўжо яе, Хрысцю: — Але, праўда, цяпер табе абы-дзе прыткнуцца, абы дзень да вечара, а там пашукаем якой рады. Табе абы зачапіцца, а там час пакажа.

Гаварыла яна пра гэта і дарогаю, падводзячы сюды, на блізенькую пясчаную вуліцу, да гэтага ашалёванага і выфарбаванага ў карычневы колер дома, сцішаную ад раптоўнага схаладзелага страху Хрысцю.

Прыпынілася за сонна-жоўтым кустом акацыі і, пусціўшы наперад Хрысцю, нават штурханула яе ў плечы, падпіхаючы да нізкіх расхрыстаных веснічкаў.

— Ідзі, кажу табе, чаго маеш баяцца.

— Саромеюся я,— скамянела на месцы Хрысця.

— Вой, дзяўчо, гаворыш абы-што.

— Баюся.

Але Суля нібы не чула гэтага жаласнага Хрысцінага голасу, памалу цяжкімі, мусіць, хворымі нагамі закалыхалася назад.

Хрысця, абамлеўшы, як сярод глыбокай вады, стаяла цяпер адна. І руку няма каму падаць, і да берага страшна ісці, а можа, там — вір?

Яна азірнулася назад — за рогам плота плыла, то крышку западаючы за вострыя шчыкеціны, то паказваючыся, сівая праставалосая Суліна галава — і памаленьку, як праз глыбокую цёмную ваду, баючыся, каб не трапіць на вір, падайшла па цэментовых плітках ходніка пад вострую, падпёртую двума выштукаванымі слупкамі, стрэшку ганка. Цікуючы ў адчыненую палавінку акна, дзе на лёгкім, прапахлым ветранінай скразняку ўздыхала белая, падшморгнутая на шнурку фіранка, паднялася па сходцах на ганак. Абамлела ад яго глыбокае гулкае пустаты пад нагамі, але зарадавалася, што ў хаце, можа, чуюць і нехта зараз вызірне на яе тупат.

Але нават у задушным ад пявыветранага пакосту калідорчыку, дзе было аж чацвёра белых выфарбаваных дзвярэй з меднымі бліпчастымі ручкамі, ніхто яе не чуў.

Хрысця няўмела, усім кулаком, але як вучыла Суля, пастукала ў тыя непрычыненыя, што былі перад ёю. За дзвярмі толькі расплылася і асела цішыня.

Сцяўшы дых, Хрысця паслухала яе і пацягнула да сябе за медную, выгнутую крылом прыгожую ручку. Тут была кухня — на стале бялелі непрыбраныя пасля снедання талеркі.

Нібы ўзрадаваўшыся, што нікога ў кухні няма, Хрысця завярнула назад. З душы звальвалася нешта цяжкае — можа, на лепшае, што няма.

Лёгка, вясёлая ўжо, вышмыгнула з сухога, прапахлага пакоставай фарбай калідорчыка на ганак.

Памахваючы сваім пакуначкам і чуючы, як збаўленне, яспае сонца на вачах, вузенькім цэментовым ходнікам дабегла да нізкіх веснікаў. Сонным пчаліным гудам звінеў жоўты куст акацыі. Мяккі грудны голас клікаў некага. Хрысця, прыпыніўшыся на міг, прыслухалася да яго. Гукалі недзе за спіною. Яна абярнулася. Адсланіўшы фіранку, з адчыпенай палавінкі акна вызірала абсыпаная кудзеркамі бялявых валасоў прыгожая, як у анёла, галоўка.

— Вы да нас?

— Ага,— прызналася і раптам пашкадавала Хрысця.

— Я чула, што вы стукалі, але ад дзіцяці баялася адысціся, якраз засынала. То проша,— бялявая ў кудзерках галоўка схавалася за карункавымі кветкамі гардзіны.

Хрысця павалі паднялася на гулкі з прыгожымі павыразанымі балясками ганак.

У прапахлым пакоставай фарбай калідоры бакавыя белыя дзверы адчыніліся ўжо самі, і на Хрысцю дыхнуў густы, перастоены пах духоў, пах дзіцяці, пах цёплага жаночага малака.

Высокая і танюткая, як трасціна, маладзіца, спешна зашпільваючы на худых жаўтлявых каленях расхрыстаны халацік, шэптам запрасіла Хрысцю ў пакойчык. Пагрукваючы на падлозе пукатымі, прыбітымі да ножак скобкамі, зводдаль ад дзвярэй пакалыхваўся караткаваты з рэдзенькімі драбінцамі дзіцячы ложак.

Заплюшчыўшы вочкі і моршчачы лобік, мардасценькае дзіця пасмоктвала прыгожую з белай шляпкай і зялёным кольцам соску.

— Вы, мусі, ад Сулі? — азіраючыся на дзіцячы ложак, спытала маладзіца.

— Ну але,— маргнула сваім лупаватым вокам Хрысця, цікуючы на гэтую ценькую, далікатную тварком маладзіцу і не чуючы ўжо ніякага перад ёю страху.

— Так-так, яна мувіла нам... Але проша сядаць,— маладзіца паказала на круглае, з выгнутай спінкай крэсла

пад лапушыстым фікусам. На зломаным лістку густым малодзівам выслезіўся сок.

Наровячы, каб і самой дзе не пашкодзіць вазон, Хрысця адставіла далей крэсла, асцярожна прысела, прытоптваючы на прыполе свой лёгкі пакунак. Асцярожна спадылба агледзела абклееныя прыгожымі, у чырвоныя ружы, шпалерамі пакой: на тыльнай сцяне на чырвона-стракатым, што аж калоў вочы, дыване блішчалі дзве скрыжаваныя шаблі, а над парогам страшна разявіла лыч касмата-бурая свіная галава з жоўтымі ікламі.

Мусіць, змеціўшы, з якім дзівам Хрысця косіцца на гэтую галаву, гаспадыня хітра ўсміхнулася:

— То вепш. Ну, дзіка свіння.

— Няхай крые бог, мусіць, вялікая была,— яшчэ болей усмяшыла гаспадыню Хрысця, бо тая, бліснуўшы з куточка рота залатою каронкай, зарагатала зноў.

— Вой, якая ты наіўная.

— Што кажаце? — перапытала Хрысця, не зразумеўшы гэтае астатняе слова.

— Мувем, жэ ты естась ешчэ дзетко.

— Што вы!.. Я ўсё ўмею рабіць...

— Я не о тым,— затрасла кудзеркамі бялявых, перавязаных чорнаю аксамітнаю стужкаю валасоў маладзіца і азірнулася на дзіцячы ложак.

Павярнуўшы галоўку ў карункавай шапачцы, дзіця стрыгла сінявата круглымі вочкамі.

— Ты ўжо гэтак спіш? — пакруціла галавою маладзіца.

Дзіця зацмокала губкамі, чуючы ў сябе каля шчакі пустышку, і паварочвала галоўку, стараючыся злавіць яе ў рот.

Гаспадыня адкінула коўдру і, падсунуўшы пад галоўку руку, падняла гэты перавязаны шырокім поясам і ўжо мокры, падпараны пакуначак.

— Во зобач, то твоя няня. Но тылько я не вем, як она называсе.

— Хрысця я, Хрысця,— прыцмокнула языком Хрысця.

Дзіця ўсміхнулася, паказваючы свае бяззубыя чырвоныя дзясны.

Хрысця працягнула рукі, каб узяць яго да сябе.

— О не, то невольно,— маладзіца, прыціснуўшы да грудзей дзіця, крутнулася ўбок.— Цябе яшчэ не збадаў лекаж... [1]

---

[1] Збадаў лекаж — абследаваў доктар... *(польск.)*

— А нашто доктар? — апусціла рукі Хрысця.

— О, мы навучаныя,— загаварыла нібы толькі да дзіцяці, несучы яго на нікеляваны, прыстаўлены да сцяны ложак, каб, пэўна, перапавіць.— Узялі тут адну, а ў яе кароста.

— Няхай крые бог, што вы кажаце! Але ж хіба я... — Хрысця запнулася: вострым джалам упілася і затурзала сэрца тупая балючая крыўда.

— Ты ўжо на мяне не наракай, што гавару ў вочы,— маладзіца распавіла дзіця і гола-ружовенькае на адной руцэ перанясла на свежыя пялюшкі.

— Можа, вы мне адмаўляеце?.. Можа?.. — Хрысця закруцілася, шукаючы вачмі свой пакуначак. Агледзеўшы на падлозе, падняла, зацерабіла ў руках.

— Не, не... Ты ўжо так не прымайся.

— Вы ж гэтак мяне збэсцілі,— Хрысця стаяла як сама не свая. Нешта прыкрае, помсліва-злое гнала яе адсюль, але нешта і трымала, хоць і нямоцнае, як першы неакрэплы і хрумсткі лядок. Гэтым спадзяваннем была яна, тая разважлівая Суліна гутарка: «Табе абы азачапіцца, табе абы дзень да вечара, час пакажа...»

У душы не спадала горкая, балючая дасада: яшчэ ў нянькі не ўзялі, а ўжо гэтак зганілі. Як жа ж будзе жыцца ў іх, і ці ўжыве яна, ці вытрывае?

Змакрэлая ад гарачае раптоўнае задухі, Хрысця злавіла рукою лёгкае крэсла. Не, адсюль яна нікуды не пойдзе.

## III

Зацвіла і няждана завяла ў Мондравым гародчыку маладая зраджайная вішня. Парудзеў яе яспа-белы цвет, зморшчылася і пацямнела, быдта прыхопленае агнём, яе дробнае, яшчэ не акрыялае лісце.

Чэзла яна на вачах.

І цяпер карычневая, абпаленая наглым агнём смерці, стаяла сярод жывых дрэўцаў, што, ужо абсыпаўшы свой цвет, сарамяжліва заружавеліся ад натапыраных вусікаў, у якіх завязваліся невідушчыя вочкі плода.

Пасля белага густога хараства, зգалелыя, у дробным, яшчэ не акрыялым лісці, яны ціха стаіліся за высокім частаколам, каб ужо ў астатнюю гарачыню лета зачырванець спакуслівымі вочкамі ягад.

Толькі яна, завялая, у карычневым зморшчаным лісці, чужая сярод усяго жывога, халодным, як жвір, смуткам

ледзяніла сэрца — як усё нечакана на белым свеце: радзіцца і ўміраць.

Алеся прыпынілася каля весніцаў з вянком мокрых сарочак, што нясла перапаласкаць у рэчцы, паўзіралася на гэтую карычневую нежывую вішню, і нешта страхотліваба лячае перавярнулася ў яе душы, гарачынёю закіпела ў сэрцы, што гэта ліхі знак, на нешта нядобрае і благое. Падпухлы, у рудых плямах яе твар — спакойны, сонны твар цяжарнае кабеты — сцяўся і схмурнеў ад растрывожаных мысляў: «І праўда, можа, ізноў якія чары?»

Даганяючы сучачку, што з вуліцы завярнула за бацькава гумно, выйшла на Корсакаў надворак. Каля хлява бацька распрагаў каня — рассупоньваў хамут. На возе, прыстаўленая да драбінкаў, стаяла барана.

— І што, пабаранаваў, тата? — Алеся пераклала з рукі на руку мокрую бялізну.

Улас быдта не ўчуў дачкі, выкруціў з гужа аглоблю, кінуў яе, аж зазвінела атоса, на засмечаны брук надворка.

— Ага, пабаранаваў. Не бачыш, ці што?

— Нешта ты, тата... — Алеся не ведала, як падступіцца да бацькі, зацялася ад крыўды.

— Яна пытае — нешта! — не павярнуўся на яе голас бацька.— Конь вунь захварэў. Як сам не свой зрабіўся. Думаў ячмень дабаранаваць, тую латку пад грушавым пнём.

— Чаго ж та ён?

— З ночы ўжо такі. На дыбы становіцца, быдта ад памяці адыходзіць. Я думаў, можа, дзе падвярнуўся. Чую — грукае, прыбег у хлеў, гляджу — не, толькі з перапуду на мяне кідаецца.

— Можа, ласка перапалохала,— сказала Алеся, уцікоўваючыся ў нейкага смутнага, з панура і цяжка ўгнутаю галавою Корсакавага каня.

— Можа, і яна.

— Кажуць, што коням грывы заплятае. Летась мае авечкі так ублытала ў гарохавінне...

Корсак не даслухаў, сказаў, нібы цераз сілу, пра тое другое, што ўпілося стрямякай у сэрца.

— А я ж наймічку во з хаты прагнаў. Хіба не ведаеш?

— Не,— Алеся адступілася, учула, як па руцэ пацяжэла мокрая бялізна.

— Хай ідзе пад шатанэ.

— А дзе ж дзенецца яна, без прыстанішча?

— Ліхата яе не возьме. Глядзі во сябе,— Корсак вывеў

з аглобляў непаваротлівага, нібы нежывога, каня. Сказаў, ужо схаваўшыся за яго: — А ты глянь на сябе. Якавою ты стала.

— Тата, ці ты ж не бачыш, што я...

— Хто ў боб, хто ў гарох, а ты, як кажуць, у сачыўку. Я пра другое кажу,— Корсак зняў з каня і кінуў на воз хамут.— Я і твайго шыбельніка выгнаў бы разам з ёю. Чуеш?

У Алесі анямелі, падагнуліся ногі. Як нежывымі, ступаючы імі, спусцілася з пакатага надворка да брамы. У галаве збэрсаным вузлом зашмаргнуліся мыслі. Спомніліся хрэсьбіны, тое гумпо, трэск лубіну пад нагамі, Хрысцін злосны, раз'юшаны голас: «А ты думаеш, ніхто не ведае?»

«Ведаюць, вядома ж, ведаюць,— задыхнулася Алеся.— Але чым жа ж ён, Імполь, вінаваты? Нашто вінавацідь Імполя? Вінавата я сама. Гэты грэх ужо на мне. Божа, даруй усё. І за Хрысцю, і за бацьку, за ўсё».

Не згледзела, як праз Сымонаў садок, перабегшы па каменнях тут вузенькую завоінку, дайшла да рэчкі, покуль з утрапення не ачуціў вострых ляскат пранікаў.

Зніякаваўшы, спынілася над берагам, трымаючы на сагнутай руцэ мокрую бялізну.

У рэчцы, не падкасаўшы падолаў, стаялі тры верасаўскія маладзіцы, адна перад адной з размаху білі па вымачаным напач у попеле і складзеным у гармонік на заслонах палатне вагкімі пранікамі — перылі яго. З гармоніка вада сцягвала доўгую шарую полку палатна, круціла яго. Душачыся ў вянку рэдкага, яшчэ добра не ачунялага, у зморшчаным дробным лісці алешніку і пагусцелых вербаў, што асыпалі ўжо жоўтыя валасатыя таўкачыкі, ляскала вострае рэха. Пераліваліся, пабліскаваючы ў паплытчэлай занач вадзе, высокае пякучае сонца. Шыбкаю маланкаю жахаў з-пад цяжкіх бярозавых пранікаў мокры ляскат, аддаваўся далёкім водгаласкам над стракатым ад жоўтай маслянкі поплывам, біўся ў звінючыя шыбы верасоўскіх хат.

З высокіх пырскаў на маладзіц ападала густая імжа, у ёй трапятаўся, успыхваў і свіціўся ружаваты кавалачак тэнчы.

Размотваючы мокры гармонік і пускаючы па вадзе шарую доўгую полку, якую выгінала і скручвала быстрая вада, маладзіцы неяк наводмаш, са сваім бабскім спрытам махалі нялёгкімі бярозавымі пранікамі.

Іх было аж тры: зеленаватая, зблажэлая з твару, у шарачковым зліняным сачыку Ваўчкова Вольга, дзябёлая, у

сівой суконнай, пэўна, мацерынай камізэльцы, перастарэлая дзеўка — Мацюшкава Сабіна і недарослая, што хавалася аж па пояс у вадзе, Пытлева Ганначка.

Алеся як спынілася на міг над высокім берагам зводдаль плёсу, дзе бушавала вузейшая і быстрая рэчка і дзе тырчалі, высунуўшыся з вады, чорныя тоўстыя карчы з падмытымі вузламі карэнняў,— каля іх ледзьве не ўсё Верасава мыла і паласкала бялізну,— так скорапька, нават яшчэ не апомніўшыся, сіганула далей. Яе, мусіць, і не паспелі б згледзець, каб, незалюбіўшы моцнага ляскату пранікаў, не забурчала і не заціяўкала, трасучы доўгімі вушмі, уедлівая сучачка.

— Алеся, ці чуеш? Алеся! — гукала сваім трохі як слязлівым голасам маленькая Ганначка і, падымаючы, падцягваючы абедзвюма рукамі перад спадніцы, каб не блытаўся ў нагах, заплюхала па вадзе.

Алеся, бытта не ўчуўшы, ішла далей, наровячы схавацца за алешнік і густую лазу, што заглушыла пясок, далей за бухтаю.

— Алеся! — упагон ёй ужо закрычала сваім званкаватым голасам Ваўчкова Вольга.

Яны ўсе перасталі ляскаць пранікамі, стаялі, апусціўшы іх у руцэ. Вада аблеплівала кругa іхніх ног намоклыя спадніцы.

— Куды ты? Сцеражыся!

— Чаго? — нехаця прыпынілася Алеся.

— Недзе туды Ракоў сабака пабег.

— Ну й што?

— А ты не чула хіба? — Ганначка заплюхала далей па рэчцы, ловячы сваё расцягнутае вадою палатно.

— Няхай крые бог, ашалеў, кажуць, ён.

Алеся азірнулася на ліловы ад мятліцы і жаўтлявы ад маслянкі, што стракацеў між заводняй і рэчкай, вузкі поплаў і нідзе не ўбачыла чорнага Раковага сабакі, толькі, пазвоньваючы цуглямі і хаваючыся па калені ў мятліцы і ў гэтай жоўценькай яснай маслянцы, ішоў Янка Вайтовіч: мусіць, завёў на папас, вярнуўшыся на полудзень з ворыва ці баранавання, свайго каня.

— Гэта ж во тут каля нас стаяў,— Ганначка нарэшце злавіла і пацягнула да сябе па густой вадзе шары доўгі пасак палатна.

— Мы тут аж умлелі,— перабіла яе Ваўчкова Вольга.— Стаіць, угнуўшы голаў і ўцяўшы між ног хвост, але да нас не сунецца.

— Вады ж, кажуць, баіцца,— Сабіна адкінула з вачэй і прыгладзіла кудзеркі сваіх рыжых, залацістых валасоў.— А як улезе, то здохне.

— Нябось, во не здох,— павярнула да яе свой зліналы бязбровы твар Вольга.— Вуньдзека ў Рабках людзей пакусаў.

— Вой, што ты кажаш,— Алеся зняла з самлелае рукі і палажыла на затравелы бераг бялізну.

— Дзяцей трэба глядзець,— упоперак густое быстрае рэчкі да пясчанага плёсу пабрыла Вольга, несучы складзенае на заслоне і ацяжэлае ад вады палатно; з яго густа, як з рэшата, лілася вада.

Услед за ёю з рэчкі выбіраліся Ганначка з Сабінаю. Няслі выперанае палатно, каб разаслаць на поплаве,— няхай сохне і беліцца пад цёплым вясновым сонцам.

Як учуўшы што, сюды, пад старыя замшэлыя ў камлях вербы, што хіліліся да рэчкі сваім рагатым крывым галлём, скіраваў даўганосы, у злінялай старой кепцы верасаўскі солтыс Янка Вайтовіч.

— А вунь і солтыс,— махнула цяжкаю, у тоўстай хустцы галавою Вольга.— Няхай шукае якую раду.

— Якоі ж ты рады захацела? — задраў пляскатую зверху, прышытую да брыля кепачку і прыскаліў адно вока Янка Вайтовіч.

— Кажуць, сабака Ракоў ашалеў,— Алеся спусцілася ніжэй на бераг.

Гэтым прыскаленым вокам Вайтовіч агледзеў яе, змераўшы з ног да галавы, нібы дзівячыся, што ў яе з-пад каптана прыкметна выпіраецца жывот, падцягваючы ўгору перад лёгкае паркалёвае сукенкі.

— Ну й што? — Вайтовіч нацягнуў ніжай на лоб пляскатую кепку — схаваў ад сонца свае вочы.

— Бабу вуньдзека ў Рабках пакусаў,— Вольга зняла з заслона мокры гармонік палатна і пацягнула яго па слізкай траве, ідучы аж да завоні спіною.

Вайтовіч падняў кепачку, падрапаў лысаватае, у рэдзенькіх валасах цемя:

— І праўда, бяды ён можа нарабіць. Але ж дзе ты, папечку мой, яго зловіш? Каб якая дубальтоўка была...

— Вуньдзека ж у Сяргея Рэпкі ляворвар ёсць,— Вольга турзанула да сябе шырокі і мокры пасак палатна, каб лепш і раўней прылягло да травы.

— Хы, ляворвар,— чмыхнуў у свой доўгі нос Вайтовіч.— Мо які пугач,— і пайшоў ад баб, замільгаўшы з-пад

порткаў зялёнымі ад травы пятамі. У руках у яго падзвэньгвала жалезнымі цуглямі вобраць.

— Во, знойдзеш пры такім солтысе ўправу,— зазлавала Сабіна і ўслед за Вольгаю пацягнула, размотваючы з гармоніка, слізкае мокрае палатно.

Бабы яшчэ пастаялі пры гэтых разасланых па зялёнай траве доўгіх шарых пасках, выкруцілі мокрыя падолы спадніц, пагаварылі пра шалёнага сабаку, якога надоечы, бо не ўзяў есці, спусціла з ланцуга Ракова Лёлька, і падхапілі свае заслонікі і цяжкія бярозавыя пранікі. Услед за Вайтовічам, мякка і нячутна прытоптваючы зялёную казытлівую мураву, скіравалі з поплава на вільготна-халадпаватую ў цяньку дрэў пясчаную дарогу, што падымалася ад рэчкі ў вёску.

Алеся, прытупнуўшы на сучачку, каб ішла дахаты, спалохана азірнулася, ці не відно дзе таго Раковага сабакі, але над поплавам, між разарваных вяцкоў яшчэ рэдкага ад зморшчана-клейкага лісця алешніку, што ўквечваў завоню і рэчку, сіпеў ціхі вясновы полудзень, зморана адзін перад адным чахкалі сухія калючыя конікі, віліся, падаючы зверху ўніз і ўздымаючыся лукаткамі, белыя матылькі ды недзе востра цвірчэў, лётаючы над жвірыстым плёсам рэчкі, няўседны курлюк,— і Алеся спусцілася па абвіслым беразе да тоўстых карчоў: пад імі сцішна плюхала і густа цякла, сціснутая высокімі берагамі, вузкая і быстрая ў гэтым месцы рэчка. Усе верасаўскія бабы, стаўшы на колінкі, паласкалі тут вымытае дома ў балеі, у слізкім, рудым, наваранным з попелу лузе сваю бялізну ды прыносілі перамыць што чарнейшае: шарачковыя ды плацянковыя спадніцы, порткі, фартухі ды анучы.

Алеся, паклаўшы на густой мураве бялізну, асцярожна прыкленчыла каля абслізганага, чорнага, што пах бадзягаю, карча і ўчула, як кружыцца ад быстрае вады, ад яе трапятлівага бляску галава. Заплюшчыўшы вочы, адсунулася далей, нечакана абамлеўшы ад таго даўнейшага, што раптам успомнілася цяпер, як у звар'яцелай гарачцы, адыходзячы ад памяці, душыла свой жывот, абмацваючы варухлівы тоўсценькі плодзік, як нешта наглае, дурное надышло на яе тады кінуцца галавою сюды ў бухту, каб ужо больш не варочацца да Мондрых, не бачыць Радзівона, помслівае, урэднае свекрыві і немае залувіцы — бо нашто ж жыць, калі так перайначылася, перакасілася жыццё і ўсё маладое, яснае зашмаргнулася ў Мондравай хаце, у няўдачным горкім замустве.

Алеся адапхнулася рукою ад чорнага слізкага карча, ад быстрае страхатлівае рэчкі, што далей, за карчамі, сцішалася ў жаўтлявым і каламутным віры, які паволі кіпеў, пераварочваўся, падымаючы з глыбокага таемнага дна чорны бруд, разганяючы зверху і закручваючы вострымі, вірлівымі лейкамі ваду.

Цяжкая задушлівая гарачыня сціснула Алесі сэрца, лоб і далоні замакрэліся ад халоднага поту. Адступаючыся далей ад чорных карчоў, прысела на зялёным крутым беразе, адганяючы ад сябе страшлівае, што так нагла накінулася на яе, але адагнаць не магла: зноў прыгануліся хрэсьбіны, задыханы рып гармоні, трэск сухога лубіну каля гумна, Хрысця з Імполем, высокі насып чыгункі з хрустам камення і той вялікі, сутулы абходчык, што падняў яе са шпалаў,— і яна ішла трохі працверазелая і ў душы зычлівая яму, што паспеў у час, што незнарок засцярог ад граха, што і праўда ёй трэба быць дзеля яго, дзеля дзіцяці, таго новага дзіцяці, што з упартым спадзяваннем турзаецца пад сэрцам.

«Што табе ўбілася ў голаў, каб рашыцца на такое? Жыць, трэба жыць!..» — гаварыў ён, высвечваючы ліхтаром няроўную, у выбоінах дарогу.

«Ага, жыць»,— ледзьве вымавіла яна, чуючы, як пад сэрцам варушыцца дзіця. Свет ёй зноў засланілі слёзы, але плакала яна, не саромеючыся гэтага вялікага мужчыны, ад смутнае, спакутаванае радасці, што асталася жыць і што трэба жыць дзеля яго — дзіцяці.

Па калючым, шапаткім з маладою канюшынаю ржышчы, што пачыналася за лесам, яна пайшла ўжо адна, трохі паспакайнелая, што ніхто не ведацьме, дзе яна была, а ён усё стаяў, гэты вялікі, добры мужчына-абходчык, мусіць, не вельмі верачы, нібыта малому дзіцяці, якое вучылася хадзіць, што яна дойдзе да вёскі.

Але яна ўжо ведала, што дойдзе дзеля яго — дзіцяці, што ізноў заварушылася пад сэрцам.

Абудзіла яе, прашмыгнуўшы ў міг вока каля самага берага, сіняя блішчастая пташка з кароткім, як абсечаным, хвастом. І Алеся, забыўшыся пра хрэсьбіны, пра таго сутулага абходчыка, з дзівам глядзела, як нізенька над самаю вадою ляцела гэтая невядомая ёй сіняя пташка, скоранька згінуўшы за навіссю лазы. Алеся, здумелая, ці не падалося ёй — бо хіба ж ёсць такія пташкі? — ізноў прыкленчыла каля карча, узяла з горбачкі бялізны мокрую сарочку і захлюпала ёю ў жаўтлявай вадзе.

Не бачыла, як каля берага спыніўся, пастаяў, падцяўшы хвост і паглядаючы сюды асалавелымі вачмі, шалёны Ракоў сабака.

IV Імполь, наважыўшы на ручкі і падымаючы ўгору нарог, вырваў з баразны плуг. Турзаючы за лейчыну, скіраваў каня на няезджаную ўтравелую дарогу, каб пачаць новы загон. Гультаяваты, ужо немалады Мондраў конь нехаця замахаў галавою, ганяючы ліпкіх мух ды пякучых аваднёў, што плоймаю віліся над ім, і раптам стаў — пэўна, зажадаў перадыху або і таго гаспадарскага нокання і крыку, да якога ён ужо, мусіць, звык.

Але Імполь яго не чапаў — ведаў, што гэты няўдалы, з увагнёнай, як ў лася, шыяй, вялікім чэравам і абвіслай ніжняй губою, стары Мондраў конь можа занаравіцца, як было гэта нядаўна, тыдні два назад, калі Імполь, варочаючыся з ворыва, наладаваў з крушні воз камення, каб загатаваць яго на склеп. Якраз перад Мацюшкавым полем, на тым кавалачку шырокай пясчанай дарогі, нядужы Мондраў конь во гэтаксама замахаў вялікаю звіслаю галавою, адкапыліў ніжнюю губу і далей не пайшоў. Ужо крышку разнерваваны, Імполь узяў яго за вобраць каля цугляў і махнуў кулаком перад хмурым, абапрэлым ад слёз конскім вокам, і гэты змэнчаны і, здэцца, рахманы Мондраў конь раптам пудка ўзняўся на дыбы, захроп і стаў асаджвацца назад, абіваючы аб воз свае худыя вострыя калені.

Імполь счакаў, покуль астыне ад нечаканага перапуду і гарачае злосці нядужы конь, і ўжо, падпіхаючы за ручку цяжкі, наладаваны каменнямі воз, сцебануў па худаватай крыжавіне пякучаю, з вузельчыкамі, сырамяжнай пугай. І нарабіў яшчэ большае бяды — конь спярша нервова здрыгануўся, цяжка задыхаў, а потым пачаў кленчыць на пярэднія ногі, азіраючыся назад гэтым слязлівым смутным вокам. Невядома колькі тады прастаяў бы Імполь, гледзячы, як цяжка ходзіць, уздымаючыся гармонікам, пахвіна ў няздатнага да работы і наравістага Мондравага каня, каб не надарыўся Янка Вайтовіч і не ўпрог свайго сухашчавага, але шырокага ў персях каня, што нават з гонарам, лёгка выкідваючы пярэднія ногі, выцягнуў з пяску Імполеў воз.

— Паглядзі ты на яго чэрава,— смяяўся тады Янка Вайтовіч, задзіраючы голаў і паказваючы сваім даўгаватым носам на белага Мондравага каня.— Некалі Радзівон

Мондры мякінаю яго карміў, а ты хочаш... Ён ледзьве цяняецца.

Але, успомніўшы пра Радзівопа Мондрага, раптам асекся, абцёр жменяю рот і пачаў выпрагаць з Імполевага воза свайго шустрага коніка, што паліскаўся гладкай шэрсцю.

— Цяпер яму ўжо ніякі харч не паможа, як ні кармі, карысць малая,— Вайтовіч нібы пачаў апраўдваць Імполя і скаранька паехаў, здалёк яшчэ гукаючы: — Які гэта конь, каб каршун за спіну ахапіў, то панёс бы.

Цяпер Імполя нават разабрала жаласць, калі ён паглядзеў на старога Мондравага каня, што стаяў, трохі нахіліўшыся набок і адставіўшы заднюю нагу. Нешта зняможанае, хворае было ў яго паставе.

«Колькі ж яму год?» — нібы сам у сябе, спытаў Імполь і адышоўся, прысеў на халодную, насыпаную тут, на сцены, крушню, што абрасла маладою ценькаю травою і нізкім сівым палыном, каб перакурыць і аддыхнуць самому. Ходзячы за плугам, намучыўся і сам: тут, пры грудку, зямля гліністая, камяністая — аж зубы ляскаюць, калі плуг натыкаецца на камені і скрыгоча па іх, б'е жалезнымі ручкамі ў натруджаныя гарачыя далоні. Цяпер яны смылелі ад жылістае нацятасці і работы.

Імполь абмацаў кішэні, шукаючы карабок запалак ды бляшаную баначку з тытунём і папераю. Усмак закурыў, пякучы тытунёвы дым задушлівай гарачынёю ап'яніў голаў.

Імполь, як праз туман, глядзеў перад сабою, але вочы не бачылі ні карычневага груда, на якім заіснеўся зялёнымі радкамі авёс, ні чырвоных вежаў касцёла ў далёкай лагчыне, што ляжала між замглёных сінечаю цёмных ялловых лясоў на гарбатых горах. У душы тлеў пусты сціпаны спакой, покуль зірк не натрапіў, не разабраў у далёкай сiняватай смузе белыя плямы — сцены выбеленых дварчанскіх хат ды мураванак.

Раптоўна ачуняўшы ад зморанай соннай дрымоты, Імполь успомніў пра Хрысцю, пра тое, што чуў пазаўчора ад Воўчковае Вольгі, ведучы да рэчкі паіць каня, і той, часам мусіць незалюбіўшы, што наперадзе пехта ідзе, турзануў жоўтымі старымі зубамі за канапляную Вользіну хустку.

— Вой, каб ты выдах,— Вольга адскочылася да драцяное ржавае загарадкі пад вішаннік,— яшчэ і кусаецца!

Імполь і сам сумеўся, не ведаючы, што гэты наравісты Мондраў конь можа яшчэ скубануць зубамі.

— Не ўпадабаў нешта цябе.

— Мусіць,— Вольга бліснула з-пад хусткі зеленаватымі бязбровымі вачмі, азірнулася туды, на поплаў, дзе рагаталі дзяўчаты, сцягваючы да сябе паскі падсушанага пабялелага палатна, каб зноў намачыць у рэчцы, і сказала: — Гэта ж ці чуў? Хрысця нібыта, кажуць, вунь за служанку пайшла.

Нейкія невыразныя думкі паплылі ўслед за позіркам туды, за карычневы ад раллі грудок. Покуль прыжмураныя ад дыму, што закручваўся ў твар, ды ад зыркага, расплаўленага сонца вочы не натрапілі на чырвоныя вежы касцёла ў далёкай сіняватай ад смугі лагчыне. Там былі Дварчаны. Там недзе цяпер была Хрысця.

Насунуўшы ніжай на лоб кепку, Імполь доўга глядзеў проці сухога пякучага сонца. Белымі плямамі сярод навалу цёмных дрэў яснелі мураваныя ды выбеленыя яўрэйскія крамы і паблісквалі пазлацаныя крыжы на дварчанскай царкве.

Пякучай маланкай нешта кальнула ў Імполева сэрца. Там, недалёка ад рынку, ад гэтае царквы,— выштукаваны, прыгожы з бляшаным дахам Грабянкаў дом.

Успомнілася зноў учарашняе, што сказала Ваўчкова Вольга. Знарок, а мо і незнарок, там, на вуліцы пад старымі вербамі.

— А што, горай не будзе, як у Корсакаў. Ці не праўду кажу?

Імполь, каб не выдаць сябе, знарок маўчаў, словам не абмовіўся. Толькі ляпаў рукою па худой, касцістай храпе каня, што зноў, вышчарыўшы свае нізкія, з'едзеныя зубы, цягнуўся да Вольгі. А яна ўжо і не баялася яго, адышоўшыся трохі зводдаль, гаварыла сваё — знала, што цікава Імполю:

— Нагледзелася і тут усяго... Хоць у чыстаце пажыве,— Вольга хітра зіркнула Імполю ў вочы і завярнула пад шарыя вялікія камяні, абцярушаныя лілова-карычняватым бэзавым цветам, да свае хаты.

Імполь стаяў, як амярцвелы,— калючым клубком пад сэрцам заварушыўся боль. Паравярнуўся той клубок і цяпер, падняў Імполя ▪ мулкае крушні.

Стоячы босымі нагамі ў сівым, нізкім палыне, што закучаравіўся кругам крушні, ён прыжмурана глядзеў з-пад насунутае кепкі проці сляпучага сонца. Гарачынёю кіпелі, віравалі думкі: «Як жа яна там? Няўжо забудзецца пра яго? І што яна робіць у тых Грабянкаў?»

Пасля хрэсьбінаў яны бачыліся разы са тры ўсяго. Яна, спатажаная, баялася ўсіх. Скоранька, няўзпак, зіркнуўшы вавёрчынымі лупавацепькімі вачмі, мінала яго; раз, калі падыходзіла на вуліцу сустракаць быдла, другі — бегучы да рэчкі спаласнуць бялізну.

Трэці раз, варочаючыся з Дварчанаў сцежкаю каля рэчкі, зглелзеў яе на Корсакавым балоце — яна прыбегла туды нарваць маладога, што толькі адскочыў лапушыстымі купкамі, шчаўя. Яна аж залекацела, трымаючы ў белым загорнутым да жывата прыпалом фартушку жменькі са дзве назбіранага шчаўя, калі ён скіраваў да яе. На смуглявых шчоках выступіла, загарэлася сарамяжлівая чырвань. Вочкі, бліснуўшы з-пад гусценькіх шнурочкаў броў касаватым заюшлівым зіркам, раптам змерклі і схаваліся. Ён бачыў толькі яе зморшчаны пукаты лобік, хмурыя варухлівыя бровы, карычнявата-чарнявыя валасы і бела-сінявaтаю разоркаю прабора — хустка далёка адкрывала яго.

— Вой, божа літасцівы, чаго ты прыйшоў? — яна глядзела недзе сабе пад ногі на ясна-жоўтую кветку слепаты.

Так,— ён тады не ведаў, што сказаць.

— Ага, так,— яна паварушыла нагою гэтую жоўтую кветку слепаты.— Людзі ж вунь.

— А што людзі?

— Досіць адной бяды, няхай крые бог!.. — яна завярнулася, не падымаючы галавы, пайшла, сказала ўжо здалёк: — Баюся я тваe... Імполька, не падыходзь больш да мяне. Не будзем мы знацца.

Але яму не паверылася тады, што яна кажа праўду, і ён яшчэ больш, дзе ўжо ні быў — ці ў полі на ворыве, ці ў хаце за работаю, паглядаючы на сонна-ацяжэлую, маўклівую Алесю,— пачаў думаць пра яе. І гэтыя збэрсаныя думкі, як нясцерпная пакута, сядзелі ў ім, і ад іх не было ратунку. Але чым ён больш думаў пра Хрысцю, тым чуў большую віну перад Алесяй і нават затоеную брыдкасць, што не любіць яе. Ці, пэўна, не можа разабраць, што любіць абедзвюх — кожную па-свойму: Алесю трохі як мацеру, якое яму не хв...ла ўсё жыццё, з яе сталасцю і тою ўжо распаўнелаю прыгажосцю, тым прывялым хараством, крышку ўжо сарамяжым, чым вабіць маладзіца. У Хрысці было нешта іншае, як у яблыневай кветцы — тое рухава-нязвялае хараство, яшчэ не спазнанае, невядомае ні ёй і нікому. Імполь чуў, як Хрысця хіліцца да яго душою.

Імполевы вочы заслязіліся ні то ад ветру, што дыхаў

напараным цяплом, перамешаным з пахам падагрэтае вільготнае зямлі і маладое саладжавае ярыны, заараната на картаплянішчах гною, ні то ад зблытаных у тугі, неразборлівы жмут думак — як жа ж далей жыць: во ёсць поле, зямля, Алеся, ёсць, здаецца, усё — і нечага недалягае чалавеку. Чаго? Няўжо толькі яе, Хрысці? Ці мо то звыклага вясковага кахання, якога ён не спазнаў, нават не пасядзеў на прызбе з дзяўчынаю, не наабдымаўся, як абдымаліся хлопцы, варочаючыся ■ вечарынкі дадому, і ніколі не біўся за дзеўку, як біліся іншыя, нават ідучы на нажы. Ці не занадта лёгка яму далася любоў з Алесяю. Ды якая гэта любоў. На восем год старэйшая ўдава. Ёй абы прылашчыць прымака.

Высокае мігатлівае сонца сляпіла вочы, у губы пёк канчарык размоклай папяросы. Імполь астатні раз зацягнуўся, учуў, як атрутнай гарачынёю душу супакойвае горкі тытунёвы дым, і шпурнуў ад сябе размоклы канчар. Азіраючыся на каня, што з аб'еханым на вушы хамутом нагнуўся да цёмна-зялёнай маладой травы і паскубваў яе жоўтымі вялікімі зубамі, пайшоў халаднаватаю, толькі што выйдзенаю разораю. З яе нехаця адляталіся цяжкія ружавата-чорныя гракі, разамрэла каркалі.

Перад чубком хвойніка ў лагчыне, дзе цямнела некалькі маладых елачак, убраных у жаўтлява-мякенькія кутасікі, сашчапіліся густымі разложыстымі вярхамі два кусты старога гарэшніку. Пад імі грэлі на сонцы гарбатыя абамшэлыя спіны два вялікія камяні.

Стоячы зводдаль ад іх і нешта нібы счуўшы, ужо каторая пара брахала ўедлівая сучачка.

«І што ж яна тутака згледзела?» — Імполя разбірала цікавасць, і ён выйшаў з разоры на цёплую, даўно не араную сухаватую ялавіну, што густа і едка запахла падагрэтым ліловым чаборам ды жоўтымі шчоткамі сакаўнога водчыку і нізенькімі махрыстымі кветачкамі валасніку.

Аблавухая сучачка, учуўшы гаспадара і блізкую помач, забрахала яшчэ мацней, падступаючыся да гэтых вялікіх, як уеханыя па самую страху хаты, абамшэлых каменняў.

У Імполя зашчымеў раптоўны холад сцішнасці — ён успомніў тое, што чуў не раз ад Алесі: пад гэтымі каменнямі былі закопаны нейкія ксяндзоўскія паперы на тутэйшую зямлю і высечаны даўнейшы лес.

І некага з верасаўцаў брала цікавасць знайсці гэтыя паперы — каля камянёў ужо асунулася і зарасла крапівою ды густымі кусцікамі вербалозу калісь выкапаная яма.

Туды, да гэтай ямы, і падступалася сучачка, дзеля асцярогі прапусціўшы наперад сябе Імполя і круцячыся ззаду яго ног.

Перамогшы ў душы сцішнасць, Імполь падышоў да затравелага берага і спярша ўчуў, як там, каля маладой, абкіданай карычняватым лісцем грушкі, нешта завурчала, зафыркала, і потым ужо ўбачыў, як з высокае крапівы, мусіць, з належанага котлішча падняўся палавы, у рыжаватых плямах, з тоўстымі крывымі лапамі звер. Ён быў з добрага сабаку і з шырокай, мурлатай, як у ката, мызай.

Мыза вышчарылася, паказваючы з кутка вялікія іклы. Косыя зеленаватыя вочы гнеўна забліпічалі, на галаве чуйна стаялі вострыя, з кутасікамі, вушы.

Перапалоханы знянацку звер раптам крутнуўся, ад злосці заварушыў куртатым, як адсечаным, хвастом і шмыгануў за калючую дзікую грушку і адтуль зноў пядобра, з грозьбаю, па-кацінаму завурчаў.

Імполь, сумеўшыся гэтага раз'юшанага гыркату, адступіў ад берага, азірнуўся круга сябе, каб знайсці што падхватнае ў руку.

Заходзячыся ад заядлага брэху, сучачка таксама адкацілася назад.

З гарачкі ды пэнду Імполевы вочы перабіралі стракатую ад ліловага чабору ды жоўтых шчотак водчыку сухаватую ялавіну, але каменя нідзе не знайшлі.

Трохі ашаломлены, як сам не свой, Імполь зноў закруціўся на месцы, сілячыся прыдумаць, што ж можна яшчэ схапіць у руку, але ўбачыў за чорным заараным палеткам свайго белага каня, нарэшце змікіціў — адняць ад плуга ворчык.

Не выбіраючы ўжо дарогі, наўпрасты па мяккай граззкаватай раллі пусціўся подбегам да сцепкі, там, прыпаўшы да травы, усё гэтаксама ціха папасваўся, цягаючы за сабою павалены плуг, змучаны сённяшнім ворывам стары Мондраў конь.

Захлынаючыся ад прыступу гарачкі, ад таго невядомага, што мае здарыцца, ужо трохі няспрытнымі, дрыготкімі рукамі адчапіў ад плуга драўлянае каромысла, выкруціў яго з пастронкаў і, трымаючы адною рукою наперавес, скоранька завярнуў назад.

Пераскокваючы цераз разоры і западаючы ў няроўнай раллі, з радасным і ашалелым віскам наперадзе яго кацілася малая аблавухая сучачка.

Першаю дабегла да негустых, у драбнявым яшчэ лісці кустоў гарэшніку і прыпынілася, унюхаўшы ў яме таго невядомага звяра. Задраўшы мызу, ціха стаяла, чакаючы, пэўна, а што будзе далей, калі падыдзе Імполь.

Растрывожаны і спужаны звер, счуўшы мяккі тупат босых Імполевых ног і бразгат жалезнага крука на вагкаватым дубовым каромысле, падсунуўся далей за крывую чэзлую дзічку — адно з-пад нізкага вілаватага сука вызірала мурлатая, з прыжмуранымі вачмі кацячая галава.

Ступіўшы на бераг ямы, што ўтачылася ў зямлю глыбокаю лейкаю, Імполь аберуч узяўся за канец шарага, зліпялага на дажджы і сонцы дубовага каромысла, на выпадак чаго высока падняў перад сабою.

За дзікай недарослай грушкай зноў пачуўся раз'юшаны, злы гыркат. Імполь толькі ўскораў змеціць, як здрыганулася і зашапацела лісцем груша і як сюды, па бераг, гэльцнуў шара-папяловы вялікі клубок.

Што было моцы Імполь махнуў вагкім дубовым каромыслам, учуўшы раптам, як у далоні аддаўся нечаканы ўдар. Караткаваты, з сытымі персямі і куртавым хвастом звер нібы спатыкнуўся на сваіх кудлатых тоўстых лапах. Каромысла ўцэліла, пэўна, у галаў — звер прыклепчыў, як учадзелы, закруціў мурлатаю галавою і яшчэ папоўз да Імполевых ног.

З перапуду заверашчаўшы, ад ямы адбеглася жоўтая аблавухая сучачка.

Несумысле, ужо ■ гарачкі, Імполь яшчэ раз гакнуў па мурлатай з натапыранымі кутасікамі вушэй галаве цяжкім дубовым ворчыкам.

Забіты ўжо, відаць, насмерць, звер вяла асеў па траву і пакаціўся па крутым беразе ямы ў высокую крапіву, пад дзікую ў карычняватым лісці грушку, дзе і ляжаў, толькі цяпер ужо белаватым жыватом дагары. З мызы высачылася цёмная кроў, заліваючы каля пашчэнкаў касматую шэрсць. У агні астатніх сутаргаў дрыжала і выцягвалася задняя лапа з вострымі вялікімі кіпцюрамі.

Холад страху, раз'ятранасці і ўсяго невядомага калаціў Імполя. Сэрца падточвала горкая крыўда на сябе, што ўчыніў нешта кепскае. Зрабілася раптам шкода гэтага невядомага звяра, што нядаўна стаяў каля дзікае недарослае грушкі, падняўшыся з котлішча, увесь пруткі, насцярожаны і спрытны ў сваёй звярынай паставе, а цяпер, абязвечаны смерцю, ляжаў, брыдка паказваючы белаваты жывот, з задранаю дагары мызаю, з якое высачылася кроў,

і нешта ўжо гідкае, можа, нават нікчэмнае было ў ім, у гэтым яго нежывым спакоі.

Імполь адышоўся ад ямы, спакуслівая цікавасць яшчэ пад'юшчвала падысці да звяра.

Трымаючы нагатове вагкае, з жалезным круком каромысла і ўпіраючыся пятамі ў грунт, каб не паслізнуцца, Імполь памалу спусціўся да калючае дзікае грушы. Каля вылежанага, утаптанага ў гонкай выбуялай крапіве котлішча валялася чорнае, пазаліванае кроўю пер'е — злавіўшы на полі ці ў лесе нейкую пташку, звер, мусі, жыраваў у яме. Тут валялася яшчэ не дагрызеная чорна-сінявата, рыхтык індыковая, з доўгай цэўкай і чорнымі кіпцямі нага.

«Нябось, не святы і ты. Звёў са свету не адну пташку»,— Імполь нават загаварыў да звяра, знайшоўшы раптам, чым апраўдацца за сваю вінаватасць, і ткнуў канцом каромысла ў белаватую поўсць жывата — звер вяла, ужо не па-жывому, скалыхнуўся.

Здалёк прынюхвалася, але яшчэ баялася падступіцца сюды заядлая сучачка — бегала па беражку ямы, не ведаючы, што рабіць. Нарэшце спусцілася ўніз, хаваючыся за Імполевы ногі, нязлосна забрахала.

Для асцярогі прыціскаючы ворчыкам мяккага, падатлівага звяра, Імполь бліжэй нагнуўся над ім — разгледзеў вусатую, з шырокімі і касматымі пашчэнкамі крыху разяўленую мызу: адтуль вышчарыліся вострымі асцямі сашчымленыя іклы, з кутка рота сачылася і залівала заплюшчанае вока цёмна-тлустая кроў.

Холад насцярогі яшчэ дрыжаў у Імполевых грудзях і, перасільваючы сябе, Імполь узяўся за мяккую цёплую лапу, падняў ад зямлі нялёгкага, можа, на пуд, звяра і, ужо ўбачыўшы, як звесілася мурлатая галава, асмялелы, вывалак яго з гарачае, ужо напаранае сонцам ямы. Кінуў на звінючую ад увішных пчол шчотку чабору і, прымергаваўшы пад пахаю дубовае каромысла, схапіў звяра за ўсе чатыры нагі і, падымаючы над раллёю, панёс на зялёную сценку да воза.

Ад стракатага, ■ белаватым жыватом звяра, што, як баран з падрэзаным горлам, далёка назад адкінуў сваю голаў, пахла ветранінаю, нейкім едка-саладжавым потам.

Імполя ўжо разбірала нясцерпна-дзіцячая жаданасць пахваліцца, расказаць усім у Верасаве, як ён забіў гэтага невядомага звяра, і паслухаць, што скажуць людзі.

Час блізіўся на полудзень — у самую вышынь паднялося і зменшала ў сваім кружку, здаецца, падтапілася сонца. Цень ад Імполя зрабіўся кароценькі і бег за ім, як нізенькі калекі чалавек.

Пастухі ўжо недзе змералі яго босымі ступнямі і, налічыўшы пяць, гналі з пашы крутабокіх, з тоўстымі чэравамі наетых кароў, што з подбегам, круцячы рагамі і ганяючы неадчэпных сляпакоў ды мух, ішлі дадому, каб скарэй дабегчы да рэчкі, да вады, дзе пры вербах і алешніку можна абцерціся ад укуслівай заедзі. Толькі авечкі, сапрэўшы ад гарачыні, цiснуліся ў вялікую чараду, ішлі ззаду, пашкрэбвалі вострымі капытамі сухую дарогу, падымалі з яе мучны, пухкі пыл і, папярхнуўшыся ад яго сухое гаркаты, кашлялі. Імполь убачыў на грудку за зялёным, што ліснілася на сонцы, завіваючыся ў трубу, лапушыстым жытам стракатую грамаду чырвоных, чорных і пярэстых кароў, пачаў скоранька запрагаць каня — карцела нагнаць пастухоў і здзівіць іх гэтым невядомым зверам.

Але, пакуль выехаў папярочнаю сценкаю, што рассякала папалам без таго кароткія верасаўскія дзялкі, на шырокую пясчаную дарогу, дзе пачаў тапіцца і прыставаць зноў наравісты і знясілены Мондраў конь, пастухі ўжо былі каля белых слупкоў пераезда. Замітусіўшыся і размахваючы рукамі, скоранька пераганялі цераз калею сонных, асалавелых ад гарачыні кароў. Недалёка ад пераезда злосна пасвістваў, чмыхаў белаю параю, спыняючы свой разгон, чорны нядужы паравозік з чатырма чырвонымі вагончыкамі.

Счуўшы гэты свіст, наравісты Мондраў конь застрыг вушамі, але кроку не надбавіў, ішоў вялаю ступою. Зморана памахваў і трос вялікаю ўныранаю ў зямлю галавою, ганяючы зеленаватых сляпакоў, што няшчадна цялі яго — ад лютага болю на спіне ў каня адно ўздрыгвала і турзалася пабітая гузамі і натапыранымі пучкамі пільсці нервовая скура.

Ад першае веснавое духаты ў дрыгатлівым, тугім, як вада, мроіве сцішылася стракатае верасаўскае поле. На малых — гектараў тры ці пяць — надзелах кароткімі палеткамі зазелянілася маладая шчэ жаўтлявая ярына, пахла саладжава-прэсным падпараным пер'ем невысокае, што толькі завілося ў колас, жыта, на шэрых загонах радкамі падымала свае лілова-зялёныя вушы картопля, густою шчоткаю зелянеў, надоечы выпусціўшы ▪ семя круглень-

кія, як у раскі, лісцікі, нізенькі лён. Толькі там, дзе збіраліся сеяць грэчку, чарнелі свежыя загоны пухкай раллі. Між імі доўгімі грывамі счарнелага быльніку падымалася мяжа.

Была пара астатняга ворыва.

Сёння Імполь меўся пазябліць тыя ганкі — той клін па слабейшай без гною зямлі, што ішла пад грэчку, каб назаўтра выйсці з сяўнёй; яе сеялі не барануючы — па раллі.

Але ўсё перайначыў, затлуміў голаў гэты выпадак са зверам.

Нібы забыўшыся пра ўсё астатняе на свеце, Імполь цяпер стаяў на колінках у перадку воза, азіраўся па шараватую, трохі як падцягнутую сівым марозам, у цёмна-карычневых плямах спіну звяра, што ляжаў ззаду яго, і раз за разам падварушваў лейцамі гультаяватага каня.

Дробненька перабіраючы крывенькімі ножкамі, паперадзе воза бегла жоўтая сучачка і, як ад няжданай радасці, угінала аблавухую голаў.

Яе першаю і стрэла Алеся, загнаўшы ў хлеў распараных авечак і выйшаўшы да веснікаў, каб прычакаць з-пад рэчкі карову з целем. Трымаючыся рукамі за сухія яловыя частаколіны, глядзела ў гародчык на карычняватую ў скручаным лісці ссохлую вішню, старалася адгадаць, што за нарат напаў на дрэва: ці не солі хто падсыпаў пад карэнне, бо чаго ж так раптоўна, як на агні, спяклося лісце, і ўчула, як аб босую нагу цярнулася слізкім цёплым бокам сучачка.

— Адна прыйшла? А дзе ж аспадар? — спытала ў сучачкі і ўчула, як суха парыпвае, пераціраючы глыбокі пясок у раўку, і скрыгоча коламі на камянях воз.

Абцягваючы на пукатым жываце лёгкую баціставую кофту, Алеся высунулася ў адчыненыя веснікі.

З воза саскочыў Імполь. Апёк босыя ногі ў гарачым, як прысак, жоўтым пяску і перабег на сцежку ў сівы, абсыпаны густым пылам спарышнік. Чорны, здаецца, яшчэ больш падсмалены сонцам за сённяшні на ворыве дзень, выскаляў ясныя зубы; на пляскатую кепку ганарыста закруцілася яго рудаватая кудзерка валасоў.

— Ідзі паглядзі, што я прывёз,— махнуў ён пляскатаю кепкаю за плячо, паказваючы на воз і бліскаючы бялкамі вачэй.— Каўнер во!

Насупіўшы бровы і не разгадваючы, што і да чаго гаворыць Імполь, Алеся толькі тужэй зашмаргнула за два ражкі слабую пад барадою хустку.

— Ну, ідзі глянь.

— Што там? — у Алесі надзьмуліся падпухлыя, з рудаватым налётам губы.

— Звяра забіў.

— Якога звяра?

— Хто яго знае? Во, каромыслам,— Імполь турзануў да сябе лейцы, прыпыніў каля брамы каня.— Каўпер з яго добры быў бы.

Алеся незнарок, мусіць, ужо па звычцы, прыкрыла скрыжаванымі рукамі жывот і, каб не дзівіцца — добра помніла пра гэта,— адступілася да плота, няўцям усё цікуючы туды, на воз, дзе папраўдзе ляжаў сіваваты, у цёмна-карычневыя плямы невядомы і для яе звер.

— І што гэта за ён? — яна прыжмурыла сонныя, крышку выцвілыя вочы.— Ліс, можа?

— Які табе ліс? Каля гарэшніку, у той яме, што каля нашага поля, сядзеў.— Імполь адарваў ад шула і паднёс да плота старую расхітаную браму.

— Ці ж ён цябе чапаў? — Алеся адступілася, каб даць дарогу каню, сказала здалёк — у голасе дрыжала жальба: — Можа, дзяцей яго асіраціў.

— Валачашчы ён. Нары ў яго не было,— ідучы ззаду воза і трымаючы абедзвюма рукамі лейцы, Імполь выкіраваў каня ў двор.

За возам у шырокую незачыненую браму, спяшаючыся, убегла і цяжка зачмыхала крутабокая карова. Услед за ёю, адганяючы вушамі мух,— цыбатая цялушачка з вострай каровай цвікоў на скураным намызніку, каб не магла даткнуцца да каровінага вымені.

Карова, абнюхаўшы на возе звяра, набычыла рагатую галаў, зараўла і адскочыла назад, цярпулася тоўстым чэравам каля Алесі, перапудзіла гэтым ровам неразумную лабатую цялушку.

— Скаціну ўнаравіў, яшчэ ў хлеў не пойдзе,— Алеся, з нейкай асцярогай несучы свой жывот, прыпусцілася трушком да брамы, каб перапяць карову з цялушкаю, крыкнула адтуль: — Яшчэ і глядзіць. Ад'едзься хоць ад гумна!

У яе голасе ўжо была нейкая злая цвёрдасць.

Імполь шлёгнуў ляйчынаю па капі, падагнаў яго па пявытаптаны, стракаты каля гумна ад ясна-жоўтага перапалёту падворак.

У грудзях перасохла тая звінючая і чыстая, як вузенькі ручай, гаючая радасць.

Наравіста круцячы вілаватаю галавою і косячыся на воз, у хлеў убегла пудкая маладая карова, і ўслед за ёю, ужо без ніякага страху, высока падымаючы голаў з восцямі цвікоў на намызніку, увайшла жоўта-белая падласая цялушка.

— Закапай ты яго, падзлыбеду, мо шалёны які,— прычыніўшы хлеў, крыкнула сюды, пад гумно, дзе Імполь ужо выпрагаў каня, сонная і злая ад гарачыні Алеся.

— Яшчэ што выдумай,— Імполь зняў з нервовага, што ўздрыгваў усёй скураю ад кусачых мух, змардаванага каня цяжкі хамут.

— Вунь Ракоў сабака ашалеў. Яшчэ ты падкінеш якой заразы.— Алеся, аблізваючы абсмяглыя прыпухлыя губы, завярнула да плота, нагнулася над падлапленым старым рэшатам, дастала адтуль надзьмутую, разгарачаную курыцу, што ўстрывожана закаркала дзяркатым крыкам, і, трымаючы яе за крыллі, панясла да карыта з вадою, каб выкупаць ды астудзіць у вадзе.

— Расквахталася тут, во будзеш знаць. Нясьціся няма каму,— і запхнула яе зноў пад рэшата.— Ву страшыдла, чарвівей тут.

Імполь, і сам ужо не ведаючы, што рабіць з гэтым зверам, ускочыў на каня, каб завесці яго на папас, і, асцярожна маўчучы, праехаў міма Алесі. Азірнуўся ўжо з вуліцы, убачыўшы, што яна падазрона косіцца на воз.

«А мо праўда закапаць»,— не знайшоўшы выйсця, раптоўна падумаў, але ўчуў, як пад'юшчвала і зманвала цікавасць — паказаць верасаўскім мужчынам — няхай прызнаюць, што гэта за звер.

Ваўка ён і сам бачыў не раз. Ганяў, выпорваў з нораў, яшчэ як служыў за парабка ў Радзюка, і лісоў, а гэтакую халеру, што незнарок забіў надоечы, ніколі ўперад не бачыў.

Завёўшы на папас каня і ўжо варочаючыся папалуднаваць, прыпыніўся каля Ваўчка — той, паставіўшы драбіны, лез якраз на страху, трымаючы пад пахаю пятоўсты куль акалоту — збіраўся падлапіць страху.

— Цячэ, ліха ёй,— махнуў туды, на страху, злінялаю кепкаю Ваўчок.

— А колькі ж год стаіць? — так, дзеля прыліку, спытаўся Імполь, каб пачаць гутарку пра забітага звяра.

— Ого, ды год за трыццаць,— Ваўчок пачаў грабціся вышай па страху і адтуль ужо сказаў: — Ці чуў, сабака, кажуць, Ракоў ашалеў.

— Чуў,— Імполь нават узяўся рукою, каб прытрымаць драбінкі.

— Шаленства — асобая хвароба,— загаварыў адтуль, з сухое нагрэтае страхі, Ваўчок.— Людзей паражае. Дзікія звяры яе разносяць. Ваўкі і лісы.

— А я нейкага нязнанага звяра забіў,— Імполь прыжмурыўся ад пацярухі і пылу, што сыпаўся са страхі.

— Якога звяра? — зірнуў ні то з дзівам, ні то з недаверам Ваўчок.

— А хто яго знае? Вунь з поля прывёз.

— Няўжо? — Ваўчок прытаптаў пры драбінах нятоўсты кулёк акалоту.

— Ідзі глянь.

Ваўчок задам, прапускаючы адну ляску, спусціўся па драбінах на зямлю. І ўжо дарогаю, прыспешваючы за Імполем і распытваючы пра таго нязнанага звяра, пра яго велічыню і масць, раптам сказаў:

— Рысь, пэўна... І кутасікі на вушах, кажаш.

— Ага.

— Ён да ката падобны. На дрэвах сядзіць. Акраз ён.— Ваўчок, як і ўсе верасаўцы, казаў на рысь не яна, а ён.

— Не, гэты сядзеў у яме, там каля гарэшніку, каля лаўжоў.

І калі яны прыйшлі да воза і палажылі звяра на траву, Ваўчок, прысеўшы і ўжо добра разгледзеўшы яго, ляпнуў абедзвюма рукамі сабе па каленях:

— Так і будзе — рысь.

Пасля полудня, калі выганялі на пашу каровы, на надворку ў Мондрых сабралася ўсё Верасава — ад малых, усюды дападных дзяцей да цікаўных баб. Нібы нехаця, прыйшоў той-сёй і з мужчын.

— Я кажу, ён, рысь,— падбіваючы шапку, заглядваў у вочы старому Корсаку нізенькі Ваўчок.

— Можа, і ён,— Корсак паварушыў нагою вялага, нежывога звяра, прыгледзеўся пільней: — А што думаеш, падобна, што ён.

— Балазе знайшоў сабе забаўку, а грэчка не сеяна будзе,— Алеся прайшла з даёнкаю ў хлеў.

Але мужчыны, нібы і не чуючы яе, стаялі над рысем, мусіць, ніколі і нікім не бачаным дагэтуль, пераварочвалі яго, бралі за касматыя лапы, выцягвалі, абмацваючы вострыя кіпцюры.

— Ты глядзі якія, як у каршуна,— падбіваў з вачэй

свой аб'еханы аблезлы каўпак Язапат Змысла,— каб ушчаперыўся.

— То, нябось, твой каўпак згроб бы, бо сам ты яго варопе на гняздо не закінеш,— смяяліся мужчыны.

Дзеці шыліся ў круг, таксама каб пагладзіць рукою па гладкай пільсці або турзануць за кутасік на патапыраным звярыным вуху. І пастрашвалі яшчэ адзін аднаго:

— Уцякай, укусіць!

— Бойся, ага. Ён жа ж нежывы.

Сюды падбегла і Ваўчкова Вольга, падгладжваючы пад хустку раз'еханыя валасы, прысела на кукішках каля звяра, паўзіралася і паднялася, абгладжваючы круга сябе спадніцу:

— Мо Грабянкаў сабака...

— Ты ўжо знаешся, прафэсар знайшлася,— незалюбіў, зіркнуў на жонку злым вокам Марцін Ваўчок.

— Бо якіх там сабак німа — размаітыя: і з тоўстымі мызамі, і з доўгімі.

— Вот ідзі,— Ваўчок зноў з-за пляча востра зіркнуў на жонку.— Не знаеш, дзе свой нос уткнуць!

Вольга адышлася, пацерла босаю нагою аб нагу, дзе ўпіўся гіз, і сказала ўжо здалёк:

— На маё і выйдзе — Грабянкаў сабака.

Мужчыны, збітыя з панталыку, пачалі прыганваць, хто, калі і якога сабаку бачыў. І той-сёй нават пагаджаўся, што сабакі бываюць рознай пароды і адкуль тут, у бязлесай старане, далёка ад пушчы, возьмецца такі звер. Але, падышоўшы сюды, усім памог разабраць, што гэта рысь, Міця Корсак — ён нават збегаў дадому і прынёс кніжку: там быў намалёваны гэтакі самы краплісты, з касматымі пашчэнкамі і кутасікамі на вострых вушах, куртаты звер.

— Я ж і казаў,— страпянуўся Ваўчок.

— Тады варта ў гміну паказаць,— падказаў Янка Вайтовіч і важна пацягнуў сябе за ніжнюю, скручаную трубкай, губу.

— Што твая гміна, хіба яна заплоціць, а якому асадніку я прадаў бы,— перабіў солтыса Марцін Ваўчок і, расніхваючы дзяцей, што абселі звяра, турзануў за гладкую поўсць.

— А што, можа, ён па троп наводзіць,— махнуў сваім аблезлым каўпаком Язапат Змысла.

— Я і кажу,— асадніку завязці,— Ваўчок, рады, што ўсе хоць і моўчкі, але згаджаюцца з ім, пачаў расказваць

пра новую сваю прыгоду: — Сам бачыў, як у паноў на падлозе ляжаць шкуры ад розных звяроў або на сцяне развешаныя. Раз у Слоніме ў хату да палкоўніка...

— Ты ўжо з кім ні знаўся, можа, нат з генераламі,— засмяяўся стары Корсак.

— Я кажу, як было,— нат не маргнуў вокам Ваўчок.— Усунуўся ў хату, а там, вышчарыўшы зубы, на падлозе вялікая галава ляжыць. Я аж утрупянеў — думаю, сабака які, потым бачу — белая распластаная шкура, велькая, ліха ёй, як хто з каровы злупіў.

— Дак мо каровіна і была, а табе са страху бог ведае што падалося,— зноў ціха засмяяўся стары Корсак.

— Ыгы, каровіна. Белага мядзведзя. Так што,— Ваўчок пакруціўся, шукаючы вачмі Імполя, і ўжо сказаў яму: — Вязі да Грабянкі! Купіць. Чаму не? Злотых дзесяць дасць.

— Ну, дзесяць? — прыплюшчыў адно вока і перакасіў ад дзіва рот Язапат Змысла.— Спадзявайся, маёнтак нажывеш.

— А [redacted] кажу ў гміну паказаць,— пазяхнуў і абцёр пяцярнёю пявыспаны твар Янка Вайтовіч.

Выйшаўшы з хлява і прыкрываючы фартухом даёнку, Алеся паслухала гэты мужчынскі гармідар і сказала да аднаго ўжо Імполя:

— І спытай, чаго ты па Дварчанах ездзіць будзеш. Грэчка вунь не сеяна.

— Ты вот не лезь, куды цябе не просяць,— прыкрыкнуў па Алесю стары Корсак, заступіўшыся за Імполя, што ўгнуў голаў і раптам невядома чаго засаромеўся жончынага крыку.

І Алеся, толькі яе згледзелі, шмыганула ў сені, прыляпнуўшы ад злосці скрыпучымі дзвярмі і перапудзіўшы пры парозе курэй, што дзяўблі з лускам маладую сакаўную траву.

## V

З плоцьмаю чорненькіх з сівымі грудкамі і жоўтых пухкіх куранятак, што з ціўканнем каціліся адно перад адным, вуліцу пераходзіла надзьмутая, з адтапыранымі крылямі, зеленянелая ад злосці кураводка.

— Стой,— вырываючы з Імполевых рук лейцы, скіроўваў да плота каня, пад абсыпаны пылам вішаннік, Марцін Ваўчок.— Падушыш.

З-пад маленькае з аплеценым шчытом хаткі сюды ўжо бегла, расшморгваючы за спіною матузы фартуха, сагнутая ў крук старая Кайтаніха. Зняўшы, махнула фартухом на кураводку:

— Я табе нахаджу, сляпы шлупацень!

І нарабіла яшчэ большай бяды. Кураводка закудахтала, закаркала, нарабіўшы лопату, і пачала падлятаць, каб дзеўбануць старую. Спуджаныя кураняткі, як гарох, рассыпаліся па ўсёй вуліцы. Заторылі дарогу Імполеваму каню.

— Кыш, страшыдла, і яшчэ б'ецца,— махала фартухом Кайтаніха, косячы слязлівым чырвоным вокам на Імполеў воз.

Імполь не вельмі напінаў лейцы, ведаючы, што нядужы Мондараў конь рады і сам пастаяць.

Падступіўшыся на камень каля парога, з-пад рукі сюды, на вуліцу, уцікоўваўся стары малацьбіт. Прызнаўшы Імполя, падтрос порткі і спешна, подбегам пайшоў да воза, абмінаючы кураводку з кураняткамі, каб часам не наступіць на якое.

— Нябось, верасаўцы, я так сабе і думаю,— малацьбіт абцёр аб сцёгны ўпэцканую ў пясок руку, падаў Імполю з Ваўчком.

Імполь прыглядаўся да старога Ладзімера: ён, здэцца, зменшаў за гэтыя паўгода, нібыта адрос, паўпадалі і ўжо блішчалі слязлівасцю сіненькія вочы. Хоць няголеныя, у сівай шчаціне шчокі свяціліся яшчэ дужай ды здаровай чырванню.

Стары малацьбіт, злавіўшы на сабе пільны Імполеў зірк, заморгаў сіненькімі вочкамі:

— Ну, як сам? Нешта благенькі стаў.

— Чаму?

— Прынадзілі,— махнуў галавою стары.— Косю, косю ды ў хамут. Дзіва, на столькі баб адзін мужчына. Ды прыткія яны.

Імполь унурыўся і адвёў свае вочы — стары, пэўна, не ведаў пра Еўчыну ды Таквіліну смерць.

Каб як перабіць гутарку, Ваўчок адкінуў радзюжку — пад ёю ляжаў рысь.

— Ого, што ж гэта за звер? — страпянуўся стары малацьбіт і разявіў рот. Налёгшы грудзьмі на драбінку, узяўся за касматую лапу — ці не рысь?

— На полі вунь забіў,— шуфлікам свайго доўгага брыля паказаў на Імполя Ваўчок.

— Як?
— Ворчыкам.
— І не баяўся ты яго?
— Ляжаў у яме.
— Хіба што,— стары выпусціў з свае рукі касматую лапу.— А куды вязеш?
— Ды Грабянку. Мо купіць.
— А што, футра файнае будзе. А чаму сваёй не пакінуў? — Старому ўсё карцела распытаць пра верасаўскае жыццё.
— Ці вясковай гэта бабе ў такіх шкурах хадзіць,— Ваўчок зноў накінуў на звяра радзюжку.
— Мо і так... А як сам маешся? — у Імполя зноў упіліся сіненькія паўпаданыя вочкі.— Але што я пытаю: хлеб, чужым нажом кроены, і то нясмачны.
Імполю не вельмі хацелася гаварыць пра сваё верасаўскае жыццё — асцерагаўся Ваўчка, што падмеўся памагчы прадаць рыся і сілком улез у спадарожныя. Але ці прызнаешся яму, што Імполь ехаў не толькі дзеля таго, каб прадаць звяра,— карцела яшчэ ўбачыць Хрысцю. Мо пра гэта дагадалася і Алеся і ад затоенай помсты, калі выязджаў з дому, пасадзіла Ваўчка: «Ці згаворышся адзін з Грабянком. Во, Марціна вазьмі з сабою».
Цэлую дарогу ў Імполевай душы кіпела злосць на Ваўчка, ды збавіцца ад яго выйсця не знайшоў, як не знаходзіў і цяпер пра што гаварыць з малацьбітом. Падтакваў, слухаючы, што расказвае той пра сябе.
— Я тут падмеўся старому Герцыку калодзесь капаць, узяў бы і цябе ў памагатыя, але дзе ты ўжо,— і махнуў рукою, сказаўшы нібы сам сабе: — Хоць нашто яму той калодзесь. Вунь людзі з дальшых вёсак соль усю паняслі. Запалак не дакупіцца. Вайна, кажуць, блізіцца.
— А мо ператрывае як,— умяшаўся падкі да палітыкі Ваўчок.
— Бог яго ведае. Але ж нешта чуюць людзі. Вунь асаднікі свае фальваркі прадаюць. Свет калоціцца, як на верацяне.
— Ліха яму, столькі войнаў на аднаго чалавека,— пакруціў галавою Ваўчок.— Ды з кожным разам яны страшнейшыя.
Малацьбіт уздыхнуў:
— Ну, чаму ўжо быць, таго не мінаваць.
Ён угнуў голаў і, не падаючы рукі, пайшоў ад воза, не азіраючыся, прыляпнуў за сабою веснічкамі.

Імполь яшчэ стоена паглядзеў па абмазаную, з лазовым шчытком хатку — на акне густой чырванню цвіў вазонсмыроднік — і турзануў за лейцы.

Дрыготкі ляскат колаў абудзіў соннае мястэчка. На пафарбованай лаўцы каля плота падняў голаў стары яўрэй з шырокаю барадою і ўпёрся грудзьмі на жоўтую бамбукавую кацубу. Задзіраючы ад ветру бялявы чубок па абстрыжанай галаве, тросся па сіненькім веласіпедзіку з трыма колкамі, апярэджваючы фурманку, год пяці хлопчык у кароткіх штоніках.

У Імполевай душы разам з грукатлівым возам дрыжаў нейкі свой затоены страх і чаканне — убачыць Хрысцю. У гэтым чаканні было нешта такое, як бывае чаканне цёмнай хмары — ці прынясе яна буру, град, ці проста шчыры дождж. Але як перад кожнай хмарай — быў парывісты, моцны вецер. І цяпер гэты вецер чакання падымаўся ў Імполевых грудзях. Як стрэне яго Хрысця? Каб цяжкі, вялікі град не збіў рунь, што толькі ўсходзіла ў яго душы. Няўжо яе холад, няветласць, можа, нават злосць, як той вялікі град, саб'юць-здратуюць рунь, тую маладую рунь шчасця, што ўзышла, закрасавала ў яго душы. Ён ужо ведаў, што любіць Хрысцю нейкім інакшым каханнем, не тым, як любіў Алесю, любіць мо таму, што не ведаў, не спазнаў да гэтага жанчыну, што не было таго, першага, што павіна быць, што ён нешта страціў, што нешта абмінула яго ў жыцці,— кабета таксама павінна быць першай. І калі ён успамінаў Хрысцю, яму спаміналася тое, што сказаў яму некалі ў гумне стары малацьбіт, калі прыцікаваў, што ў яго, у Імполя, нешта ўжо завязвалася з Алесяю:

— Жыцьмеш, але нашто табе стоптаны лапаць. Знойдзеш. Не шукай багацтва, а шукай розум.

Імполь тады зазлаваў. Стары малацьбіт змікіціў, што сказаў не тое, напляваў на далоні і ўзяўся за цэп, гакнуў бічом па новым пасадзе і ніколі болей не гаварыў благога пра Алесю — бачыў, што Імполь любіць яе, і нават стаў падхвальваць Алесю і падсватваць ужо Імполя да яе.

Брыдкое, гідкае, што малацьбіт сказаў пра Алесю, трохі сатлела, забылася, а потым памаленьку, як пясок з гарышча, пачало церусіцца Імполю на голаў. Ён пачаў прыглядацца да Хрысці і прыкмячаць у ёй нешта маладое, свежае, як ружаватае яблыка ў расе, і яго пацягнула да Хрысці, вабіла не толькі яе хараство, а нават тое чыстае, яшчэ нікім не чапанае, не разварушанае яе каханне.

І Алеся пачала мяняцца ў вачах: ужо нешта злое, зацятае ўгадваў і прыкмячаў ён у ёй. І штось нават брыдкае ўбачыў ён у Алесі: незнарок, знянацку, калі яна босаю ішла ад гумна да хаты, ён, прыгледзеўшыся да яе ног, здзівіўся, што ў яе пляскатыя, непрыгожыя і тоўстыя ў костачках ногі. І калі была якая сварба з ёю, ён прыгадваў сцежку ад гумна да хаты, зацярушаную жоўтаю ячнаю саломаю і яе, Алесіны пляскатыя ступы.

Пасля хрэсьбінаў Алеся зацялася саўсім, на кожнае слова бзыкала, як злая аса. І Імполя спадцішка пачала падточваць мсцівасць сысці з хаты, уцячы. Але было непамысна і нейк шкода кідаць яе цяпер, калі па вёсцы папаўзла страшная чутка, што яна, Алеся, атруціла нямую залувіцу і свякроў. Ён іх не любіў сам і хацеў заступіцца за Алесю, але не ведаў як, хоць патаемна верыў, што гэты грэх учыніла яна. Імполь нават пабойваўся цяпер, што з гарачкі, пад якую пунтовую злосць, яна знявечыць яго або накладзе на сябе рукі. І калі часам у яго неўспадзеў з языка зрывалася што-небудзь злое ці нядобрае і яна, выбегшы з хаты, доўга аціхала дзе ў сенях ці ў стопцы, яго агортваў страх, каб не зрабіла чаго з сабою, і ён ішоў яе шукаць і гукаў, чакаючы з трывогаю, ці адклікнецца, і, калі чуў яе тое зацятае: «Ідзі ты пад шатанэ!» — яго разбірала радасць, што ўсё абышлося добра, спадаў гнеў і нават хацелася абняць і прыгарнуць яе.

Але падступіцца да Алесі не мог — яна моўчкі адгапяла, гідліва і пакутна зморшчыўшыся і махнуўшы рукою, а іншы раз ледзьве працадзіўшы праз зубы: «Мне і без цябе як вытрываць».

Ён бачыў, як яе раз за разам ванітавала — зялёным, мусіць, жоўцю. Ёй, праўда, быў нямілы свет.

Яны цяпер жылі па сабе, і ён, лежачы на новым, зробленым замест палка ложку, пачынаў думаць пра Хрысцю. Паводкаю разліваліся гэтыя думкі, але, як паводка, спадалі, пакідаючы на душы слізкі глей: а дзе ж ім абаім дзецца, не маючы ні прыстанішча, ні прытулку. І падлашчваў сябе — трэба жыць, і не вырабішся ўжо з гэтага хамута. Неаднакава жыццё для ўсіх, як каму наканавана.

Але выкінуць з галавы, адагнаць ад сябе мыслі пра Хрысцю не мог. Пакутаваў, думаючы пра яе і мыслямі пераносячы сябе разам з ёю ў іншы, нязвыклы і падхарошаны свет.

А цяпер на дварчанскай вуліцы, прыглядаючыся да цёмных, затосных вокнаў за пабеленымі платамі, да зя-

лёных садкоў, што адсыпалі свой цвет, да пуставатае будняе вуліцы, якою тады-сяды сунулася фурманка, да людзей, што ішлі нешырокім і шарым, як нябелены, у балонку ручнік, ходнікам, і, калі насустрач паказвалася маладзіца — у душы маланкаю ўспыхваў трапяткі страх і радасць, што зараз незнарок убачыць яе, Хрысцю.

Але ішлі чужыя, і ў Імполевай душы падбітаю пташкаю ападала гэтая трапяткая радасць.

Маўчаў, асалавеўшы ад задушлівае гарачыні, Ваўчок.

Выехалі на шырокі местачковы пляц, акружаны пабеленымі цаглянымі крамамі, і міналі сцішаную за мурам царкву.

— Пачакай! — нечакана страпянуўся Ваўчок.

— Чаго? — Імполь турзануў да сябе лейцы, прытрымліваючы каня.

— Зірну ў краму, можа, і праўда людзі запалкі ды соль расхваталі.

— А ці ж узялі торбу?

— Як кажаш? — недачуў, адышоўшыся ад воза, Ваўчок.

Імполь махнуў рукою.

Ваўчок палыпаў вачыма і скоранька, спатыкаючыся на бруку, пабег да невялікай, складзенай з блокаў крамы, што ўціснулася між высокіх дамоў.

Імполь, каб размяць заседжаныя ногі, саскочыў з воза, абышоў каня, прыглядаючыся, ці добра сядзіць вупраж, і прыпёрся спіною да драбінкі — чакаў, узіраючыся на гэты слепавокі, аднааконны дамок, што ўціснуўся між вышэйшых будынкаў, ці доўга там будзе бавіцца Ваўчок. Мінаючы краму, нейкая знаёмая сваёй паставаю дзяўчына пхнула дзіцячую каляску, што мігцела і пераліvалася павучынаю спіцаў і паблісквала нікелем.

Імполь задыхнуўся ад нечаканага гарачага прыступу. Дзяўчына, злавіўшы яго позірк, таксама падняла галаў — смуглявы тварок яе стаў чырванець.

— Хрысця,— у Імполя аж самлелі, падагнуліся ногі.

Нібы нехаця, нібы баючыся, Хрысця падпхнула да воза каляску.

— Во, не спадзяваўся,— змахляваў ён,— што стрэну.

— А ці хацеў? — яна была ў новай, трохі злінялай, чужой сукенцы, у старых туфельках, нечым ужо не падобная, здаецца, да тае, верасаўскае, Хрысці.

— Інакшаю ты зрабілася.

— Няўжо не пазнаў?

— Чаму ж,— яму было цяжка гаварыць, сухаватая гарката перацінала горла.— Харашэйшаю стала.

— А ты,— яна патрасла, пагушкала каляску, сказала: — Зблажэў.

— Работа, вясна,— ён адчуў, што яна таксама рада гэтай неспадзяванай стрэчы, але дзявочы гонар не дае ўсё сказаць.

— Ну, а яна,— Хрысця не сказала — Алеся,— можа, ужо сына табе нарадзіла?

Імполь паглядзеў на гэты мілы радок на яе галаве, нібы сарамеючыся, прызнаўся:

— Не яшчэ... Ды што яна. Цябе ўспамінаю.

Хрысцін смуглявы тварок перасмыкнуўся і скамянеў.

— Не трэба, Імполь.

— Чаму?

— Скалечыш сабе жыццё... Табе трэба яна, Алеся. Усё пераіначыцца, перагарыць, і жыць будзеце.

«Не!» — хацеў сказаць Імполь, але толькі ўздыхнуў. Моўчкі так і стаялі яны, покуль не вярнуўся Ваўчок.

— Во, назапасіўся, як мыш на зіму,— Ваўчок у абедзве кішэні ўпіхаў растапыранымі жменямі накупляныя запалкі, з-пад брыля свае насунутае на адно вуха кепкі ўзіраўся на Хрысцю.— Ты глянь, якая спраўная паненка стала.

— Выдумляеце няведама што,— смуглявы Хрысцін твар зноў успыхнуў і заліўся чырванню.

Сарамяжнасць і нейкая адначасна прытоеная радасць трапяталіся на ім. Карычняватыя вочкі з падазронай цікавасцю быстра зіркалі то на Ваўчка, то на Імполя.

— Куды ж гэта выправіліся?

— Ды во, да твайго Грабянкі,— Ваўчок засланіўся локцем ад сонца.— Ты ж, кажуць, у яго цяпер?

— Ага,— Хрысця адапхнула каляску ў халадок пад купчастую маладую ліпку з адцятым некалі вяршком і цяпер падобную на густую капу лісця, якое падпіраў гладкі камель.

— Звяра яму прадаваць вязём,— Імполь адкінуў на возе радзюжку.

— Вой, што гэта за ён,— Хрысця адарвала ад каляскі сваю руку, надступілася бліжэй.

— Рысь,— засмяяўся Ваўчок.

— А я думала, кот які.

— Забіў каля нашага поля. У яме ён сядзеў,— не ўцярпеў, пахваліўся Імполь, і, покуль ён расказваў пра

ўчарашняе здарэнне, Хрысця ўсё цікавала на яго, бачыла, што ён змяніўся, зблажэў, шчокі паўпадалі і пад вачыма сінелі кругі. Ёй зрабілася шкода яго, і нейкая горкая, крыўдная любасць сціснула яе сэрца.

Імполь, нібы ўчуў гэтыя яе думкі, змоўк, таксама з пільнасцю глядзеў на яе.

— Дак мо паедзем? — перапыніў гэты іхні маўклівы зірк Ваўчок.— І ты мо з намі? — спытаў у Хрысці, што ўжо адышлася да каляскі — там закугакала, закрактала дзіця.

Яна пакруціла галавою:

— Я і так пазнюся. Мне ж трэба па малако ехаць.

Імполь глядзеў, як яна, нат не азірнуўшыся, папхнула перад сабою каляску. Хавалася за высокі каменны мур царквы. Горкая, як чэмер, атрутная крыўда перавярнула ўсё ў душы: няўжо ён і не скажа ёй, што думаў сам-насам пра яе. Няўжо напраўдзе ён не абыходзіць ёй, няўжо яна такая зацятая, абыякавая да яго, няўжо ні кропелькі не любіць? А мо проста саромеецца або тоіцца. Але ж яна сказала сваё. Сказала, здаецца, цвёрда. Няўжо верыць гэтаму? Няўжо? Азіраючыся на высокі каменны мур царквы, Імполь ішоў за возам. Нарэшце кінуў лейцы Ваўчку:

— Я зараз, я вярнуся.

Пусціўся подбегам, мінуў царкву, задыхана крыкнуў наўздагон:

— Хрысця! Хрысця, пачакай!

Яна нат злякнулася, убачыўшы, што ён нагане яе — збялелы, задыханы, з сырамятнаю пужкаю ў руцэ. Змакрэлая выгаралая кудзерка валасоў, што выбівалася з-пад кепкі, ліпла да мокрага лоба. У здзічалых, перапалоханых вачах яго бліскала нешта звар'яцелае.

— Чаго ты? — яна адступілася з высокага ходніка на ружаваты засмечаны брук.

— Нешта сказаць табе маю.

— Што, Імполь? — яна павярнула да яго дзіцячую каляску, быдта хацела заслапіцца ёю.

Чула ўсёю сабою, што скажа ён. Але нашто гаварыць — ці не забыўся ён, што жанаты, што ў яго Алеся, сваё жыццё, усё сваё, якое ўжо ні ёсцека. І нашто развярэджваць душу, нашто чапаць тое, што прынясе бяду. Яна, здаецца, перагарэла, перапакутавала ўжо ім, перажыла, перамучылася. І на́ табе зноў — пакута, тая самая хвароба думаць пра яго, жыць ім. І мучыцца ад гэтых нерадчэпных думак.

Перасільваючы сябе, душачы сваю вялікую любасць да яго, ледзьве вымавіла абсмяглымі губамі:

— Паслухай, Імполь, не трэба. Не дадавай ты мне бяды, маўчы, нічога не гавары.

Але ён чуў толькі сябе, ён не хацеў ды ўжо не мог слухаць нікога.

— Вылуч хвілінку ды ў нядзельку вечарам да могілак за касцёл прыйдзі.

— Што ты гаворыш, Імполь!

— Я падбягу, як цямнець стане.

— Няхай бароніць бог, што ты намысліў!

— Пагаварыць з табою хачу.

— Гавары цяпер.

— Не, убачыць цябе хачу, сказаць табе ўсё хачу,— ён падбіваў пад шапку свой упарты, змакрэлы чубок. Густою расою на лобе бліпчаў пот, нават па густых чорных бровах сачыўся на вочы.

— Прыйдзі,— ён абцёр яго загарэлаю рукою.

— Не муч мяне, Імполь, не трэба. Грэх на цябе ўпадзе... Яна ж, Алеся, вунь дзіцем ходзіць. Грашно ж перад ёю.— Яна павярнулася да каляскі, асцярожна скацілы з ходніка на брук.

Імполь стаяў, узіраючыся на Хрысцю, на яе бурачковую ў зялёныя кветкі, завязаную ражкамі на патыліцу хустку, на плечы, што сціпна і глуха аддаляліся, і нешта цяжкае, як вялікім каменем, прыгнула яго да зямлі.

Ён ледзьве скрануўся з месца і, як сам не свой, рушыў назад па няроўным бруку.

Не помнячы, куды і чаго ідзе, мінуў местачковы пляц, насунуўся на старую бабу з кійком і тады ўбачыў, што ўткнуўся не ў той завулак, завярнуў назад.

У разарваным цяньку невысокай шапаткой бярэзіны стаяў белы Мондраў конь, тады-сяды трос галавою, ганяючы сякучых гізоў, і на цэментовых сходцах пейчае мураванкі, падпіраючы рукою шчаку, сядзеў асалавелы ад гарачыні Марцін Ваўчок.

— Дзе гэта ты бегаеш? — Ваўчок рукою выцер сонныя прыплюшчаныя вочы.— Трэба ехаць скарэй ды вярнуцца солі ўзяць, а то і праўда без солі і запалак астанёмся. Вунь і крамнік кажа, вайна блізіцца.

Імполь, здаецца, падаваў выгляд, што слухае Ваўчка, а ў самога перад вачмі ўсё стаяла яна, Хрысця, яе завязаная ражкамі назад на патыліцы хустка, паркалёвая ў выцві-

лыя кветачкі і трохі гаматная, велікаватая ёй сукенка — пэўна, ■ Грабянкавай жонкі.

Не прыкмеціў, як прыехалі да Грабянкавага дома, куды ўжо збегаў Ваўчок, няскора вывеўшы адтуль заспанага, з чырвонымі вачмі Грабянку — у адной майцы на сытым целе, з валасатымі грудзьмі.

Грабянка, распытаўшы ў Імполя, дзе ён забіў гэтага рыся, вярнуўся ў дом, прывёў прыгожую, трохі распаўнелую, белаватую, што, здаецца, і пахла малаком, жонку, але яна чмыхнула, што з яго забаўкі толькі страта, надзьмуўшы губкі, таксама з цікавасцю разглядала звяра, і выняў сваё чорнае партманэ, выкалупаў з кішэнькі круглую сярэбраную манету з насечанымі рубчыкамі на канце.

— Не, пан Грабянка,— пакруціў галавою Ваўчок, убачыўшы, што Імполь ужо цягнецца да гэтай манеты.

— А іле ешчэ? — пакасіўся на Ваўчка Грабянка.

— Пяць мала. Два злоты яшчэ набаўце.

Грабянка вытрас з партманэ ў скручаную жменю колькі новых, што пякуча ззялі, нікелявых грошаў, аддаў іх Ваўчку.

Імполь, узяўшыся за касматыя лапы, вывалак з воза рыся, панёс у брамку ўслед за Грабянкам, палажыў у цянёк на траву пад тоўстым шурпатым камлём хвойкі і паціху пайшоў да воза. Пазіраючы на вокны Грабянкавага дома — там нейкім затоеным смуткам бялелі фіранкі,— падумаў зноў пра Хрысцю, як жывецца ёй тут за гэтымі белымі фіранкамі. І, высунуўшыся з-за брамкі, раптам згледзеў сінюю каляску, бляск нікеляваных ручак і яе самую — загарэлую, здалёк падобную да цыганкі.

Скупое, нядужае спадзяванне турзанулася ў Імполевай душы, што прыйдзе яна ў той сухі, напараны гарачынёю хвойнік за касцёлам, за старымі да нематы, да страхоцця глухімі магілкамі.

Зняў лейцы з частаколіны, пагнаў вуліцаю каня. Ззаду бег Ваўчок і трос жменяю, у якой брашчалі грошы.

— Не блага ўтаргавалі. Сем злотых — гэта, лічы, тры пуды жыта.

— Вазьміце сабе.

— Што, падкупіць хочаш? — засмяяўся Ваўчок, але адняў адну манету з набычанаю падстрыжанаю «пад бобрык» галавою Пілсудскага, запхнуў у пустую кішэньку, ушытую для гадзінніка.

— Чаму падкупіць? — спытаў Імполь.— Вы ж утаргавалі два злоты.

— Утаргаваць-то ўтаргаваў, але не бядуй, маўчаць я ўмею, не тое бачыў.

— Што не тое? — устрывожана спытаў Імполь.

— Ты думаеш, я не дагадаўся тады, каля гумна, што яна, твая Алеся...

— Няўжо яна? Іх абаіх?

— Гэ,— падняў голаў Ваўчок, засоп у свой шырокі задзірысты нос,— пытаеш? Во, лепш ідзём у краму, солі возьмем.

Па бруку ўжо заляскатаў жалезнымі шынамі колаў, затросся пусты воз — Імполь турзануў да сябе лейцы, прыпыняючы каня напроці белых, мураваных, роўненька, як пад шнур, і шчыльна пастаўленых адна да адной яўрэйскіх крамаў.

## VI

Пасля полудня разышоўся ціхі росны дождж. Хіліла на сон.

Корсак сядзеў на парозе. Чуў і не чуў, як бубніла па лопуху дажджавая вада, дзяўбла ў пяску равок, вымываючы ружавыя каменьчыкі, пляскала на камень каля парога, апырскваючы, як крапідлам, холадам дробных пырскаў Корсакавы босыя ногі.

Нізка над зарослым дзікім кменам надворкам, распасцёршы вострыя крыллі, шмыгала чорна-сіняватая ластаўка, падымалася ўгору над плотам, мігаючы ружаватым воллем.

За вуглом у куратніку, знёсшыся ў старым, засланым для пакладу саломаю рэшаце, кудахтала курыца.

Недзе дрыжаў пад гэтым дажджом, цвірчаў, дробненька пераліваўся песняю жаваранак. І, абарваўшы яе, падаў каменем уніз.

Але стары Корсак, здаецца, нічога не чуў — ні кудахтання курэй, ні жаваранка, ні гэтага ціхага, мякенькага шэпту соннага дажджу. Ён падняўся з парога, босымі нагамі па слізкім бруку надворка дайшоў да мокрых, пазелянелых веснікаў, каб вызірнуць, ці не ідзе ад солтыса Міця, трэба ж было склікаць мужчын ды капаць перад парогам хлява яму. Але над пустою вуліцаю рэдзенькім туманцом вісела парпасць. Не баючыся дажджу, хадзілі куры — знак, што няскора ён перасціхне.

Корсак паглядзеў на зялёны луг перад рэчкаю — там пасвіўся, навязаны да жалезнага шворна доўгімі вожжа-

мі, чужы жоўты конь — і заплакаў, ціха адных слязьмі: зрабілася шкада свайго яшчэ маладога, укормленага і дагледжанага каня.

Ліха стряслося яшчэ тыдзень назад, калі рахманы, паслушны Корсакаў конь раптоўна занаравіўся, а пазаўчора ён паламаў усе загарадкі і высадзіў капытамі ў тыльным аконцы тое невялікае, на адну балонку, шкло.

Пазаўчора ўся Корсакава скаціна асталася нанач на двары — пускаць карову і авечкі ў хлеў было ўжо нават страшна.

Конь падымаўся на дыбы, лез пярэднімі нагамі на сцяну, нічога не помнячы, ляцеў ужо і на Корсака, калі ён, па сваёй дуроце, усунуўся быў у хлеў. Балазе недалёка адышоўся ад дзвярэй і ўскораў выскачыць назад, прычыніўшы іх за сабою. На выпадак, каб конь не нарабіў горшай бяды, дзверы сённячы прыйшлося знадворку забіць дошкамі.

Учора нават паклікалі з Дварчанаў ветэрынара.

Малады цыбаты мужчына з падбрытымі вусікамі, што наперадзе Міці прыехаў у Верасава на ровары, на блішчастай рулі якога вісеў стары парусінавы партфель, убачыўшы панурага, з натапыранаю шэрсцю каня, нават нічога не рабіў:

— У яго крызіс. Праз тры дні ён ужо,— ветэрынар нават не зняў з рулі свой парусінавы, з іржавым замочкам партфель.

— Можа, укол які памог бы,— стары Корсак глядзеў на высокага, з вастраватымі сутулымі плячмі доктара, апусціўшы рукі.

— Трэба берагчы скаціну, не пускаць сюды нічога ў хлеў.

Доктару прыйшлося заплаціць нават за візіт.

Учора Корсак быў як сам не свой, нават ад памяці адыходзіў. Дзіва што — такая страта, столькі кошту. Усю ноч і вокам не звёў. Прыдрамнуў, прыкархнуў мо на гадзіну, сасніўшы сон, што ў хлеў убіліся зладзеі і павялі каня, а ён глядзіць з-пад сметніку, куды выйшаў якраз па сваёй патрэбе, хоча закрычаць, а голасу няма, хоча падбегчы, а ногі не ідуць, так і прачнуўся ад гэтага крыку, змакрэлы ўвесь ад халоднага поту.

Потым і не спаў, думаючы пра сон — што на гэта і выйдзе, павядуць каня не зладзеі, а хвароба забярэ яго.

Устаў з ложка, не запальваючы лямпы, напіўся вады — нейкая гарачыня смажыла ўсяго — і, накінуўшы на

плечы кажух, свецячы белымі споднімі порткамі, высунуўся на двор.

У хляве круціўся і грыз сцяну, аж трашчала ўсё, ашалелы конь. Ад гэтага скрыгату ў Корсака па скуры ішоў мароз. Рабілася не па сабе. Успомнілася і тое, як у Рыбках навязвалі ў хляве ашалелую дзеўку. Казалі, яна рвала ўсё на сабе і кідалася на ўсіх кусацца, а потым кусала сама сябе і білася галавою аб сцяну. Няхай бароніць бог, якая страшная хвароба, якая пакутная смерць.

А цяпер во гэтак мучыцца скаціна. Корсак адышоўся ад хлява, узлёгся локцямі на частаколіны. У гародчыку свяціліся жоўтыя касачы. За густым зялёным галлём старых дрэў ззяў палавінкаю ціхі месяц. Яснасць ад яго была рэдзенькаю. Малочна-сіняватая ноч мяккаю дабратою абняла вёску. У цяньку пад бэзам на Жытковай лаўцы ціха перамаўляліся кавалер і дзеўкаю.

«Чые ж гэта?» — падумаў Корсак, але адгадаць ужо не мог.

Яснаю маланкаю, як у глухой задушлівай цемнаце, выблісйула ўсё даўнейшае і маладое, як сам любіў Караліну. Толькі ж не гэтак.

Убачыў першы раз у Дварчанах у стракатай купцы дзяўчат, што лушчылі гарбузовыя семечкі, яе, высокую, спрытную, у турэцкай бурачковай хустцы, прыгожую на тварок, у сіняватай сукенцы з вышытаю ружаю і зялёным лістком. Нейкая чыстая, гладзенькая ўся — аж сэрца зайшлося, затрапяталася, як ягнячы хвосцік. Цішком адлучыўся ад сваіх хлопцаў. Назіркам пайшоў за ёю і, калі яна выйшла з мястэчка на пясчаную ведравіцкую дарогу, нагнаў яе. Загаварыў. Нават і не помніць пра што. Ды, вядома, перапудзіў — яна і пабегла, мусіць, не чуючы пад сабою ног, тупкаю сцежкаю збоку парэзанае калясьмі дарогі. Так і дайшлі да самых хат — яна наперадзе, а ён, нібы адстаўшы, трошку ззаду. Так ён і не дагнаў яе. Потым ужо, калі замуж узяў, прызналася, што страх яе тады апанаваў: глухія ровішчы, лес, а тут чужы хлопец, ды ўсю дарогу ідзе ўпагон. Якая тут гутарка — ці ж мала што — ляцела, як вецер, бог адзін ведае, дзе і сіла тая бралася, шэсць вёрст — і каб хоць змарылася.

Браў яе без пасагу, маладзенькую яшчэ, дзевятнаццаты гадок ішоў. І любіў яе неяк па-мужчынску груба, з адкрытаю, трохі ганарыстаю нелюдзімасцю, хаваючы ад яе сваю ласку ды пяшчоту. І ніколі не загаварыў ціхім мілым словам, ды нашто саладзіць, як салодзяць іншыя

мужчыны. Дома пры жонцы — адно, перад іншымі — другое, нават брыдкае, пад жарт і хахінькі. Корсак таіў усё і ад сябе, і ад усіх, толькі ад яе, ад Караліны, утаіць, пэўна, не ўмеў.

І яна ведала, угадвала душою, што ён любіць яе, хоць таячыся і не прызнаючыся.

Ён, вядома, бачыў і яе спрытнасць да работы і ведаў, што яна прыгожая і як скрыва, зайздросным вокам цікуюць на яе чужыя мужчыны і іх, пэўна, бяруць завискі.

Што яна спрытная кругом, прыгожая маладзіца, разабраўся трохі пазней, учуўшы першы раз ад маці, калі яна вярнулася з чужога вяселля, дзе цікаўныя бабы абмаўлялі маладую ды няўзнак пахвалілі яе нявестку:

«Уга, твая Караліна — маладзіца на ўсе сто, а гэта і благенькая, і няўклюдная, і нос, ліха ёй, як у вароны. І я стаю, сынок, і гонар мне, і радасць».

Улас з таго дня нейкім іншым вокам пачаў глядзець на Караліну. Яшчэ мацней стаў любіць жонку, але ізноў ні адным слоўцам не абмовіўся пра гэта.

Нездароўчая толькі астатнія часы была — гады два толькі і ведаў, што вазіў па знахарах. А тут яшчэ гэтая прастуда. Неяк і не чакалася, і не верылася, што так раптоўна памрэ.

Пасля Каралінінай смерці ніяк акрыяць не мог — куды ні павярніся, куды ні пайдзі — у вачах яна, Караліна. То чужая бобская хустка, то каптанік, то голас — усё прыганвалі яе, Караліну.

У Дварчанах былі падсваталі ўдаву, нат, здэцца, спраўную кабету. Але сватацца ды падходжваць да яе не мог — адкаснуўся, чужое нешта, ды як жа ж жыць насуперак душы, калі сэрца замірала па Караліне.

Жальбу ды пакуту душыў работаю. А потым знайшоў ні то забаўку, ні то прагнасць — гадаваць і даглядаць коней. Купляў, перапрадаваў, мяняў іх — і ўсё ішло адным швом і шанцавала — удаваліся Корсаку коні. Вядома, на корм не скупіўся і догляд гаспадарскі быў. Дапякала нават Алеся: «Ты, бацька, толькі і глядзіш коней. Ужо яны табе і божы свет засланілі».

А гэты астатні — такі ўжо ўдалы быў: паслушны, дужы, працавіты, спрытны, хоць ты яго на выстаўку вядзі.

І на́ табе, трэба было прылучыцца бядзе: на лужку, дзе быў навязаны Корсакаў конь, якраз падсунуўся шалёны Ракоў сабака. Ніхто і не бачыў, калі ён укусіў ка-

ня. Бачылі толькі, як бегаў шукаць па гразі і есці бабок. Кажуць, і вылечыўся гэтым бабком. У Верасаве памалу ацiхла гутарка пра гэта здарэнне. Ды і сам Корсак не браў яго пад увагу, адно толькі пачаў прымячаць, што конь зрабіўся пудкі, не вельмі слухаўся, наравіўся, цяжка дыхаў і балюча роў, гудзеў нутром. Бачыў, што ў каня пачырванелі і зрабіліся вялікімі вочы.

Здаецца, у суботу, калі Корсак запрог яго, каб ехаць забаранаваць грэчку, конь захроп, падняўся на дыбы і шарахнуўся на бэз, перавярнуўшы воз з жалезнаю бараною, балазе Корсак паспеў адскочыцца, а то скалечыў ці забіў бы. Спярша Корсаку падумалася, што, можа, які кот скочыў з-за вугла і перапудзіў яго, а потым убачыў, што конь увесь дрыжыць, як у якой трасцы.

Корсак яго распрог, паставіў у хлеў, але вечарам, калі ўжо прынёс яму вады, конь крута завярнуўся і, храпучы, раздзімаючы чэрава, у гарачцы кінуўся на сцяну, пачаў брыкацца, зламаўшы капытамі закладзіну ў загарадзі. Добра, што абышлося так — выбіў ■ рук у Корсака толькі вядро.

Але ці думалася, што гэта шаленства. Не паверыў Корсак і Ваўчку, што незнарок напрасіўся сам глянуць на каня і, падгладзіўшы пад кепку свой касмыль, разам з іншымі мужчынамі зайшоў у хлеў і ўжо адтуль гукнуў:

— Мусіць, шалёны ён. Ідзі, Улас, лянь, як пена валіць.

— Яшчэ што выдумай,— Корсак ззаду ўсіх мужчын ужо з трывогаю ў сэрцы зайшоў у хлеў.

У каня папраўдзе ■ храпы цякла густая сліна. Ён задзіраў галаў, стрыг вушамі і ціснуўся ў кут, як сам не свой круціўся па хляве.

— Знаешся ты,— заступіўся тады за Корсака Іван Жыток.— Мо перапуджаны моцна.

— Няхай сабе і не знаюся,— ганарыста задзіраў галаў недарослы Ваўчок.— Але я ў войску бачыў шалёнага каня. Ён нат салдата ўкусіў. Покуль разабраліся, што за хвароба ў хлопца...

— Ты што ні згародзіш, то ўсё пра войска,— не даў дагаварыць Ваўчку Ікон.— Перапуджаны, мо абкурыць каня трэба было б чым.

— Абкурыць,— хіхікнуў і адвярнуў свой твар за плячо Ваўчок.— Прывіўку трэба зрабіць. Віцірынара трэба шукаць. А ты — пярэпалахі ганяць. Можа, хіба дзіванны напарыць ды даць яму. Кажуць, памагае ад шаленства.

— Ты ўжо гародзіш ні зіму ні лета,— незалюбіў Ікон Жыток.

— Няхай і гараджу, але Ракоў сабака мог пакусаць.

— Сабака вунь, кажуць, вылечыўся,— крычаў Ікон.

Але выйшла ўсё на Ваўчкова — учора тое самае пацвердзіў ветэрынар, толькі ўжо дадаў, што вакцына не нагража — хароба задаўненая, і каня трэба забіць, каб не нарабіў горшай бяды.

Учора ўжо і рошана было, што каля хлява трэба выкапаць яму і выгнаць туды каня. Так, кажуць, хавалі шалёных коней даўней, бо дзе ты ўжо да яго падыдзеш.

Корсак яшчэ пастаяў на парозе, паслухаў, як бубніць па шырокім лісці лапуха пад капяжом вада, і ўвайшоў у кіслыя, з настоенаю духатою і абрыдлым звонам мух, сені і пачаў шукаць у кутку за рознымі Міцевымі вудзільнямі і навыразанымі палкамі стары ржавы, што меўся быць там, лом, трэба было падварушыць каля парога брук, дастаць ды скласці ў кучу пад вугол камені.

Корсак выцягнуў цяжкі, з загнутай дзюбкай лом, панёс яго наперавесе адною рукою пад хлеў, пастаяў, прыслухваючыся, што робіцца за сцяною — там цяжка дыхаў і ўсё круціўся, мясіў гной, шастаў капытамі па разасланай саломе конь.

Жалосная гарката сціснула Корсаку горла, абліло гарачым потам лоб, Корсак абцёр яго рукавом і, падняўшы цяжкі лом, цюкнуў пляскатым канцом між каменняў, каб падважыць іх. У хляве спудзіўся і зноў забегаў, б'ючыся персямі ў паламаныя загарадзі, ашалелы конь. Прыслухваючыся да тупату ў хляве, Корсак падважыў ружаваты камень, вывернуў яго, кінуў далей ад парога, пад падрубу хлява, і ўзяўся выварочваць раскрышаны сіні і пляскаты. Каля хлява па бруку ўсё большаў лапік свежае разварушанае зямлі.

Сцішны дождажык расіў на Корсакавы плечы ў выцвілай, прапацелай, з цёмнай латкай кашулі, на парудзелую суконную кепку, на карчаватыя, з раздутымі вузлаватымі жыламі рукі, што трымалі цяжкі саржавелы лом.

Корсак усё дзёўб ім між каменняў — лом то цяжка звінеў, пацэліўшы ў каменні, то скрыгатаў, калі Корсак падважваў іх спаднізу.

Нізка па падворку шмыгала, распасцёршы тонкія крыллі, чорна-сіняватая ластаўка і, свецячы ружаватым воллем і белым жыватом, крута падымалася над Корсакам угору.

Пад страхою на крыжавіне вугла ў мяккім сухім гняздзе шчабяталі маладыя вераб'і.

Вярнуўшыся з пашы, на надворак праз непрычыненыя веснікі ўсунулася вішнёвая карова і сонна жавала жуйку, і, згорбіўшыся, моклі цыглястыя, абстрыжаныя ў рады і яшчэ не аброслыя авечкі.

— Цікуеце, дзіва згледзелі,— убачыўшы на надворку сваю скаціну, загаварыў да яе Корсак, як звык ужо гаварыць да ўсяго жывога: здзічалае быліны, калі вырываў ці выкарчоўваў яе з-пад плота, да свайго паслушнага каня, калі закладваў у жолаб нанач корм ці выязджаў на гаранпё.

На старасці і адзіноце чалавек гаворыць да ўсяго, каб ратавацца ад смутку і чуць, што некаму ты яшчэ трэба.

Корсак выграб рукамі пакрышаны, гнілаваты з аднаго боку камень, паднёс яго да кучы, кінуў на яе і азірнуўся на чорны лапік зямлі каля хлява.

«Не, мала выбраў бруку,— падумаў ён,— трэба яшчэ, каб яму не пераскочыў конь».

І раптоўна ўявіў гэтую яшчэ не выкапаную глыбокую яму і ў ёй свайго каня, што ржаў, выцягваў шыю і падымаўся на дыбы, сілячыся выбрацца адтуль.

Нязносна-балючая, як вытрываць, жальба абліла сэрца, запяла дых — Корсак нат пахіснуўся, абапёршыся рукою аб сухую, шурпатую ад моху сцяну хлява, дзе круціўся і страшна хроп конь, пастаяў з паўхвіліны, каб трохі перачакаць гэтую раптоўную млявасць, і пайшоў зноў прысесці на шчарбаты парог.

Рабіць сённячы пасля спакутаванае ночы ён ужо нічога не мог: дрыжалі рукі і гула, налівалася тупым болем галава.

Сеўшы на парог, ён і задрамаў, прачнуўшыся ўжо ад чужых на надворку галасоў: разам з Вайтовічам прыйшлі пакліканыя Міцем у помач Алесін Імполь, Марцін Ваўчок і верасаўскі солтыс — Янка Вайтовіч.

Яму капалі наперамену, як капаюць для нябожчыка дол — па дваіх: то Міця з Ваўчком, то Імполь з Вайтовічам. Потым іх падмянялі ўсе верасаўскія мужчыны: учуўшы пра страшную навасць, сюды, да Корсакаў, збеглася цэлая вёска — усіх брала дзіва, яшчэ ж ніхто не бачыў, як будуць закопваць жыўцом шалёнага каня.

Каля кучы жаўтаватага сырога пяску, на якую з глыбокай ямы ляцеў ружаваты жвір, таўкліся дзеці, далей шчыльна стаялі мужчыны і хлопцы, між іх цісналіся, каб

зірнуць хоць адным вокам, перапалоханыя, але дасужыя верасаўскія бабы ды маладзіцы. Толькі тыя, што прыбеглі з малымі дзецьмі, стаялі зводдаль, каля веснікаў — барані бог, з хлява выскачыць шалёны конь,— і, трымаючы меншых на руках, гукалі на большых, што таўкліся каля ямы на жоўтай кучы пяску.

Усе былі ўстрывожаныя, на тварах палыхаў страх.

Адно стары Корсак, што сцішна сядзеў на парозе, угнуўшы галаў, здаецца, быў спакойны, і выдавала, што нічога яго не абыходзіла. Ён ляпаў босаю нагою па цёплай вадзе, што сабралася ў ямцы на пляскатым камені. На шапку яму са страхі падалі рэдкія, падсвечаныя сонцам кроплі. Дождж перасціх. З глыбіні разарваных, ужо высокіх хмар выглядвала сонца: на саламянай страсе, на лісці кучаравай бярэзіны, на дзікім кмене каля плота зіхацела, адсвечвала калючым золатам дажджавая раса.

Упёршыся локцем у калена і паклаўшы на далонь шчаку, Корсак горна думаў пра тое, што ў жыцці яму ніколі і ні на што не шанцавала — ні пажыць, як трэба, з Караліна́ю, ні на дзяцей, бо Міця ўдаўся няздатны да гаспадаркі, ні на коней, бо ў якія кошты абыходзіцца гэты малады добры конь. З якога боку ні вазьмі — кругом бяда. І ў гэтай бядзе, не паспеў азірнуцца, прабегла жыццё. І нашто чалавек жыў, мэнчыўся?.. Нашто?!

— Тата, тата, ці чуеш? — гукнула да яго Алеся.— Можа, схадзіў бы да нас ды папалуднаваў.

Яна прыбегла сюды і, загнаўшы ў гародчык, падаіла, каб не перагарэла малако, Корсакаву карову.

Трымаючы ў руцэ вымытую даёнку, што нясла павесіць на частаколіну плота, яна стаяла на пляскатым камені каля парога і тармасіла бацьку за плячо:

— Ці чуеш, што кажу?

— Вот ты са сваёю ядою,— Корсак упёрся рукамі ў вялікія калені, падняўся з парога.

Але завярнуў не за Алесяю — яна, цяжка несучы свой пукаты жывот, прыспешыла дадому, каб не бачыць ды не ўразіцца ад таго, што будзе рабіцца тут,— а падышоў да купкі мужчын.

Яны ўжо выкапалі глыбокую ды шырокую, як на склеп, яму. Прыкленчыўшы і падаючы рукі, адтуль даставалі, выцягвалі далакопаў — малога Ваўчка і высокага, тонкага, як жэрдачка, меншага Іконавага сына.

Каля ямы трапятаўся, прытоптваў на галаве шапку

верасаўскі солтыс Янка Вайтовіч — ганяў, каб не заміналі, дзяцей.

— Эйш адсюль!

Дзеці адбягаліся, наровячы сцішком зноў падысці да ямы, але на іх пакрыквалі і лавілі кожная свайго, каб не падсунуўся на якую злыбеду пад шалёнага каня, перапалоханыя мацяркі.

Мужчыны вялі раду, як быць з ямаю: пакідаць адкрытаю ці мо лепш прыхаваць насечаным алехавым галлём.

— Чаго, пойдзе і так,— абціраў з сваіх портак сыры, паліплы пясок Марцін Ваўчок.

— У хлеў не зойдзеш, не вельмі выганіш.

— А нашто заходзіць, у задняй сцяне аконца ёсць,— задраў голаў, каб зірнуць у вочы старому Корсаку, Марцін Ваўчок.

— Ага, ёсць,— за бацьку сказаў Міця; з-пад кепкі яму на бровы цёк яшчэ не абсохлы пот.

— Во,— махнуў угору галавою Ваўчок,— каб якую толькі жэрдку ці бусак.

— Гы, утрымаеш ты бусак,— падцінаючы Ваўчка, выскаліў свае жаўтаватыя ад курыва зубы Янка Вайтовіч.

Але ніхто не зарагатаў — усе касілі вачмі, азіраліся на старога Корсака, што скажа ён. Тонучы па костачкі ў сырым пяску, Корсак глядзеў на прымкнутыя і забітыя накрыж дошкамі дзверы хлява — там усё хадзіў і круціўся, не знаходзячы сабе месца, ашалелы конь,— нарэшце цяжка ўздыхнуў:

— Можа, і праўду ён кажа, будзем выганяць так.

Глыбока зацягваючыся на астатку, мужчыны дакурвалі папяросы.

Утаптаўшы размоклы канчар у сыры пясок, Янка Вайтовіч напляваў на руку і падняў дзюбаватую з гладкім чаранком лапату, падважыў ёю прыбітую да тоўстага вушака дошку — зарыпеў, выкручваючыся з дзерава, кантовы цвік.

— Пачакайце, замок здыму! — трымаючыся за ўбіты ў дзеравіну жалезны крук, Міця дайшоў вузкім берагам да вушака, адамкнуў на ім конскае пута, пацягнуў на сябе дзверы — Вайтовіч падважваў другую дошку.

На вуліцу за плот адхлынулі маладзіцы ды бабы. Разам з імі стаяў баязлівы, што нат не мог засекчы курыцы, Міронаў Васіль. Непаслушныя, разбэшчаныя дзеці чапляліся на частакол.

З-за хаты з гародчыка, трымаючы вострымі рагамі наперад, ужо пёс доўгую жэрдку бусака Марцін Ваўчок. Ад старання ў яго вылазіў з рота ружовы кончык языка.

Адступіўшыся і хаваючыся за сцяну, мужчыны бралі што падхватнае ў руку: лапаты, калы ды якія дзе заваляныя жэрдкі — на выпадак, каб бараніцца.

У хляве ўсё круціўся, але не высоўваўся ў адчыненыя дзверы Корсакаў конь.

— Шалёны, але чаму ж ён не ляціць во з хлява? — азіраўся на Корсака Ікон Жыток.

— Я яго зараз,— крыкнуў Ваўчок, разварочваючыся з доўгім бусаком, каб усунуцца ў сутокі, між хлявом і хатай.

— Ён зараз,— перакрывіў Ваўчка Жыток.— А што яму, чужое абыходзіць?

Туды ў сутокі на помач Ваўчку кінуўся Алесін Імполь. На той бок хлява ў малым аконцы дзынкнуў зломак шыбы, і ў яго, мусіць, ражном уперад усунуўся доўгі бусак.

У хляве крутнуўся і цяжка застагнаў падцяты бусаком конь.

— Но-о! Стогнеш яшчэ,— там, за хлявом, крычаў Марцін Ваўчок.

На загарадзі ў хляве грукаў і чапляўся доўгі бусак. Круціўся, але не паказваўся ў адчыненыя дзверы ашалелы конь, а мо бачыў гэтую глыбокую, падкопаную пад самым парогам яму, гэтыя высокія, насыпаныя кругом яе ружаватыя купы жвірыстага пяску.

— А каб гэта залезці на страху ды адтуль яго нужнуць,— падказаў з-за плота Міронаў Васіль.

— А што...

— Вядома, лепш з страхі,— умешваліся бабы, ім ужо зацярпелася чакаць, покуль з хлява выскачыць конь.

Але раптоўна там нешта загрукала, затрашчала — і ў дзвярах, махаючы цяжкаю галавою і, здаецца, нічога не бачачы, высунуўся конь, з адвіслае губы ў яго цякла зеленаватая сліна. У пукатых вачах чах каламутны бляск.

Прасунуўшы праз аконца бусак, у хляве грукалі ім, стараючыся дацяць каня, Імполь з Ваўчком.

— Яшчэ-яшчэ, цаляй трохі налева,— забегшы перад ямаю і прыкленчыўшы на горбе пяску, у хлеў цікаваў Янка Вайтовіч: вока ў яго прыскальвалася, рот крывіўся.

— Ага, налева кіруй!

— Во, так, во...

— Ах, чорт!

Туды да Вайтовіча падбягалі іншыя мужчыны, прыгіналіся, заглядвалі ў хлеў.

Востры ражон доўгага бусака нечакана ўцэліў і ўпіўся каню пад дыхавіцу — конь балюча турзануўся, задраў голаў, нібыта ачуціўся, і рвануў з хлява, і толькі цяпер, здаецца, убачыў глыбокую яму.

Войкнулі і бегма кінуліся ад плота перапалоханыя бабы.

Конь наўскос гэльцнуў, каб дастаць пярэднімі нагамі да берага, але скокнуў не на ўвесь разгон, нібыта перапудзіўшыся глыбіні і хочучы, мусіць, стрымацца. Ён толькі зашкроб пярэднімі капытамі па стромым беразе і, натужліва задзіраючы голаў, быдта просячы ратунку, паляцеў у яму.

Падаў на пярэднія ногі, а потым недзе там, падвярнуўшы голаў, паляцеў на спіну, задзіраючы высока заднія капыты.

Цяжкі, ▪ стогнам і храпам, грукат вырваўся з ямы.

— Авой, няхай крые бог,— уздыхнулі, здаецца, усе разам там, за плотам на вуліцы, бабы.

— Хлопцы, не стой,— Вайтовіч зашахкаў лапатаю, шпурляючы ў яму пясок.

Там біўся галавою, трэпаў капытамі, сілячыся ўстаць, перавярнуцца на жывот, дужы Корсакаў конь. Яму ўжо па голаў, на жывот, на ногі гупаў пясок — мужчыны дружна, замінаючы адзін аднаму, сыпалі, граблі яго з горбаў.

Міця, каб не глядзець, адышоўся ад хлява, чуючы, як дрыжаць рукі, завярнуў надворкам да Алесі.

Каля паграбка стаяў бацька, адвярнуўшыся ад Міці, выціраў рукавом вочы. Сутулыя, у выцвілай, падлатанай вялікаю чорнаю латкаю, кашулі сухія плечы ціха ўздрыгвалі.

## VII

Неўпрыцям прайшла, мінула пара красавання. Здэцца, учора схаладалы перад дажджом вецер абтрос, абцерушыў на жорсткі пясок вуліцы, зашапацеўшы, як лёгкім сухім снегам, белыя крыльцы вішнёвых кветак. Адцвілі і пасівелі, завязаўшы дробныя яблычкі, ружавата-белыя разложыстыя яблыні, абсыпалі з сваіх парудзелых чачотак жаўтлявыя, як проса, бубачкі высокія ценькія рабіны, згасла і змеркла каля шарых частаколавых платоў ліловая яснасць бэзу, што адсвечваў сярод поцемку ночы.

Мінула пара дробнага жаўтлява-зялёнага лісця, белых груш сярод сіваватага, як асака, жыта на полі — усё было густа-цёмна-зялёнае, сакаўное. Усё выгнала гонкія пасынкі, падужэла, падрасло, абцяжэла, разбылося ў сваім сарамяжым характве, як цяжарная маладзіца, што чакае ў глыбокай затоенай трывозе і радасці сваё першае дзіця.

Толькі сіратлівым, рэдкім водсветам сярод густых сцямнелых кустоў чаромхі, маладога, распаранага алешніку дзе каля рэчкі бялеў, свіціўся бела-крэмавымі кветкамі куст каліны.

Густыя купы старых кляноў, высокіх, дзе з адзінокаю шэраю калодаю, кучаравых ліп, шапаткіх, у доўгім вецці бярэзін хавалі ў сваім сыраватым зацішку, у лёгкім халадку саламяныя, зеленкаватыя ад падушак моху стрэхі верасаўскіх гумнаў, хлявоў і хат. Каля плота пакалыхваўся дзікі кмен, разросся, выпусціў сваё шырокае лісце лопух, густымі купкамі ўзялася расці піжма, глухая канапелька і пакалыхваў шара-празрыстымі, пухкімі, а дзе палыселымі ўжо, чубатымі макаўкамі дзьмухавец, і пры беразе хвойніку жоўта-яснымі махрыстымі кветачкамі зацвіў валаснік і зазвінеў ад пчол нізкі ліловы чабор.

Каля гародаў, каля вады забуяла густая крапіва, якую, склаўшы рукавіцу, можна было нарваць свінням, ужо гнуткай змяінай шыйкай выглядаў каля алешніку малады хмель, каб учапіцца за нізкую лапку і абвіць шары, у белых косых вочках, камель. Пахла горкая лодзьма пры быстрай абмялелай рэчцы.

Усё верасаўскае балота стракацела ад жоўтае маслянкі, сярод якой пакалыхваліся калматыя таўкачыкі вобаратніку, ліловых, затоеных у мятліцы гараб'ёвых кветачак, ружавата-вялае смолкі. Далей пад багнішча ў асацэ свіціўся бурачковай, сабранай у чачотку кветкай тоўсты, з краплістым лісцем зязюльнік, а бліжай раскручваў з трубкі лісце малады, не пацямнелы яшчэ чэмер. Ён, гэты выкручаны лейкаю ліст чэмеру, што вылез па сцежцы, між чорных, наточаных кратом капцоў. Алеся згледзела яшчэ здалёк. Зляканулася, як ад чаго жывога, перад вачыма ўстаў той ахонаўскі знахар, пярэсты сабака і ўчула зноў хрыплаваты голас «Самая моц — малады рваў», і той крык у гумне старое Мондрыхі і здушаны голас немае Еўкі.

Няпомнячыся, Алеся прыспешыла хаду, набіваючы між пальцаў мокрых ад расы люцікавых пялёсткаў — замшавыя, з лакіраванымі перадамі і заднікамі туфлі нясла ў руцэ.

На грудку перад лесам ногі абколвалі сухія стрымбулі леташняга крываўніку і палыну.

Чуючы, як пякуць паколатыя ногі, і трохі аціхаючы душою, дайшла да могліц, прыпынілася. Між старых, у жаўтлява-новых пасынках ялаўцовых кустоў падымаліся малыя, ледзьве знаць, капцы магілак — без крыжоў, без ніякага знаку — тут хавалі нехрышчоных дзяцей, найбольш тых, што радзіліся нежывымі. На забытых, недагледжаных копчыках густою ліловаю шчоткаю выслаўся чабор, сплёўся сівым дробным лісцем валаснік; не ўчуўшы яшчэ добрага сонца, зморшчыліся, сабраліся ў ружавата-сівыя пучкі яго жоўтыя кветачкі.

Алеся дайшла да роўненькага, яшчэ добра прыметнага капца-магілкі — на ёй, выкладзеныя крыжыкам, ружавелі сакаўныя растапыраныя шышкі скочак, што глыбока ўраслі ў зямлю. Прыкленчыла пры магілцы, учуўшы пад каленьмі росны мяккі зязюльчын мох, зашаптала ўголас: «Даруй, дзіцятка маё, даруй».

Яна стаяла, прыкленчыўшы і бачачы дварчанскі касцёл, чуючы той каменны холад падлогі, тую жоўценькую, пафарбаваную спавядальню пры сцяне, тое забітае ў драўляных крыжыках аконца, за якім будзе сядзець ксёндз, наставіўшы вуха.

І яна скажа. Скажа ўсё. Сёння ў яе генеральная споведзь.

Алеся ўчула, як змакрэў, абліўся потам лоб, і не могучы паднялася. Як з-пад абвіслага берага пясок, пацякло, патачылася сумненне: нашто яна згадзілася на генеральную споведзь, нашто паслухала тую старую насатую, з сівымі валасамі тэрцыярку[1], што прыпыніла яе за касцельнаю жалезнаю брамаю:

— Дзіцятка маё, вы пакутуеце, трэба паспавядацца.

— Чаму? — Тады Алеся адступілася ад гэтае старое кабеты з чорным ружанцам у худых, зморшчаных руках.

— Дзіцятка маё, я ж бачу ўсё, па вачах бачу. Трэба шчыра выспавядацца, каб было ўсё канечным, каб атрымаць паўнейшую і гойную ласку, каб лепей супакоіцца. Паслухай, дзіцятка маё, і ўсё пройдзе.

Яна нават навучыла, як трэба прыкленчыць перад спавядальняй, што гаварыць, з чаго зачынаць і чым скончыць споведзь.

---

[1] Тэрцыярка — сястра трэцяга закону *(польск.)*.

І цяпер у Алесіных вушах стаялі тыя сіплаватыя, шапялявыя словы: «Праз грэх смяротны душа траціць ласку божую і заслугуе на вечную кару».

«Божа, як сказаць пра той грэх? Як?.. Няўжо ксяндзу можна верыць?» Яшчэ ўчора звечара аж тры разы Алеся згаварыла пацеры. Ціхенька дачакаўшыся, покуль заснуў Імполь. І сёння зранку зноў, толькі забялеўся дзень. Падаіла карову і вобмельгам сабралася, каб не бачыў Імполь, сказаўшы яшчэ ўчора яму, што пойдзе да касцёла.

Цяпер стаяла над капцом магілкі, што зарасла марнаю травіцаю, бурачковымі растапыранымі скочкамі і ліловым, горка-густым чаборам, і чула, як пад сэрцам турзалася дзіця. Яе, другое, ужо ад Імполя. «Можа, дзеля яго трэба ісці на гэтую генеральную споведзь»,— падумала яна з горкім смуткам і азірнулася на вёску, што лабамі саламяных стрэх, са старымі вушастымі канькамі, вызірала з-за густога зялёнага навалу надрэчных вербаў і алешын. Недзе там ціха, як у глыбіню калодзеся, кувала зязюлька. Ды пад грудком у вербалозе, у гразі з гнілымі лёхамі перасвістваласся, свіргатала невядомая пташачка.

Пад яе вясёлы і моцны перасвіст Алеся выйшла на пясчаную дарогу, але, каб не стрэцца з кім, звярнула на зялёную, у счарнелых прутках леташняга быльніку калматую мяжу і пайшла ёю, абколваючы ногі аб сухі, паломаны быльнік, між высокіх сцен цёмна-зялёнага з сінявато-тымі, што толькі выплылі, пляскатымі каласамі жыта. На шырокім пер'і, на вусатых каласах проці сонца зіхацела, адсвечвала жаўтлявай залацістай чырванню раса.

У кучаравых разрослых садках за жытам хаваліся Прылуцкія хутары.

Над замглёным паскам сіняга лесу, над Прылуцкімі хутарамі, з левага боку ад Алесі, бегла невысокае сонца. Там недзе яшчэ рыкалі выгнаныя з хлява, сонныя каровы і трубіў моцна, на ўсё горла нейчы певень, нязлы брэх сабакі адзываўся за сцяною жыта.

Ад халаднаватай расы трохі шчымелі, заходзіліся ногі, але сцішылася, трохі спакайнела Алесіна душа ад баязлівага, першага, яшчэ нямоцнага шапацення жыта, ад яго саладжава-прэснага паху, ад высокай, маладое і вечна не разгаданае жаваранкавай песні над галавою.

І яна пачала супакойвацца, цверазець душою, што ўсё ў яе будзе добра ў людным гулкім касцёле, з гэтымі прыгожымі ў размаітае, як тэпча, шкло вокнамі, з вялікім, у пазалочанай аправе, абразом святой радзіны, дзе быў па-

малёваны з залацістымі кудзеркамі Езус у ружовай сукенцы, з-пад якой выглядвалі босыя ножкі. Ён стаяў на колінках, склаўшы перад сабою тоненькія дзіцячыя ручкі, і каля яго босых ножак сядзеў, завярнуўшы назад галоўку, белы голуб, і, распасцёршы крыллі, злятаў, садзіўся другі. За малым, гадкоў дзесяці, Язусам прыкленчыла матка боска ў сіняй доўгай накідцы, з-пад якое высоўвалася ружовая сукенка з залацістымі карункамі на рукавах. Алеся заўзіралася па яе чысты, ружовы і прыгожы тварок, на залацістыя зорачкі круга галавы ў белай незавязанай хустцы, што спадала на плечы. За маткай боскай, схіліўшы голаў і прыклаўшы да грудзей руку, стаяў у карычневай сутане, падпаясаны шырокім шалікам, чарнявы, з востраю бародкаю і тонкімі наміткамі вусоў нечым падобны на Імполя святы Юзаф.

І ў Алесінай душы тлела нейкае шкадаванне, што на свеце ёсць шчасце, дабро. І ёй хацелася гэткага шчасця, але ведала, што свет перавярнуўся для яе — і яго няма і не будзе. Як ап'янелая, яна пачынала гаварыць пацеры да яе, да святой Марыі, і варочалася дадому як сама не свая, са слязьмі на вачах, апанованая халоднымі, ледзянымі, як скразняк, думкамі.

І яе, мусіць, даўно прыкмеціла гэтая старэнькая тэрцыярка ў чорнай сукенцы і намовіла да генеральнай споведзі, сказаўшы, што пагаворыць з ксяндзом, што трэба прыйсці на сёмуху, якраз во сёння.

Ператрывожаная, знерваваная, Алеся не спала ўсю ноч, прачынаючыся ад жахлівых сноў, ад Еўчынага крыку: «Не, не будзе табе жыцця. Грэх божы ўпадзе на цябе». Здаецца, збягаліся людзі і Еўка крычала перад усімі: «Яна мяне звяла са свету. Яна атруціла. Яна!..» — І закрывалася ў гумне. Успомніўшы гэты сон, Алеся аж схаладзела душою, прыспешыла хаду, выйшла на Ахонаўскія груды, з якіх ужо былі відаць Дварчаны — там высока ў неба падымаліся дзве вострыя чырвоныя вежы дварчанскага касцёла. Яны цягнулі да сябе і бояззю, і нядужаю, слабенькаю надзеяю на нейкі ратунак. І зноў глыбокі вір страху цягнуў да сябе Алесю. «Не, трэба ісці да споведзі, можа, праўда згінуць, прападуць страшныя сны, прыйдзе ад іх збавенне, стане лягчэй на душы, спадзе ўсё гэта чорнае, што ўжо каторы час мучыць, гняце яе. Можа, бог здыме гэты цяжкі смяротны грэх».

Яна ўжо не помніць, як дайшла да шашы, дзе ўжо грукацелі, з'язджаючыся ў мястэчка да касцёла, фурманкі, на

іх сядзелі прыбраныя ва ўсё святочнае, па-набожнаму спакойныя, цамякчэлыя, ачарсцвелыя душою мужчыны з кабетамі ў накрухмаленых хустках, купкамі ішлі хлопцы, рагаталі з дзяўчатамі — усім было лёгка, весела. Скупым шчасцем у іхніх руках гарэлі чырвоныя пышныя букеты півоняў.

Алеся назіркам пайшла за імі, баючыся дагнаць каго з верасаўцаў. І неспадзявана ў растрэсеным палукашку на возе ўбачыла старых Літавараў і прыпыніла сваю хаду, чакаючы, покуль яны не звернуць да парэнчаў каля муру паставіць каня. Не даходзячы да жалезнае касцельнае брамы, прысела на мураву, каб нацягнуць на босыя ногі шкарпэткі ды абуць свае замшавыя з лакіраванымі наскамі туфлі. Чуючы, як ажывае зноў і турзае за сэрца страх, у марудным павольным шнурку людзей уцягнулася ў жалезную браму.

Каля няроўнага ходніка на траве сядзеў сляпы жабрак, скінуўшы шапку, далей на колінках стаялі яшчэ.

Людзі кідалі ім па якому грошу, нагіналіся і называлі імёны нябожчыкаў. Алеся, прайшоўшы далей, спынілася каля бязногага — толькі кароткае тулава спадпізу падшыта скурамі,— што палажыў на самы ходнік сваю кепку. Дастала з сачыка завязаную на вузельчык хустачку, расшмаргнуўшы, выняла дзесяць грошаў, асцярожна апусціла ў старую зашмальцаваную кепку, назвала маміна імя і застыла: а яны — Еўка са старою свякроўю? Зноў халодны пот абліў усю. Перасохлым ротам ледзьве вымавіла іхнія імёны і паднялася на каменныя, пабітыя сухім лішаём сходы касцёла, дзе сядзела старэнькая, прыбраная ў чысты шарачковы сачык кабета. Склаўшы рукі, шчыра малілася, але на разасланай хустцы ўсяго ляжала дзве бронзавыя манеткі.

З Алесіных шчопцяў і ёй выслізнуліся дзесяць грошаў.

— Няхай табе, дзіцятка, лёгка будзе, няхай табе бог усе грахі даруе,— згледзеўшы нікеляваную, ужо даражэйшую, манету, сказала старая і памкнулася, каб пачуць за каго маліцца, нават адграбла з вуха хустку.

— За Алесю, цётка, за мяне памаліся.

— Маладзіца, не кліч на сябе грахі. Не думай пра смерць. Не міне яна нас, але каб табе без пакуты жылося. Папрашу бога, за пакуту тваю адмалюся. За дзіцятка, каб шчаслівае нарадзілася.

У касцёле, што гарэў і свяціўся прыгожымі вітражамі, праз якія розпакалёрнай тэнчай падалі косыя слупкі сон-

ца, ад зялёных папяровых вянкоў, што, перакрыжоўваючы касцёл, звісалі са столі, ад глухога кашлю, ад шарканя ног, ад мноства людзей, што прыкленчвалі ііры ўваходзе, ад сцішнага шэпту малітваў, ад палахліва-смутнага агоньчыку свечак, ад паху воску, ад хараства размалёваных фігурак у Алесінай душы зноў ачуняла радасць, прайшоў той цёмны страх. Яна ўбачыла свой абраз і міма чорных цяжкіх лавак, дзе сядзелі найбольш старэнькія бабкі, каля тоўстых аблушчаных калон прайшла да яго. Прасунулася між старэнькіх кабет, прыкленчыла на халодныя каменні падлогі.

Лысаваты з белымі скронямі мужчына, высока дастаючы рагатым кійком з агоньчыкам, запальваў у кандэлябрах свечкі.

З закрыстыі, што была з правага боку алтара, высунуўся немалады даўганосы міністрант у караткаватай комжы з шырокімі гафтаванымі рукавамі, трымаючы тоўсты з залацістымі кантамі імшал, турзануў тры разы за кольца, што віселі перад закрыстыяй,— тры разы заглэнгаў глухі шчарбаты званок, даючы знак, што пачынаецца спяваная імша.

За спіною ў Алесі заскрыпелі лаўкі, людзі падымаліся з каленяў.

Устала і Алеся, захлынаючыся і ападаючы душою ад усяго невядомага і неспадзяванага, што будзе.

Прапусціўшы наперад сябе дзяцей з бліскучымі сярэбранымі званочкамі, з закрыстыі з келіхам у руцэ выйшаў убраны ў літургічныя шаты немалады ружовашчокі ксёндз. На жоўтым арнаце на ўсю спіну пераліваўся вышыты залаты крыж.

Прабегшы наперадзе ксяндза, старэнькі даўганосы міністрант прыкленчыў на два калены перад алтаром, палажыў на падушачку імшал і спусціўся з алтара, прыкленчыўшы зноў.

Алеся, затоеная, нібы баючыся дыхнуць, цікавала туды, на алтар, дзе блішчаў крыж, хоць бачыла ўсё гэта не раз, але для яе сёння, здаецца, усё было першым: і гэтая, што пачыналася, імша, і касцёл з каменнаю настылаю падлогаю, з глыбінёю прыгожа размалёваных скляпенняў, сонца, што лілося ў касцёл, разбіваючыся ў вітражы на розныя колеры, пераліваючыся ружовым, ліловым, жоўтым святлом, як пераліваецца на сіняй хмары, што сплывае далёка пасля моцнага дажджу, высокая тэнча і над светам стаіць спакой. І гэты спакой радасці падаў на алтар, на

людзей, на тоўстыя кантовыя калоны, сюды, дзе стаяла яна, Алеся, перад вялікім абразом святой радзіны.

Ксёндз, падняўшыся на алтар, паставіў свой залацісты келіх, адкрыў імшал — гэтую таемную, невядомую для Алесі кнігу, сышоў да сходаў алтара і на перамену з міністрантам загаварыў па-латыні нешта таямнічае да людзей, што стаіліся ў ціхай набожнасці, не азіраючыся, не зварухнуўшыся, як скамянелі.

Скамянела, затаілася і Алесіна душа ад гэтых невядомых слоў.

— Introibo ad altare Dei [1].

І яму, стоячы на каленях, адказваў даўганосы, у белай караткаватай, з шырокімі гафтаванымі рукавамі, комжы-міністрант:

— Ad Deum, qui laetificat juventutem meam [2].

І гэтыя невядомыя, незразумелыя словы нesліся адтуль, з алтара, і нешта невядомае рабілася ў Алесінай душы — нібы ледкі вецер абдымаў і студзіў яе, і замірала сэрца, сціскалася, як замірае яно ад вышыні.

Ксяндзу адказвалі і адсюль, з касцёла, у Алесі за спіною. Яна ўжо разбірала польскія словы, і губы яе шапталі самі:

— Споўядам сень богу вшэхмогонцэму, найсвентшэй, Марыі — завшэ дзевіцы [3].

Алесю зноў апаноўваў трывожны страх, нешта баязлівае шчаміла ў душы, што яна скажа ксяндзу пра ўсё тое, што было ў гумне, што яна душыла сваё першае дзіцятка, пра тое, што яно радзілася нежывым, і слёзы самі пякучай гарачынёю засцілалі ўсё перад вачыма.

І яна ўжо не бачыла ні людзей, ні касцёла ў слупках тэнчы, што лілася з вокнаў, ні ксяндза, што падымаўся да алтара і, нахіляючыся, клаў на яго свае далоні,— яна толькі чула невядомыя, нязвыклыя ёй словы: «Kyrie eleison!» [4] — і шаптала ўслед за ўсімі: «Пане, змілуй сень!» Яна, як адышоўшы ад памяці, як сама не свая, далёкая ў мыслях ад касцёла, то бачыла сваё гумно, то чула задушаны стогн немае Еўкі, то перапалоханы, сцяты болем крык старое Мондрыхі. І, нібы не прыкмячаючы, што робіць, жагналася разам з усімі і, разбіраючы некаторыя сло-

---

[1] — Узыду да алтара божага *(лац.)*.

[2] — Да бога, які ўвясельвае маладосць маю *(лац.)*.

[3] — Спавядаюся богу ўсемагутнаму, найсвяцейшай Марыі — заўсёды дзявіцы *(польск.)*.

[4] Пане, злітуўся *(лац.)*.

вы, адказвала, адмаўляла ксяндзу, што адказвалі, адмаўлялі іншыя, кленчыла разам з усімі і ўставала. А праз вокны, пераліваючыся прыгожым слупком тэнчы, калі яна п'е з калодзежа ваду, да Алесіных ног на шарыя абслізганыя каменні падлогі падала ласкавае цёплае сонца.

Ачуціў Алесю дробны і дружны звон сярэбраных званочкаў. Званілі, прыкленчыўшы на алтары, увабраныя ў караткаватыя белыя, як міністрант, комжы, гладзенька і прыгожа прычасаныя, дагледжаныя местачковыя дзеці.

Ксёндз трымаў у руках гостыю і хрысціў яе.

Ад гэтых невядомых слоў ксяндза, ад сярэбраных званочкаў, якімі пазвоньвалі дагледжаныя местачковыя хлопчыкі, ад аргана, ад яго густых, працяжных гукаў, што шырыліся, біліся недзе пад высокаю размалёванаю столлю касцёла, ад спеваў хору ў Алесі замерла, зашчымела ўсё ў душы. І яна, ловячы слова праз слова, не ведаючы ўсёй песні, пачынала ціхенька спяваць разам з усімі, і жалосны, затоена-глыбокі смутак сціскаў за сэрца, і вільготным туманам засціламіся вочы. Белаю, лёгенькаю, як бабіна лета, павучынкаю бэрсаліся мыслі і гэтак лёгка плылі ў чыстай цёплай яснасці.

І яна, здаецца, сама ляцела, плыла лёгкаю белаю павучынаю ў празрыстай вышы ўслед за песняю пра дзеву Марыю, і ўсё ўсярэдзіне заходзілася ад салодкага болю.

Круга касцёла ішла працэсія. Лёгкі ветрык калыхаў харугві, і білі званы, мілагучна і высока падымаючыся ў неба. У трапятлівым лісці кляноў устрывожана крычалі гракі. І плыла гэтая шчымлівая песня пра дзеву Марыю.

Паперадзе міністранта, што нёс жалезы крыж, паперадзе ксяндза, пад ногі якому з плеценых маленькіх карзінак дзяўчаткі ў белых лёгенька-празрыстых, з рушамі і карункамі сукенках, з пышнымі бантамі ў кучаравенькіх валасах, у белых да калена панчошках, прыгожыя, як анёлкі, сыпалі кветачкі — палявыя званочкі, сінія валошкі, жоўценька-белы румянак.

Выбіўшыся з цеснаты, з гурту людзей, што паволі, спаважна ішлі, заміраючы ад працяжна-медзянога чыстага звону, што калыхаўся і высока плыў у неба, яна высунулася крышку наперад, каб бачыць гэтых прыбраных дзяўчатак, і ўсё прыглядалася да адпае з іх — чарнявенькае, з круглявым тварком, з быстрымі вочкамі, і пачала думаць, каб у яе радзілася гэткае харошае, з твару мілае, прыгожае дзяўча.

Але быдта спатыкнулася, успомніўшы моглiцы, той за-

рослы ліловым чаборам канец магілкі з сакаўнымі растапыранымі, пасаджанымі крыжыкам, скочкамі. І зноў нечаканы страх лядовым скразняком абліў яе: «Як жа ж будзе ў яе з гэтым дзецем, што жыве, трапечацца пад сэрцам? Божа, каб яно хоць радзілася жывое ды здаровае».

Бо што ў яе асталося? Што?.. Адно спадзяванне на дзіця, тая нядужая радасць, што ёсць дзеля каго жыць.

Імполь? Усё чыстае, святое перагарэла да яго пасля хрэсьбінаў у Ведравічах, калі яна ўбачыла яго з Хрысцяю. І цяпер яна мае падазрэнне, што ён любіць яе, бо ён неяк змяніўся і пачужэў.

Чужымі, далёкімі ды падазронымі адно да аднаго яны так і жыцьмуць. Толькі ці доўга? Алесіна чуе душа, што пабяжыць ён за Хрысцяю, бо ўсё маўчыць, нібы намышляе нешта патайное.

Алеся высунулася з доўгай, гэтай бясконцай грамады людзей, што цягнулася ўздоўж касцёла пад старымі высокімі клянамі, дзе хрыплі ад страху ў чорных вялікіх гнёздах маладыя гракі. А над працэсіяй, над касцёлам, над цёмна-густымі клянамі плыў і раставаў, нік у небе раскалыханы звон. Немаладыя мужчыны ў палатняных і крамных, па-святочнаму чыстых кашулях, у суконных рудых і чорных каптанах, скінуўшы з непрычасаных чупрынаў, белых незагарэлых лысінаў пляскатыя кепкі і трымаючы іх у руцэ, паволі, угнуўшы галаў, ступалі за кабетамі ў доўгіх зялёных і бурачковых, з чорнымі шлякамі, спадніцах, старамодных шарачковых сачыках, ішлі дзяўчаты ў лёгкіх сукенках, трымаючы ў руках букеты пышных чырвоных і белых півоняў, ішлі спрытныя, гонкія ў паставе дзяўчаты, на загарэлых тварах хавалі свой дураслівы смех. Маладое дзяўчо ў вялікіх, не па назе, туфлях, з патрэсканым ад вады і ветру ценькімі ножкамі нясло, наламаўшы недзе пры рэчцы ў алешніку, крэмавы букецік каліны. За ёю сунулася, ледзьве ступаючы, нямоглая, звялая ад задухі і гарачыні старая Літаварыха, і яе пад руку трымаў стары Літавар — гэтакі гарбаносы, вялікі, нясклaдны, як Бронік, чамусьці няголены, з сіваю на паўпаданых шчоках шчаціною.

Убачыўшы Алесю, старая Літаварыха памкнулася да яе, махнула рукою:

— Ідзем, Аляксандрачка, ідзем!.. Я во нямогучы. Мо астатні раз да споведзі іду.

— Памалілася б і дома, але ж зажадалася да касцёла,— у старога Літавара старчма стаялі сівыя, прычасаныя толь-

кі, мусі, растапыранаю пяцярнёю, скалмачаныя, збітыя ў лямец валасы.

Працэсія ўсё плыла і плыла. Спаважна, у прыхаваным гонары ішлі пані ў капялюшыках з жураўлінымі пернамі, старыя тэрціяркі ў чорных, падпяразаных паскамі доўгіх сукнях, местачковыя панкі, і Алеся раптам убачыла маладога Грабянку ў шарым, з цемнаватаю палоскаю касцюме, пры гальштуку ў белыя бубачкі, яшчэ больш распаўнелага і каля яго ў лёгенькім капялюшыку, з-пад якога выбіваліся завітыя кудзеркі валасоў, яго жонку. Нешта сталае, папаўнелае было і ў ёй, некалі тоненькай, як былінка, маладзіцы.

Алеся, не ведаючы, дзе дзецца, адступілася далей пад мур касцёла.

Пад грудзьмі турзалася дзіця. Яе блажыла, і яна, затуліўшыся за тоўсты камель старога клёна, пастаяла там, счакаўшы, покуль акрыяе ад гэтага раптоўнага прыступу, што падкаціўся пад грудзі.

Пад клёнам стыў халадок, падвявала адпекуль скразняком, Алесі зрабілася трохі лепш.

Але яна стаяла тут, чакаючы, покуль не ўцісненца ў касцёл, абышоўшы яго, шырокая і павольная грумада людзей.

Сціхалі званы, і дзесьці далёка раставаў і густы, што плыў, пераліваўся і трымцеў, цягучы звон.

З касцёла, прыглушаны мураванымі сценамі, зноў зайграў арган. Ад яго гукаў, здаецца, зварухнулася, пачало калыхацца лісце на старым срабрыстым топалі, што рос на другі бок вуліцы.

Адтуль з высокага ходніка да касцельнае брамы мужчына ў белым каўпаку і ў белым нагрудніку каціў двухколу, на якой стаяла дубовая дзежачка з марожаным.

Апярэджваючы адзін аднаго, да двухколкі пачалі падбягаць людзі.

Алеся, учуўшы смагу, памаленьку падышла да расчыненай жалезнай брамы і аслупянела: сюды пхнула перад сабою сінюю, на нізенькіх колах, каляску Хрысця. Алеся, сумеўшыся і яшчэ ўсё не верачы, што гэта яна, Хрысця, адступілася назад. Хрысціны вочкі зіркнулі таксама сюды, і па пасвяжэлым, смуглявым тварку яе адбілася дзіва — надпухлыя губкі скрывіліся ў нейкай кіслай міне.

Алеся крута павярнулася, пайшла назад, чуючы на сабе гэты пільны зірк Хрысціных вачэй. Яны, здаецца, прабівалі спіну, упіваліся ў сэрца.

Выкладзены цэментовымі плітамі ходнік загайдаўся пад нагамі. Алеся прыцішыла хаду, каб не ўпасці. «Здурэла саўсім. Чаго я баюся яе?» І перад каменнымі, гладка абчасанымі ўсходамі, між якіх паказалася ценькая трава, азірнулася: скрывіўшы набок галаў, сваімі лупаценькімі вочкамі сюды цікавала Хрысця.

Алеся, яшчэ чуючы на сабе гэты востры зірк, цяжка, як пад якую гору, паднялася па каменных усходах і, увайшоўшы ў настылы, перамешаны з ялаўцовым пахам, холад касцёла, апусцілася на калені ў канцы чаргі да жоўценькай, з крыжыкам наверсе і рашотачным аконцам, спавядальні.

Прыкленчыўшы ўздоўж сцяны, там ужо чакалі, калі пераапранецца ў чорную сутану і прыйдзе прымаць споведзь ксёндз.

З ружанцам у руках першаю каля спавядальні стаяла старая Літаварыха, за ёю, панура сагнуўшы сівую галаў, укленчыў, выставіўшы крывыя, збітыя абцасы сваіх ботаў, стары Літавар; на яго няголеным, з паўпаданымі шчокамі твары змярцвелі боль і пакута. За ім у чорным капялюшыку, з якога звісала вуалька, закрываючы аж да падмаляванага ружовага роціка твар, чытала малітву з маленькай у скураной вокладцы ксёнжачкі невядомая Алесі дварчанская пані, у белых накрухмаленых хустках, у доўгіх суконных спадніцах ціха сагнуліся вясковыя сухенькія бабы.

Алеся прыкленчыла за шыракаплечым маладым асаднікам у зеленаватым мундзіры і гэткіх зеленкаватых брычэсах і ў высокіх, зашпіленых на раменьчыкі з бліскучымі спражачкамі ботах.

У душы халоднаю крынічкаю, што кіпіць, падымаючы каламутны пясок, выплыў зноў ранішні страх, што яна скажа ксяндзу. Няўжо пра свой грэх, пра тое, што было ў гумне, пра гэты страшны сон, што сніцца ўжо не раз, калі да яе бяжыць, ломячы рукі, і гукае нямая Еўка.

Алеся дастала з кішэнькі сачыка яшчэ маміну раз'ехаsuccessful ную і сшытую наспех нітачкамі кніжку для «набожэнства», знайшла тую малітву перад споведдзю да духа святога, што чытала ўсе гэтыя астатнія дні.

Зашаптала яе зноў, мылячы губамі: «Духу святы Божа, што кожнага чалавека асвячаеш, прышлі да сэрца майго прамень светласці твае...»

І перад вачыма зноў устаў грудок перад рэчкаю, могліцы, той невысокі, у ліловым чаборы канец магілкі, дзе

пахавала нежывую сваю дзяўчынку, гумно, кубак з чэмеравым уварам, які давала Еўцы, яе крык у сне... той страшны крык. І ўчула, як нехта падштурхнуў яе.

Перад канфесіяналам[1] перахрысціўся і ўстаў малады шыракаплечы асаднік у зеленкаватым фрэнчы, зарыпеў бліскучастымі, з высокімі задзікамі хромавымі ботамі, гэты сухі рып пякучымі вуглямі раструшчыўся ў апусцелым касцёле.

Яна падышла да жоўценькай выфарбаванай спавядальні, прыкленчыла, перахрысціўшыся, сказала ў драўляную рашотку аконца, дзе, павярнуўшыся да яе вухам, сядзеў у чорнай ужо сутане ксёндз, сказала тое, што завучыла:

— Я, грэшная, спавядаюся пану богу ўсемагутнаму, у тройцы святой адзінаму, і табе, ойча духоўны, што грашыла шмат: мыслямі, словамі, учынкамі...

Халоднай расою на лобе замакрэўся, выступіў едкі пот, засачыўся з броваў на вочы, заслаў, нібы туманам, свет — яе пачало блажыць, вострым болем пераварочваючы ўсё ўсярэдзіне.

Не чула, што там за рашоткаю пытаў ксёндз, мусі, усё тое звыклае — ці малілася, ці берагласся посту,— думала толькі пра адно: хаця б не ўпасці тут, перад спавядальняю, каб не было брыдка перад усімі, каб не памерці, бо нешта падкацілася пад сэрца, сціснула яго, тупым болем аддалося ў галаве, быдта аглушыла.

Схапіўшыся абедзвюма рукамі за спавядальню, здужала яшчэ сказаць:

— Маю вялікую віну, але, пэўна, ужо смерцю адкуплюся...

І ўжо не ўчула, што гаварыў ксёндз, здаецца, што ўсялякую кару трэба адпакутаваць тут, на зямлі, што ўсё трэба зносіць цярпліва і пакорна, і не бачыла, ці даваў знак, што споведзь скончана, што можна адысціся ад спавядальні ці не.

Яна толькі помніць, што аб'ехала каля спавядальні і ўжо на руках і колінках адпаўзлася да сцяны, і ўжо там, чуючы холад пад гарачымі рукамі ад няроўных каменных пліт, папаўзла ўздоўж сцяны. Падхапіўшы пад пахі, нехта памог ёй устаць, падняцца на мяккія, як чужыя, нерухомыя ногі.

Алеся пазнала тую сухую, з жоўклым выпетраным тварком тэрціярку.

---

[1] Спавядальняй *(лац.)*.

Яна нават давяла Алесю да шарай, выдзеўбленай з каменю вазы з вадою, што стаяла перад драўляным, з аблушчанаю фарбаю, на выпетраных ножках, раскрыжаваным Хрыстом, і плюхнула Алесі на твар.

Ад халоднае вады ажыў, паяснеў перад Алесінымі вачмі свет. За касцельную браму выйшла ўжо сама. Там яшчэ, не разыходзячыся, кіпела людпасць.

Каля муру, каля драўляных нярылаў людзі з дальшых вёсак запрагалі замардаваных, зацятых гізамі коней, адмаліўшыся, ачысціўшыся душою, трэба было спяшацца дадому, дзе зноў чакала работа, а таго-сяго і госці: перад сёмухай той-сёй падладзіў пчол і ззываў сваякоў і прыяцеляў на першы вясновы мёд.

Каля белых вялікіх парасонаў, дзе прадавалі ў вафельных кубачках салодкае, што ахалоджвала душу і шчымлівым болем заходзіла ў зубы, марожанае, каля латкоў, дзе віселі вянкі абаранкаў, красаваліся расфарбаваныя ў розны колер, выпечаныя пад пляскатых лялек і конікаў, хрумсткія салодкія пернікі, таўкліся маладзіцы, каб купіць дзецям гасціпец.

Абыходзячы грумадкі вясёлых дзяўчат і хлопцаў, старэнькіх гаваркіх баб, што ціснуліся ў халадок пад высокія кляны і ліпы, Алеся ўчула нейчы голас:

— Алеся, ці чуеш? Алеся...

Яна азірнулася. Як курыца ў седала, утаптаўшыся ў воз, яе клікала Літаварыха: стары, абышоўшы запрэжанага каня, ужо аглядаў, ці добра сядзіць вупраж, збіраўся ехаць дадому.

— Садзіся во, падвязом,— Літаварыха паказала на копку ўкошанай з учарашняга вечара канюшыны, што выглядвала з-пад засланае радзюжкі.

«Не трэба ехаць з імі, як ужо магчыму, але зайду сама»,— Алеся прыпынілася і ўжо сказала другое, што набегла на розум:

— Я ж у краму, у мястэчка хачу зайсці.

— Не сцеражэш ты сябе,— пакруціла галавою Літаварыха.— Блізкі свет па гэдакай жары. Садзіся вот лепш, пашкадуй сябе дый дзіця вунь...

Літаварыха павяла вачмі па выпуклы Алесін жывот.

— Маладая, чаго там. Можа, з канём за ёю не збяжышся,— стары Літавар збоку зіркнуў на Алесю, заблытаўшыся нагамі ў лейцах, падняў іх з зямлі.

— Не-не, у краму яшчэ зайду,— Алеся счакала тут,

пад мурам, у разарваным цяньку, покуль не ад'едзецца Літавар.

Але ён усеўся на воз і прытрымаў напятымі лейцамі каня і павярнуўся да Алесі:

— Ці ўдома ваш Змітрык?

— Нават і не ведаю. Дома, пэўня,— пацiснула плячыма Алеся, дзівячыся, што гэта старому трэба.

— Хачу, каб Броніку пісьмо адпісаў.

— Ага, надоечы палучылі,— пацвердзіла Літаварыха.

— Прачытаць-то яшчэ прачытаю, але напісаць рукі не служаць, ды сляпак стаў,— Літавар турзануў лейцы, трымаючы каня, якога цялі, падганялі авадні і мухі.

— Я скажу Міцю, скажу,— Алеся рушыла далей міма вазоў, што ўжо разварочваліся, каб ехаць дадому.

Але наперадзе на шырокім пляцы заторыліся фурманкі, там нешта рабілася, бо шчыльным кругам збіліся бабы.

Алеся прашылася праз іх, убачыла, што каля хлопцаў у чырвоных кашулях круціліся паліцыянты, ішла нейкая валтузня. Крычаў абліты на спіне чарнілам рослы чарнявы хлопец.

— А што гэта? — спытала, не разабраўшыся, Алеся.

— Ці не бачыш, любка? Гэтых во ловяць, што камуню ўсё строяць.

— Якую камуню?

— Чырвоныя рубашкі вунь панадзявалі. Ці не бачыш?

Алеся абышла грумаду людзей, раптам падумала, ці няма там часам Змітрыка, каб не падсунуўся ён, і вярнулася назад. Двое паліцыянтаў вялі маладога, рослага, без шапкі хлопца, заламаўшы яму за спіну рукі. Трохі воддаль памаленьку ціснуліся цікаўныя бабы, чакаючы, што будзе далей.

Хлопец ірваўся, асядаючы наніз і растапырыўшы ногі, упіраўся імі ў пясок.

Засопшыся, назеляпеўшы ад злосці, паліцыянты падпіхалі яго каленьмі.

Алесі зрабілася не па сабе. Яна скоранька рушыла далей за фурманкамі, што крута завярнулі ўбок, каб быць далей ад бяды.

Азірнуўшыся, ці не відаць дзе Літавараў, выйшла на шашу і каля мосціка з выбеленымі жалезнымі парэнчамі зняла з намазоленых, нязвыклых да абутку ног свае замшавыя з лакіраванымі наскамі і заднікамі туфлі.

Босая ўжо, чуючы калючую жарству, па вытаптанай сцежцы, што вілася з краю шашы, прайшла ў разарваным

цяньку старых, абкарэлых, гузаватых бярэзін, падпялася на грудок, завярнула на цёплую пясчаную дарогу, каб цярэспаля ўжо наўпрасты выйсці дадому.

Галубенькае, у белых кучаравых, як амяла, хмарках неба, палявая дарога каля густога сівавата-зялёнага жыта, дзе выплываў ліловы колас, нізкая ярына, зялёныя грушы на межах і цёплая ціш дарогі і адзінота сярод яснага абветранага свету — пакутлівай, шчымлівай радасцю ўсё задрыжала ў Алесінай душы. І зноў густая, высокая музыка аргана загрымела ў Алесіных вушах, то абуджаючы абветраны свет з сінімі задуманымі лясамі на грудах, то аціхаючы, і толькі было чуваць, як плачуць, узлятаючы над ружаватым ад смолкі лужком, неспакойныя кнігі, то выплывала зноў, і зноў на хорах спяваў арганісты, і яму памагала ўся люднасць касцёла: «Здровась Марыя, бога родзіца...»

Алеся схамянулася, што спявае сама. Яна нават азірнулася, ці не ідзе хто ззаду і ці не чуе, але на грудку млела ад гарачыні жоўтая пясчаная дарога, і на яе, махаючы бярозавымі, начэпленымі на рогі, вянкамі, выходзілі каровы.

Пастухі сёння ўквечвалі іх, каб мець ад гаспадара ці гаспадыні які гасцінец — кусок сала, ці вынесены ў фартуху дзесятак яек, або нават злот.

Сёння, не маючы чаго рабіць, пойдуць спяваць пад вокнамі і верасаўскія бабы:

Сам пан бог па межах ходзіць,
Буйнае жыта родзіць:
З каласочка ды жыта бочка,
З каласінкі ды паўасьмінкі.

І Алеся нават убачыла, як будзе стаяць за шыбаю зяркатая бязбровая Вольга, што зноў панесла па вёсцы злыя чуткі пра Імполя і Хрысцю, што злюбіліся яны.

Няўжо гэтая пляткарка кажа праўду? Няўжо?

Алеся стаяла сярод дарогі — за хмурым задуманым лесам, за грудком, на які паўзла, вілася вужом пясчаная дарога, хавалася Верасава. Адтуль з-за лесу па сіняе неба напльвалі адна па адну грудаватыя хмаркі.

Няўжо цесна ўсім на свеце, нават гэтым белым хмаркам?

Алеся адарвала ад зямлі ногі, пайшла па цёплай закурэлай траве, спярэшчанай і парэзанай парогам плужка, якім абганялі картоплі.

За спіною ў яе, адбіваючыся ад злых авадпёў, пасталі бярозавымі вянкамі раз'юшаныя галодныя каровы.

Збочыўшы з дарогі, каб счакаць, покуль пройдзе гэтая задыханая чарада разамрэлых ад гарачыні кароў, Алеся ўчула, як пад сэрцам зноў тройчы турзанулася дзіця.

«Што ўжо ні ўчыніцца, што ўжо ні будзе, буду жыць з ім. Каб толькі радзілася жыва ды здарова. Божа літасцівы, змілуйся, дай мне хоць гэта».

Трымаючы ў рудэ сіні клуначак — старую паркалёвую хустку, у якую былі ўвязаны туфлі, ружанец, маміна ксёнжачка для набажэнства,— Алеся стаяла збоку дарогі, і на яе плыў, абсыпаючы, горкі пыл, што паднялі збітыя ў грамаду, сапрэлыя ад гарачыні авечкі.

— Божа, злітуйся.

Яна толькі помніла, як шары горкі пыл змяшаўся з цемнатою і яна абсунулася ў гэтую мяккую, глыбокую чарнату...

Яе ачуцілі і прывялі ледзьве не пад вёску пастухі: балазе яна ўпала якраз тады, калі яны падышлі і параўняліся з ёю.

## VIII

Пуставаты і гулкі вагон з ломкім жалезным скрыпам закалыхаўся на стрэлках. За адкрытым да палавіны акном паплылі назад закураныя да чарнаты чарапічныя дахі станцыйных будынкаў, адзінокія вагоны ў тупіках, дашчаныя будкі і прыбудоўкі, схаваныя ў засень марных садкоў белыя атынкаваныя хаткі з маленькімі закурэлымі шыбамі.

Чэся падышла да адчыненага акна — поезд, выгнуўшыся, як зялёны вусень на пякучым агні, поўз па высокім насыпе закруглення.

Набіраючы скорасць, з натугі чмыхаў густым дымам чорны паравоз, што быў відаць з Чэсінага акна. Белыя клубкі каціліся ў глыбокі яр, раставалі над зялёным вянком алешніку, дзе разарванымі петлямі выбліслівала вузкая рэчачка.

На далёкіх гарбатых грудах пералівалася хвалямі, лісцілася пад сонцам, выпусціўшы сівавата-ліловы колас, высокае жыта, паблісквалі кавалачак шкельца ў нейчым яшчэ нядужым жаўтлява-зялёным познім ячмені, і нехта ўжо абганяў свае картоплі; Чэсі зрабілася смешна, калі яна ўбачыла, як на каштанавым кані, высока задраўшы спадніцу і свецячы голаю сытаю нагою, сядзела кабета, а

ззаду за плужком ішоў, хаваючы пад брыльком пляскатае кепкі свае сарамяжлівыя вочы, сам гаспадар, і збоку па разоры бегла, задзіраючы спрытна голаў і пудзячыся поезда, цыбатае, з кароткай грыўкай і кучаравым хвастом жаўтлява-палавое жарабя.

Чэсю разабраў смех, і яна азірнулася ў пуставаты вагон, ці не згледзеў гэтай вясковай ідыліі яшчэ хто, і ўбачыла, як кінуліся да вокнаў некалькі гарцэжаў у кароткіх, да калена, штоніках і ганарыстых, з зялёнымі лампасамі, рагатыўках.

— А во-о, баба на кані! — крыкнуў адзін з іх, што ўсё вісеў каля акна.

— Ага,— закрычалі і засмяяліся яны ўсе.

На голас падняў свой кручкаваты нос мужчына, што сядзеў напроці Чэсі і ўсё абціраў хустачкай сваю спацелую лысіну і абмахваўся жоўтым саламяным капелюшом, ды на другой лаўцы расплюшчыла вочы стомленая, ледзьве жывая — мусі, яе блажыла,— бляявенькая, з рудымі плямамі на твары, цяжарная маладзіца. Толькі, прытуліўшыся адно да аднаго, не зварухнуліся худзенькі чарнявы хлопец з русяваю насатаю дзяўчынаю з доўгімі, завітымі ў кольцы, прыгожымі валасамі.

Глыбокая жалезная пустата прагрукала пад падлогаю вагона — поезд мінуў кароткі масток над рэчкаю.

Уздоўж чыгункі пабег высокі, абкошаны адкос з жоўтымі чачоткамі піжмы каля густых елачак у маладых жаўтлявых кутасіках. Яны схавалі ад Чэсіных вачэй і поле, і кабету, што кіравала каштанавым канём, і цыбатае, з кучаравым распушчаным хвастом жарабя. Далей свет засланіў стары, чэзлы, з сухаверхімі хвойкамі лясок на пясчаным грудку.

Саладжавы ад паравознага дыму вецер віхрыў у вагон, тугім скразняком абмываў Чэсіны локці, жывым холадам лашчыў шыю, казытліва трапятаў на патыліцы, калмаціў валасы.

Белы дым перакочваўся цераз высокія, у падсохлай траве адкосы, блытаўся ў маладым стракатым бярэзніку, бэрсаючыся сінімі пасмамі, далёка раставаў, нік з вачэй.

Чэся глядзела, як, то падымаючыся, то спадаючы ўніз, густою пасмаю беглі, цягнуліся тэлефонныя правады, нацягнутыя на шкляныя сіняватыя кубкі, укручаныя ў перакладзіны.

Зялёныя чубкі лесу, далёкія хутары плылі насустрач поезду. За алешнікам, за жаўтлявымі купамі лазняку, ужо

там-сям стаялі копы сена, на калючай пакошы застыў спа-важны белабокі бусел і, падняўшы чырвоны дзюб, сталым разумным вокам глядзеў, як міма яго, абвіваючыся клуб-камі дыму, ляцеў гэты раскалыханы поезд.

Пад чырвонаю падлогаю вагона, выбіваючы рытмічны такт, цяжкім жалезам пагруквалі колы. Вагон пахіствала, і па лаўках пахіствaліся косыя слупкі сонца.

У расчыненае акно заносіла пах вугальнага саладжа-вага дыму, перамешанага з пахам прывялай скошанай травы, падпаранай зямлі, прэснай зялёнай свежасці, сухо-га шэлесту бярэзін, што хавалі ад чыгункі нізкія хаткі.

Мільгалі ціхія палявыя дарогі, хутары ў разрослых садках, з высокімі стрэхамі гумнаў, і вяяла ад іх адзіно-тою, і адзінока цямнелі дзікія разложыстыя грушы на межах. Поезд спыняўся каля глухіх паўстанкаў з драўля-нымі хаткамі. У Чэсінай душы гэты свет хутароў пры ляс-ку, грудкі ў задумнасці лесу — усё было нешта таемнае, неспазнанае.

Трымаючыся рукамі за ўціснутае да палавіны акно, Чэся жмурылася ад гэтай вялікай яснасці свету, ад пару-шынак перапаленага вугалю, што вецер заносіў у акно. Ёй было хораша ад тугога скразняку, ад гэтай бяздумнасці, ад гэтай перамены пералескаў, хмызнякоў, зялёных балотцаў глыбока ў лагчыне, калі па высокім адкосе за мосцікам ляцеў поезд, ад поля ў сівавата-ліловых палетках жыта, зялёна-цёмнага лубіну, ад ціхнасці і адзіноты палявых дарог, фурманак, што стаялі каля пераездаў.

Была нейкая таемнасць гэтага, ёй трошкі неспазнанага свету, хоць яна жыла ў Дварчанах, але там быў іншы свет мястэчковага жыцця, грукату чыгункі, паху пасмоленых шпал, мазуту, вугальнага чаднага дыму і яшчэ нечага, чым пах бацька — дварчанскі стрэлачнік, заўсёды абвешаны бляшанымі ліхтарамі, калі варочаўся з работы дадому.

Дварчанскае жыццё для Чэсі запомнілася ціхаю хат-каю, кветнікам, дзе палалі ясным жарам флёксы, халодна-густым, трохі дурманным пахам язміну ад таго кусціка, што рос каля плота, і пахам чырвоных зраджайных рай-скіх яблычкаў, з маладой яблынькі, што закрывала зеле-наватым поцемкам акно.

І школай з цынкавым дахам, з дзвюма прыбудоўкамі, з чорна-жоўтымі лаўкамі, з белымі кафельнымі печкамі, з зялёнай дошкай, якую іншы раз падмазваў салам Пясэц-кі, з шырокім, на ўсю сцяну акном, а за ім — цурпатыя камлі выносных соснаў, пясчаны двор, вастраверхі, з драў-

ляным шпілем, ашалёваны дошкамі калодзесь, з якога яна, пагуляўшыся ў снежкі, разагрэтая, напілася вады і застудзілася і праляжала тыдні два са шкарлятынаю, і тады да іх у хату прыходзіў Змітрык, прыносіў ёй школьнае заданне, усё топчучыся каля парога і баючыся зайсці далей, і мама мусіла яго ледзьве не сілком распранаць і частаваць гарбатай з вішнёвым варэннем.

Яны ўсе тады, школьныя дзяўчаты, былі трохі закаханыя ў сарамяжлівага Змітрыка, што кватараваў каля возера ў белай атынкованай хатцы краўца Моўшы.

Падабаўся ён і ёй, Чэсі,— і не толькі сваім прыгожым чарнявым тварком, ростам, нейкай стройнаю паставаю і тым, што ён добра вучыўся, а нечым іншым, чаго Чэся не магла нават сабе вызначыць,— ці мо той неместачковай прывабнасцю, акуратнасцю, ці мо лішняй сур'ёзнасцю.

Але і яна чула на сабе затоены кароткі і востры, як маланка, зірк яго вачэй, і калі азіралася, то праўда ён глядзеў на яе і, раптам схамянуўшыся, нібы злоўлены ў чым благім, бянтэжыўся, чырванеў і ўгінаў сваю цёмна-кучаравую галаў. Рабілася трохі смешна, што ён пабойваецца яе зірку, і яна была давольная гэтым, і мо дзеля гонару перад дзяўчатамі, ці мо дзеля забаўкі пачала з ім загаворваць і няўцям, няўзнак для сябе здружылася з ім, і яны ўжо разам варочаліся са школы дадому. Над імі тады строіў розныя кепікі Тадэк Пясэцкі: то, забегшы наперад, хаваўся ў кусце язміну, а потым выскокваў адтуль і дзіка рагатаў, то на перапынку ў Чэсіну сумку падкладваў Змітрыкавы кніжкі. І яна, аднойчы раззлаваўшыся і не заўважыўшы, што ў клас зайшоў са сваім вялікім драўляным цыркулем выкладчык геаметрыі пан Шкудлярык, секанула Пясэцкаму цяжкім кантовым пеналам па руках. Пясэцкі падскочыў і што моцы заенчыў ад болю, збянтэжаны Шкудлярык паціснуў плячыма:

— Ну, я мушу выйсці з класа — вы, пэўна, не гатовы аблічыць поле трапецыі.

Праз хвіліну вярнуўшыся ў клас, выклікаў яе да дошкі і за тую 413-ю задачку паставіў ёй «два». У Чэсінай душы запяклася помслівая крыўда на гэтага худога, з чырвонымі пабрынялымі вачмі за сухаватым шклом акуляраў, мо хвoрага на сухоты Шкудлярыка.

Гэтае здарэнне ўспаміналася Чэсі не раз. Ужо нават у Баранавічах, куды перавялі бацьку, на гэтай вялікай грукатлівай станцыі, дзе яны ўжо жылі ў доўгім цагляным доме, займаючы вузенькую, на два пакойчыкі, кватэру, і

дзе беспярастанку быў чуваць аднастайна-цяжкі грукат паяздоў, ад якіх дрыжала, угіналася зямля, звінелі шыбы ў вокнах, падлога, сцены і, здаецца, усё ўсярэдзіне і ад якога без звычкі можна было звар'яцець.

Чэся паволі прывыкала да грукату паяздоў, чорнага пылу, што сыпаўся з дыму, сажаю засыпаючы белы падаконнік, да новага гарадскога жыцця, суседзяў, асабліва сварлівай пані Казі, што заўсёды крычала на свайго маўклівага, з хітрай ухмылкай пана Зыгмунта, да валтузні і плачу дзяцей у суседняй кватэры, дзе жыла адзінокая дробненькая, прыгожая з твару Стэфа, што рабіла тэхнічкай на вакзале і часта пры бэзе на лавачцы сядзела з новым мужчынам, праз кожны год зацяжарваючы.

Дзеці, адно пад адным, гэткія дробненькія, як і яна сама, харошыя з твару і, здаецца, усе падобныя на аднаго бацьку хлопчыкі — бегалі ў спульны на ўвесь дом дашчаны, з двума камінкамі туалет, у жаночую ці мужчынскую палавіну, зашчэпваліся там, і з самага ранку пачынаўся ўжо крык:

— Нідзе ад вас ратунку няма! Каб вас ужо гнала ляксa! — ад тоўстага, трохі мужчынскага голасу пані Казі траслася ўся вуліца.

Мама, успамінаючы Дварчаны, папікала бацьку, што ім усё жыццё патыкалі, адсылаючы куды ім захочацца, і што ён не можа за сябе заступіцца, бо хіба можна жыць у гэтакім доме.

Але гэта было яшчэ паўбяды, наглая бяда прыйшла нечакана: тату збіў цяжкім буферам вагон. Балазе тата ўпаў між рэек, але трапіў галавою на жалезную падкладку на шпалах. Яго, ужо непрытомнага, з паломанымі рэбрамі і разбітаю галавою, забралі ў чыгуначны шпіталь.

Ні ў каго не было спадзявання, што ён выжыве. Ледзь не адышоўшы ад памяці, захварэла, змогшыся ад гора, і мама — зжоўклая, раптоўна пасівелая, злягла таксама.

Чэся тады адна, ледзьве не праз дзень, адведвала тату, бегаючы ў другі канец горада, у цагляны жоўты домік, што зарос маладымі канадскімі клёнікамі і стракатымі ад цвету кустамі язміну.

У вузенькай душнай палаце ляжалі яны двое: да беспрытомнасці збіты і парэзаны нейкай svалатою і знойдзены назаўтра за прыбіральняю ў скверыку каля вакзала малады хлопец і яе бацька, таксама без памяці, увесь у бінтах і ў гіпсе. Ён нікога не пазнаваў, нат яе, Чэсю, і ўсё падхопліваўся на ложку і крычаў:

— Wszystkie pociągi zatrzymać! Tor zamknięty. Drużyna pociągowa nie zauważyła sygnału «Стой!» [1].

Узяўшы пад рукі, Чэсю з палаты першы раз вывелі медсёстры, каб, мусіць, прывязаць да ложка бацьку — ён з гарачкі мог забіцца,— і яна, як сама не свая, не бачачы ўжо за слязьмі свету, пайшла па калідоры, заблудзіўшыся і не знайшоўшы назад дзвярэй, покуль за локаць яе не ўзяў высокі, як ёй здалося тады, немалады, з чорнымі густымі, але пасярэбранымі валасамі і чорнаю падфарбаванаю бародкаю пан Ежы — хірург з таго чыгуначнага шпіталя.

— Ваш тата будзе жыць. Не ўбівайцеся,— ён нават, здаецца, пагладзіў Чэсю па галаве.

Ці мо ёй здалося. Гэта было яе першае ў гэтым навальным, нечаканым горы знаёмства з панам Ежы.

Але, праўда, бацька месяцаў праз чатыры акрыяў, пачаў хадзіць. Ежы нават памог выпатрабаваць яму добрай «эмэрытуры» [2].

Гэта было пасля. А тады пан Ежы неяк спадцішка, незаўважна пачаў падпільноўваць Чэсю ў калідоры, клікаць, калі там нікога не было, яе ў ардынатарскую. Яна нават цяпер не можа ўцяміць, як аднаго разу ён падвёў яе аж да самага дома.

Потым, калі яна ўжо вучылася ў школе медсясцёр пры шпіталі, пан Ежы памог і тут, і яе ўзялі ледзьве не на цэлы месяц пазней за ўсіх дзяўчат,— ён запрасіў яе на вечарыну.

Яна, саромеючыся і ўжо баючыся адмовіць пану Ежы, пайшла туды.

Чэся і цяпер прыгадвае той вечар, спярша з гульнёю ў фанты, а потым, калі прынеслі віно і ўсе яны, дактары і медсёстры, павесялелі, калі на сіненькі патэфон паставілі пласцінку з песняй, якую яна любіла і сама: «Całować umiem tak, jak Tangolita...»,[3] ёй зрабілася хораша і весела, і яна ўжо забылася, што маладзейшая тут за ўсіх, што пан Ежы не такі ўжо і стары, і свет для яе памякчэў, зацягнуўся нібы лёгкім туманам, і на апошні танец, калі пані запрашалі паноў, яна падышла да пана Ежы.

Ёй было добра і весела з ім.

А потым былі «выцечкі» на нядзельны дзень пад Пры-

---

[1] — Усе паязды затрымаць! Пуць закрыты. Служба пуцявая не заўважыла сігналу «Стой!» *(польск.)*.

[2] Пенсіі *(польск.)*.

[3] «Цалаваць умею так, як Тангаліта...» *(польск.)*.

пяць у глухую асаду, куды яны выпраўляліся тою ж самаю кампаніяй.

Чэся помніць тое маладое лета, грукат поезда, падгарэлую на адкосах ад іскры, што ўпала з паравоза, чорнымі плямамі сухую траву. А потым сцежачка праз цёплы, нагрэты пясок, далёкае куванне зязюлькі.

У Чэсі кружылася галава ад усяго, што было кругом яе — ад старых алешын над рэчкаю, ружаватага ад шчаўя балотца, халодных пырскаў цёплай вады, горкага паху лодзьмы каля карчыстага берага, ад той, накрытай драніцаю, хаткі асадніка Ляшчынскага — маладжавага, але з вялікай лысінаю,— куды яны прыйшлі нанач. Пасля вячэры, дзе яна выпіла колькі кілішачкаў жоўтай цытрыноўкі, потым салодкага абрыкатыну, сытая ў спёгнах гаспадыня прывяла яе ў лёгка-халаднаваты ад вечаровай расы і вільгаці пакойчык і паказала, дзе Чэся будзе спаць.

Невядома, што зрабілася з ёю ў той вечар, хоць яна, здаецца, не была п'янаю, бо помніць і той пакойчык з адным ложкам пры адчыненым акне ў цёмна-зялёны садок, грушу, што даставала вострым вяршком да тонкай белаватай поўні, зеленаватае, не астылае пасля гарачыні неба, трапятліва-мяккае і нячутнае пырханне цёмнага кажана над вялікім каўпаком доўгага гумна.

Яна, яшчэ не думаючы спаць, аблакацілася на падаконнік і, ахмялелая ад чуткае, ужо нязвыклае і страхатлівае цішыні, бяздумна глядзела ў гэты затоены перад вечарам садок, дзе стракацеў, мусіць, зялёны конік, і страпянулася ад насцярожанага тупату ног па разорцы каля кветніка і ўзрадавалася, учуўшы трохі захмялелы, але прыцішаны голас пана Ежы.

Божа мілы, што ў той вечар з ёю зрабілася. Яна была радая, калі ён адкінуў фіранку і смешна пералазіў сюды ў пакойчык, і яна, зманваючыся, дзеразуючыся, адпіхала яго, а потым ён лавіў яе ў пакойчыку, і яна ціхенька, каб не трывожыць гаспадароў, вырывалася, покуль не аціхла, не здужаўшы вырвацца з яго моцных валасатых рук, покуль не ўчула казытлівую бародку і гарачыню яго губ у сябе на шыі каля пазалочанага ланцужка, на якім вісеў крыжык, падораны ім, панам Ежы, калі ён ездзіў у Варшаву, як яна даведалася потым, да свае жонкі...

Што было, але не павінна было быць з ім, з панам Ежы, у якога яна мо трохі ўлюбілася, як улюбляюцца дзяўчаты ў старэйшых за сябе хлопцаў ці нават жанатых мужчын,

бо іх цягне гэты невядомы свет неспазнанага, покуль не прыходзяць прыкрасць, затоеная злосць і крыўда, што так лёгка можна абмануцца, і Чэся ўсё гэта перапакутавала, перабедавала адна, раптам учуўшы нешта да брыдкасці нязноснае, гідлівае да пана Ежы, да гэтай яго бародкі, да ўсяго, што было ў той вечар на хутары ў асадніка Ляшчынскага, і шчасліва-трывожны свет, свет радасці, шчымлівага, перамешанага са страхам чакання, нейк балюча перайначыўся, і ўсё кругом здавалася невыносным, скаламучаным, няпраўдаю, нават тыя кнігі, якія яна чытала, заміраючы ад чужога кахання, раптам здаліся падхарошаныя злым падманам, усё апастылела, усё слізкай, як цвіль, і горкай атрутаю асядала на сэрца, і Чэся ўжо жыла нейкім сваім помслівым, туга навітым у клубок злосці жыццём.

Мама ціхенька ўздыхала, бачачы, як схуднела, змянілася Чэся, і, пэўна ж, дагадвалася, але ніколі не распытвала, дзе ж дзеўся той доктар з чорнаю падфарбованаю бародкаю, што так паспрыяў ім, узяў у двухгадовую школу пры шпіталі яе Чэсю і памог дабіцца бацьку добрай эмэрытуры, толькі ўкрадкам з пільнасцю глядзела на Чэсю, і ў яе вачах тлеў смутак, маўчаў і бацька — пасля шпіталя ён не мог ніяк акрыяць: у яго знайшлася новая хвароба — ён ні з таго ні з сяго пачаў ападаць. Здарылася гэта разы са тры, аднойчы пры Чэсі, седзячы за сталом пасля вячэры, калі мама нешта расказвала, ён нібы засмяяўся, адкінуўшыся галавою на крэсла, і захроп.

Яны з мамай азірнуліся і, знямеўшы ад страху, падскочылі да яго, пачалі валтузіць, а потым адліваць вадою. Да памяці ён прыйшоў неяк скора, але доўга не мог распазнаць, дзе і што з ім: вочы яго асалавелі, на лобе дробнай расою выступіў пот.

Пасля гэтага бацька пачаў нібы занываць, ходзячы яшчэ на гамарах — балела перабітая вагонным буферам спіна.

Сёння бацька быў, здаецца, вясёлы, нат прыскакаў, абапіраючыся на драўляныя рыпучыя гамары, да брамкі, прыпёрся да закурэлага пылам слупка, вясёла падміргнуў сіненькім вокам.

— Скажы там Анці, што ў мяне ідзе на папраўку. Во, скора кракавяка танчыць буду,— ён адкінуў гамар, нат прытупнуў адною нагою, але скрывіўся ад болю, зноў абліваючыся потам.

— Я ж бачу,— вымучана ўсміхнулася Чэся.

— Шкада, што не магу завітаць да ўнучка. Як ён там? Можа, ужо ходзіць?

— Ага, як ты. Два месяцы дзіцяці.

— Ну, пацалуй яго за мяне. Можа, Анця прывязе яго сюды?

— Яшчэ рана такое дзіцятка вазіць. Во выздаравееш ды з'ездзіш сам.

— Хіба што,— бацька зноў падміргнуў Чэсі.— Ну ідзі. Шчасліва табе. Толькі ж не баўся там, прыязджай скарэй.

Цяпер у пуставатым вагоне, дзе сядзела мо чалавек пятнаццаць пасажыраў, найбольш гарцэжаў у зеленаватых кашульках ды кароткіх штоніках. Чэся ўспомніла гэтую гутарку [redacted] бацькам, і ў яе адлягло на душы. Поезд, гукнуўшы перад семафорам, спыніў ход.

— Моўчадзь! — крыкнуў кандуктар, высокі даўгавіды мужчына, ідучы праз вагон.

З вясёлым гоманам з лавак пачалі падымацца гарцэжы, хватаючы свае напакаваныя і туга перацягнутыя паскамі плецакі [1].

— Ціха! — пакрыкваў тоненькі, высокі, як быліна, хлопец з сякераю пры боку — іхні «дружыновы».

Зжоўклая з твару — мусіць, яе ўсю дарогу блажыла,— цяжарная маладзіца, што сядзела напроці Чэсі, ухапілася рукою за скобку лаўкі, зняла [redacted] гака на сцяне плеценую карзіну і, асцярожна несучы пад шырокай і доўгаю, пашытаю як халацік, сукенкаю свой ганарыста выпучаны жывот, пахістваючыся, пайшла да дзвярэй.

Там ужо, з брызентавымі ранцамі на спіне, збіліся гарцэжы. Туды пашыбаваў, каб адчыніць дзверы, высокі даўгавіды кандуктар.

Зарыпеўшы тармазамі, поезд турзануўся і памалу пачаў сцішаць сваю хаду.

Паблісківаючы, адбіваючы сонца, разбягаліся рэйкі, мільгалі каля стрэлак ліхтары з белым зафарбаваным шклом.

За адчыненым акном густа зашалясцелі доўгім кучаравым веццем старыя бярэзіны, падплыў нізкі атынкаваны, з чырвоным чарапічным дахам будынак вакзала. За ім — гарбом падымалася зялёная гара, да якой, як губа да камля старога дрэва, прыляпіліся, прыраслі хаткі.

Чэся любіла гэтую станцыю — з нязвыклаю назваю, з

---

[1] Плецакі — рэчмяшкі *(польск.)*.

хаткамі, што ляпіліся каля гары, з драўлянаю шараю царквою ў зялёных купалах.

Праз адзін прыпынак, за гонкім, роўна падсечаным лесам, за магілкамі з высокімі замшэлымі дубовымі крыжамі, за азярцом, што падмывае тоўстыя карэнні ружовых хвоек, забялее высокая вадакачка — пакажуцца Дварчаны: дамкі ў прысаддзі, чорныя насмоленыя дахі станцыйных складаў.

Чэсіна сэрца замерла ад блізенькай стрэчы з сястрою, якую яна любіла, да якое гарнулася душою, як да маці, і з якою заўсёды, седзячы на старой абабітай скураю канапе, укрыўшы пледамі босыя ногі, яны перагаворвалі ўсё, успамінаючы даўні і мільшы, здаецца, час, калі іхняя сям'я жыла пад Вільняю на невялічкай станцыі Мінойты, калі да Анці падходжваў чарнявы, з сінімі, як пралескі, вачмі прыгожы Анджэй — сын начальніка гэтай маленькай станцыі,— у яго па-дзіцячы закахалася і сама Чэся.

Анця, мусіць, і цяпер любіла таго Анджэя, але маўчала, як маўчала пра доктара з пафарбованаю бародкаю Чэся.

Летась яна прызналася сястры, што зацяжарала ад пана Ежы, сястра знайшла тады ў Навагрудку фельчара, аперацыя прайшла няўдала, і Чэся ледзь асталася жывою. Дадому яна вярнулася ззелянела-нездароўчаю. Мама аж жахнулася. Але маўчала, пэўна, дагадваючыся пра ўсё. Парывісты вецер, сыплючы драбнюткім перагарапым вугалем, зноў завіхрыў у акно — поезд рушыў далей, пастукалі колы вагонаў спярша ўрасцяжку — так-так, а потым усё спарней, зліваючыся ў бесперабойны грукат. За акном паплылі назад стракатыя камлі абкарэлых тоўстаю шурпатаю карою бярэзін, закружылася зялёная гара за сухім шапаткім веццем — і Чэся ўздыхнула, глытаючы саладжавы дым ад паравоза і гледзячы на белую, пухкую і сіватую спаднізу хмарку, што вісела над цёплаю, замглёнаю ўдалечыні зямлёю.

Нешта радаснае было ў пухкай да зыркасці яснай хмарцы. Хацелася думаць пра бясконцасць жыцця, пра дабрату свету, хацелася ісці па гэтай зямлі босымі нагамі, чуючы мякенькую траву на дарозе, і спачываць душою, калі цябе абвявае вецер і пахне ружоваю канюшынаю поле, і нідзе ні душы, і толькі каршунок вісіць, самлела памахваючы крыллямі ў сінюткім небе над далёкім лесам, дзе мякенька і глуха куе зязюлька, і далёкай пічымлівай глухатою, адзінотаю адзываецца ў душы гэтае куванне.

Чэсі ўспомніўся Міця, пісьмы да яго, якія напісала, можа, забаўляючыся ў каханне, ужо не верачы, што ёсць яно, што ёсць шчырыя людзі, нешта святое, чыстае на свеце, пісала мо дзеля таго, каб забыцца пра пана доктара з чорнай бародкай, каб перабіць усё гадкае, брыдкае, што было летась на асадніцкім хутары. Успомнілася Міцева, па-дзіцячы наіўнае, да смехаты простае, запрашэнне прыехаць у Дварчаны, каб убачыцца і калі выпадзе час, то, можа, з'ездзіць на возера Світазь.

І яе душу разварушыла гэтая шчырая, нязвыклая, выпакутаваная ад сораму просьба, хлопцаў сорам, што хаваўся за кожным словам, і нават почырк яго быў, як здалося ёй, дрыготкі, да смехаты баязлівы.

Ці, можа, ёй так пачало здавацца, але ёй хацелася стрэцца ■ Міцем. Але нешта падточвала душу, што яна нібы зманваецца з ім, не чуючы перад сабою ні сораму, ні ганьбы, забаўляецца, покуль зноў не наробіць, не накліча бяды. І яна нават убачыла яго, зачырванелага ад сарамлівасці ў тым суконным паўшубку з рудым цялячым каўняром, у суконнай кепачцы з доўгім брылём — нешта сталае, але смешнае было для Чэсі ў гэтым прыгожым вясковым хлопцы.

Успомніўся той пярэсты бычок, якога яны прывезлі на санях.

Чэся азірнулася, вагон быў пусты, толькі сядзеў тоўсты дзядзька, двое новых пасажыраў — мужчына ў белай палатнянай кепцы і дзябёлая загарэлая маладзіца, з твару падобная на саву — шырокія скулы, лупатыя шырокія вочы і невялікі, але загнуты да губы нос — распытвала, ці не скора будуць Дварчаны.

— Во яны, зараз,— прайшоў праз вагон кандуктар.

Чэся глянула ў акно — і праўда, пайшоў, закружыўся горкімі, што хаваліся адна за адну, хвойкамі лес, аднекуль запахла падпаленым ялаўцом, і Чэся ўспомніла, што так заўсёды для яе пахлі Дварчаны: падпаленым сухім ялаўцом і пякарняю — свежым цёплым хлебам.

Не зачыніўшы дзверы, у вагон увайшла маладая, прыгожая сваім смуглявым тварком цыганка. На руках у яе сядзела гадкоў двух смуглява-голае, кучаравае, нібы анёлак, дзіцятка, цісночы ў тоненькіх, як сніткі ручках чырвоную гумавую соску з белым касцяным кружком.

Акінуўшы вагон хітрым быстрым вокам і пасажыраў, цыганка босымі лёгкімі нагамі скіравала да Чэсі, не падбі-

раючы сваіх паркалёвых, што выглядвалі адна з-пад адной, спадніц, прымасцілася на пустую напроці Чэсі лаўку. Пасадзіўшы каля сябе дзіця, выцягнула недзе з распоркі ў гэтых паркалёвых спадніцах калоду чорных, зверху ўжо зашмальцаваных картаў і пачала іх тасаваць.

Узіраючыся на маладзюсенькую, з тоненькай шыяй, на якой віселі тры вяночкі танных шкляных пацерак, цыганку, на кучаравае, з смуглявым, як тлуставатым, тварком дзіця, Чэся нехаця ўсміхнулася, наліваючыся сорамам.

— Красавая, нэ смейся. Праўду скажу.

— Не, не трэба, што ты,— замахала рукамі Чэся.

— Што было, то прайшло, не вернецца.

— Што было? — сумелася Чэся.

— Што ў красавай было? Ён быў — сплыў. На вачах бачу. Дай руку, красавая. Скажу, які малады і красавы жджэ цябе. Ой, жджэ, а мо нэ, красавая? — цыганка чапіла сваёю халоднаю тонкаю рукою, з вузенькім пярсцёнкам, Чэсіну руку.

Чэся, не ведаючы, куды ўжо дзецца, ціснулася ў куток лаўкі да акна.

Балазе ў вагон зайшоў кандуктар, крыкнуў моцна, што поезд прыходзіць у Дварчаны, і, падцінаючы губы ад злосці, прышыбаваў сюды, да іхняй лаўкі.

— Ты ізноў тут!

— Нэ-э крычы,— цыганка паволі ўзяла на рукі сваё смуглявае, у рэдзенькіх доўгіх кудзерках дзіця.— Места я нэ праседзела.

— Білет дзе твой?

— Там у мужыка майго. У тым вагоне — такі красавы, высокі.

— Была ў сабакі хата,— выскаліўся, паказваючы ў кутку расцягнутых губ устаўныя зубы, немалады кандуктар.

Вагон закалывала на стрэлках, турзанула ўбок, заскрыгаталі колы. Засланяючы з другога боку яснасць у вокнах, каля самага вагона праплыў шары доўгі пакгауз.

Чэся ўзяла сваю невялікую лёгкую валізачку і, абапіраючыся другою рукою на лаўкі, пайшла па раскалыханым вагоне да расчыненых дзвярэй. Наперадзе кандуктара ў тамбур ціснулася маладая чарнявая цыганка з дзіцем на руках. Дзіця хватала тонкімі ручкамі за яе залатую, што бліскала паўмесячыкам, завушніцу.

Насустрач поезду выплыла белая вадакачка, каля яе чмыхаў параю чорны, у скалках вады, спацелы паравозік,

пад навіссю разложыстых кляноў хаваліся тры невялікія пасажырскія вагончыкі вузкакалейкі, з-за зялёных дрэў выглядаў чырвоным чарапічным дахам з круглымі ў ім вокнамі дварчанскі вакзал. Нешта блізкае і роднае было для Чэсі ў будынку з чырвоным чарапічным дахам, з яко-га глядзелі два круглыя лупатыя акенцы.

Чэся, стоячы за тоўстым мужчынам у праходзе, зазірала ў акно: па выкладзеным з цэментовых пліт шэрым, напаленым сонцам пероне млела, абмахваючыся хустачкай і азіраючыся на вялікую плеценую карзіну з павешаным замком, высокая пані ў белай палатнянай сукенцы, у старамоднай панамцы, ды нейкая сям'я — кучаравы, без шапкі мужчына з худою жонкаю і дзвюма танюткімі дочкамі-блізняткамі ў кароценькіх плісіраваных спаднічках і галубенькіх да каленяў панчошках — дружна замахала рукамі, убачыўшы некага ў акне ці тамбуры папярэдняга вагона.

Ды, як заўсёды, выйшаўшы з вакзала страчаць поезд, на пероне стаяў у сваёй чырвонай рагатыўцы дзябёлы, на якім аж не сходзіўся цёмна-сіні фрэнч, пан Войцэх, што не раз прыходзіў да бацькі ў госці, і каля яго, пакалыхваючы сінюю, на нізках колцах, дзіцячую каляску, знябожылася лупаценькая чарнявая дзяўчына.

Чэсі раптам зрабілася смутна, што ніхто яе не страчае — ні малады, красавы, як гаварыла цыганка, такім та ды яна ўявіла чамусьці Міцю Корсака, ні сястра, якой яна дакладна напісала, што прыедзе сёння.

— Дварчаны! — крыкнуў з глыбокага тамбура, адкуль нясло вугалем і туалетам, кандуктар.

У пустым гулкім вагоне ад гэтага крыку заварушылася, заскрыпеўшы лаўкамі, яшчэ некалькі пасажыраў.

Адапхнуўшыся ад поручня, Чэся скокнула з жалезных сходкаў на ясны ад пякучага летняга сонца перон.

Каля суседняга вагона з крыкам і смехам абдымаліся два мужчыны, і на іх, ледзьве падняўшы плеценую карзіну, крычала высокая насатая пані ў смешнай панамцы:

— Дарогу заступілі! Дарогу!

Кандуктар, прысеўшы на кукішкі, выцягнуў з вагона рукі, каб падхапіць цяжкую карзіну.

Азіраючыся на гэтага вясёлага кандуктара, Чэся рушыла ўздоўж вагонаў, каб абысці поезд і каб праз пуці, як хадзіла некалі, выйсці на сцежачку, што каля высокага шарага пакгауза выбягала на Наваградскую брукаваную вуліцу.

За ёй, з'ехаўшы з перона, зазвінела, падскокваючы на тлустых ад саляркі шпалах, дзіцячая каляска.

— Вой, ці не вы будзеце Чэся?

Скарэй на звонкі бразгат каляскі, чым на тонкі нясмелы голас, Чэся азірнулася.

Чорныя быстрыя вочкі прыжмурыліся.

— Я прыйшла вас страчаць. Гаспадары сёння пайшлі ў госці.

— Вы Анціна?..

— Ага, служанка,— маргнула гэтымі быстрымі казюркамі вачэй невысокая і, як здалося Чэсі, порсткая, нібы пташачка, дзяўчына.

— Вой, дык гэта ж і яе сынок,— Чэся паставіла сваю невялічкую, з бліскучым кантам валізку на жвірысты пясок, і, зазірнуўшы ў каляску, працягнула туды свае рукі.

З-пад чырвонай пастрыгаванай коўдры была відаць круглая галоўка ў карункавай лёгенькай шапачцы. Водзячы сінімі чыстымі вочкамі, дзіця смактала пустышку з белым касцяным кружком і кольцам.

— Мокранькі ён... Во зараз прыедзем дадому, перапаўёмся. Тады ўжо возьмеце на рукі,— дзяўчына развярнула каляску, узяла ў руку Чэсіну валізку.— На пераезд наедзем. Тут жа ж калея, няхай крые бог, я баюся.

Чэся пайшла за гэтай чарнявай невысокай дзяўчынай, што асцярожна кіравала, то спыняючыся, то падважваючы за ручку перад шпаламі нізкую сінюю каляску, і чула яе спакойную сталую ўладу над сабою.

І страпянулася, убачыўшы ў яе руцэ сваю валізку.

— Вой, нашто ж так!

— А я вам зараз аддам калясы,— дзяўчына спынілася на цвёрдай, усыпанай неўтаптанымі круглымі каменьчыкамі, сцежачцы.

Чэся ўзялася за доўгую нікеляваную дужку каляскі і, убачыўшы мардаценькае, з чыстымі вялікімі вочкамі дзіця з белым гузікам соскі пачула, як у сэрцы варухнулася нешта невядомае ёй дагэтуль, нязвыкла-цёплае, і дагадалася — мацярынская ласка з'явілася ў яе.

І ад усяго гэтага растала, правальваючыся нібы ў бясконцую глыбіню, душа.

— А мы з Косцікам заждаліся вас. І мокрыя, і галодныя,— ціхенька загаварыла ў яе за спіною дзяўчына.

— Няўжо? — страсянула сваёй густою залацістаю галавою Чэся і раптам схамянулася: — А як жа вас завуць? Мяне Чэся.

— Хрысця я,— сказала дзяўчына, беручыся поруч з Чэсяю за нікеляваную дужку каляскі: пераяджалі няроўны, з стрыжняватымі старымі дошкамі пераезд.

Чэся азірнулася на сінюю ашалёваную будку з бляшаным камінком, з невялікім акопцам — за ёю разбягаліся, шырачыся, як пража, папушчаная з рукі, пуці дварчанскай станцыі. Тут, у сіняй будцы, іншы раз з пераездным сторажам бавіў час Чэсін тата, тут ляжалі яго карбідныя бляшаныя ліхтары, і сам тата пах смярдзючым карбідам, мазутам, чадным вугалёвым дымам, як пахла ўся дварчанская станцыя.

І ў Чэсі зайшлося лядовым болем сэрца: як мінулася, растала ў невядомасці даўнейшае дварчанскае жыццё, і толькі сіняя будка, ржавыя рэйкі, выкладзены разбітымі дошкамі пераезд трымаюць памяць пра тое, даўнейшае, што было,— школа, той сёмы астатні клас, калі яны лічылі сябе вунь якімі сталымі: хлопцы, не баючыся настаўнікаў, пачыналі курыць, а яны, дзяўчаткі, збіўшыся ў купку, шапталіся пра Сівец Ірэну, што збіралася замуж за нейкага худзенькага студэнта з Віленскага універсітэта, а з яе, з Чэсі, тады злая Дануся — жыва не будзе, калі каго не падкусіць — смяялася: «Во бачыш, ты любішся з Міцькам Корсакам, а нябось ні разу не пацалавалася».

Якое смешнае, якое ўжо далёкае тое дзяцінства. Чэся адкінула свае зблытаныя ветрам валасы, і смех затрапятаўся ў яе на падпухлых губах — яна прыгадала зіму, тое цялятка ў санях, яго, разгубленага, сарамліва-зачырванелага Міцю Корсака ў смешнай пляскатай кепачцы, паўшубку з карычневым блішчаста-гладзенькім цялячым каўняром. Нешта ўжо мужчынскае, сталае было ў яго прыгожым твары, на якім рэдзенька, але ўжо цвёрда папрыблісквала шчаціна, у баязлівым зірку яго прыжмураных яспа-сініх вачэй.

За пераездам, дзе віламі разыходзілася шаша, стаяў той самы абгароджаны невысокім плотам, пафарбаваны на карычневае крыж; пад ім цвілі некім высаджаныя ясноткі. З няроўнага, выбухтаванага коламі бруку Чэся скіравала туды лёгкую каляску, спытала, абы загаварыць з Хрысцяю:

— А ці далёка адсюль Верасава?

— І не блізенька,— Хрысця прыспешыла хаду, каб дагнаць Чэсю, зазірнула ёй у твар.— А вы хіба ведаеце там каго?

— Ведаю,— і дадала: — Міцю Корсака, у школе разам вучыліся.

— Вой, вы, мусіць, тая самая паненка! — спатыкнулася Хрысця.

— Якая паненка? — крышку насцярожылася Чэся.

Хрысця апярэдзіла каляску і, ужо заступіўшы Чэсі дарогу, сказала:

— Што пісьмы яму пісала.

— Адкуль вы ведаеце? — спатыкнулася аб сіні, вывернуты бокам камень збянтэжаная Чэся і ўчула, што гарачынёю набрынялі яе шчокі.

— Гэта ж мой стрыечны брат. Мо наказаць яму, што вы прыехалі? — круціліся і ззялі бліщчаста-карычневыя, як вылушчаны каштан, Хрысціны вочы.— Я ў іх за наймічку была, ды яны выгналі мяне. Бацька Міцеў... А Змітрык сам добры і любіць вас. Бо на іншых дзяўчат нат не ўзгляне... Я накажу, што вы прыехалі.

Чэся аж спацела, намагаючыся разабраць, пра што гаворыць Хрысця, але дайсці да скутку, разабраць не магла, зблыталася саўсім, і таму моўчучы кіўнула галавою, згадзілася.

І свет даўнейшых год, ціхіх, што хаваліся ў прысадах, накрытых счарнелаю драніцаю хатак, пазелянелых пад бэзам платоў, усяго залітага сухім неміласэрна-пякучым сонцам мястэчка, сінявата-высокага, злінялага ад гарачыні неба, грукату фурманкі на бруку, вострага цокату падкоў спацелага каня, што цяжка памахваў вялікаю галавою, лянівага брэху асалавелага ад гарачыні сабакі, скрыпу жураўля і халоднага звону вядра за пафарбаванаю брамкаю нечага надворка,— усё гэта шчымлівым спакоем аддавалася ў Чэсінай душы.

— Дык я мо накажу, што вы прыехалі? — зноў наперад Чэсі забегла гэтая прыязная смешная дзяўчына.

— Ага, накажы,— усміхнулася і зарадавалася разам з ёю Чэся.

Яе брала дзіва, што гэтае наіўнае дзяўча з нейкай смешнай сталасцю дбае пра яе.

## IX

Грымела яшчэ звечара. У самлелым ад духаты пацемку жахала і нячутна трапяталася за акном палахлівая маланка, счакаўшы, гультаявата адзываўся далёкі пярун.

Пад нязлосны, глухаваты, як у глыбокую бочку, гру-

кат Міця і заснуў, прачнуўшыся ўжо ад густога, быдта вадаспад, шуму вады. Буйны, перамешаны з градам дождж са звонкім лускам засякаў па вокнах, шаргацеў па тыльнай сцяне хаты.

З халодным пляскам цурчэла і лілася са страхі дажджавая вада. Дождж гнала нерагонамі — ён то аціхаў, то шчодрым патопам шумеў зноў. Разрываючы цемнату, высока ўспыхвала маланка. Ружаваты бляск яе апякаў мокрую абвіслую бярэзіну на Корсакавым надворку, чубок суседняй страхі з вушастым каньком.

У шапатлівай цішыні нечакана ляскаў і высока кацілўся ў небе, здаецца, адломваючы вялікія крыгі, цяжкі гром. Тугі водгалас прыгінаў зямлю. Падрыгваў ад далёкага грукату расхістаны Міцеў ложак.

Міця любіў гэты высокі да казытлівага звону ў вушах грукат перуна і шчодры шум навальнага дажджу. Сыраваты холад асвяжаў душу.

У хаце пахла прэснай вільгаццю. Яе збіваў цяжкі атрутны пах тытунёвага дыму. На ложку, не могучы заснуць, пыхкаў папяросаю бацька.

Пасля таго як яны закапалі на надворку ашалелага каня, бацька, ледзьве не кожнае ночы, звесіўшы з ложка босыя ногі і бялеючы, як лунь, упоцемку хаты споднян бялізнаю, курыў удушлівую гродзенскую махорку — на шырокай пабеленай пліце адбівалася ружаватая яснасць ад папяросы.

Сёння бацька трывожыўся больш і на кожны блізкі ляскат перуна падбягаў да акна — выцікоўваў, ці не стрэліла дзе часам у будынак.

— Чаго ты? — заварушыўся на ложку Міця, каб перабіць бацькаву трывогу.

— Вот спі,— суха зарыпелі вытаптаныя дошкі падлогі, і бразнулі цяжкія чыгунныя дзверцы — бацька кінуў у пліту недакураную папяросу.

Астатнія дні бацька не даваўся гаварыць, зацінаўся, хмурнеў, апускаючыся ў цёмны патаемны вір сваіх дум. Міця здагадваўся — ён шкадаваў і ніяк не мог перанесці смерць дагледжанага, паслушнага, спраўнага да работы каня.

Нанава ўсланы перад хлявом брук, пад якім у глыбокай яме закопвалі жыўцом каня, нейкім сцішным холадам ледзяніў Міцева сэрца.

Было шкада бацьку — ён толькі, здаецца, і меў адзін клопат карміць і дагладаць каня. А цяпер зрабіўся як сі-

рата і саўсім адзічэў, не ведаючы, мусіць, за што зачапіць рукі, за якую работу брацца, як жыць далей.

Думаючы пра бацькаву жальбу, адзіноту і нечаканую старасць. Міця і заснуў, не чуючы, як зноў спорна зашапацеў дождж — цяжкая, абложная хмара варочалася назад.

Ранелька, яшчэ па шарай віднаце, улежаць не давалі мухі і грукат дзвярэй — бацька, падаіўшы карову, насіў вёдрамі, назапашваўся вадою, то адчыняючы, то зачыняючы дзверы.

Разрываючы ліпкую павучыну сну на вачах, Міця падхапіўся з ложка, каб памагчы бацьку — пасля таго як з хаты пайшла Хрысця, яны па калейцы палілі ў печы.

Міця быў нават накінуўся на бацьку, што выгнаў з хаты Хрысцю, нарабіўшы зноў на ўсю вёску лопату і новых плётак.

— Недзе дзенецца, прыйдзе,— суцяшаў сябе і трохі, пэўна, каяўся бацька.

Але Хрысця не прыйшла. У Верасаве пачалі сцішкам гаварыць, што яна нанялася нібыта служанкаю да маладога асадніка Грабянкі.

— Пакаштуе пачым фунт ліха і вернецца,— бацька ўжо трохі злаваў і ўжо ад злосці махаў рукою.— Ат, такселе бяды. Яшчэ і лепш. Бо шчубіліся тут з гэтага прымака. Цішы будзе.

Але дагледзець пры хаце ўсё, наварыць есці, прыпратаць ложкі, падаіць карову, ад чаго абодва ўжо адвыклі, стала цяжэй.

— Мо памагчы што? — цяпер Міця глядзеў на бацьку, што, сагнуўшыся, стаяў каля печы і даставаў адтуль падсушаныя за ноч дровы.

— Абыдуся мо і без цябе,— не даваўся загаварыць і не падпускаўся да сябе бацька.— Карову ідзі выжань. У поле мо пагналі даўно.

Міця наспех спаласнуў над цабэркам твар, выцерся некачаным суравым ручніком, адразу прагнаўшы з сябе сон, і выйшаў на надворак, чуючы ў душы памаладзелы, абмыты начною навальніцаю свет. Са страхі на камень каля парога яшчэ пляскала і бубніла на шырокае лісце лопуха дажджавая вада.

Пад застрэшкам недзе ў мяккім, выкладзеным пер'ем гняздзе надаедліва-ўпарта пацвіркваў малады падужэлы верабей.

За ацяжэлымі, што як сагнулі свае маладыя, яшчэ не

пруткія вяршкі, дрэвамі, за мокрымі, што курыліся рэдзенька парай, стрэхамі будынкаў зацерушылася ружаватым пылам неба — ніжэй яго залівала ясная пазалота. Высока над сіняю хмаркай раставаў стары месяц.

Нібы прастуджаны ад здаровай сырасці раніцы, за гумнамі, на другой вуліцы, гукаў пастух:

— Аганяй!

Нехаця падняўшыся з цёплых хлявоў, сонна рыкалі каровы, звонкі бабскі голас пакрыкваў на авец:

— Ашкыра, куды вы! Во на плот скача, а бадай цябе.

У канцы вёскі ў гэты сівавата-параны, азыраваты свет раніцы гаўкаў вясёлы, спушчаны з абрыдлага ланцуга сабака.

Міця пастаяў на новаўсланым бруку і, здэцца, зноў уявіў, як там, у глыбокай жоўта-сіняватай жвірыстай яме, устае на дыбы і храпе, сілячыся вылезці, іхні конь, а яго б'юць каламі па галаве, каб аглушыць і зваліць ■ ног, верасаўскія мужчыны, і скоранька ўвайшоў у хлеў.

Выпусціўшы пудкіх чарнамордых, з сівымі кучаравымі бакамі авечак, адкінуў дашчаныя абкарэлыя гноем веснікі ў каровінай загарадзі. Карова насцярожылася, зачмыхала, тыцкаючыся задам да дзвярэй. Перапуджаная яшчэ ўчора, калі яна, панюхаўшы новы брук, раптам закруціла рагамі і страшна зараўла, цяпер круцілася ў хляве, баючыся выходзіць на двор.

Міця зняў з шула сырамятную пужку, сцебануў ёю па сытых, з накарэлымі грузолькамі сухога гною, сцёгнах. Карова вухнула, выскачыўшы з хлява, але нібыта спатыкнулася на парозе, зноў прынюхваючыся да бруку, і зноў, круцячы галавою, нечпадзявана страшна, як рэзаная, зараўла. У яе вялікім сіняватым воку паблісквау нейкі свой дзікі страх.

Міця, перавярнуўшы пужку, ужо лілова-касматым ялаўцовым пужальнем секануў ёй яшчэ па крыжы.

Карова вухнула і, стараючыся пераскочыць нанава ўсланы брук, вылецела з хлява.

— Чуе, нябось,— з хаты выйшаў стары Корсак, расласцёршы абедзве рукі, замахаў, каб не пусціць авечак, што скіравалі да брамы.

Міця, ляскаючы больш дзеля страху пужкай, завярнуў карову за гумно на другую вуліцу, згледзеўшы, як там, апярэджваючы пастухоў, падмахваючы пустым кошыкам і мільгаючы босымі нагамі з падкасанымі калошамі, спяшае ці не ў лезнявіцкі хвойнік Марцін Ваўчок. Толькі

адзін ён з верасаўскіх мужчын разам з дзецьмі, што не маглі чаго рабіць, шастаў з вялікім, выплеценым з карэння кошыкам па лезнявіцкіх, зарослых чэзлым марным хвойнікам ровішчах, дзе ў мокрае, парнае лета было гібель прысадзістых, з тоўстымі карэннямі цёмна-карычневымі шапкамі баравікоў. І прыносіў іх, на завідкі ўсім, поўны кошык.

Змітрык любіў іншы раз збегаць разам з ім, але было брыдка, калі Ваўчок, ідучы нат ззаду, раптам пачынаў падсвістваць, прысеўшы то пад ялаўцовым калюча-густым непадлазным кустом, то пад шырокай у падоле хвоечкай, то проста на голым у зялёным моху лапічку, падкалупваў сваім іржавым, без тронкі, лязом прапушчаны і не змечаны Міцем грыбок.

Увосень, калі сярод марнага хвойніку на пясчаных выспах, падымаючы на сябе горбачкі пяску, выточваліся крохкія пахучыя зяляніцы, ён ужо цягаў іх, толькі перад тым, як прынесці дадому, заварочваў адразу ж з ляску пад рэчку на кладку, дзе прыкленчваў і колькі разоў гушкаў у вадзе свой нялёгкі кошык, а потым ужо ішоў з ім, густа цэдзячы на дарозе рабенькую сцежку.

Цяпер ён пабег у лезнявіцкі шчытнік — зірнуць, ці не выскачылі з-пад слізкае кастрыцы жоўценькія, як кветкі, лісіцы і першыя баравічкі, як іх называлі, выплывальнікі, што паказваліся разам з жытнім коласам. Узіраючыся, як мільгала за частаколам яго шарая, ганарыста ссунутая на адно вуха кепка, Міця таксама ўчуў нейкую хэнць прайсціся вузенькаю, вытаптанаю ў росным карычневым быльніку па чужой мяжы сцежкаю ў блізкі верасаўскі лясок — сцішны, глухі, толькі разбуджаны строкатам сарокі, што раптам учуе цябе.

Падтурыўшы на вуліцу ў быдлівую, згаладала-шпаркую чараду сваю карову, Змітрык вярнуўся ў хату, наліў у конаўку яшчэ цёплага ранішняга малака, адрэзаў лусту хлеба, паснедаў наспех і, зняўшы са сцяны выгараны шарачковы пінжак, сказаў бацьку:

— У лес збегаю.

— Чаго там не бачыў,— паставіўшы на прыпек вялікі чыгун з дробнымі, для свіней, картоплямі, азірнуўся ад печы бацька.

— Грыбоў пашукаю.

— Дабраў час. Удома хто будзя? Я ж у Дварчаны збіраюся. Каня трэба напытваць.

— Алесю папрашу.

— Другі Ваўчок знайшоўся. Таму абы не рабіць, кусок таўлуя. Пры садку траву скасіў бы.

Міця, нібы абязвечаны бацькавай сварбою, выйшаў з хаты, але завярнуў да гумна, наўпрасты праз Пытлеў надворак, што зарос піжмаю і глухою крапівою, выбег на шашу. За ёю па вузенькай калейцы пагруквала ваганетка: стоячы на дашчанай платформе і шырока расставіўшы ногі, чацвёра рамонтнікаў махалі ў такт доўгімі кіямі, упіраючыся імі ў шапаткі жвір між шпалаў. На дрэўцы трапятаўся чырвоны сцяжок. Загружаная падпойкамі, лапатамі ды граблямі цяжкая ваганетка шыбка ляцела па тугіх, наструненых рэйках, гонячы наперадзе сябе звонкі, што памаленьку ныў і мацнеў у жалезе, грукат.

Але ваганетка раптоўна сцішыла свой бег, адзін з рамонтнікаў, палажыўшы абслізганы доўгі калок і абхапіўшы рукамі голаў, закруціў ёю:

— А-я-ё-ёй!

Міця спярша сумеўся, але, убачыўшы за калейкаю Літаваравага каня і самога, з падкасанымі калошамі, гаспадара, што ішоў за плужком, абганяючы нізенькія цёмназялёныя картоплі, здагадаўся — рамонтнікі дражняцца з Літаваравай мянушкі.

— Ой, учадзеў, ой! — круціў чорнаю рагатыўкаю худы высокі рамонтнік.

Стары Літавар турзануў за лейцы каня, спыняючы яго ў баразне, азірнуўся, выцягнуў руку і скруціў фігу:

— Во, на! Во, укусі, злыдух!

Загарэлыя цёмнатварыя мужчыны пачалі выскаляць белыя зубы.

— Во, бачыў, во! — Літавар выцягнуў абедзве рукі і тыцкаў імі сюды, па рамонтнікаў.

Ваганетка спынілася якраз напроці Літаваравага поля — рамонтнікі, убачыўшы, што чалавек не зносіць іхніх хахінькаў і жартаў і ўжо, узбунтаваны і ашалелы ад злосці, круціцца каля каня, мяркуючы, мусіць, адчапіць ад плуга ворчык, загукалі зноў:

— А-я-ё-ёй, учадзелі!

Стары Літавар парэшце пераступіў цераз лейцы, схапіў каня за доўгі, непадстрыжаны хвост, падняў яго:

— На, пацалуй, злыдзень. Ідзі пацалуй! — і замахаў рукою.

Упуджаны конь нечакана рвануўся ўбок, падсек прывязаным да плужка пастронкам старога Літавара, якраз недзе пад калені.

Плячыма назад Літавар чмякнуўся на зялёныя стужкі нізенькіх картопель.

— Га-га-га-га! — трасліся ад рогату і прысядалі на ваганетцы дварчанскія «каляжы».

Але адзін з іх, азірнуўшыся, убачыў, што да калеі падыходзіць Міця, і на выпадак чаго налёг з усяе моцы на доўгі калок.

Услед за ім яшчэ нямоцна, змогшыся ад рогату, уперліся каламі ў жвірыстае палатно чыгункі астатнія рамонтнікі.

Памалу і ўрасцяжку пагрукваючы коламі, ваганетка пакацілася па стрункіх рэйках.

Ад Літаваравых картопляў аддаляўся сыты мужчынскі рогат.

— Ну пачакай, ты папомніш у мяне! — нарэшце падняўся і пабег гразнучы босымі нагамі ў сырой раллі, стары Літавар; з плячэй у яго адвальвалася глейкая пасля дажджу зямля.

Міця перабег высокі ўтравелы насып калейкі і, цікуючы на Літавара і крывячыся таксама ад смеху, завярнуў на вузенькую ў зіхатлівай расе мяжу, дзе ўжо зелянеў прымяты Ваўчковымі босымі нагамі след.

— Куды цябе нясе, куды! — упагон яму закрычаў ужо Літавар, ці зглегдзеўшы Міцеў смяшок, ці проста абы на кім спагнаць сваю злосць.— Ці вам дарогі нямашука, што межы топчаце!

Міця дадаў хады, але стары Літавар прыпусціўся напярэймы:

— Ідзі сваё збожжа тапчы, па тваіх межах я не хаджу. Нарабілі мне тут дарог.

Ні слухаць старога чалавека, ні ўжо сварыцца з ім Міця не пасмеў: ад агіды і крыўды плюнуўшы, завярнуў назад.

Але на пераезд ісці не хацелася — раптоўная злосць на ўрэднага старога Літавара перабіла і тую неадольную спакусу збегаць у роспы лезнявіцкі хвойнік, дзе на галубенькім мяккім моху, на прагалах каля грудкоў і зялёных, вымытых вадою ровішчах высыпаюць у парнае лета, у густы туман цвёрдзенькія прысадзістыя баравікі.

Але наўрад ці яны яшчэ ёсць, а дзеля свіней, што пачарвівелі пад кастрыцаю ў гушчары, ці варта расіцца.

Міця пастаяў на шашы, чакаючы, покуль параю сытых коней, што цягнулі доўгі на гумовых шапаткіх колах воз, пе пераедзе маленькі, з вялікаю галавою, паваградскі бэ-

лагол, і наўпрасты, зноў праз Пытлеў надворак, вярнуўся дадому.

За чужымі хатамі і гумнамі дробна аддаваўся звонкі цюк малатка — нехта ўжо кляпаў касу.

Прыпомніўшы, што прасіў бацька, Міця падышоў да хлява, зняў зачэпленую за лату сваю новую з жоўценькім, выструганым з маладое елачкі касільнам і адкляпаную яшчэ ўчора звечара касу. Выцягнуў са шчыліны ў сцяне абшморганую мянташку, усунуў у кішэнь і спусціўся надворкам да вуліцы — у гародчыку звісалі росныя півоні. Вялы мокры чмель поўзаў па соннай кветцы. Недагледжанасцю, адзінотай і запусценнем дыхнула на Міцю ад іхняга заглушанага лебядою гародчыка — яго тут ужо ніхто не палоў пасля таго, як з хаты сышла Хрысця. Зрабілася шкода і яе, і гэтых недагледжаных півоняў.

За вуліцаю, пераступіўшы калючы дрот, спусціўся ў свой нядоўгі, што крута збягаў да завоні, садок.

Трымаючы ў адной руцэ касу, прайшоў пад невысокімі разложыстымі яблынькамі, дзе сярод лісцця пачыналі ўжо цяжэць абсыпаныя тлуставатаю расою ружаватыя анісы. Ад чужое мяжы ў навіслых вербах крычалі маладыя шпакі, разяўляючы свае яшчэ жаўтлявыя дзюбкі. Адзін, азіраючыся, бег перад Міцем і, не могучы яшчэ, мусіць, узляцець, усё прыгінаўся, растапырваючы крылы, нарэшце дабег да шчытна ўплеценага плота і зашыўся ў глухую крапіву. Страката-бліскучасты зеленкаваты стары шпак ■ белым чарвяком у дзюбку, не баючыся Міці, закружыўся над ім.

Міця парнуў туды касільнам, каб адагнаць шпачка далей, за чужы плот, і, адступіўшыся пад яблыню, зачаў пракос.

Здрыганулася, як ад болю, услед за доўгаю касою нахілілася і ўпала зіхатлівая ад расы сінявата-ліловая мятліца і ружаваты ад цвету шчавей. Шырока расстаўляючы ногі і трымаючы на вазе за кульку сваю касу, Міця махаў ёю, памаленьку праваю нагою падступаючыся наперад і чуючы калючую шчотку зрэзанай да жаўтлявых карэньчыкаў травы. Ад пракоса запахла цёплай, трошкі п'янавата-мятнай зуброўкай, што ўжо, як жыта, закрасавала, распушыўшы свае невялікія, на тоненькім сцябле каласкі.

Яе тут, пры Корсакавым садку, што крута спускаўся да завоні, было шмат сярод мятліцы.

Дайшоўшы разам з пракосам да завоні, Міця адхіліў

малады, абвіты хмелем алешнік, прасунуў у ваду з зялёнаю раскаю касу, спаласнуў і абцёр травою, упёршыся кассём у траву і трымаючы за дзюбок халоднае лязо, зашоргаў па ім мянташкаю — вясёлы шаргатлівы звон ад яе паплыў, перакаціўся за гаркаваты алешнік на другі бок завоні.

Там нехта ціхенька нібы гукаў Міцю. Жмурачыся процi невысокага, што рвалася ў густым лісці, чырвона-залацістага сонца, Міця перастаў шоргаць мянташкаю, прыслухаўся — і праўда, за густым алешнікам нехта як клікаў яго:

— Змітрык, ці чуеш? Змітрык!

Голас быў сакаўны, тонкі, нападобе як Хрысцін. Міця ўбіў у зямлю кассё, пайшоў на прагал — між старою, тоўстаю, нахіленаю вярбою і кустамі маладога алешніку, яшчэ не верачы сабе, што клічуць яго.

На другім беразе вузкай, зялёнай ад густое раскі завоні стаяла Хрысця, босая, у сваім прыталеным сачыку, у выцвілай, з турэцкім узорам, хустцы. На смуглявыя загарэлыя лыткі наліплі жоўта-масляністыя пялёсткі люцiку.

— Іду і думаю сабе, як цябе ўбачыць,— сказала першая, трохі як сумеўшыся ці засаромеўшыся.

— Хіба хаты забылася? — жартам спытаў Міця.

— У хату я да вас не пайду.

— Чаму ўжо так?

— Нашто пытаць,— яна ўздыхнула.— Сам ведаеш. А наймічкаю, дзе ўжо ні быць, усюды аднакава.

Віна і брыдкасць за тое, што ўчыніў бацька, апяклі Міцю.

Прыпомнілася тая нават нядаўняя гутарка з бацькам, калі ён, Міця, прасіў вярнуць дадому Хрысцю. Бацька, злы тады, насуплены, нават буркнуў: «Нідзе не дзенецца. Прыйдзе. А не — дак яшчэ лепш. Праз яе тут усё».

Хрысця, нібы ўгадаўшы Міцевы думкі і каб перабіць гаркату і прыкрую маўклівасць, весела спытала:

— А ці ведаеш, чаго я заблудзіла? — яна падступілася бліжай да берага, сарвала белавата-ліловую чачотку на высокім валяр'яне.

— Не.

— Паненачка ж твая прыехала.

Чырвань сораму і радасці залівала Міцеў твар.

— Ага, праўда,— засмяялася Хрысця, убачыўшы, як засаромеўся Міця.

— Калі?
— А во надоечы. Так прыйдзі, знебылася, пэўна, чуеш,— яна шпурнула ліловую кветачку валяр'яну сюды, на бераг, дзе стаяў Міця, але не дакінула — кветка, стрымбулікам уверх, упала на зялёную пялюшку раскі.
Міця ступіў да берага, хацеў спытаць, калі ж прыйсці, але абпёкся аб вастралістую крапіву.
— Дзень ёй годам здаўся. Чакае цябе. Ну, пабягу. А ты прыйдзі.
Радасна-знямелы ад нечаканае навасці, Міця стаяў каля старое, з паўяданым у кару калючым дротам тоўстае вярбы, бачыў, як мільгала ў прагалах нізкага густога прысаддзя Хрысціна жоўтая, у турэцкі ўзор, хустка: Хрысця завярнула не на кладку, а на шырокую пясчаную дарогу пад Ваўчка.
Але бачыў не яе, Хрысцю, а Чэсю, у тым, вышываным казельчыкам, жоўтым гуцульскім кажушку, у белым, з-пад якога выбівалася і загнулася пярсцёнкам да брыва рыжаватая кудзерка валасоў, берэціку, яе прытоены смех у куточках падпухлых губак, абвеяную хараством, спрытную, высакаватую, паспраўнелую, пругкую ў хадзе дзяўчыну.
Так і стаяў бы, каб першы ранішні вецер, што спадцішка пачынае дыхаць скразняком, не сцерусіў з доўгага слізкага лісця вярбы цяжкія і рэдкія кроплі расы, што жывым холадам апяклі карак, раптам вярнуўшы з той далёкай белай зімы ў гэты зялёны свет ранняга лета, сівага, яшчэ не ацяжэлага ад яблыкаў садка, рэдзенькага туману, што яшчэ курыўся за завоняю над росным поплавам.
Аброшваючы калошы і топчучы гэты невялікі клінок сепажаці каля прыціхлага садку, пайшоў да касы, вырваў яе з зямлі і зачаў новы пракос. Едкая каса, точачыся ў траву, з балючым шахканнем падцінала дрыгатлівую мятліцу з сінімі, прыхаванымі ў ёй, гараб'ёвымі кветачкамі.
Але перад вачыма стаяла яна, прыгожая Чэся.
Падпарвала, падымаючыся вышай, сонца — і залаціста-рэдзенькімі пацеркамі мігцела, ірвалася і калола ў вочы тапюсенькімі, нібы шкляпымі, павучынкамі раса.
На шырокім сіняватым палатне новае касы жалосна ліплі калівы перасцелых слёзак.
У вербах і чорна-шурпатых, з голымі рагацінамі вяршкоў, старых алешынах падспеўвалі адзін аднаму драздзы і

цвырчэлі за рэчкаю, зляцеўшыся вялікаю чарадою, рудавата-шарыя маладыя шпакі.

Атросшы ■ дрэў расу, вецер перабіраў трапяткое лісце на грушах, цемнаватымі лапікамі пагойдваўся, варушачыся на жаўтлявай нізенькай пакошы, разарваны цень. Ад свежых пракосаў холадна пахла прэснаю зялёнаю травою.

Каля вуха тоненька звінелі згаладалыя камары.

Пырхаючы над Міцем, шнуравала з вярбы на зялёны здзічалы куст агрэсту шарая з ружаватым воллем увішная пташачка — насіла ў дзюбку зялёна-сіваватых чарвячкоў: там, у густым поцемку калючага куста, што разроссяя каля плота, Міця агледзеў з тыдзень назад перавернуты макаўкай уніз, звіты з сухога пырніку каўпачок гнязда — у ім, разяўляючы шырокія чырвоныя раты, падымалі цяжкія, на тонкіх шыйках, галоўкі брыдка-сінягатыя, не апушаныя, з чорнымі шкарлупкамі вачэй, сляпыя пташаняты.

Растрывожаны навасцю, Міця ўжо і не бачыў, што крыва ідзе пракос, што едкая каса падбіраецца да разложыстага, здзічалага куста агрэсту.

Цяпер яму да нейкай звар'яцелай радасці захацелася ўбачыць Чэсю тут, у садку. І Міцю раптам прыгануўся нядаўні сон, як яна аддалася яму. Божа мілы, на ложку, чамусьці ў Пытлевай хаце, дзе была вечарынка і дзе за плітою сядзелі і абдымаліся хлопцы з дзеўкамі. І гэты сон быў як праўдзівасць, як нешта да чуткасці, да вобмацку рэальнае. Змітрык аж салодка заміраў, бачачы перад вачыма гэты сон, і чуў, як пабліжэла, зрабілася нейкаю сваёю для яго Чэся. Ён ледзьве, дурань, не напісаў ёй пра гэта.

Цяпер перад сабою бачыў зноў тую прыснёную Чэсю: у белай, лёгкай, крышачку спярэшчанай сінімі кветачкамі сукенцы з кароткімі рукаўцамі, што агалілі яе круглыя мякенькія рукі. Яна ішла па жаўтлявай шчотцы з зеленаватымі грыўкамі выгнанага пракосу. Зрэзаная да самых белаватых карэньчыкаў трава востра, мусіць, як голкамі, калола ёй з непрывычкі чуткія босыя ногі. Яна крывіла ад болю свой твар, моршчачы носік і моцна плюшчачы вочы.

Міця апомніўся, ачуціўся ад сваіх мысляў ужо тады, калі вострым джалам дзюбак касы ўпіўся ў карчысты спаднізу і тоўсты куст здзічалага агрэсту. Запырхаўшы нядужымі, яшчэ не акрэплымі для лёту крыльцамі, адтуль

пасыпаліся, разлятаючыся ўшыр і падаючы воллем на траву, караткахвостыя птушаняты.

Над Міцам, над агрэставым кустом і скошаным клінком балотца, дзе няўмела на распасцёртыя крыльцы ўпалі, зацерабіліся і пабеглі, нізенька точачыся пры зямлі, як мышы, жоўта-шарыя бясхвостыя птушаняты, завераішчалі і завіліся дзве птушачкі.

Міця, здумелы, як сам не свой, ужо стаяў каля куста агрэсту, глядзеў, як стоячы каля жоўтага, зрэзанага копчыка балотнага мурашніку, калывалася на нядужых цыбатых ножках і ціхенька, жалосна, ледзьве чуваць, ціўкала знябожанае птушанятка.

Міця вырваў едкую, убітую дзюбком у куст агрэсту сваю касу, кінуў яе на пракос і пайшоў па калючай шчотцы пакошы да птушаняці. Але яно раптам сцішылася і, калі Міця прыгнуўся, каб схапіць яго рукою, страпянула крыльцамі і, падмахваючы імі, пабегла. Міця прыпусціўся за ім, і яно, ужо не ведаючы, куды дзецца, падшылася пад навісь пракосу.

Цёпленькае, дрыгатлівае, Міця ўзяў яго ў руку, асцярожна сціскаючы ў кулаку, панёс да агрэставага куста. Высунуўшы з Міцевага кулака жоўты дзюбок, яно перапалохана заверашчала, і над Міцам, нібыта просячы ратунку, з пакутным адчаем заціўкалі, зацмокалі старыя птушкі.

— Зарэзаў, нябось! — гукнуў здалёк, спускаючыся сюды, да Міці, пад завоньку абкошаным ужо прымежкам садка, Ваўчок — нёс, каб, мусіць, пахваліцца грыбамі, стары з аблушчаным лучком кошык.

— Не,— Міця асцярожна трымаў у жмені дрыгатлівую птушачку.— З гнязда вунь паўцякалі.

— Яна ўжо, брат, сядзець у гняздзе не будзе,— Ваўчок асцярожна пераступіў касу.

— Чаму ж не будзе? — разгарнуўшы густы куст агрэсту, Міця паклаў у шары пусты каўпачок гнязда з белаю, закручанай, як ракавінка, купкаю памёту палахлівае птушанятка.

— Пташкі, як людзі, чапі гняздо — і пасыпаліся хто куды.

— А во, паглядзімо,— Міця асцярожна загарнуў над гняздом калючы зялёны куст агрэсту ў завушніцах зялёных валасатых ягад.

— Яшчэ і не верыць. Дак во і глядзі,— Ваўчок махнуў туды, па куст, старым сваім кошыкам: з куста ізноў

высунулася пташаня і, заківаўшыся на ценькіх ножках, зноў жалосна піскнула.

Старыя пташкі, хаваючыся ў блізенькай яблыні, нервова пераскоквалі з лапы на лапу і бесперастанку жалосна, з прыцмокам клікалі яго.

— Ці я табе не казаў,— Ваўчок паставіў у цянёк пры кусце свой кошык: зверху слізкіх карычневых лупякоў, ясна-жоўценькіх і дробных, як гарох, лісіц, тлустых, крохкіх свіней, жаўтлявых, недзе выкапчаных з-пад кастрыцы ў цёмным гушчары, падгрыбніц, ляжала некалькі баравікоў з тоўсценькімі, як збанкі, белымі карэннямі. Яны пракідваліся тады, як красавала жыта.

— Уга, дак вы недарма збегалі ў лес.

— Ат, наскуб усяго патрохі, яшчэ не пара на іх,— Ваўчок нат не азіраўся на свой кошык, усё цікаваў, як ад куста, абколваючыся аб вострую няроўную пакошу, памагаючы растапыранымі крыльцамі, церабілася нядужае зморанае пташаня, туды, пад яблыню, на якой прыцмоквала старая пташка, і сказаў ужо пра яго: — Уцякае ад свайго гнязда, як Шайбакова Кася. Мо чуў?

— Не,— Міця падняў касу, трымаў яе за кульку і кассё: — І што з ёю?

— У Латвію сёння едзе. Уцякае, як гэтае недалужнае пташаня. З дому. І куды, каб хто спытаў, напроці буры.

Міця, абышоўшы куст агрэсту, шмаргануў касой, каб ужо дабіць невялікі лапік травы. Спяшаўся збегаць у Дварчаны, карцела толькі адно — угледзецца з Чэсяй.

Але Ваўчок, асцерагаючыся і скоса зіркаючы на касу, як знарок зайшоў наперад, нібы хацеў запыніць Міцю.

— Я во надоечы, з'ездзіўшы ў Дварчаны, дваццаць грошаў упаліў, газэту купіў. «Слова» нейкае з Вільні, ці што.

— І што вычыталі? — спытаў, засмяяўшыся, Міця, абы адкараскацца ад Ваўчка, бо ведаў — гутаркі ў таго надоўга.

— Хі,— Ваўчок задраў голаў з старою, набакір ссунутаю кепкаю — на ёй сівымі ніткамі набэрсалася павуціна.— Вунь у Гданьску выступіў міністр прапаганды Гебельс. Кажа, немцы горад не ўступяць. Свет мусіць зразумець, што Адольф Гітлер слоў на вецер не пускае.

— Гэта ўжо не нова,— Міця, адагнаўшы быстраю, што востра мільгала ў траве, касою ад сябе Ваўчка, дайшоў да алешніку, выгнуўшы астатні пракос, і, рады ўжо, выцер змакрэлы лоб.

— А што ты хочаш новае на свеце,— па накошы ступіў, скрывіўшыся, укалоўшы босую нагу, Ваўчок і зноў махнуў сваёю з пабэрсанай павучынай кепкаю.— Вунь у той газэце пішацца, што даўнейшыя людзі на пальмавым лісці пісалі. Выцісне жалезным рыльцам букву і чорным парашком пасыпле. А мы кажам, што людзі даўней дурныя былі.

— Дзе гэта было? — Міця абцёр травою касу, перавярнуўшы яе ўверх, замахаў кассём, растрасаючы пракос.

— Гэ, дзе? — засмяяўся рады Ваўчок, што здзівіў Міцю.— У Сыяме. А потым гэтае лісце звязвалі ў рулоны.

Міця, махаючы кассём, дайшоў да Ваўчка, той, угнуўшы твар ад пякучага і ўжо высакаватага сонца, бліснуў на Міцю прыскаленым вокам:

— А хто быў такі Чынгісхан?

— Імператар мангольскі.

— Дак во прах яго перавозяць у глыб Кітая, у нейкую правінцыю Шансі. У бяспечнае месца, каб не захвацілі японцы. Пішуць, што вязлі на возе, а воз накрылі залацістаю тканінаю. Мільёны людзей ішло за тым возам.

Дачакаўшыся, пакуль Міця растрасе, раскідае сырыя пракосы, на якіх незаплюшчанымі вочкамі выглядалі яшчэ не падвялыя кветкі, выйшаў на вуліцу і, топчучыся на падсушаным шарым пяску каля плота, скончыў пачатую гутарку:

— На пагодзе ўжо не ўстоіць. Грыміць з усіх бакоў. Свету ўсё нечага не далягае. Раз прах Чынгісхана возяць, то дабра не чакай — будзе вайна.— І, нібы спахапіўшыся, спытаў ужо Міцю ў спіну — той, прыляпнуўшы веснікамі, падымаўся на пукаты лоб брукаванага, у зялёных пэндзліках травы надворка: — Кажуць, бацька збіраецца каня купляць?

— Ага, пайшоў напытваць.

— Цяпер купляй ды азірайся.

— Чаму? — не зглавіў Міця.

— Да войска забяруць. Мабілізуюць, як грыцца.

— Ці толькі коней пабяруць?

— Мо і так: трэба жыць, як набяжыць.— Ваўчок падступіўся да плота, абедзвюма рукамі ўчапіўся за яго, успомніўшы нешта сваё, засмяяўся: — Паслухай во. Твой бацька каня купляе, а Рэпкі вунь даўно гатовага чакаюць. Паслухай во. Калі-та я быў у іх. У той першы дождж. Ага. Значыцца, на тым тыдні. Старога хадзіў глядзець. Ліхата, што яго скруціла, ужо трохі прайшла. Ды рэч хо-

дзіць не пра яго. Я пра меншага кажу, пра Жэніка іхняга. Са столі ў іх цячэ, як з рэшата. Дак я і пытаю: «Чаму гэта ты страхі не надлапіш?» А ён выскаляецца: «А нашто?» Я ажно прысеў: «Як нашто? Ці ты не бачыш?!» А ён: «Прыйдуць бальшавікі, дадуць новую, з вазонамі». Чуеш, ён з вазонамі возьме.

Каб болей не слухаць Ваўчкову гутарку, Міця скіраваў да хлява, зачапіў за лату касу, уваткнуў у шчыліну сцяны мянташку і вярнуўся ўжо пад хату, закалупаўся ў замку, не адзываючыся на голас Ваўчка, але той, стоячы за плотам, яшчэ душыўся ад рогату:

— Смехата адна. Ён з вазонамі возьме. Чуеш? — і раптам прыціх і, ужо адыходзячы ад Корсакавых веснікаў, сказаў, як сам сабе, але ўслых: — А можа, і так. Можа, і дойдзе на свеце да гэтага. Усё варочаецца нанова. Раз возяць прах Чынгісхана, то дойдзе.

Міця нарэшце праз дзірачку ў вушаку пляскатым язычком доўгага ключа злавіў зубкі жалезнай засаўкі, адамкнуў дзверы ў халаднаватую з надаядным звонам мух хату.

Павешаная за бэльку ліпучка была ўжо чорная ад іх. Завярнуў за пліту, дзе на палку, пры печы, стаяў даўнейшы, чорны з прыгожымі выштукаванымі дзверцамі, з меднаю бляшкаю ад вырванага замочка, драўляны шкапчык, адчыніў яго. Над кніжкамі ў куточку ляжала астатняе Чэсіна пісьмо. Міця разгарнуў яго, і радасцю перад вачыма замільгалі роўныя шнурочкі прыгожага Чэсінага почырку. Зноў прыгадаў садок, звон мянташкі, Хрысцін голас на другі бок завоні: «Знебылася па табе».

Але стромы бераг радасці падточвала сумленне, а мо яна, Чэся, трохі паздзекавалася, так сабе, дзеля забаўкі і жарту.

Ён перачытаў пісьмо, і ў душы зноў заспела спадзяванне. Не! Яна жджэ яго. Быдта ў захмялелага, перад вачыма перайначыўся свет, пахарашэў — уся хата, сіняе глыбокае неба за акном, кучаравая бярэзінка, дзе, падгойдваючы звіслыя галіны, вецер дробна перабіраў шапаткое лісце.

Нат забыўшыся пра абед, збегаў да рудаватай, паглыбшанай пасля начнога шчодрага дажджу рэчкі ў зацішнае месца, дзе навіслі кусты абсліненай зноў, мусіць, на дождж лазы, і, перапалохаўшы на вербах жаўтаротых, з стракатымі воллямі, драздоў, скупануўся. Пасвяжэлы, нібы скінуўшы што з сябе, і чуючы дрыготкую свежасць, з

усяго маху пераскочыў праз вузкую завоньку ў садок. Над прывялым ужо, растрэсеным сенам нізка віліся і перапалохана верашчалі дзве шарыя з ружаватым воллем пташачкі — там сядзеў, аблізваўся, бліскаючы на Міцю зялёнымі вачмі, чорны кот.

Міця ад адчаю загроб рукою каля загарадзі, каб знайсці што ў руку — кот шмыгануў у Сымонаў, застаўлены шарымі калодамі і жоўтымі рамкавымі вуллямі, садок.

На прывялай траве, там, дзе сядзеў кот, шарэлі дзве перынкі. Нейкая крыўда на сябе варухнулася, заняла дых: «Во так, незнарок, можна некаму прычыніць смерць. Няўжо ён, Ваўчок, кажа праўду?»

Але ўдома, апрануўшы лёгенькую, у жоўтыя палосы, кашулю і прыгробшы перад люстэркам свае густыя чарнявыя валасы, забыўся пра здарэнне — усё засланіла яна, Чэся.

Не помнячыся ўжо, прыспешыў да Мондрых папрасіць Алесю, каб прыгледзела хату ды ўпусціла, калі прыйдзе з пашы, у хлеў скаціну.

За карычняватымі ад моху, як ніколі не араная ялавіна, гумнамі віселі пухкія вялыя хмаркі. Самлела пакалыхваліся ад пякучае духаты зялёныя навалы прысадаў.

Завярнуўшы за сваё гумно, учуў звонка-тугаватае шахканне пілы і кароткі цюк сякеры: у канцы вуліцы перад Літаварамі жаўцеў яшчэ нізкі, у вянкоў пяць, зруб. Міронавы ўжо ставілі новую хату.

Паменшала, растапіўшыся ў сваёй гарачыні, высокае сонца. Зяхалі, схаваўшыся ў халадку пад саламяны застрэшак паграбка, надзьмутыя куры.

Толькі над сіваю пушшоваю мятаю ды ліловымі кветкамі смактухі каля плота гулі ўпадныя да работы пчолы.

Міця адчыніў брамку, устрывожыўшы жоўтага з карычневай шыяй пеўня, што стаяў на адной назе сярод надворка.

Выцягнуўшы на мяккім спарышніку босыя ногі, Алеся пат не азірнулася, сядзела каля горбы праpослых, высыпаных з ямы картопляў, абрывала доўгія, як пугі, храсткі. Кідала звялыя, ужо без соку, картоплі ў кошык.

Далей на надворку жаўцеў дзвюма горбамі жвіраваты пясок — між іх паблісквала вострым абшорганым дзюбком лапата, з яе гупаў, рассыпаючыся, сіняваты жвір. За пяском ляжала цэлая крушня назвожваных ■ поля каменняў.

Алеся страпянулася толькі тады, калі на яе набег кароткі Міцеў цень, спешна турзанула на каленях падцягнутую пукатым жыватом сукенку.

— Вой, гэта ты? — яна павярнула да Міці свой, у карычневых плямах, як на маладой картоплі скурка, падпухлы твар.— Я, як шлупацень стары, не чую.

— Так ужо састарэла,— засмяяўся Міця, але, прыглядзеўшыся, убачыў, як змяніўся і неяк папраўдзе звяў яе твар.

— А куда ж выстраіўся?

— У Дварчаны,— не даўся далей распытваць Міця і папрасіў: — Мо ты загнала б і падаіла карову.

— А бацька ж дзе?

— Каня пайшоў напытваць.

— Ага,— яна падняла сваю белую, дзюбком нацягнутую на твар хустку.— А ў мяне з галавы выскачыла. Гэта ж учора гаварыў...— і, падумаўшы пра нешта сваё, згадзілася ўжо.— Ну схадзі, ці ж цябе запыніш, я ўжо, можа, як-небудзь дам рады.

Міця падышоў да горбаў пяску, выцягнуўшы шыю, зазірнуў у глыбокую яму: там, наступаючы босаю нагою на загнуты край лапаты, Імполь чэрпаў пясок.

— Размахнуўся ты.

— Чаго там. На склеп і трэба. І для варэння, як робяць цяпер, каб куток быў, і для яблык,— шпурнуўшы жвірысты пясок, задраў голаў Імполь.

Міця пакруціў галавою — глядзі ты, які спрытны — і, ужо азіраючыся на Алесю, завярнуў на вуліцу, але ўдагон яму яна замахала рукою, падняўшы чорны, брудны ад картопляў, палец,ківала ім.

— Пачакай.

Міця трымаўся за новую ў старых весніках штакеціну, але веснікаў не адчыніў.

Алеся абтрасла з фартуха белыя, злінялыя ў цёмнай яме картапляныя фрэнзлі і цяжка, абапёршыся на абедзве рукі, устала.

Як тоячыся чаго і азіраючыся на жоўты пясок, падышла да веснікаў.

— Можа, у вас была?

— Хто?

— Ну, яна, гэтая выдра,— задыхнулася Алеся.

— Хрысця, ці хто? — зачырванеўся Міця.

— А хто ж яшчэ.... Кажуць, сёння лётала па вёсцы. Ці не да Ваўчковае зводніцы прыбягала?

— Не, у нас не была,— Міця ўгнуў голаў, каб не глядзець у выцвілыя, пуставатыя, што глядзелі недзе толькі ў сябе, Алесіны вочы.

— Мо вярнуцца хоча?

— Наўрад,— Міця ўспомніў, што нядаўна Хрысця сказала пры завоні.

— Ого, падлашчыцца яна ўмее. Але бацька дурны будзе...

— Не,— закруціў галавою Міця, успомніўшы і гутарку пра хрэсьбіны, і тыя новыя плёткі ў вёсцы, што Хрысця злюбілася з Імполем.

— Так сабе яна не прыбягала, ты не кажы,— Алеся павярнулася, босымі нагамі па мяккай калматай мураве і спарышніку нячутна пайшла да горбы перамешаных з пяском выбраных з ямы прарослых картопляў.

У Міцевых грудзях зашчымела горкае, пякучае шкаданне да Алесі — нервуецца, каб не сышоўся зноў Імполь [redacted] Хрысцяю. Няўжо праўда, што Хрысця прыбягала, каб не толькі паклікаць яго, няўжо ўлучыла час, каб убачыцца з ім, з Імполем.

Міця завярнуў дадому, праз свой садок спусціўся да рэчкі, дзе ляжала акоранае ды ачэсанае дрэва: верасаўцы ніяк не дабралі час зрабіць мост. Скіраваў на рыпучую кладку, каб ужо сцежкаю праз лес выйсці на старую дарогу, што бегла ў Дварчаны. У галаве бэрсаліся, вірылі мыслі: «Няўжо праўда, што Алеся атруціла нямую Еўку з старою Таквіляю? Няўжо?»

Міцю прыпомніўся жаўтлявы спакутаваны Алесін твар, цёмныя, як на маладой картоплі скурка, плямы, счахлыя, з нейкім стоеным жалем яе вочы — і не ведаў, даваць веры ці не.

Спаткнуўся на зарослай разоры даўно не аранага нішчымна-пясчанага поля перад ляском, што пахла гаркавата-мятным чаборам ды стракацела ад ясна-жоўтых кветачак валасніку, перабіў свае горкія «неразблытаныя» дагадкі.

Сточаная норкамі, у горбачках дробнага, як парахня, пяску, сцежка пабегла краем ужо замрэлага ад гарачыні, старога, залішавелага і перамешанага з ялаўцовымі кустамі чэзлага хвойніку.

Дзяркатая сарока, згледзеўшы Міцю, затрашчала, панясла навіну, высока не падымаючыся над маладымі сівавата-зялёпымі стрэлкамі хвоек.

Ясны дзень маладога лета, напаранага смалою, са-

прэлаю кастрыцаю лесу, а потым шэпт сівавата-зялёнага жыта пры дарозе — сцішылі Міцеву душу. У ёй мякка жыла толькі адна Чэся. І радасць стрэцца з ёю, убачыць яе ў гэты зыркі ад сонца, абвеяны маладым і цёплым ветрам, яшчэ не абпалены шчасцем свет.

Нешта таемнае, неспазнанае сціскала ад радасці Міцева сэрца.

Толькі ў Дварчанах, звярнуўшы за пераездам на шырокі, высланы плітамі ходнік, на які падаў круглы, як самыя кроны кожнае вясны падцінаных дрэў, падобных да стрэлак цыбулі з густа-сівымі кутасікамі цвету, цень, учуў ужо трапятлівы сполах і нейкую напятую, звінючую, як струна, сарамяжнасць.

Міцю пачало здавацца, што ўсё мястэчка, глухія, стоеныя ў прысадах хаты, сляпыя, з бельмамі фіранак вокны, глядзіць толькі на яго і ўсе стрэчныя людзі ведаюць ці дагадваюцца пра яго таямніцу, куды, чаго ён ідзе.

І, мінаючыся з імі, ён угінаў голаў ці адводзіў вочы.

Наровячы няўзнак падысці да Грабянкавага дома, завярнуў на пясчаную паштовую вуліцу — будні спакой душыўся і прэў на ёй, толькі разганяючы, што купаліся ў гарачым пяску, курэй, паскрыпвала інвалідская, з высокай спінкай, каляска, якую, круцячы спаднізу за прыпаяныя да веласіпедных колаў кружкі, каціў малады, жаўтлявы ў твары яўрэй — нерухомыя, аднятыя, мусіць, раматызмам ногі ўпіраліся ў дашчаную прыступку каляскі.

Міця пазнаў Хургінавага сына, што раней за яго скончыў Дварчанскую школу і недзе вучыўся далей, але нечакана захварэў, выкупаўшыся ў халоднай рэчцы і цяжка застудзіўшыся: ляжаў, казалі, у ложку пластом, нават ходзячы пад сябе.

Багаты Хургін, што трымаў пансіянат, дзе сталаваліся ўсе дварчанскія дачнікі і дзе не адно лета, покуль мястэчковая басота не ўкрала грамафон, быў сторажам Марцін Ваўчок, уклаў нямала коштаў, каб дактары ўратавалі і паднялі з ложка сына.

Параўняўшыся з каляскаю, Міця прыгледзеўся да маладога кучаравага хлопца — ён быў увесь сівы, жаўтлявая нездароўчасць і пакута застылі на поўным адутлаватым твары. Доўгія худыя рукі круцілі за прыпаяныя кружкі веласіпедныя колы: переваліваючыся з боку на бок, па няроўнай вуліцы бегла гэтая каляска з доўгім жалезным тормазам і высокай спінкай.

Міця яшчэ раз азірнуўся на хлопца-калеку — над шы-

рокаю спіккаю каляскі траслася пасівелая яго галава — і завярнуў за рог мігатлівага шчыкетніку: высокі, прыгожа выштукаваны, выфарбаваны, з аконцам у ашалёваным шчыце, ганарыста глядзеў Грабянкаў дом. Развесіўшы кучаравыя кроны над цынкаваю, памутнелаю ўжо страхою, пакалыхваліся, мякка гайдалі крывымі, пакручанымі, нібы спрацаванымі рукамі, сваімі лапамі старыя хвойкі.

Міця высунуўся з-за прывялых ад гарачыні кустоў акацый у зялёных лапатках струкоў і знямеў — збянтэжана адступіў назад: у прывязаным да шурпатых хвоек гамаку спакусліва бялелі ногі. Разгорнутая стрэшкай кніга хавала жаночы твар. Няўжо яна, Чэся? Міця не глядзеў туды, на гамак, але пякучаю маланкаю яго працяў нядаўні сон. Ён адкінуў зашчапку ў брамцы, знарок прыстукнуў.

Рука адкінула разгорнутую кніжку, і Міця ўбачыў распаўнелы сонны твар Чэсінай сястры.

— Скажыце, Чэся дома? — спытаў, не заходзячы ў брамку, каб ужо не сарамаціць знянацку застаную ў сне маладзіцу.

— Не, на рэчцы яна,— маладзіца прутка выцягнула, стуліла свае незагарэлыя ногі.— Нядаўна з нашай служанкай пайшлі...

У расчыненым акне махнуўся край фіранкі — адтуль высунуўся лысаваты, у туга нацягнутай на сытым целе саколцы, асаднік Грабянка, косым вокам змераў Міцю, але звёўшы выгараныя бровы, маўчаў.

— А дзе яны будуць там? — гукнуў Міця туды, да белага гамака, чуючы на сабе зірк Грабянкі.

— Недзе каля возера,— паднялася і панясла за сабою ў хату край фіранкі лысая галава.

У Міці з плячэй ціхенька аб'ехаў той чуйны страх, і нешта вольнае лёгка вынесла яго на вуліцу: ён быў рады стрэць Чэсю не тут, не пад падазроны зірк чужых вачэй.

Нядаўна прарэзаная праз лес, яшчэ не выбрукаваная шырокая вуліца бегла да возера. Пад калючымі растапыранымі лапамі хвоек хавалі свае новыя, у бліпчастых блёсках цынкавыя дахі выстраеныя са смалістых брусоў пад нямецкі вугол новыя дамкі. На другі бок вуліцы ў прывязаных да шурпатых хвоек гамаках пагойдвалі свае цела дачнікі, хаваліся ў цянёк, як куры, зяхалі ад сну, расцягнуўшыся на разасланых коцах, параздзяваныя чорна-валасатыя з сінімі вузламі жыл на худых нагах старыя дачнікі.

Каля шурпатых камлёў кружыліся, мільгалі белымі каптурыкамі і востра, як каўкі, наперабой крычалі малыя дзеці.

Сагнуўшыся над бярэмам назбіранага ў радзюжку ламачча, на Міцю падняла свой злы, звялы і высахлы твар старая Кайтаніха. Чырвонае, з адвіслым векам, слязлівае вока зрабілася вялікім:

— Во свет настаў. Чакай дабра.

Міця, не аказваючыся, пашыбаваў далей.

— На мужчыну голага яшчэ можна глянуць, а на бабу... Цьфу! Ну, дальбух, да чорта падобна, страхата бярэ. Во свет прыйшоў, як перад канцом пачало рабіцца.

Міця, звярнуўшы на слізкую ад кастрыцы сцежку, што завілася між сівавата-замшэлых камлёў хвоек, раптам спатыкнуўся на вузлаватых, у нарасцях белай смалы, выплеценых наверх карэннях: пры кусціку ялаўцу ляжалі дзве старыя, раздзетыя да сініх, пустых, як торбы, грудзей, насатыя дачніцы.

Як абліты варам, Міця завярнуў убок. Не азіраючыся назад, адкуль чуўся, здаецца, знаёмы голас:

— Міця! Змітрык!

Абліты ўжо варам сораму ды брыдкасці, завярнуў назад. За спіною, здэцца, гукалі: «Міця! Змітрык!» — але азірнуцца ўжо не пасмеў. Пастараніўся, сступіў са сцежкі, толькі ўчуўшы быстры, пруткі тупат ног. І як задыхнуўся каля пляча знаёмы голас:

— Міцек, ты што?

Збіты з тропу, нават не верыў, што перад ім стаяла Чэся: высокая, ледзь не роўная з ім, сінія вострыя вочы, той самы, крышку гарбаценькі, з раздвоеным дзюбком носік і тыя мяккія губкі з нарасцю і круга іх ужо раннія, як маладзік, дужкі.

— Кшычым, як апантаныя, а ён не слышы,— страсянула падгарэлаю, трохі злінялаю густою капою падрэзаных валасоў.

На другі бок вуліцы ў касаватым цяньку каля частаколу стаяла дзіцячая каляска, там хітра жмурыла ад сонца адно вочка і трасла касцяною бразготкаю Хрысця.

— Куды ты разагнаўся? — яшчэ ўсё задыхалася Чэся.

— Вас шукаць. Мне сказалі, што вы на возеры,— ён бачыў, як залацісты на ланцужку крыжык то хаваўся ў цянёк разрэза Чэсінай сукенкі, то выплываў зноў.

— А мы там і не былі,— Чэся выграбла з кучаравай пасмы валасоў карычневую ў чорныя кропкі божую ка-

роўку.— Можа, заўтра з'ездзім.— Яна паглядзела на гэтую пацерку, што паўзла ў яе па ружаватай зморшчанай далоні.

— Куды? — ён бачыў, як пацерка, дабегшы на падушачку яе пальца, растапырыла, падняла шкарлупкі крыльцаў.

— На Світазь. Ты ж пісаў. Я там ніколі не была.

— І я...— Міця ўчуў, як гарачыня недзе ў грудзей аблівае ўсяго. Ён будзе з Чэсяй. Сам-насам. Колькі ён перадумаў пра гэта. Сюды, да іх, між пазелянелых камлёў хвоек выкіравалася сіненькая дзіцячая каляска. З яе цягнула яшчэ няспрытныя ручкі адзетае ў жоўтыя байкавыя паўзункі, са з'еханай на адно вока шапачкай дзіця.

Жоўтыя паўзункі раптам пачалі макрэць — на іх расплывалася цёмная плямка.

— Вой ты, і не брыдка табе,— засмяялася Хрысця і папхнула наперадзе сябе каляску. Мо знарок, а мо незнарок, каб пакінуць сам-насам Чэсю з Міцем.

— Гэта праўда яна твая сястра? — Чэся азірнулася на Хрысцю.

— Ага,— зачырванеўся Міця.

— Бачыш, як яна спрыяе табе,— у куточку Чэсіных губ затрапятаўся шнурок маладзіка, і далей на пухлай шчочцы вытачылася ямка.

— А табе?

Чэся схавала вочы, ступіла ў пухкі пясок вуліцы, абмінаючы вузлаватыя і доўгія вужы вытачаных з зямлі карэнняў, прайшла колькі і прызналася:

— Люблю пясок. Люблю яго перасыпаць. З дзяцінства.

Гэтакаю пясчанаю, што пачыналася тут, каля Грабянкі, незабрукаванаю вуліцаю, дзе драмалі каля брамаў, паклаўшы на лапы галаў, лянівыя сабакі, яны выйшлі да каменна-ружовага млына, падобнага да старога касцёла з адбітаю вежаю. Туды на мост з мястэчка, схаваўшыся ў цяньку пераплеценых купчастых вербаў, падымалася выбрукаваная грэбля.

За ёю вецер хіліў бароды жаўтлявага аеру. У цёмным ад мулу жолабе спушчанага возера жывою, яшчэ не перарэзанаю жылкаю вілася і паблісквала рэчка. У вадзе, не зварухнуўшыся, скамянеўшы, стаяла чубатая шарая чапля.

З цёмнай праёмы адчыненых дзвярэй не мог вырвацца цяжкі тупаваты гук — у млыне нешта правілі, мусіць, пасякалі камень.

Яны спыніліся на мосце, пастаялі напроці абзелянелых і паабгрызаных лёдам у час паводкі слупоў, дзе цяпер сачылася і кіпела між каменняў рэчка.

Там далей, на жоўтым падточаным беразе, падымаліся старыя з круглаватымі, як шапкі старых грыбоў, кронамі сосны, з зеляніны бэзу, брызгліны выглядвалі, абапіраліся крыжавінамі на камлі хвоек падгніўшыя старавечныя крыжы, і адтуль, адбіваючы сонца, блішчала шкельца з нейчай картачкі.

— Ты ведаеш, чый гэта адсвечвае здымак? — прыжмурылася Чэся.

— Не,— пакруціў галавою Міця.

Яны прайшлі каля рабенькай ад ветру маршчыністай рэчкі. На іх злосна азірнуўся сухаваты, у белай шапцы рыбак, што стаяў каля бляшанай кругла-пляскатай банкі, і зноў прыжмурыўся на два жаўтлявыя, з акоркаў, паплаўкі, што дрыжалі на хвалях.

Далей, каля куста, з чырвонымі падпаленымі і аблезлымі спінамі рэзаліся ў карты местачковыя падлеткі.

Асцярожна праз маладую крапіву Чэся прайшла зводдаль іх і паднялася на грудок — недалёка за плотам каля старога дубовага крыжа, прыстаўленага да агрaдкі, падымаўся жоўты сасновы крыж. Блішчала за шклом фотакартка: паказваючы роўненькія шнуркі сваіх зубоў, усміхалася дзяўчына.

— Няўжо не пазнаў? — Чэся голымі рукамі абляглася на дашчаны плот.— Гэля Руткоўская.

Сюды танютка цягнуліся, блішчалі і рваліся шкляныя праменьчыкі. Прыжмурыўшыся ад іх мігатлівага калючага водсвету, Чэся спытала:

— Ты чуў? Яна ўтапілася.

— Як?

— Тры дні знайсці не маглі. Возера спускалі. На глыбшым шукалі, а яна на плыценькім месцы сярод аеру... Ужо нат усплыла.

Міця прыпомніў невысокую, з чырванаватым аблупленым носікам Гэлю Руткоўскую з іхняга класа і чамусьці прыгануў тое, як яна горка плакала, калі нехта з дварчапскіх бэйбусаў украў у яе кнігу, і паскудны, заўсёды насуплены, як вядзьмар, географ Шэпка не пусціў дадому ўвесь клас, launched перaтрос партфелі, лаўкі, але кніжкі так і не знайшоў.

— Дзіця ў яе нарадзілася,— па густой, прылёгшай грывамі траве Чэся пайшла ўздоўж плота і спусцілася

зноў да рабенькай, зморшчанай ад ветру вады.— З бальніцы ішла... Кінула дзіця пры сцежцы, а сама...

— З гора? Што дзіця без бацькі?

Міцю сляпіла разарванае, бліскучае сонца. Па алешніку, па шырокім лісці яго беглі і кружыліся водсветы.

— Замужам яна была. Гэта ад хваробы. Пасляродавая гарачка называецца.

Яны мінулі чорныя высокія алешыны, мураваны дамок помпы, дзе чмыхаў, набіраючы ваду для дварчанскай станцыі, паравічок, і спыніліся каля жалезнага, у шурпатых гузіках наклёпак моста, што злучаў два высокія закурэлыя насыпы калеі.

Нібы чапляючыся за зялёную, яшчэ не расцвіўшую піжму, на насып падымаліся дашчаныя сходы з хісткай парэнчай.

— Ну, добра, Міцек,— роўненька склаўшы свае пальчыкі, Чэся падала яму руку.— Значыць, заўтра. Ты чакай мяне каля аўтобуснага прыпынку.

Чуючы, як дрыжыць, трапечацца сэрца, Міця сціснуў і знарок пацягнуў да сябе яе вузенькую халаднаватую руку.

— А што пра сястру сказаць хацела?

Яна, скоса зіркнуўшы на Міцю, падцяла сваю ніжнюю губку з глыбокім, як нарасць, шнарком:

— Хто там у вас? Ну ў вёсцы... Каханы ў яе ёсць?

— А чаму ты пытаеш?

— Так сабе...

Міця жахнуўся, успомніўшы тое, што чуў у Верасаве ад другіх. Пра Імполя і Хрысцю.

— Значыць, заўтра... На першым аўтобусе.

Ён апомніўся, калі, усміхаючыся, яна ўжо адыходзілася ад яго — з правага боку рота, за двума пярсцёнкамі шнаркоў, у яе задрыжала мяккая ямачка.

— Ну да забачэння,— яна трасянула залацістымі ў стручках завіткоў, выгаранымі валасамі.

Ён, маўчучы, цікаваў, як яна ішла па камяністай між сівае, закурэлае пылам травы завілістай сцежцы. Белая ў сінія балонкі сукенка туга перахоплівала яе ў пояснціцы, пругка ступалі загарэлыя ногі, мільгалі ружаватыя ў басаножках пяты. І яму зноў успомніўся той нядаўні сон, калі яна з такім мілым смяшком аддалася яму, у Пытлевай хаце на ложку за плітою, дзе была верасаўская вечарынка.

Ён, ап'янелы ад нечаканай пакутнай радасці, глядзеў

на Чэсю, думаючы, як будзе сёння цэлую ноч не спаць, чакаючы раніцы, калі яны стрэнуцца зноў.

«Не, ёсць на свеце шчасце, ёсць — нават гэтак здалёк глядзець на Чэсю»,— падумаў ён, заварочваючы да рэчкі, і цяжкая тугая вада, на якой трапяталася разарванае сонца, прыганула зноў, напомніла яму пра Гэлю Руткоўскую.

Няўжо шчасце кароткае, няўжо яго няма для ўсіх? А мо ні для каго? Няўжо яно абернецца пакутаю, мукаю, бядою, як абярнулася для Алесі?

Няўжо і для яго?..

Глыбокая жаўтлявая вада лізала зялёную, у белых кветачках грыву расы, кружылася далей пад абрывісты надломлены бераг мутна-сіняватым, невідушчым вірам.

Міця адступіўся ад берага, азірнуўся на жвірыстую, закурэлую сцежку каля высокага насыпу чыгункі — Чэсі ўжо не было відаць,— і свет нечакана схмурнеў для яго.

## X

Як цяжкая крыга лёду, адкалоўшыся ад берага, паплыло і закружылася, каб не вярнуцца ўжо назад, Корсакава жыцце. І чым далей яно плыло, тым больш крышылася і раставала. Згледзець не паспеў, як нахапілася старасць. Спадцішка, нібы сыпкі бераг, аб'ехалі, асунуліся спрыт і сіла. Забыўшыся, іншы раз возьме падняць той мех, што паднімаў раней, і не здужае, асядзе. Цяпер і ў люстэрка наравіцца глянуць: не пазнае ўжо сябе, пасівелага, з белаю, як асколкі шкла, шчацінаю, звялаю, з'едзенаю зморшчынамі шыяю, схуднелым тварам і запалымі вадзяністымі вачмі. А Караліна як была, так асталася маладою. І што ні зірне на цяперашнія маладзіцы, то нагадваецца яна, Караліна. Прыгледзіцца да якое ружовенькае з твару, крамянае, мякенькае, і з вясёлым смехам, і ўсімі цэленькімі зубамі, здэцца, і жаніўся б... А на равесніцу ўжо ўзглянуць не можа. Мінула, прайшло жыццё.

Бачыў гэта не на сабе, а на тых блізкіх людзях, з кім таварышкаваў, з кім у пору кавалерства абабег не адну блізкую і далёкую вёску, заварочваючы ўсё найбольш у Ведравічы, да свае чарнява-танюткае Караліны. Прыгожая сярод дзяўчат, высокенькая... Праўда, Негнявіцкі Васіль, з кім хадзілі разам, нават гідаваў з Уласа Корсака: «Ну якая гэта дзеўка? Ценькая, ліха ёй. Пернагні, дак зломіцца, як тая дубальтоўка. Во мая — невялічкая, мякенькая, як булачка, і рухавая, як кузюрка».

Але тую кузюрку ў Васіля нехта адбіў ці сама перашмыгнула да багатага дварчанскага кавалера, выскачыўшы нечакана замуж. Васіль пасля гэтага падбіраў усё гэткую маленькую ды гвіжлівую, як ён казаў, кузюрку, ды так і застаўся нежанатым да сённяшняга дня, жывучы спярша пры мацеры, а потым ужо адзін.

Яны з Корсакам — равеснікі: у год, нават у адзін і той жа месяц радзіліся. Па гэтым Негнявіцкім Васілю Корсак Улас і бачыў, як старэе сам. Хоць Васіль і не выдаваў на пяцьдзесят сем — мажны, ружовы і каб хоць адзін сівы волас. Яшчэ летась, сустрэўшы ў Дварчанах Уласа Корсака, падбіў пабыць за свата. Халера на яго, як потым аказалася, гэта была толькі зачэпка, каб зайсці да дварчанскае дзябёлае Казакевічыхі, што трымала часальню: у старым цагляным дамку стаялі дзве старыя, што круцяць рукамі, машыны.

Корсак, не падазраючы, што гэта хітрыкі, згадзіўся зайсці. А там ужо і для яго знайшлася нейкая ўдава. Потым Корсак даведаўся, што яе мужык п'яны, абкрадзены на вакзале грузчыкамі Кулемінамі, кінуўся пад поезд. Яму адрэзала дзве нагі, і ён ужо дайшоў недзе ў бальніцы.

Доўга злаваў Корсак за гэты жарт на Васіля — якія тут кабеты ды жаніцьба. Нешта як пераламалася ў Корсакавым жыцці: змерк, скаламуціўся свет, нязносны зрабіўся, хоць рукі на сябе накладзі.

Некаторага дня зайшоўшы да Мондрых ды прысеўшы на калодцы пасярод надворка, нават Алесі пажаліўся:

— Мусіць, памру я, ці што?

Алеся страпянулася, прыкрыла рукамі жывот, саромеючыся сябе, цяжарнае, перад бацькам:

— Тата, што ты ўдурбаў сабе!

— Удурбаў,— Корсак нат зазлаваў.

А цяпер здарэнне, прышчака з канём. Каторая пара як сам не свой Корсак: паспрабуй купі другога. За якія кошты?

Да тых трохсот злотых, што ляжалі на пошце, Корсак дадаў яшчэ пяцьдзесят, пазаўчора, прадаўшы цялушкупярэзімка. Лічы, за бясцэнак. Нават прыбягала сварыцца Алеся:

— Здурэў бацька, усю гаспадарку за каня аддасць.

— Ідзі лепш, не крычы, не падлазь пад гарачую руку,— крутнуўся Корсак, бо калі вазьму які млёп...

Брала брыдкасць за ўчарашнюю сварбу і злосць па Алесю, і Корсак панура, нібы стары каршун, сядзеў на

возе, глядзеў, як спорна і подбегам, махаючы ў такт хадзе вялікаю вушастаю галавою, ішоў чарнявы, невысокі Вайтовічаў конік.

З грудка, дзе напіралі калёсы, ён пабег сам.

— Ну, бяжы, бяжы, каб ты здароў быў,— падцмокваў языком і касіў набок адным вокам дзюбаносы, падобны нечым да пеўня, Янка Вайтовіч.

Поруч з ім у палукашку, напіцаваным укошанай сырадэляй і засланым свежаю радзюжкаю, трохі адхіліўшыся набок і звесіўшы голаў, сядзеў Корсак Улас.

Каб не пратаргавацца ды не купіць якую наравістую здыхату, у Погіры, дзе гаспадары гадавалі на развод і на продаж коней, Улас Корсак упрасіў з'ездзіць Янку Вайтовіча.

Выехалі яны з Верасава трохі прыпазніўшыся — Корсак сам хацеў упарадкаваць усё ў хаце — і цяпер млелі ад гарачыні. Раніца была без расы — зноў на суш, і зноў малое, падслепаватае сонца ліло на зямлю сляпучую яснасць. Ад яе пачыналі млець лапушыстыя, акучаныя ды абагнаныя картоплі, прыгінала каласы, наліваючы зярняткі, сівавата-зялёнае, трохі ружаватае жыта, што надоечы адкрасавала, і толькі ў вочы свяціў, распусціўшы кветачкі і купаючыся ў гарачыні, ценькі лён. Ён згорне свае кветачкі пасля таго, як сонца схіліцца на вечар.

Перабегшы лагчынку, Вайтовічаў конік скіраваў па вялікую, цвёрдую сценку каля замшэлых, як старая саламяная страха, вялікіх каменняў. Сонца, сухое і гарачае, запякло Корсаку ў шчоку. Ён зажмурыўся і яшчэ больш угнуў голаў.

— Го,— закрычаў Вайтовіч,— ці не заснуў ты тамака?

Корсак нехаця расплюшчыў ужо і праўда зморапыя блізкім сном вочы.

Каля высокага старога ялаўцу дарога ўтапілася ў зыбкім, гразкім пяску — за яго жоўтай плешынай пачыналася вёска, з-за саламяных стрэх востры вільчык падняла крытая чарапіцай хата з выкладзенымі вялікімі чырвонымі лічбамі «1939».

Вайтовіч завярнуў на вузенькую, двум вазам ці размінуцца, брукаваную, заляпаную каровінымі аладкамі і непадмеценую вуліцу.

Спыніўся каля новае, з забітымі і яшчэ не ўстаўленымі вокнамі хаты; да яе прыперлася, з пабеленай сцяною і саламяным замшэлым лобам страхі, нізенькая хатка. Цём-

ныя, у чатыры балонкі вокны глядзелі на калодзежны жураўель, што звісаў над зрубам.

— Тут, ці што? — перапытаў Вайтовіч, спыняючыся якраз напроці калодзеся.

Конь, мусіць, занываючы ад смугі, пацягнуўся да пустога вядра, што пагойдвалася над зрубам.

— Зараз, чаго ты, астынь трохі,— загаварыў Вайтовіч да каня, першым перакідваючы нагу праз драбінку і саскокваючы з воза.

Корсак адчыніў брамку, знарок моцна, каб чулі ў хаце, гупнуў ёю, але адтуль ужо бегла немаладая кабета:

— О, даражэнькі чалавек,— нібы ўстрывожылася, убачыўшы Корсака, немаладая, са шчарбатымі зубамі кабета,— а мы ўжо вас не чакалі.

— Чаму? — здаецца, без ніякага інтарэсу спытаў Корсак.

— Вы тады нічога пэўнага не сказалі.

— А што я меўся сказаць?

— Ну, будзеця купляць каня ці не.

— Яшчэ трэба раз зірнуць,— Корсак спыніўся каля пізкае страхі старое хаты.

Вайтовіч, налёгшы на рэдкія круглыя калкі ў плоце, цікаваў у гародчык, дзе ў кветніку, распусціўшыся, красавалі белыя і ліловыя флёксы і распусціліся бурачковыя півоні — знак, што ў хаце ёсць дзеўка. Ён і спытаў пра гэта:

— Цётка, дзевак у хаце шмат, пэўна?

— Адкуль угадаў?

— Ды во па кветках.

— Чатыры аж,— сказала старая.— Селядоршай, што прымака ўзяла, хату стаўляем.

— Я гляджу, дамок як звон.

— Ды неблагі. Усе жылы выцягнуў. Не з багацця каня прадаём.

— Сабе нічога на развод не пакінулі? — міргнуў вокам Вайтовіч.

— Не, чаму, жаробку.

— А кажаце — жылы,— адвярнуўся Вайтовіч, цікуючы ў акно, там паварочвалася круглатварая бялявая маладзіца.

— То дзе ж гаспадар? — Корсак быў ужо ступіў да дзвярэй.

— Акраз во каня і павёў па балотца.

— А дзе ж яго там знайсці?

— Ды во ідзеця надворкам, туды пад рэчку, там і будзе ён.

За хлявамі, за гумном між картопель, над якімі падымаліся папрывязваныя да калкоў яблыні-ўшчэпы, вытыркнуў з-за грудка зялёныя вяршкі малады цёмна-густы алешнік.

— Туды, туды ідзеця,— крычала ззаду гаспадыня, стоячы каля гуменца, што замшэлаю страхою напаўзала аж на картоплі.

Вайтовіч першым пайшоў свежым ад капытоў следам, але завярнуў убок з дарогі, што бегла тут за гумнамі.

— Мы наўпрасты спусцімся, чаго там,— махнуўшы галавою, ён пачаў спускацца з лабатага грудка, блытаючыся ў ценькай, з падсохлымі каласкамі, зуброўцы і ў ясных агоньчыках сардэчніку.

Корсак, упіраючыся абцасамі сваіх ботаў і апусціўшы доўгія рукі, асцярожна лез туды, у густы, зарослы крапівою ды жывакостам алешнік. Далей адсвечвала сінявата-радужнаю плеўкаю ржавая балотная гразь.

— Усунуўся бог ведае куды.

— Кладка во,— крыкнуў Вайтовіч, стоячы ў высокай, ледзьве не па пояс, балотнай траве.

Корсак, услед за ім пераходзячы слізкія, чорныя і гнілыя дошкі, пакаўзнуўся, уступіў нагою ў крынічку, урабіўшы бот у рудаватую тлустую гразь, і, прытупваючы ім, злаваў:

— Пайдзі за табою.

Вайтовіч, задзёршы галаў, узіраўся за купку маладога алешніку, жмурыў вока.

— Што там?

— Конь твой. Стары вунь спутвае.

І праўда, каля каштанавага з чорнай грываю каня сядзеў чалавек, скручваў у яго на нагах вераўчанае пута.

Падцяты мухамі ды аваднямі, конь неспакойна турзаўся.

— Стой, ну каму кажу!

— Здалёк як зірнуць, то конь добры. Чаго там,— сказаў Вайтовіч, азіраючыся на Корсака і першым падыходзячы да гаспадара, што, ужо ўстаўшы, прыкладаў да вачэй далонь, цікуючы проці сонца на незнаёмых ды чужых людзей.

— Што, не пазналі? — адазваўся Корсак.

— Не,— пакруціў галавою стары. На яго шчоках адрастала сівая, няголеная шчаціна.

— Я той самы чалавек з Верасава, што прыцэньваўся да вашага каня.

— А-а,— нарэшце ўспомніў гаспадар і крыва ўсміхнуўся.— А я сабе думаю, што гэта за людзі ідуць.

— Ды я, бачыце, удвох,— Корсак дзеля лагоднасці, далікатнасці і каб, мусіць, лепш ішлі справы з торгам каня, падаў старому руку.

— Дак глядзеця,— стары паказаў яшчэ дужаю і тоўстаю, як кавальскаю, рукою на каня.

— А што, па вушах бачу, што ён не гультай,— зноў у лад старому сказаў Вайтовіч.

Конь, нібы ўчуўшы, што пра яго ідзе гутарка, адвярнуў храпу ад травы, косячы ліловым вокам на мужчын.

— Во, і вока не косае,— Вайтовіч падышоў бліжай, але конь нібы турзануўся.— Пужаецца, халера,— узяў каня за грыву, падняў яго галаў.

Корсак стаяў зводдаль і любаваўся сытым, што аж паліскаўся, яшчэ не спрацаваным канём.

Вайтовіч, задраўшы сівую аксамітную губу, цікаваў у ззелянелы ад травы конскі рот.

— Колькі яму? — абярнуўся да гаспадара Вайтовіч.

— А ты ўгадай. Па зубах жа ж пазнаюць, скока каню год,— засмяяўся стары.

— Бываюць барышнікі, што і ямачкі ў зубах выпякаюць.

— А ты што, адлічыць не можаш, дзе фальшывыя ямачкі, а дзе не?

— Я чуў, смаляке бываюць, што не вельмі з'ядаюцца.

— А калі, ліха яму, мае нораў жолаб грызці,— засмяяўся стары,— дак пазнаеш ты яго. Ён жа ж будзе выдаваць старшым, чым ест.

— А колькі ж вашаму?

— Ну дак ты ж у зубы глядзеў,— засмяяўся гаспадар, зрабіўшы рукою брылёк і цікуючы з-пад яго.

Вайтовіч, нагнуўшы каню галаў, абмацваў холку, раскідаў грыву, прыглядаючыся, ці няма каросты, нацёртых на карку мазоляў да балячак. Нарэшце прысеў, распутаў і, трымаючы за грыву, павёў — спярша ціхім крокам, потым подбегам.

Конь, крышку наровячыся і косячы злым, сінявата-вялікім вокам, шустра бег поруч з Вайтовічам, лёгка выкідаючы пярэднія ногі.

Корсак узіраўся на гэтага спрытнага сухаватага каня, бачыў, што не благі, жыткі ў хадзе, вясёлы, але нешта чу-

жое было ў ім для Корсака, і ён ужо думаў, ці зможа прывыкнуць да яго.

— Конь, як чалавек,— у такт яго мыслям сказаў гаспадар.— Каб знаць яго натуру, трэба з ім трохі пажыць.

— Гэта праўда,— пагадзіўся Корсак.— Я во не магу адвыкнуць ад свайго каня.

— Дзіва што,— махнуў старою пляскатаю кепкаю гаспадар.— Да каня лепш прывыкаеш, як да чалавека.

— Майму быў восьмы год... Ашалеў.

— Як? — здзівіўся гаспадар.

— Сабака ўкусіў, ці што.

— І не выратавалі?

— Позна агледзеліся,— угнуў галаў і спахмурнеў Корсак.— Прыйшлося жыўцом закапаць.

— Што ты кажаш, чалавеча.

— Такі конь быў, такі конь,— Корсак адвярнуўся, учуўшы, што на вочы набягаюць, наварочваюцца слёзы і перад ім заплывае, затуманьваецца свет.

Вайтовіч яшчэ доўга муштраваў каня, то садзіўся вярхом, прыслухваючыся, аглядаючы, як конь ідзе ступою, трухам і бягом, зноў адкрываў сіваватую ніжнюю губу, узіраючыся на ніжнія жаўтлявыя зубы, то абмацваў пахвіну, то вузлаватыя калені, аглядаючы капыты і стрэлку, покуль не знайшоў ганьбу, убачыўшы на пярэднім калене нарасць.

— Я такі і гляджу, што ён нібы кульгае.

— Выдумаў чалавек,— адскочыўся ад Корсака і раптам пабег туды да Вайтовіча гаспадар.

— Чаго выдумаў? — задраў галаў Вайтовіч, стоячы каля каня і трымаючыся за конскае, з нарасцю, пярэдняе калена.— Нарасць во, укалечыўся недзе.

Сюды падышоў ужо Корсак, таксама прысеў каля Вайтовіча.

— Па гэтай нарасці, я табе скажу,— махнуў рукою гаспадар,— такога каня я за пяцьсот злотых прадам.

— Не вельмі і прадасі, калі брак ёсць.

— Які брак?

— І праўда. Нарасць во. І з чаго яна? — ужо спытаўся Корсак, таксама абмацваючы пярэдняе конскае калена.

— Некалі жарэбем на мосце ў дзірку між маставін ногу ўсадзіў,— адвярнуўшыся і не гледзячы на Корсака, прызнаўся гаспадар.— Каб не нага, то ведаеце, колькі я за яго ўзяў бы.

— Ну, сколькі?..— абмацваючы каню машонку, каб, мусіць, не купіць нутраца, спытаў Вайтовіч.

Пазіраючы, як прыдзірліва аглядаюць каня, гаспадар, трохі ўжо трапяткі ад злосці, крыкнуў:

— Ты ўжо тань, ды тавару не гань... Злотых пяцьсот ён варт.

— Э-э, паночку мой! — Вайтовіч адышоўся ад каня, косым вокам здалёк ужо ацэньваючы яго.— Давалі і болей, як выбракоўвалі для войска, але там глядзелі ўжо, каб не конь, а лялька была. Склад, зграбнасць былі... А ты за гэтага лапавухага...

Гаспадар яшчэ пакіпеў каля ўедлівага, куслівага на слова Вайтовіча, а потым аціх, нібы зацяўся ад злосці, але цану ніжай не спускаў.

Толькі ўжо ў двары каля нізкага, што прысела ў картоплях, гумна раптам азірнуўся на Корсака і, трымаючы за вуздэчку каня, пагладзіў яго па шыі:

— Ну добра, дваццаць пяць злотых я скіну.

Вайтовіч, рады, што ўсё ж дамогся свайго, адвярнуўшыся і закрываючыся рукою, хітра ўсміхнуўся і штырхануў Корсака ў бок.

Корсак здагадаўся — чаго: у возе, у прытоптанай сырадэлі, ляжала Корсакава торба з кавалкам сухенькай паляндвіцы і бутэлькаю «жандаровай» — барыш Вайтовічу, што памагаў купляць каня.

— Ну дак, можа, зойдзем у хату, паснедаем,— стары адчыніў і з рыпам папхнуў у прорву сяней цяжкія дзверы.

Корсак борздзенька заспяшаўся да воза па сваю торбу.

У нізенькай з маленькімі вокнамі хаце на гліняным току, з якога мутнавата паблісквалі камені, шчыльна, адзін пры адным, ціснуліся ложкі. Большы, з вытачанымі біламі, быў засланы прыгожаю, у чырвоныя крыжыкі радзюжкаю. Каля яго, завешаная злінялаю сіняю хусткаю, вісела плеценая калыска — там, мусіць, спала дзіця.

— Дзень добры ў хату! — згледзеўшы калыску, ціхім, здушаным голасам сказаў Вайтовіч.

Раздабрэлая маладзіца ў паркалёвай у цёмную елачку сукенцы, ад якое стракацела ў вачах, спешна выцірала стол. Старая, падтрымліваючы спадыспаду, несла туды стос накрытых настольніцаю, мусіць, пухкіх грэцкіх аладак.

Стары зняў з лысаватай галавы і, махнуўшы, зачапіў за цвік у сцяне сваю рабенькую кепку, першым прысеў на шырокай лаве пры стале:

— Дак садзецеся, чаго там.

Корсак, закапаўшыся ў сваёй торбе, выцягнуў бутэльку, з гонарам прыстукнуўшы, паставіў яе на стале.

Пабліскваючы ад радасці галоднымі вачмі і ўжо чуючы блізкі смак гарэлкі, праз заслон перакінуў сваю нагу Янка Вайтовіч.

Гаспадыня яшчэ прынесла, падстаўляючы пад гарачую папіву тоўстае днішча, перасохлую ўжо ў печы яечню: але пухлыя, нібы перавязаныя ў паяску любовым мясам, скваркі салёнага леташняга сала гналі ў згаладалых мужчын слінку.

Пачалі снеданне моўчкі, але пасля другое чаркі, сагнаўшы і хэнць да яе і трохі спатоліўшы голад, мужчыны разгаварыліся — гутарка пацякла, як вада.

Зыркаючы на Корсака вадзяністымі асалавелымі вочкамі, захмялелы гаспадар ужо гаварыў, паказваючы на маладога з чорнымі густымі бровамі прымака, што ўвайшоў у хату:

— Во, для яго стараўся... Гэткі будынак, ці жарты.

— А колькі ж, дзядзька, аддалі? — драпаў сваё лысаватае, зацярушанае толькі пушком рэдкіх валасоў цемя хітры Янка Вайтовіч.

— Ды як задарма — дзве тысячы злотых. А самому як вытрываць. Спрадаў усё. Але вам угадзіў, такога каня прадаўшы,— ён павярнуў свой дзюбаносы, чырвоны, як з-пад полымя, твар да Корсака, але на яго гутарку аказаўся зноў Вайтовіч:

— Гэ, кожны сваё хваліць.

— Хоць я і не цыган, але чаго маю ганіць,— стары скруціў трубою аладку, макнуў у тлушч.— Адным словам, добры конь. Спамінацьмеш.

Тут, у нізкай хаце з прыклеенымі да бэлек, доўгімі і чорнымі ад мух, ліпучкамі, Корсак маўчаў, але, захмялелы не столькі ад скупога кілішка гарэлкі, колькі ад радасці, што нарэшце-такі купіў падхадзяшчага каня, разгаварыўся ён ужо дарогаю.

— Ты кажаш, я не прагадаў? — седзячы спіною да Вайтовіча і ўзіраючыся на прывязанага повадам да воза свайго купленага каня, каторы ўжо раз пытаўся ён.

— Гэ, я кажу,— чмыхаў у свой наздраты нос Вайтовіч.— А ты сам што, не бачыш.— І лагаднеў, гаварыў спакайней: — Выгадаў, нябось.

— А з грашыма як? Лішняга не ўпаліў?

— Ды мы ж на дваццаць пяць злотых збілі цану,—

падхваліў сам сябе Вайтовіч.— Стары думаў, нас ашукае з гэтай нарасцю, фігу!.. Во!..

Сказаўшы пра нарасць, Вайтовіч схамянуўся, што ўнаравіў якраз растрывожыць Корсакаву балячку. А яна ўжо нейкай пякучай гарачынёю абліла Корсакава сэрца, што ўсё ж такі ашукаў яго той лісліва гаспадар, прозвішча якога Корсак блытаў з мянюшкаю: ці то Бурак, ці то Чырвоны.

Корсак зажмурыўся ад нізкага, паласкавелага пад вечар сонца. Адвярнуўся ўбок, гледзячы на загоны яшчэ нізкага аўса, сцішнага жыта, у якім недзе блытаўся, аддаючыся рэхам, ляскат і скрып калёс — на другі бок дарогі падняўся цёмны высокі чубок хвойніку.

За жытам у разрослых садках, пад навіслымі бярэзінамі хаваліся хутары і цёмна-зялёныя, старыя, што кружыліся і забягалі адна за адну, дзікія карчыстыя грушы на межах.

Высока ў спалавелым ад гарачыні небе крычалі, давіліся ад крыку, гонячыся за ястрабам і набіраючы вышыню, вароны.

Корсак нехаця-абыякавым, застылым зрокам глядзеў туды, у неба, на гэтую бітву варон з ястрабам, і яго брала дзіва: які ж спакой будзе між людзьмі, калі яго няма між пташак.

Мінулі ўжо ведравіцкае поле, выехаўшы на ялавіну, зарослую валасніком. Чуючы блізкі вечар, згортваліся махрыстыя жоўтыя кветачкі, што ясна цвілі зранку. Толькі гэтаксама пахла гаркаватым густым чаборам і растопленаю смалою з маладога сіваватага хвойніку.

Дарога, перапоўзшы гразкі пясок, каля высокага стаўбунаватага ялаўцу ўбегла ў напалены, нагрэты за дзень верасаўскі лясок. З зямлі выварочвалі свае спіны ў жоўтых і сівых кветачках лішаю вялікія, пазарастаныя і нікім не чапаныя тут у лесе камені. Каля аднаго густою зялёнаю выспаю разаслаўся мучарнік.

Уласу Корсаку зноў прыпомнілася, як яны разам з Каралінаю прыходзілі сюды, у невялічкі і марны верасаўскі лясок, ірваць гэтае падобнае да бруснічніку зелле. Ён, Улас Корсак, і думаў, што гэта бруснічнік.

«Не, Улас,— яна брала, развязвала радзюжку, выцягвала за каранёк і выблытвала доўгую пляцёнку зелля.— Бачыш, як сцелецца. Гэта — мучарнік, а брусніцы па адным каліўцы растуць».

«Ці я ведаю»,— рагатаў Корсак.

«Мучарнік,— гаварыла яна.— Лякарства ад нырак».
«А ты ж казала, што фарбаваць будзеш».
«А я і праўда нарвала, каб пасля сажы ў яго адвары намачыць пражу».
«І што?» — помніць, смяяўся ён.
«Чорна будзе, аж блішчацьме. Сукно прыгожае вытку. Бурку табе пашыем».
Але бурку ён шыў без яе, без Караліны.
Заняты мыслямі, Корсак і не змеціў, што яны пад'ехалі да пераезда. Блізячыся, чахкаў нядужы паравозік, тонкім свістам гукнуў, не дайшоўшы да пераезда, і Корсак убачыў, як страпянуўся і захроп, падымаючыся на дыбы, яго конь.
Корсак схапіў за повад, пацягнуў да сябе — цуглі рэзалі разяўлены ў зялёнай пене конскі рот.
— Трымай, трымай! — азіраўся і крычаў Вайтовіч.
Пыхкаючы параю, сюды, на пераезд, ляцеў чорны нядужы паравозік. З шырокага, як шпуля нітак, камінка чмыхаў і падаў, разыходзячыся над полем, белы дым. Убачыўшы спуджанага каня, з акна высунуўся чорны мурзаты машыніст, выскаліў ад радасці белыя зубы і, параўняўшыся з фурманкаю, турзануў за драціну над сабою.
Кароценькага нямоцнага свісту было даволі, каб Корсакаў яшчэ невядомы на нораў конь ад страху брыкнуў абедзвюма нагамі і крута, падымаючы голаў, турзануў, але балазе не парваў сырамятны повад.
З воза скоранька зваліўся і схапіў каня за аброць, ірвучы цуглямі мяккі рот, Янка Вайтовіч.
Дзеля забаўкі паравозік ізноў прысвіснуў, пускаючы над сабою белую пару, але балазе быў далёка.
Перапуджаны конь дробна дрыжаў, і ад нагнанага страхам поту ў яго макрэла гладкая спіна.
— Ну, чаго ты, чаго? — ласкава гаварыў да яго Корсак.
— Баяўся б і ты, каб першы раз убачыў паравоз,— крывіў адну губу Янка Вайтовіч.
— А што, пэўна, і не бачыў,— сказаў Корсак.
— Мой ужо во, нагледзеўся ўсяго, і паравозаў, і самаходаў, а ўсё адно крышку наровіцца, стрыжэ вушамі,— Вайтовіч шлёгнуў ляйчынаю, прыцмокнуў языком і пайшоў збоку воза.
Перад крыжам, на якім яшчэ вісеў сухі бярозавы вянок, павешаны на сёмуху, з воза ссунуўся і Корсак Улас. Пакульгваючы на заседжаную ногу, сваімі цяжкімі яла-

вымі ботамі гроб у дробным рэдзенькім спарышніку сухі пылок.

Прыскальваў адно вока, цікаваў туды, пад Мондравых хату: там, у халадку пад плотам, падымаліся прыморанья сном і вылежаныя за доўгі нядзельны дзень верасаўскія мужчыны.

Ужо вёска ведала, што Корсак Улас разам з Вайтовічам паехалі ў далёкія Погіры купляць напытанага ды прыцэненага каня. І цяпер кожнаму было цікава, ці ўдаўся торг і што Корсак — спраўны і спрытны да ўсяго гаспадар — усё ж такі купіў.

Насоўваючы ніжай на лоб зашмальцаваны, ужо вышмарганы пальцамі аж да дзіркі тонкі брылёк кепкі, першым насустрач фурманцы, што грэзла ў глыбокім пяску вымытага паводкаю раўка, высунуўся Ікон Жыток. За ім, жмурачыся проці нізкага сонца, ішоў і падцягваў свае шырокія ў паясніцы порткі, Язапат Змысла.

— Ого! — крыкнуў ён здалёк, не прыждаўшы, покуль пад'едзе бліжай фурманка.— Конь, як кажуць, на ўсе сто.

Корсак насупіўся, затнуўся, чакаючы роспытаў, але за яго адказваў, зманваючыся і дзеразуючыся з верасаўскіх мужчын, Янка Вайтовіч:

— Ага, за сто і купілі.

— Гародзіш ні зіму ні лета.

— Не дуры галавы,— не паверыў, махнуў угору зашмальцаваным брыльком Язапат Змысла.— Такога каня.

— Чаму ж, маглі купіць, калі брак у яго ёсць,— сказаў здалёк з-за чужых плячэй Ікон Жыток.

Фурманка параўнялася ўжо з Мондравым шарым, аблушчаным частаколам, дзе, збіўшыся ў купку, стаялі верасаўскія мужчыны, праціраючы заспаныя вочы, бо той-сёй нават быў прыдрамаў у халадку пад плотам.

— Ого, спраўны конь.

— Ды з выгляду — лепшы, як быў.

— Дый не горшы.

— Ну гэта ўкажа час.

— Які гаспадар, такі і конь.

Нехта ўжо стараўся падхваліць Корсака, каб тут жа спытаць:

— Так скока ж каштуе?

— Трыста, як лёду,— азірнуўся Вайтовіч.

— Я ж і гляджу, такая жывіна,— Язапат Змысла яшчэ падбег за фурманкаю.

Улас Корсак так і не адазваўся — ведаў, што ўсё роўна без абгавораў не абыдзецца, бо ў Верасаве мелі нораў абмовіць ды і абсудзіць усіх, пачынаючы ад хрысцін да вяселля і жалобнай вячэры, абмаўлялі ўсё, што чалавек ні купляў, што ні еў, усё пераменчвалі вострыя языкі верасаўцаў.

Напроці свайго гумна Корсак адвязаў ад воза сырамятны повад, узяўшы за вобраць, скоранька павёў каня, каб схавацца ад чужых завідушчых вачэй.

Гэтак, не выпускаючы вобраці, завёў у хлеў.

Конь, учуўшы чужое, хоць вычышчанае ад гною і нанава засланае, стойла, спуджана захроп, ірвануўся назад, падбіраючы пад сябе заднія ногі, уставаў на дыбы. Корсак, пахаладзелы ад страху, вострымі муштукамі падцяў яму рот, асадзіў яго і павярнуў галавою да жолаба з аўсом.

Але конь есці не ўзяў. Косячы вока, ад нейкага перапалоху стрыг вушамі.

Заклаўшы на тоўстую завалу загарадзь, Корсак высунуўся з хлява, перапалоханы сам: зноў гаркатою крыўды заныла сэрца — а што будзе з гэтым канём, няўжо не пашанцавала, няўжо ўдраў абмылку? Жарты табе, упаліў столькі грошай і за што? За наравістую падлу.

Корсак знайшоў каля вугла, на цвіку пад анучаю, прыхаваны гэткім чынам ад староннягa вока ключ, доўга адмыкаў сені, усё ніяк не патрапляючы пляскатым язычком злавіць зубкі цяжкай жалезнай засаўкі.

Адамкнуўшы дзверы, прысеў на парозе, сцягнуў з разгрэтых ног цяжкія боты і занёс іх у стопку, чуючы пад нагамі лёгкі жывучы халадок глінянага тока, увайшоў у хату зачэрпаць кубак вады ды спаласнуць змакрэлую ад поту шыю і твар.

Пераапрануўся ў будняе, выцягнуў з печы аплецены дротам гаршчочак з загуслым, нікім не чапаным крупнікам і зазлаваў на Міцю: «А дзе ж яго халера носіць? Удома ўжо ні днюе, ні начуе. Чакай дабра».

Не забельваючы, а гэтак нішчымнага ўхапіў колькі лыжак, покуль зноў у хляве трывожна, нібы просячыся, не заржаў конь.

Корсак адсунуў жоўтую глiняную міску і выйшаў з хаты, пастаяў на пляскатым камені каля парога, студзячы босыя ногі, глядзеў, як трапятліва адсвечвала, пералівалася палахлівая чырвань ад сонца ў маленькім, на адну шыбу, аконцы хлява. Высока над страхою расцягнуліся, як

прасціна белага лою, пёрыстыя хмаркі — паказвала на змену пагоды.

Корсак высунуўся за вугол, зірнуў на сонца — яно, вялікае, чырвонае, заязджала ў шчыліну сіняе нізкае хмары; залатою чырванню гарэла, пералівалася яго круглая макаўка.

Між грудкоў, дзе хавалася сонца, на пясчанай шырокай дарозе, рыкалі, ідучы подбегам у хлеў да радзюжкі нарванага ў гародах ці ў полі прывялага зелля, галодныя каровы. Блізілася Купала, стаяла самая гарачыня, і заедзь зацінала быдла, не даючы яму прыстакнуць на траве.

Яго Чарнавуха саўсім запусцілася: цыркаеш, цыркаеш, покуль якую каплю надоіш. Ды вымя падпухла. «Гэта з вачэй,— казала Алеся.— Трэба жывога серабра дастаць ды ў пасак ушыць і на шыю павесіць».

Не вельмі прымаўся Корсак да гэтых забабонаў і прымхаў. Аднаго разу, сабраўшыся да млына, са старым Літаварам даехалі пад калодзесь, а там якраз з пустым вядром бегла Ваўчкова Вольга.

— І трэба ж ёй было падсунуцца, ліха яе галаве,— заклаваў Літавар і завярнуў свайго каня назад.

— Куды ты? — здзівіўся Корсак.

— Не бачыш, ці што? Вунь з вядром пустым стрэла.

— Ну й што?

— Гэ, што! Млін малоць не будзе. Чаго ехаць дарма.

А ён, Корсак, паехаў, змалоў, і завозна не было. І доўга смяяўся, спамінаў гэта Літавару.

А цяпер, учуўшы, як іржэ ў хляве, грукае і трывожыцца конь, начыста перапалохаўся і, баючыся новае бяды, падумаў сам — няхай прыйдзе Алеся ды паварожыць: горш не будзе, а можа і праўда паможа?

Прычакаўшы карову з авечкамі і загнаўшы ў хлеў, завярнуў да Мондрых.

Каб не натрапіць ды не нарвацца на верасаўскіх мужчын, асцярожна высунуўся з-за свайго гумна, але там на вуліцы толькі нейчыя дзеці цягнулі за рогі ўпартага, раскарачапага барана, што адбіўся ад сваіх авечак.

— Садзіся на яго ды едзь,— падказваў, стоячы за плотам і дзівячыся на дзіцячую забаўку, Алесін Імполь.

Дзеці і праўда паслухаліся: меншы хлопчык залез на тоўстага, з шырокаю спіною барана, ручкамі ўпіўся яму ў шэрсць.

— Пусці, пусці, хай пад'едзе адзін,— крычаў Імполь, усё цікуючы з-за плота.

Баран, учуўшы, што яго ніхто ўжо не трымае за рогі, ірвануў [redacted] усяе моцы па вуліцы. Белагаловы, падстрыжаны ў рады хлопчык раптам паехаў набок, гэпнуўся ў сыпкі пясок, але не заплакаў.

— Так можа і скалечыцца, халера,— Корсак падняў скачаны [redacted] каровінай шэрсці мячык і шпурнуў наўздагон дзецям, што беглі за бараном.

— На мячык. Во, мячык забыліся!

Але дзеці не чулі, занятыя гэтым вялікім сівым бараном, што, падняўшы голаў з вялікімі кручанымі рагамі, ляцеў вуліцаю ў другі канец вёскі.

Корсак падышоў услед за імі і падняў гэты скачаны з шэрсці невялікі мячык, пакруціў у руцэ і паклаў на слупок Мондравага плота:

— Мо агледзяцца, будуць шукаць.

— Новы скачаюць,— засмяяўся Імполь.

— Дзе там, каровы адлінялі даўно,— Корсак аблакаціўся на браму і, цікуючы адным вокам на Імполя, спытаў: — Дзе ж яна?

— Там, у хаце,— махнуў за плячо галавою Імполь.

— Пакліч.

Але на ганак, трымаючы ў руцэ даёнку, прыкрытую чыстым палатняным лапічкам, выйшла Алеся, крышку як сумелася, убачыўшы бацьку, бо жаўтлявы ў рудых плямах твар нібы перасмыкнуўся:

— Ужо тата з Погіраў вярнуліся?

— Во, не так даўно,— сказаў за Корсака Імполь,— і добрага каня купілі.

— Купіў,— Корсак угнуў голаў, хаваючы свае вочы, сказаў: — Во, ты падой карову ды забяжы да мяне.

— Забягу, а што там учынілася? — спытала яна, угадаўшы, мусіць, нейкую трывогу ў бацькавай просьбе.

— Вот зайдзі, ды ўсё,— незалюбіў гэтага роспыту Корсак.

Яна пакорна ўгнула голаў і, знябожаная, цяжка несучы свой высокі жывот, пайшла ў хлеў.

Нешта вялікае, халоднае, як камень, перавярнулася ў Корсакавых грудзях. «Няма ў яе шчасця, няма»,— падумаў, гледзячы ёй услед, і, каб не выдаць свайго жалю і слёз, што, мусіць, набягалі, высочваліся на вочы, памалу, як несучы на плячах вялікі мяшок, завярнуў на вуліцу пад сваё гумно.

«Няўжо праўда, што прыбягае сюды, у Верасава, Хрысця? Няўжо ў іх?..»

Ён, нячутна ступаючы босымі нагамі, мінаў гумно. Над ім, таксама нячутна мільгаючы крыльцамі, улукаткі вілася лятучая мыш.

Дайшоўшы да гумна, Корсак азірнуўся — Імполя ўжо не было каля брамы, за гарбатымі грудамі, дзе ўжо церушыўся вечаровы поцемак, высока падымалася і большала сіняя хмара, мусіць, на заўтрашні дождж. Над яе крывым, няроўна зломаным беражком гасла выцвілая ліловасць.

«Каб хаця не задажджыла,— нешта баязлівае страпянулася ў Корсакавых грудзях,— калі ж сенаваць?»

Убачыўшы на сцежцы канчар іржавага калючага дроту, ён падняў яго і панёс да загарадзі, якою быў абнесены пограб, зачапіў яго каля слупка і раптам устрапянуўся, пахаладзеў зноў ад страху, учуўшы, як моцна, нібы праспячыся, заржаў у хляве конь.

«Што з ім учынілася? Не хватала яшчэ новай бяды»,— нешта ўдушлівае забівала Корсаку дух, між лапатак макрэла спіна, халодную, ліпучаю расою на лобе высачыўся пот.

Ён падышоў да хлява, далоняю сцёр з лоба гэтую ліпкую халодную расу і стаіўся, наставіўшы вуха. Да глухое сцяны, за якою шапацелі па гноі і круціліся авечкі і цяжка ўздыхала, перажоўваючы жуйку, карова. Конь раптам сціх, можа, таксама слухаў, што робіцца тут, на надворку, дзе прытаіўся Корсак. Угнуўшы голаў, Корсак стаяў доўга, покуль не змеціў, што па бруку, дзе між камення паўсходзіла, выкруціўшы жаўтлява-зялёнае пер'е, ценькая трава, ідуць, ступаюць босыя ногі. Ён падняў вочы і ўбачыў Алесю.

— Ты? — здзівіўся ён.— Так скоранька ўправілася?

— А што? Я толькі падаіла, а там ужо Імполь,— на падпухлым, хваравітым яе твары страпянуўся сарамлівы смех.

— Імполь,— услед за ёю паўтарыў Корсак, успомніўшы зноў тыя плёткі ды абмовы, што паўзлі па Верасаве.

— А што такое? — яна баязліва адступіла назад.

— Ды нічога,— не выдаў сябе, утаіўся Корсак.— Вунь конь як сам не свой...

— Мо вачэй збаяўся? — Алеся паспакайнела, як скінула які цяжар з сябе.— Усё ж Верасава збеглася глядзець. Дзіва што — ураклі. Конь неблагі.

— Можа, ураклі,— паспакайнеў на якую хвіліну Корсак.

— Пэўна ж,— Алеся турзанула за свой доўгі прыталены сачык, каб прыхаваць жывот.— Трэба ж соллю тры разы абнясці, ці ты, бацька, не ведаеш?

— Каб гэта памагло,— Корсак адлучыўся ў хату, вынес адтуль вытачаную драўляную сальніцу, падаў Алесі.

— Ці ж я палезу ў хлеў? Каня выводзь! — яна ўжо прыкрыкнула на бацьку.

Корсак падняў брыво, з дзівам зіркнуў на дачку, але адчыніў хлеў, схаваўся за форткаю шырокіх дзвярэй і неўзабаве вывеў адтуль, трымаючы за грыву, напраўдзе, мусіць, перапалоханага ўсім новым чуткага каня.

Алеся зачэрпала шчопці солі і, трымаючы перад сабою сагнутую руку, пайшла круга каня — ён насцярожана стрыг вушамі, касіў вялікім з цёмным абадком бялка вокам назад і палахліва страпянуўся, калі яна наводліў сыпанула гэтую шарую бойную соль, што шротам зашархацела па сцяне хаты.

Абышоўшы шчэ два разы каня, Алеся на астатку шпурнула соль аж да плота на веснікі, якраз туды, дзе ўжо спыніўся Міця, нібы не рашаючыся заходзіць у двор і здалёк прыглядаючыся да новага каня.

— Купіў? — ні то здзівіўся, ні то спытаў ён у бацькі.

— Няўжо задарма далі,— пасупіўся Корсак.

— Во, зараз і пасварацца,— Алеся, нібы разбараніць, стала між бацькам і Міцем.

— Сварба ўжо не паможа, трэба млён які браць,— Корсак, лёгка паляпваючы каня па шыі, павёў яго ў поцемак хлява, адтуль ужо гукнуў: — Дзе гэта ходзіш, каб хто спытаў?

— Ці мала дзе,— заступілася за Міцю Алеся.

Міця, каб не чуць бацькавай сварбы, ціхенька пасунуўся ў хату.

— Каб касу ўзяў,— не сціхаў там, у хляве, Корсак.

— Ціха, тата, не крычы,— Алеся зазірнула туды, у хлеў.— Дзіва што конь неспакойны. Ён таксама чуе і дабрату, і злосць.

Крышку ўжо прысарамачаны, Корсак выйшаў з хлява, азірнуўся з дзівам, што няма Міці, і, сцішыўшы голас і ўжо чуючы нейкую дабрату да Алесі, сказаў:

— А конь нібыта паспакайнеў. Не дрыжыць ужо.

Алеся падгладзіла, падбіла пад хустку свае растрапаныя валасы:

— Дзіва што. Нябось, соль памагае. Яшчэ каб шапкаю абцерці.

— Досіць і гэтага.

— Тады мо карову вам падаю.

Корсак, падабрэўшы ўжо, усміхнуўся — першы раз за цалюткі доўгі дзень:

— Не была б свая дачка.

— Ды не чужаніца,— засмяялася і Алеся, трохі схіліўшы набок голаў і зіркаючы спадылба, усёй мінай і рухамі нагадваючы сваю мацеру, Караліну.

І Корсак учуў, як нешта горкае абліло сэрца. Ён адвярнуўся, пайшоў, каб не глядзець на Алесю, і раптам убачыў, што стаіць каля сутокаў між хлявом і хатай, напроці вастраверхае грушы.

Нізкая рэдзенькая яснасць, што высачылася між хмары, чырваніла вострыя вяршок маладога дрэўца.

«Колькі ж гадоў будзе грушцы? — падумаў Корсак, гледзячы на маладое калючае дрэўца ў дробнай карычняватай завязі дзікіх грушак.— Няўжо пятнаццаць?»

І зніякавеў, счах — во колькі год няма яго Караліны.

**XI** Б'ючыся, як матылька аб акно і абціраючы свае крыльцы, у Міцевай душы трапяталася радасць, што ён пабудзе адзін на адзін з Чэсяй, але павучына страху абвівала яго: а дзе ён дастане грошай. Прасіць у бацькі Міця не адважваўся — дарога каштавала аж цэлы злот — паўпуда жыта — толькі ў адзін канец.

Ды, купіўшы каня, бацька быў абзадачаны сам: учора, седзячы на парозе і зняўшы з галавы абмакрэлую на абадку кепку, якую здымаў за сталом ды перад крыжам, прызнаўся:

— Ты чуў, трыста злотых упаліў за каня,— бацька, злы, раз'юшаны, скінуў на частаколіну сваю шапку, а потым сцягнуў з сябе змакрэлую ад поту рубашку.— Ты чуў? — і ён кінуў яе таксама на частакол.— А мо карову прадаць?

— А як жа без малака? — здзівіўся Міця.

— Напазычаў я... Нават у Алесі сотню ўзяў.

Міця ціхенька, каб ужо не ўдражняць бацьку гутаркаю, пабег учора таксама да Алесі, не спадзеючыся ўжо ні на што. Застаў яе якраз на надворку — яна мыла хвашчом абкарэлыя з уедлівым чорным накіпам чыгуны.

Зводдаль, каля кучы жоўтага пяску і горбаў шарага, назвожванага на пограб каменя, Імполь збіваў з дошак скрыню, мусіць, на цэментовую рошчыну.

— Ужо яму выкапаў? — так, дзеля прыліку, спытаў Міця.

— Ага, ідзі ляпь,— Імполь прыстукнуў малатком у цвік і падняў свой смуглявы твар. З-пад кепкі ў яго ганарыста лезла выгараная кудзерка валасоў. Выдаваў ён цяпер нашмат маладзейшым за Алесю — нешта горкае, крышку знябожанае было ў яе падпухлым твары. Міцю раптам зрабілася шкода яе, і нейкая стоеная злосць высачылася з-пад сэрца да Імполя: «Мусіць, праўда любіцца ён з Хрысцяю».

Міця падкаціў пад сябе шурпатую алехавую калодачку з дзірачкамі ад вострай бабкі, сеў спіною да Імполя.

— А ты чаго збедніўся? — Алеся нават, здаецца, павесялела, адпусцілася ад свае панурасці.

— Прызнацца? — уздыхнуў Міця.

— Ну, кажы,— зіркнула выцвілымі вачмі Алеся, асцярожна беручыся за вялікі, вымыты і выпаласканы чыгун.

— Выруч, сястра...

Яна, мусіць, дагадалася, падышла да плота, выцерла аб чыстую, зачэпленую за частаколіну анучку свае мокрыя рукі, ужо гатовая ісці ў хату:

— Колькі ж табе даць?

— На Світазь хачу з'ездзіць,— задыхнуўся, учуўшы гарачыню на шчоках, Міця.

Зашмаргнуўшы тужэй хустку, яна ціхенька махнула рукою на квактуху з аперанымі ўжо кураняткамі, у якіх, як у кузюрак з-пад шкарлупкі, лезлі кароценькія крыльцы і хвосцікі, пайшла ў хату, адчыніўшы зялёнае ў жоўтыя пасачкі падфарбаванае вечка куфра, загаварыла, але пра другое:

— А я бачыла тое возера. Як у Брацянку на заробкі ў двор хадзілі. Божа мілы, што за праява: возера кругленькае, як рэшата, і вада чыстая, як у рэчцы,— ні мулу таго, ні лісціка, ні кастрыцы, а па заберазі лес, грэбелька.

Яна пакапашылася ў прыскрынку, дастала хустачку з карункавым беражком, выкруціла адтуль сярэбраныя пяць злотых, нарэшце падала яму і спытала тады:

— Мусіць, не адзін едзеш?

— Не,— у Міці перасмягла ў роце.

— Адкуль жа ж яна, гэтая дзеўчына?

— З Баранавіч.

— А дзе ж спазнаўся з ёю?

— У школе, вучыліся разам.

Алеся падумала, гледзячы гэтымі памутнелымі, асалавелымі вачмі ў сябе, і спытала, нібы ўжо не ў яго, не ў Міці:

— Ці не Грабянкава сваячка?

Міця ўчуў, што яна ведае ці дагадваецца пра Грабянкаву хату ўсё. І яго, раптоўна ўспыхнуўшы, апякло гаракае, няўцерпнае полымя брыдкасці — што нібы прымешвае ны да патайнога кахання Імполя з Хрысцяй, што знае і таксама хавае ўсё ад Алесі.

Ён адвярнуўся, каб не глядзець ёй у вочы, але яна, нібы нічога не спытаўшы пра Грабянку, раптам загаварыла пра тое, што, мусіць, таксама шчымела, як развярэджаная рана, у душы:

— Бацька наш саўсім ад розуму адышоў па гэтым кані, як здзяцінеў.

— Не спіць понача,— падцвердзіў Міця тое, што гаварыў не раз.

— Плакаў тут,— Алеся прыляпнула вечкам куфра, пайшла да гадзінніка, пацягнула цяжкую, на медным ланцужку гіру, што даставала да зямлі.— Калі грошы пазычаў. Прасіў болей, а дзе ж я вазьму, аддала ўсе, што хавала на ліхі дзень.

— Я аддам,— Міця падкінуў у руцэ вагкую срэбную манету.

— Знайшоў пра што гаварыць,— яна ўздыхнула, пераступіўшы парог, ужо з сяней сказала: — Ці столькі ў мяне прапала. Глядзі, каб усё добра было з тою дзеўчынаю. Гараджанка, мо разбэшчана, кручана яна?

Гэтую ўжо гутарку прыпомніў Міця, выбегшы ранenька з дому пад здароўчы расяны халадок з нізкім, яшчэ непякучым сонцам, і падыходзячы да беленькага, залепленага пад застрэшкам чорнымі шкарлупкамі ластаўчыных гнёздаў, атынкаванага дома, што ўпіраўся ў развілак брукаваных вуліц і дзе пад старою крывавата-скалечанаю бярэзінаю спыняліся ўсяго два аўтобусікі: адзін, што хадзіў са Слоніма да Наваградка, другі — са Шчучына да Баранавіч.

У Міці пад нагамі загайдаўся, нібы памякчэў, брук — каля чорнага абкарэлага камля бярэзіны стаяла ўсяго толькі адзінюсенькая вастраносая маладзіца, перавязаная цераз плячо завязаным абрусам.

Няўжо не прыйдзе яна, Чэся? Ён, як аглушаны, як у нейкай глыбокай вадзе, абыходзіў белы ў цёмных, злепле-

ных з гразі ластаўчыных гнёздах атынкаваны дом. І раптоўна нібы выплыў з жаўтлявага каламутнага віру наверх, захлынуўся ўжо ад радасці, калі пад зялёным, навіслым над лаўкаю кусцікам бэзу, за шырокім, спушчаным на адно вока капялюшам убачыў рыжавата-залацістую, як спелы аўсяны сноп, Чэсіну голаў.

І яна, як счуўшы яго зірк, мігам аглянулася, і пякучая чырвань сарамяжлівасці і радасці заліла яе твар. Зняўшы з лаўкі плеценую саламяную карзіну, што стаяла між ёю і насатаю паняю, са спушчаным на адно вуха капялюшам, маргнула Міцю:

— Садзіся.

Сіняя газавая касынка лёгкім дымком ахутвала залацісты крыжык, што бліскаў у глыбокім разрэзіку сукенкі.

Ад першага ранішняга халадку наапашкі быў накінуты шаранькі, падношаны ўжо жакецік.

Нейкая мяккая дабрата раздзімала яе вільготныя губкі з ганарыста падцятымі куточкамі. І ва ўсёй яе паставе было нешта мілае, і нешта нібыта абвівала яе, як абвівае сівавата-дымная чырвань шызага голуба.

Зачапіўшыся павучынкаю за лісток бэзу, над яе рыжа-залацістаю галавою пакалыхваўся зялёны чарвячок.

— Ну, садзіся,— яна хацела падняцца ўжо сама, але Міця, прытрымаўшы адною рукою яе за плячо, другою змахнуў гэтага зялёнага раскалыханага чарвячка.

— Што там? — яна пакруціла галавою, мяненька казытнуўшы сваімі валасамі Міцеву руку.

— Аўтобус, вунь,— сказаў ён так сабе, дзеля жарту, але і праўда, азірнуўшыся, убачыў на паваротцы шашы сіне-папяловы аўтобусік, з блішчастым лычыкам радыятара і пукатымі, як у рака, вачмі-фарамі.

Аўтобус з'ехаў з бруку на пясчаны край шашы, прыткнуўся сваім лычыкам недалёка ад чорна-струпатага камля старой бярэзіны і, перастаўшы дрыжаць і фыркаць, счах.

Насатая кабета ў саламяным капелюшы, цягнучы нялёгкі, напакаваны саквяж, замахала скураной сумачкай на залацістым вочапку, і сюды заспяшаўся тоўсты мужчына з чорнымі падкручанымі вусамі. Зняўшы з галавы, махаў палатнянаю фуражкай.

Міця з Чэсяй прапусцілі наперад сябе тоўстага, з падкручанымі вусамі мужчыну і высокую насатую бабу ў шырокім капелюшы і селі на астатняе, яшчэ свабоднае

сядзенне, дзе каля закрытага акна віўся вялікі чорны калматы чмель. Усе асцярожна азіраліся на яго густы, раз'юшаны гуд.

Шафёр, разлічыўшыся з пасажырамі, што селі тут, у Дварчанах, ужо доўгаю ручкаю завёў матор, і аўтобусік зноў забразгаў, задрыжаў сваім жалезным нутром, гатовы рушыць далей, але раптам на спружыністым сядзенні падскочыла і нема заенчыла насатая кабета ў шырокім, пасаджаным набакір саламяным капелюшы.

— Вой, чмель!

Спатажаныя нечаканым крыкам, а потым ужо развяселеныя, дружна зарагаталі сонныя пасажыры.

Чмыхаючы ад злосці, ці мо таксама ад смеху, шафёр зняў за лакіраваны брылёк сваю кепку і палез да крайняга сядзення, каб злавіць там сляпавокага чмяля, што біўся ў заднюю шыбу. Чарпануў па шкле кепкай і, зацiснуўшы яе, панёс да адчыненага акна густы ашалелы гуд.

Усе глядзелі, як з шапкі рвануўся і, зрабіўшы круг, знік з вачэй раз'юшаны паласаты чмель, і ўсім зрабілася нечага шкада, усе раптам цяжка ўздыхнулі і ўжо смутнымі вачмі глядзелі ў акно.

— Летась мяне ўкусіла нейкая здыхата, нарыў быў,— варушылася і рыпела пад цяжкаю кабетаю сядзенне.— Чаго выскаляцца?

Але ўсе, нібы не слухаючы, глядзелі, як, бліснуўшы сухаватымі вокнамі і адбіваючы чырвонае сонца, паплыў белы домік, і аўтобус ужо задрыжаў, затросся на пакатым бруку. Замільгалі і пабеглі назад, зліваючыся ў адзін шэры пас, частаколіны плота. Між нізкіх зялёных прысадаў пабеленымі сценамі і атынкаванымі шчытамі стракацелі местачковыя хаткі. Аўтобусік спусціўся з грудка і пабег у стракатым цяні бярэзін.

Міця ўкрадкам кідаў вокам на Чэсю — нейкае мяккае, перамешанае з лёгкімі духамі цяпло ішло ад яе.

У падпухлых крышку, надтрэснутых ад паўнаты губках было нешта мякка-дзіцячае. Густыя, зачэсаныя на адзін бок валасы трымала дужка прыколкі ў сіненькіх шкляных вочках. Выбіваючыся з заколкі, над натапыраным, шорсткім, як дзераза, брывом трапяталася ад скразняку кудзерка валасоў. Яе прамы носік з чырвонай пацеркай бародавачкі збоку ноздры, трохі доўгі, з раздвоенай ямачкай падбародак рабілі твар прыгожым, але крышку прыхавана-таямнічым.

Яна моршчыла свой лобік ад сонца, што выблісквала

між доўгага, навіслага веццзя бярэзін, нібы дражнячыся сляпучым растрэсеным снапком.

Як жэрла ў крынічцы, з дробным каламутным пясочкам, закіпелі ў Міцевай душы Алесіны словы: «гарадская, мо яна кручаная». І ён ад нечаканай злосці, невядомасці схапіў смуглява-загарэлую, у залацістых валасках Чэсіну руку — яна ляжала на саламянай плеценай карзіне,— сціснуў яе халодныя, што не адышлі ад роснага ранішняга халадку, танклявыя пальцы і ўбачыў, як ажыў скамянелы і ганарыста-сцяты Чэсін тварок. Яна чмыхнула носам, усміхнулася ледзьве, скрывіўшы губкі, і зіркнула на яго трошкі косым, бліскучым вокам.

Яе халодныя пальчыкі радасна заварушыліся ў яго руцэ і, злавіўшы таксама, з усяе моцы сціснулі Міцеву руку.

І нешта ўжо новае, яшчэ невядомае, але большае, чым можа адчуваць хлопец да дзяўчыны, учуў Міця да Чэсі, учуў нешта тое, што прагнуў, што хацеў чуць даўно,— гэты невядомы, густы, як пах цёплага, у цвеце жоўтага лубіну, пах яе валасоў, пах яе ўсяе і яе жакецікa, які яна не здымала.

Ён, нібыта незнарок падсаджваючыся шчыльней да яе і чуючы мяккае цяпло, замёр і сціснуўся ад здушлівай радасці і ад таго даўнейшага нечаканага ўспаміну, калі першы раз убачыў яе заломленую плісавую спаднічку, калі ўчуў сваю першую сарамяжную радасць.

Азірнуўшыся назад, Міця згледзеў, што з-за жончынай галавы, косячы чырванаватым, як бычыным, вокам, на Чэсю цікуе той мардаты, з падкручанымі ўгору чорнымі вусамі.

Міцю здушыла, сціснула, падступаючы пад горла, тугая вяроўка рэўнасці і злосці.

А мужчына яшчэ больш адкінуўся назад, і ў яго з лысай, даўгаватай, з начэсанымі на лоб, паскрэбенымі недзе з бакоў рэдзенькімі валасамі галавы зляцела белая палатняная фуражка.

— Вой, заснуў,— закрычала жонка, убачыўшы, як між сядзенняў аж да шафёра коціцца і падае ў ямку каля дзвярэй белая фуражка.— Во, ляньце, людцэ добрыя, заснуў. Мур-мур, як кот, і заснуў.

У аўтобусе зноў бухнуў вясёлы рогат.

Трымаючыся за спінкі сядзенняў, у вузкім праходзе цісну ўся па сваю шапку тоўсты, мардаты і праўда нечым падобны з твару да ката мужчына.

Угінаючы галаў, хаваючы свае вочкі, смяялася і Чэся.

У Змітрыка раптам апала, як бурная шумная паводка, і ўвайшла ў свае берагі нечаканая злосць. Ён зноў глядзеў за дрыгатліва закурэлае пылам акно аўтобуса, што натужліва вуркатаў, падымаючыся па белай, засыпанай перацёртым жвірам шашы на крутыя грудкі, то ціхенька, ужо з выключаным маторам, толькі бразгаючы жалезным нутром, спускаўся ў лагчынкі.

Дарога з старымі пры шашы грушамі, што шырока раскідвалі сваё галлё, зялёныя радкі елачак, рабіны, што даўно адсыпалі жоўценькую манну свайго цвету і ўжо зелянелі прыхаванымі яшчэ чачоткамі ягад, лес, рэчачка ў алешніку, магілкі пад старымі хвойкамі — усё не раз бачанае, знаёмае і перажытае Міцем. Бо колькі разоў пехатою, а то часам у кірмашовы дзень, прысуседзіўшыся да каго-небудзь на воз, ці з бацькам, калі той увосень ездзіў купляць танныя тут гуркі, Змітрык дабіраўся ў Навагрудак і стараўся ад гэтых вазоў з цэбрамі сліў, груш ды яблыкаў уцячы на Завальную вуліцу, у той мураваны белы дамок, дзе была беларуская кнігарня, з тым асаблівым смолкім пахам свежай кнігі.

Пастаяўшы каля абшарпанага прылаўка, пацікаваўшы на палічку, дзе шчыльненька збіліся шэранькія ў простых папяровых вокладках тонкія, яшчэ не разрэзаныя кніжкі ці чырвоныя, падобныя нечым да падручнікаў, календары, Змітрык рашаўся толькі папрасіць пагартаць, тады сяды купляў што-небудзь таннае, за што надзімаўся, як сыч, і злаваў бацька: «Знайшоў куды выкінуць грошы!» Але скоранька аціхаў і вінаваціў сябе: «Гэта ж не паразумеліся ў толк. Вучыцца табе трэба было далей. Можа, як вытрывалі б, а то, глядзі, ніякага фаху ў руках. Мо да каваля чаляднікам пойдзеш? Памахаеш год ці два молатам, а там як-небудзь агораем кузню».

Міця помніць гэтую дарогу назад, поцемкам ужо, праз кашалеўскі лес, бацькаву гутарку пра кавальства, грукат фурманак і нейчы тады крык: «Людзі, ратуйце, людзі!» І яны з бацькам пагналі каня, каб памагчы чалавеку. А той стаяў сярод лясной дарогі і разводзіў рукамі — мусіць, п'яны і здурэлы ад вялікага гора:

— Во, грошы забралі. Прадаў карову.

Яго аглушылі палкамі, і ачнуўся сам не ведае калі. Ён ішоў каля воза акрываўлены, расказваючы пра гэта, а потым раптам закрычаў: «А можа, гэта вы?»

— Здурэў, ці што? — бацька пагнаў тады каня, пакінуўшы сярод лесу гэтага здзічалага ад гора чалавека.

А потым удома ніяк не мог аціхнуць: «Што не прылучыцца на свеце: паспачуваеш чалавеку, а ён цябе за бандыта ці злодзея прызнае».

Чэся, мусіць, не стрываўшы маўкліва-затоенай Міцевай упартасці, знарок сярдзіта штырханула яго, толькі на скрыўленай губцы прыхаваўшы вільготны смяшок:

— Ну, што маўчыш? Скажы што-небудзь,

І ён даверліва і неспадзявана гарача прыхіліўся да яе. Як ніколі блізенька, чуючы яе казытлівыя і пахучыя, як нізіпернік, валасы, холад яе прыгожай прыколкі, чуючы яе вострае і шорсткае, як дзераза, брыво, яе задыханыя грудзі...

Яна толькі падымала жаўтлява-залацістую, як сланечнік, галаў, і вецер з адчыненага акна густа, як жменяю, збіраў яе валасы, закідваў назад.

Міця лавіў шчакою гэты казытлівы холад яе растрапаных валасоў, і востры скразняк радасці абвяваў яго.

Закураны горкім пылам, здушаны, злы і гаманлівы, як вулей перад раеннем, аўтобусік раптам турзануўся, рэзка загамаваўшы і затрубіўшы з перапалоху: перад радыятарам, перабягаючы шашу, спатыкнулася і прыкленчыла жаўтлява-яснае, з кучаравым хвосцікам, нядужае жарабя. Ад страху задзерла галаў і заржала каштанавая кабыла. Паўналіцая, што сядзела на возе, баба ў разбэрсанай, з'еханай набок хустцы, пачала з усяе моцы сцёбаць яе пугай. Не вінаватая ні ў чым жывіна нервова турзалася і касіла назад пакутна-злым вокам.

Жарабятка паднялося і схавалася на другі бок воза і, натапырваючы ўжо адтуль вушы, пудка азіралася на аўтобус, і ва ўсіх нячутна апаў раптоўны кіпень страху, усе лёгка ўздыхнулі, і аўтобусік зноў пабег, зашуршэўшы коламі па новым, роўна высланым бруку.

І Чэся зноў скрыва паглядзела на Міцю шарым немігаючым вокам, падымаючы ўверх натапыраныя шнурком дзеразы вузенькія бровы.

І нешта гарачае, вялікае, як крамянае ружаватае яблыка, спела ў Міцевай душы да Чэсі за гэтае падарожжа ў невядомы свет.

За доўгаю вёскаю, якую перабягала вузенькая, у цяньку старых вербаў і алешын, рэчачка, за драўлянаю на грудку царквою, за магілкамі, дзе паміралі адзінокія хвойкі, аўтобус убег у стракаты халадок лесу — па росных ад поту тварах пасажыраў, па залаціста-бліскучых, крышку раскалмачаных Чэсіных валасах замільгаў, застракацеў,

пабег палосамі цяпёк уперамешку з зыркім пякучым сонцам.

За цёмнаю гушчэчаю лесу, што раптам адслапіўся падковаю пралесіны, аўтобус з'ехаў з бруку і спыніўся каля тоўстага, завітага, як бізун, у некалькі столак камля дзярката-натапыранага, нібы вялікі венік, старога граба.

Белы пыл, што завіўся з-пад колаў, вяла і нехаця сплыў па другі бок шашы.

Лёгка ўздыхаючы і падхопліваючы пакоўныя саквояжы, карзіны з харчамі, капамі ды скручаныя гамакі, з аўтобуса высыпалі пасажыры — найбольш хлопцы і маладыя дзяўчаты.

Абапёршыся на Міцеву руку, Чэся лёгенька і пругка саскочыла на закурэлую мураву і раптам ускрыкнула:

— Вой, гляджу і не распазнала — гэта ж Світазь вунь!

Міця азірнуўся — і ў прагале лесу між чарадою тоўстых гузаватых дубоў з нарасцямі ад маланкі, у крывых куксах голых лап, з падсохлымі ражнамі кронаў сінявата маладым бляскам у вочы глядзела возера.

На яго рабенькіх хвалях выблісквала, адбівалася шырокая палоска ад сонца, доўгімі гонямі сягаючы да падковы цёмна-шчытнага лесу, забэрсанага мякенькай кудзеляй смугі.

— Ідзём скарэй, во якое дзіва,— Чэся схапіла Міцю за руку і, утоптваючы ў карзіну свой жакет, пайшла першаю па зялёнай мураве між тоўстых дубоў, што вузлаватымі карэннямі перапляталіся на сцежцы, дзе смажылася, яшчэ не чуючы на сваіх худых лапатках пякучай чырвані, чарада падлеткаў ды выцягнулі свае цыбатыя ногі худзенькія, як плоткі, няспелыя дзяўчаткі, што спадцішка набыльваюць і заглядаюцца на старэйшых хлопцаў. Стоячы па калені ў плыткай вадзе, гулка біў у тугі мячык сівавалосы, з чорна-валасатаю грудзінаю мужчына ў вузенькіх, завязаных на клубе плаўках, і прытворна смяяліся дзве паўнагрудыя, у маліпавых трыкатовых купальніках маладзіцы.

Жмурачыся ад раскалыханага і разарванага бляску вады, Міця з Чэсяй мінулі тоўстыя, у косых, як маланка, зігзагах глыбокіх шчылін старыя дубы і завярнулі пад жаўтавата-зялёную навісь разложыстых кустоў гарэшніку, пруткага маладога грабу, ценькіх рабін, крушыны і пад хмурымі, з падцёкамі застылых пацерак смалы, старымі елкамі выйшлі да возера. Загінаючыся падковаю, яго абягала аплеценая карэннямі хвоек, невысокая грэбля.

Учапіўшыся за бераг, над вадою доўгім веццем звіслі старыя бярэзіны ды спляталіся ражнамі голля чорныя шурпатыя алешыны.

Чэся, пераступаючы пераплеценыя, скручаныя ў нарасцях болю, пазбіваныя карэнні, ішла сцежкаю па заберазі возера, мусіць, шукаючы зацішнае месца. У зацемку туліліся, цураючыся чужых вачэй, сталыя, да брыдкасці смешныя пары, і каля берага ў сітніку плюхаліся і крычма, як варанне, крычалі дзеці — і Чэся прыспешыла крок на гэтай вузкай, засыпанай слізкаю кастрыцаю сцежцы. На яе залацістую копку валасоў, на сукенку бліскаў ад вады разарваны, рэдзенькі, як ад месяца, збляклы водсвет, бег кругамі па ружавата-шарай кары хвоек, па струпаватых нарасцях старых дубоў, па сівым лісці тонкіх рабін, чорных, у расяным рабацінні, камлях крушыны.

І ад гэтага водсвету, ад няроўнай, у каўтунах карэнняў, сцежкі, ад таго, што наперадзе, мільгаючы белымі вятроўкамі, ідзе Чэся, ад шырокага, што калыхалася ў прагале дрэў бліскаючы жывым серабром, трапяткога, сціснутага цёмна-сіняватым вобадам лесу возера, ад прасвечанага лісця, пляскату, нібы ў балею, раскалыханае вады, у Міці пачала кружыцца, трохі хмялець галава.

Уздоўж грэблі на другі бок прэла вільготная лагчына ў сівай, мусіць, вострай, як назублены серп, асацэ, у высокіх пучках жаўтлявай конскай цыбулі з белымі пухкімі кутасікамі цвету.

Каля тоўстых елак выспамі слаўся круглалісты ў ружаватых кілішачках цвету ягаднік і густа, як раска на завоні, зелянела дрыготкая зайцава капуста-кісліца.

Чэся нагнулася, ушчыпнула каліва гэтых мякенькіх, зрослых дзюбкамі лісткоў на бурачковай ножцы, паказала Міцю:

— Бачыш, тры сэрцайкі зрасліся.

Трымаючы за камялёк, яна пакруціла гэты жаўтлявазялёны парасончык. Зводдаль абышла гультаявата-разамрэлую і п'янаватую брыдоту і распусту, што разляглася ў халадку раскідзістага арэхавага куста і, паплёўваючы на пальцы, цягала з веера зашмуленыя карты. Адзін, ужо немалады, здаецца, з плешынаю, паверх гэтага веера правёў бліпчаста-шклянымі асалавелымі вочкамі за Чэсяй і прыцмокнуў языком:

— О, холера, ладна дзявуха...

— А хлопак несмялы,— падхіхікнуў другі, з чорнаю,

што тлуста лісвілася, загарэлаю спіною.— Жэбы тобе, Фрэдэк. Не?

— Цо зробіш: сьвят ест злы, глупё ужондзоны [1].

Міця адно сцяў зубы ад неадпомшчанай злосці на гэтых чатырох басякоў.

Грэбля ўжо далёка абышла возера, зноў выбіўшыся на прагал лесу,— там віднеліся ашалёваныя і выфарбаваныя на жоўты колер дамкі пансіяната, шкляная веранда, увітая дзікім вінаградам, кветнік у нізкім вянку аранжавых настурцый і высокіх сініх боцікаў.

Пад навіссю алехавага галля Чэся чапіла галавою тонкую і бліпчастую, як сталёвая струна, павучыну, панесла яе за сабою. На канцы павучынкі шпількаю завілася растапыраная іголка хваёвай кастрыцы.

Грэбля спускалася да плыценькага з жаўтлява-пясчаным дном возера — над ім нізка нахіліліся алешына з сукаватаю круглаю елкаю.

Чэся зняла вятроўкі і, трымаючы іх у растапыраных руках і плануючы імі, пабегла па шурпатай алешыне над неглыбокім зеленаватым ад чыстага пяску возерам і, адбегшыся ўжо далёка да вілаватага камля, туды, дзе ў вадзе стаяў рэдкі сітнік, з крыкам скокнула ў возера.

— Што там? — сумеўся Міця.

— Мурашкі,— смяялася яна, стоячы сярод неглыбокага тут, з берага, возера.

Дастаўшы да вады, намакаў купалок яе сукенкі.

Міця ўбачыў, як ад карычнева-шапаткога канца мурашніку да камля нізка нахіленае бярэзіны пад травою тачыўся шары раўчачок-дарога. На нахіленай бярэзіне туды-сюды рупна шнуравалі мурашкі.

— Во, глянь, колькі іх,— Чэся пайшла сюды, да берага, уздымаючы рэдзенькую каламуць пяску: мокрая, апырсканая вадою сукенка ліпла да яе спрытных, круглых ног.

Дайшоўшы да невысокага, аплеценага чорнымі карэннямі берага, з белаю шапкаю падсохлага зверху шуму, яна кінула на зеленкаваты, у карычневых каптурыках, мох свае вятроўкі:

— Міцек, лаві, я пакупаюся,— і потым схапіла абедзвюма рукамі мокры край сукенкі і пацягнула ўверх.— Няхай высахне,— сказала яна, схаваўшыся з галавою ў купале сукенкі і паказваючы свае жаўтаватыя ад загару

---

[1] — Што зробіш: свет злы і па-дурному створаны *(польск.)*.

сцёгны, паласаты, з чорна-белымі паскамі, купальнік, што туга абцягнуў яе гладзенькія клубы, і тонкі стан, і ўсю яе да рыжавата-залацістых пах.

Нечаканы агонь спакусы апаліў Міцю, падымаючы ўсё, падступаў глыбокаю задухаю пад сэрца.

Міця не сароме́ючыся, рады, што пад сукенкаю схавалася Чэсіна галава, глядзеў на яе.

Яна нарэшце, раскалмаціўшы, падпяўшы ўгору свае залацістыя, прасвечаныя сонцам валасы, зняла сукенку, выкруціла мокры прыпол і кінула сюды, на Міцю.

Ён злавіў яе, быдта саму Чэсю, быдта нешта жывое. Сукенка пахла мяккім жывым цяплом, як пахне на полі ў гарачыню густы жоўты лубін.

— Павесь вунь на куст, няхай сохне. І раздзявайся сам.

Сорам і брыдкасць раздзецца перад ёю, паказаць незагарэлага і сухотліва-худога сябе, астудзілі Змітрыка.

— Я прастуджаны.

— Ой, выдумаў,— не паверыла яна і, наступаючы босымі нагамі на водбліск растопленага сонца, што тлустымі плямамі пагойдвалася на вадзе, памаленьку пайшла зеленавата-чыстым дном плыценькага каля берага возера. За чорна-шурпатымі камлямі алешын, за нізкім бярозавым веццем наперадзе ў ціхай затоцы беглі, пакалыхваючы, круцячы, як свярдзёлкі, камлі адбітых у вадзе дрэў, разыходзячыся адна за адною шырокімі дугамі, лянівыя хвалі.

У кудзерках яе раскалмачаных валасоў, што падкручваліся на патыліцы, блыталася сонца. Дарогу ёй заступіў чубок высокага гнуткага сітніку, шапаткога, у лілова-сіняватых мятлушках пруткага трасніку. Яна разводзіла яго рукамі і раптам адхіснулася, азіраючыся на Міцю, паказала на чорную лыску, што, стаіўшыся і цікуючы кузюркаю вочка, сядзела на карычняватым, звітым з сухога аеру стажку гнязда, якое плавала на вадзе. Чэся памаленьку пачала адступацца да берага на жвірысты пясок, на якім пахіліліся старыя, як пераломленыя ў камлях, гарбатыя калекі-хвойкі. Міця, сышоўшы з камяністае, увітае карэннямі грэблі, пабрыў па скрыпуча-шалхацістым пяску.

Чэся зноў ступіла ў ваду, і зноў рабенькімі хвалямі да яе паплыло сіняе возера — тут, каля берага, зеленаватае і плыценькае ад глею. Яно плыло пад трапяткі шэлест бярэзін, перамешаных з хмураю чарнатою алешын.

Там, дзе вада абмывала белаватыя галышы вялікіх круглых каменняў, зноў разарваўся ясна-зялёны абруч лесу: ▪ возера, звіваючыся хітрым вужом, між купін і карчоў у засень нахіленага арэшніку, рабых каменняў, маладога гонкага бярэзніку сачыўся глыбокі раўчак. Цяжкімі каменнямі нехта заваліў яму дарогу. Міця па іх пераскочыў на другі бераг, каля вілаватае хвойкі прысеў на валун.

Падбіваючы босымі нагамі ваду, па зялёным плёсе сюды падышла Чэся: на тугую, крышку бліскучую жаўцізну яе загарэлых ног тлустымі скалкамі пырскала вада.

— Ой, як хораша тут, праўда? — яна падышла да берага, разганяючы стракатa-цёмны касячок вёрткіх дробных рыбак. Зачарпнула там жменяю, злавіла адну і панясла яе ў жмені — тоненькую, трапятлівую,— радуючыся, як дзіця.— Во, глянь, Міцек, што я злавіла.

— Мо верхаводкі,— Міця падняўся з каменя, падышоў да яе, незнарок ткнуўшыся шчакою ў цёплае, нагрэтае сонцам ружаватае плячо, захмялеў ад спакуслівай блізкасці.

— Загарэла ты,— сказаў ён, паказваючы на яе нечакана заружавелую руку.

— Спаць не буду, пра возера буду думаць.— Яна абедзвюма прыгаршчамі кінула ў ваду шара-серабрыстага малька, абярнулася, азіраючы сваё круглае паружавелае плячо.— Ага, во нават лупіцца пачынаю.

— А там? — яна закідвала назад галаў, але, вядома, не бачыла, што каля банціка завязаных матузкоў, на гузачку спіны, дзе блішчалі нізенькія валаскі, белаватаю, яшчэ ледзьве прыкметнаю лускою зашалушылася скура.

— І тут аблазіш,— Міця павёў рукою па гладзенькім цяпле яе спіны.

— Дзе? — яна казытнула падкручаную густою грыўкаю сваіх падрэзаных валасоў яго руку.

— Хіба ты ўбачыш?

— А вот і ўбачу,— яна кручэй павярнулася, і Міця ўбачыў зусім блізенька яе жаўтлява-загарэлы тварок, вузкія шнуркі натапыраных броў з карычневаю барадавачкаю між імі, шара-сінія, крышку скошаныя на яго вочы, у якіх таіліся нейкая здзеклівая хітрасць і зманлівасць, яе падпухлую ніжнюю губку і тоненькія, што ўздрыгвалі, ноздры.

Зманліва-бессаромная спакуса цягнула яго дакрануцца да прысмяглай чырвані яе надзьмутых губак.

Але Чэся нечакана падняла сваю голаў, слізгануўшы міма яго тою серабрыста-трапяткою рыбкаю, і пайшла, не азіраючыся, зноў у ваду.

Ён, здзіўлены, радасна-расчараваны, што ўсё адбылося няўзнак, глядзеў, як яна ішла, не азіраючыся, па вадзе, усё далей і болей заходзячы ў возера. На яе загарэлых, падсмажаных плячах матавай тлуставатасцю адсвечвала сонца. Нарэшце яна ўзмахнула рукамі і паплыла проста туды, дзе парыпвала ўключынамі лодка, гонячы перад сабою дугі хваль.

Яны, гэтыя хвалі, даходзілі сюды, да Міцевых ног, і аблізвалі тугі мокры пясок.

Ахоплены полымем задушлівае радасці, Міця ўжо ведаў, што можа ўчыніцца тое жаданае, чаго ён чакаў даўно і што жыло ў яго душы шчымлівым і радасным перапалохам.

Закалыханая хвалямі ад лодкі ў сіняй далечыні возера, то хавалася, то паказвалася зноў яе залаціста-рыжая галоўка. І потым завярнула за зялёна-шаргатлівую сцяну цыбатага, у нераспушчаных мятлушках, трысніку.

Несучы яе сукенку з жакецікам, яе плеценую карзіну, Міця ішоў па грэблі каля старых, у тоўстых струпах пазелянелай кары, гузаватых дубоў пад непрасвечаным і хмурым поцемкам навіслых цяжкімі і густымі лапамі елак, жмурачыся ад бляску вады, а ў грудзях, нібы мяленькае зайчаня, стаіўся нейкі іншы пачутак да Чэсі — пачутак нечага ўжо блізкага, даверлівага, крэўнага.

Чэся выйшла з вады няскора — ён нават ужо затрывожыўся — з макраватымі на патыліцы валасамі, у мокрым, абліплым купальніку, з якога па зашэрхлых ад холаду нагах абягала тлустая вада. Яе нават білі дрыжыкі.

Міця падышоў на жоўта-зеленаваты бераг, падаў ёй сукенку.

— Пабудзь тут,— яна ўзяла ў яго яшчэ плеценую карзіну, схавалася ў зяляніне падлесу — маладых сіваватых рабінак, цянькае крушыны ды шырокага, што, сагнуўшыся, плаваў над галавою гарэшніку.

А Міця стаяў і чуў, якая яна ўся без гэтага непаслушнага мокрага купальніка, баязліва-трапяткая, перапуджаная кожным лускам дзе якога сучка, нечаканым пырханнем пташкі ці шалпатаннем вавёркі.

Каб лёгенька спатажыць яе, ён, знарок наступаючы на сухое порсткае галлё, пайшоў па мяккай падушцы сатлелае, пахкае ўжо грыбніцаю, кастрыцы пад елкамі, дзе гу-

стымі выспамі зелянела нізенькая зайцава капуста. Але яна варочалася сюды, прыгінаючыся пад шырока навіслаю, як хмара, жаўтлява-зялёнаю, прасвечанаю сонцам лапаю гарэшніку, ужо нейкая надшая ад гэтай белай, спярэшчанай сіненькімі балонкамі сукенкі, і ўсміхнулася яму, выціраючы ручніком свае пацямнелыя мокрыя валасы. Потым ступіла ў жаўтлява-сіняватую ад пясчанага берага плыценькую ваду спаласпуць купальнік і, вешаючы яго на гнуткі дубчык крушыну, гукнула Міцю:

— Мо папалуднуем?

Патрасла мокраю раскалмачанаю галавою, каб сохлі валасы, і пачала распакоўваць сваю карзінку. Дастала з яе хлеб, кавалачак вяндліны, булку з маслам, дзве бутэлечкі ліманаду і яшчэ белы, з зялёным лістком і чырвонаю бубкаю вішні, паліваны кубачак.

— Я есці захацела.

— І я,— прызнаўся Міця.

І яго зноў абняла радасць, што так проста, няўзнак можа рабіць Чэся, і ён, згаладалы ўжо, трохі сароме ючыся так па-мужчынску на поўную губу есці, усё цікаваў на яе — яна сядзела, выцягнуўшы свае загарэлыя смуглявыя ногі: на адной, як васпяным знакам-нарасцю, вышай костачкі паблісквала скурка.

— Што гэта, а? — паказаў ён.

— Ой, не кажы, гэта я рабарбару [1] пакаштавала.

— Як пакаштавала?

— Любіла рабарбар ірваць у чужым гародчыку.

— А рана ад чаго?

— Рана ад шкла... Залезлі мы ў гародчык, а тут якраз гаспадар... Нат назвіска яго помню — Сысой. З белымі распушанымі вусамі. А крыклівы... Мы не ведалі, куды ўцякаць. Я ўскочыла ў парнік, у зашклёную раму... Даходная была. А ты?

— А я — баязлівы,— прызнаўся Міця і, прыпомніўшы даўняе здарэнне, са смяшком расказаў, як усунуў у дупло старога клёна, дзе вялікія шпакі, сваю руку, а дастаць ужо не мог. Сплакаўся да ікаўкі, покуль большыя хлопцы не падказалі, што трэба пакручваць руку, каб у вузкай і крывой дзірачцы пралез локаць.

— Ты і цяпер такі, палахлівы? — яна прыжмурылася, адвяла вочы ад косага слупка сонца.

— Хіба відаць па мне?

---

[1] Рабарбар — рэвень *(польск.)*.

Яна не адказала — ідучы плыценькаю вадою, нехта заплюхаў каля берага. Чэся азірнулася, паслухала гэты плёскат вады.

Жоўценькі, як ад круглага люстэрка, сонечны козлік скочыў на Чэсіна плячо, шыю, заблытаўся ў кудзерках валасоў.

Міця глядзеў, бачыў, як Чэся жмурыць адно вока, крывіць свой рот, адводзіць ад яго сваю голаў, усміхнуўся.

Яна выпрасталася, зіркнула на яго і ўздыхнула дзвюма купкамі грудзей:

— Што, Змітрык?

— А ці ведаеш ты, што мы познімся на аўтобус?

— Ну і што?

— А тое, што пехатою да Дварчан прыйдзецца ісці.

— І пойдзем. Я ніколі не хадзіла так далёка.

— Ніколі?

— Не,— яна прыплюшчыла адно вока зноў, ні то ад яго запытання, ні то ад сонечнага козліка.

Стомленае сонца бліскучымі стрункімі, як павучына, праменнямі, прабіўшыся праз касматыя елкі, свяціла на зеленкаваты мох і рэдкі цыбаты ягаднік з зялёнымі, яшчэ няспелымі гаршчочкамі ягад, раскідвала па іх ясныя лапічкі.

Чэся, жмурачыся ад сонечных козлікаў, адсоўвалася ад шурпатага камля хвойкі. Недзе там на ёй, па сухім вяршку, як дзеравяным малаточкам, длубаў дзяцел. На шурпатым, абамшэлым камлі бярэзіны зверху ўніз шалпацеў шылаваты караткахвосты, як маладое пташаня, папаўзень.

Пакалыхваючыся на танюткім, аблытаным павучынаю дубчыку крушыны, пацмоквала шарая, з яснымі грудкамі пташачка.

— Вой, адаб'ём ад гнязда... Пташачку бачыш, вунь? Яна ўсё ціўкае.— Чэся акуратненька і шпарка пачала пакаваць усё ў сваю плеценую карзіну.

Яны выйшлі зноў на прагал лесу, да старых, таўстаногіх, як баравікі, дубоў, дзе чуўся сыты і дураслівы рогат хлопцаў ды прыманлівы дзявочы крык. Яны падбівалі тугі, пругкі мячык, ловячы яго растапыранымі пальцамі доўгіх загарэлых рук.

На прыпынку, на лавачцы з адламанай спінкай, сядзеў мардаты, з вузенькімі падголенымі вусікамі, у форменнай фуражцы ляснік.

— Усё,— развёў ён рукамі,— спазніліся, толькі што ўцёк аўтобус.

— А куды ён уцёк? — спытаў Міця, заглядваючы на шчыток на белым драўляным слупку: там чарнела колькі лічбаў.

— Як куды? — мужчына цікаўным вокам прыглядаўся да Чэсі. Коса змераў зверху, затрымаўшы, як кажуць, пазычоныя, сабачыя вочы на яе каленях.— У Баранавічы.

— А нам трэба ў Наваградак.

— Гы, Наваградак... Наваградскі будзе хіба заўтра ранічкаю,— ляснік пашарпаў пальцам каля папругі і выцягнуў кішаньковы гадзіннік, шчоўкнуў накрывачкаю.— Сколькі ж маем? Шэсць. У восем будзе дома...

Чэся адкінула кудзерку рыжых валасоў з вока, хітра зіркнула на Міцю:

— А мы?

Міця стаяў крышку нейкі здумелы, моўчкі глядзеў, як уздоўж шашы рушыў ляснік, падмятаючы шырокімі калошамі штаноў сухі, перацёрты каля бруку белаваты жвір.

— Ну, пойдзем,— усміхнулася Чэся і падала Міцю сваю плецёную карзіну.

— А мы нават і дарогі добра не знаем.

— Невядомая дарога на кончыку языка,— яна першаю ступіла ў даўгаваты цень, што расцягнуўся з лесу на шашу: у вяршках пераплеценых дубоў і клёнаў ірвалася ўжо сонца, што схілілася на вечар. Сцішаны, задушаны гарачынёю лес трохі пачаў ачуньваць жывенькім шчэбетам і перасвістам птушак. З яго, як з чмялінага гнязда, пахла напараным цяплом, іскрыстаю мяккаю смалою, соннымі кветкамі высокага калматага гарніку і ружовенькаю маранай мацярдушкаю.

Міця, згледзеўшы на высокім, крышку як звялым, сцябле жоўтую, падобную да маладзенькага сланечніка, кветку, пераскочыў вузкую ў ружаватай мятліцы канаву, з коранем выграў валасатае сцябло.

— Што там? — не здагадалася Чэся.

— Кветка...

— Якая?

— Угадай, ты ж доктарка.

— Не смейся, я толькі пелегнярка[1],— Чэся ўзяла ворсісты стрымбулік з жоўтай, млява пахіленай кветкай,

[1] Пелегнярка — медсястра *(польск.)*.

пагладзіла яе, набіраючы на пальцы слізкага пылку: — Мо дзівасіл?

— У яго вялікія лісці. Ды ў лесе хіба ён расце?

— І праўда,— сарамяжліва ўсміхнулася Чэся.

— Гэта горная арніка, ці на яе яшчэ кажуць гарнік або купальнік. Маці некалі адпаіла мяне яе адварам. Пасля аперацыі...

— Якой аперацыі? — прыпынілася Чэся: у валасах яе блыталася рыжая пацерка.

— У мяне быў плеўрыт. І, каб сцягнуць гной, трэба было адрэзаць часць рабра. Во тут.— Міця паказаў на левы бок рукою.— Памацай.

Чэся асцярожна паклала руку на яго белую ў жоўтыя пасачкі кашулю: пад ёю значылася шырокая, на пальцы два, ямка.

— Мне было тры гады. Я слаба помню. Помню толькі белую палату, бацькаў заплаканы твар за акном і электрычную лямпачку: мяне брала дзіва, што яе не трэба запальваць, як лямпу, запалкаю.

Чэся моўчкі ішла з краю шашы, сонца, што хілілася ніжай, залаціла высокія ў абшалушанай кары ствалы тонкіх маладых соснаў. Лес з аднаго боку кончыўся — за ім ужо цвіла сіненькім цветам вузкая лешка лёну, падымалі ад зямлі цёмна-варсістае лісце акучаныя картоплі. Сівавата-зялёнаю сцяною стаілася нашапацелае за дзень жыта з ліловым, што не адкрасаваў яшчэ, лёгкім, неналітым, пляскаценькім коласам.

З другога боку востры клінок хвойніку ўпёрся ў крыжавіну дарог — там, за лесам, быў чуваць крык пеўня.

Яны выйшлі да абгароджанага жардзяным патрэсканым плотам — проста на вілаватыя дубовыя слупкі пакладзеныя акораныя жэрдкі — хутара. Загарэлая маладзіца, трымаючы за вяроўку, прыпасвала жоўтую сытую карову. Тут пры ёй на вузенькім загоне заглушанага свірэпаю нізкага яшчэ лубіну хадзіла чорная авечка з цяжкаю, прывязанаю на шыі качалкаю, што востра біла ёй па каленях.

Прычапіўшыся да Чэсі з Міцем, пабег белы нэндзны каток.

— Вой, куды ж гэта ён? — маладзіца пусціла карову, грэзнучы босымі нагамі ў пухкай зямлі, пераняла маладога катка.

— У Дварчаны, мусіць, захацеў,— жартам адказаў Міця.

— Якія ж Дварчаны, калі вы ў Ятру ідзяце,— зазлавала нават маладзіца.

— Не, праўда, нам трэба ў Дварчаны,— ужо сур'ёзна прызналася Чэся.

— Тады вам вярнуцца вунь на той гасцінец,— рукою назад паказала маладзіца.— Грушу бачыце? Во то дварчанскі гасцінец.

З разбітае, у глыбокіх каляінах, дарогі Чэся і Міцем завярнулі на зялёную, няезджаную, зарослую высокім бела-жоўценькім румянкам вузкую сценку.

Ужо змякчэла змучанае за дзень, адышлося ад гарачыні і паласкавела сонца. І ўжо было добра без яго сухое гарачыні, ад якое згарнуліся, зажмурыліся нанач жоўтыя кветкі валасніку. Толькі малінавымі агеньчыкамі гарэлі звёздачкі сардэчніку — марнае палявое гваздзікі.

Нядужай пташачкай у Міцевай душы грэлася першая радасць. Ён ніколі не думаў, што будзе ісці і Чэсяю палявою сценкаю, што будзе свяціць невысокае маладое сонца і ўвесь гэты ласкавы свет, ціхі пасля таго, як сонца схіліцца на вечар, свет спакою і заміранця, перайначыцца, праяснее ад нечаканага шчасця.

Гарнучы рукою па зялёна-ліловых каласках чутка-шапаткога, нахіленага на дарогу жыта, Чэся злавіла зморшчаную белую кветачку бярозкі, што апляла чырвонапруткае сцябло, са смехам ужо спытала:

— Ты і гэтую кветачку ведаеш?

— Чаму ж не — бярозка,— засмяяўся Міця.— Калі яна зацвітае, кажуць, у кароў тады прападае малако. Яна сцягвае.

— Ты любіш прыроду?

— Я некалі жыў з ёю. Я глядзеў, як распускаецца жоўты адуванчык, і радаваўся, што пара гнаць з пашы кароў, і як смутна мне было, калі ён закрываўся зноў — час гнаць у поле.

— А ў нас не было нават козаў,— кісла ўсміхнулася Чэся.— Толькі свінні, і мы з сястрою хадзілі для іх рваць крапіву. Кожны дзень бралі мяшок, рукавіцы і ішлі да возера. Я ўзненавідзела ўсё тады...

— А мне — як радасць было ўсё жывое...

— Я, наадварот, баялася крапівы, лесу, жаб, чарвей. Не баялася толькі аднаго — біцца з хлопцамі.

— І біла іх?

— Яшчэ як!

За грудком сценка ўткнулася ў пясчаную дарогу. Там

цяжка ступаў конь і шалясцеў пад калёсамі сухі жоўты пясок. І яны ішлі за возам, што пах каламаззю і свежаю ўкошанаю канюшынаю, за жоўтым сабакам, што, угнуўшы голаў, бег збоку фурманкі. І нешта новае, нязнанае дагэтуль варушылася ў Міцевай душы, і ён ведаў, што гэтае невядомае расло, падымалася і ў Чэсі.

Яны ўвайшлі ў вялікую вёску, з драўлянаю царквою за каменным мурам, з горкім пылам, які ўсё ніяк яшчэ не мог асесці пасля авечак, якіх гнаў, несучы на адной руцэ старую шарую сярмягу, а ў другой — зробленую з сіняй бутэлечкі з адрэзаным дном трубу, немалады, у аблезлым каўпаку пастух.

У малых вокнах сухою пераломанай чырванню адбівалася блізкае сонца, пераплывала высокі журавель ■ тонкаю жэрдкаю. Каля мокрага пазелянелага зруба загаварыліся маладзіцы. На стракатай дзяцелінцы стаялі драўляныя, у жалезных абручах, вёдры.

Міця павітаўся, і твары ў маладзіц памякчэлі. Адна з іх узяла вядро і, расплюхваючы на пухкі пясок ваду, скоранька пайшла поруч з Чэсяй, не сароме́ючыся, распытвала, адкуль і чыя яна будзе.

— А я ж думала — да Герасімцоў, бо да іх прыязджае гэдакая паненачка і хлопец гэдакі відны.

Маладзіца, мусі, знарок падхвальвала Чэсю ■ Міцем, каб болей што выпытаць. Мякенька ступаючы босымі загарэлымі нагамі, шчуплая маладзіца дайшла да крайняе сваё хаты з саламяным лобам замест шчытка, прыпынілася пад навіслым галлём грушы, што расла за плотам, і жмурачыся проці нізкага сонца, паспачувала:

— Ого, не блізкі свет — тыя Дварчаны. Проці ночы будзеця ісці.— А потым махнула рукою: — Але ці вам, маладым, ночы баяцца... Ноч кароценькая цяпер.

Ужо за вёскаю, на мосціку з замшэлымі парэнчамі і дзіравымі маставіцамі, пад якім цурчэла па зялёных каменнях быстрая рэчачка і адкуль горка пахла вялікаю ў жоўтых парасончыках цвету лодзьмаю, Чэся смяялася з гэтае цікаўнае на навасць маладзіцы:

— І праўда, Міця, ці ночы нам баяцца.

І нечакана, нібыта ўчуўшы трывогу і неспакой, адарвалася ад парэнчы, падняла вочы на аранжавае сонца: вакол яго дрыжаў і пераліваўся круг.

— Міця, паглядзі, якое сонца. Ты бачыў калі?

Міця, асцярожна ступаючы па гнілых маставінах, падышоў да Чэсі. Адсюль, між прагалля маладых вастравер-

хіх алешын і нахіленых купчастых вербаў, было відаць аранжавае з ясным кругам сонца. Яно сляпіла вочы, астаўляючы на твары пякучую чырвань. Гэтая чырвань аблівала, харашыла ружовасцю Чэсін твар.

— Ты бачыў такую праяву? — Чэся не магла высока падняць вочы, каб яшчэ раз глянуць, як мігцеў, пераліваўся зацярушаны ружовым пылам гэты выразны круг, што тугім пярсцёнкам абняў сонца.

— Так грае сонца,— Міця з-пад локця зірнуў туды, у прагал вербаў.— Адзін раз у год. Толькі сёння.

Чэся з рыпучага масціка сышла на цвёрдую з боку разбітае дарогі сцежку, спытала:

— Чаму толькі сёння?

— Таму, што сёння самы большы дзень і самая кароткая ноч. Сёння — Купала. Ёсць нейкая з'ява ў прыродзе, калі грае і раптам знікае сонца.

— Ты бачыў?

— Не.

— Тады папільнуем,— Чэся стаілася і з дзівам глядзела на таемны сёння вечаровы свет са шчарбатым грабенцам лесу, з цёмнымі купамі старых дрэў у невядомай далёкай вёсцы, з застылым ветраком на каўпаку крутога грудка. Над усім таямнічым сцішэлым светам нізка вісела, кацілася мігатлівае сонца ў вялікім, ясна-зеленаватым зверху і чырвона-ліловым спаднізу, крузе.

Яно дакацілася да ветрака, і ён, здаецца, нібы заскрыпеў, апускаючы на сваім крыле гэты вялікі ценжар. І сонца пачало заязджаць у нейкую прорву, пераліваючыся толькі макаўкаю-пярсцёнкам. Знік і расплыўся пад ім зеленавата-ліловы круг. І на зямлю зацерушыўся сухі сляпучы поцемак.

— Во і ўсё,— Чэся ўздыхнула і пайшла дарогаю, што пахла яшчэ горкім сухім пяском.— Я думала, што і праўда яно грае.

Блізка ў маладым хвойніку, у кустах перасвістваліся і аціхалі птушкі. І толькі адна цвірчэла, як хто дзьмуў у гліняны свісток з гарошынаю.

За сонным ацішэлым жытам працяжна і жалосна ржаў малады конь.

Дарога скіравала зноў да рэчкі, на поплаў, дзе набэрсаўся каля цёмнага, уперамешку з лазняком і крушынаю, густога алешніку белаваты волкі туман.

Нізкая, шорсткая, зголеная, як вострай брытвай, пакоша пахла прэснаю расою.

З туману рудаватымі барадаўкамі выглядвалі складзеныя напач копкі яшчэ не высушанага сена.

— Вой, сенам як пахне!

Чэся вырвала сваю руку, пайшла да блізкай капы сена.

— Ага,— Міця ўслед за ёю сышоў з тугое, утоптанае сцежкі на шапаткую, абсыпаную расою пакошу.

Чэся прылягла спіною на пахучую капу, аб'ехала на сене ўніз, цьмяна забялеліся яе ногі.

Мяккі, гаркаваты пах сена закружыў Міцю голаў.

— Садзіся бліжай,— яна працягнула яму руку.

Ён злавіў дрыготкія пакрэплыя пальцы і, не выпускаючы ўжо, сеў поруч з Чэсяю. Абняў яе за плечы і ўчуў, як бокам яна прыгарнулася да яго, учуў каля свайго твару казытлівы дотык яе валасоў, пахучых гаркаватым, смаловым, як ялаўцовым, пахам, учуў каля твару яе халоднае вуха і злавіў губамі яе мякенькую мочку.

І прымлеў, успомніўшы зноў возера, трапяткое, разарванае сонца і як яна спрытнымі нагамі ішла па ім, распырскваючы ружаватаю тэнчаю ваду.

Цяпер, чуючы пад рукою цяпло яе мякка круглага пляча, ён верыў і не верыў сабе, што так блізенька каля яго сцішылася яна, Чэся, і мацней прыгарнуў яе да сябе. Яна павярнулася, падняла свой твар, і ён злавіў яе вільготна-мяккія губы, задыхнуўшыся ад дотыку да іх, і пачаў гарэць ад брыдкасці, ад бяспамяцтва, ад усяго...

І ўчуў, як яна цалуе яго сама — у нос, у губы, у шчокі, у вочы. Міцю здавалася, нібы матылёк садзіцца на яго твар, мяккімі растуленымі крыльцамі, прыліпае да яго.

Як апомніўшыся, ачуняўшы і адышоўшы ад свае гарачкі, яна раптам уздыхнула:

— Ой, божа, сена колецца, сена.

Ён нібы прачнуўся, таксама расшчапіў свае рукі.

— Ідзём, Міцек...— яна скоранька падхапілася, абгладзіла кругом сябе сукенку.

Потым, калі яны выйшлі з лянівага сырога туману, калі дарога паднялася на настылы грудок, за якім ліловай яснасцю свяцілася, не стухала кароткая купальская ноч, калі ён, зноў асмялелы, абняў яе, яна са смехам сказала:

— Трэба было там,— яна бліснула вачмі, што адбівалі чырвань неастылага яшчэ неба, і смехам сказала: — На сене.

— А ты там не баялася?

— Не.

— Нічога? — ён, ужо асмялелы, падахвочаны гэтым жартам, прыціснуў усю яе, дрыготкую, жывую, чуючы рукою пад накінутым наапашкі жакецікам яе непаддатнагібкі стан.

Але яна скоранька злоўчылася і, пад яго сашчэмленыя рукі зверху падтачыўшы свае, разарвала нямоцны круг, што тугім абручом абвіў яе.

Ён ішоў, узіраючыся на яе, усю яе, зграбную, высакаватую, пругкую, лёгкую ў хадзе на гэтай расістай ужо дарозе, і нешта раптам зашкрабло, зашчымела на душы, што ён не быў смелы з ёю на тым яшчэ волкім і цёплым сене.

А можа, дзяўчаты любяць смелых, не такіх, як ён?

Міця, задуманы, абыякавы, нібы пачарсцвелы да Чэсі, ішоў каля яе, цверазеючы яшчэ і ад гэтай пасвяжэлай сырасці, што падымалася ад рэчкі, ад смугі алешніку, абвітага нізкім туманам. Там жорстка, як круцілі надломанае дрэва, скрыпеў драч. Далёка ўпоцемку ночы заблішчаў, затрапятаўся і пачаў расці, большаць агонь, зводдаль загарэўся другі.

Недзе ў невядомых вёсках хлопцы і дзяўчаты спраўлялі Купала.

Міцю падумалася, што ўдома верасаўскія хлопцы рвуць на аблозе ялавец, каб таксама раскласці агонь, і сабраліся купкаю і спяваюць дзяўчаты. І яму раптам захацелася быць там з Чэсяю...

Ён дагнаў яе, падсунуўшы руку пад накінуты наапашкі жакецік, узяў яе за халаднаваты локаць, учуў, як Чэся са злою радасцю сціснула яго пальцы, пазіраючы туды, у далёкі сіняваты поцемак, дзе на грудку каля чорнае паласы лесу жоўтай яснасцю шугаў і свяціўся агонь. Ціхенька і нечакана спытала:

— Ты любіў калі-небудзь?

У Міці перахапіла дых:

— Не,— і ледзьве вымавіў сваё: — А ты?

Яна тужэй сцягнула на грудзях свой жакецік, здрыганулася ад сыраватага холаду. На пышных жаўтлявых валасах яе, на шорсткіх шнурочках броў цьмяна адсвечвала раса. Асалавелі, прыжмурыліся яе вочы, пад імі дужкамі вызначыліся два вострыя шпаркі.

— Стамілася? — Міця зноў злавіў Чэсю за абедзве рукі.

— Крышку,— уздыхнула яна і з радасцю, як дзіця, суцешыла сябе.— Дзень скора. Бачыш, як забялелася неба. Я не згледзела, калі прайшла ноч.

Яны стаялі маўклівыя, узіраючыся, як далёка ў горах, перад чорным няроўным паскам лесу, што цягнуўся ўздоўж белаватага неба, палаў і большаў жоўты агонь. А высока над імі, над усёй зямлёю перавярнуўся зорны воз — Вялікая Мядзведзіца.

Ад блізкага світання пачынала зелянець цёмная трава, і нібы з перапуду падсвіствала, прачнуўшыся ўжо невядомая пташачка на ціхай, яшчэ нешапаткой групы ў сіваросным жыце.

У нізкім, што падступаў да балотца, алешніку, у купах вербаў учуўся спярша нясмелы, а потым моцны расцяжны свіст, прашыў зялёна-сівы ў нізкім рэдзенькім тумане алешнік і купы старых вербаў.

— Салавей? — Чэся, ганяючы дрыжыкі, зноў сціснула каля шыі свой жакецік з вострымі, падкладзенымі плечыкамі.— Я ніколі не чула.

— Няўжо? — здзівіўся Міця.— Гэта івалга.

— А ты не смейся. Я гараджанка. Я сёння першы раз прайшла во такую дарогу. Яна запомніцца мне на ўсё жыццё. І ты, і возера...

Яна нагнулася, зняла басаножкі і памалу пайшла, набіраючы на босыя ногі зялёнага мокрага лісця, травы і кветак.

Глухая дарога, мінуўшы балотца, выбегла на поле да адзінокага хутара, дзе тоўста і асіпла гаўкаў сабака, і, захлынуўшыся ў сівавата-ліловай, прыгнутай ад расы мятліцы, выйшла на абсаджаны бярэзінамі і пасыпаны жвірам гасцінец.

Адсюль, з грудка, была відаць цёмна-зялёная лагчына між грудкоў, дзе адна за адной цямнелі, засланяючы нізкія саламяныя стрэхі, старыя высокія прысады. Тонкай канаплінай перад імі падымаўся гонкі топаль. Не патушаная блізкасцю дня над ім яшчэ маргала, слязілася, як ільдзінка на акне, далёкая зорка. І раптам на вачах у Міці растала, расплылася ў пояснелай сінечы неба.

— Там маё Верасава.

— Дзе? — ён чуў, як яна цёпла задыхала каля яго.

— Вунь, бачыш, цёмнае высокае дрэва. Топаль. Там наша вёска.

— Няўжо? А мы падыдзем туды?

— Чаму ж не.

Напроці Верасава яны падышлі да стромага берага. Унізе шырокім тугім пасам вывівалася рэчка. Яны стаялі, узіраючыся на густую плынь вады, што лізала доўгія гры-

вы зялёнай расы ў белых кветачках цвету. Каля купкі нахіленага, падмытага алешніку круціў цёмна-сіняваты вір.

Чэся, зіркнуўшы на яго, адступілася ад расколатага берага.

— А дзе хата твая?

— Вунь,— Міця паказаў за старыя шурпатыя чорныя алешыны з вілаватымі паўсыхапымі вяршкамі: у прагале іх рожкамі канькоў выткнуліся зеленкаватыя замшэлыя стрэхі верасаўскіх хат.

— Вунь наша гумно, бачыш?

— Ага,— кіўнула галавою Чэся, узіраючыся ўжо не туды, а на кабету, што паволі, з цяжкаю радзюжкаю на плячах, выбіралася з гразкага, багністага балота.

Міця таксама згледзеў, як, падаткнуўшы прыпол спадніцы, з іхняе сенажаці, мусіць, нажаўшы свінням радзюжку сакаўнога, з драпастым лісцем, калюча-шорсткага хробусту, лезла Ваўчкова Вольга.

Змеціўшы, што нехта стаіць над абрывістым берагам, яна мэнтка кінулася ў трыснік і заплюхала, трапіўшы ў гразкія лёхі крыніц.

— Чаго яна? — здзівілася Чэся.— Утопіцца, крый бог, багнішча там.

— Яшчэ і якое,— Міця назнарок адышоўся.— На чужым жала траву, таму і хаваецца.

Чэся махнула капою сваіх ужо волкіх валасоў, азіраючыся на зялёнае, у густых кустах алешніку, у вербах, роснае балота, і сказала пра другое:

— Хораша тут у вас.

— Ага, хораша... Толькі сціпна аднаму.

— А ты з дзяўчынай прыходзь сюды.

— А хіба яе прыклічаш?

— А ты папрасі. Няўжо ў Верасаве яны такія бессардэчныя?

— Напэўна.— Ён злавіў яе руку, сарамяжліва прачытаў:

> В ліповэ квяты, в ліповэ лісьце
> Пруг устроілэм на твое пшыйсьце... [1]

Яна засаромелася і насцярожана спытала:

— Ты складаеш вершы?

— Трохі,— прызнаўся ён.— Але гэта не мой, гэта верш

---

[1] У ліповы цвет, у ліповае лісце
Парог ускведіў на тваё прыйсце *(польск.)*.

Стафа. Ён склаў за мяне, каб ты прыйшла. Хіба было кепска табе са мною?

— Ой, што ты, Міця, я і так не ведаю, як аддзякаваць табе.

— Прыходзь сюды ў нядзелю, аддзякуеш за ўсё.— Ён зноў злавіў яе руку.

Яна не вырывалася, толькі заплюшчыла вочы.

Ён мяконька пацалаваў у іх, а потым у сухія стуленыя вусны...

У Дварчаны яны прыйшлі, калі нізенькае чырвонадрыгатлівае сонца, спаднізу прашыўшы густыя дрэвы, слізганула па чорных дранкавых ды закурэлых чарапічных дахах. Ужо на сенаванне з прывязанымі да ровараў косамі ды граблямі ехалі не вельмі ўхватныя да работы мяшчане, і цэлую плойму коз запыніла каля закрытага пераезду старая Кайтаніха, чакаючы, покуль пройдзе ранні пасажырскі поезд. Стаўшы спіною да лядовага скразняку, што віхрыўся ўслед за вагонамі, Чэся трымала растапыранымі пальцамі свае густыя валасы. Гэтак, не здымаючы з галавы рук, загаварыла пасля таго, як, зарыпеўшы на стрэлках, каля вакзала стаў аціхаць поезд:

— Дзякуй, Міцек, табе за ўсё.

— Ты ж не забудзься,— задыхнуўся ён,— вазьмі ровар і прыязджай туды, пад Верасава, на той стромы бераг. Як умовіліся, у нядзельку.

— Хіба другім разам,— яна ўзяла з яго рук плеценую карзіну. Ён глядзеў ёй услед і толькі цяпер убачыў у яе валасах кветку прывялай дзяцелінкі з таго ўжо далёкага сена з-пад Світазі.

— Не, ты прыязджай, я чакаю,— крыкнуў ён наўздагон.

— Я прыеду, Міця,— яна кіўнула жоўтаю, як сланечнік, галавою.

## XII

Сварбы між імі не было даўно, была халодная і недаступная, як мур, маўклівасць.

Пераступіць гэты холад адчужанасці ўжо ніхто з іх не мог — ні Імполь, ні Алеся.

Алеся, здэцца, даравала яму ўсё, зразумеўшы пасля той сыравата-халоднай ночы, калі яе, ужо бяспамятную ад рэўнасці, штось наглае, нядобрае, злое, нібы зробленае якімі чарамі, панесла на чыгунку пад поезд, на смерць, што ён не любіў, пэўна, ніколі.

І душа яе, як апечанае лісце на агні, абвяла, згарнулася, абкурэла дымам чужых абгавораў ужо пазаўсёды.

Яна ведала, што ніколі не будзе любіць Імполя так моцада і чыста, як любіла раней.

Балючая рана крыўды, помсты, брыдкасці памалу затаілася, зарасла новаю скуркаю абыякавасці, і Алеся ўжо з ганарлівай пыхай таіла ў сабе раз'юшаную злосць: як зярнятка ў арэхавай шкарлупцы, яна, гэтая злосць, паўнела і расла, убіраючы ў сябе мяккасць дабраты.

Алеся ведала — ліхам, а не дабром усё гэта скончыцца, але перамагчы сябе, знайсці, зачэрпаць спадыспаду душы гойнае не магла. Перакіпела, перасохла душа, зарасла і закідалася, як стары калодзесь, брудам абгавораў, помсты і вялікага неадкупнага граху перад залувіцаю і свекрывёю, што мардаваў і пакутаю мучыў ѝе.

Так ішло іхняе жыццё — для чужых вачэй нібы спакойнае, для Імполя з Алесяю — адгароджанае халодным і непарушным мурам маўклівае злосці і нянавісці.

Калі з паўгода назад яны шукалі зручныя хвілі, каб пабыць адным, то цяпер радаваліся, што нехта прыходзіў у двор і яны маглі гаварыць не толькі з нечаканым суседам, але і між сабою. Выходзіла гэта міжволі. Гэта было як палёгка, як сіняе неба між доўгай навалы сівых, цяжкіх снегавых ці дажджавых нізкіх хмар.

Спалі яны даўно асобна, зрэшты, і жылі асобна, хоць і ў адной хаце — кожны са сваімі патайнымі мыслямі, толькі перад староннім вокам паказваючы, што сваркі ды злосці, ды гэтае нематы між імі няма.

Імполь, як здавалася яму, прыкмячаў, што пра іхнюю заядлую злосць, нянавісць ды нялюбасць дагадваўся пануры, як крумкач на палявым камені, стары Корсак. Імполь здзівіўся і неяк ачах душою, учуўшы, што ён перамяніўся да Алесі. Перамяніўся знянацку, убачыўшы адной роснай раніцай, калі яна ішла з даёнкаю ў хлеў, яе босыя ногі з шырокімі пляскатымі пятамі і вялікімі, як у клышаногіх, костачкамі. І цяпер адразу, што ён ужо ні думаў пра Алесю, прыпаміналіся гэтыя тоўстыя выпуклыя костачкі на нагах і шырокія пляскатыя пяты. Патаемная любасць да Алесі, няўцерпны той магнэз, які цягне мужчыну да кабеты, згінуў, нячутна растаў, утачыўся, як вада ў зямлю.

З кожным днём яны чужэлі і рабіліся невыноснымі адно аднаму. Маўкліва ўставалі, маўкліва клаліся спаць, гаворачы, перасільваючы сябе, толькі пра тое, што трэба



6 Зак. 3215

зрабіць, прыпесці. Імполю было пяўцерп і пязносна брыдка, што яны так жывуць — без кахання, без ніякае расіны радасці, што ў іх асталася толькі балючая, як нарыў, да гаркаты пакутная цярплівасць.

Іншы раз Імполю здавалася, што ён не вытрывае гэтых маўклівых пакут, што вострымі кіпцюрамі здзеку разрывалі яго душу, і пойдзе, як пайшоў ад Радзюка. Але нешта стрыпожвала яго адвагу, калі ён пачынаў думаць пра Алесіну цяжарнасць, пра тое ненароджанае дзіця, што вырасце без яго, без бацькі. І яму рабілася шкода Алесю, і нейкая танюткая мігатлівая, як наструненая між шурпатых хвоек, павучынка раптам прыпыняла яго. Трэба было ўжо разарваць яе рукою, а тады ісці.

Цяпер ужо не раз у шапаткім поцемку ночы, абвыкаючы да ціхага і цяжка-здушанага храпу Алесі, ён усё меркаваў, як разарваць гэтую павучынку, і мыслі яго ніяк не разміналіся з Хрысцяй: загарэлая, у той паркалёвай, крышку гаматнай, сукенцы, падобная ўжо нечым да гараджанкі, яна стаяла ў Імполевых вачах, і ён ужо з салодкай радасцю бачыў сябе з ёю ў нейкім іншым свеце, на багатым хутары, у дагледжаным садку, дзе з цёмнага лісця свіціліся жоўта-ясныя бойныя яблыкі.

І ён пачынаў дагадвацца і разумець, што патаемна, ціха і няўзнак любіць Хрысцю, ды нейкім асаблівым, вымучаным і нерастрачаным каханнем.

Ды, пэўна, да яе, да Хрысці, ён нікога не любіў. Быў час — наравілася яму тоўстая, круглая, як бонда, Ваця, ды, можа, не наравілася, а яго, ужо выспелага хлопца, спакушала неадольная прага спазнаць таямніцу кахання. І, можа, гэтае яго моцнае, затоенае ў душы жаданне і ўчула Алеся, засланіўшы яму свет. Хрысцю ён, здэцца, і не прыкмячаў, покуль сама не пачала строіць з ім жарты і забаўляцца, спакусліва бліскаючы лупаценькімі карычневымі вачмі. Тады ўжо і сам стаў прыглядацца да яе, чуючы на сабе калючы зірк блішчаста-вільготных, як вылушчаны з калючай шкарлупкі свежы каштан, быстрых вачэй.

Тугая зашмарга сціснула Імполя пасля таго, як у Дварчаны ад Корсакаў сышла Хрысця. Ён ужо не ведаў, як даць сабе рады, думаючы ўсё пра тое, што іхнія дарогі, перакрыжаваўшыся тут, у Верасаве, разыходзіліся навекі. Але ў мыслях варочаў, прыклікваў яе да сябе, бачачыся разам з ёю то на купленым, багатым хутары, то ў далёкай Аргенціне, пра якую, прыходзячы да Радзюка, расказваў

вялікі белы як лунь амерыканец Чарняўскі, што блізка ад Радзюкоў у татарскім двары купіў пяць гектараў тлустай, хоць ты яе на хлеб маж, урадлівай без гною зямлі. І яны з Хрысцяй, як той Чарняўскі, зарабіўшы грошай, вернуцца дадому і купяць надзел або мураваны, на два камяні, з шатравальняй і вальцамі, Крамяніцкі млын, які Імполь бачыў за Дварчанамі. І месца — адно хараство, азярцо ў вербах і лясістыя груды круга яго.

І баяўся, што Алеся магла разгадаць патайныя мыслі, прыслухваўся да ложка, дзе ляжала яна, таксама перабіраючы ў памяці нешта скрытнае, сваё, чакаў, покуль яе не зморыць сон.

А цяпер тут, на карычневым ад мятліцы і ружаватай смолкі балотцы, куды ён раненька з касою прыйшоў, нікога не было. Толькі далей каля сіваватага тросніку, дзе кіпелі і вірылі крыніцы і дзе, вывіваючыся праз густы лапушысты хробуст, бег да рэчкі, ціха цурчэў, пераліваўся праз карэнні алешніку вузенькі раўчачок, хадзілі на сваіх цыбатых нагах чатыры чорна-белыя спаважныя буслы. Ды каля рэчкі аж гнуўся ад мігатліва-дружнага пералёту ды цвіркату маладых гультаяватых яшчэ шпакоў, што і абрыдлым верашчаннем і нецярплівым трапятаннем крыльцаў выпрошвалі ў старых сабе корм, цёмна-зялёны шчытны алешнік.

Гэты мігатлівы, ненажэрны вэрхал цяпер стаяў на верасаўскім балотцы кожны дзень. І, радасна аглушаны ім, Імполь папляваў на руку, выцягнуў з кішэні мянташку і, шаргануўшы ёю па вострай, звечара наклёпанай касе, зачаў першы пракос. Пераспелая, густа абсыпаная расою трава, палахліва ўздрыгнуўшы сіняватымі мяцёлкамі, хілілася набок і пакорна кладася ў прэсна-саладжавы палучы пракос. Рытмічна, з узмахам Імполевых рук звінюча шахкала едкая, падвостраная мянташкай каса, і ў такт ёй шоргату падступаліся Імполевы ногі, пакідаючы на калючай пакошы дзве пратаптаныя сцежачкі. Пасля роўнага, акуратнага клёпу каса аж брыла траву.

А над Імполем злым, зноў растрывожаным роем закружылі думкі пра Хрысцю. Чамусьці ўявіў, як яна прыйшла б з граблямі, раскідаць ды распускаць пракосы: босая, загарэлая, у чырвонай з белымі кветачкамі хустцы, што ішла ёй да твару, і ён, злавіўшы яе, ужо не выпусціў бы з рук, раптам убачыўшы крышку спалоханыя і радасна-хітрыя яе карычневыя вочкі. Ён спахапіўся, апомніўся ад гэтых разгарачаных думак, учуў нечаканую брыдкасць

і сорам перад Алесяй. Душу абліло ўжо нават шкадаванне, што не любіць ды, мусі, ніколі не любіў яе.

Цяжкаю вадою, нібы з высокіх заставак, падала і разбівалася ў белую злую кіпень яго радасць.

А можа, кінуць усё к чортавай матары і пайсці, як пайшла яна, Хрысця... І раптоўне асекся, успомніўшы пра Алесіну цяжарнасць, пра дзіця, што мае нарадзіцца. Яго дзіця. Але што дзіця?.. Будзе гадавацца! Бо жыць так, як жыве, ужо няўцерп, збрыдла ўсё.

Цяпер у яе, што ні слова, то са злосцю, з помстаю, што ні гутарка, то — сварба з кляцьбою, з мянушкамі. Што ні зрабіў — усё наадварот, усё не так.

Учора сварба і крык пачаліся нават з таго, што ён, Імполь, прыгрукнуў дзвярмі: яна, Алеся, якраз прылягла на ложку.

— Божа мілы, як ляпне, так аж у небе чуваць.

Імполь не прыкмеціў, як выйшаў пракос, падбіраючыся ўжо да самае гразі, дзе за кустамі вербалозу гніло, зацягнутае чырванаватай рудою, смярдзючае багнішча.

Абапіраючыся на касу і пераскокваючы з купіны на купіну, Імполь падбіраўся да струхлелага алехавага пня — там недзе, як ведаў ён, было качынае гняздо. Месяц назад, прыбегшы сюды ўкасіць нанач каню маладога трасніку і асакі, Імполь крышку сумеўся, учуўшы тут у асацэ, у верацёнах тоўстага балотнага хвашчу падазроны лопат і валтузню. Настаўляючы вуха, ён падкраўся бліжай і ўбачыў двух качараў: адзін з іх пляскатым дзюбам турзаў за шыю другога, ірваў чорна-бліскучае пер'е каля галавы, падмагаючы сабе крыллямі, церабіўся на спіну, стараўся подмяць пад сябе. Зводдаль ад іх каля струхлявелага алехавага пня, цікуючы цёмнаю пацеркаю вочка, мусіць, на сваіх кавалераў, сядзела жаўтлява-стракаценькая качка.

Заюхленыя, занятыя бітваю качары, здэцца, і не бачылі, што да іх падкрадаецца Імполь. Выцерабіўшыся спаднізу, той, як выдавала спярша, слабейшы, пачаў цiснуць воллем і латашыць шырокай дзюбай па плячах гэтага большага і дужэйшага. Імполь уваткнуў у багніска касу і, ужо хмялеючы ад прагнасці і жадання злавіць іх, разгарпуў радзюжку і ўпаў туды ў рэдзенькі хвошч. Але дарма — залопаўшы з ляскам сваімі крыллямі, качары падняліся, а Імполь толькі ляпнуўся ў іржавую топкую гразь. Каля гнілога алехавага карча, адкуль усхапілася перапуджаная качка, Імполь знайшоў дванаццаць зеленаватых,

пэўна, яшчэ не заседжаных яечак, але браць іх у шапку ўжо не браў.

Цяпер каля карча асталася пустая, трошкі завітая сухою асакою ямка і кучка свежага памёту — надоечы выведшыся качка пакінула гняздо.

Імполь перавярнуў касу, трымаючы рукою за дзюбок, памянціў доўгаю мянташкаю і пачаў збіваць бародаўкі жорсткае асакі і мяккі лапушысты бабок з пацямнелымі шышкамі кветак.

Тут у самай гразі раскашавала адна няўежная дзіч, якую, здэцца, і каса не брала — сухаватая, разучая асака, верацёны ліловага хвашчу і купы трысніку з высокім сіваватым гляжджаем, што выпусціў свае зялёныя, яшчэ не пачарнелыя таўкачы. Толькі пры рэчцы, дзе ўвесну Імполь падсыпаў попелу ды перад вялікаднем, пачысціўшы комін, прынёс тлустае сажы, загусцілася цёмна-зялёная, мяккая мурава. Радасць брала яе і касіць, адно паспявай за касою. А тут — мука ды злосць лавіць па куп'і бароды...

Палуднаваць Імполь ужо і не пайшоў, рашыўшыся дагаканаць гэты клін балота. Брыдка было перад людзьмі: сякарод жаўтлявае пакопы ружаватаю барадою стаяла толькі яго нераспелая сенажаць, пакуль рабіў склеп, іншыя ўжо ўправіліся пасенаваць — высушыць і звязці ў гумно сена.

Управіўшыся тут у багнішчы, вярнуўся да рэчкі, абкасіў у цяньку пад алешнікам затравелы бераг, спаласнуў у вадзе касу і, убіўшы яе кассём у шчотку зрэзанае да карэньчыкаў травы, пайшоў вынесці на сушэйшае з мокрае гразі ўкошаную траву, адчуваючы наліты ценжар ва ўсім целе, але і радасць, што ўсмак ды ўволю напрацаваўся. Развёў пракосы, растрос астатні ахапак і завярнуў пад рэчку, шукаючы бухты, каб скупнуцца ў крынічнай шчымлівай вадзе ды спаласнуць з сябе ліпкую, парную млявасць. Сонца пераваліла за полудзень. Змарылася і сцішэла ненажэрная шпачыная чарада, што гвіжэла, пераклікалася тут каля надрэчных вербаў і алешніку. Азіраючыся, ці няма каго, убачыў толькі на пераласым кані пачыся, ці няма каго, убачыў толькі на пераласым кані плаўпічага, верасаўцамі нанятага Віцю Чувака, што прыглядаў за пасевамі ды сенажаццю, каб не прыпасвалі ды не касілі адзін у аднаго, пайшоў у халадок пад нахіленую старую вярбу з адламанаю цяжкаю галінай, каб распранацца, і здумеўся, учуўшы Хрысцін голас:

— Імполь, Імполь!

Азірнуўся кругa сябе — не, акрамя паплаўнічага, што падаўся пад верасаўскія гароды, нікога нідзе не было.

Але ціхі голас, а потым і смех пачуліся зноў. Імполь падумаў, ці не падалося, як было раз у гумне: зайшоў набраць каню сена, а там у застаронку нібы нехта Еўчыным голасам аклікнуў яго — у Імполя аж мурашкі заказыталіся на спіне.

Расшпільваючы лёгкую, без каўняра кашулю, прыслухаўся, але голасу болей не было, адно нечаканы віхор, што зашумеў у алешніку і пакарабаціў у рэчцы ваду, віўся над растрэсеным, прывялым ужо сенам, падымаючы яго ахапкамі ўгору і раскідаючы над чужым надзелам, дзе ўжо ачуньвала і падымалася жаўтлявая атава.

— Імполь, Імполь, ці чуеш, глухі? — гукалі недзе за вярбою на другі бок рэчкі.

Прыжмурыўшыся проці сонца, што адбівала ад рэчкі і калола ў вочы сляпуча-мігатлівым бляскам, убачыў яе, Хрысцю. З-пад чубка хусткі выглядаў загарэлы і паўнаваты тварок, свіціўся няўтоенай радасцю, і гэтая радасць, да якое дамешвалася сарамяжнасць, падружовіла шчокі.

На ёй была лёгенькая прыталеная блузка ў вішнёвыя ягадкі, [redacted] доўгімі рукавамі і тугімі манжэтамі, і цёмна-сіняя спаднічка. Каранёвы, зверху ўкладзены зялёным ягаднікам кошык яна паставіла каля сваіх босых ног, на адной бялеў заверчаны палатняны лапік.

— Гукаю, гукаю...

Імполь аж пахіснуўся ад нечаканай радасці. Не сваімі, крышку мяккімі дрыгатлівымі нагамі падышоў да абрывістага берага, з-пад якога [redacted] ціхажалосным цвірканнем вылятаді ластаўкі, яшчэ не верачы сабе, што там яна, Хрысця.

— А я веры не даў, што гэта ты.

— Вот яшчэ,— засмяялася яна.— Можа, і гэтаму не дасі веры, што заверчана нага.

— Не смейся,— ён угнуў галаў, хаваючы вочы ад сонца, што суха бліскала, мігцела тысячамі серабрыстых плямаў, колючы вочы.— А дзе ты ўкалечылася?

— Хто яго знае. Само з сябе.— Яна паўзіралася на сваю заверчаную нагу.— Нізіперніца між пальцаў ускочыла. Страх глядзець. Чорны, як сліўка, валдыр. А я думала нізіперніку нарваць, але, мусі, спазнілася. Во скасілі ўсё.

— А вунь у Сымона Раковага астаўся яшчэ чубок.

— Праўда? Во, як жа ж я,— ступаючы на пяту і накульгваючы, памкнулася да лазы, што разам з асотам укрыла нізкі пясчаны бераг.

— Пачакай, я перанясу.

— Не, Імполька, схадзі ты. Ці ж я ўлезу ў гразь,— з-пад дзюбка насунутае хусткі хітра зіркнула сюды, на высокі, у цёмных норках ластаўчыных гнёздаў, стромы, падмыты бераг.

— А я не ведаю, што за трава,— ён прайшоў колькі крокаў і раптам абярнуўся.

— А во, падобная да чэмеру. Лісце яе ў рабацінні і кветка ліловая.

— Гэта што пры гразі? Зязюлькамі, я чуў, яшчэ называюць.

— Ага!

Асцярожна, не на ўсю моц, ступаючы босымі нагамі па калючай шчотцы пакошы, Імполь завярнуў да чубка нераспелай сенажаці — якраз праз яе і цурчэла да рэчкі халодная крынічка, у якую на згоне зімы паводкаю прыходзілі на нераст зялёныя шчупакі.

Пераступіўшы рыжавы раўчак і скачучы з купіны на купіну, падышоў да сіва-зялёнага трысніку, дзе зранку хадзілі, паважна ступаючы цыбатымі нагамі, чатыры буслы, убачыў і падняў вялікую, але лёгкую чорна-ружовую перыну і, як некалі малым, мякенька паказытаў сабе шчаку. Падкасаўшы штаны, па купінах далез да высокага лапушыстага хробусту, убачыў ліловы прывялы таўкачык суквецця з даўгаватым і, праўда, рабенькім, як зязюлька, лісцем.

Трымаючы бурачковы, што пах гаркаватасцю і вадою, букет сакаўных кветак, лагчынаю ўздоўж крынічкі дайшоў да рэчкі і памаленьку па яе жвірыстым казытлівым дне, поперак густое тугаватае вады, што збівала з ног, перайшоў на другі бок. Ломячы высокую тоўстую лодзьму і пахучы валяр'ян, падняўся на круты бераг з другога боку ад Хрысці. Падумаў, засмяяўшыся з сябе, што сваімі мыслямі прыклікаў, мусіць, яе. Ёсць жа ж нейкі магнэз. Кажуць, чуе адзін аднаго чалавек. І яна, як счула яго мыслі, прыйшла. Штось нязвыклае, як букет балотнага нізіперніку, свяцілася ў Імполевай душы.

Ён асцярожна высунуўся з пацішэлага ад шпачынага гармідару алешніку і ўбачыў, як, падступаючыся на пальчыкі, яна выцікоўвала яго па другі бок рэчкі і палахліва ўздрыгнула, калі ён аказаўся каля яе:

— Во, сколяка. Толькі ж ці нізіпернік гэта?

— Імполька, родны, ён, нізіпернік,— і ўзяла, прытап-

тала на порсткім ягадніку ў кошыку бурачковы букет нізіперніку.

Гэтае «родны» раптам збіла яго з панталыку, аблашчыла да шчымлівага болю яго душу, і ён таксама памкнуўся сказаць нешта ласкавае, але толькі задыхнуўся ад глыбокага віру свае радасці. Маўчаў, узіраючыся па яе загарэлы мілы тварок, на яе сіняватую ад сарамяжлівасці падцятую губку, на яе дрыгатлівыя вейкі, пад якімі хаваліся хітранька-насцярожаныя цёмна-карычневыя вочкі.

І ён абхапіў раптам яе, прыціснуў да грудзей і, шчаслівы, засаромеўся, што гэта зрабіў.

— Ой, што ты, няхай крые бог, яшчэ хто ўбачыць,— зашаптала яна, і ён разняў, расшчаміў свае рукі.

— Па ягады збегала?

Ён учуў, як яго яшчэ калаціла нейкая дрыготка.

— Ага, во лянь,— Хрысця нагнулася над кошыкам, адгарнула ядроны, вырваны з карэннем ягаднік: у кошыку аж да верху блішчалі перасыпаныя, як для хараства, суніцамі чорныя ягады.

— Уга,— здзівіўся ён і зачэрпаў жменю. Усыпаў у рот.

Яна, радая, смяялася:

— Твая спытае, дзе гэта ты ягад накаштаваўся.

— Ды не спытае.

— Не кажы,— яна хітра пакруціла галавою.

— Не гаворым мы.

— Памірыцеся.

— Хто знае,— ён, баючыся глядзець ёй у вочы, адвярнуўся, сказаў, быдта не ёй: — Лягу спаць — сон не бярэ. Пра цябе думаю.

— Мо табе паўночніку нарваць, сіненькай кветачкі, што пры лесе расце,— засмяялася яна,— кажуць, ад пачніцы памагае.

— Не смейся, праўду кажу.

— А я й не смяюся, бачу, сам мучышся і мяне мучыш.

— Як? — ён адступіўся, глядзеў на той падмыты стромы бераг, дзе каля вытачаных норак трапяталіся ластаўкі.

— Гаворыш толькі пра гэта,— яна адышлася, схавалася ў рэдкі, разарваны цень пад нахіленую вярбу.

— Брыдка казаць, а я люблю цябе.

— Што з гэтай любові нашай,— ён учуў, як у яе змяніўся і жалосна задрыжаў голас.

— Чаму, Хрысця? — падбег да яе, убачыў чырвона-

мігатлівыя, засланыя слязьмі вочы, палахліва спытаў: — Чаго ты?

— Як чаго? — яна ўгнула голаў, зашморгала носам, хаваючы свой заплаканы твар.— Не ўжыць ужо там у Грабянкаў. Баюся і заснуць.

— Прыстае?

— Сам не, іншых прыводзіць. Некатарага дня ў Сулі начавала. Думала на сябе ўжо рукі накласці.

Ён страпянуўся, ловячы яе зірк.

— Што ты! Хіба можна так гаварыць.

Расшмаргнуўшы пад барадою хустку, яна ражком выцерла твар і засмяялася ўжо, заіскрыўшы яшчэ мокрымі ад слёз вачмі:

— Нажалілася табе, і адлягло, палягчала на сэрцы,— яна сцягнула з галавы хустку і асцярожна, каб не вельмі чапіць заверчаную нагу, палезла праз маладую, што вычапіць заверчаную нагу, палезла праз маладую, што вы-пусціла на дождж сваю сліну, густую лазу да рэчкі, спаласнуць твар. Адтуль ужо прызналася зноў: — Нагаварылася з табою, як з мацераю, як з сястрою якою.

І ад гэтых слоў Імполя агарнула крыўдная жаласць да сябе, на вачах запяклі, затуманіліся слёзы. Каб ужо не выдаць сябе, пайшоў уздоўж берага, туды, дзе ў кустах лазы, паламанае крушыны і брызгліны высвіствала, залівалася дробная, невядомая Імполю пташачка.

Круцілася ў галаве сказаць пра тое, што перадумаў у здушлівым поцемку начэй, які бачыў перад сабою свет, як збіраўся з ёю ўцякаць у Аргенціну, як купляў багаты двор, Крамяпіцкі мураваны млын.

Ён прыпыніўся, глядзеў на шарую трапятлівую пташачку, што залівалася, тоненька высвіствала і цвірчэла на кусце крушыны, і нешта няўбачанае перапыніла яго: смешна мо гаварыць пра гэты выснены і выдуманы свет.

Ён вярнуўся назад, спыніўся каля кошыка з ягадамі. Хрысця, ужо нібы апрытомнеўшы ад свежае крынічнае вады, выцірала лёгкаю хусткаю твар, распусціўшы рудаватыя, што адлівалі золатам, свае валасы, выдавала нейкаю іншаю. Ён убачыў, што коратка падстрыжаныя валасы адраслі, змянілі яе крышку з твару, зрабілі нейкаю трохі мястачковаю, папрыгажэлаю яшчэ больш, але і яшчэ больш далёкаю.

— Змянілася ты,— Імполь сказаў, нат сам злавіўшы, што голас у яго перайначыўся.

— Як? — здзівілася яна.

— Пахарашэла яшчэ больш. Інакшаю стала.

— Выдумляеш? — Яна падняла кошык з ягадамі, з гэтым бурачковым букетам пізіперніку. Зіркнула на Імполя ўжо вясёлымі блішчастымі, як пасля сну, вачмі.

— Я табе нешта хацеў сказаць, пра сябе пагаварыць.

— А чаго ж, Імполька, гавары.

— Ты ж збіраешся ісці?

— Няўжо ж мне тут каля рэчкі векаваць? — яна засмяялася, быдта не было гэтых слёз, яе плачу.

Нечаканы смех збіў з панталыку, перапыніў яго, ахаладзіў разгарачаныя мыслі.

— Я прайду з табою.

— Не, не трэба. Няхай ужо на мяне думаюць, што во сама прыбегла, а калі ты пойдзеш, будзе горш. Ды во чуеш?

Яна махнула галавою за рэчку, дзе за чарадою густых, пераплеценых вербаў стаяў, перамешаны мужчынскімі і жаночымі галасамі, крык.

— Што там? — азірнуўся Імполь.

— Я ўжо каторая пара бачу, што туды з вёскі бягуць людзі,— падступілася далей, на высокі бераг Хрысця.

— Мо паплаўнічы чыйго каня ў шкодзе злавіў?

— Вой, не так сабе там крычаць,— Хрысця зялёнаю, што асталася на жаўтлявай пакошы, вытаптанаю і не калючаю сцежкаю пайшла ўздоўж берага, прыкметна накульгвала на заверчаную нагу.

Ён падаўся ўслед, за алешнікам, азірнуўшыся, ці нікога не відаць, памкнуўся злавіць яе ў рукі.

— Вой, што ты? — адскочылася яна, мацней накульгваючы на балячую нагу, і засмяялася з яго: — І не брыдка сярод дня?

— Не,— павесялёў ён і дагнаў яе між двух цёмна-зялёных кустоў алешніку, абхапіў збоку, прытуліў да сябе сцішна-напятую, пацалаваў у брыво, у салёную, нагнаную ветрам слязу.

— Не трэба, Імполька, ягады рассыплеш,— жалоснае было ў яе голасе, але рашучае, пруткае, дужае было ў яе руцэ, калі яна з усяе моцы адпіхнула яго.— Ідзі паслухай, што там робіцца, потым раскажаш.

Ён хацеў спытаць, калі і дзе ён раскажа, але стаяў, не зварухнуўшыся з месца, глядзеў, як яна, накульгваючы па заверчаную нагу, хавалася за маладым алешнікам — там падымаліся, цвірчэлі асалавелыя ад гарачыні шпакі.

Калі зялёная сцяна невысокага гаркавата-разамрэлага алешніку засланіла яе белую, у вішнёвыя ягадкі, блузку, нешта балюча зашчымела ў Імполевай душы, ён паціху пайшоў назад уздоўж рэчкі, да таго самага броду, якім пераходзіў на гэты бераг.

Каля вёскі, пры гародах, уздымаўся, прыхаваны сіваватымі вербамі, галосны тонкі крык.

Падкасаўшы штаны, Імполь пералез халодную крынічную рэчку, у якой зайшліся ногі, вырваў убітую ў зямлю касу, наўпрасты, праз скошаныя шнуры, адмечаныя какрычневымі пасохлымі лапкамі алешніку, якімі значылі мяжу, завярнуў да гародаў — куды з грудка з вёскі, бялеючы хусткамі, спяшаліся, беглі верасаўскія бабы.

Высунуўшыся з-за вербаў, з-за нізкіх кустоў ружавага ракітніку, убачыў растрывожаную грумаду, што вірыла і гукала, сабраўшыся каля цёмных загонаў ячшэ невысокіх канапель, пры жардзяной загарадзі, дзе стаяў пераласы конь з мяшком на спіне замест сядла. Імполь дагадаўся, што некага ў шкодзе злавіў паплаўнічы.

Грумада раптам страпянулася і пабегла ўздоўж гародаў. Імполь убачыў, як там ішла бітва. Вырваўшы з загарадзі кол, паплаўнічы — чырвоны дужы мужчына гадоў пад трыццаць — даганяў малога, усохлага, з аб'еханым набок аблезлым барашкавым каўпаком Язапата Змыслу.

— Недавярак, заб'еш! — крычала Язапатава жонка, тоўстая, маладжавая з твару кабета.

— Гэ, заб'е, а каня ў чужым нябось прыпасвае.

— Дзе прыпасвае?

— А што гэта, не бачыш?

— Конь сарваўся з прывязі, дак што? Забіваць чалавека?

— А даць то варта.

— Ох ты які!

Тым часам паплаўнічы нагнаў Язапата Змыслу і з размаху грахнуў шарым, аблушчаным колам Язапату па плячы. Язапат прысеў, мусіць, страціўшы моц у нагах, а потым, калі паплаўнічы смальнуў яшчэ раз, паціху асеў на колінкі.

Але тут ужо, абхапіўшы раз'ятранага паплаўнічага за плечы, заенчыла зноў самлелая ад страху Язапатава жонка.

— А людзі, ратуйце, што гэта ён робіць?!

Той-сёй, убачыўшы, што бітва можа скончыцца нечым страшным, і каб не быць сведкаю якое ліхаты, ціхенька

пачынаў адступацца далей ці сыходзіў, уцякаў адсюль зусім.

— А-я-ё-й! — крычала абяссіленая старая Змысліха, ужо не ведаючы, як памагчы худому, высушанаму сухотамі мужыку, і хватаючы за ногі ашалелага, што адышоў ад памяці, паплаўнічага.

Па белых вырачаных і дурнаватых вачах таго было відаць, што ўправы на яго не знойдзеш.

Імполь, узіраючыся на гэтую бітву і ўжо чуючы дрыгатлівую нервовасць і раптоўна закіпелую злосць на раз'юшанага, неўпыненага паплаўнічага, палажыў на загарадзь касу, каб ужо з гарачкі не скалечыць сябе і другіх, бегма падскочыў да паплаўнічага, схапіў за руку, турзануў да сябе: той, не ўстояўшы на нагах, закруціўся кругаў сябе і грымнуўся плячмі на калматую, у пераспелым кмене, нечапаную касою дарогу.

Імполь вырваў у яго з рук аблезлы яловы кол.

Няскора апомніўшыся і ўстаўшы на ногі, паплаўнічы доўга і тупа, як бык перад высокім берагам, з якога баяўся скочыць уніз, глядзеў на Імполя, потым захроп, выціраючы з губ накіпелую сліну:

— Ты што, належаўся ў кустах з наймічкаю, рукі свярбяць, галава гуза шукае.

Імполя закалацілі яшчэ большая нервовасць і злосць: ён крута павярнуўся да паплаўнічага, размахнуўся калком і, ледзьве ўжо стрымаўшы сябе, папхнуў таго ў грудзі.

Паплаўнічы схапіўся за калок, але вырваць не здужаў. Учуўшы сілу, трохі абмяк, супакоіўся, уцяў голаў у плечы, пайшоў да каня, што спакойна скуб, лавіў губамі траву.

— Начыста захвастаў чалавека,— крычала старая Змысліха.— Няхай крые бог.

Апомніўшыся, стары, дробны, з павыпаданымі зубамі, Язапат Змысла таксама трос сухім кулаком:

— Ну басяк, ну недавярак!

Паплаўнічы, зверавата азіраючыся, садзіўся на каня, браўся рукамі за доўгую, нястрыжаную грыву — не бачыў, пэўна, што сюды з вёскі, з пясчанага, раз'езджанага калясьмі грудка, подбегам спускаўся расхрыстаны, збялелы, немалады, сталага веку ўжо Змыслаў сын; востры абслізганы шворан бліскаў у яго руцэ.

# XIII

На стомы, падмыты рэчкаю грудок, з лёгкім, трохі смутным зацішкам лесу, ззаду за спіною, з высокімі старымі алешынамі, дзе чарнелі пустыя ўжо вароніныя гнёзды, Міця прыбег прыпазніўшыся: бацька якраз наказаў пасля полудня завесці ды папасвіць каня. І покуль Міця адпрасіўся ў іхняга, нанятага на некалькі хат, пастуха — заспанага, нямытага, з заседжаным мухамі тварам, хлопца — і прыбег з далёкай пашы сюды, сонца ўжо добра схілілася на вечар.

Бег, нат уяўляючы сабе, як убачыць здалёк нікеляваны блішчасты руль дамскага, з радужнай сетачкай на заднім коле, ровара, пастаўленага ў цяньку, каля прысадзістых хвоечак, што раслі тут, не могучы ніяк адступіцца назад ад страшна высокага, падмытага, у глыбокіх, косых, як маланка, шчылінах, абвіслага берага.

Не паспеў нават заскочыць дадому ды пераадзецца. Перайшоў тут каля грудка быструю і вузкую рэчку, раптам выгнаўшы з-пад берага чараду маладых, што ўжо сталі на крыло, качак, і дагадаўся, што тут нікога не было. Па крутаватым, у жоўтых дробных кветках дзевяцяранкі беразе падняўся на грудок. У блізкім ляску dралі горла, хрыплі ад крыку, пагойдваючыся на высокіх тонкіх вяршках хвоечак, ружавата-чорныя гракі.

Цвёрдаю, прыцярушанаю жвірам сцежкаю, што правальвалася ўжо ў прорву адломленага берага, Змітрык прайшоў уздоўж рэчкі, шукаючы вузенькі, спярэшчаны крыжыкамі апоны, след ад ровара, і, не верачы сабе, завярнуў у напараны, з перасохлым шорстка-калючым мохам, лясок, на пясчаную дарогу, думаючы, што Чэся мо паказвалася тут, але, не застаўшы яго, ганарыста-злая, села на ровар і, з усяе моцы націскаючы на педалі, замільгала за прысадзістымі хвоечкамі, скоранька, са звонам і бразгатам, выязджаючы з лясное вузкае дарогі на шырокі тракт.

Задыхнуўшыся ад цягучае смалянoe гарачыні, Міця пастаяў на пустым гасцінцы, дзе за ялаўцовымі кустамі паказалася ў святочнай хустцы і ў доўгай, што падмятала зямлю, бурачковай спадніцы старая, яшчэ рухавая баба з кійком, і завярнуў назад. З-пад ног з сухім лусканнем сыпаліся порсткія конікі. Адзін вялікі, з веерам чырвоных крылляў, замільгацеў высока над зямлёю. Міця ўспомніў тое смешнае і далёкае, як лавіў іх, каб згрызалі на руцэ бародаўкі. Невядома ад чаго, але яны гінулі. Унізе над берагам чуўся плёскат і боўтанне вады — двое верасаў-

скіх падшыванцаў, павесіўшы на шыю палатняныя торбы, ішлі сярэдзінаю рэчкі, выбіраючы, мусіць, плыцейшае месца, каб залезці пад чорныя, аброслыя чортавымі пальцамі зялёнай бадзягі карчы і выцягнуць адтуль маладых зялёных рачкоў.

Спыніўшы свой лёт, тут пад берагам ціха трапяталі крыльцамі ластаўкі, каб ужо ціхенька шмыгануць у чорную норку гнязда, потым вылятаді, падаючы да самай рэчкі, і нізка, ледзьве не датыкаючыся воллем да вады, шмыгалі між зялёнага навалу алешніку.

Міця пастаяў, безуважна паглядзеў на гэты ластаўчын лёт, на хлопчыкаў, што саплі, выставіўшы худыя голыя спіны, падлазячы пад бераг, пад чорныя, зарослыя доўгім, як чортавы пальцы, лісцем зялёнай бадзягі карчы, пайшоў далей уздоўж берага.

Рэчка, падмыўшы груд, аточаная абапал густым алешнікам, крута завярнула на роўнае балотца.

У нейкай раз'ятранай гарачцы, не верачы, што Чэсі няма, збег з грудка, прайшоў каля густога, напаранага ў белай сліне лазняку і раптам аж знямеў: за разарваным вянком алешніку бялела нечая хустка.

Міця высунуўся з-за кустоў і закіпеў ад расчаравання: баючыся лезці на глыбшае, дзе купаліся меншыя дзве дзяўчынкі, на плыткім плёсе стаяла, распусціўшы доўгія валасы і падымаючы і без таго кароткую палатняную кашульку, дзябёлае, што бралася на дзеўку, дзяўча. Яно наўрад ці ўбачыла б Міцю, каб пісклявымі маладзенькімі галасамі не закрычалі тыя дзве дзяўчынкі ў доўгіх, без рукавоў, палатняных кашулях.

Скоранька завярнуўшы ад рэчкі і апякаючыся аб высокую крапіву, Міця прашмыгнуў між кустоў увітага чэпкім і трывушчым хмелем маладога алешніку, выйшаў зноў на сівы ў пэндзліках мятліцы, пераспелых каласках зуброўкі і рассыпаным жары дробных кветак сардэчніку круты касагор.

У галаве круцілася, віравала адно: «Дзе яна, Чэся?.. Няўжо не прыехала?» Увесь гэты тыдзень, як сам не свой, ледзьве не адыходзячы ад памяці, Міця чакаў гэтага дня. І дзе ні ішоў, глядзеў сюды, на высокія шурпатыя алешыны, што раслі перад лукою, каля абмялелай, зацягнутай раскаії завоінкі, адкуль у рэчку праз жаўтлява-слізкі аер сачылася крынічка.

З свайго надворка, з-за чужых хат, усё бачыў гэтыя цёмна-зялёныя старыя алешыны. А пазаўчора нават пры-

сніў сон: на нейкай танцоўцы, дзе хрыпеў патэфон з прыпсаванай пласцінкай, сталы, з падголенымі вусікамі, кавалер упоцемку абдымаў Чэсю, і ён, Міця, схапіўшы нешта пахватнае ў руку, намеціўся бегчы туды і, як у кожным сне, нібы спаралізаваны, не мог зварухнуць нагамі.

Узіраючыся яшчэ раз на сцежку, ці не відаць на ёй вузенькай, у крыжыкі стужкі, якую, раскідаючы каменьчыкі і дзеручы пясок, пакідаюць веласіпедныя колы, завярнуў па ёй у заглушаны ахрыплым крыкам гракоў малады лясок.

Але ў Міцевых вушах быў чуваць адно гэты дрыгатлівы звон і ляскат веласіпеда.

Машынальна, пэўна, яшчэ не разбіраючы, куды выправіўся, пайшоў утоптанаю сцежкаю, між ялаўцовых кустоў, раскіданых там-сям недарослых, крывых, нібы сагнутых старасцю хвоечак. Невысока над прыцішэлым светам вісела сонца. Дзень хіліўся на вечар. І Міця ўжо адчуў, што даўно мінула тая пара, калі яна, Чэся, магла прыехаць.

«А можа, яна ідзе пеша?» — за нямоцную нітачку ратунку неспадзявана ўхапіўся ён, знайшоўшы апраўданне таму, што ўжо сам бяжыць у Дварчаны. І падганяў сябе выдуманым страхам — можа, папраўдзе зламаўся веласіпед ці хто зласіў яе, як зласіў летась тут, на гасцінцы ў ляску, нейкі бяспалы дварчанскі свінабой чатырнаццацігадовае дзяўча і згвалціў, задушыў, прывязаўшы за хвойкі. Па гэтай бяспалай руцэ, па сіняках, што асталіся на спіне ў дзяўчаці, потым ужо следчы і дагадаўся, што душыў нейкі калека.

А свінабой, як хавалі дзяўча, нават прыйшоў на магілкі, стаяў у грумадзе, слухаў, што кажуць людзі.

Усё праплыло, закружылася перад вачыма ў Міці ад гэтых перапуджаных думак. Сцялося і закалацілася сэрца.

Мінуўшы лес, гасцінец крута выпаўз на голы, як бохан хлеба, грудок. Далёка ў сіняй смузе падымаў свае чырвоныя вежы дварчанскі касцёл, бялелі атынкаваныя местачковыя мураванкі. І чыстае, злінялае ад летняе гарачыні неба, як паднябенне гарачае печы, абдымала лагчыну, абапал якой, засланяючы адзін аднаго, аблямаваныя сіняватаю апухаю лесу, горбіліся далёкія груды.

Міця азірнуўся на Верасава, на рэдкаватыя цёмна-зялёныя кудзеркі вяршкоў шурпата-чорных алешын і толькі цяпер убачыў, што так далёка адышоўся.

Ён стаяў на самым грудку. У адзінокай, кучаравай, што чэзла тут, хвоечцы мякка шумеў вецер. Глыбока, у выслань каменнямі роў, спускалася дарога.

Аслепшы ад нізкага сонца, Міця зноў убачыў перад сабою Чэсін тварок, калі яны стаялі на кладцы, абліты жаўтлява-ружовымі праменнямі. І Міця тады ўбачыў у яе каля вуха тры карычняватыя радзімыя пятначкі. Як хацелася да іх даткнуцца губамі.

Цяпер зноў да звар'яцелай непрытомнай радасці хацелася абняць і пацалаваць Чэсю, хацелася зноў вярнуць тую дарогу са Світазі, росную ноч. Да Чэсі Міця ніколі і нікога не цалаваў. А некалі, кватаруючы ў дварчанскага краўца Моўшы, нават зайздросціў Тосеку Інгілевічу, калі заходзіў да іх у доўгі, на некалькі кватэр, атынкаваны дом, што пах нагрэтаю насмоленаю страхою, з якой звісалі чорныя таўкачы, клікаць Тосека ў школу, і яго мама — высокая, з залатою каронкаю, у фартушку з нагруднікам, з густою завіўкаю пані Уладзя — выбягала на дашчаны ганак, леваю рукою абдымала Тосека, нагіналася, наказвала ў вушка не дурэць, а потым цалавала яго. Тады Міця ціха ўздыхаў, мо ад таго, што ў Тосека была мама, а яго, Міцю, ніхто ніколі не шкадаваў, і яму на вочы ад нейкай жальбы да сябе набягалі слёзы.

Жмурачыся ад невысокага ўжо сонца, Міця ўзіраўся ў смугу лагчыны, куды бегла, спадала пясчаная дарога, і як знянацку нехта папхнуў яго ў плечы.

І Міця нат не пайшоў, а пабег з грудка ў гэты глыбокі роў з нанесеным вадою клейкім глеем у лагчынцы, дзе коўзаўся нядужы, непадкованы конік.

З мястэчка, збыўшы нешта на рынку ці, можа, растраціўшы апошні злот, ехаў п'яны гаспадар. Матляючы калматаю, што мо ніколі не бачыла расчоскі, галавою, спрабаваў спяваць:

Едзьма, дзеўка, з намі,
З намі — казакамі...

Але ў п'янай галаве пераварочваўся свет, блыталіся, прападалі словы, і ён пачынаў спачатку.

На дальшай фурманцы, што даганяла яго, смяялася тоўстая маладзіца ў чырвонай хустцы і выскаляўся дробненькі з тварку, няголены мужчына.

Прыдбаўшы солі ці запалак, з торгу варочаліся вясковыя людзі.

Міця мінуў іх, прыспешыў хаду — трэба было прыбегчы назад да заходу сонца, каб прывесці з пашы каня.

У мястэчку ўжо млела лянівая пасля гарачага дня вусціш, толькі жалезам бразнула цяжкая завала, спалохаўшы яе. Нязвыкла пустою была засмечаная, загаджаная конскім памётам вуліца каля белых мураваных крамаў.

Гарбаты мужчына ўжо шоргаў дзеркачом, падмятаючы напроці свайго двара выбоісты няроўны брук. Над вуліцай курэў і асядаў пыл.

Каля белае, з чырвоным бляшаным дахам, бажніцы Міця павярнуў на пясчаную яшчэ не забрукаваную вуліцу, учуўшы, як турзанулася і пякуча заныла сэрца. Раптам нешта злое перавярнулася ў Міцевай душы. За густымі, непраглядными кустамі акацыі падымаўся жоўтым шчытом, з аконцам у тры балонкі, Грабянкаў дом. Пад застрэшкам каля вільчыка чарнелі прылепленыя ластаўчыныя гнёзды. Па краі бляшанага даху, каля лейкі загнутай каленам вадасцёчнай трубы валтузіліся чорна-блішчастыя, з шарымі каўнерыкамі на шыях, дзяркатыя галкі. За гэтыя дні, як Міця іх не бачыў, здаецца, яшчэ больш счэзлі, пастарэлі кучаравыя хвойкі: на чубку іх ублыталася залацістае позняе сонца.

— Змітрык, вой, гэта ты? — Міця страпянуўся ад нечаканага голасу ззаду. Азірнуўся, як злоўлены злодзей. Каля яго ў ажурнай вязанай кофтачцы з кароткімі, да локцяў, рукаўцамі стаяла Хрысця. На смуглявым, загарэлым і, здэцца, зблажэлым тварку блішчалі адны цёмнакарыя вочы.— Ты да нас?

Міця затнуўся, не ведаў, што сказаць.

— Чэсю шукаеш?

Міця, не хочучы, пацісвуў плячом.

— Паехала яна.

— Куды? — ужо не стрываў ён.

— У Баранавічы. Бяда там.

— А што такое?

— З бацькам нешта. Тэлеграму адбілі. Яна з сястрою паехала... Учорачы.

Міця завярнуў ад веснікаў, топчучы пыл, перайшоў на другі бок вуліцы.

— Ты дадому? Пачакай, я з табою прайду, толькі вунь хату прымкну.

У Міці адлягло на душы, што Чэся не абманула, не пасмяялася з яго, але новы неспакой, калі яны ўбачацца зноў, зашчымеў у грудзях.

Хрысця, прымкнуўшы нат веснікі, скоранька дагнала яго, апраўдваючыся, сказала:

— Мой гаспадар недзе пацягнуўся. Цалюткую ноч у карты грае.

— Мусіць, у пульку. Некалі паны ў карты маёнткі прайгравалі.

— Во, няхай крые бог! — яна прыспешыла хаду і, забягаючы Міцю наперад, нечакана спытала:

— Як вы там?

Міця бачыў — ёй карціць ведаць пра Імполя, але, таячы сваю дагадку, сказаў пра іншае, нібы адчэпнае:

— Конь у нас прапаў. Бацька месца сабе не знойдзе. Як сам не свой.

— Як прапаў?! — спытала трохі з дзівам, але нібыта і з абыякавасцю.

— Укусіў шалёны сабака.

— Вой, не расказвай.

Яны прыпыніліся каля пафарбаванага ў небескі колер плота, што падымаўся дугою ад слупка да слупка, з большымі пасярэдзіне прасла штыкетамі. За ім, купаючыся ў нізкім вечаровым сонцы, ціха звіслі доўгім веццем струпатыя старыя бярэзіны.

Хрысця паграбла сваім басаножкам зацярушаны лускою ад пераспелых бярозавых таўкачыкаў стракаты пясок:

— Змітрык, што ж Чэсі сказаць?

Міця, збіты з панталыку гэтым запытаннем, таксама прыстакнуў, спыніўся:

— Не ведаю.

— Кавалер знайшоўся. Гэтакая дзяўчына. Каб я была хлопцам...

— Так што?

— Што? Сама ў тыя Баранавічы пташкай паляцела б.

— А цяпер куды ляціш?

— Куды? — Хрысця асеклася, стаяла, збітая з тропу, а потым падняла прыжмураныя калючыя вочы: — Цябе папрасіць хачу.

— Не прасі, не зраблю, бо ведаю, пра што будзеш прасіць.

— Зробіш!.. Чэсю з Баранавіч прывязу. Вот убачыш. Паеду па дзіця і прывязу. Скажу, што жджэш. Знябыўся.

— Так і паверыць?

— Паверыць. Паважае цябе...

— А ці любіць?

— Не ведаю,— яна ўгнула голаў, прызналася: — Любіць трэба так, як я.

— Чаму ж ты лепей за ўсіх?

— Бо і лепей. Я нічога не хачу... Выгады не хачу... Я — як пташка. Ды што табе гаварыць: усе вы выгады шукаеце...— Яна не даказала, мусіць, усяго, завярнулася, скоранька пайшла ўздоўж гэтага хвалістага, з большымі сярод прасла частаколінамі, плота.

Міця памкнуўся за ёю, але стрымаўся, павярнуў у завулак, каб ужо наўпрасты, міма чужых хлевушкоў ды дрывотняў, выйсці на пераезд, і нечакана ў тым вузенькім завулку ўбачыў Царыка: ён ішоў угнуўшы голаў, у палатнянай кепачцы, даўганосы, схуднелы, махаючы цяжкімі рукамі. Згледзеўшы Міцю, яшчэ здалёк усміхнуўся, паказваючы ў роце чорную шчарбіну:

— Э, пане браце, здароў быў!

Міця працягнуў яму руку.

— Дзе гэта дзеўся? Чаму не зойдзеш? — Царык паглядзеў сваімі карычняватымі, у чырвоных жылках на бялках, вачмі. Над вушамі з-пад палатнянае кепкі кучаравіліся сівыя, уперамешку з чорнымі, доўгія і даўно не стрыжаныя валасы.

— Ды ўсё часу няма.— Міця ўгнуў голаў, схаваўся ад гэтых карычнявата-зялёных насцярожаных вачэй.

— І што ты ўсё чэшаш? Зайшоў бы. Пагаварылі б.

На барадзе ў Царыка вострым нацярушаным шклом блішчала сівая шчаціна.

— Але што гаварыць, што ні дзень, то благая навасць...

— А што? — насцярожыўся Міця.

— Газэт мне ўжо не даюць.

— Во і я сваіх не глянуў,— спахапіўся Міця.

— І не хадзі, бо не палучыш.

— Чаму?

— Ён яшчэ пытае.— Царык задраў сваю, з раздвоеным падбародкам, у іскрыста-белай шчаціне бараду.— Вайна блізіцца. Польшча аж шалее, хоць і крычыць, што выйграла вайну нэрваў.

— Гэта я ведаю,— крыва ўсміхнуўся Міця.

Царык, мусіць, незалюбіў, бо сказаў нат са злосцю:

— А ведаеш, што арышты пачаліся. Бяруць усіх скрытном, хто быў на падазрэнні. Значыцца, гатовяцца, на выпадак чаго, да вайны. Асцерагайся.

— А куды дзецца?

— Удома не спі.

— Хіба гэта паможа?

— Ну, як кажуць, беражонага бог беражэ,— Царык пацёр рукою сваю шорсткую калючую шчаціну.— А з вершамі як? Ці не закінуў ты іх, як старую шапку, на гарышча? Пішаш, га? Тады, як я быў у Вільні, дакляравалі надрукаваць.

— Ці дачакаюся.

— А ты на гэта не глядзі: пішы, не траць марна часу. Трэба верыць. Нешта зменіцца, мо на лепшае для нас, беларусаў.

— Хіба на лепшае? Вы, дзядзька Гаўрыла, кажаце, вайна маецца быць.

— А што вайна: таму-сяму і перамену прынясе. Мы ж, беларусы, нічога не трацім.

— Цяжка разабрацца тут.

— Чаму? — махнуў абедзвюма рукамі Царык.— Можа, дзяржаўнасць хто дасць?

— Чаго-чаго, а дзяржаўнасці ды слабоды дарма не даюць, іх трэба адваяваць.

— Ты праўду кажаш,— памахаў сваім загарэлым даўгаватым носам Царык,— а мы седзімо ціхенька ды нават баімося азвацца, што мы беларусы. Людзі нашы да гэтага не звыклі.

— Нас адвучылі, вякамі дратавалі. А вы кажаце...

— Няўжо так і не дачакаемся? — Царык зноў зіркнуў на Міцю сваімі карычнева-зеленаватымі ў чырвоных жылках вачмі.— Ну я стары ўжо чалавек, а ты? Няўжо ты зняверыўся?

— Не,— Міця адказаў не цвёрда, а потым, нібы чуючы Царыкавы мыслі, пацвердзіў,— калі вы чакаеце, што свабоду прынясуць немцы, то, мусі, не.

— Во-о-о! — Царык раскрыў рот, памахаў пальцамі.— Яны ж паставілі на ногі Літву.

— А цяпер аднялі Мемель. У Нямеччыне — фашызм, ён прагне скарыць свет.

— А хто не прагне кіраваць другім? Скажы, га? Усе. Во палякі, як не мелі свабоды, плакалі як. А цяпер, бачыш, як таўкуць нас.— Царык злавіў Міцю за кашулю, турзануў да сябе.— Але іх раздзярэ немец, як каршун курыцу.

Царык азірнуўся і, падаючы руку, здушана зашаптаў зноў:

— Сцеражыся. Я ж кажу — хапун пачаўся.

Дарогаю Міця перадумаў і гэтую нечаканую гутарку з

Царыкам, і Хрысцін папрок. Востра тачылася злая помслівасць — праўда, мусіць, любіць Хрысця Імполя.

Як сплялося і зашмаргнулася ўсё на глухі вузел у чалавечым жыцці: паспрабуй развяжы, разблытай яго.

А як сказаць пра гэта Алесі?

У Верасаве Міця быў, калі ўжо закацілася сонца. На надворку пры алехавай калодзе стаяў бацька, цюкаючы па калочку сякерай, вычэсваў да грабель новы зубок. Яны, шчарбатыя, пастаўленыя на стаўпец, прыперліся абслізганым граблішчам да сцяны хаты.

— Дзе халера носіць? — бацька з усяго маху ўбіў у калоду сякеру, падняўся з кален.— Гульба, ды не штодня! Чаго каня кінуў?

Міця ўжо на бацькаву злосць звык змоўчваць.

— А што тут учынілася?

— Памагчы во. Адзін усё цягай. Таму то брат, то сват, то радня. Сена прывязці і не было з кім. Табе хоць у галаве?

— Заўтра прывязецца,— Міця, не ведаючы, што казаць, прыспешыў за гумно на сцежку, што вяла да Мондрых.

— Вады прынёс бы, ці што? — зноў крыкнуў бацька.

Трошкі пад'юшчаны бацькавай злосцю, Міця вярнуўся назад, узяў вёдры — адно драўлянае, акованае, другое бляшанае,— скіраваў да Сымона. Разарваны ланцужок мысляў зноў набег на Чэсю, на Хрысцю, на Царыкаву гутарку ў Дварчанах. А можа, праўда начаваць трэба не ўдома, можа, да Алесі хадзіць нанач у гумно.

Набраўшы вады і заварочваючы дадому на шары, туга загнуты лук сцежкі, убачыў: да калодзеся бег Імполь. Помслівая за Алесю злосць і крыўда ўзнялася на яго. Стрымліваючы яе, сказаў пра другое, пра калодзесь:

— Калі ж з свайго будзеш чэрпаць? Ты ўжо абудаваўся, скончыў склеп?

— Цэменту, каб на яго халера, не хваціла. Заўтра паеду ў Дварчаны прыкуплю.

Расплюхаў ваду, нібы астудзіў сябе: «Ці толькі па цэмент? Едзе, каб убачыцца з Хрысцяй».

Дома ўжо, вечарам, калі ляглі спаць, сказаў у поцемак, дзе ружаватым агеньчыкам бліскала бацькава папяроса:

— Алесін Імполь у Дварчаны да Хрысці падходжвае.

— Гаворыш, нібы сённячы нарадзіўся. Вунь уся вуліца дрыжыць ад плётак.

— І што нарадзіш тут?

— Што?.. Даўно казаў: «Выжань ты яго».— Атрутлівы махорачны дым нясло ад бацькавага ложка, на пліце бліскаў ружаваты водсвет.— Толькі завіла гняздо, жыць можна, і нá табе... Паскудны ён. А яна ўсё прывячае.

— Любіць мо...

— Ды ўжо ж, раз голаў пад поезд клала...

Як скарга на цэлы свет, суха парыпваў і скрыпеў стары драўляны ложак — бацька не спаў, варочаўся з боку на бок: ад думак ды болю ў каленях, што пачынаўся на змену пагоды.

Не мог задрамаць і Змітрык: як на вялікай крызе кружыўся, плыў у мыслях да Чэсі, покуль іх разарваў цяжкі тупат ног на вуліцы, які глушыла мяккая тугая зямля. Прыслухаўся — гаварылі нібы па-польску. Міця падскочыў з ложка. Халадзеючы, дагадаўся — паліцыя.

— Што там? — мармытаў спрасоння бацька.

— Паліцыянты,— здушаным голасам аказаўся Міця.

— Не сунь лабаціну, не паказвайся.

Міця, тулячыся за прасценак, цікаваў у акно — за верасаўскімі вартаўнікамі, што сунуліся наперадзе, на конях ехалі двое ў круглых шапках з доўгімі навіслымі брылямі.

Чуючы, як сціхае гэты трывожны тупат, успомніў пра сённяшнюю гутарку з Царыкам у Дварчанах, падумаў, што і праўда трэба хавацца: у хаце зрабіць які схрон або начаваць у Алесі.

Задуманы вярнуўся на ложак, а раніцаю, не разбіраючы яшчэ, сон гэта ці не, учуў Алесін голас.

— Во, спіць?

Міця адкрыў вочы.

Каля пліты стаяла Алеся: на жаўтлявы, у карычневых плямах твар свяціла рэдкай чырванню нізкае, што яшчэ не паспела адарвацца ад зямлі, сонца.

— Чуў, што сёння рабілася? — яна нацягнула на сваім жываце каптанік.— Мяне ўночы аштрапавалі.

— Паліцыянты? — перапытаў Змітрык.

— Ага. На пяць злотых.

— За што?

— Вунь за нашу з'яду.

— Якую з'яду?

— Сучачку,— Алеся адвяла вочы ад гэтага рэдзенькага ружаватага сонца.— Зайшлі ў хату і склалі пратакол, што сучачка не навязана.

— Два пуды жыта выкінула,— са злосцю і крыўдай чмыхнуў бацька.
— Думала бегчы будзіць вас.
— А я не спаў, чуў, як яны вуліцаю ехалі,— падняўся, прысеў на ложку Міця.
— А як я прыбягала на надворак, нябось, не чуў?
— Не.
— Падышла, бачу, агню ў хаце няма, а яны недзе каля Ваўчка гавораць. Думаю сабе, не чапілі Змітрыка.
— Не, як бачыш,— засмяяўся Міця.
— Яшчэ і выскаляецца,— нагнуўся перад печчу і кінуў туды палена бацька.— Напалітыкуеш. Будзе і на крапіву мароз.
— Можа, да нас хадзіў бы спаць? — з ласкавай асцярогаю спытала Алеся.
— Калі што якое, то прыйду, сястра.
— І ўдома трэба мець які схрон,— падказаў бацька.
— Вой, пабягу,— нібы схамянулася Алеся.— Мо які злодзей у хату ўбіўся, дзверы ж не прымкнула. Майго ж нямашука ўдома, цэмент купляць паехаў, бо леташні во скамянеў.
— Гаспадары,— плюнуў стары Корсак: яго, працавітага ды ашчаднага да ўсяго, крыўдзіла нядбальства.
Міцю кальнула раптоўна здагадка, што Імполь у Дварчанах убачыцца з Хрысцяй, і яму стала шкода сястру.
— Што ты мяне так цікуеш? — Алеся адступілася, папраўіла каптанік і, схаваўшыся за пліту, прыгрукнула дзвярмі.

## XIV

Спаць не даваў гэты высокі, роўны з шафаю, гадзіннік, што стаяў у кутку напроці акна, адбіваючы на вялікім латунным дыску, вузенькі пасярэдзіне і расшыраны на канцах, банцік святла.

Фуркатлівае гудзенне спружыны, а потым нечаканае бомканне, што доўга, як ад звана, калыхалася ў вушах, не раз будзіла Хрысцю. Асабліва калі гадзіннік біў поўнач — першую гадзіну, як палічыла яна, аж трынаццаць раз.

Сёння гадзіннік прабіў яе даўно, але Хрысцю не браў сон, нейкая сцішнасць ішла ад гэтага адпастайна-вялага цік-так ці мо ад таго, што Хрысця спала адна ў гэтым вялікім, на чатыры пакоі, доме.

Правёўшы Змітрыка і трохі знерваваная, Хрысця па-

сядзела на ганку, узіраючыся, як на кучаравай хвойцы зачапілася чырвонае сонца, і пачала ўпраўляцца нанач: зачэрпала вады ў кругленькім, ашалёваным дошчачкамі калодзесі, прынясла, паставіла на запас у сенцах, замкнула калідорчык з бакавым ходам. Толькі аканіц не зачыняла — баялася цемнаты, баялася, што і праз акно не выскачыць, калі часам пажар ці яшчэ якая ліхата. Чаго ўжо толькі не перадумала Хрысця — і як малою была, і як паміраў бацька ад нейкае нязлечнае хваробы: у яго ўсё расла, рабілася тоўстаю губа, і ён памёр з гэтай губы; то ўспаміналa Верасава, Корсакаў, то Імполя і сваю астатнюю сустрэчу з ім. Хрысця не ведала, што цягнула да яго, хоць тут у Дварчанах ужо знайшоўся і стаў страчаць знарок і занадта часта Моўшаў чаляднік, што вучыўся на краўца, нейкі даўганосы, падобны да дзятліка, Мікалайка.

Стрэў і сёння, калі Хрысця, прайшоўшы з Міцем, варочалася дадому.

— Куды ж збегала? — спытаў ён, завярнуўшы за ёю.

— Ці ўсім знаць? — нават не азірнулася Хрысця.

— Чаму ўсім? — прыспешваючы крок, чапіўся Мікалайка, але Хрысця пайшла подбегам: не падабаўся ёй гэты ціхі і, можа, не благі ды не дурны хлопец. Няхай ратуе бог — недарослы і з твару брыдкі.

Лежачы на тапчане і забыўшыся, не зважаючы ўжо, як цюкае, нібы падзёўбвае, гэты вялікі гадзіннік, думала пра Імполя. Думкі, як вада ў быстрым віры, са споду душы падымалі каламуць рэўнасці, што ён жанаты і дарма яна думае пра яго.

І не ўчула, як задрамала, убачыўшы сябе ў Мондравай хаце з ім, з Імполем. А ў хату ўбегла Алеся і, схапіўшы з паліцы нож, закрычала страшным, нейкім змардаваным крыкам.

Ад перапалоху, ад гэтага моцнага Алесінага крыку і доўгага бомкання гадзінніка Хрысця прачнулася і заснуць ужо не магла, успомніўшы, што адна ў хаце. Сполах браў, што ў доме двое дзвярэй і процьма вокнаў. Улезе хто, і не ўчуеш, тут і задушыць адну. Як задушылі надоечы старога Левановіча: адны кажуць, што служанка з каханцамі, другія — што бандыты. Труп знайшлі ў садзе. Цяпер пра гэта гаварылі ўсе Дварчаны. А недзе ў Дубатоўках, тут пад Дварчанамі, цыганы прыпільнавалі, што ўдава прадала карову, і залезлі ноччу ў хату — адзін яшчэ звечара схаваўся ў сенях. Абцугамі рвалі, выкручвалі маладзіцы рукі, каб аддала грошы, а яны якраз ляжалі на пошце, покуль

не замардавалі, укінуўшы ў пусты, ужо дачыста выбраны куфар.

Успомніўшы пра цыганоў, Хрысця аблілася халодным потам: чаму ж ім не ўлезці да Грабянкаў — грошы ў яго ёсць, а касцюмаў ды футраў вунь поўныя шафы. Хіба ж ніхто не бачыў, як яны надоечы перасушвалі ўсё на двары, як напаказ развесіўшы на вяроўках.

Хрысця прыслухоўваецца і чуе ўжо маруднае, са звінючым скрыпам, чаханне гадзінніка, і ў такт яму са спалаху тахкае Хрысціна сэрца.

Гаспадар, атлусцелы пан Франусь, пэўна ж, як і заўсёды, ад войта Рыдля, з тае белай мураванкі, што стаіць каля рынку, прывалачэцца недзе пад раніцу і будзе, як заўсёды, калі яна, Хрысця, пойдзе яму адчыняць, знарок ці незнарок, абдымаць яе ў сенцах.

З маладою асаднічыхаю жывуць яны не ў згодзе. У хаце спакою няма, ледзьве не штодня — калатэча, перадрага ды сварба.

У пані Анці ёсць ці недзе быў каханец, бо Хрысця, прытоеная на сваім тапчанчыку, іншы раз чуе, як п'яны, набраўшыся, што мурза гароху, пан Франусь упікае жонку за тое даўнейшае:

— Курва, ідзі да яго.

— І пайду, толькі ты мне скажы, куды ісці...

Аднаго разу ён біў жонку, і Хрысця, не стрываўшы, ускочыла туды ў іхнюю спальню. Пані Анця стаяла ў разарванай, разлупленай на грудзях кашульцы. Аслупянелы, спатажаны ад уключанага ў суседнім пакоі святла, ад гэтага смелага з'яўлення на парозе маладзенькай служанкі, ад нясцерпнага крыку дзіцяці, якое перастала калыхаць Хрысця, Грабянка толькі раз'юшана чмыхнуў і шугануў са спальні.

Пасля гэтай перадрагі Хрысця не ведала, што рабіць, ці ўжо аставацца тут у Грабянкаў, ці напытваць сабе іншых гаспадароў. Праўда, пан Франусь ніколі не крычаў на яе, не камандаваў ёю, рабіла ўсё маладая пані ды яе сястра Чэся, што прыязджала з Баранавіч. А работы тут — пад зашмаргу: выпратаць гэтакую хату, памыць падлогу, змакрэеш ад поту, хоць цябе выкручвай. А раненька ўстаўшы, трэба збегаць то да свінабоя па мяса, то на рынак купіць радыскі. Добра, што малако, масла ды сыры прыносіла з Дубатоўкі старая Гэлька. Праўда, Хрысця любіла, апярэдзіўшы дварчанскіх дачнікаў, прыбегчы да тых старых шурпатых хвоек, пад

якімі ў буднія дні збіраліся вясковыя маладзіцы, топчучы на злінялых, распасцёртых хустках вялікія порсткія горбы перамытага шчаўя, цыбулі ды пучкі ружовае, перавязанае радыскі. Тут каля радыскі ці салаты ляжаў кружок укручанага ў вымыты лопухавы ліст жоўценькага масла.

Варажылася Хрысця толькі аднаго, каб не нарвацца на верасаўскіх ці ведравіцкіх баб.

Надоечы было нават горшае. Хрысця, прыглядаючыся да кошыкаў, дзе ў мякіне ляжалі жоўтыя яечкі, да курэй, якіх куплялі дачніцы, трымаючы за звязаныя лапкі і раздуваючы ім пад хвастамі пух, убачыла здалёк на разасланай хустцы горбачку ружавата-белых, некім ужо назбіраных суніц, здэцца, чуючы іх нават пах. І ёй захацелася іх купіць, каб прынесці маладой Грабянчысе. Там ужо стаяў, абапіраючыся на жоўтую бамбукавую кацубу, стары, сівабароды яўрэй у круглай ярмолцы. Прысеўшы каля суніц, іх у шклянку жменькаю насыпала маладзенькае дзяўча.

Раптам Хрысця ўчула, што яе нібы штурханулі, калі яна ўбачыла васільковую злінялую сукенку з няроўным адтапыраным краем. І прыстукнула, падымаючы вочы вышай і ўбачыўшы ўжо выпуклы жывот, крышку прыхаваны даўгаватым прыталеным і не зашпіленым на ніжнія гузікі сачыкам.

Нешта як спаралізавала Хрысцю. Напусціўшы на вочы белую, у сінія валошкі, хустку, Алеся хавала ад сонца свой зрудзелы ад плямаў, жаўтлявы твар. Як яна змянілася, пабрыдчэла. Хрысця ўжо ступіла да дзяўчаці, таксама нагнулася, каб не глядзець на гэты спакутаваны твар, на выцвілыя збляклыя вочы, што нечакана страпянуліся.

— А ты галавы не нагінай,— злы, цвёрды голас нібы перуном стрэліў у Хрысцю.— І вочы не хавай. Думаеш, не ведаю, што была ў Верасаве. Калі ўжо так хочаш, то аддам. Кажуць, хваціць такога кляту на цэлым свяце.

Шорсткаю і востраю асакою разанулі, распаласавалі Хрысціну душу гэтыя Алесіны словы. Ужо выпрастаўшыся, бліснуўшы сваімі быстрымі вачмі, адсекла Алесі:

— І вазьму. Хоць чалавеку палёгка будзе...

І скорапька пайшла, забыўшыся пра тыя ягады, несучы ў сабе брыдкасць, сорам і помслівасць, што калі захоча, то Імполя адаб'е, і гэты крык не паможа, і нават бітва — бо Алеся, каб тоўстаю не была, дзіцем не хадзіла, то, пэўна, білася б.

Толькі нашто яно, такое жыццё: грэшна перад людзьмі, перад гэтым дзіцем, што народзіцца ў Алесі. Яго, Імполевым, дзіцем. І праўда — хай не ходзіць. Жанаты, нашто. А тое, што наравіцца — пройдзе, згіне, разыдзецца, як туман. І праўда як туман, бо і свету не відаць, і не ведаеш, куды ісці, а потым ямснее ўсё. Во, як гэты гадзіннік, якога, здэцца, не было чуваць, а цяпер ізноў — так-цяк, так-цяк.

Растрывожаная мыслямі, Хрысця перавярнулася на другі бок, але ведала, што не засне. Якая хоць гадзіна? Устала. Пляскат ног і рып дошак аддаваліся палахлівым чуткім рэхам у пустых пакоях.

Нібы нехаця, вяла тахкаў гадзіннік. Каротшая, з кружком-кветачкаю, стрэлка вострым шыльцам упіралася ў чорную лічбу. Хрысця, не верачы, што ўжо другая гадзіна ночы, каля вушака абмацала выключальнік з круглым струпком, націснула на яго — салатавае з-пад зялёнага абажура святло адбілася на залацістым абручыку круга: праўда, кароткая стрэлка сваім вострым дзюбком праткнула лічбу «два». «Ай, божа,— Хрысця зноў тыцнула пальцам у струпок белага фарфоравага ўключальніка,— калі ж спацьму, а сёння ж раніцаю збіралася схадзіць па ягады. Гэта ж прасіла Суля, каб ёй назбірала чарніц».

Густая, як вада ў віры, чарната раптоўна абняла Хрысцю. Аслепшы, яна па гэтай густой палахлівай чарнаце пайшла да свайго тапчана. Пад нагамі зноў, аддаючыся рэхам, ядавіта рыпела падлога.

«Божа, мо дзе хто ўлез. Гэтакая хата. Столькі вокнаў. І не ўчуеш».

Сполах забіваў дух. Хрысця на пальчыках дайшла да тапчана. І раптам гэты пакой з шарым акном, за якім чорным страхоццем калыхалася хвойка, засланяючы неба, з мутным бляскам шкла ў шафах з разнаітымі кніжкамі наліўся, напоўніўся вусцішнасцю: а можа, хто ўбіўся, улез, каб абкрасці Грабянку, падпільнаваўшы, што ён п'е і грае ў карты ў войта Рыдля.

Але ж праўда — нехта нібы загрукаў. Хрысця сцялася, паслухала, прыгадаўшы зноў цыганоў, што замардавалі маладзіцу. Залекацела ад страху — нехта стукаў, толькі не ў той, ад вуліцы, ганак, а ў гэты, што быў з двара, куды звыкла, прывалокшыся п'яным, стукаўся сам Грабянка. «Можа, і цяпер ён?» Хрысця паглядзела на завешанае фіранкамі акно, падхапілася, знайшла свой чырвоны, падкарочаны для яе, для Хрысці, Грабянчышын халацік.

Прайшла кухню і сцішылася, баючыся зайсці ў калідорчык. На падворку былі двое.

— Мувень ці, жэ войны не бэндзе[1],— гаварыў, як Хрысця пазнала, свінабой, што меў мясную лаўку на той, далёкай каля возера вуліцы.

— Военко, военко, цужэсь ты за пані? [2] — у адказ яму заспяваў пан Франусь і, шкрабучыся за вушак, ужо запрашаў зайсці ў хату.— Дабавіць у чубе трэба. У мяне стоі якась травіца.

— Не бэндзе войны, не адважасён[3],— зноў гаварыў свінабой.

Хрысця ўвайшла ў калідорчык, але ўжо ніяк не магла патрапіць адамкнуць замок. Можа, не той ключ, не ад тых дзвярэй?

— Чаго не адчыяе? Не слышы, холера,— не стрываў Грабянка.

— А хто там? — спытаў свінабой.

— Мая служанка, ладна дзявуха,— пахваліўся Грабянка і замалаціў у дзверы цяжкім кулаком.

Хрысця нарэшце павярнула ключ, адамкнула дзверы, але выскачыць з калідорчыка не паспела, нейчыя рукі пачалі лавіць яе. У твар нясло смуродным перагарам гарэлкі.

— Цыс-с,— недзе блізенька зашыпеў, як ушчэмлены ў расколіну ляшчыны гад, той лысы, з задзірастым носам свінабой Канэцкі, да якога яна бегала купляць мяса.— Такі анёлак.

Што было моцы Хрысця рванулася з калідорчыка.

Грабянка з мардатым свінабоем завярнулі на кухню, адтуль чуўся іхні глухі тупат.

Хрысця, прыслухваючыся, сцягнула з сябе халацік, падлезла пад казытлівы шарсцяны плед.

Тупат на кухні сціх, адно чуваць было, як смяяўся, шыпеў, нібы гусак, свінабой:

— Цыс-с!

Хрысця не ведае нат, ці паспела яна задрамаць, ці не спрасоння ўчула:

— Анёлак, ты спіш?

Яна толькі ўбачыла, як недалёка бялела сподняя кашуля, і потым учула, як чужая рука абмацвала тапчан.

— Не бойся.

---

[1] — Кажу табе, вайны не будзе *(польск.)*.
[2] — Вайна, вайна, што ж ты за пані? *(польск.)*.
[3] — Не будзе вайны, не адважацца *(польск.)*.

Хрысця яшчэ не магла разабраць, хто тут.

— Не бойся. Ён не чуе, ён спіць,— на Хрысцю дыхнула гарам гарэлкі.

Каля тапчана пахістваўся Свінабой.

У міг вока Хрысця саскочыла на падлогу, але за кашульку трымала ўжо свінабоева рука.

— Я не так, чуеш? Я заплачу. Я багаты. У мяне вунь поўная кішэня грошай, я азалачу цябе. Не крычы, чуеш!

— Пусці! — ужо рэзка рванулася і асмялела Хрысця.

— Чуеш, азалачу. Хату купіш. Ты ж знаеш — я Канэцкі. Я маладзенькіх люблю.

— Пусці, смырод! — яшчэ раз, але з усяе сілы турзанулася Хрысця, учуўшы, як, нятуга луснуўшы, раз'ехалася старая зношаная кашулька. Змярцвеўшы ад усяго, ад сораму, ад злосці, ад гэтай рукі, што без брыдкасці з нейкім холадам, як жаба, папаўзла па целе, Хрысця зубамі злавіла гэту валасатую, гідкую да рвоты руку, кусала, не шкадуючы, упіўшыся зубамі глыбока ў скуру.

— Ты што, звар'яцела?! — заенчыў Канэцкі, але ўжо другою рукою хваціў Хрысцю ў пояс.

Абедзвюма рукамі Хрысця ўперлася ў расхрыстаную грудзіну і пхнула Канэцкага ад сябе, і ён, п'яны, не ўтрымаўшыся, не ўстояўшы на нагах, паехаў спярша на дзіцячы пусты ложак, а потым ужо на падлогу, ляснуўшыся аб яе недзе ўпоцемку лысым круглым качаном галавы.

«Мо забіла?» — жахнулася Хрысця, але ўчула, як, сілячыся ўстаць, захроп Канэцкі:

— Ну, курва!

Хрысця вышмыгнула на святло кухні. Абвяўшы на крэсле і ўпёршыся ў стол галавою, там соп носам і захлёбваўся пан Францусь.

Дзверы ў калідорчык і на двор былі адчынены. Ледка адзетая, у адной кашульцы, учула здаровы скразняк ветру. Скоранька спусцілася з ганка, завярнула за вугол дома. Ззаду ў калідорчыку шкробся, трымаючыся за сцяну, п'яны Канэцкі.

— Ты куда, дурніца? Не рабі крыку, чуеш?

Спатыкаючыся ў нізкім поцемку, дабегла да брамкі. Яна была таксама не прычынена. Задушлівая сухая ноч млела над мястэчкам. У шарым хмурным небе палахліва ўспыхнула высокая, жаўтлява-ружовая яснасць. З далечыні не дакочваўся цяжкі глухі пярун.

— Стой, кажу, не рабі лопату,— ужо за плотам, за кустамі акацыі ўчула Хрысця перапіты ахрыплы голас.

І нечакана па лісці зашалясцеў і цяжка гупнуў каля Хрысці ў пясок вуліцы вырваны недзе з кветніка цяжкі абломак цэглы.

Хрысця перабегла пад ліхтаром жоўты круг святла, скіравала да пошты — там свяцілася акно, быў чуваць голас тэлефаністкі: «Алё, алё, маўчыць гміна. Алё, ніхто там не падыходзіць да тэлефона...» — і спынілася каля белага атынкованага дома з дзвюма прыбудоўкамі — Сулінай цукерні. За шчыльна закрытымі аканіцамі тамілася сцішнасць. Да аканіц не пускаў высокі плот з замкнутаю брамай.

Хрысця патурзала яшчэ раз за клямку глухое форткі і ўжо цяпер, учуўшы нестрывалы жаль да сябе і за гэтую ноч, і за верасаўскае жыццё, і за сваё сіроцтва — горка заплакала.

Адлягло, палягчэла на душы ад гарачых слёз. Нібы падужэлая, акрыялая ўзялася абедзвюма рукамі за частаколіны, узабралася на жэрдку і скокнула ў гародчык на высокія, з пасохлымі кветкамі, касачы. І ўжо на яе тупат у гародчыку, на шастанне па градах каля тонкіх маладых яблыняў спадцішка сухім, асцярожным рыпам адазваліся дзверы.

— Вуй, вос бісту до? [1] — не высоўваючыся з-за іх, пыталася Суля.

— Гэта я, цётка Суля, гэта я,— шэптам крыкнула Хрысця.

За страхою дома на сіняй хмары ўспыхнуў і доўга трапятаўся ружаваты водсвет маланкі. І тамлівую ціш ночы знянацку разламаў высокі грукат перуна.

— Вос гот зіх міт дыр гетрофн, мейдул? [2] — перапалохана зноў спытала Суля.— Готэню, фарвос бісту накет? [3]

— Памажэця,— даўкі камяк захрас у горле — Хрысця гаварыць не магла, свет засланілі слёзы.

— Майнэ лыбэ, што ты? Чаго? Вой, раздзетая!

— Прыстае, рады няма... вунь свінабой. П'яны, прыйшоў з гаспадаром.

— А дзе яна, Грабянчыха дзе?

— У Баранавічы паехала.

— Вуй, вос гот эр опгетон міт дэм кінд, дэр алтэр уйсвурф? [4] — Суля нарэшце ўбачыла разарваную кашуль-

---

[1] — Вуй, чаго ты тут? *(яўр.)*
[2] — Што з табою, дзяўчо? *(яўр.)*
[3] — Божа, чаго ты голая? *(яўр.)*
[4] — Вуй, што ён з табою зрабіў, гэты стары кныр? *(яўр.)*

ку.— Трэба было чым па галаве, па гэтай яго лысай бруччы, каб раскалолася.

Суля гаварыла нешта яшчэ ўжо ў хаце, завёўшы Хрысцю зноў за перагародку ў той вузенькі, са швейнай машынай, пакойчык з адным ложкам, дзе першую дварчанскую ноч начавала Хрысця.

Яна і лягла тут, ці паспеўшы звосці вока, бо абудзілася ад моцнага грому і густога, за акном, навальнічнага дажджу. І ад спорнага дажджу, што пах свежасцю тут, у пакойчыку, ад шарай, завешанай ім раніцы, ад вясёлага, перагаворлівага цвіркання ластавак пад шчытом нейкі ясны, як дзе праз шчыліну, промень радасці заззяў у куточку Хрысцінай душы — невядома чаму яна ўспомніла Імполя, таго, загарэлага, босага, ■ падкасанымі калошамі, якога бачыла астатні раз на сенаванні ў Верасаве, калі хадзіла па ягады.

Але гэты ясны слупок радасці знянацку змерк, на памяць вярнулася сённяшняя ноч, і зноў вочы затуманіліся ад слёз, і гарката крыўды сціснула сэрца. Як жа ж дадому цяпер ісці? Як жа ж у гэтай парванай кашульцы?

За перагародкаю зарыпелі сухія дошкі падлогі. Маленькі Сулін мужык, зарослы да вушэй чорнаю, з сівою пасмаю кучараваю барадою, доўга шкробся каля вушака перагародкі, потым адкінуў полаг паркалёвай занавескі — на швейнай нажной машыне, аказваецца, ляжалі яго старыя, у хвосціках жоўтых вылезлых гумак падцяжкі.

А потым прыйшла Суля, прысела на крэсле, сашчаміла на каленях рукі, пакруціла чырвона-рыжаю галавою.

— Што будзе? Да чаго ўжо свет дайшоў, калі гэты стары баламут... Але праўду кажуць: волас сівее, розум слабее... А што ты хочаш? Яго бацька такім быў. Воўчае насенне да лесу цягне. Што, не праўду кажу?

І прынесла сваю старую байкавую сукенку ў макавыя кветачкі.

— Ідзі сюды, паснедай.

— Не, пабягу ўжо,— Хрысця яшчэ болей здрабнела і паменшала ў гэтай вялікай, гаматнай сукні.

— Перачакай дождж.

— Ці далёка тут, не размокну,— і выбегла на цёплы росны дождж, на тугаваты ад вады пясок. Сцягнула, сабрала ў жменю на грудзях шырокую сукенку і пабегла, з лопатам распырскваючы лужыны.

На зачыненых весніках, па нейкай акуратнасці, як ля-

жалі перад ганкам драбіны, аб якія выціралі ногі, па вокнах адчула, што дома ўжо маладая Грабянчыха.

І праўда, на рып дзвярэй, на тупат яе ног у калідоры выскачыла, на бягу зашпільваючы халацік, з аброшанымі кудзеркамі валасоў і мокрымі бровамі пані Анця.

— Матка найсвенша, я тут і месца сабе не знайду, дзе ж ты была?

— У Сулі начавала.

— Свенты божа, што тут учынілася?

— Гаспадар з свінабоем...

— Я так і падумала. Божа, калі гэта кончыцца,— яна азірнулася на дзверы.— Цяпер вунь ляжыць мокры, як бык...

— Як жа ж тата ваш? — перабіла яе Хрысця сваім роспытам.

— Пры смерці ён,— у пані Анці задрыжаў падбародак.— Дарма Януша там пакінула. Думала, Чэся прывязе.

— А чаму ж не? — здзівілася Хрысця, пакідаючы на ходніку сляды ад мокрых ног і ўслед за гаспадыняй ідучы ў спальню.

— Не, паеду сама. Сёння паеду. Ты мне плеценую карзіну, тую, што на два замкі, з гарышча дастань,— і павярнулася да шафы, шчоўкнула ключыкам, адчыніла дзверцы, махнуўшы пахам нафталіну.— Бялізну з шафы будзем даставаць.

— Нашто? — насцярожылася, змярцвела Хрысця.

— Як нашто? Ты ж бачыш, збрыдзела ўсё.— І ўжо закрычала сама да сябе: — Досць тэго! Не могэн патшыць, не могэн! [1]

— Дзе ж будзеце жыць? — жахнулася Хрысця, падумаўшы пра сябе, што будзе з самою, дзе дзенецца. Няўжо будзе хадзіць па мястэчку, каб памыць каму бялізну ці прынясці вады.

— У мамы... Не дасць! — і кінула з шафы сваю зялёную аксамітную сукенку з вялікай брошкай.

— Што вы! — Хрысця глядзела на гэтую вялікую прыгожую брошку, што мігцела і пералівалася, як раса, то ружовым, то сінім, то жоўтым агнём.— Каб вы былі адна, а то з дзіцем.

Маладая Грабянчыха, мусіць, успомніўшы малую, на два пакойчыкі, бацькаву кватэрку ў цагляным доме недалёка ад чыгункі, дзе бясконца грукаталі паязды, тую цяс-

---

[1] Досыць! Не магу глядзець, не магу! *(польск.)*

ноту, маму, якой яна скажа, што кінула мужа, і падумаўшы, ці вытрывае, ці перанясе гэта ўсё мама — і бацькаву хваробу, і яе развод,— неяк бязвольна апусцілася на сваю зялёную сукенку, абы-як кінутую на падлозе.

## XV

Адцвіла, адкрасавала сваім трапяткім хараством і стаілася ў змораца-скарамяжлівым спакоі, як цяжарная маладзіца, чуючы сябе ды свой варухлівы плод, бясконцая і вечна зраджайная зямля.

У садах з-пад сівага лісця высунулі сваю бліпічаста-зялёную лабаціну маладыя яблыкі, шчодра захарашэлі ад бурачковай завязі разгалістыя грушы. У закурэлым вішанніку вільготнымі, нібы вылушчаны са стручкоў гарох, вочкамі з-пад цёмнага лісця вызіралі зялёныя ягадкі.

Згасла ў гушчары дзіравага, сточанага алешніку ды сівага вербалозу ледзьве прыкметная каліна. Асыпала свой ружовы, крышку злінялы цвет у зялёных ровішчах, на старых палявых межах і даўнейшых селішчах калючая шыпшына.

На полі ўжо сівавата-зялёнымі хвалямі хадзіла высокае густое жыта. Вецер падымаў з яго і нёс жоўты пылок. Яно красавала.

Абагнаныя па першаму разу, дурэлі, гонячы зялёнае бацвінне, лапушыстыя картоплі.

Выкручваў з зялёнага шырокага пер'я мякенька-вусаты колас ячмень. Дрыжаў, дзе-нідзе выпусціўшы ўжо маленькія пацерачкі, сівы авёс. І зацвітаў нябескім цветам паполаты верасаўскімі бабамі жаўтлява-зялёны лён, ды падымаўся, раскрываючы сваё лапчатае лісце, малады лубін, на які, покуль ён яшчэ не заглушыў травы, пускалі каровы.

Завіўшыся дзе на кальву жыта, распаўзлася павуком пры дарозе, зацвіла грамафоннымі трубкамі бела-ліловых кветак бярозка, што, па верасаўскіх прыкметах, сцягвала ў кароў малако. Загнаныя ліпкімі, што садзіліся спадцішка, сляпакамі ды залаціста-вялікімі, звінючымі аваднямі каровы і праўда, запускаючыся нібы перад цяленнем, давалі менш малака.

Пры хваёвым ляску на сівых ад моху і ружаватых пэндзлікаў сушніку ялавінах, ніколі не араных нішчымных аблогах, стракатых ад ружовага чабору ды жоўтага сакаўнога водцыку прылесках зацвітаў свенціян.

Стаяла самая гарачыня маладога лета. Над смутным прывялым полем, над жытам, дзе было звіта і сухенькага пырніку глыбокае і шасцю рабенькімі яечкамі гняздо, звінеў, трапятліва падымаючыся ў выцвілае неба, шары жаваранак. Ды на вялікім, пабітым воспаю лішая ды аброслым быльнікам, камені стаіўся гарбаты каршун, выцікоўваючы зайца ці мо вывадак маладых пры жыце курапат.

Тады-сяды на полі паяўляліся бабы, каб напалоць для каровы радзюжку гэтае самае прывялае бярозкі ці паўзучага ў беленькіх, як на вадзяной расе, кветачках крапцу.

Ды ў вольную нядзельку, намазаўшыся здорам пухкіх грэцкіх аладак, крышку сыта-давольны гаспадар паволі ішоў аглядаць сваё поле: як што расце, красуе, ці не нарабіў хто шкоды, выкасіўшы для свайго каня лапік канюшыны ці прыпасвіўшы ярыну.

Верасаўскія маладзіцы, як кураводкі, абсыпаўшыся дзецьмі, покуль не наспела жніво, бегалі ў няблізкі кашалеўскі лес па ягады — хай будуць высушаныя на зіму на лякарства ці во і цяпер з'есці, прысыпаўшы, каб было сытней, грэцкае мукі і забяліўшы малаком. Ачуняўшы да полудня ад хвароб ды расхадзіўшыся, выбіраліся ў гэтую пору лета на старыя межы, у ровішчы ды жоўты ад водцыку аблог, каб назбіраць зёлкаў, старыя, падтупаныя ўжо бабы.

Рвалі яны ды збіралі ў прыпол усё: і невысокі, падобны да люціку, і жоўценькімі кветачкамі грымотнік, што памагае ад кашлю, і палявую моркву, што лечыць ад жаўтачкі, і сухі хвошч, і ліловую шчотачку перапялічніку, каб укінуць яго ў кіслае шчаўе, і сіненька-нэндзную, прыхаваную ў цяньку каля ялаўцовага куста кветку паўночніку — соннага лякарства. Ці, адышоўшыся далей ад вёскі, адкуль ужо не чуваць пеўневага голасу, нарваць чартапалоху, каб, распаліўшы на жалезнай засланцы сухія калючыя шышкі, было чым абкурыць ледзьве не голенькае, у адной кашульцы, дзіця, ганяючы з яго пярэпалахі ды урокі.

Толькі адна Алеся, старонячыся чужога вока, не вельмі адлучалася з дому: бо ці збяжышся ўжо з жыдкімі ў хадзе бабамі, ды і ягады тыя — не блізкі свет. Хоць у нядзельку схадзіла ў Дварчаны ўжо наперад купіць для ждананага дзіцяткі фланэлі на шапачкі і паркалю на сарочачкі, стрэўшы незнарок яе, Хрысцю.

А сёння прыкра на душы і цяжка перагараць, што чапіла яе перад усімі на рынку. Бо ўночы сніліся зноў — і

Хрысця, і нямая Еўка ■ свекрывёю. На нешта ж укажа гэты сон. Нават у Імполя спытала:

— Што гэта значыць, калі нябожчыка прысніш?

— Старое нешта знойдзецца,— сказаў ён, і Алеся ўжо супакоіцца не магла: няўжо зноў па вёсцы папаўзуць якія абгаворы? Няўжо?

Імполь павёў на той далёкі лужок у Палужні пасвіць каня. Якое там пасвінне, толькі спіць дзе ў цяньку пад алешнікам або ў Дварчаны да яе пабег. Ды хай ужо лётае, хіба прыпыніш. Абрыдла думаць пра гэта. У яе адзін клопат — дзіця. Трэба схадзіць па лякарства і для яго, дзіцяткі, і для сябе. Накапаць памацніку — тых чорных, ■ бубкамі, карэньчыкаў, што кідаюць у гарэлку, ды стрымбуляватага, бязлістага, на якім сінімі матылькамі разгортваюць свае крыльцы празрыстыя кветачкі, мацаўніку ад парушэння, і нарваць жоўценькай у пушах, як канюшынка, руціцы, каб ратаваць сэрца, і браточкаў — купаць, калі пойдуць скулы, малых дзяцей.

Алеся азірнулася на высокую страху гумна, за якім падымалася сіняя, з папяловымі маленькімі краямі хмара і рахманым, яшчэ нязлосным водгаласам адклікаўся і пагрукваў гром, падумала, што дажджу, дасць бог, у Верасаве не будзе — хмару пацягне на кашалеўскія лясы, на тую шырокую ў лазе ды алешніку лагчыну, дзе віўся, падмываючы пясчаныя берагі, блішчаў цёмны, з жаўтлявымі плёсамі Нёман. Алеся бачыла яго толькі раз, як ездзіла з бацькам на кірмаш у Бяліцу. Зімою там, кажуць, утапілася вяселле.

Прымкнуўшы сенечныя дзверы, Алеся прытаптала на прызбе доўгі з абслізганым язычком ключ, сцягнула з ялловага частакола памыты фартух і, прапускаючы наперад сябе сучачку, выйшла на вуліцу.

Каб лішне не надарыцца на каго, завярнула на бацькаў двор, на вузкую, вытаптаную каровамі ды авечкамі сцежку: вось так наўпрасты можна было выйсці на кладку.

За гумном, выкошваючы высокі ў белым цвеце баркун ды глухую канапельку, што заглушылі тут небрукаваны двор, шастаў касою бацька. У споднім, зрудзелай ад поту, даўно, мусіць, не мытай палатнянай сарочцы.

«Думаю толькі пра сябе, а вунь які недагледжаны бацька»,— упікнула сама сябе, але ўслых ужо і яго:

— Дабраў час. У нядзельку косіць. Грэх жа ж.

— Такі то грэх, каб чалавек большага не ведаў, калі выкашу чортава зелле.

Напамінак пра большы грэх кальнуў Алесю — незнарок падумала зноў пра нямую Еўку і свекрыву. У душы калючым клубком перавярнулася злосць.

— Сарочку во скінь. Буду ісці дахаты, вазьму,— Алеся пераступіла сучачку, што прысела пад нагамі на сцежцы, спусцілася да вуліцы, сказала яшчэ: — І Змітрык няхай прыгатуе што памыць.

Пераскочыўшы каменне, стрымгалоў у садок збегла сцежка. Разарвалася зігзагам пад сівымі, яшчэ не ацяжэлымі ад свайго прыплоду яблынямі. Густы ліповы пах нават прыпыніў Алесю: у Сымонавым садку зморана пагойдвала жоўтым ад шчодрага цвету галлём, не могучы ацерабіцца ад пчол, высокая старая ліпа.

Ужо каля рэчкі гэты густы мядовы пах ліпы перабіў распараны ў ружаватых чачотках гаркавата-млосны валяр'ян. Хмялеючы ад яго, Алеся перайшла кладку.

Набіўшы між пальцаў кветачак белага сухотніку, выйшла на ліловы ад чабору грудок. Прыслухалася: за сівымі купаламі вербаў, шурпата-чорнымі, бязверхімі алешынамі з воранінымі гнёздамі чуваць было, як у вёсцы спявалі пеўні.

«Не, трэба далей адысціся, каб не чуваць было петуховага голасу»,— успомніла Алеся тое, што некалі раіла маці.

Чуючы босымі нагамі калючы жвірок, пайшла цвёрдаю сцежкаю каля жыта. Аб твар, аб рукі казыталіся вусатыя, ужо тропкі звіслыя ад налітага зерня каласы. На падсохлай траве, на шурпатых сіва-ліловых вусах зіхацела чырванню, трымалася, мусіць, на дождж раса. Ад жыта, што пры беразе зарасло злінялаю валошкаю, пахла прэснаю травою.

Пры сцежцы ў рэдзенькай траве хаваліся марныя ліловыя буслікі, і шчымлівая радасць апякла Алесіну памяць — прыганулася нешта далёкае, светла-дзіцячае, як хадзіла за каровамі па калюча-шапаткім іржышчы, збіраючы ў букецік гэтыя буслікі.

Алеся памаленьку нагнулася, сарвала сонную кальву травы з ліловымі кветачкамі і ўжо адцвіўшым насеннем. Яно і праўда было падобнае да бусліка: доўгі зялёны дзюбік і пацерачка галавы на тонкай шыйцы.

Аднекуль пахла і цягнула крышку чадным дымком, і трапяткая сучачка, што бегла паперадзе, палахліва спынілася, прычакала Алесю. На дарозе круга невялічкага раскладзенага агню сядзелі дзеці, трымаючы над полымем

пучкі звязаных і рассыпаных веерам каласоў. І Алесі раптам, як малой, заждалася падсмажаных чорна-саладжавых зерняткаў, што сядзяць набрынялыя ў абсмаленых бязвусых каласках.

Пастухі, счуўшы тупат ног па выбітай сцежцы, палахліва азірнуліся, той-сёй нават з колінкаў ужо ўстаў на ногі, гатовы пудкім зайцам скочыць ад агню, але, убачыўшы кабету, спакойна, нават на локаць, прылёг зноў.

Вішнёвая карова, адкраўшыся ад грамады, з другога канца палетка лавіла языком абвіслыя каласы, ірвучы ўжо і карэннямі кальвы жыта.

— Сядзіце, хоць бы паглядзелі, дзе карова! — паказала рукою Алеся, і на дзяцей ад злосці забурчала ўедлівая сучачка.

— Нідзе не дзенецца,— самы большы з пастухоў, нат не зварухнуўшыся, цёр у далонь з абсмаленых каласоў зялёныя прыгарэлыя зярняткі.

— У шкодзе вунь,— прыкрыкнула Алеся.

— Гэй ты, вушаты! — нехаця, пераломаным ужо голасам сказаў большы пастух, не падымаючы ад зямлі вачэй, і на яго крык усхапіўся рабаносы, з адною падкачанаю калошаю, хлопчык.

І ўслед за ім запляскаў босымі ножкамі маленькі, гадкоў пяці, узяты на пасвіска мо пасля доўгага плачу брат.

«Чы ж гэта?» — старалася ўгадаць Алеся, ідучы ўслед за дзецьмі, і, калі меншы азірнуўся на «крыклівую цётку», па курносым дробным тварку, па тым, як ён пудка глядзеў спадылба, пазнала — Герасімцовай Зосі сын.

Гарачынёю аблілося, турзанулася ад болю сэрца — гэта ж у адзін год з Зосяю тоўстаю хадзіла. Каб не раз'ятраная сляпая злосць, калі душыла свой жывот, такою ўжо дачка была б. «Божа мілы» — Алеся, як аберагаючы ад чаго нядобрага, закрыла рукамі свой жывот, абцягнула кофту.

Хлопчык пабег, схаваўся за высокаю сцяною жыта, а ў Алесінай душы вялікім задушлівым клубком пераварочваўся развярэджаны даўні боль.

Тарпатынавым пахам дыхала ад блізкага хвойніку, ад растопленай на сонцы смалы. Прымлелі, расплыліся, як куры, на пяску, нізкія кусцістыя хвоечкі, што, як помніць Алеся, сядзелі тут спрадвеку аднакавыя — крывыя і састарэлыя.

Падсох і пякуча патрэсквае пад босымі нагамі сівы мох, што ў вільготную пагоду, у дождж адсырэе, зробіцца

мякенькі, як падушка,— ідзеш і толькі чуеш гэтую мяккую ды мілую для душы пухкасць. Між нізкіх хвоечак, каля старога зарослага мохам ды лішаём ялаўцовага куста, абвяў, звесіўшы карычнева-зялёную шапку, нікім не згледжаны баравік.

Падышоўшы туды, Алеся прысела, азірнулася кругом, ці няма дзе яго сям'і, але нічога не знайшоўшы, спусцілася ў зарослы высокімі каптурамі ялаўцовых кустоў равок.

Па зялёнай лагчынцы высыпалі ружавата-карычневыя маладзенькія лупякі. Іх ніхто не збіраў. Верасаўцы чакалі, покуль пойдуць, як казалі, праўдзівыя грыбы — баравікі, каб насушыць на калядны пост, можна было ўкінуць жменьку ў капусту заміж затаўкі або наварыць грыбнога квасу.

Абмінаючы выспу лупякоў, Алеся паслізнулася на адным, завярнула да жоўценькае, як рабінавы цвет, чачотачкі нізіперніку на ружаватым ствалку з сівавата-тлустымі, нібы ў блюсках слюды, круглымі лісцікамі. Вырвала яго разам з растапыранай лапкаю карэнняў, што не вельмі чэпка ўпіліся ў пясчаны грунт ялавіны, укінула ў свой фартух.

Пахучым нізіпернікам, дадаўшы да яго чабору, верасаўскія бабы выпарвалі закіслыя ад малака збанкі.

Алеся мінула равок, пайшла ўздоўж хвойніку, прыглядаючыся да ялаўцовых кустоў, дзе ў цяньку драмалі, звесіўшы сіненькія галоўкі, марныя, нэндзныя кветкі паўночніку. Асцярожна нагінаючыся, рвала іх у закручаны глыбокім раўком фартух. Нават здзівілася, што столькі было гэтага зелля, якое яна гатавалася назапасіць даўно. Будзе ў адвары купаць дзіця, калі яно не спацьме, калі будзе хадзіць начніца. Кажуць, добра яшчэ купаць дзяцей у цыліндры — жоўценькіх кветачках, што пускаюць, як малачай, свой сок. Найпершае лякарства ад лішая, балячак ды скул.

Цыліндры з румянкам яна ўжо нарвала і, звязаўшы ў пукі, насушыла ў цяньку пад страхою. Не назапасіла хіба толькі для сябе, але сходзіць ужо іншым разам, накапаць мацаўніку ці, як яшчэ кажуць на яго, парушэнцу з сінімі, як злінялая валошка, кветачкамі зелля, што расце пры чыгунцы ў Дварчанах. Адвар яго трэба піць, калі зрушышся пасля родаў.

Вузкім між лесу, пазарастаным высокімі стаўбунаватымі, як дзядзькі ў кажухах, ялаўцовымі кустамі, раўком Алеся вярнулася назад — ведала, дзе расло яшчэ адно, не-

чым падобнае сваім калмаценькім лісцем да крываўніку, зелле памацніку: яго чорныя бубкі карэньчыкаў разам [redacted] вобаратнікам і дзівасілам верасаўцы настойвалі на гарэлцы лячыцца, калі падымеш што цяжкае ды зрушыш жывот.

Прыклікаўшы ды прычакаўшы сучачку, што згубілася ў кустах ялаўцу, Алеся падышла да жаўтлявага з барадамі травы, няўдала скошанага балотца. Тут, на Літаварамым надзеле, і расло гэтае лякарства. Сюды крадком прыбягалі верасаўскія бабы накапаць чорных, [redacted] ягадкамі, карэньчыкаў, зрыўшы, як дзікія свінні, чужую сенажаць. Алеся схамянулася, што не ўзяла капач. Ды каля алешніку ў гразі сёння таўталася, выносячы на сушэйшае скошаную асаку, старая Літаварыха. Гнулася пад цяжкаю, што вадзіла яе [redacted] боку на бок, радзюжкаю. Прыстакнуўшы, Алеся з дзівам глядзела, як цяжкая, закінутая за плечы радзюжка раптам павяла старую Літаварыху назад. У астатнім намаганні Літаварыха рванулася наперад і напотырч галавою ўпала ў гразкае, што калыхалася пад нагамі багнішча.

«Вой, што [redacted] ёю? — аблілося гарачынёю Алесіна сэрца.

Літаварыха не варушылася, нібы набіраючыся моцы, каб падняцца зноў.

Ужо знямелая, бачачы, што старая не паднімае з-пад радзюжкі галавы, Алеся борздзенька пайшла, спачатку — сухой калючай пакошай, а далей ужо мокрым, дрыгатлівым багнішчам, што захадзіла і закрактала пад ёю.

Безнадзейная, як матылька ў шыбу, здагадка пастукалася ў сэрца, што старая ўпала не так сабе.

«Толькі ж не перапалохацца,— угаворвала сябе Алеся.— Ці мала што. Дзіця трэба берагчы, дзіця».

Цяжка і зморана дыхаючы ад скорае хады, пастаяла, паўзіралася на выцвілую радзюжку і, здаецца, убачыла, што старая заварушылася, і лёгкім, жывым ветрам на душу дыхнула спадзяванне, што з старою нічога не ўчынілася, што старая зараз падымецца, але адразу ж перакана́лася, што падалося ёй — як не варушылася, так і не варушыцца радзюжка.

Алеся, задыхнуўшыся, схаладзеўшы ад насцярожанасці, ужо ледзьве перастаўляючы ногі, ішла па мяккім, што гойдалася і шыпела, смуродлівым багнішчы. Адною рукою трымала згорнуты жалабком фартух [redacted] пазбiранымі зёлкамі.

З-пад паласатай, у чырвоныя балонкі радзюжкі, што

накрыла старую Літаварыху, выглядвалі босыя ногі з жоўтымі мокрымі пятамі ды худымі сіняватымі лыткамі.

Нібы чуючы Алесіну трывогу, лезла па гразі і зазірала ёй у вочы насцярожаная сучачка.

Схаладзеўшы ад страху, Алеся падышла да Літаварыхі, нагнулася і чапіла за выцвілую радзюжку з мокраю асакою:

— Цётка Зося, што з вамі?

Радзюжка заехала набок. З-пад яе была відаць белая ў злінялыя валошкі хустка. Твар старое ўткнуўся ў вытаптаны касцюм і набеглы рудаватаю вадою след.

Алеся турзанула старую за локаць і закрычала мацней:

— Цётка Зося, ці чуеце?

«Няхай крые бог, памерла»,— азірнулася на задыханую сучачку Алеся і перавярнула старую дагары, спалохаўшыся ўжо, што на мокрым, запэцканым рудаватай гразёю твары ўздрыгнулі вейкі і з-пад іх глянулі вадзяністыя вочы.

— Жывот рэжа, няхай крые бог.

Звялы, зморшчаны, як старая прарослая картопля, твар перакасіўся ў вялікай нязноснай пакуце. І Алесю зноў абліла цякучая гарачыня страху: перад вачыма ўстаў, успомніўся другі, таксама перакошаны ў нейкай страшнай міне твар старое свекрыві, калі яны з Імполем даставалі нежывых, яе ды нямую Еўку, з той глыбокай, выкапанай рукамі ямы ў гумне.

Алеся адвярнулася ад Літаварыхі, самлелаю цяжкаю рукою выцерла спацелы лоб, не азіраючыся, сказала:

— Я пабягу, людзей паклічу.

— Ага, людзей,— ледзьве вымавіла старая, пэўна, не могучы паварушыць сухім языком.

«Трэба ж ёй памагчы, вынесці хоць з багнішча»,— нешта на міг прыпыніла Алесю. Яна нават павярнулася, але ўчула, як перад вачмі зноў змерк і загайдаўся свет, і паволі пайшла мяккім і топкім, як падушка, багнішчам.

Адышоўшыся далей і трохі асмялеўшы ўжо, дакарала сябе: «Божа, і трэба было падсунуцца, каб з сабой яшчэ што зрабілася».

Яна асцярожна паглядзела на свой жывот і ўбачыла, што растрасла, пагубляла з фартуха марныя сіненькія кветкі паўночніку. Але махнула рукою і суцешыла сябе: «Таквеле бяды, іншым разам назбіраю».

Выйшаўшы на сухі ды цвярдзейшы грунт, асцярожна, бокам азірнулася: там недалёка ад куста ракітніку пама-

тоньку падымалася, уставала над радзюжкаю з цяжкім мокрым сенам старая Літаварыха.

Над ёю, нібы нічога не было, спакойна плыў, робячы круг, каб сесці на балота, і вяла махаў чорна-белымі крыллямі даўгадзюбы бусел.

Алеся паўзіралася, як ён садзіўся, цяжка складваючы вялікія зморапыя крыллі, і зрабіўся як бязрукі, з цяжкаю галавою на тонкай шыі і караткахвосты, але сваёю цыбатаю хадою і праўда падобны да чалавека, якога, мусіць, пакараў бог.

Алесі ўспомнілася тое, што некалі расказвала нябожчыца маці: як бог пазбіраў усё гадства і даў у мяшку чалавеку, каб укінуў, утапіў у балоце. «Толькі не глядзі!» — наказаў бог, але чалавек не паслухаў, развязаў мяшок — ужо ж вельмі хацелася зірнуць, што там,— і гадства ўсё вылезла з мяшка. «Цяпер будзеш збіраць усё жыццё»,— сказаў бог і чалавека зрабіў буслом. І ходзіць ён цяпер па балоце і збірае жаб, вужоў ды мышэй...

«Няўжо гэта праўда, няўжо?» — раптоўны скразняк сполаху дыхнуў на Алесю, зялёна-калматаю няскошанаю сцежкаю па жоўтай пакошы яна выйшла да кладкі сказаць ужо абы-каму, што там, каля алешніку ў гразі, памірае старая Літаварыха. Але нікога не сустрэўшы, прынясла гэтую страшную, ні з кім не абгаворапую яшчэ вестку да Літавараў на надворак — там якраз збіраў сырыя алехавыя палкі, робячы нейкі азярод, каб было на чым сушыць сырое сена, стары Літавар.

— Дзядзька Ясь! — узялася за шурпатую абамшэлую частаколіну і крыкнула ■ усяе моцы Алеся.— Цётка там, цётка...

— Што? — азірнуўся Літавар і, мусіць, убачыўшы Алесін збялелы твар, спакойна, нават з нейкім спадзяваннем на гэта, спытаў: — Памерла?

— Не, што вы! — Алеся нават адступілася ад плота.

— Казаў жа ж, не ідзі, сам упраўлюся, так гавары ты ёй ці не гавары,— стары падняў алехавы азяродзік і, прасунуўшы між жэрдачак руку, узяў яго на плячо, падхапіў яшчэ адзін, што стаяў пры плоце.

— Цётцы кепска зрабілася,— Алеся адчыніла перад Літаварам непрышчэпленую брамку.

Ён, выцягнуўшы цяжкія з надутымі жыламі рукі, прыціскаў да сябе праслы, што віселі па плячах.

— Дзіва што. Уночы ледзьве богу душу не аддала. Але ж калі завіпецца, то ўпыну няма. Хіба смерць.

— Што вы ўдурбалі сабе? — Алеся ішла за Літаварам, што нёс на плячах гэтыя два праслы.

— А тое і ўдурбаў,— глыбокім жалабком вузкай сцежкі Літавар павалі спусціўся ў равок, зарослы белым сухотнікам і сівым высокім палыном, паглядзеў на свае вялікія босыя ногі з тоўстымі, закурэлымі ад пылу пальцамі і сказаў: — Трэба, мусіць, па ксяндза ехаць да Броніку ў войска тэлеграму адбіць.— Ён цяжка ўздыхнуў і падняў на Алесю свае мокрыя, глыбока запалыя сіненькія вочы: — Можа, твой Імполь памог бы. Каня хай бярэ майго... А за клопат я ўжо чым-небудзь сплачу.

Стары паставіў на зямлю сырыя нялёгкія праслы і абапёрся на іх, як на гамары.

— Яна ці сёпнячы пераначуе.

— Не разбітны мой,— Алеся азірнулася на сваю хату.— Нідзе ніколі не быў. Хіба я Змітрыка папрашу.

— Ці трудная ўжо справа. Папрасі, мо з'ездзіць.— Стары Літавар падняў сырыя, збітыя цвікамі алехавыя жэрдкі і цяжка, угнуўшы голаў пайшоў насустрач шырокаму, ад плота да плота, воза [redacted] сенам, што плыў вуліцаю.

«Мусі, праўда, не выжыве старая Літаварыха,— падумала і Алеся, і нешта горкае абняло яе.— Няўжо так зняцку канчаецца ўсё на свеце: бяда, страх, клопат? Усё чыста».

Алеся, спусціўшыся ў равок, пабрыла па глыбокім, нанесеным паводкаю пяску. Ён сухім напаленым прыскам пёк у босыя ногі.

## XVI

Гэтак заўсёды — калацілася і соладка занывала сэрца, калі Змітрык пад'язджаў ці падыходзіў пад Дварчаны. Яшчэ [redacted] малых год ён чуў сцішана-затоеную радасць перад усім, што рабілася, жыло і дзеелася ў мястэчку: шэрым зімовым вечарам за вышытымі фіранкамі, за падвязанымі стужачкамі гардзінамі свяціліся аранжавым, нябескім і чырвоным святлом прыгожыя абажуры, над ганкамі гарэлі сляпаватыя электрычныя лямпачкі, а местачковыя дзеці рэзалі зледзянелы снег вострымі дутышамі ці пырскалі ім, крута паварочваючы на снягурках. Вясною, на згоне зімы, калі яшчэ каля брудных курганоў шыпела бурбалкамі зеленаватая вада і павучынкаю слалася па леташняй траве сівая цвіль, яны, беспярастанку дзіліньгаючы за язычкі бліскучых званочкаў, насіліся па вуліцы на веласіпедах, улукаткі выпярэджваючы адзін

аднаго. Змітрык зайздросціў гэтаму быстраму лёту і тугому скрыпу ланцугоў. І мо ад гэтай затоенай зайздрасці ўсе вясковыя хлопцы білі мястэчковых веласіпедыстаў, калі тыя з нейкімі самапаламі даганялі іх, на грудку за мястэчкам.

Потым, калі ён падрос і пасталеў, калі пачаў ужо набыльваць пра дзяўчат, тут у Дварчанах заглядаўся на непадступна-прыгожых, што прыязджалі на вакацыі, у сіняй форме і фуражках на слізкіх валасах далікатных гімназістаў, на танёткіх у лёгкіх шаўковых сукенках, з мілымі тваркамі маладзіц. Нават за адною назіркам хадзіў, мусіць, улюбіўшыся, ці што, покуль не перабіла ўсё гэта, з'явіўшыся ў мястэчку, яна — Чэся.

Цяпер, закалыханы возам, сцішыўшыся ў затоенай, мякенькай, як пух, радасці, ён думаў пра яе. Бачыў у маўкліва-хмурым вянку лесу сінюю, што адбівала неба, Світазь і яе, Чэсю, у плыценькай вадзе на плёсе, і па ёй палосамі плыў рэдзенькі водсвет ад хваляў.

Ад разамрэлых думак спадцішка абудзіў свісток парава і цяжкі грукат пасажырскага поезда, што сцішыў на пераездзе ход. Змітрык счакаў, покуль вартаўнік не падыме паласаты шлагбаум, і падварушыў застаялага марудпага Літаваравага каня, каб заспець каго на пошце, адбіць Броніку тэлеграму ды вярнуцца назад у плебанію і забраць ксяндза.

Прагрукаўшы па забруджанай конскімі яблыкамі ды трасянкаю, што нацерушылася з вазоў, брукаванай вуліцы, Міця з'ехаў на Паштовую — у пяску ды не высахлых ад нядаўняга дажджу нерухомых лужынах.

Зашчымела і са спадзяваннем на нешта турзанулася сэрца зноў ад калючага раптоўнага напамінку пра Чэсю: з-за даху Хургінавага дома вытknуўся карычневы Грабянкаў шчыт з немалым, у тры балонкі, аконцам.

«А мо ад яе ёсць пісьмо?» — каля старога вострага штыкетніку з наклееным плакатам Міця спыніў каня, саскочыў з воза, закруціў лейцы за слупок плота і падаўся да сіненькага паштовага ганка.

І сумеўся, адступіўшыся назад,— там сядзеў, пазіраючы на дзверы і некага чакаючы, вялікі жоўты сабака.

«Ці не Царыкаў?» — узрадаваўся Міця і паляпаў рукою па калене:

— Рэкс, Рэкс!

Сабака махнуў цяжкім калматым хвастом, прызнаючы знаёмага.

Ужо асмялеўшы, Змітрык прайшоў міма яго, адчыніў дзверы ў вузкі калідор, але Царыка там не ўбачыў. За столікам сядзела і, сагнуўшыся над папераю, нешта пісала растрапаная кабета. Проці сонца, што нізка свяціла ў акно, цяжка было пазнаць твар.

Але па немалым носе, кучаравых валасах і гарбатай спіне Міця прызнаў, што гэта яна, Царыкава жонка.

Усунуў голаў у малое ашалёванае аконца, папрасіў бланку для тэлеграмы і прысеў на свабоднае крэсла пры круглым, заляпаным густым залацістым чарнілам, хісткім стале.

Царыкава жонка, грузна налягаючы на стол і папіхаючы яго, дробна пісала на вялікім у зеленаватыя клетачкі шурпатым лістку — спісанае пяро шырока раздзіралася, шоргала і скрабло паперу.

— Дзень добры,— прысеў каля стала Міця.

Кабета разагнулася, падняла шарыя, з чыстымі бялкамі, вочы.

— Ці не вы былі ў нас?

— Аднаго разу быў.

— Во, нарэшце, дурная галава, успомніла: вершы да майго Гаўрылы прыносілі.

— Ага... Ды во ніяк не збяруся зайсці.

— Німа ж майго Гаўрылы,— сцішаным голасам сказала кабета, і губы ўжо скрывіліся, задрыжалі.

— Як? — сумеўся Міця.

— У цюрме ён. На тым тыдні забралі... Асцерагайся, хлопец, і ты,— зашаптала яна, азіраючыся на маленькае, забруджанае аконца і белыя дзверы з меднай фігурнай ручкай.— І спытай — за што, за гэтыя вершыкі, бо ён нікога пальцам не чапіў. Няхай крые бог, а зладзеі і бандыты во ходзяць на слабодзе.

Яна падсунула зноў да сябе вялікі, у зялёныя клетачкі ліст і зноў зашморгала гэтым разадраным, з шырокім дзюбком пяром.

— Не выйдзе ён адтуль. Не выйдзе. Ныркі ў яго хворыя.— У яе скацілася з жаўтлявай шчакі, капнула на ланцужок незасохшых літар і раз'ела іх вялікая сляза.

Міця ўзяў зломак драўлянай, некалі прыгожа вытачанай ручкі, макнуў у невылівашку і дастаў паперку з перапісаным вайсковым адрасам Броніка Літавара. Перапісаўшы адрас, запнуўся: а што пісаць далей?

— А вы каму тэлеграму? — падняла свае мокрыя вочы Царычыха.

— Хлопцу ў войска. Маці пры смерці. Ды во не знаю, як напісаць,— зачырванеўся Міця.

— А так і напішэця. Прыязджай, як найскарэй. Маці захварэла. Я, помню, так і пісала.

Покуль Міця мучыўся, пацеў над гэтай тэлеграмай, жонка Царыка ўжо ўпакавала ў канверт пісьмо, наслініўшы, прыпляскала яго на стале, сказала Міцю:

— Я на двары пачакаю вас. Сказаць нешта хачу.

Нэндзны, з паўпаданымі шчокамі, завостраным, як цвічок, носам работнік пошты доўга прымаў тэлеграму, падлічваючы словы і выпісваючы квіток, доўга, калі Змітрык папрасіў глянуць, ці няма яму карэспандэнцыі, перабіраў тоўстую пачку пісем — Міцю ўжо разбірала нецярплівасць, што Царыкава жонка не дачакаецца яго. Злаваў, можа, болей ад таго, што няма Чэсінага пісьма.

Выйшаў з пошты, паўглядаўся з ганка — праўда, нідзе нікога не было. Толькі за плотам Літавараў конь трос цуглямі, ганяючы надаядных мух і сляпакоў.

— Я тут,— пачуўся моцны голас з-за густога бэзу.

— А я сабе думаю: не дачакаліся, пайшлі вы.

— Ды во скоранька пайду, бо сарваўся з ланцуга гэты злыдзень,— яна паляпала вялікага жоўтага сабаку па галаве.— Як непрытомны зрабіўся, чуе, што гаспадара няма. Нават есці не ўзяў першыя дні.

— Разумны сабака, мяне прыпомніў,— пахваліў сабаку Міця.

— Жывёла лепшая цяпер, чым людзі. Як звяры парабіліся,— жонка Царыка зайшла Міцю збоку, сказала ледзьве не ў самае вуха: — Чулі, што на свеце робіцца? Вайна, кажуць, будзе. Не начуйце дома хоць вы. Майго схапілі, як дурную варону. Казала яму: ідзі да мае сястры, покуль не сціхне гэта перадрага.

Міця моўчкі адкруціў лейцы ад плота, адвярнуўся, каб не бачыць, як у Царыкавай жонкі на пачырванелых вачах зноў заблішчалі слёзы.

— Вы малады хлопец. Адымуць здароўе, як аднялі ў майго. А што ён выседзеў у гэтых цюрмах,— яна пацягнула рукою па мокрых вачах, зашморгала носам і, усхліпваючы, пайшла. У вушах у Міці асталіся яе безнадзейныя ўжо, здушаныя спазмамі словы: «Не выйдзе ён адтуль. Не выйдзе! Ныркі ў яго хворыя».

Ускочыўшы ў воз, Міця ў лютай гарачай злосці пагнаў каня. За пераезнай будкай, каля закурэлых вугальным

пылам рабін [redacted] паджоўклымі чачоткамі, убачыў мажнага, [redacted] шырокім чырвоным каркам паліцыянта.

І ўявіў, як гэты дужы, шыракаплечы, на якім ледзьве сыходзіцца сіні мундзір, паліцыянт б'е худога, з падагнутымі нагамі Царыка.

Учуўшы грукат фурманкі, паліцыянт азірнуўся, перайшоў на правы бок вуліцы і падняў руку, даючы Міцю знак спыніцца.

— Доконд? [1]

— Ды во да касцёла па ксяндза.

— А [redacted] думаў — далей,— паліцыянт развёў рукамі,— думаў пад'еду.

Воз з'ехаў [redacted] грукатлівае шашы на вузенькі з'езд да высокага каменнага муру, што акружаў чырвоны касцёл. У рознакаляровых вокнах адбівалася сухая, пякучая чырвань нізкага сонца.

У плебанію яго ўпусціла старэнькая кабета, з-за плячэй якой вызірала маладая ў кудзерках, прыгожая, як анёлак, ахмістрыня.

Старая, жмурачыся ад рэдзенькай чырвані сонца, што коса дрыжала на сцяне, доўга распытвала, куды трэба ехаць, ці не можна пачакаць да заўтра, і, перагаварыўшы з ксяндзом, нарэшце сказала:

— Зараз, хоць пан ксёндз кепска чуецца.

— Я пачакаю там.

— Добжэ, добжэ,— схаваўшы рукі пад нагруднік фартушка, услед за Міцем на ганак выйшла ахмістрыня, пільна прыглядаючыся да яго, спытала: — А дзе я вас бачыла?

— Не ведаю,— сумеўся Міця.

— Вы вучыліся ў дварчанскай школе?

Міця кіўнуў галавою.

— Чэсю помніце?

— А што?

— Я стрыечная сястра яе.

Міця памкнуўся, але раптам асекся, каб уцярпець і не спытаць, што яна чула пра Чэсю, і толькі сказаў:

— Я пачакаю там, каля брамы.

Пайшоў да воза, чуючы, як ад напамінку пра Чэсю мяняецца і меркне свет.

Выйшаўшы за жалезную браму, слухаў, як скубе траву, выбірае яе мяккімі губамі галодны Літавараў конь.

Высока выяснілася і калюча заблішчала на полудні

---

[1] Куды? *(польск.)*

першая зорка. Нясцерпная, балючая, як нарыў, спакуса падмывала Міцю кінуць фурманку, ксяндза і ехаць туды, у Баранавічы.

Па цэментовым ходніку за брамаю затупалі, зашоргалі ногі, абудзіўшы Міцю ад здранцвення.

Ксёндз маўкліва сеў на воз, запах нейкім моцным адэкалонам, маўкліва, не аказваючыся, і ехаў. Загаварыў ён толькі тады, калі ў рэдзенькім поцемку вечара, гулка лапочучы і патрэскваючы, фурманку апярэдзіў матацыкліст. Слабы дрыготлівы снапок святла высвечваў на заваропе шашы пабеленыя слупкі.

— Во тут якраз адзін і забіўся,— ксёндз падсунуўся вышай на сухой, засланай радзюжкаю шапаткой саломе.— Там, бачыце, дзе збіты слупок. Наляцеў якраз на яго. П'яны быў,— і нібы пацвердзіў сабе: — Так-так, цяпер шмат п'юць. Колькі бяды ад гарэлкі.

— Ці толькі?

Грукат калёс па бруку, што трос усё нутро, падалося Змітрыку, заглушыў яго словы, але ксёндз аклікнуўся:

— Так-так, вядома, чалавек не толькі выракся бога, але і самога сябе.

— Яго развучылі верыць.

— Пан безнадзейны рамантык?

— Наадварот,— Міця скіраваў каня з грукатлівага бруку на крыжавую, што перасякала шашу, дарогу, і па глыбокім пяску зашапацелі, перасыпаючы яго, высокія колы.— Не разумецьме, ксенжэ-пробошчу.

— Гавары па-беларуску. Я ведаю простую гутарку.

— А чаму простую? — раптам страпянуўся Міця.

— Бо на ёй не гавораць у дзяржаўных установах.

— Вы думаеце, што на ёй можна гаварыць толькі са скацінай у хляве, а не ў святыні боскай?

— Я покуль што не абразіўся, хоць вы мяне і зняважылі. Ест пан в каждым разе груба млодшы одэ мне [1],— перайшоў на польскую мову зноў ксёндз.— Оповем едно цекаве здажэнне, нех пан слуха [2].

Калёсы, пераехаўшы глыбокі і гразкі пясок, зноў закалываліся па няроўных, выбухтаваных каляінах — конь увайшоў у хвойнік. Запахла смалою, заплесненаю кастрыцай і недзе з цёмнага гушчару жоўценькімі, крохкімі, на тоўстых караткаватых ножках падгрыбніцамі.

---

[1] У кожным разе, пан намнога маладзейшы за мяне *(польск.)*.
[2] — Раскажу пра адно цікавае здарэнне, слухай *(польск.)*.

— Я быў малады,— загаварыў ксёндз, узіраючыся таксама туды ў хвойнік, дзе ліпкаю павучынаю бэрсаўся рэдкі поцемак і цілікала невядомая позняя пташачка ці мо выпадзенае з гнязда пташаня.— Меў здароўе, падабаўся кабетам. Так-так,— раптам перабіў сябе ксёндз і сваёю халоднаю рукою накрыў Міцеву руку,— падабаўся кабетам. Мяне чакала іншая кар'ера, але я паехаў у Рым. Сам я з Друі. Мне памаглі марыяне. Я ачуціўся ў сталіцы апостальскай, Рыме. Вы ведаеце, у чым святасць Рыму? «Ты ёсць скала,— сказаў Хрыстос апосталу Пятру ды яго наступнікам, значыць, папежам рымскім. На гэтай скале збудуй мой касцёл, і сілы пекла не адолеюць». Словам, я вучыўся там і вярнуўся дадому зноў у Друю. Вярнуўся на зямлю, што зрадзіла і выгадавала мяне. І падумаў, як сёння вы, чаму гэты просты люд не можа бога хваліць на той мове, якую ён яму даў, на якой ён гаворыць сам. Бо голас пастара, думаю, саўсім не свойскі для яго стады — ён чужы і нязнаны. Ды гэтак наказуе кананічнае права. І ўрэшце я даў благаславенства найсвяцейшым сакрамантам з малітваю ў душы. О божа, узглянь ты сваім міласэрным вокам на гэты люд наш бяздольны, асвяці яму яго розум ды ўзмацні яму волю, каб мог стойка змагацца за свае правы святыя.

І думаеш, што першымі з касцёла, бачу, уцякаюць тыя, хто гаворыць на простай нашай гутарцы. А потым у гвалт усе — як гэта я адважыўся ды пасмеў загаварыць з амбона на той мове, якою гавораць дома, як ты кажаш, з быдлам у хляве. Напісалі біскупу. Вядома, вясковым кабетам ды маладзіцам прыйшоў на помач нехта іншы. Словам, я ачуціўся тут, у Дварчанах. Меліся перакінуць недзе за Кракаў, ды так абышлося.

Змяркалася. Пагусцеў абапал дарогі палахліва натапыраны калматы хвойнік. У прагале яго над дарогаю трапятала, па-ластаўчынаму распасцёршы крыллі, уздымалася высока ўгору і падала лукаткамі ўніз лятучая мыш.

За натапыраныя вяршкі хвоек, між якіх гойдалася ад цяжкіх павукоў наструненая павучына, чапляўся пазалочаны тоненькі сярпок маладзіка. І за нізкім, пацямнелым, што густа яшчэ цягнуў растопленаю смалою, хваёвым ляском у выцвілым, запалавелым жыце падсвіствала раз за разам перапёлка. На сінявата-ліловым абпаленым небе вызнілася дробная, мігатліва-калючая зорка.

— Што сказаў бы Хрыстос, каб ізноў вярнуўся на зямлю ў натуры людской,— нечакана ўздыхнуў ксёндз, паслу-

хаўшы гэты далёкі голас перапёлкі: — Зжалься ты над намі, гэтым бяздольным людам. Дай яму крыху волі ды свабоды.

Выехалі з лесу, і ад лагчынкі лужка запахла вільгаццю — садзілася раса. Недзе на блізкім хутары заяхкаў, зайшоўся брэхам сабака.

— Але ж вы як духоўнік, як пасланнік божы на зямлі не хочаце араць гэту рэлігійную ніву. Вы таксама думаеце, што гэта мова зневажае дом божы. Вы нават не гаворыце на ёй.

— Ты думаеш, народ прабуджаецца і да духоўнага ідэалу імкнецца, а тут яму крылы падцінаюць? Не!.. Гэты люд не хоча ведаць свайго нічога, на якой ■ ім гутарцы ні гавары, якую яму навуку ці казанні ні кажы, якія набажэнствы ні твары, якую сутану ні надзень, гэты народ не ўчуе вас, ён глухі не толькі да слова свайго, свае душы, ён, як смяртэльна хворы чалавек, не адгукаецца ні на што, ён адмірае ўжо. І вы не ідзіце гэтаю дарогаю шукаць яго, свой народ. Ён нават вам адпомсціць за гэта. Спомніце маё слова. Ён, як ранены, знямоглы і люты звер, яшчэ ўкусіць вас. Ён, гэты народ, даўно не разбірае, хто яму спрыяе, а хто яму чыніць зло.

— Для чэго ксёндз взял сутаннэ?

— Я ўзяў у рукі крыж, каб благаславіць ім гэты забіты народ, каб не кінуць яго ў бядзе і горы. Бо ён быдта на крыжы распяты.

— І вы думаеце, што ён не ўваскрэсне? — спытаў Міця, не стрымаўшы каня, што пусціўся подбегам з груда да рэчкі.— А якое мы пасеялі зерне, каб ён адрадзіўся?

Ксёндз схапіўся рукою за драбінку:

— Зерне любові і міласэрдзя божага.

Пад'язджалі да Верасава. Абапал дарогі цямнеў аццяжэлы ад расы алешнік. Між вербаў, адбіваючы неачахлую чырвань неба, блішчала цёмная вада, і над гэтаю вадою нізка лётала і ціўкала, мусіць, патрывожаная берагавая ластаўка.

За рэчкаю ў вёсцы рыкала, просячыся да радзюжкі з зеллем, ці, можа, хацела піць, вярнуўшыся з поля, нейчая карова.

— Неба і зямля згінуць, але слова божае, спрадвечная праўда — ніколі,— адклікнуўся нарэшце ксёндз, але словы яго ўжо заглушылі шум і плёскат вады.

# XVII

Літаварыха паглядзела на сваю хату, на зялёны грудок з кустом шыпшыны, дзе яны са старым растрасалі, выносячы з багнішча, няўежную сырую асаку, і падумала, што гэтае радзюгі яна данясці ўжо не адужае.

Задушліваю гарачынёю аблівалася, нясцерпна пякло сэрца, і востры боль, як касою, рэзаў у жываце.

Поўная сырое асакі радзюжка, цяжэючы, аб'язджала ■ плячэй.

Рукі, што трымалі пад барадою два зашморгнутыя рагі макраватае, рассціланае на багнішчы радзюгі, слабелі з кожнай хвіляй, і скарчанелыя, здаецца, ужо нежывыя пальцы дзервянелі, не маючы сілы ўтрымаць гэтых напятых рагоў з тоўстым вузлом.

Пад нагамі пагойдвалася, хадзіла, падымаючыся і ападаючы, шыпела, пухкала кіслай рошчынай і дыхала атрутным смуродам топкая багна.

Старая, не могучы падняць галавы, памаленьку, з астатніх сіл, брыла, абліваючыся потам і чуючы, як дрыжаць, падломваюцца ногі. Думала толькі пра адно: дайсці да кустоў шыпшыны, на сушэйшае, там, здаецца, і лягчэй будзе паміраць. Няхай крые бог, памерці ў гразі, у макрэчы і багнішчы.

Успомніўшы пра смерць, яна ўспомніла і пра сына Броніка, якога яна цярпліва і ўпарта чакала дадому, бо каму ж астанецца ўсё: радзюжкі, абрусы ды палотны, якія панаткала, не адну весну праседзеўшы за кроснамі, калі аднімаліся рукі,— ведама, пацягай, пастукай цяжкім лядам.

Старэйшая дачка, якую Літавары прагналі з дому, круцілася, як сучка каля разніцы,— служыла ў местачковым данцыгу. Там і нажыла дзіця. Цяпер во пільнуй ды глядзі яго. Яно за гэты тыдзень начыста вырвала рукі, учора толькі аддалі назад. А ўночы Літаварысе зрабілася блага. Пачала задыхацца. А сёння во, дурная, палезла ў гразь, каб ужо і не вылезці з яе.

За каўняром, упаўшы з радзюжкі і астудзіўшы холадам карак, церабілася дробная жабка.

Яна, здаецца, падаючы далей за сарочку, і падагнала трохі Літаварыху, але выйсці з гразі на сушэйшае старая ўжо не здужала — звалілася на сыры пракос, так і не дайшоўшы да зялёнага калючага куста шыпшыны пры грудку, дзе сохла вынесенае з гразі сена.

Да памяці яна прыйшла, калі яе затармасіла Алеся Мондрая. А потым ужо, зачэрпаўшы ў блізенькай ямцы

тлустае, у сіняй плеўцы, вады, пырскаў ёй на твар Літавар, калі яна самлела яшчэ раз. Узяўшы пад пахі, ён і выцягнуў яе з гразі, а потым ужо, збегаўшы ў вёску і запрогшы каня, прывёз дадому.

Акрыяла старая ўжо на ложку, перапытаўшы, што гэта з ёю.

— Што? — нехаця адказаў Літавар.— Нежывая вунь у гразі ляжала. І нашто спатрэбілася гэтую асаку насіць? Ці не ўправіўся б я?

— На тое ўжо йшло,— ледзь вымавіла яна.— А дзіця дзе? Дзе яно? — растрывожылася старая.

— Вот ляжы. Дзіця ўчорачы аддалі. Соня забрала,— ён прынёс ад вядра медную, вытачаную са снарада конаўку цёплае ў хаце вады.

Яна выпіла і папрасіла:

— Ксяндза прывязі. У жываце, як вытрываць, надта пячэ.

— Дак мо карэнняў якіх,— ён выскачыў у столку, павярнуўся да паліцы і знайшоў там паўбутэлькі настоеных на гарэлцы чорненькіх, як перац, круглых карэнняў мацаўніку — лякарства ад парушэння — і наліў яго ў сіні з кветачкамі кубачак.

Ёй нібы адпусціла, і, падсунуўшыся вышай на падушку, яна ўжо папрасіла:

— Ксяндза трэба прывязці, бо і сканаю без споведзі.

— Хіба ж цябе пакінеш адну? Ды я ўжо наказаў, Алеся папросіць Корсакавага сына.

— Збегай папрасі сам,— у старое гнала дух, яна задыхалася.— Мо Броніку ў войска даў бы знаць.

— Зрабіў я ўсё, зрабіў, але яшчэ схаджу,— ён вялымі, як падкошанымі, нагамі пераступіў парог.

Нібы чорная вялікая хмара апусцілася на старога Літавара, накрыла яго. Змерк перад вачыма свет. На вочы набягалі слёзы, перад каламутнаю пелянаю плавалі верасаўскія будынкі.

«Вот табе й маеш, вот табе нажыўся»,— Літавар не змеціў, калі звярнуў з вуліцы на сцежку, што ціха, як мыш, абягала Корсакава гумно. Заныла і трапяталася ад страху сэрца, што старое мо ўжо і няма.

За ражкамі аблупчанага частаколу бялела хустка і варушылася злінялая шэрая шапка. Корсакі палолі запушчаны ды занядбаны гарод. Бацьку памагала Алеся. Літавар дайшоў да яловага плота, узяўся за частаколіны, ледзьве пракаўтнуў задушлівы камяк:

— Уласка, памірае мая старая!

— Няхай крые бог,— Алеся выпусціла з рукі бярэма сівай лебяды.

— Прымайся так,— закрычаў Корсак, убачыўшы, як у дачкі насцярожана зіркалі вочы, перасмыкнуўся, збялеў твар.

— Каб да ксяндза ўспець,— Літавар стаяў, не адпускаючы цяжкія, натруджаныя работаю рукі, ад тонкіх частаколін.

— Збіраецца вунь мой хлопец. Пад'едзе, чаго там.

— Мусі, астаўся ўдаўцом, як і ты,— Літавар зверху паглядзеў на Корсака, выцер жоўтым закураным пальцам дрыгатлівы туманец набеглае слязы.

— Мо дохтара лепш прывёз бы? — Корсак высунуўся з гарода, атрос ад пяску старыя, залапленыя на каленях порткі.

— Не была яна ні разу ў дохтара. То нашто цяпер, перад смерцю, толькі спатажым.

— Ты гавары, а ён дагары,— пакруціў галавою Корсак.— Не пашкадуй які злот.

— Што тыя злоты, ад смерці не адкупішся,— Літавар угнуў голаў і сказаў зноў жа сваё: — Во, астануся ўдаўцом, як ты. Чуе маё сэрца.

Корсак маўчучы глянуў на Літавара, потым перавёў свой пануры, трохі злы зірк на Міцю, што з хаты ўжо ішоў сюды:

— Скарэй жа ты! Пад'едзеш у Дварэц, ксяндза прывязеш.

— І Броніку каб як у войска наказаць,— Літавар адарваўся ад плота, пайшоў услед за Змітрыкам,— каня я борздзенька запрагу.

— Тэлеграму трэба адбіць,— сказаў Міця,— адрас мне патрэбны будзя.

— Адрас найду. Вунь усе пісьмы за абразом.— Літавар рушыў чорнаю выбітаю сярод травы сцежкаю да гумна. Угінаючы голаў ад нізкага, што свяціла ў вочы сонца, нечакана падумаў пра сябе — з кім астанецца, калі праўда памрэ старая?

Будзеш сядзець, як труцень. Ніхто цябе ні абмые, ні абшые. І раптам ён успомніў пра дварчанскую дзябёлую ўдаву, што жыла недалёка пры возеры і мела новы, яшчэ недакончаны на два канцы дом. Мужык яе, нейкі гарбаценькі дварчанскі столяр, зайшоўся летась ад гарэлкі.

Літавара дзівіла не столярава смерць, а тое, што з ім

жыла гэтакая спраўная дзябёлая жанчына, на якую ён, стары Літавар, няўзнак, патайна ад чужога вока, заглядаўся сам.

Летась яны ўдвух [redacted] Уласам Корсакам знямелі, незнарок спаткаўшы яе на вуліцы, абодва засароменліся, убачыўшы, што адзін і другі [redacted] нейкім звар'яцелым зіркам глядзяць на яе. І потым, калі яна адышлася, калі яны скінулі з сябе задушлівы цяжар, ён, Літавар, пажартаваў з Корсака:

— Ходзіш ты, Улас, і не бачыш, га.

— Бачу,— сказаў Корсак,— але і нараўлюся.

— Чаго там,— Літавар намаўляў ды пад'юшчваў Корсака.

— Пра Караліну ніяк не забудуся. Грашно перад ёю,— прызнаўся тады ў Дварчанах Корсак.

Задумаўшыся пра дварчанскую ўдаву, Літавар увайшоў у хату, зазірнуў за печ і ўбачыў на ложку жаўтлявы з пасінелымі губамі зморшчаны жончын твар.

Нешта абыякава-чорствае варухнулася да яе, і толькі цяпер ён зразумеў, што ніколі, пэўна, не шкадаваў яе і не любіў.

Ён завярнуўся назад, каб не глядзець ёй у вочы, нібы яна магла дагадацца, пра што ён думае, але яна павярнула на падушцы свой спакутаваны [redacted] пасінелымі губамі твар.

— Ну, папрасіў?

— Корсакаў хлопец паедзе,— не гледзячы на ложак, сказаў Літавар.

— Ты стол хоць засцялі абрусам, ды крыж пастаў, ды свечкі знайдзі.

— Знойдзецца, чаго там,— ён засунуў руку за абраз, дастаў Бронікава пісьмо і выйшаў, каб запрэгчы Змітрыку каня.

Літаварыха, плюшчачы вочы ад нізкага сонца, што раставала ў кутку пад абразом, дзе на трохкутніку палічкі стаяў нікеляваны крыжык з укрыжаваным Хрыстом, пачынала думаць пра тыя дварчанскія магілкі над возерам з вялікімі дубовымі крыжамі і хацела, каб яе пахавалі далей ад вады, бо возера падмывае старыя хвойкі і яны хіляцца, выставіўшы свае тоўстыя ў залацістай лусцэ карэнні, уцякаюць кучаравымі вярхамі ад возера. Яна ўспомніла пра хвойкі і падумала: чаму падмытыя хвойкі хіляцца не на ваду, а ад вады.

Ёй захацелася, каб яе пахавалі далей ад берага, на вясёлым грудку, дзе магілка яе мацеры, каля жалезнае, па-

фарбованае на чорнае, аградкі, дзе пахаваны прыгожы малады мужчына Волесь Крывеня, якога летась застрэліў ятранскі асаднік Чэрнік. На магілцы стаіць памятнік з умураванай пажоўклай ад сонца картачкай, і яна, Зося, калі ні прыходзіла на магілкі памаліцца за мацерыну душу, ніколі не мінала цэментовага памятніка з пажоўклай картачкай. І ёй заўсёды думалася, каб яе пахавалі тут, дзе-небудзь блізенька ад мацеры. Цяпер яна ўявіла сырую жвірыстую яму, абапал яе горбы пяску, у чорнай сутане ксяндза, рукі, што грабуць вільготны пясок, каб сыпнуць яго на жоўтую, што пахне смалою, труну, і ён глуха забухае па вечку.

Яе агарнуў жаль, і зрабілася шкода самое сябе. Чыстая, як з падсечанай раны на шурпатай бярэзіне, высачылася і задрыжала на вачах пякучая сляза.

Як у мроіве, перад ёю задрыжаў, закалыхаўся свет і пачаў разыходзіцца чорнымі кругамі, і яна мякенька папльла ў гэтую чорную прорву...

На які міг яе з бяспамяцтва і забыцця вярнуў ксёндз, жалобныя спевы кабет за дзвярыма хаты, і яна ўжо ўбачыла мігатліва-жоўтае святло ад дзвюх свечак, што гарэлі на стале, і ўчула, як ксёндз нешта гаварыў ёй, як мазаў па лобе скачанымі ■ лёну мокрымі галкамі, і яна чула, як нешта цяжкае, цёмнае навальваецца на яе, і яна з усяе моцы паварушылася, каб скінуць гэты ценжар, але не здужала, толькі цяжка ўздыхнула на астатку і прутка выцягнулася.

— Пан буг з тобон! [1] — махнуў рукою ксёндз, але яго слоў яна ўжо не ўчула.

## XVIII

Нечаканы спадцішка голас і моцны грымак у спіну разбудзілі Літавара, перарваўшы самы першы, самы моцны сон.

Прахапіўшыся, Бронік Літавар учуў ранішні холад гумна, чайны густы пах сена, шамаценне старое гаркаватае саломы і прыглушаныя, хрыплаватыя са сну салдацкія галасы.

Салдаты, мусіць, ужо разбіралі свае карабіны. Ссоўваючыся па слізкай і калючай саломе на ток, туды, дзе ляжаў рыштунак і дзе паднялася ўжо валтузня, Літавар лоўцам сцёр з вачэй трывожны сон пра дом. Снілася, што сва-

[1] — Пан бог з табою! (польск.)

рыўся ▪ мацераю: яна прынясла і ўкапала сярод надворка той стары дубовы крыж, што стаіць пры дарозе перад вёскаю. Блытаючыся ў гэтым сне, Літавар з'ехаў на цвёрды гліняны ток.

У пройме дзвярэй, праз якую было відаць, як у сінім небе роіліся і, здаецца, патрэсквалі, нібы вуглі ў прыску, дробныя зоркі, быў чуваць хрыплаваты голас плютановага [1] Нядбалы:

— Пляцакув не браць!

Схапіўшы ўпоцемку свае карабіны, салдаты з тупатам выбягалі на росны і азыраваты халадок двара.

Узбіўшыся на чужыя пляцакі, што ляжалі тут на таку, Літавар пры сцяне навобмацак учуў настылае жалеза свайго карабіна і, нагнуўшыся ніжай, другою рукою абмацаў сваю рагатыўку.

— Хто яшчэ там, шыбчэй! — падганяў знадворку хрыпаваты голас плютановага.

Чапляючыся за невысокі парожак, Літавар нарэшце апынуўся на росным халадку двара, уціснуўся ў шарэнгу ўжо выстраеных жаўнераў.

— Дружына, колейно — обліч! [2] — Нядбала даў каманду на разлік.

— Чаго лічыць, усе тут,— пачуўся няпэўны голас з шарэнгі.

— Тады, хлопцы, на вазы!

Ломячы строй, салдаты адзін перад адным рушылі да фурманак, дзе ўпоцемку зводдаль гумна шарэлі коні, ціха пахрумстваючы з брызянтовых торбаў авёс.

Літавар здагадаўся, што іхнюю дружыну, як і ўчора, падняўшы па трывозе, гоняць ізноў лавіць дыверсантаў. Учарашнюю ноч яны прачэсвалі нямецкія хутары, напароўшыся на банду, што абстраляла іх з кулямёта. Якраз на світанні, калі зашарэўся дзень і яны, як добрыя дурні, во з гэтымі фурманкамі выткнуліся палявой дарогай на грудок. З блізенькага, праз зялёна-жаўтлявую, няроўна скошаную лагчынку, хутара недзе з гарышча накрытага пачарнелай чарапіцай хлява застукаў кулямёт. Стук яго Літавар учуў ужо тады, калі спаткнуўся конь, калі аб'ехаў старшы стралок Франак Кужэля. Куляючыся з воза, Літавар згледзеў, як у Кужэлі каля вуха з неглыбокай ранкі высачылася цёмная кроў.

---

[1] Плютановы — сяржант *(польск.)*.
[2] — Па парадку нумароў — разлічыся! *(польск.)*

Апомніўшыся, яны кінуліся акружаць хутар, але засціглі там толькі старога і глухаватага гаспадара з выцвілымі і паўпаданымі вачмі, з якіх па жоўтым, зморшчаным, як прывялы ў печы грыб, твары каціліся слёзы.

На капралаў крык ён ледзьве падняўся ■ крэсла на дрыготкія нямоглыя ногі.

— Я глухі, я нічога не чую,— развёў ён доўгімі, скручанымі, як карчы, рукамі.

Бліскучым наваксаваным ботам з высокім заднікам капрал тады цяў яго пад жывот. Немец толькі зморшчыўся, перагнуўся і лысаю галавою, з вялікім пукатым лобам, ткнуўся ў падлогу.

Яго кінулі на воз у зялёную скрыню.

Потым яны агледзелі, што з цёплага хлява з непрычыненых дзвярэй, па сівой расе, на замежку, прымяўшы траву між аўсом і жоўтым лубінам, лёг свежы след. Зялёны на сівой расе, ён цягнуўся аж у гарэшнік і далей, ужо за ржавым балотцам, у сухі хваёвы лес, з мяккім, як падушка, і глыбокім жаўтлявым мохам.

Асцерагаючыся сунуцца ўглыб, яны пабеглі ■ берага сцішнага, па-восеньску глухога лесу, дзе быў чуваць дзярсаты крык сойкі, і вярнуліся назад на хутар забраць старога глушака на пастарунак, а заадно і патэлефанаваць у полк, што забіты Кужэля і куды адпраўляць яго.

Забітага Кужэлю з двума салдатамі яны пакінулі ў мястэчковай гміне, вярнуўшыся сюды ізноў, на гэтыя нямецкія хутары, у гэтае гумно, што стаіць пры марным хваёвым ляску, з недакопанаю ямаю, мусіць, для калодзеся, бо скрозь каля яе ляжаць цэментовыя трубы, за якія ўжо салдаты бегаюць па сваёй патрэбе.

Кажуць, што гэты хутар нейкага выселенага адсюль з-пад граніцы немца. Нібыта шпіёна.

Астатнім часам тут пры граніцы з'явіліся пераадзетыя ў цывільнае нямецкія дыверсанты. Паліцыя і добраахвотныя атрады ўжо не спраўляюцца ■ імі. Таму з-пад Млавы, дзе ўжо другі месяц стаіць узмоцненая 20-я Баранавіцкая дывізія, капаючы супрацьтанкавыя равы і акопы, трэцюю роту 79-га Слонімскага пяхотнага палка раптам перакінулі сюды, да самай граніцы, на хутары нямецкіх каланістаў.

Трэцяя ноч, як яны, салдаты, не распранаючыся, спяць у гэтым гумне на леташняй перацёртай і сточанай мышамі саломе.

Сюды пасылалі ахвотнікаў, і, выходзячы з шарэнгі, Бронік Літавар з хітра-прыхаваным смяшком думаў, што

тут будзе лягчэй, бо там было як вытрываць: да полудня цвічэнне, а пасля полудня — капаць, пакуль не ўвярэдзіш спіну, траншэі або мяшаць ці падносіць рошчыну.

Але пасля ўчарашняга здарэння на хутары Літавар убачыў, што ўсунуўся пад злыбеду. Падкрадвалася нейкая сцішнасць, што прападзеш. У душы тачыўся страх, што тут можаш падставіць галаў пад кулю. Учора яна выбрала Кужэлю, а сёння цябе. Гэты страх заварушыўся і цяпер, калі Літавар убачыў, што каля фурманак круціўся цывільны чалавек на кані, пэўна, пасланец. Значыць, клічуць на помач салдатаў, значыць, нешта недзе ўчынілася.

Ускочыўшы на воз, Літавар дыхнуў смуродным пасля ночы ротам у твар вастраносаму з бліщчастымі вачмі капралу[1] Сліве:

— А куды мы едзем?

— Куды трэба, туды і павязуць, чаго нам дбаць,— хіснуўся назад Сліва. Конь нечакана рвануў з месца.

— Дык вот жа ж ляцяць, як на зламанне карку.

— То пёс з імі,— адвярнуўся Сліва, мусіць, не пераносячы гэты затхлы пах з Літаваравага рота.

Фурманкі гналі ўпоперак загонаў, выбіраючыся, мусіць, на дарогу, воз падкідвала на глыбокіх разорах, пад нагамі ў коней шастаў і гаркавата пах паламаны і здратаваны лубін. За полем пачаўся лясок — па плячах зашоргалі мокрыя ляшчыны. Дыхнула падпараным лісцем, цеплынёю цвёрдых крамяных грыбоў. Чорная ліпеньская ноч пахла прэснаю расою. У лагчынцы з поцемкам ночы мяшаўся нізкі туман. Літавар успомніў, як летась вось гэтаю парою, устаўшы разам з мацераю і на скорую руку паснедаўшы хлеба з малаком, ён бег у лезнявіцкі лес — там пад прысадзістымі хвоечкамі на грудках было гібель цёмнакарычняватых, з тугімі карэньчыкамі, аж нож скрыпіць, калі ты яго рэжаш, тоўсценькіх баравічкоў.

Літавару, як малому дзіцяці, зажадалася дадому, млявы смутак раптоўна зашчымеў пад сэрцам, пачаў смактаць душу. Перад вачыма мігнула Хрысця, тое напісанае нейчай рукою пісьмо ад яе, каб болей не чапіўся, не марнаваў час. У Літаваравай галаве ўсё змяшалася: няўжо гэта праўда, што напісалі з дому, быццам яна знюхалася з Алесіным прымаком? Фурманкі спускаліся ў лагчынку на нейкі лужок: у глыбокіх разбітых каляінах воз кінула з боку на бок, растрасло Літаваравы думкі.

---

[1] Капрал — малодшы сяржант *(польск.)*.

Курыўся росны туман, лядовай сырасцю браў за плечы. Літавар знябожана курчыўся ад холаду. Фурман-рэзервіст прыцмокваў на каня, даганяючы пярэднія фурманкі. Дарога зноў выпаўзла на грудок. Ружаватымі агнямі ў рэдзенькім тумане замаргала блізкае мястэчка.

— А во, глядзеце, хлопцы, да дзявух едзем! — крыкнуў, прыпадняўшыся з лаўкі, Сліва.— Мястэчка вунь.

— Вот садзіся, а то зляціш з воза,— асадзіў яго фурман.

— А што, абрыдла тут у саломе,— хіснуўся на Літавара Сліва.— Куды ні крутнешся, усюды смярдзючы салдат.

— Я гляджу, што ты ўночы мяне абдымаеш,— засмяяўся Літавар.— Скоціцца з свайго шыняля і да мяне, і губамі ўсё цмокае.

— Ты другі раз асцерагайся, каб чаго благога не выйшла,— падціналі ўжо Літавара салдаты.

— Во знайшлі гутарку,— не азіраўся і ўсё падганяў каня старэйшы тут за ўсіх рэзервіст-фурман.— Парагочаце зараз.

— А што? — першым насцеражыўся Літавар.

— Пытае што? Сёння напад на пошту быў. Вунь чалавек з гміны па нас прыехаў. Людзей у мястэчку пабілі. Пісьманошу і яшчэ некага.

— А паліцыянты?

— Пэўна, сядзелі, як мышы пад памялом.

— А мы што, не дамы швабікам бобу?! [1] — зноў падняўся на лаўцы і крыкнуў Сліва.

— Глядзі ты, як разышоўся,— пакруціў галавою фурман.

— А цо? Гувняжэ! Швабска іх маць!

Астатнія салдаты маўчалі. Блізілася мястэчка — дарога выбілася на шашу. Рэха панясло з бруку вострьг грукат колаў. Упоцемку забялелі першыя хаты. Недзе заходзіўся сабака. Праз фігурныя, выразаныя, як сэрца, шчыліны ў закрытых аканіцах прабівалася жоўтая яснасць. Адтуль з-пад плота да коннага чалавека мільганулася, зліваючыся з поцемкам, нейчая невыразная постаць.

Пярэднія фурманкі спыніліся. Рэзервіст-фурман таксама прыпыніў свайго каня. Рассыпаўся, нібы патануў, востры жалезны цокат падкоў, воз перастала трасці.

— Што там? — чапляючыся і грукаючы прыкладам па скрыні воза, першым саскочыў з фурманкі Сліва.

---

[1] ...дамо швабікам бобу?! *(польск.)*

— Ціха ты! — зашыкалі на яго салдаты, прыглядаючыся ўпоцемак на пярэднія фурманкі, адкуль чуваць былі здушаныя галасы. Там ішла нейкая перамова. З чарнаты ґародчыка на вуліцу падыходзілі яшчэ нейкія цывільныя мужчыны. З пярэдніх вазоў саскоквалі салдаты, накульгваючы, мусіць, на спёртую нагу, сюды бег адзін, каб перадаць плютановага загад:

— Злазім, хлопцы, далей не едзем.

Саскочыўшы з воза, трымаючы наперавес свой карабін, Літавар падышоў да пярэдніх фурманак: тут на вуліцы ў шарэнгу па два строіліся салдаты. Збоку стаялі і цывільныя, пэўна, з атрада самаабароны ці начное варты — у таго-сяго з іх з-за пляча вытыркаўся карабін. Ля плота стаяў прывязаны конь, мусіць, таго самага ганца.

Прыслухоўваючыся да іхніх галасоў, але не разбіраючы, пра што ідзе гутарка, Літавар стаў у строй. Недзе каля пляча задыхана соп Сліва:

— Дамы швабікам бобу.

— Пастарунак, кажуць, разбіты і...

Літавар далей недачуў, бо гэтую гутарку перабіў нямоцны голас плютановага, які падбег да шарэнгі і рукою рассек яе каля Літавара:

— Перша дружына, одстэмп! Керунковы Сліва — напшуд! [1]

Ад купы адлучылася некалькі цывільных, прымкнулі да салдат, што пайшлі, расцягнуўшыся шнурком, як гусі, адзін за адным. За плотам упоцемку, здаецца, нехта варушыўся, цэліўся ў Літавара з карабіна. Падазрона глядзелі на вуліцу глухія вокны маўклівых хат. Літавар незнарок, нібы зашнураваць чаравік, прыпыніўся, улез у сярэдзіну гэтага доўгага ланцужка салдат. Спераду яго сунуўся высокі, як жэрдка, няскладны цывільны ў шыракапольым капелюшы, памахваў галавою ў такт хадзе.

З шырокае вуліцы шнурок раптам уцягнуўся ў цёмны, заглушаны абапал бэзам вузенькі завулак. За нейкаю высокаю глухою брамаю цяўкнуў і зайшоўся брэхам заядлы сабачка.

Літавар нагнуўся, загроб жменяю адсырэлага за ноч пяску, шпурнуў туды за браму — па дашчаным ганку зabарабанілі дробныя каменьчыкі. Сабачка віскнуў і пакаціўся ад плота.

---

[1] — Першае аддзяленне, разамкніся! Напраўляючы Слiва — наперад! *(польск.)*

— Не змапвайся,— павярнуўся і забалбатаў тоўстым голасам цывільны.— Звягі наробіш.

З завулка шнурок выцягнуўся на шырокае скрыжаванне вуліц. Пярэднія салдаты ўжо недзе хаваліся за рогам плота. Над ганкам крамы моргала дрыготкая лямпачка, рассейваючы на вуліцы, на салдат рэдзенькае скупое святло. Салдаты скоранька перабягалі яго, хаваліся ўпоцемак. Перад Літаварам, сунучы цяжкія ногі, замахаў шырокімі калошамі нязграбны цывільны. Ад яго чорным слупом хістаўся цень. І раптам ён спаткнуўся і прыкленчыў. Аднекуль збоку бабахнуў стрэл. Над Літаварам тугою струною празвінела куля — стрэлілі другі раз. Прыгнуўшыся, Літавар кінуўся за вугол мураванага дома, што расцягнуўся ўздоўж вуліцы, прыціснуўся плячмі да сцяны.

Той цывільны, пастаяўшы на каленях, захістаўся і ткнуўся носам у гладкі, падсвечаны жоўтай лямпачкай брук.

Трымаючы напагатове карабін, сюды ўжо бег Сліва.

— Што тут у вас? — захрыпеў ён, азіраючыся на Літавара.

— Ты куды? Стой! Не вытыкайся! — хапіў яго за плячо і турзануў да сябе Літавар, прыціснуў да сцяны.

На скупое жоўтае святло лямпачкі выскоквалі перапалоханыя з перакошанымі тварамі салдаты. Капошачыся ў кабуры і ніяк, мусіць, з гарачкі не могучы дастаць пісталет, заскрыпеў шчытнымі хромавымі ботамі плютановы.

— Хто стрэліў? — нарэшце шчоўкнуў бяспечнікам пісталета.

— Недзе адтуль,— паказаў галавою ў поцемак вуліцы Літавар.— Во, два разы...

Нізенькі, вусаты, у пляскатай кепцы і белаватым плашчы мужчына, у якога за спіною сядзеў доўгі, не па росту яму, карабін, падскочыў да скурчанага, падстрэленага чалавека, хапіў яго пад пахі, сілячыся падняць. На бруку ўжо цямнела, разліўшыся, крывяная пляма. Лысая і круглая, як качан капусты, галава, з якое ўжо саслізнуў капялюш, вяла целяпалася.

— І вы таксама аставайцеся пры іх,— паказаў плютановы на цывільнага мужчыну ў белаватым плашчы.— А ўсе астатнія за мною.

Прыгінаючыся і ціснучыся каля платоў, салдаты і цывільныя бегма кінуліся туды, адкуль адазваліся глухім рэхам гэтыя два стрэлы.

Брукаваная вуліца спадала недзе ў лагчыну, дзе ўжо не было хат і дзе за чарнатою нізкіх алехавых кустоў халодным бляскам разлілося азярцо. Пад драўляным мостам цурчала і сачылася недзе з-пад местачковых платоў смурodлівая рэчачка. Там, за возерам, за цёмным грэбенем шчарбатага лесу, пачынала яснець неба, паказваючы, што скора пачне днець. Паціху радзела густая цемната, адсланяўся свет. Літавар ужо распазнаваў твары людзей.

— Што там у вас? — раптам спыніўся плютановы, азіраючыся на рослага, падпяразанага па пінжаку шырокай салдацкай папругай хлопца.

— Возера. Млын і электроўня,— паставіўшы карабін і абапіраючыся абедзвюма рукамі на яго, хлопец цікаваў туды, на шырокія, яшчэ чорныя купы дрэў — ці не вербаў.

— Значыць, туды на мост яны ўцяклі? — плютановы пацягнуў сябе за партупею, пакусаў ніжнімі зубамі край верхняе губы, мусіць, прыкідваючы, што рабіць далей.

Нарэшце разбіліся на дзве групы: адна кінулася наўпрасты шашою, другая, у якой быў Літавар са Слівай і яшчэ двое пажылых, мусіць, [redacted] начное варты, цывільных мужчын [redacted] гэтым маладым, падпяразаным па пінжаку шырокай салдацкай папружкай хлопцам, пабегла да возера, каб, на выпадак чаго, тыя, хто страляў, не пераскочылі назад.

Не вытыкаючыся наперад, але і не адстаючы далёка ад Слівы, Літавар слізгаўся па роснай калматай сцежцы, што бегла між берагам густых картопляў і гэтай смярдзючай рэчачкай.

За Літаварам соп малады хлопец. Двое цывільных з чырвона-белымі паскамі на рукавах, убіўшыся ў густыя зараслі лопуху і чарады, недзе глуха тупалі далёка ззаду. Сцежка крута завярнула да возера і завілася каля сплеценых кустоў маладога алешніку, круглых, як стагі, паспаданых да возера вербаў. З другога боку буялі, абгароджаныя калючым дротам, картоплі. Літавар ужо чуў, як цяжэюць аброшаныя чаравікі і мокры холад расы студзіць да каленяў ногі. Далёка наперадзе, дзе з-за вербаў высоўваўся будынак млына, нехта як варушыўся, зліваючыся з рэдзенькаю нізкаю цемнатою. Раптам гэты цень убачыў Сліва і, спыніўшыся, падняў да пляча карабін — гулкі стрэл разарваў росную ціш ночы.

— Нашто страляюць,— задыхана засоп каля Літавара са Слівай рослы, пераціснуты шырокаю папругаю хлопец.— Іх можна было б узяць жыўцом.

— Жыўцом,— хмыкнуў Сліва.— Не бачыш, ці што? Паўцякаюць!

— Акружыць трэба праз мост, вунь шашою можна праз мост зайсці.

— Праўду кажа,— махнуў кепкай адзін з гэтых двух пажылых мужчын, што таксама падбеглі ўжо сюды.

— Я зараз,— ірвануўся да густой забуялай картоплі і праскочыў праз нізкі калючы загарад рослы хлопец.

— Стаць! Ані кроку далей! — крыкнуў Сліва, перакошваючы ад злосці твар.

Але хлопец, блытаючыся ў высокім картапляніку і стараючыся высока падымаць ногі, сігаў туды, на грудок да шашы. Услед за ім трапятліва шалясцеў і варушыўся, прымяты нагамі, цёмны картаплянік.

— Цо он, зглупял? [1] — пакруціў галавою Сліва.

Усе стоена, задыхваючыся ад нечаканасці, глядзелі, як туды, на грудок, ужо выбягаў хлопец, махаючы ў такт бегу кароткім карабінам. З млына нечакана тахнулі не ў лад тры стрэлы. Хлопец на нейкі міг нібы спатыкнуўся, але не ўпаў, прыгнуўшыся, пабег далей, борзда хаваючыся за грудком, за цёмным картаплянікам. Напярэймы яму бухнуў яшчэ адзін, мусіць, не меткі стрэл.

— О швабы, курва іх маць! — пакруціў галавою Сліва, услед за Літаварам адступаючыся пад мокрыя алехавыя кусты, дзе ўжо на кукішках сядзелі і ўгіналі голаў у плечы, каб за карак не капала раса, гэтыя два мужчыны з добраахвотнага атрада.

Там, за грудком, ізноў узарваўся нечаканым гулам стрэл. Стралялі недзе ўжо свае, пэўна, па млыне. Але адтуль болей ніхто не адзываўся.

— Хлопцы, за мною.— Сліва раптам з'ехаў па ўтравелым, заглушаным пахкім валяр'янам беразе ў ваду, заплюхаў у ёй, падымаючы адною рукою карабін, а другою недзе трымаючыся за алехавыя карэнні. Скалыхнуўшы соннае возера — на сярэдзіну яго пайшлі, заплюхалі, як у балеі, пад берагам вадзяныя кругі.

Літавар учуў, як цяжкім абручом абняў яго аж да пояса лядовы холад вады. Па ілістым, вязкім дне коўзаліся ногі, зносіла далей ад берага, ад зялёных, зарослых слізкімі пальцамі бадзяг карчоў. Хватаючыся за гэтыя да гідкасці слізкія карэнні, апякаючы аб старую звіслую крапіву рукі, Літавар брыў услед за Слівай.

---

[1] — Што ён, здурэў? *(польск.)*.

За імі плюхаліся і аставаліся недзе ўжо далёка ззаду тыя двое местачковых мужчын.

«Хітруюць,— падумаў ужо з помслівай злосцю Літавар.— А ім што, яны не салдаты, яны хочуць ідуць, хочуць не».

Па шырокім лісці алешніку пляскала, скочвалася Літавару за карак цяжкімі скалкамі халодная раса. Чуючы, як нечаканым пякучым холадам яна коціцца ніжай па спіне, Літавар брыў па густой вадзе. Бліжай пад застаўкі возера пачало глыбіцаць. Сліве яно займала па самы рэмень. Далей пад застаўкі канчаўся і алешнік.

«Патроны замочыць,— раптам схамянуўся Літавар і, ■ усяе моцы заплюхаўшы, як бабёр, кінуўся наганяць Сліву. Той азірнуўся, патрос кулаком. Але ў гэты час недзе з млына бахнуў стрэл — збіваючы лісце ззаду за Літаварам, якраз там, дзе боўталіся тыя двое местачкоўцаў, праз алешнік прашылася куля. На ваду, шалпочучыся, доўга ападала лісце. Над ясным ужо ад ранішняга неба возерам скалыхнулася і двойчы ляснула рэха.

Чапляючыся за тоўстую рагаціну карча, на бераг падымаўся Сліва. Зашаптаў недзе за густым пахучым кустом смуродніку:

— Вунь, яны ўжо за мостам.

Літавар кінуў на бераг карабін, учапіўся адною рукою за смуроднік, другою за гладкі камель маладога алешніку і, ловячы нагамі карчы, выцерабіўся на бераг, туды, дзе за струхлелым мурашным пнём да пояса мокры ляжаў Сліва, лавіў на мушку чатырох, што, прыгнуўшыся, спяшаліся на жоўты, раз'езджаны калясьмі грудок, каб праскочыць у густы, яшчэ не падцярэблены хвойнік.

Стрэл раптам страсянуў Сліву, маланкай бліснуў агонь, запахла перагараным порахам.

Тыя чатырох рассыпаліся, як перапалоханыя вераб'і, і прыбавілі ходу. Адзін з іх спаткнуўся, упаў на колінкі і папоўз на груд. Літавар прыціснуў карабін да пляча і, не цэлячыся, націснуў на спуск. Адначасова з моцным ударам у плячо Літавар убачыў, як чалавек раптам спаткнуўся і, ужо не спяшаючы, закульгаў у цёмны, яшчэ абвіты мяккім поцемкам хвойнік. Па ім уразнабой недзе ўжо з-за млына забахалі стрэлы. Стралялі недзе ўжо тыя, хто быў з плютановым.

— Ранены ён, ранены! — усхапіўся спярша на калені, потым устаў і пабег, шастаючы мокрымі калошамі, чвякаю-

чы вадою ў чаравіках, разгарачаны Сліва.— Злавіць можна!

«Куды, куды ён лезе»,— жахнуўся Літавар, таксама падымаючыся на калені.

— Пачакай! — Літавар хацеў крыкнуць, але нечаканы стрэл апярэдзіў яго. Сліва, выпусціўшы карабін, раптам сагнуўся і, схапіўшыся абедзвюма рукамі за жывот, закруціўся на месцы.

— З млына б'юць, хавайся! — зноў крыкнуў Літавар.— Падай, падай, кажу табе!

Літавар гэтак, на каленях, не ўстаючы, папоўз туды, дзе, хапіўшыся рукамі за жывот, круціўся на месцы Сліва. На руках у яго ўжо чарнелася кроў. Але адначасны трэск дрэва і моцны гук стрэлу перапынілі Літавара. Зноў стрэлілі з млына. Куля з сырым трэскам адлушчыла кару на маладой крохкай алешынцы. З лісця на Літавара бойным дажджом сыпанула раса.

Ломячы куст гаркавата-пахучае тоўстае лодзьмы, Літавар па слізкай роснай траве з'ехаў са стромага берага, нечакана натрапіўшы нагою на нейкі яшчэ моцны, што выткнуўся з вады, пень.

Тут у вадзе каля яго боўталіся тыя два мужчыны з чырвона-белымі паскамі на рукавах.

— Што там робіцца? — здушаным асіплым голасам спытаў адзін.

— Што? — не азірнуўся Літавар, стараючыся выглянуць з-за берага, каб убачыць, дзе і што робіцца з раненым Слівай.

Але нечакана затупалі ногі — сагнуўшыся і прыціскаючы сашчэмленымі рукамі жывот, сюды бег ужоззелянелы, бледны з твару Казік Сліва. Убачыўшы Літавара, ён раптам спыніўся, прысеў на калені. На лобе ў яго смяртэльнаю расою выступіў пот. Ад болю і пакуты ссінелі губы. Ён ледзьве паварушыў імі:

— Бярыце хоць гэтага, што ў млыне. Здаецца, адзін. Я бачыў яго — стары шваб.

— Ты ўжо сваё ўзяў,— пад берагам закрактаў, выцерабіўшыся на крывую, звіслую вярбу, пажылы, з доўгім і загнутым носам, мястэчковы вартаўнік. Другі, стоячы па пояс у вадзе, трымаў над галавою паляўнічую аднастволку, маўчаў, толькі дробненька ляскаў ад холаду зубамі.

— Маўчы ты, тваю маць,— раптам не сцярпеў Літавар, успомніўшы тую яшчэ нядаўнюю злосць на гэтых двух дзядзькоў, што знарок асталіся ззаду.

— А што, няпраўду кажу?

Нізка прашываючы лясок і ўскалыхваючы скупы змрок ночы, за млынам бухалі стрэлы.

Пачынала днець, зелянеў і выясняўся чорны сярод ночы алешнік. Сатлеўшы, тухлі і радзелі на паяснелым небе зоркі.

...Тых чатырох так і не злавілі. Узялі толькі гэтага, што сядзеў у млыне,— лысага, з падбрытымі вусікамі, у паласатым модным пінжаку, у зеленкаватых галіфэ і ў наваксаваных ботах, як потым пазналі, местачковага дантыста. У яго яшчэ асталася поўная, начэпленая цераз плячо скураная сумка патронаў. Ён здаўся сам, высунуўшы праз аконца ў млыне белы, вырваны з кашулі і начэплены на рулю вінтоўкі лапік.

Дантыста білі ўсе, стараліся найбольш два гэтыя местачковыя вартаўнікі.

Літавар не мог глядзець. Выліўшы з чаравікаў ваду, пабег разам з высокім, падпяразаным па пінжаку шырокаю папругай хлопцам па местачковага доктара. Падбіваючы з вачэй з'еханую набок кепку, хлопец прыпыніўся і паказаў на разарванае, як калючым дротам, рукаво:

— А я во меў шчасце... Толькі, як пугай, пеканула, калі бег праз картоплі.

Ён скоранька закасаў рукаво, і Літавар убачыў на загарэлай за лета смуглаватай руцэ чырвоную, нібы ад хлёсткае, гарачае пугі, даўгаватую пісагу.

— Глядзі, другі раз асцярагайся,— сказаў Літавар, раптам спомніўшы свой сон пра той абамшэлы, укопаны мацераю сярод надворка крыж.

«А можа, удома што?» — жахнуўся ён.

А ўдома праўда прылучылася бяда. Пра яе Літавар даведаўся, калі яны вярнуліся з доктарам — нізенькім і нейкім занадта шустрым местачковым «фейчарам»,— і ўслед за ім памкнуўся ў хату, дзе ўжо ляжаў беспрытомны Сліва. Яшчэ на парозе яго перастрэў плютановы і, адводзячы вочы і калупаючы наском бота сыраваты ранішні пясок, занадта спакойна, нібы са злосцю, сказаў:

— Шэраговы Літавар, ты там нічога не паможаш. А часу мала. Збірайся. Маш тылько тшыднёвы урлёп [1]. Сёння трэба быць у палку, змяніць абмундзіраванне,— падняўшы вочы, дадаў яшчэ падпаручнік.

---

[1] Маеш усяго толькі трохднёвы водпуск *(польск.)*.

Літавар як стаяў спіною да яго, ужо ўвайшоўшы ў цесныя, пахучыя ад няспелых ападкаў-яблыкаў сені, так і выйшаў спіною назад, раптам учуўшы, што млеюць і падкошваюцца ногі.

— Званілі, што ў палку ляжыць тэлеграма. Прыйшла з дому. Нешта [redacted] мацераю,— падпаручнік далей не дагаварыў.

Літавар, чуючы, як нешта гарачае аблівае ўсё ўсярэдзіне, зачвякаў яшчэ не высахлымі, мокрымі чаравікамі да калодзеся. Убачыўшы пры ім нізкую лавачку, дзе ставілі вёдры, прысеў на яе. Доўга і тупа глядзеў на свае раскіслыя чаравікі, усё бачачы той абамшэлы, укопаны мацераю на надворку крыж, і памалу пачаў іх разуваць, каб выліць ваду і выкруціць мокрыя, што пяклі, як агнём, шкарпэткі.

## XIX

Поезд, ненадоўга спыняючыся на мокрых, абмытых шчырым дажджом паўстанках, даганяў і нарэшце ў самым ужо горадзе дагнаў сівавата-зялёную, на якой раз за разам ламалася залацістая маланка, нізкую ацяжэлую хмару.

Густы, навальны лівень не даваў пасажырам высунуцца з вагонаў.

Праз яго холадна-шапаткі цэд да блізенькага вакзала ляцелі найбольш маладыя шпаркія хлопцы і дзяўчаты. Старыя, не вельмі рухавыя пасажыры цісналіся ў тамбуры.

Моцны блізкі пярун, што ляснуў услед за маланкай, аж збіў Міцю [redacted] хады. Немаладая кабета ў мокрай, ужо згамтанай хустцы двума цяжкімі, завязанымі ў радзюжкі клункамі загарадзіла Міцю дарогу: абганяючы яе, ён і ўскочыў у вялікую пяністую ваду, што хлынула з новенькай цынкавай трубы, прымацаванай да вакзальнай сцяны.

У пачакальні вакзала, дзе ад моцнага грому пазвоньвалі-трымцелі шыбы і дзе спешныя людзі пахлі мокрай адзежай і падпараным сукном, Міця счакаў гэты кароткі навальны дождж.

На пасвяжэлую, лёгкую ад сырасці вуліцу выйшаў тады, калі ўжо адсланіла хмара сонца і ў мокрым бэзе, што свіціўся, мігцеў залацiста-ружаватаю расою, завалтузіліся, зашчабяталі давольныя вераб'і.

Ад каламутных пяністых лужын, ад вады, што збягала ў рышток, адсвечвала радасна-маладое парнае сонца.

Радасць, што сустрэне, убачыць Чэсю, узвышала, лёгенька нясла Міцю, і ён, як адышоўшы ад памяці, як забыўшыся, мінуў колькі вуліц, раптам агледзеўшыся, што ідзе невядома куды. І прыпыніўся напроці маладзіцы, што надарылася на чужой вуліцы.

Нешта, здаецца, Чэсіна было ў яе лёгкай хадзе, у паставе, нават у квяцістай без рукавоў, з матузкамі на плечуках сукенцы.

Яна махала загарэлаю рукою, несучы ў другой з сінімі, трохі ўздутымі ад натугі жылкамі ажурную, прыгожа выплеценую карзінку з доўгім лучком, поўную спелачырвоных у зялёных карунках трускалак. Ад іх здалёк быў чуваць густы салодка-спелы пах лета.

Міця падняў голаў, але маладзіца, здаецца, з абыякавым прыгожа-скамянелым тварам наважылася прайсці міма.

— Перапрашаю,— Міця заступіў ёй дарогу,— дзе тут знайсці Каляёвую вуліцу?

— Вунь, каля рынку,— у кабеты памякчэў скамянелы твар, паласкавелі шарыя вочы. Яна павяла імі ўздоўж шырокай брукаванай вуліцы, што яшчэ блішчала мокрымі ружаватымі камянямі.

Драўляныя ашалёваныя дамкі з выфарбаванымі аканіцамі хавалі цёмныя нізкія вокны за кустамі бліпчаста абмытага бэзу і вішанніку ў ясна-зялёных, яшчэ дробных ягадках.

Курэлі, дыміліся рэдзенькаю параю, высыхаючы шарымі лапікамі на пякучым ачунялым сонцы, чорныя гонтавыя дахі.

Міця ішоў, прыглядаючыся да выносных старых кляноў, што яшчэ сыпалі цяжкія кроплі дажджавой вады, да чорнае помпы з доўгаю абслізганаю ручкаю, да людзей, што спяшалі насустрач, да няроўнага, з выбоінамі, з дажджавымі лужынамі ходніку, убіраючы ў сябе Чэсін свет — яна ж, вядома, хадзіла тут, бачыла гэтую драцяную сетку загарадзі, гэтыя вялікія, што віліся на працягнутых са страхі шнурках, ліловыя, падобныя да палявое бярозкі кветкі, гэтага калматага сабачку, гэтыя рамкавыя вуллі, пафарбаваныя ў розны колер, гэтую старую яблыню з тоўстым невысокім камлём і адною зялёна-густою ад лісця галінаю, дзе свіціліся белыя папяроўкі.

У канцы вуліцы падымаўся мураваны дом з чырвоным чарапічным дахам, з белымі комінамі, з выступамі дашчаных аконцаў.

Падышоўшы бліжай, на рагу яго Міця ўбачыў белую таблічку з чорным надпісам: «Вул. Каляёва».

Ён стаяў, не верачы сваім вачам, з палахлівым дзівам і расчараваннем, што вузенькая небрукаваная папяроч-ка, што перасякала шырокую вуліцу, і ёсць тая высненая ім, уся ў камяніцах, з ажурнымі балконамі вуліца Каляёвая.

Міцю брала дзіва, што тут няма бруку, што высокія штыкетавыя платы з лавачкамі каля брамаў напамінаюць нешта дварчанскае, і гэтак, як у Дварчанах, пры плоце стаяць шарыя, падзёўбаныя жалезнымі кошкамі электрыкаў слупы ■ фарфоравымі кубкамі. І кісле тлуста-сіняватая, як каля кожнай станцыі, перамешаная ■ вугалем гразь.

Недзе ўжо блізка гукалі паравозы, і за зялёнымі высокімі ліпамі пахла саладжава-чадным вугальным дымам.

Міця ішоў туды, куды вялі, меншаючы, цотныя нумары, і, убачыўшы доўгі цагляны будынак, заслонены бэзам з невялічкім гародчыкам, жоўтым ад кропу, ■ градкамі буракоў, з невысокім яшчэ сланечнікам, з сіваю, што не бралася яшчэ ў галоўкі, капустаю, дашчаным хлеўшком, з туалетам на два камінкі, ■ высокай скрыняй для смецця і пограбам сярод двара, падумаў, што гэта ён, Чэсін дом.

Задыхаючыся, чуючы, як мякчэюць ногі, як нешта палахліва-насцярожанае расце ў грудзях, Міця падышоў да куста бэзу, дзе ў халадку на вынесеным заслончыку сядзела бабка, бліскаючы процi сонца сухім шклом акуляраў.

— Мне патрэбны чацвёрты нумар,— Міця ўчуў, як у яго задрыжаў і перайначыўся голас.

— А гэта чацвёрты і будзя. Бо другі амбулаторыя,— бабка бліснула акулярамі на ашалёваны дамок у халадку тоўстых старых кляноў і серабрыстых таполяў.

За імі на цагляных падпорах падымаўся вузенькі лёгкі мост, пад якім пагукваў манеўровы паравоз, чмыхаючы белым дымам і лязгаючы буферамі вагонаў.

Здаецца, з цёмна-сухіх, прыхаваных у дзікім вінаградзе вокнаў на Міцю глядзела Чэся.

Па спіне пабег, заказытаўся страх. Ён падышоў да цэментовых, расколатых, у зігзагах глыбокіх шчылін, сходаў. Каля іх з бляшанае трубы сачылася ржавымі пацеркамі вада. Дзяўчынка год трох, седзячы на кукішках, лавіла ў жменьку ржавыя пацеркі, з прагаю піла іх.

— Вой, што яна робіць! — закрычала кабета ў акулярах і, трымаючыся рукою за балючае калена, закульгала сюды.

— А Доўнары тут жывуць? — яшчэ не верачы сабе, што знайшоў Чэсін дом, спытаў Міця.

— Вунь з таго ходу іхня кватэра. Токі не ведаю, ці ёсць хто дома.

Ад пудкае радасці і страху ў Міці заныла сэрца. Ён падняўся па сходах, ачуціўшыся ў гулкім калідорчыку з плеценымі рагожкамі. На карычневых дзвярах крэйдай была напісана лічба «сем». Далей на століку шумеў прымус.

Стаіўшы дых, Міця прыслухаўся, учуў, як недзе за спіною ў суседняй кватэры крычала кабета моцным тоўстым голасам:

— Фуяра, ніц не уме! Масьляна глова![1]

Міця спярша асцярожна, а потым мацней пастукаў у філянговыя, з ромбікам пасярэдзіне, цяжкія дзверы. Замёр, чакаючы, ці не шчоўкне ў дзвярах ключ, але адчыніліся тыя, што былі за спіною.

— Чэся Доўнар ту мешка?[2] — азірнуўся Міця на рып дзвярэй.

— Мешка, але ей нема в дому...[3]

У сенцах стаяла мажная даўганосая ў цёмна-сіняй, ад якой стракацела ў вачах, сукенцы немаладая кабета.

— Чэся на працы ў шпіталі.

Дзверы не зачыняліся, кабета прыглядалася да Міці Корсака і, нарэшце, не ўтрываўшы ад цікавасці, выбегла ў доўгі калідор, дзе густа шумеў прымус:

— А што ж перадаць Доўнарам? Хто прыходзіў?

— Нічога не трэба.

— Чэсіна маці паехала да старэйшай дачкі. Вы ж ці ведаеце — памёр іхні бацька.

Міцеву радасць і спадзяванне на сустрэчу з Чэсяй нечакана адняла і адабрала гэтая ледзяная навіна.

— Калі?

— З тыдзень назад.

Міця знерухомеў, аглушаны і прыбіты навіною: усё тое, што ён перажыў, перадумаў і хацеў сказаць Чэсі, павінна было адысці, знікнуць, развеяцца, як сухі пыл на

---

[1] — Разява, нічога не ўмее! Дурная галава! *(польск.)*
[2] — Чэся Доўнар тут жыве? *(польск.)*
[3] — Жыве, але яе няма дома... *(польск.)*

дарозе. Аставалася яна, гэтая тупая, цяжкая, нібыта вялікі кавалак жалеза, горкая крыўда. Як нечакана і неўспадзеў яна ўпала на Міцю. Ён, нібы аслепшы, праз невідушчы поцемак выйшаў на чорствую, падсохлую ўжо вуліцу.

А можа, не шукаць таго шпіталя, нічога не гаварыць? Ці Чэсі да таго, што ён на астатні выпрашаны ў сястры злот прыехаў у Баранавічы.

Задумаўшыся, Міця не згледзеў, як дайшоў да шырокай папярочнай вуліцы, да таго мураванага дома з прыгожым балконам і, убачыўшы ў сіняй фуражцы з белым арлом чыгуначніка, спытаў, як знайсці той чыгуначны шпіталь «Юра», дзе рабіла яна, Чэся.

— А вы пачакайце, зараз прыйдзе аўтобус,— чыгуначнік паказаў на тэлеграфны слуп з дошчачкай.— Праз чатыры прыпынкі адсюль і будзе шпіталь.

Цікуючы на прыгожы цагляны дамок з размаітымі прыбудоўкамі, з прыгожым ажурным балконам на ўсечаным вугле, Міця астаўся тут каля шарага, падзёўбанага жалезнымі кошкамі тэлеграфнага слупа чакаць аўтобуса, што папраўдзе скора прыбег сюды, запырсканы гразёю, поўны дзяўчатак-гарцэжак у белых з сінімі шырокімі каўнярамі матросках і сініх берэціках. Няўмела, па-дзіцячы ганарыстых, што набывалі дзявочую сталасць і ўжо няўзнак зіркалі на Міцю.

Абмінаючы дажджавыя лужыны і перапудзіўшы з доўгім, на гумавых колах, возам балагола, праз хвілін дзесяць аўтобусік спыніўся каля высокага шчытнага пабеленага плота, з-за якога выглядаў шэрым бляшаным дахам чырвоны цагляны дом.

— Во і шпіталь,— маргнула лупаценькімі вочкамі меншая сярод усіх тут, але цікаўная і дасужая, з ружаватым, як яблык, тварком дзяўчынка на шчыльны, пабелены вапнаю плот.

Пасля духаты аўтобуса Міцю асвяжыў жывы скразняк, што дыхаў з-за рога высокага плота. Чуючы лёгкасць і ўжо зноў набалелую радасць сустрэчы, Міця спыніўся перад высокаю жалезнай брамай з праходною будкай, з аконца якой глядзеў вусаты вартаўнік у цёмнасіняй круглай шапцы. Убачыўшы Міцю, ён падняўся, адчыніў дзверы, заступіўшы парог, спытаў:

— Вы да каго, хлопча?

— Мне трэба сястру знайсці, Чэсю Доўнар.

— Тут шмат сясцёр. У якім аддзяленні яна?

— Думаеце, я ведаю. Ці не ў радзільным,— прызнаўся Міця.

— Дак мо яна не тут, а ў гарадской бальніцы робіць? — стары вартаўнік зачыніў дзверы і выйшаў насустрач фурманцы, што заварочвала да жалезнае брамы.

Саскочыўшы з воза, даўгавіды мужчына ў шарачковым рудым пінжаку і валашковых плацяновых портках падбег сюды, набіраючы на босыя ногі ліпкую гразь каля каламутнай лужыны.

— А браточак, скажы, як сюды ўехаць?

— Ты сюды не заедзеш.

— Чаму ж гэта? — азірнуўся на фурманку, на мокрага каня, з якога курылася пара, малады фурман. На возе ў падасланай трасянцы, накрытая радзюжкаю ў сінюю елачку, ляжала зжоўклая ў твары, нерухомая кабета з заплюшчанымі вачмі.

— Жонка канае,— сказаў мужчына і, падняўшы кепку, выцер рукою мокры незагарэлы лоб.

— Тут бальніца каляёва,— сказаў і адвярнуў свой шырокі наздраты нос вартаўнік.— Вам трэба ехаць у гарадскую.

— Злітуйся, чалавеча,— мужчына азірнуўся на воз.— Ці ж давязу я. І так во з Палонкі... Лічы, васемнаццаць вёрст.

— Вёз васемнаццаць, давязеш яшчэ дзве. Бальніца блізка тут.

— Што кажаш, чалавеча?

— А тое, што чуеш.

— Я заплачу. Дапусці да доктара. Хоць пакліч.

— Давай злот,— угнуў голаў вартаўнік, каб не глядзець ні на Міцю, ні на мужчыну.

Сціснуўшы ў шырокай далоні злоўлены, ледзьве не вырваны з рукі металічны злот, вартаўнік схаваўся за жалезнай форткай вялікай брамы, угнуўшыся, шыбка паджгаў да чырвонага цаглянага будынка.

— Чэсю Доўнар паклічце! — гукнуў яму ўслед Міця, але вартаўнік, мусіць, знарок не ўчуўшы, ужо адчыняў дзверы на ганку прыходні.

— Дапросішся ў яго, як леташняга снегу. Ён і з камара кроў высмакча. Ці гэта чалавек,— памахаў зношанаю картоваю кепкаю худы з паўпаданымі шчокамі мужчына, і вочы яго заблішчалі, павільгатнеўшы ад жалю і пакуты.— Сёння ўночы жонку скруціла нейкая ліхата. Нідзе ратунку не знойдзеш.— Мужчына пайшоў да воза,

адкінуў радзюжку і, ужо збялелы, не сваім, перасохлым голасам сказаў: — А ёй ужо не трэба дохтара. Яна не дачакалася...

І заплакаў моцна, наўзрыд, выкіроўваючы на вуліцу каня. Міця, учуўшы гэты цяжкі, пакутны, як з глыбіні калодзеся, плач, здрыгануўся, схаладзеў душою.

Звесіўшы галаў і трымаючыся за драбінку воза, мужчына паспеў ужо трохі ад'ехацца ад жалезнае брамы, покуль ■ цаглянага будынка бальніцы не выйшаў вартаўнік, ведучы з сабою нізкага, у белым халаце, клышаногага доктара, што ішоў, як спутаны, неяк чапляючы нага за нагу. Падгробшы пяцярнёю чорныя раз'еханыя валасы, доктар дайшоў да брамы, з-за мігатлівых жалезных прэнтаў крыкнуў да мужчыны, што, угнуўшы голаў, ішоў каля воза:

— Э-э, што там у вас?

— Ды ўжо нічога.

— Як нічога? — пачырванеў ад злосці вартаўнік.

— Памерла яна,— мужчына адняў руку ад драбінкі воза, выцер слёзы.— Ды во гляньце, халодная ўжо.

Доктар папхнуў рыпучую жалезную фортку, не дастаючы адной рукі з кішэні белага накрухмаленага халата, скоранька замахаў другою. Туды да воза ўслед за ім прыспешыў хаду вартаўнік.

— Ды яна паўгадзіны як памерла,— паглядзеўшы туды на воз, на змярцвелую, застылую ў твары кабету, сказаў доктар і памалу, як спутаны, гэтымі клышаногімі нагамі пайшоў назад.

Падгробшы леваю рукою чорную непаслушную грыву рассыпаных на вушы валасоў, падняў вузкія маленькія вочы на Міцю:

— То до мне?

— Ды не,— сказаў за Міцю вартаўнік.— Пеленгнярку хоча паклікаць.

— А менавіце яку? — спытаўся ўжо за жалезнаю форткаю доктар.

— Чэсю Доўнар,— паспешна, саромеючыся, сказаў Міця.

З-пад сінявата-чорных броў на яго коса зіркнулі і застылі вузкія татарскія вочы:

— А, та слічна млода пеленгнярка? [1] — і доктар леваю рукою зноў падгроб чорную рассыпаную грыву,— Паклічу.

[1] — А, тая прыгожая маладая медсястра? *(польск.)*.

Міця добра такі патаптаўся каля брамы, не спускаючы вока з чорнай праймы непрычыненых дзвярэй, за якімі, здэцца, застыла нешта таямніча-страшнае, тое, што адбылося толькі што на фурманцы, покуль не ўбачыў, як неспадзяванай радасцю яму забялеўся белы, туга сцягнуты ў поясе і караткаваты — толькі да каленцаў — халат і лёгенька прышпіленая шапачка з ясна-чырвоным пасачкам.

Яна, Чэся, высненая ў такой нясцерпнай тузе і такім характве. І яшчэ больш нязвыклая, па-новаму прыгожая і першы раз убачаная ў гэтым ясна-белым да рэўнасці, да нейкае крышку злосці караткаватым, што высока адкрываў ногі, зыркім халаціку.

Лёгка, крышку пругка на высокіх загарэлых нагах яна ішла да жалезнае брамы з круглымі сонцамі, ад якіх разыходзіліся пабітыя ржою пруты-праменні.

Шчырай і неспадзяванай чырванню заліўся яе твар:

— Бачу і вачам не веру. Няўжо ты, Міця?

Сваёю дрыготкаю рукою ён злавіў яе вузкую руку, раптоўна ўспомніўшы Світазь, зеленаватае дно, празрыстую раскалыханую ваду і яе, Чэсю.

— Калі ты прыехаў? — яна азірнулася на маўклівага вартаўніка, што панура спадылба цікаваў на іх, знарок не адыходзячыся ад брамы.

— Во, якраз у самы дождж,— ён не выпускаў трапятлівае і шчасліва-цёплае рукі.

— Як знайшоў?

— Кабета ў двары расказала.

— І надоўга прыехаў? — у яе з-пад белага каўпачка з чырвоным паскам выбілася пасма валасоў, затрапяталася каля брыва.

— Хачу вярнуцца сёння.

Яна ўздыхнула, памаўчала, адвяла ад яго свае ўжо змакрэлыя ў куточках вочы:

— Ты не чуў, татусь мой памёр...

— Чуў. Спачуваю, Чэся.

— Божа мілы, як усё перавярнулася ў жыцці... Ты даруй мне...

Міця ўспомніў, як шчымела, як сціскалася ад задушлівае крыўды сэрца, як у нейкім разгарачаным бяспамяцтве бег у Дварчаны, але не прызнаўся.

— Злаваў на мяне?

— Трохі.

Яна прыжмурылася ад сонца, што, адбіваючыся ад

блізкае лужыны, трапяткою, мігатліваю яснасцю бегала ў яе на твары.

Закрываючыся ад яго рукою, сказала:

— Як жа ж мне адпрасіцца?

— Куды? — не дагадаўся ён.

— Пабыць з табою.

— А я пачакаю. Схаджу ў кнігарню.

— Можа, так і лепш. Не трэба паніжацца перад гэтым татарынам.

— Якім татарынам?

— Доктар наш, што наказаў мне. Ты ж яго бачыў.

Яна ўзяла яго пад руку, крышку правяла небрукаванаю вуліцаю і намытым прылізаным пяском у лагчынах. З мокрых дрэў вецер яшчэ атрасаў дажджавую расу. Яна зіхацела і перабліскваласяя залацістай чырванню. Тужэла падсушаная сонцам зямля. На ўсё горла, адклікаючыся адзін аднаму, у загарадных дварах з драўлянымі ашалёванымі дамкамі спявалі пеўні. Быў чуваць крык гусей. Было нешта ціхае, глухое і наіўна-вясковае ў гэтым кутку горада. Міцю хацелася расказаць Чэсі пра гэта, але ён маўчаў, аглушаны нечаканаю радасцю, што яна, Чэся, з ім, што ён чуе яе голас, дотык яе рукі і ў яго вачах плыве ясны распагоджаны свет, абмытыя цёмна-зялёныя прысады, чыстае сіняе неба з сіва-белымі, што пацягнуліся на ўсход, нізкімі хмарамі, з бурклівым, яшчэ сярдзітым, неўціхаміраным громам.

Стрэцца яны ўмовіліся каля цаглянага на два паверхі дома з прыгожа выкаваным, нібы абвітым хмелем, жалезным балконам, і Міця пайшоў вуліцаю далей, як паказала Чэся, у цэнтр горада, чуючы ў сябе за спіною яе і думаючы пра той шпіталь за жалезнаю брамаю, пра доктара з вузкімі касымі вачмі, і Міцю чамусьці пачала разбіраць пякучая рэўнасць і злосць.

Глухі сіплаваты брэх сабакі за шчыльным плотам з вялікаю брамай, над якою яшчэ падымалася збітая з дошак стрэшка, абудзіў Міцю ад утрапёных думак. Ён схамянуўся, што ідзе не туды, як казала Чэся, што трэба вярнуцца, бо тут ужо канчаўся горад: цярэспаля за зялёным лужком, дзе фыркаў навязаны конь, шарэлі ў цёмным прысаддзі саламяныя стрэхі хат з пабеленымі комінамі і сценамі. І Міця завярнуў назад, убачыўшы каля мігатлівага частаколавага плота цыбатага, у зеленкаватых шортах хлопца, і ўжо разам з ім выйшаў у цэнтр горада на выбрукаваную грапёнымі цёмна-сінімі камен-

нямі вуліцу, абапал якой шчыльна сціснуліся двухпавярховыя, выбеленыя вапнай, мураванкі, найбольш — крамы, толькі далей, у канцы яе, падымаўся чатырохпавярховы з чырвоным чарапічным дахам і белымі комінамі жаўтлявы дом, усяго адзін, за зялёнай купай дрэў.

— Кнігарня там, каля гэтага дома,— паказаў хлопец.

Міця перайшоў на другі бок вуліцы ў кароткі цянёк, што падаў на мошчаны шарымі плітамі тратуар.

Кнігарня, невялікая, мала большая за пераезную будку, мураванка з адным вялікім акном і адчыненымі форткамі жалезных дзвярэй, уціснулася між двух дамоў з падвеснымі балконамі.

Міця ўвайшоў туды, учуўшы вільготны халадок пограба і гаркаваты пах паперы, клею, свежае фарбы; той звыклы, перамешаны з газай пах свежае кнігі. Міця любіў гэты гаркавата-рэзкі пах свежае кнігі, пах навізны, пах яшчэ нечага радасна-неспазнанага, нязведанага, абвеянага кругам таямніцы.

Яшчэ змалку яму здавался, што кніжкі пахлі гаркаватасцю, як пахне на кляновым лісце з падпаленай скарынкай свежы хлеб. І ён, стаіўшыся, ці не бачыць хто, яшчэ ў дварчанскай бібліятэцы любіў панюхаць новую кніжку. Так для яго пахлі кожны год усе купленыя за каранёвыя ды лазовыя, сплеценыя на пасвіску, кошыкі новыя кніжкі.

Як пахлі газеты— трохі смуродліваю газаю. І гэты пах газы быў чуваць у цеснай кнігарні з карычневаю кафельнаю грубкаю і невысокімі паліцамі, застаўленымі кнігамі, і адным невялікім прылаўкам, за якім сядзеў лысы з сіваватымі скронямі і доўгім, ненатуральна вялікім на худым, з паўпаданымі шчокамі, твары крышку гарбаватым носам немаладога веку чалавек.

Над прылаўкам нізка вісела электрычная матавая лямпачка з белым фарфоравым уключальнікам на залацістым патроне.

Каля паліцы, унурыўшыся ў разгорнутую кнігу, стаяў мужчына ў саламяным капелюшы і выцвілым габардзінавым плашчы. На прылаўку ляжаў стары, пацёрты парусінавы партфель з прыробленай вераўчанай ручкай. У кнігах капалася, не складваючы свой лёгкі парасон, дзябёлая пані ў чорна-бліскучым чэпчыку, з-пад якога выбіваліся залаціста-каштанавыя, выфарбаваныя хной валасы.

— А ці няма ў вас «Ягнусі»? — спытала яна, засоў-

ваючы між тоўстых кніг тоненькую ў папяровых вокладках кніжку.

— Якой «Ягнусі»? — падняў над прылаўкам лысую голаў гаспадар кнігарні.

— І вы не ведаеце такой ксёнжкі?..— хмыкнула пані ў чэпчыку і пакручваючы ў руках чырвоны ў белыя кветачкі парасон, што быў падобны на мухамора, папхнула ім дзверы і выйшла на вуліцу.

І ўжо калі яна мінула акно, Міця прыпомніў, што гэта была маці Багуславы Ясінскай, з якой ён вучыўся ў дварчанскай школе, і яе бацька, здэцца, таксама, як і Чэсін, рабіў на чыгунцы.

«Дзе Багуслава Ясінска цяпер?» — падумаў Міця, азіраючы паліцы з новымі кніжкамі, што пахлі даўнейшым хараством дзяцінства, і яго спакушала зноў ціхая прага і зманлівасць разгарнуць, патрымаць іх у руках, учуць пальцамі ласкава-гладкую лёгкую слізгату. Абмінаючы чалавека ў зношаным саламяным капелюшы, што стаяў, здэцца, не бачачы і не чуючы нікога, з разгорнутаю кніжкай, Міця прайшоў далей уздоўж паліц, але гаспадар, бліснуўшы ў яго бок лысаю галавою, далікатна перапытаў:

— А вы што хацелі б знайсці, малады чалавек?

— Я так, зірнуць,— зачырванеўся Міця, падумаўшы пра тое, што грошай мае адно на дарогу.

— Выбачайце, тут не бібліятэка,— сказаў гаспадар, тым часам косячыся і на чалвека ў выцвілым габардзінавым плашчы.— Тут можна толькі купіць кнігу, а чытаць трэба ўдома.

Ён падышоў да паліцы, дзе гармонікамі расцягнуўся і ўпаў радок кніжак. Падсунуў, падраўняў іх і дастаў тую, што ляжала пад сподам,— з адарванаю вокладкаю і загнутымі ражкамі старонак.

— Во, бачыце, зачыталі, парвалі, а не купілі. Нашто мне такі купец,— гаварыў ён, зноў скоса зіркаючы на чалавека ў старым зашмальцаваным капелюшы.— Тут не чытальня, тут прыватны магазін.

— Вы до мне? Я вем, я розумем [1],— нарэшце адарваўся ад кніжкі чалавек, падняў свой няголены жаўтлявы змардаваны твар і абедзвюма рукамі згарнуў, прыляснуў яе, дыхнуўшы на Міцю ветрам, паклаў на паліцу і скоранька, угінаючы голаў, пасунуўся да дзвярэй.

---

[1] — Вы да мяне? Я ведаю, я разумею *(польск.).*

— Тэку сваю, тэку не пакідайце! — Крыкнуў услед яму гаспадар магазіна і паказаў на тонкі парусінавы партфель з прыробленай вераўчанай ручкай.

Калі сутулы чалавек у доўгім габардзінавым плашчы і ў саламяным капелюшы схаваўся за дзвярыма, гаспадар магазіна падышоў да Міці.

— Усе кнігі ў мяне перачытаў. Не адагнацца.

Міця, мусіць, [redacted] дзівам паглядзеў на гаспадара кнігарні, бо той паясніў:

— І спытай — помніць змест да макавінкі. Колішні настаўнік гімназіі. Выкладаў матэматыку. Шкода — лёс горка абышоўся [redacted] чалавекам. Цяпер дзеці, калі хто не рошыць задачкі, бягуць за ім і ўсё пытаюць: «Пан Зыгмусь, 352 памножыць на 233, колькі будзе?» І ён рошыць, скарэй, як на шчотах. Велькі розум, таму галава і не вытрывала... А цяпер унадзіўся да мяне і пазачытваў, пазабруджваў нямытымі рукамі кніжкі. Грашно на такога крычаць. Трываю, як магу.

Адзінокаму, старому чалавеку хацелася з кім-небудзь пагаварыць. Міця гэта бачыў і таму ціха падтакваў яму ў гутарцы. Гаспадар кнігарні распытаў пра ўсё — адкуль і чаго прыехаў Міця, і калі дазнаўся, што ён ведае Дварчаны, пачаў расказваць пра нейкага чыгуначніка Вайцяхоўскага і крышку расчараваўся і нават засердаваў, што Міця не ведае такога «калежа».

— Жыве каля дэпо ў доме [redacted] пажарнаю вежаю. Высокі такі.

— Ці не ў яго паляўнічыя сабакі? — спытаў Міця, успомніўшы, як высокі, ужо немалады чыгуначнік кожнае зімы [redacted] двума паляўнічымі сабакамі хадзіў па іхнім верасаўскім полі.

— Кажаце, паляўнічы. Яшчэ які,— гаспадар кнігарні трасянуў Міцю за локаць.— Будзеце ў Дварчанах, перадайце паклон. Некалі мы з ім служылі ў Сямёнаўскім лейб-гвардыі палку. Вы ведаеце, што гэта за полк і каго туды бралі? Там жа былі як на падбор — рослыя.

Рады, што ёсць каму слухаць, гаспадар кнігарні нарэшце прызнаўся, што быў трохі ў Грамадзе, ведаў Мятлу і Рак-Міхайлоўскага і што цяпер, на старасці, прыйшлося заняцца трохі гандлем.

— Раблю ўсё, каб вывучыць сына,— стары правёў рукою па сваёй лысай гладкай галаве.— Здольны ён у мяне. Вучыцца ў Віленскім універсітэце на медычным аддзяленні.

Потым прыжмуранымі вачмі паглядзеў на Міцю, спытаў:

— Цікавасць маеш да кнігі? — і адказаў сам: — Пэўна ж. Тады пакажу нешта.

Ён схаваўся ў цеснай сутарэі і вынес тоўстую на медных зашчапіцах кнігу, трымаючы яе спадыспаду, як бохан хлеба.

— Ведаеш, чаму кажуць прачытаць ад дошкі і да дошкі? Таму, што даўнейшая кніжка заміж звыклых папяровых вокладак мела тоненькія дошчачкі. Во як гэта,— ён паляпаў па кнізе і паклаў яе на прылавак.— Біблія, выдрукаваная ў Брэсце. У Здзецяльскім касцёле захавалася. Ксёндз прадаў. Унікат, рэдкасць, браце. А колькі іх, гэтых кніг, гіне ў кутках, у сутарэях ды розных лёхах. Точыць іх моль, нішчыць пажар, гноіць вада ды наша невуцтва.

Міця першы раз, нібы скупануўшыся ў невядомы свет, перагарнуў колькі старонак з прыгожа выпісанымі чырвонымі буквіцамі. Разглядаў не ўсім зразумелы для сябе шрыфт.

— Каб чытаць яе, трэба навука. Я не магу.

— А колькі ж ёй год?

— Ды каля чатырохсот,— ён зноў узяў яе абедзвюма рукамі спадыспаду, як бохан хлеба, і панёс назад у сутарэю, сказаў ужо адтуль: — Можа, у каго знойдзеш старыя кнігі, прывозь мне, я куплю або памяняю на гэтыя,— ён вярнуўся і махнуў рукою на паліцы: — Хочаш Сянкевіча, Пруса, Заля...

Але гутарку перабіла чарнявая маладзіца, што трымала за руку босага, падстрыжанага ў рады хлопчыка з кубачкам марожанага.

Абцёршы змакрэлы лоб, маладзіца ўсунулася між Міцем і гаспадаром кнігарні і спытала, турзаючы за руку хлопчыка:

— Скажэце, а арытметыкі для яго ў вас німа?

— Пачакай, даражэнькая, пачакай, можа, і знойдзем,— гаспадар кнігарні, цяжка несучы свой доўгі нос, завярнуў за прылавак.

Міця нарэшце, схамянуўшыся, што, можа, яго даўно чакае Чэся, выйшаў на гарачы ўжо, нібы прыпек перад вялікім агнём, тратуар. Спудзіў маладога верабейчыка, што паляцеў з тратуара на сярэдзіну вуліцы пад грукат фурманкі.

Дагнаўшы ганарыстага невысокага дзядка з шыро-

каю, на ўсе грудзі, барадою і падкручанымі зеленавата-белымі вусамі, спытаў, як знайсці чыгуначны вакзал, адтуль ужо ведаў сам блізенькую дарогу да мураванага, з прыгожа вывітым балконам дома, дзе ўмовіўся стрэцца з Чэсяю.

— Здесь близенько совсем. Вот только пройти через сосновый лесок,— дзядок паказаў сваёю кацубаю з медным наканечнікам на шырокую вуліцу, што адлучылася ў бок ляска, рассоўваючы старыя высокія хвойкі з голымі, сухімі ражнамі вяршкоў.

Міця, учуўшы рускую гутарку, яшчэ раз азірнуўся на дзядка і ўсміхнуўся, успамінаючы тое даўняе, як яны дома смяяліся з Алесі, што не нарвала дварчанскай краўчысе бэзу, калі тая папрасіла прынясці «букетик сирени». «Ці ж я ведала, што гэта бэз. Шкадаваў бы чалавек яго»,— смяялася, расказваючы пра гэта не раз, і сама Алеся.

Ад шырокае пясчанае вуліцы, як ад старое вяроўкі, адкруціліся касмыкі і ніткі вузкіх, слізкіх ад кастрыцы сцежак, завіліся між шурпатых, паабіваных да мязгі, у слязах смалы гонкіх камлёў змарнелых хвоек. За імі, адбіваючы сонца, заблішчалі, як нашліхтаваная пража, пякучыя тугія рэйкі. На жалезных козлах-падпорах іх пераступаў вузенькі мост з парэнчамі.

Няслo зноў чада-саладжавым дымам чыгункі, церпкім пахам мазуту, насмоленымі шпаламі і задыханымі, што адсопваліся, п'ючы каля помпаў ваду, тлуста-чорнымі, у скалках вады, разагрэтымі паравозамі.

Міцю прыгануліся Дварчаны, і ён, узрадаваны блізенькай сустрэчай з Чэсяй, уяўляючы яе ў тым хрумсткім накрухмаленым халаце, пабег праз заpaслі высокага ў сініх, падобных да валошкі, кветках цыкорыю да вузкага мосціка. Захлынаючыся ад ветру, падняўся на яго, пастаяў, узіраючыся ў бліскучую далечыню выкатаных да бляску рэек, на чырвоныя чарапічныя дахі горада, зеляніну дрэў, за якімі ў сіняй смузе хілілася на вечар пажоўклае сонца.

Пара было ісці на вакзал — скора меўся адысці лідскі поезд, але радасць сустрэчы з Чэсяю, радасць адчуць яе свет, тое хараство, што ішло ад яе, як ідзе гэтае хараство ад кветніка з размаітым колерам, пахам, святлом, трымалі Міцю.

Ён выйшаў на вузкую, заслоненую з аднаго боку цёмна-зялёпымі, у шабельках стручкоў, акацыямі, пясчаную

вуліцу, дзе яшчэ сінімі вочкамі бліпчалі нерухомыя лужыны ад навальнага дажджу,— япа вяла да цаглянага, з ажурным балконам на ўсечаным рагу чырвонага дома.

Нячутныя, невідушчыя крыллі, выдавала, няслі, падымалі Міцю. Узіраючыся здалёк у канец вуліцы і ўбачыўшы бляшаны, як памутнелы лёд, дах мураванага дома, Міця ўчуў, як турзанулася і забіла дух сэрца — там каля плота свіціліся залацістыя валасы і яснела салатавенькая сукенка. І ён пазнаў Чэсю, і як лёгкі вецер у спякоту, на яго дыхнула радасць, што яна там, што чакае яго, пераадзетая, без таго белага накрухмаленага халаціка і натапыранага, з чырвоным паскам каўпачка на галаве. Няўзнак сцішаючы крок і хаваючы сваё трымціва-чуткае хваляванне, падышоў да Чэсі.

— Ешчэ хвілечкен, і пайшла б.— Яна памахала чорнай скураной сумачкай.— Бо знебылася, чакаючы цябе.

— Выбачай, у кнігарні забавіўся.

— А што там цябе прывязала?

— Кнігі... Ды я спяшаў.

— Ага,— падабрэла і засмяялася ўжо яна.

— Глова ў хмурах, ногі в блоце [1].

Яны пайшлі прыцішэлай ад блізкага надвячорка вуліцай. У прывакзальным скверыку прыселі на лаўцы, аблітай рэдкай чырванню сонца, што хавалася за сінюю хмару з залаціста-яснымі палосамі.

За кустамі акацыі, за маладымі цёмнымі ліпамі чмыхаў паравоз, што, заскрыпеўшы тармазамі і залязгаўшы буферамі вагонаў, нядаўна спыніўся тут напроці скверыка.

— Можа, мой? — Міця першым падняўся з лаўкі.

Чэся маўкліва і крышку горда перад салдатамі, што цікавалі за ёю з суседняе лаўкі, выйшла за жалезную браму і там нібы заступіла Міцю дарогу.

— А ты астанься нанач.

— Дзе ж я пераначую? — сумеўся ён.

— У нас,— голас у Чэсі сцішэў, яна адвярнула тварок, схаваўшы вочы.

— Як у вас?

— Мамусі няма... Паехала ў Дварчаны.

Полымя сораму абняло яго, апаліла гарачынёю шчокі: ён цалюткую ноч прасядзеў бы ў пачакальні вакзала, на лаўцы ў скверыку, але пайсці нанач да Чэсі...

---

[1] — Галава ў хмарах, ногі ў балоце *(польск.)*.

— Табе трэба ехаць? — яна нібы не дала яму апомніцца, узяўшы яго за локаць і лёгенька сціснуўшы.— Край трэба? — І ўжо востра, цвёрда зазірнула ў твар.

І ён ад яе мяккае, як каткі на вербалозе, любасці прызнаўся:

— Не.

— Я баюся адна. Учора клікала з бальніцы цётку Альжбету. Праўда, пойдзем,— яна адвярнулася, глыбока і парывіста ўздыхнуўшы, і плечы яе турзануліся ад раптоўнага плачу.

На сцішную глухую вуліцу з цёмнай гушчынёю палахлівых садкоў, сухім рыпам веснічаў, з нечаканым звонам вёдраў яны прыйшлі поцемкам. Каля дома ў цяньку кустоў на лаўцы рагатала распуслівая дзетвара.

Над ганкам, распырскваючы рэдзенькую жаўтлявую яснасць, гарэла сляпая лямпачка. Хаваючы ад яе вочы і ўгінаючыся, Міця, як сам не свой ад сарамяжлівасці, ад затоенай загадкі і боязі, як жа ж ён будзе начаваць сам-насам з Чэсяй, увайшоў у гулкі, здэцца, з вялікаю пустатою пад падлогаю, калідор. За нейчымі дзвярыма былі чуваць тупат і крык.

— Гэта бабуся Ёзя. І калі яна спіць? — Чэся доўга шукала ключом дзірачку ў замку.

— Я ўжо яе чуў,— прызнаўся Міця, заходзячы ўслед за Чэсяй у кватэру з доўгім і шырокім калідорчыкам, застаўленым старымі шкапчыкамі і завешаным адзежаю, з новым збітым з дошак заслонам. І Міцю чамусьці падумалася, што на ім, на гэтым заслоне, стаяла труна Чэсінага бацькі.

— Скідай пінжак,— сказала Чэся і схавалася за карычневымі дзвярыма аднаго з пакойчыкаў, каля іх былі яшчэ адны, пафарбаваныя набела,— пэўна, у другі пакой.

«Тут, мусіць, я і пераначую»,— Міця яшчэ раз пільна агледзеў доўгі калідорчык з занавескаю і невядома чаму ўсцешыўся, што ёсць гэты калідорчык з вузкім тапчаном, дзе ён будзе спаць, каб не саромецца Чэсі.

Прыстукнуўшы дзвярыма, выйшла яна, пераадзетая ўжо ў празрыста-лёгенькі, з ружаватымі кветкамі халацік. Карункавымі фалдамі кароценькія рукавы сціскалі вышэй локцяў яе загарэлыя гладзенькія рукі.

— Ты ж, пэўна, галодны. Я згатую чаю,— Чэся адслаціла высокую жоўтую занавеску ў канцы калідора — за ёю была кухня: стаяў столік з табурэткамі, палічкі з посудам і блішчала белаю кафляю печ.

— Хіба ты будзеш нанач распальваць печ?

— А я на прымусе, во мігам,— і яна паставіла на прыпечак печы медны прымус.

На сінім тугім агоньчыку і праўда скоранька зашумеў і запыхкаў параю зялёны чайнік.

За невялікім, засланым клейкаю ў зялёна-белыя шашачкі цыратаю сталом яны сядзелі нядоўга. Блізенька за сцяною, аж дрыжала, угіналася зямля, калаціўся дом і дзілінгаў на палічках посуд, нясліся адзін за адным доўгія і цяжкія паязды, і Міця з дзівам азіраўся на цёмнае, завешанае фіранкаю акно [redacted] галінаю сівае яблыні, асвечанай праз доўгую верхнюю шыбу.

— Тут блізенька таварная,— сказала яна, не азіраючыся на акно, толькі спіною чуючы цяжкі грукат.— Гэта з Вільні ідуць таваровыя. Цяпер вельмі часта. Кажуць, [redacted] войскам. Я прывыкла да грукату. Магу спаць, [redacted] мама не. Ёй не памагае ўжо снатворнае.

— Не ведаю, ці засну і я,— Міця паглядзеў на Чэсю, на яе стомлены, схуднелы твар. У ім была тая самая далікатнасць, крышку ганарыстае хараство, але ўжо нешта іншае, не знанае для Міці, дамешвалася да гэтага хараства: і вастраваты боль, спакутаванасць, і заўчасная змардаваная сталасць.

— Што ты глядзіш так? — Яна сумелася яго вострага, доўгага і пільнага зірку.— Я паслала табе ў пакоі, там не так чуваць гэты грукат.

Ён учуў, як па ім палыхнуў сарамяжлівы сполах.

— На падлозе,— дадала яна.— Выбачай, што не на ложку. Ён мамін.— Яна падняла зялёны чайнік.— Дай налью яшчэ.

Свежы густы чай, кіславатае, яшчэ не з'ялчалае масла з пухкай, пасыпанай кменам сітніцай былі так смачныя згаладаламу Міцю, але папрасіць болей ён пасаромеўся.

— Тады ідзі спаць, а я трохі папарадкую.

Яму здалося, яна сказала так звыкла і проста, нібы яны прыходзіліся адно аднаму братам і сястрою, і ў яго раскалолася тая вялікая крыга страху, сарамяжнасці, непамыснасці, і ён пакорліва-ціха адчыніў дзверы ў той таемны пакойчык, задыхнуўшыся ад задушлівага і нявыветранага паху гаркаватага валяр'яну, густога смолкага духу тарпатыны і невядомых нявычханых лякарстваў.

Пакойчык, выдавала, быў немалы, але карычневае старое піяніна з меднымі падсвечнікамі, вялікія падвяза-

ныя вазоны, між якіх уціснуўся столік з батарэйным прыёмнікам, і два ложкі ўпрытык адзін да аднаго забіралі ўвесь прастор, ды напроці іх, каля доўгай сцяны, падымалася чорная шафа з бліскучымі меднымі замочкамі і ручкамі і гліняным наверсе карычневым катом.

Цікуючы на дзверы, Міця скоранька раздзеўся і, саромеючыся сваіх валасатых ног, свае худзізны, спешна падшыўся пад коўдра ў халаднаватую свежасць пасцелі, разасланай на падлозе каля конусных скрынак ды цабэркаў з вазонамі. Аранжавы абажур разліваў на пабеленай столі радкаватымі кругамі святло. З-пад круглага, у фрэзліках, абажура Міцю ў вочы калола малочная лямпачка, і ён перавярнуўся, чакаючы спіною, калі рыпнуць дзверы, і чуючы, як нешта новае, невядомае дагэтуль, нібы глыбокая вада, займала ўсяго.

І ён п'янеў, задыхаўся ад думак, што нат не спадзяваўся, што прыйдзе такая хвіля ў жыцці, што ён будзе разам у адным пакоі з Чэсяй. І было толькі шкада, што вялікае неспадзяванае гора і жалоба засланяюць ёй свет і яна, Чэся, не ўбачыць, не ўчуе гэтага.

Яна прыйшла позна, бо ён нібы прыдрамаў, ачуціўшыся ад скрыпу падлогі і ўбачыўшы ў скупаватым святле, што мігатліва, як ад месяца, рассейвалася ад далёкае лямпачкі на слупе каля чыгункі, яе, Чэсю, у доўгай начной кашулі — яна ад гэтага выдавала высокай, нібы незнаёмаю, чужою.

— Ты спіш? — спытала яна.

— Не,— у яго перасох голас і гарачыня заліла грудзі.

Моўчкі пераслала сваю пасцель і моўчкі доўга ляжала, нечакана ўжо ўздыхнуўшы:

— Міця, скажы...

— Што? — з дрыгатою ў голасе папытаў ён.

— Ты хоць крышку любіш мяне?

Цяжкім молатам гэтыя словы ўпалі на Міцю, і ён ледзьве вымавіў:

— Люблю.

— І я цябе...

Міця бачыў, як на столі заяснела і пабегла наніз святло, абліваючы вазоны, сцяну, і памаленьку пачала дрыжаць падлога. Каля дома зноў ішоў таварова поезд, і цяжкі жалезны грукат угінаў зямлю, калыхаў цагляны дом, дробненька трымцелі ў вокнах шыбы.

Святло, абабегшы пакой, раптам згасла, а поезд усё

ляцеў і ляцеў, паступова губляючы, гасячы свой жалезны грукат.

— Міця,— сказала яна, калі перасціх гэты моцны, што заглушыў і раздушыў усё, лязгат поезда,— ідзі да мяне.

Міця, як ап'янелы, не помнячыся, яшчэ не верачы сабе, што папраўдзе яна кліча яго, перавярнуўся на пасцелі. Гарачы агонь раптам апаліў яго і растаў, абліўся, як растопленая свечка, і ціхенька згас.

— Я цябе зняважыла? — спытала яна.— Не прымайся, не злуй на мяне, бачыш, якою я зрабілася. Гэта ўсё праз татаву смерць...

— Што ты, Чэся.

— Ты даруй мне. Я не хацела цябе зняважыць, так выйшла.

— Што ты, Чэся... — ён не ведаў, як суцешыць яе, што гаварыць: словы блыталіся ў галаве.

Ён толькі слухаў, як пачала расказваць пра бацькаву смерць. Ён не перабіваў яе, і яна сціхла, пэўна, на міг заснула, раптам цяжка і пакутліва ўскрыкнуўшы.

— Чэся, Чэся, што з табою? — спытаў ён, чуючы сцішнасць ад яе пакутлівага, здушанага крыку і стогну.

— Ты чуў, як я крычала?

— Чуў.

— Я ізноў прысніла той самы сон.

— Які?

— Што я лячу, падаю ў тую яму з трунаю, дзе пахавалі тату. Няхай крые бог, я ўся мокрая ад страху.

— Не думай пра гэта, забудзься. Я ж з табою.

— Хіба можна адагнаць думкі?

Міця ўчуў, як яна парывіста, з цяжкім уздыхам заплакала.

— Чаго ты, што з табою, Чэся? — падхапіўся ён і ўбачыў, як у мігатлівым святле далёкае лямпачкі яна працягнула яму рукі, і схапіў за іх, прытуліў яе да сябе, чуючы ўсю яе пакорную. Прыклаў да яе шчакі сваю гарачую шчаку, губамі даткнуўся да скроні — яна была мокрая ад слёз і салодка-салёная, як здалося яму, на смак.

За сцяною на станцыі зноў грукатаў поезд, зноў па хаце ад яго яркага ліхтара бегла мігатлівае, спярэшчанае лісцем дрэў балючае святло.

Міця, адхіснуўшыся, убачыў у гэтым святле смяртэльна-белы Чэсін твар.

І ён ціха, як малое закалыханае дзіця, паклаў яе на ложак. Яна, здалося яму, папраўдзе спала.

## XX

Густы, высокі, як быльнік, і перавязаны зліnялым матузком куст божага дрэўца — найпершага мацерынага лякарства, што сцягвала з вока парушыну,— нагадаў Літавару і далёкае, да шчымлівага смутку ў душы дзяцінства, і мацеру, што не прыждала яго ні жывою ўжо, ні мёртваю: яе пахавалі ўчора, не ведаючы, што сёння прыедзе ён. Даўкі камяк пераціяў, сціснуў горла. Літавар адчыніў пераплеценыя спаднізу свежымі, абшморгнутымі ад лісця лазовымі дубцамі, мусіць, каб не ўлезлі кураняты, дашчаныя веснікі і зайшоў у жоўты ад каляндры ды кропу невялікі перад хатаю гародчык. Між градак лапушыстага бацвіння ды высокай і распушанымі сівенькімі пампонамі цвету насеннай цыбулі ў вузенькай, прытоптанай босымі нагамі разоры ляжала купка вялай, падоечы выпаланай мацераю лебяды, карычняватага драсёну і доўгай пер'ем, як асака, плашчугі.

І з краю градкі пакалыхвалася зялёна-густая, пасеяная сама сабою адзінокая кальва гонкай канапелькі.

Літавару чамусьці падумалася, што маці пакінула яе знарок для насення ды мо і для верабейчыкаў, якіх яна карміла заўсёды разам з малымі, яшчэ не аперанымі кураняткамі, сыпнуўшы жменьку адным і другім якога-небудзь зерня ці кінуўшы лыжку ўчарашняга кіслага крупніку.

Літавар падышоў да куста божага дрэўка, сарваў мякенькую, у дробнай сетачцы лісця, верхавінку, пацёр у пальцах, учуўшы зноў той далёкі гаркавата-палыновы пах. Гэта быў пах нечага хатняга, матчынага, адначасна блізкага і нібы ўжо далёкага, незваротнага, як маці.

Прашыўшыся недзе між яловых частаколін, у гародчыку жалосна ціўкала, ужо, мусіць кінутае кураводкаю, рабенькае даўгахвостае куранятка, блудзіла ў прывялым ад гарачыні бурачніку.

На частаколінах сох, вымыты таксама мацераю, а цяпер нікому не патрэбны шары, злінялы фартух.

На другі бок хаты ў цяньку пад страхою ветралі пучкі, перавязаныя стужкамі са старых кашуляў, трапяткіх слёзак, карычняватага, нераспелага ўжо свенціяну, дзевяцярапкі, сівенькага — ад кашлю — грымотніку і палявога хвашчу ды чартапалоху, якім выкурваюць пярэпалахі.

І нейкі даўкі камяк захрас у Літаваравым горле — хто ж будзе лячыцца ім, гэтым назбіраным зеллем.

Літавар завярнуўся, стараючыся не наступіць на зялёныя вяроўкі гарбузоў, што разораю паўзлі да плота, каб

учапіцца там зялёнымі вусамі за частаколіну, выйшаў на надворак.

Перад вачыма мерк пагодны дзень самай яснай пары лета. Ці ўжо адвыклася Літавару за гэтыя тры з чымсьці месяцы ад свайго Верасава — нейкімі меншымі, сціснымі ды чужаватымі здаваліся хаты і іхнія шара-саламяныя, у карычняватым мосе, апоўзлыя стрэхі. Зменшаў нібы і свой, у ліловых шчотках чабору ды жоўтага сакаўнога водцыку, лабаты грудок.

Нібы цёмнаю хмараю насунулася на цэлы свет, засланіла, прыціснула і прыгняла ўсё гвалтоўная мацерына смерць. І ў галаве глыбокаю чарнатою завірылі думкі, што ўсё зменлівае і нявечнае на гэтым неабдымным свеце.

Учора пра гэта ажно да поўначы гаварыў бацька:

— Во так збіраў, трудзіўся чалавек. Сколькі ні жыў — усё жыць збіраўся, усё лепшага чакаў. Спадзяванне меў — падрастуць, падымуцца дзеці, і нарэшце зажывеш на ўсю ногу. А тут смерць на носе, і зглядзець не паспеў. А яно во, нібы спадцішка, знянацку, як мацеру. Ды ад яе, ад смерці, дохтара няма.

Лежачы на ложку ў нязвыклай пасля казармы цішыні хаты, дзе пад бацькаву гутарку суха шкробся, тачыў сцяну шашаль, Літавар маўчаў, не аказваўся, чуў, як балючым нарывам турзала душа, што бацька кажа праўду. І хацеў выбавіцца ад цяжкіх думак, знайсці на ўсё адказ, але не мог.

— Вунь грошы ўсё збіралі. На пошце тысяча злотых ляжыць. Ты ж не ведаеш, табе не казалі.

— Не,— здзівіўся Літавар.

— Зямлю думалі прыкупіць.

— Ці да зямлі цяпер,— не стрываў, перабіўшы бацькаву гутарку, Бронік.— Вунь пры нямецкай граніцы дыверсанты палякаў б'юць, вайна пачнецца.

Бацька, нібы недачуўшы, зарыпеў упоцемку расхістаным ложкам.

— Думалі, ты ажэнішся і нам палёгка будзе.

Гэты напамінак пра жаніцьбу, як маланкаю, перасёк Літавару памяць — успомнілася Хрысця, смуглявы тварок, быстрыя, як казюркі, і бліскучыя вочы, і тое першае і астатняе пісьмо, што нехта напісаў за яе, і тыя словы, што вострым лязом распаласавалі марнае, ледзьве жывое спадзяванне. На астатнія яго пісьмы яна ўжо не адпісвала.

— Як жывуць там Корсакі? — зводдаль і няўзнак спытаў Бронік у варухлівы поцемак хаты.

— Што кажаш? — бацька знарок ці незнарок, але недачуў.

— Пытаю, як Корсакі там маюцца?

— Каня іхняга шалёны сабака ўкусіў. І не ўратавалі. Гэтакі конь — на ўсе сто. Прыйшлося жыўцом закапаць...

— Як наймічка? — спытаў Літавар, чуючы, як бацька зноў зарыпеў ложкам, мусіць, прысеўшы на ім.

— Далася табе ў знакі гэта галадмерка. Вунь колека пісем тваіх за абразом ляжыць. Корсак перадаў... Знайшоў перад кім паклоны біць, а яна вэнь шуткавала, хахінькі строіла.

— Як? — Бронік згроб нагамі з сябе калючую кудзельную радзюжку, ляжаў не накрыты ўжо.

— Ты ўсё — як ды як. А во так! — крыкнуў з ложка стары Літавар.— Скокі воўка ні кармі, ён у лес глядзіць. Так і яна.

— А што? — ужо ціха перапытаў Літавар.

— Ці не ведаеш? З Алесіным прымаком знюхалася. Што тут рабілася... — стары не дагаварыў, ссунуўся з ложка і, бялеючы ўпоцемку бялізнаю, пайшоў да вядра. Забрэнгаў там кубкам: — Вытурылі яе Корсакі. Цяпер у Грабянкі за няньку, кажуць, яна.

— А прымак?

— Бяжыць туды, як сабака да рэзні.

Растрывожаны нечаканаю ліхою весцю, Бронік Літавар ужо заснуць не мог, душыла крыўда і злосць, што горка абмануўся.

У Млаве — тым невялікім, мала большым за Дварчаны мястэчку — ён меў бялявую, даўганосую, але гладкую, спрытную ў постаці афіцыянтку Ганэфу, але ён таемна думаў пра Хрысцю: бедная нідзе не дзенецца, выйсця няма шука, пойдзе за яго замуж.

І на́ табе — знюхалася з Алесіным прымаком.

Патайная тамлівая надзея, што гарачым прыскам тлела на сподзе душы, раптам пачала чахнуць і астываць: не, не бачыць яму ўжо Хрысці, скруцілася, спляласся з Алесіным малацьбітом.

А ён, дурань, едучы ў поездзе, не столькі пра мацерыну смерць, а ўсё пра яе, пра Хрысцю, думаў.

Убачыць з акна вагона вясковую дзеўчыну на пероне, ці на лужку з граблямі, або на выкашаным адкосе каля высокіх кветак піжмы маладых рамонтніц, што палолі чыгунку, і сярод іх прызнае Хрысцю.

Толькі ўжо ў Баранавічах, калі перасеў на лідскі, калі

мінуў грудкі з кучаравымі чубкамі мяккага маладога хвойніку, калі пераехаў жоўтую, абмялелую, што кацілася па жвірыстым дне, рэчачку, калі ўбачыў рабенькае ў зялёным аеры ды ў чорных таўкачах гляжджаю возера, жоўты, мураваны з цэглы млын, калі пайшоў дварчанскі марны лясок, дзе за сівымі, абамшэлымі камлямі хвоек закружыліся счарнелыя драўляныя крыжы дварчанскіх могілак — сэрца заныла ад шчымлівага холаду: перад вачыма паўсталі маці ў труне з абразком у мярцвяна-белых руках, спакутаваны, без шапкі, сівагаловы бацька, сястра Соня, пра якую ўспамінаў толькі зрэдзь. Мацеру хавалі пазаўчора, без яго — ніхто не спадзяваўся, што ён прыедзе на другі дзень.

Сёння Бронік збіраўся схадзіць туды, на дварчанскія магілкі.

Бацька сказаў, што мацеру пахавалі ў кутку, недалёка ад возера, дзе былі два невялічкія копчыкі — некалі тут, яшчэ маленькімі, пахавалі сясцёр-блізнят, што атруціліся, наеўшыся мухамораў, і памерлі ў адзін дзень.

Каля гэтых капцоў дажывала свой век крывая сухаверхая хвойка і стаяў ружаваты, яшчэ не замшэлы камень з высечаным крыжыкам.

Ведаў Літавар і яшчэ адну прыкмету — пасаджаны між магілак зеленаваты камялёк бэзу, што не рос, а адно існеў у цяньку пад хвойкамі. Успомніўшы пра марны, пасаджаны яшчэ мацераю бэз, каб не страціліся, западаючы, магілкі, Літавар учуў, як пад сэрцам закіпеў нечаканы жаль да ўсяго. Выціраючы пякучыя, што зашчымелі на вачах, слёзы, зноў паўзіраўся на паменшанае, знябожанае Верасава, за шарымі гумнамі ўбачыўшы яшчэ невысокі, толькі да вокнаў складзены жоўты зруб — адступіўшы трохі ад вуліцы, Міронаў Васіль ставіў новую хату. Адтуль чуўся вясёлы, асвечаны навізною і радасцю, цюк сякеры.

Бронік выйшаў з гародчыка. На надворку, прыслухоўваючыся да гэтага высокага з водгаласам за будынкамі перастуку сякеры, стаў з пустым драўляным вядром бацька — схуднелы, усохлы.

— Будуецца,— махнуў ён галавою ў той бок, дзе жаўцеў новы, выведзены толькі да вокнаў зруб.— Шмат цяпер будуюцца, ставяць новыя хаты. Вунь Зэст, як шклянку, хату выстраіў. Мусіць, будзе вайна. Праўду ты кажаш.

Броніку Літавару ўспомнілася тое возера каля Млявы, той бой з нямецкімі дыверсантамі, ціхая гутарка між салдат, што немец задушыць Польшчу, бо якая ў нас зброя —

карабіны ды шаблі,— але, нічога не сказаўшы бацьку, узяў у яго з рук вядро.

— Дай я схаджу.

— У крыніцы зачэрпай, неблагая і там вада,— сказаў бацька.

Звыкла Літавары бралі ваду ў Сымонавым калодзесі, але дзеля скаціны ці перамыць чыгуны хадзілі да крынічкі пад грудок, дзе выкапалі яму і ўставілі старую без дна дубовую бочку.

Вузенькая, нібы мурашыная, сцежка шараю пасмаю спусцілася ■ грудка ў круты, востры жолаб яра з кусцікамі ялаўцу і шыпшыны. У канцы яго на пясчаным схіле ва ўкопанай роўна з зямлёю дубовай бочцы, паднімаючы сінаватую каламуць чыстага дробнага пясочку, кіпела трыма жэрламі, біла крыніца. За бочкаю кусцілася, як густая рунь на згоне зімы, цёмная, з шырокім пер'ем трава. Ніжай за крынічкай у старым вербалозе і маладым, асалавелым ад гарачыні алешніку гніла і шыпела кіслай рошчынай чырванаватая тлустая гразь, і там, дзе было не даступіцца каля глыбокіх прорваў крыніц, зелянеў, выпусціўшы аксамітна-чорныя таўкачы, сіваваты гляжджай ды высокі, густы, у мякенька-ліловых мяцёлках, троснік.

Жаўтлявая асака востраю, ужо новаю атаваю падымалася па сінявата-ружовай, нібы разлітая газа, радужнай вадзе і па каўпаках куп'я далей ад лёхаў і крыніц.

Не дайшоўшы да ўкопанай бочкі, да зялёнай латкі травы пасярод прыгаслага чабору, Літавар замёр, успомніўшы тое ўчарашняе, што расказваў бацька: маці так і не вынесла з гразі радзюжку цяжкае сырое асакі — тут недзе ёй зрабілася блага.

Літавар прыкленчыў каля бочкі, чарпануў драўляным вядром крынічнае вады, злавіўшы чорненькую бліскучую казюрку, што ў страху вілася то паверх вады, то ныраючы на дно. Панёс вядро, расплюхваючы ваду і ўспамінаючы тую далёкую пору, калі быў малы і калі тут яшчэ не было іхняе хаты — стаяла толькі перанесенае з вёскі сюды на блізенькі хутар іхняе гумно, і маладую, шыбкую ў хадзе маці, што прыбегла да яго ■ поля, з жніва ў вялікую навальніцу: у іхнюю, што расла пад грудком, старую алешыну, выгнаўшы, як драчом, на шурпатым ствале вузенькі пас і разарваўшы каля карэнняў дзярно, стрэліў пярун.

Ён, Бронік, тады васьмігадовы пастушок, стаяў пад страхою свайго гумна.

Маці ўжо не раз потым расказвала, як, кінуўшы серп, бегла з поля, як, баючыся перуна, падала ў разоры, покуль не ўбачыла, што на іхняе гумно паляцела ясная страла. Тады ўжо дзе падзеўся той страх: бегла ўжо без памяці, нічога не помнячы і думаючы пра адно — ці жыва дзіця.

Літавару ўспомнілася, што маці першы раз абняла яго, што жывы астаўся, і ён замёр, апусціўшы рукі, учуўшы першы раз цёплую, не перажытую яшчэ ласку да сябе.

Ад старое, зрэзанае некатарае зімы дуплявае алешыны з соннаю гадзюкаю, што акрыяла, як пачалі пілаваць на калодкі дрэва, астаўся зарослы травою, гнілы пень.

«Усё адыходзіць — як старыя дрэвы, так і старыя людзі,— думаў Літавар, несучы драўлянае з жалезным вочапам вядро.— Нехта вырасце, ужо не ўяўляючы гэтага грудка без іхняга хутара, вёскі — без той хаты, што будуецца за раўком і адкуль чуваць густы, цяжкі, заціснуты сырым дрэвам, звон і шоргат пілы».

Аблакаціўшыся рукамі на штыкеты, за плотам стаяў бацька, нешта старое знябожанае было ў ім.

«Без мацеры ён, мусіць, доўга не пажыве»,— пад сэрцам заварушыўся халодны, азызлы страх.

— Каб дзе стрэўся, то, дальбог, не пазнаў бы. Як адмяніўся чалавек,— бацьку, мусіць, здзівіла зеленкаватая, што была на сыне, вайсковая форма.— Але ідзе яна табе.

— Добра ў ёй пафарсіць тут, а не ў войску,— Бронік паставіў пры ганку, на дробны спарышнік, вядро.— На магілкі схаджу.

Учуўшы пра магілкі, бацька завярнуўся, зашморгаў носам, пайшоў, угнуўшы галаў, каб не паказаць слёз.

— А калі ж паедзеш назад?

— Заўтра.

— Ужо? — здзівіўся бацька.

— У мяне ж урляпу ўсяго на тры дні, з дарогаю. Я ж казаў — неспакой на граніцы. Да вайны справа ідзе.

Бронік прыпыніўся перад брамаю, абцягнуў пад рэменем фрэнч, крышку набакір падбіў рагатыўку, паправіў на баку цяжкі, з жалезнаю похваю кінжал і спусціўся ў рабок, што адлучаў іхні двор ад Міронавых,— цягнула павок, што адлучаў іхні двор ад Міронавых,— цягнула паслухаць верасаўскія навіны ды паказацца перад людзьмі ў вайсковым убранні.

Незнаёмы дзюбаносы цясляр, што, звесіўшы ногі, сядзеў на пахучым смолкім зрубе, прыплюшчыў вочы, прыглядаючыся да высокага салдата. Але Васілёва Маня, што стаяла каля горбы наношанага радзюжкамі з лесу бела-

зеленкаватага пухлага моху, за два ражкі тужэй зашмаргнула пад барадою чырвоную ў белыя кветачкі хустку і з дзівам усклікнула:

— Вой, гэта ты, Бронік? Каб здароў быў, не пазнала. Паспраўнеў, вылюднеў, а кажуць, што ў войску блага.

— Чаму ж не адправіш свайго,— паказаў Літавар на Васіля, што, убіўшы склюд у ачэсаную гонкую дзеравіну і, па звычцы, абшморгваючы рукі аб сцёгны, ішоў да Літавара, каб павітацца.

— Яму ж хату паставіць трэба,— прыжмурваючы вочы, Маня пакруціла на гладкіх клубах спадніцу.— І так яна ўсе сілы выцягнула.

— Гляджу, а хата немалая,— махнуў доўгім, прастрочаным кругамі брылём рагатыўкі Бронік Літавар.

— Сем на адзінаццаць аршын,— Васіль падаў пачарнелую, стракатую ад смалы і ліпучую далонь.

Слова за слова, гутарка зноў павярнулася на мацерыну смерць, загаварыла і пабедавала Маня, покуль яе ўжо не перабіў цясляр:

— А дзе служыш, хлопча?

— У Плоцку быў, а цяпер у Млаве.

— Лічы, пры самай граніцы,— падсоўваючыся задам на дзеравіне, цясляр раскладваў мох.

— Ды блізка, кіламетраў дваццаць, не больш,— туды на невысокі зруб падняў голаў Бронік Літавар.

— А мой у Баранавічах, у дваццаць шостым уланскім палку.

— Няўжо па ліхое ідзе? — спытала Маня, увязваючы ў старую хустку мох, каб падаць цесляру на зруб.— Няўжо на вайну будуемся?

— Ай, як кажуць, не заўсёды світае, як певень спявае. Можа, толькі гавораць, а вайны не будзе,— сказаў Васіль і, цюкаючы склюдам, пачаў падганяць ачэсаную дзеравіну.

Літавар пераступіў доўгі, ачэсаны з двух бакоў брус, перабег ужо зараслае рэдзенькаю травою пажарышча з грудаю чырвонае цэглы і пляскатым, расколатым ад агню каменем каля парога, дзе стаяла даўнейшая Васілёва хата, выйшаў на вуліцу. Стук сякеры звонкім рэхам аддаваўся ў чужых надворках.

Прыглядаючыся да цёмных вокнаў, Літавар мінуў Корсакаву хату. Страпянулася, зашчымела сэрца — успомнілася Хрысця.

«Няўжо праўда, што яна спялася з Алесіным прымаком? А можа, усяго толькі плёткі? Але ж і па пісьмы ні

слова не адпісала». Літавар учуў, як з-за густога, прывялага ад гарачыні бэзу нехта гукнуў яго:

— Го, салдат!

Літавар азірнуўся: за бэзам у пустым, зарослым жоўтаю піжмаю гародчыку, каля тонкай у выцінаным лісці рабінкі, сіваватай, як заўчасна пасівелая маладзіца, стаяў Марцін Ваўчок.

— Здароў быў! — махнуў сваёю пасаджанаю набакір кепкаю і прыскаліў адно вока Марцін Ваўчок.— Куды бяжыш?

— Ды во,— угінаючы галаў, не гледзячы Ваўчку ў твар, прызнаўся Літавар.— На магілкі іду.

Той паківаў галавою:

— Маці не так старая была. Яшчэ магла б жыць. Уга.

— А як сам маешся? — так, дзеля прыліку, папытаў Літавар.

— Як казаў мой доктар Стацкевіч — інтэр каэкос люскус рэкс,— загадкаю адпаліў Ваўчок і ўжо сам адказаў: — Водле сляпых і мы відушчыя. Ну, а як там у цябе?

— Ды нялёгка.

— Хэ-э,— зноў задраў сваю кепку Ваўчок.— Хочаш у горы жыўшы з перцам есці.— Ваўчок падышоў да высокага плеценага плота, рассунуў частаколіну, уткнуўшы ў дзірку свой няголены рыжаваты твар, сказаў: — А што там наконт вайны чуваць? Але хіба салдату скажуць? — ён скрывіў набок свой твар, зіркнуў скоса хітрым вокам: — Тут усе газеты трубяць, што Польска выйграла «вайну нэрваў». Але ці выйграла, ты скажы, калі Нямеччына гатуецца да пробнае мабілізацыі і ў Гданьску кіпіць, як у гаршку. Ды ангельцы во пачалі манеўры...

Літавар, збіты з панталыку гутаркаю Ваўчка, не ведаў, што адказаць яму, маўчаў, забаўляючыся з цяжкім, прывешаным да рэменя, кінжалам.

— Скажы, мо ты ведаеш, што значыць: «У Польсцы тоталізму нікт не хцэ»?[1] — Ваўчок пакруціў галавою і зноў спытаў: — І што значыць гэты таталізм?

— Хто яго знае,— Літавар паварушыў плячамі, на якіх блішчалі медзяныя гузікі на пагонах.— Хіба ў Корсакавага Змітрыка спытай. Ён вучыўся больш за ўсіх нас.

— Вучыўся то вучыўся, але ці знае ён латыню? І чаму толькі ў Нямеччыне ёсць гэты таталізм? Во, расталкуй ты мне, цёмнаму!

[1] У Польшчы таталізму ніхто не хоча *(польск.)*.

— Я на сваім быту гэтага не чуў,— прызнаўся Літавар, не ведаючы, як ужо адвязацца ад гаваркога ды ліпучага, як смала, Ваўчка.

— А цяпер, кажуць, немцы пчолаў будуць, як галубоў паштовых, пускаць. Толькі бяда, што пчала далей, як на сем кіламетраў, не ляціць.

— Ці мала што нагавораць,— сказаў туды, за высокі пазелянелы і аблушчаны частакол, Літавар.

— Чужы рот не каўнер, не зашпіліш, можа, і нагавораць, як ты кажаш,— з далечыні даляцеў Ваўчкоў голас.

Літавар завярнуў на пясчаную папярочку, што тут, каля Ваўчковага марнага, недагледжанага садку з нізкімі вішнямі, якія завіслі на жардзяную пераплеценую калючым дротам загарадзь, збягала да рэчкі.

Пад вербамі ляжала акоранае з вясны і нарыхтаванае на мост дрэва, але ад гэтае няспешнае работы верасаўцаў адрывала то ворыва, то сенаванне, ды не было капра забіваць палі: у дварчанскага яўрэя за ім даўно стаяла чарга.

Каб не заварочваць на кладку, Літавар пераскочыў па велікаватых, што высунуліся з вады, каменнях абмялелую за дні спякоты, плыценькую рэчку, што кацілася па ружаватым жвірку, крута заварочваючы ў цянёк пад чорныя, пераплеценыя скарчанелымі пальцамі карэнні маладога густалістага алешніку ды старых, нізка навіслых да самае вады, сіваватых вербаў.

Нізка і шыбка, як зглядзець вокам, над трапяткім расторленым серабром вады шмыгалі берагавыя цёмна-карычняватыя ластаўкі.

Ступіўшы на хрумстка-жвірысты бераг, Літавар азірнуўся на абмялелую рэчку і са сцішным шкадаваннем успомніў, як ён яшчэ малым хлопцам шукаў тут на беразе круглыя пляскатыя каменьчыкі і пускаў іх: чыркануўшы, адбіўшыся два ці тры разы ад вады, яны нізенька ляцелі над рэчкаю, аж туды, дзе цяпер на вынесеным паводкаю карчы расце чубок гляджжаю з чорна-рудаватымі, што выплылі, выкруціліся з шырокага сіваватага лісця, мякенькімі, як аксаміт, таўкачамі.

Рэчка, мусіць, сёлетняю паводкаю адарвала бераг, скінуўшы ў ваду купку алешніку, што падымаў свае зачахлыя, у дробным лісці вяршкі, намагаючыся падняцца зноў. Там некалі віравала патайным страхам глыбокая бухта, і яны, верасаўскія хлопцы, набраўшы разгон, давалі ў цёмна-сіні вір нырца, і тады, пляснуўшыся жыватом аб ваду, бухнуў у рэчку і не выплыў Рэпкаў Сяргей. Выратаваў яго

Бронік Літавар, нырнуўшы, як сёння падумаць, па-дурному, бо тапелец мог ухапіцца і не пусціць ад сябе. Але Сяргея, як нежывое палена, перакочвала на дне жаўтлявая, пранізаная сонцам, вада. Думаючы, што ён ужо нежывы, Бронік узяў яго за нагу і вывалак з бухты.

На беразе Рэпка заварушыўся і пачаў адпэрхвацца ад вады. Потым расказваў, што сіліўся выцерабіцца з бухты, але вір круціў і нёс яго назад, покуль ён не наглытаўся вады і не пачаў траціць прытомнасць.

Не ўтапіўся тады ў бухце, усё роўна задушыўся ў цыстэрне ад бензінавага газу. Мусіць, быў яго такі лёс — рана памерці. Пэўна, у кожнага ёсць знак, калі і якою смерцю адысці на той свет.

Літавар не змеціў, як прайшоў скошаны лужок, усыпаны карычняватаю чарадою згаладала-цвіркатлівых і гвіжлівых шпакоў. Апомніўся ў лесе, у задушлівай шапаткой цішыні, з густым церпка-тарпатынавым пахам смалы. У ім жалосна, як у глухую, ужо здзічалую восень, адзываліся сініцы.

Падыходзячы да высокага і зялёнага насыпу чыгункі, убачыў кучаравыя з ражкамі сухіх вяршкоў векавечныя хвойкі, што няўзнак адміралі,— там былі магілкі пяці каталіцкіх вёсак, усяе дварчанскае парахвіі.

Перайшоў прапаланае ды пабаранаванае жалезнымі граблямі палатно чыгункі з рыжаватымі, што пахлі мазутам, шпаламі і выкатанымі да бляску рэйкамі, у якіх у такт аддаваўся звонкі перастук дрызіны, што ляцела ў Дварчаны, трапечучы на ветры чырвона-белым флажком, і збег на стракаты ад ясна-жоўтых кветак сівенькага валасніку аблог. Свежы, з паласатых, наспех ачэсаных жэрдак і слупкоў, плот падпаясаў зялёны падлес магілак — нізкіх кустоў язміну, марнага бэзу ды адзінокіх, састарэлых яблынь ды груш. Навальваючыся на жэрдку раннімі ягадамі, зачырванеўся разложысты куст брызгліны. Чуючы, як па сцягне б'е важкі кінжал. Літавар папраставаў на гэты цёмны, з густою чырванню чачотак куст і раптам спаткнуўся: там у кутку магілак чарнела ражкамі голых сукоў высокая хвойка. Гладкі, з аблупчанаю карою ствол ледзяніў нечаканым холадам душу, што ўсё пакорна смерці.

Наводшыбе перад жардзяным загарадам падымаліся прадаўгаватымі капцамі дзве магілкі: адна — ужо зарослая, з пачарнелым ад дажджу крыжам, другая — свежая, на якой толькі вытачылася рэдзенькая травіца. На пера-

кладзіне крыжа распоўзся ад сінята хімічнага алоўка надпіс: «Лявон Рэпка, жыў 57 лят».

Бронік Літавар глядзеў на гэтую магілу сумеўшыся. Ён не чуў, што памёр стары Рэпка, і чаму пахаваны тут, як цыган, у канцы магілак ды яшчэ за плотам.

Звыкла каля магілак хавалі вісельнікаў ды народжаных мёртвымі, нехрышчоных дзяцей.

Літавар пералез цераз невысокую жэрдку і, абыходзячы паўпаданыя, што зараслі, зраўняліся з зямлёю недагледжаныя магілкі, абамшэла-зеленаватыя дубовыя крыжы, што хіліліся адзін да аднаго, пайшоў туды, дзе стаяла сухая з пачарнелымі лапамі і аблушчаным ствалом высокая хвойка, мёртвая, струхлелая сярод жывых гонкіх дрэў.

За ружавата-шурпатымі камлямі замільгацела жаўтлявая яснасць свежага, падраўнянага, падгладжанага лапатамі капца і новага, зробленага з кантовых брускоў крыжа, і ногі ў Літавара пачалі блытацца і чапляцца за ценькую высокую траву. У душы ўсё скамянела, што тут, пад гэтым жоўтым пяском, ляжыць маці. Ён нават убачыў, як апускалася труна, як глухавата гупаў па вечку сыры пясок, калі, зашоргаўшы лапатамі, мужчыны пачалі засыпаць яму.

Каля свежае, крышку пабітае воспаю начной расы, магілкі Літавар пастаяў нядоўга, нават забыўшыся скінуць рагатыўку: было нязвыкла і неяк непамысна бачыць на перакладзіне крыжа мацерына імя, год нараджэння і год смерці — гэтыя дзве меткі, у якія ўклалася чалавечае жыццё.

Збоку ад жаўтаватага капца нізенька адна пры адной зелянелі, як паціна, нядужаю травою дзве магілкі сясцёр, з крыжыкамі, выкладзенымі яшчэ, пэўна, мацераю, з ружавата-зялёных сакаўных скочак. Між магілак, пахіліўшыся трохі набок і сплёўшыся трыма чорнымі камлямі, ледзьве існеў крывы, нібы скалечаны, бэз.

Не бачачы ўжо гэтага марнага кусціка бэзу, гэтых дварчанскіх магілак з дубовымі крыжамі, шарым частаколам аградак, каменных ружаватых помнікаў, Літавар глядзеў перад сабою, і яму ўспомніўся дробны з твару, худзенькі Кужэля, якога застрэлілі нямецкія дыверсанты....

Як лёгка, як нечакана страпіна абрываецца чалавечае жыццё! Маглі ж застрэліць і яго. Літавар яшчэ азірнуўся на жоўты капец і пабрыў між аградак, ценькіх кустоў бэзу, маладых рабінак, жоўтых вяргіняў, што ціха драмалі пры чужых магілках.

Між зялёнымі, частаколу крыжоў і агароджаў серабрылася і плыло, пераліваючыся луской дробных хваль, дварчанскае возера.

Літавар спусціўся з грудка да вады, што раз за разам плюхала пад навіслымі карэннямі старое гладкае хвойкі.

На той бок возера, хаваючыся за сіваватымі, нахіленымі ў адзін бок вербамі і шурпата-чорнымі старымі алешынамі, бялелі дварчанскія мураванкі. Пад старым недарослым дварчанскім лесам сыпкім пяском сплываў жоўты касагор.

Там недзе Грабянкаў дом, там недзе Хрысця. Мо зайсці пашукаць? Літавар спусціўся бліжай да сцежкі, берагам возера выйшаў да густых аераў, падымаючы яшчэ не ўспуджаных стрэльбаю качак з маладымі вывадкамі. Спыніўся каля жалезнага моста, што вісеў над рэчачкаю, сцягваючы разарваны высокі насып чыгункі. Але не перайшоў на другі бок рэчкі, успомніўшы тое бацькава папраканне: «Знайшоў перад кім паклоны біць, а яна, вэнь, хахінькі строіла».

Гарачым шумным накіпам цераз край душы пералілася злосць. Літавар завярнуў пад мост. Вузкаю сцежкаю, што блудзіла ў цяньку гонкага чорна-шурпатага алешніку, увайшоў у мякка-ціхі прысадзісты хвойнік. У шапаткой, як сон, цішыні, ачахла ўсё злое, і Літавар нават пашкадаваў, што не забег у Дварчаны.

Там, у прапахлай мазззю ад вінтовак і свежавырабленаю скураю ад чаравікаў, затхлай казарме, пасля брыдкіх жартаў і дзікага рогату салдатні, сцішыўшыся перад сном на нарах, Літавар успамінаў пра даўняе дзяцінства, зялёны надворак, ціш гародчыка і пра яе, Хрысцю, захутваючыся, як у цёплае коўдра, нават з галавою ў гэты ўспамін. І нешта радасна-забытае ажывала ў яго душы, як ажыло і цяпер ад невысокага сонца, што падзалочвала гладкія, у лушпінні празрыстае кары тонкія ствалы хвоек, ад павучыння сцішнасці, якою абвіваўся прымораны лес, ад сапрэлага паху грыбніцы, ад далёкага длубання дзятла па амярцвелай верхавіне хвойкі.

З задушнай цішыні лесу зморана дарога марудна выпаўзла на грудок да жаўтлява-пераспелага, што пастрэльвала і лускала ў каленцах жыта. Яно лускала ціха, як, дагараючы, вугольчыкі. І Літавару падумалася пра жніво, пра бацьку: хто яму паможа жаць, звозіць з поля снапы, малаціць на засёвак і на першы новы хлеб. Як будзе жыцца цяпер яму, старому бацьку?

Літавара агарнула нечаканая жаласць да ўсяго: да сябе, да старога бацькі, да сястры, што растраціла маладосць у дварчанскім данцыгу. Нешта невядомае, нязнанае дагэтуль зварухнулася ў Літаваравай душы да гладкіх, як боханы хлеба, грудкоў у спалавелым жыце, у зялёных картоплях, у лешках жаўтлявага лёну, да шарых вялікіх каменняў, што абраслі карычневым быльнікам, да крамяністае з лілова-слепаватымі кветкамі буслікаў дарогі, да гэтае зямлі ў сіняватых ценях лагчын і пазалочаных сонцам пагоркаў.

І бог адзін ведае, ці вернешся ты зноў да яе, а яна будзе во гэтак ціха драмаць перад вечарам, і будзе гэтак смутна і міла звінець у сінюткім небе жаваранак, недзе над сваім, просценька звітым з сухое саломкі гняздом, дзе мо голыя ў рэдзенькім пушку сляпыя пташаняткі паднімаюць цяжкія галоўкі.

Усё будзе красаваць, абнаўляцца на свеце, будзе заходзіць, апускаючыся да пазалочанай хмаркі, сонца, і ў гушчыні зялёных старых дрэў, нізкага прысаддзя будзе хавацца старая з саламянымі стрэхамі вёска, будзе гэтак смуткаваць за хатай, звесіўшы ціхае вецце, тая маладзенькая, пасаджаная ім, Бронікам Літаварам, бярэзінка.

Дарога, як загнаная гізамі карова, церлася каля мяккіх густых кустоў ялаўцу, над глыбокімі ровішчамі, дзе, як помніць Літавар, яны малымі выганялі зайцоў, дзе ў густы туман восенню можна было наткнуцца на воўка.

Цяпер стаяла тут, прасвечаная нізкім сонцам, сіняваta-замглёная вечаровая ціш, толькі, пакалыхваючыся на гнуткіх кутасіках-вяршках ялаўцовых кустоў, між сабою перасвістваліся дзве шарыя чубатыя пташкі.

Пахла сухім перацвілым чаборам, жоўтымі кветачкамі высокай сівай дзіванны, галубенькім сухім мохам, што акрые, зробіцца мякенькім у вільготную пору, а цяпер ён жорсткаю шчоткаю шапацеў пад нагамі, і з яго сыпаліся, нібы Літавар наступаў на хрумсткія шыпулькі, цёмна-шарыя з нябескімі і чырвонымі крыльцамі конікі.

І Літавар шмыгануў пад старыя невысокія хвойкі з доўгімі, ніколі не абсяканымі лапамі, што раскашавалі тут, шырока рассеўшыся адна ад адной па гэтым галубенькім мосе, а між іх падымаліся, нібы начлежнікі ў падвязаных сярмягах, кусты густога ялаўцу.

Некалі сюды, у гэтыя ровішчы, ці, як называлі яшчэ, Загарушчыну, верасаўскія грыбнікі прыбягалі ўкрадкам адзін ад аднаго ранелька, яшчэ нават рунныя гаспадыні

не ўстаюць падаіць кароў. Трымаючы на локці лёгенькі, сплецены з карэння кошык, прыбягаў і ён, Бронік, зрэзаць ножыкам тыя скрыпуча-тугія баравічкі з чорнымі галовамі, што высоўваліся з моху. Бывае, здратуюць, перадзяруць усё тут, у гэтым кутку лесу, а ён, Літавар, унаровіць усё роўна, патаптаўшыся ды не спяшаючыся пацікаваўшы, асабліва з берага лесу, пры самай дарозе, знайсці шарэнгу цвёрдзенькіх грыбкоў, а калі разгарнуць калюча-пругкі куст ялаўцу, то тутака сядзелі, зацярушаныя кастрыцай, вялікія, што ўпіраліся прымятымі капелюшамі ў лілова-шарыя камлі, старыя баравікі.

Ніжэй да балотца, у даўнейшых разорах, зарослых палёгшым спалавелым сушнікам, хаваліся крышку злінялыя зверху, рабенькія ад кружкоў сакаўныя рыжкі.

Наўскос зварочваючы з дарогі, Літавар убачыў каля чорнага аблушчанага ад кары пня вялікую карычнявата-тлустую шапку старога, пазелянелага грыба. Прысеўшы каля яе, цікуючы пад прысадзістыя хвойкі далей у глыбіні ляску, нехта сядзеў на кукішках, і, трохі стогнучы і суха паплёўваючы на першае шчасце, рэзаў баравікі.

Учуўшы, як хрумстка патрэсквае галлё, убачыўшы зеленаватую вайсковую форму, мусіць, ад нечаканага дзіва зашоргаўся каля хвоечкі і пачаў памаленьку падымацца, трымаючы ў адной руцэ кошык, а ў другой — зломак хатняга, ужо зрэзанага на хлебе, нажа, загарэлы за лета, прыкметна паспраўнелы Алесін прымак.

Перасільваючы помслівую злосць, што забушавала пад сэрцам, і чуючы, як рука сама ліпне да похвы кінжала, начэпленага на шырокі салдацкі раменны пас, Літавар як мага спакайней гукнуў:

— Ну, як грыбы?

— Ды во трохі,— вясёла блiснуў сінявата-цёмнымі вачмі Алесін Імполь.— Толькі ўсунуўся ў лес.

— Ты адзін? — махнуў Літавар рагатыўкаю, папраўляючы абедзвюма рукамі доўгі, у жалезнай похве кінжал. У вушах стаяла ўчутае вечарам ад бацькі: «З прымаком знюхалася».

— А з кім жа ж яшчэ? — засоп, азіраючыся на свой шоргат у гушчары, Імполь.

— Ды з ёю, з Корсакавай наймічкаю.

Імполь зачапіўся за падсечаны ялаўцовы шара-тонкі пянёк, падняў вытрашчаныя вочы, чырвоныя плямы апяклі яму твар:

— А што табе да наймічкі?

— А тое, што во выцягну багнэт і запару, як кныра. Ніхто бачыць не будзе,— Літавар узяўся за жалезную з драўлянымі тронкамі ручку кінжала.

Косячы вокам на бліскучую, з гарошынай на кончыку, похву, Імполь страпянуўся:

— А хіба я вінаваты, што з табою дзеўкі...

Літавар падышоў бліжэй, і Алесін прымак не вытрываў, адступіўся за прысадзістую хвоечку, але не ўцёк, адно прыгнуўся за шырокімі, што нізка звісалі ў густых, натапыраных голках, хваёвымі лапамі.

— Па-добраму прашу, пакінь яе,— Літавар выцягнуў кінжал, наўскос цяў па высокім, роўным з ім кусце ялаўцу, што ўздрыгнуў, сыпнуўшы леташнюю рудую кастрыцу, і раптам паменшаў, схіліўшы набок падсечаны вяршок.

— Страшыш? — Імполь, крыва пасмехваючыся, нагнуўся, падняў лёгкія з арэхавай, абслізганай ручкай граблі і злінялую, у чырвоныя балонкі, радзюжку.

— Не страшу, а покуль па-добраму гавару,— Літавар зноў наўскасяк сякануў па ялаўцы.

Імполь кінуў абы-як на сагнутую руку згамтаную радзюжку, нячутна ступіў у мяккі мох, але, абярнуўшыся, сказаў:

— Не любіць яна цябе. І замуж не пойдзе.

— Пра любошчы гавары са сваёю. Яна знае... Круцілася некалі добра. А Хрысцю не чапай,— Літавар ступіў услед за Імполем: шырокая спіна ў падлапленай кашулі так і з'юшчвала з размаху ўбіць у яе, як у дзярно, гэты вагкі цёмна-сіняваты, з вытачанымі лагчынкамі кінжал.— Глядзі, Імполь, каб да граха не дайшло,— сказаў ён ужо ў пагоню.

— Дзе грэх, там і збавенне,— шарганулі і цяжка замахаліся за Імполем выгінастыя хваёвыя лапы.

Скрыгануўшы зубамі, Літавар далей не пайшоў, стаяў, нібы абязвечаны, узіраючыся, як хавалася ў зялёным шчытніку шырокая дужая спіна — Імполь падаўся ў глыб сасняку, каб награбці на подсціл каровам сухой кастрыцы.

Як з заставак цяжкая вада, падала, круцілася і бушавала ў грудзях Літавара злосць, што за Хрысцю ён ніколі не даруе.

## XXI

Налілося, выспела і запалавела дзе па грудках шапаткое, абвітае бярозкаю жыта. Надыходзіла пара жаць разам з ім і вусаты, натапыраны ячмень. На зялёнай, у два ці тры загончыкі, лешцы лёну, што спяліў

сває тугія галоўкі, выступалі карычнявата-васковыя плямы. Толькі, спярэшчаны жоўтай свірэпай, дрыжаў няспелымі сіваватымі пацеркамі авёс, і скрозь густа пах сухою пясчанаю зямлёю жоўты лубін. На межах красаваў бела-ружовы крываўнік ■ высокім, карычневым, як ялавец, быльнікам.

Ужо ў верасаўскіх хатах з-пад ложкаў ды палкоў цягнула горкім духам палыну, які падкідвалі туды, каб прагнаць блох, і з якога вязалі мяккія густыя венікі падмятаць напаленую печ для новага хлеба. Ужо той-сёй, не дачакаўшы, покуль выспее зерне, браўся за серп і жаў зеленкаватае жыта, падсушваў яго ды малаціў, каб занесці які пуд у млын ды змалоць на хлеб і зацірку.

Першым у Верасаве яго каштаваў МарцінВаўчок, і ўсю вёску брала цікавасць, як на выгляд ды на смак спечаны з таго, што сушылася на радзюжках, зеленкаватага жыта новы хлеб.

Яно, гэтае нявыспелае жыта, Ваўчок сушыў стоймя пры сцяне гумна ды хаты, а потым ужо, вымалачанае палкаю ці адвязаным з цэпа бічом, на разасланых сярод надворка радзюжках.

Схаваўшыся ў халадок пад кароткі цень, што падаў ад застрэшка хаты на выкладзеную каменнямі прызбу, ён раз за разам узмахваў абедзвюма рукамі і пакрыкваў на курэй:

— Кыш! Бадай на цябе! І куды яна глядзіць зноў!

Ад іх было не адагнацца. Старая чорная курыца, адбегшыся трохі, спадцішка падкрадвалася зноў, насцярожана цікуючы адным вокам з-пад навіслага стрэшкаю крывога грэбеня.

Ваўчка разбірала злосць — ён зрываў з галавы сваю зашмальцаваную кепку і шпурляў на курыцу. З лопатам і адчайным крыкам яна ляцела за хату, на сметнік, дзе перапалохана ўскрыкваў певень.

Свецячы белым незагарэлым цеменем лысай галавы, уставаў з прызбы і, накульгваючы на завернутую ў белую палатняную анучку нагу, ішоў падымаць сваю кепку.

Ужо дзён тры, як у яго распухла ад рожы і не давала ступіць правая нага. Пасыпаўшы жытняю мукою тоўстую і ружовую, як апараную варам, нагу і завярцеўшы яе чыстым з старое палатнянае сарочкі лапікам, Ваўчок сядзеў на прызбе і пільнаваў высыпанае на радзюжку недаспелае мяккаватае зерне.

І верасаўскія мужчыны, што ехалі да рэчкі ці, ужо напаіўшы, вялі назад сваіх стомленых спрацаваных коней, спыняліся тут напроці Ваўчковага надворка і гукалі з вуліцы:

— Ого, старое перасушваеш?

Той-сёй пра старое пытаўся знарок, бо ці не надоечы ўсё Верасава traслося ад навіны, што Ваўчкова Вольга пайшла зажынаць жыта, бо яны, Ваўчкі, каторая пара сядзяць без хлеба.

Ваўчок таксама падаваў від, што не змеціў гэтых жартаў і падцінання, спакойна адказваў:

— Не, новае сушу.

І, абапіраючыся на палку, падкульгваў бліжай да плота.

— Хто ж цябе так? — пытаўся верасавец, седзячы на кані і звесіўшы босыя ногі.

— Ды во, сама праз сябе.— Ваўчок касіў вокам уніз, на заверчаную анучай нагу.— Як кажуць, рожыстае васпаленне.

— Ну, у цябе ўжо ўсё разам, і рожа, і васпаленне,— крывіўся ад смеху, седзячы на кані і звесіўшы босыя ногі, верасавец.

Конь, што напіўся вады ды выкачаўся, трэпаючы задранымі ўгору капытамі на жоўтым мякенькім пяску, таксама нібы ад цікавасці, адвесіў сівую губу і слухаў гэтую гутарку двух верасаўцаў.

— Ну, а чаму ж табе не загаварыць гэтую рожу? Да шаптухі якой не з'ездзіць? Нябось, загавор памагае.

— Гэта — самаўнушэнне.

— Што? — перапытваў, не зразумеўшы, верасавец.

— Гэта ўжо, калі чалавек верыць, што яго вылечаць.

— А ты не верыш?

— Шэптам — не.

— Ну, браце, ты ўжо гаворыш ні ў пяць, ні ў дзесяць. Мне во шчаку было разнясло, мо ў дзверы не ўлезла б. А што думаеш, загаварыла старая Такарада, і як рукою зняло.

— Я ж кажу — самаўнушэнне,— ганарыста задзёр галаў і адвярнуўся Ваўчок, абапіраючыся на палку, раптам заскакаў на адной назе туды да разасланых радзюжак з жытам: вялікая чорная курыца, прывёўшы з сабою цыбатых бясхвостых куранятак, дзяўбла зерне.

— Акыш-ш-ш! — Ваўчок сарваў з галавы сваю кепку і здалёк шпурнуў ёю на курыцу, але кепка, перакруч-

ваючыся, як талерка, паляцела недзе на другі бок хаты, на сметнік.

— Гы-гы! — паказваючы шчарбатыя зубы і трасучыся ад смеху, верасавец падганяў босымі нагамі каня і гаварыў ужо сам сабе ды іншым: — А яшчэ кажа, што ўмее лячыць людзей. Во, рожы не дасць рады, фэйчар...

Верасава ніяк не магло змірыцца, што ў Ваўчка ўсё не так, як у людзей: і жыве не па-іхняму, і гаворыць не тое, і жне не ў пору.

Але ўсім хацелася пакаштаваць яго, гэтага першага хлеба.

Стрэўшы на вуліцы Ваўчкову Вольгу, не стрывала нават Алеся:

— Кажуць, ты ўжо хлеба з новага жыта напякла?

— Ага, учора.

— І як?

— Ой, добры хлеб. Прынясу пакаштаваць.

— Прынясі,— зарадавалася, як малое дзіця, Алеся.

І назаўтра, калі, прыбегшы ў хату, Вольга выкруціла з свайго фартуха акрайчык падпаленага, з чорнаю скарынкаю і ямкамі ад пальца свежага хлеба, Алеся ўзяла яго ў рукі, паўзіралася, а потым панюхала, крышку задыхнуўшыся ад віннага паху, ад гэтай хлебнай маны, і тады разламала напалам, каб пачаставаць ужо Імполя, у якога таксама гарэлі прагаю вочы.

Адкусіла ад гэтага акрайца і, рассмакаваўшы, пацвердзіла тое Вользіна:

— Праўда, добры хлеб удаўся. І выхадзіўся як трэба, і светлы во.

— Дзіва што,— сказала Вольга.— Са старога жыта хлеб цёмны.

— І я на тым тыдні пайду зажынаць,— Алеся абцягнула на сваім жываце мультанавую кофту.

— Ці ж успееш скончыць жніва? — скрыва зіркнула на яе Вольга.

— Мо і не,— зачырванелася Алеся.

— Я памагу, як слабодная буду,— хіба ячмень падаспее. Але ж колькі ў мяне таго ячменю,— махнула рукою Вольга.— Памагу! Ці вы мо наймаць каго будзеця?

— Я ж кажу, трэба некага наняць,— нібы не ў знак, нібы не ўмешваючыся ў гутарку, сказаў Імполь.— А то гляджу, хоча разрашыцца ў полі.

— Не я першая,— не глянуўшы на Імполя, адсекла Алеся.

— Ды вунь у Рабках ды Лезнявічах сколяка дзевак,— Вольга падняла свае зеленаватыя вочы на Алесю, учуўшы, мусі, у яе голасе злую, непадступную цвёрдасць.— Толькі плаці.

— А сколяка цяпер бяруць за жніво? — нібы памякчэў Алесін голас.

Вольга рукою падграбла пад хустку рассыпаныя валасы, махнула галавою.

— За жніво спрадвеку адна плата — пуд за дзень, колькі ўжо той пуд ні каштаваў.

— А можа, хто захоча грашыма ўзяць?

— Я без ніякае платы табе, Алесечка, памагу,— брыдка крывячы губы, усміхнулася Вольга і адступілася бліжай да парога, але яе перапыніла Алеся:

— Пачакай... — і падышла да стала з высокім стосам грэцкіх аладак, накрытых белым абрусам, узяла дзве — пухкія і вялікія: — На, дзецям занясеш.

У выстаўлены жолабам фартух Вольга прыняла іх, падзякавала і, ужо чырвоная ад сораму і радасці, выйшла з хаты, сказаўшы яшчэ раз з цёмных сяней:

— Як пойдзеш жаць, гукні мяне. І адно сярпы не забудзься натачы...

— Ці ж умее яна хоць жаць? — спытаў Імполь, калі за Вольгаю на надворку зарыпелі веснічкі.

— А дзе ж яна ўжо расла? — у Алесіным голасе была ўсё тая зацятая непадступнасць, і Імполь зразумеў, што сам-насам з ім яна гаварыць не будзе.

Каб адвесці ад падазронасці чужое вока, аказваецца толькі пры людзях.

Наліваючыся злосцю, Імполь ціхенька вышмыгнуў з хаты. Успомніў, што пра сярпы казала Вольга, і ўвайшоў у стопку. Пастаяў з прыходу, прывыкаючы вачмі да ліпучае цемнаты, потым асцярожна вырваў са шчыліны ў дзеравіне пабітыя рабаціннем іржы, нечапаныя з леташняга жніва сярпы: траву для каня ці свіней жалі ўсё адным, што вісеў на пярыле ў гумне.

Выйшаўшы на двор, прыдзірліва агледзеў іх і сарваў з плота вымыты Алесяй і павешаны каля збанкоў на частаколе чысты палатняны лапік, абгарнуў на згібе, каб спрытней было ўзяцца рукою. Адапхнуўшы локцем веснічы, учуў на сабе вострым, калючы, што праймаў, здэцца, навылёт, Алесін зірк.

Учора яны пасварыліся зноў, нібы з палёгкаю, што маглі хоць гаварыць між сабою праз гэтую сварбу, хоць

было лягчэй, як ад свежага, парыўнага ветру перад бурай.

Учора яна, стоячы каля свайго ложка, ужо раздзетая, у палатнянай сарочцы, што ледзьве сыходзілася на вялікім жываце, сказала:

«Хочаш — жыві, а хочаш — ідзі куды вочы глядзяць, а [redacted] жыцьму, дай божа адно прыждаць дзіцяці».

І ў голасе быў цярплівы змучаны спакой, нібы яна папраўдзе абыякавая да ўсяго: да яго, Імполя, і да іхняга затоенага кахання з Хрысцяй, верасаўскіх абгавораў і плётак. Ён, развярэджаны гэтай сварбою, працяты крыўдаю, што так перавярнулася і змарнавалася яго жыццё, у шарым поцемку ўжо чорнае і падаўжэлае жніўнае ночы, да слёз на вачах, [redacted] горкаю крыўдаю, думаў, што, мусіць, доўга тут, у Верасаве, не ўжыве.

Падмячаў гэта і па старым Корсаку, што, заходзячы ў двор, падцінаў губу і адварочваўся ад Імполя, і нават па Міцю, што таксама наравіў абмінуць, не стрэцца з ім.

Імполю ўспомніўся той дзень напрадвесні перад вялікаднем, калі яны бялілі хату, выгнаўшы ў гумно старую свекрыву з нямою залувіцаю, той крык сярод ночы, калі ён, падхапіўшыся, убачыў на ганку Алесю і па яе голасу і крыку дагадаўся, што благое ўчыніла яна.

Пасля гэтага Імполь пачаў халадзець ад думак, што Алеся можа накласці на сябе рукі.

Перагарэўшы душою, цяпер яна паспакайнела, змяніла свой нораў і стаілася, як глыбокая рэчка, каб спадцішка, у сваёй здушанай злосці, падмыць бераг.

Гэтага затоенага гневу і злосці Імполь пабойваўся і наравіўся. Каб нават яна сварылася, яму было б лягчэй.

Ён ведаў, што дараваць яго кахання да Хрысці яна не магла, хіба толькі знарок рабіла выгляд, што гэта не абыходзіць і не тычыцца яе.

Настылая, схаладзелая жальба абняла, абвеяла Імполя, і яму зрабілася шкода Алесі, бо ўсё тое благое ды грэшнае яна ўчыніла праз яго і таму гэтак страшна і помсліва маўчыць.

Няўжо быў, ёсць і астанецца гэтакім несправядлівым свет? Няўжо няма праведнасці?

Імполь ішоў вузкаю сцежкаю, што шылася каля плеценага частакола, пабеленых мелам і ўжо аблезлых штыкетаў, абмінаючы абслізганыя каменні, што ляжалі напроці кожнага двара заміж лавак у халадку пад навіссю бярозавага вецця.

З набрынялых таўкачыкаў вецер зрываў і нёс у вочы мігатлівую луску насення.

Заняты думкамі, Імполь не бачыў ні шапаткіх бярэзін, ні разарванага іхнім трапяткім лісцем сухога сляпучага сонца. Ачуціў яго звонкі ляскат жалеза ўжо з Герасімцовай нізенькай, накрытай драніцаю кузні, што стаяла пры шашы. Імполь звярнуў на папярочную вуліцу, раптам выбраўшыся з цяжкага, глыбокага віру сваіх думак на лёгкі свет яснасці.

За чужымі гумнамі ўчуў смуродліва-чадны пах рэдзенькага сіняватага дымка і ўжо вясёлы сам падаўся на дробны і лёгкі стук малатка па кавадле і густы мужчынскі рогат.

Па зрудзелым і аблезлым каракулевым каўпаку першым згледзеў Язапата Змыслу і нейкага чужога вусатага чалавека, што трымаў за нагу, паставіўшы капытом на ўбіты ў калодку шпень, буланага з выцвілаю грываю каня.

Герасімец, прыгнуўшыся, са з'еханаю набок кепкаю, гнаў у падкову вухналі — стукаў спаднізу капыта малатком. Купка мужчын, што стаялі так, не маючы чаго рабіць і абы збавіць час, цікавалі за кавальскаю работай.

З-за кузні высунуліся дзве незнаёмыя маладзіцы, і па іхнім вострым, крышку падазроным, з-пад насупленых броваў, зірку Імполь дагадаўся, што яны, напэўна, ведаюць яго ці мо чулі пра тое, што пляце кругом Алесі ўсё Верасава.

Збіваючыся нат з хады ад гэтага вострага і пільнага зірку чужых вачэй, Імполь падышоў да купкі мужчын, дзе дробна рагатаў, драпаючы пад каўпаком лысаватае цемя, маленькі зморшчаны Язапат Змысла.

— Гэ, ці чулі?Ваўчок ужо новага хлеба напёк.

— Што ты кажаш? — устрапянуўся высокі, з абвіслымі вусамі чалавек, што трымаў за нагу буланага каня.

— А то й кажу — напёк. Але халера,— Язапат Змысла, зажмурыўшыся, як яму ў вочы зайшоў дым, выціснуў з гэтых заплаканых вачэй слязу,— які там хлеб, адзін закалец. Кіт, а не хлеб.

— Дзіва што, зерне не налілося,— павярнуўся сюды да купкі мужчын чалавек, што трымаў каня.

— Я ж і кажу,— Змысла расцёр на зморшчанай шчацэ сваю, мусіць, казытліва-пякучую слязу.

— А хлеб яшчэ ад печы залежыць,— умяшалася ў гутарку мажная з рудым, абветраным тварам і загарэлымі лыткамі босых ног круглавідая маладзіца.

— Залежыць-то залежыць, але ж хто гэта жне няспелае жыта.

— Падпябенне пізкае — хлеб згарыць, высокае — будзе недапечаны, як кіт. Во што значыць печ,— сказала і адвярнулася дзябёлая маладзіца.

— Ат, не кажы, які гэта хлеб з нявыспелага жыта,— махнуў каля вуха рукою, як адмахнуўся ад надаеднае мухі, Язапат Змысла.

— А хлеб якраз удаўся,— не стрываў, аказаўся Імполь.

Язапат крутнуўся, шукаючы сіненькімі, не выцвілымі вочкамі, хто гэта сказаў, і, убачыўшы Імполя, не паверыў.

— Не благі хлеб,— спакойна, каб не ўгнявіць старога, паўтарыў сваё Імполь.

— А сам каштаваў?

— Нават цяпер.

— Нешта ты ідзеш не ад Ваўчка, а з дому.

— Не так важна, дзе ён ходзіць, а важна, што ён каштуе,— засмяяўся ўжо і каваль, адварочваючы цяжкі скураны фартух і хаваючы ў кішэнь грошы, якія сыпнуў яму ў жменю высокі, з абвіслымі вусамі мужчына.

— А што, хлопец відны, чаму не хадзіць крывою дарогаю,— заступіўся за Імполя чужы мужчына, трымаючы каля цугляў за повад і задам заганяючы ў аглоблі падкаванага ўжо каня.

— Ды ж,— угнуў галаў, каб не глядзець Імполю ў вочы, і ўсё ж упікнуў яго Язапат Змысла:— Нарабіў тут і простых, і крывых. Гэта праўду ты кажаш, Люцыян.

Мужчыны скрывіліся ад хітрага падазронага смеху. Нават маладзіцы, што пацягнуліся ўслед за кавалём да карыта з тачылам, трымаючы свае перавязаныя шырокімі палатнянымі лапікамі сярпы, нядобра, як здалося Імполю, зноў з патайной цікавасцю і скоса зіркнулі на яго.

Пад Імполем нібы раскалоўся і аб'ехаў высокі стромы бераг,— пад грудзі падвярнулася штось пякучае.

Адно каваль, каб перабіць Змыслаў намёк, знарок гукнуў Імполя:

— Ідзі, брацятка, пакруці,— і паказаў на тачыла, трымаючы абедзвюма рукамі над няроўным сточаным колам серп.

— Ага, памажэця,— трохі сумеўшыся, нейкім ласкавым, зпябожаным голасам папрасіла мажная маладзіца з смуглявымі загарэлымі лыткамі.

Прыгледзеўшыся да яе, скарэй па падпухлых губах, чым па жываце, Імполь угадаў, што яна цяжарная.

Абыходзячы горбу наскіданых кавалкаў жалеза, падышоў да высокага на чатырох ножках карыта і, палажыўшы пры сцяне свае сярпы, памаленьку за жалезную корбу закруціў шарае цэментовае кола, што захлюпала, купаючыся да палавіны ў вадзе. Успомнілася рэчка, кветка нізіперніку ў гразі і яна, Хрысця, з заверчанай нагою, тады, калі прыбягала да яго на сенажаць. І бачыш, як пільнуе ўсё Верасава, нават стары Змысла смяецца... Не, тут, у Версаве, не ўжыць. Трэба кідаць усё!..

Пасля чацвёртага сярпа ў плячы і локці здранцвела рука. Бачачы, што Імполь перастараўся і цяжка сапе, яго ўжо трохі астудзіў каваль:

— Не мардуйся, брацятка, перамяні руку.

— Во мужчына змарыўся,— смяяліся маладзіцы, радыя, што не трэба круціць тачыла, але для прыліку падступіліся да карыта:— Можа, ужо зменім?

— Пакаміcь няхай круціць. Яму толькі патурай,— махнуў пляскатаю кепкаю каваль.

Пад сярпом зноў зашоргала мокрае цэментовае кола, і пад яго шоргат у Імполевай галаве гэтак скора пабегла, закруцілася набалелая тупая думка: «Цяпepaчы, сёння во сказаць Алесі, што кіне ўсё — і яе, і гэтыя абмовы, і гэтае зненавідзенае Верасава...»

Падагнаны злосцю, вярнуўся ў хату, палажыў на заслоне сярпы і сказаў у глухую ўжо Алесіну спіну:

— Так я пайду, як ты хочаш!..

Яна, мусіць, збітая з тропу, доўга маўчала, потым выцiснула, як перамогшы сябе:

— Сходзіш у Лезнявічы ноймеш жней, бо я толькі, можа, і паспею зажаць жыта...

— А каго ж там наняць, хіба ж я ведаю? — як пабіты і звялы, ледзьве тоячы злосць, аказаўся ён.

— Язык дапытае,— у голасе яе ўсё не спадала, як Імполю здавалася, злосць і пыха, і ён, счуўшы, як аддаецца з вуліцы тупат быдла, зіркнуў у акно: карова, адсунуўшы круглымі бакамі веснікі, а ўслед за ёю і цялушка, прывучаныя да радзюжкі зелля, ляцелі ў двор.

— Чаго цябе нясе? — крыкнуў тут у хаце і рады ўжо, што можа ўцячы ад яе, ад Алесі, ад яе злосці, з усяе моцы затурзаў дзверы.

# XXII

Перапалоханая ды жахліва ўражаная першымі няўдачнымі родамі, Алеся з патайной боязззю чакала другіх.

Але нядужая ледкая радасць, што будзе дзіця, трохі адганяла гэты халодны лядовы страх.

Пазбіраўшы ды перамыўшы старыя палатняныя сарочкі, распарола іх на дзіцячыя пялюшкі, выкачала на пранік і, акуратна згорнутыя, паклала ў куфар, на той недалёкі, колькі раз ужо аблічаны дзень.

Два няпоўныя тыдні асталося да таго дня, што перайначыць яе труднае, агорклае жыццё, уратуе ад усяго ліхога.

У халадку, пад вішняю, што нясмела ды нягуста зіркала з-пад лісця чырвона-яснымі яшчэ няспелымі ягадамі, начапіўшы на палец нагі, выткала яшчэ шырокі — у дзве ніткі, ці, як яшчэ кажуць, у костачку,— суконны пояс, каб чым было спавіць дзіця.

Прыгожы, бардовага колеру ў белыя палоскі, патрымала яго ў руках і нават смехам пахваліла сябе — глядзі, якая ўдалая! — і занясла ў хату, скруціла ў сувойчык, паклаўшы ў прыскрыпак куфра да вымытых і выкачаных на пранік пялюшак.

Пастаяла задумана, так сабе, ад нечаканае радасці, што мецьме дзіця, што будзе дзеля каго жыць ды ўсё вытрываць, прыганула той блізкі, даўно аблічаны дзень і схамянулася, што пара ўжо гаварыць з цёткаю Сцяпаняю.

Верасаўскія маладзіцы, што радзілі па першым разе, ды зношаныя, заўчасна састараныя жанчыны, што ўжо сароміліся сваіх астатніх родаў, клікалі маленькую сухавую Юлечку, а яна, Алеся, намецілася даўно ўзяць за бабку ціхую, мо залішне сарамяжую цётку Сцяпаню — даўнейшую маміну таварышку.

Нешта ласкавае, як да роднае маці, чула Алеся да гэтай высокай і акуратнай, у доўгай вытканай спадніцы з чыстым белым фартухом, бяздзетнай кабеты, што заўсёды, дзе ўжо ні стрэўшы, абдымае, прыгорне да сябе Алесю і нават ужо з мокрымі вачмі ад радасці скажа:

— Ай, мае вы дзеткі, стрэла цябе і душою адмаладзела. Як жа ж ты, мая любая, чуешся?

Сцяўшы звялыя, пабітыя шнаркамі вусны і паківаўшы ў такт Алесінай гутарцы галавою, ажыве сама пасля кожнага навучання, як жыць і чаго сцерагчыся, кожны раз успомніць:

— Убачу цябе і маму тваю нябожчыцу прыгану. Як

разам у Дварчаны да касцёла хадзілі. Нездароўчая яна вельмі была. Бежымо дадому, а яна задыхаецца і просіць: «Сцепаніда, не спяшай, [redacted] ж не сыдуся з табою, сэрца нешта дрыжыць». А я смяюся, бывала: «Ты чуеш, дзе тое сэрца, а я не ведаю, з якога яно боку». Бачыш, многа і не пажыла...

І кожны раз нібы няўзнак, нібы мімаходзь скажа:

— Мусіць, ты нічога не ясі? Зблажэла наўнэт.

А потым пра тое, што так трывожыць Алесю:

— Па табе бачу, не больш як месяц асталося. Мо няпраўду кажу?

Алеся згодна кіўне галавою:

— Праўду.

— Мяне ж кліч. Мо напрошвацца і нядобра.

Алеся сама, без гэтага напамінку, выбрала яе, цётку Сцяпаню, хоць брыдкасць і сорам чула перад ёю.

А сёння надумала схадзіць да цёткі Сцяпані. Даўно хацела.

Прыбралася, пастаяла на сваім надворку, счакаўшы, покуль не нагаворацца пры чужых весніках бабы, што падганялі кароў, пакуль не праедуць на поле фурманкі, і памаленьку пайшла ў другі канец Верасава.

Сымонава хата з выплеценым, замазаным ґлінаю ды выбеленым вапнаю шчытом стаяла зводдаль ад вёскі.

Высунуўшыся з-за Мацюшкавага гумна на вузенькую ў мякенькім спарышніку ды рахманых лілова-сіненькіх катках сцежку, Алеся з трапятлівай радасцю зірнула на гэты белы пад ражком саламянае страхі шчыт.

Белым сухотнікам зарос ніколі не араны пясчаны аблог у канцы вёскі, і ўжо, як пад восень, пахла прывялым на сонцы палыном.

Цвёрдая, у ружаватым жвірку сцежка дабегла да зялёнага частакола з начаплянымі жоўтымі збанкамі ды падсохлым, звязаным у пучкі кменам.

Счуўшы чужога чалавека, зазвінеў дротам і да брамы турзануўся, захроп ад злосці калматы сабака.

— Пайшоў во, куды!

Згледзеўшы ў адчыненай браме Алесю, з зялёнага кучаравага спарышніку, на якім была разаслана радзюжка з чорнаю зрудзелаю воўнаю, паднялася цётка Сцяпаня, схапіла сабаку за нашыйнік, павяла да хлява, каб там ужо на вугле за цвік зачапіць ланцуг.

— Воўну перабіраеце? — абы пачаць гутарку, усунуўшыся за браму, спытала Алеся.

— Вой, не пазнала, стары сляпак, што гэта ты. Аляксандрачка,— і, прысеўшы каля радзюжкі з воўнаю, сказала:— Нічагутка ўжо не бачу, вачэй німашука. У часальню збіраюся. Мо на панчохі сабе спраду. Бо на што іншае сілы ўжо не маю.

— А я во і не мыла яшчэ,— прызналася Алеся, прыглядаючыся да старое Сцяпані — прыгорбленай, у доўгай бурачковай спадніцы: на звялым жаўтлявым твары свіціліся вочы і глыбокі, неразгаданы смутак стыў у іх вадзяністай сіняватасці.

— Гэта ж ці чула ты? Натоль начыста захвастаў старую Такараду. Можа, і памрэ. Устаць з ложка не можа, чуць жыва.

— Што вы кажаце? — Алеся, ашаломленая навіною, таксама прысела з другога боку радзюжкі.

— А мой ты божа высокі, нічагутка не мяняецца на гэтым свеце,— старая падсунулася бліжай да купкі смуродлівай, яшчэ не выветранай ад авечага поту воўны, разарвала рукамі злямцаваны касмык.

— Некалі гэтаксама мая цётка Разэля — бацькава сястра — захвастала нашу бабу Ганну. Нават за тое, што прыйшла на маё вяселле.

Алеся апусціла вочы, учуўшы, як гарачае полымя брыдкасці шуганула па ёй, перапытала асцярожна:

— А за што?

— Грошы распазычыла, што яе мужык назбіраў, мой дзед Пятрук. Людзі куплялі зямлю, а яна пазычала грошы ды піла. Нап'ецца і поначы дарогу ў Верасава шукае. Так і асталася без зямлі... За гэта дачка і біла потым.

Алеся, каб перавесці гутарку на іншае, перапытала:

— А як вы маецеся, цётка Сцяпаня?

— Як маюся? — шчопцямі турзанула, ніяк не могучы разарваць зляжалы касмылёк воўны, і хмыкнула старая:— Ледзьве ўжо дыхаю. Дзве чвэрці да смерці. Але во, завідная баба — усё робіць. Усё жыццё, як адзін дзень, у яе работа. Але доўга я, мусіць, не пажыву,— і вінавата, сарамяжліва ўсміхнулася.

— Што вы, цётка Сцяпаня, а хто ж мне во дзіцятка прыме? Я ж вас прыйшла прасіць,— Алеся абцягнула на пукатым жываце і каленях сваю зялёную, стракатую ад ружовых і белых кветачак сукенку.

— Мае дзеткі, прыйду, ой, што ты кажаш, прыйду,— падняла свой зжоўклы твар старая і, мусіць, ужо радая, нібы спадцішка, перапытала:

— Чаму ж Юльку не просіш, га?

Алеся злавіла хітры зірк вадзяністых вачэй, усміхнулася:

— Хіба ж вы, цётка, не прымалі роды? Хіба ж вашыя не бегаюць па вуліцы?

— Скажаш, мае дзеткі,— старая пакруціла галавою ў злінялай тараноўцы.— Бегаюць, ды яшчэ як. Учора іду каля Літвіна Васіля, каля гэтага вушатага, як брэшуць, а меншы яго з гародчыка на мяне камені кідае. Пусціць камень і за сліўку схаваецца. А ты кажаш. Цяпер людзі як звяры парабіліся. І ў цябе во спытаю: як сама жывеш? Чула рознае, няхай ім языкі адсохнуць.

— А што? — як ад блізкага полымя, зачырванелася Алеся.

— Ці ж буду я пераказваць благое,— яна памалу, абапіраючыся на рукі і крывячыся ад болю, паднялася з зямлі, забедавала са слязьмі на вачах:— Так баліць у крыжы, што не ўседзець. Счарвівела я, як той грыб пад хвойкаю. А ты кажаш.— І, сагнуўшыся, трымаючыся абедзвюма рукамі за крыж, нечакана сказала:— Во што ў вас наймічкаю выйшла.

Алеся адапхнулася ад зямлі: са страхам прысела на колінкі.

— Ты ўжо даруй, Аляксандрачка. Я благое не перакажу. А тое, што круціцца яна з тваім, усе знаюць. Можа, пераржыць, перацярпець трэба. Пра сябе во раскажу. Чуеш?

— Чую,— зніякавела Алеся.

— Я ж за сваім ззамаладу спазнала гора,— звесіўшы голаў, загаварыла старая.— Ці ж ведаеш, мае дзеткі, што я другая ў яго была. Першая памерла. І мяне, другое, яму мала было. Да Юдалі яшчэ бегаў. Гулячая тут у нашай вёсцы прыбілася, бежанка. Немцы прывезлі, недзе з-пад Лодзі. Так я сама пачала яе намаўляць, на кватэру ўзяла.

— Што вы кажаце, цётка Сцяпаня? — Алеся махнула ў сябе перад вачмі рукою, нібы адагнала нейкую здань, не паверыла.

— Хадзіла, намаўляла да сябе тую Юдалю. І ты думаеш, здаволіўся, успакоіўся чалавек? Не,— старая абцерла рукою свае слязлівыя вочы.— Такі ўжо ад роду. І твой у майго ўдаўся, па маім пайшоў, як па бацьку. Такая ўжо наша доля.

Алеся ўчула, як, шухнуўшы, нібы з вядра, на ёй сплы-

вала густая гарачыня і млелі, рабіліся як нежывымі ногі. Яна ледзьве паднялася ад зямлі.

«Няхай крые бог, яшчэ і абамлею тут»,— Алеся са страхам пахіснулася да плота, ухапілася за крывую акораную частаколіну.

— Табе недабрыцца? — жахнулася старая, убачыўшы, як змянілася з твару Алеся.

— Нешта пад грудзі падступіла.

— Вой, што ты кажаш? — скрывіла набок галаў старая, цікуючы адным, як курыца, вокам, і раптам ва ўпор спытала:— Можа, пра свайго забедавала? Га? Ды ліха яго не возьме. Пагойсае, як сабака, і з перакушанаю нагою прыйдзе дахаты. Ой, прыйдзе. А табе трэба сіл набірацца. Есці ўсё трэба, не прыглядацца, не шукаць прысмакаў. Якавая ты?

Ад гэтага пагрозлівага голасу старое Сцяпані, ад вострага, што дзьмуў з-за шчарбатага вугла хаты, скразняку адчула сябе лягчэй, нават акрыяла на якую хвілю і, упарта несучы свой нялёгкі жывот, пайшла да брамы.

За ёю, махаючы доўгімі рукамі і чапляючы суконнаю спадніцаю за белыя кветачкі сухотніку, падбегла старая:

— Растрывожыла я цябе. Далікатная ты вельмі ж. Сцеражыся завіднага вока.

— Каравыя вочы дыму не баяцца. Чаго ж мне ўжо, цётка Сцяпаня...

— Не ўбівайся вельмі, яшчэ маладая, яшчэ ўсяго нажывеш — і благога, і добрага. Гэта толькі першыня.

Адсунуўшы перад сабою веснічкі, Алеся заляскала босымі нагамі па цвёрдай, у жвірыстым каменні, сцежцы, што тачылася праз ружавата-сівыя мякенькія каткі, спіною чула далёкі з-за плота голас старое Сцяпані:

— Не ўбівайся. Усё добра будзе. Бога толькі помні. Дзіцятка знойдзецца — і свет пераменіцца.

Алеся адышлася, але за ёю доўгаю ніткаю цягнулася гэтае, што сказала цётка Сцяпаня: «Дзіцятка знойдзецца — і свет пераменіцца».

Выплесканая нагамі сцежка, прабегшы наўскасяк ружаваты ад мятліцы ды каткоў аблог, выбегла на вуліцу ў цянёк за шарымі, што густа пахлі свежым гаркаватым сенам, гумнамі. Ад яго гаркаватага паху Алесю заблажыла і закружылася ў галаве. Яна спынілася, каб не ўпасці. Пастаяла, паглядзела, як каля спарышніку на сцежцы ў шэрым пухкім пыле купаліся маладыя верабейчыкі. Першым у пыл ускочыў карычняваты, мусіць, стары, і кругa яго

ляглі на раздзьмутае волле і затрапяталі крыльцамі ясна-дзюбыя маладыя.

Усміхаючыся сама сабе, Алеся нат абышла гэтае месца, завярнула на другі бок вуліцы да яловага аблушчанага частакола. У цёмна-зялёным лісці дрэў засвяціліся ружаватыя яблычкі. Загадзя пастаўленыя вілаватыя падпоры трымалі яшчэ не ацяжэлыя ад плоду лапы. Алеся абвяла сваімі асалевелымі вачмі маладыя, але ўжо адужэлы садок Лаўрына Баравіка, і ўспомнілася ёй даўняе, як па вайне яны з мамаю-нябожчыцаю хадзілі ў кашалеўскі лес па ягады, праз панскі спалены двор з ацалелаю белаю капліцаю, з запушчанымі сажалкамі, з грэбляю, абсаджанаю выноснымі сухаверхімі таполямі і з хатаю, накрытаю счарнелаю драніцай, за гэтым дваром у старавечных клёнах і ліпах. Каля хаткі раскашавала, развесіўшы сагнутае ад круглых і вялікіх, як рэпа, яблыкаў шырокае галлё, немаладая, зраджайная яблыня. Як з якога галоднага краю, глядзелі яны, верасаўскія дзеці, што ніколі не бачылі добрае садавіны, на гэтыя зеленкаватыя няспелыя яблыкі. Але маладзіцы ды старыя бабы не далі падысці нат блізка да тае хаткі.

«Бронь божа! Ёдкаў гэта двор. А ён, злы, урэдны пан, яшчэ хацеў, каб паншчына была. Нават панэ яго застрэлілі, а вы яблыкі...»

Алесю брала дзіва: колькі год прайшло, а ёй усё помніцца тая разложыстая яблыня, што аблегла лапамі на ражны падпораў, абсыпаная буйнымі і круглымі, як рэпа, яблыкамі.

— Што цікаеш так, Аляксандра?

Учуўшы за спіною голас, Алеся нават сумелася. Абярнулася назад: на сцежцы каля плота борзда тупала босымі нагамі Лаўрынава жонка — загарэлая, чорная, як смугаль, з бліпчастымі, як шклянымі, іскрамі ў чорна-сініх валасах, што выбіліся з-пад хусткі. Засмяялася, выскаляючы белыя моцныя зубы:

— Мусіць, яблыка хочаш?

— Ага,— зачырванелася Алеся, бо чула, як ёй зажадалася пакаштаваць спакусліва-прыгожых ружаватых яблыкаў.

— Ведаю,— зноў паказала свае роўненькія, як зярняты ў коласе, белыя на смуглявым твары зубы Лаўрынава жонка і зайшла ў гародчык з трыма вялікімі яблынямі перад вокнамі хаты.— Некалі, як была тоўстаю, як хадзіла першым дзіцем, то завязь ела. Бабы крывяцца, глядзець не

могуць, а я ем, аж за вушамі трашчыць, і так мне смачна, няхай крые бог. Смехата бярэ, на тоўстых баб гледзячы. Чаго ім толькі не зажадаецца.— Яна злавіла яблыньку за выгінастую галіну, з парамі яшчэ дробных, з курынае яйка, няспелых яблыкаў.

Алеся, глытаючы сліну, чакала за аблезлым ад кары частаколам.

— Ой, даволі, нашто ж столькі, ці ж дома нямашука? — крыкнула ўжо туды за плот, убачыўшы, што Лаўрынава Юзя, трымаючы за беражок фартух, з лускатам латошыць у яго няспелыя яблыкі.

— Покуль дадому дойдзеш, усе з'ясі.— І, рассунуўшы частаколіны падала цэлыя прыгаршчы драбнаватых няспелых яблыкаў.— З'ясі, я некалі не столькі завязі ела.

Алеся і праўда, покуль дайшла дадому, усё, нібы спаганяючы вялікі голад, са смакам схрумстала. І дзівілася сама з сябе, што помніцца той даўнейшы Крамяніцкі двор, што не згубілася ў памяці тая яблыня з вялікімі і круглымі, як рэпа, познімі, самымі асеннімі яблыкамі, і тая, атынкаваная, з шарымі аканіцамі хата, накрытая счарнелаю драніцаю.

Удома, каля непрычыненай брамы, драмала сучачка. Адтуль на вуліцу заварочваў свежы, вывернуты шынамі, след ад воза. Імполь, пэўна, нядаўна выехаў з двара. Алеся нават падняла галаў, паўзіралася за крыж на дарогу, але ўбачыла, што адтуль з шашы ў вёску скіравала фурманка: з глыбокага зялёнага палукашка выглядвала сіняватая хустка — канём правіла невядомая баба.

Ці не Пытлева сваячка — удава з Косава? Алеся пазнала восаўскую Аўдолю і завярнула ў двор.

Даўняя, ужо агорклая злосць паднялася на Імполя: што яго гоніць у тыя Дварчаны ездзіць. Няўжо толькі прадаць каменні ды сысціся з кім ды выпіць? Напрадаваў усе каменні з крушняў. А яны, гэтыя каменні, і самім спатрэбіліся б: выбрукаваць надворак ці падаслаць у гумне пад ток, што даўно вылушчыўся.

Ды з кім ён, напраўдзе, п'е? Мо з ёю, мо з Хрысцяю? Нешта даўкае падкацілася Алесі пад горла, і яе, аж да цемнаты ў вачах, пачало блажыць.

Яна памалу дайшла ў халадок шапаткой бярэзіны да старое алехавае калодачкі, што стаяла каля чорнага струпаватага камля, дзе гойдаўся разарваны цень ад доўгага звіслага венця. Прысела, учуўшы, што ў вушах, як ад ка-

сцельных званоў, не аціхае цёткі Сцяпані голас: «І твой у майго ўдаўся... Такая ўжо наша доля».

«Няўжо?» — знерухомела Алеся ад гэтых цяжкіх, што навальваліся, як вялікі падкопаны камень, думак. І раптам, як прарваўшыся з балючай скулы сукровіца, хлынула мсцівая злосць і нянавісць: «Не, вадзіць ці намаўляць каханак я яму не буду! Не!»

Але спадыспаду душы вырвалася, высачылася нешта другое: «Але ж бачыш, і маўчыш, і церпіш, і зносіш усё!»

Божа літасцівы! Цэлы свет упаў, абваліўся на Алесю. І яна, аглушаная ім, не чула, як над ёю суха і аднастайна шалясцела бярэзіна, трапятліва паблісквоючы лісцем. З набрынялых спелых таўкачыкаў церусілася і плыла разам з ветрам, засыпаючы сцежку, карычняватая луска з макавым зернем насення. Гэтыя празрыстыя крыжыкі віліся, мігатліва кружыліся над Алесяю, садзіліся на хустку, казытліва сплывалі па руках, што пакутна ляжалі на каленях.

Густы высокі шэлест бярэзіны студзіў гарачую, раз'ятраную душу, і Алеся крышку акрыялая, з ціхім асалавелым спакоем думала пра сваё дзіцятка, што, прыйшоўшы на свет, адслоніць яго.

Ачнулася яна ад рыпу калёс і цяжкага тупату конскіх ног — у двор уязджаў Імполь — і здзівілася, што не бачыла, як ён адчыпіў і аднёс да плота дашчаную браму.

«Дзе ж гэта ён быў? Няўжо зноў вазіў прадаваць камені?» — пякучаю маланкаю мільганула думка, а ўслед за ёю зацерусіў роспы дождж спакою, што ён, Імполь, дома.

## XXIII

Яна ішла паволі, але ўпарта, як падымалася на вялікую неадольную гору, далікатна і горда несучы перад сабою, напоўнены яшчэ адным таемным жыццём, свой цяжарны жывот.

У правай яе руцэ блішчаў наточаны серп і бялела выцвілая, завязаная ражкамі хустка з акрайцам чорствага хлеба, ■ сінявата-ружовым кавалачкам солкае, выхаванае на гарышчы паляндвіцы і сівым, надоечы вырваным з грады, васпаватым гурком, у левай яна трымала жоўты паліваны збанок са свежаю вадою, у якой пакалыхваліся дробныя, карычнявата-празрыстыя крыльцы бярозавага насення.

Гэтым бярозавым насеннем цяпер было засыпана ўсё: і верасаўскія пясчаныя сцежкі, і вада ў вёдрах, і павуціна каля вуглоў, і кепкі мужчын, і жаночыя валасы.

Ублытаўшыся ў крутую пасму, што выслізнула з-пад хусткі, у Алесі таксама стаілася гэтая карычняватая, нацярушаная ва ўчарашні ветраны дзень з набрынялых перапелых таўкачыкаў мігатлівая дробная луска.

Свет аглух ад жарышча і спякоты, што выдаліся каторы ўжо дзень. Каля частаколаў самлеў, адвярнуўшы ад сонца свае цяжкія шапкі, цыбаты слanечнік. І звялі, зляглі, скурчыўшы бурачнае лічанне, шорсткакалючы гурочнік і падсохлае пер'е цыбулі, верасаўскія гародчыкі. Толькі дзе ў куточку іх красавала, падымаючы бурачковыя таўкачыкі-мяцёлкі, высокая васілька, якою верасаўцы ўквечвалі пучкі звязанага збожжа ды лёну, калі няслі свяніцiь.

Млелі ў гарачым пяску куры. Высока над карычняватымі ад моху каўпакамі гумнаў падымаліся шчабятлівыя ластаўкі, і каля плота ў сівавата-белых пуппювых кветках малісы і глухой канапелькі, што звесіла лісце, рахмана звінелі руплівыя, увішныя пчолы.

За вялікімі, абсыпанымі зеленкаватым лішаём каменнямі, што падпіралі вілаваты слупок жардзянага плота, Алеся завярнула на папярочную вуліцу, радая, што нікога не спаткала, і ўжо давольная, што ў душы жыве нікім не растрывожаная адзінота, выйшла за вёску.

Астатнія часы яна варажылася трапіць на чужы язык і на чужыя вочы. Шырокая ў горкім і гарачым, як прысак, перацёртым пяску дарога перабегла прыціхлую, спярэшчаную косым ценем бярэзін белаватую шашу і высланы дошкамі пераезд вузкай калейкі.

Па босых нагах заказытаўся вострым павыцінаным лісцем шорсткі, у белых шчотках цвету, моцны і нязводны на гэтай нішчымнай зямлі крываўнік.

З аднаго боку дарогі стаяла зеленаватая, што толькі выпусціла колас, марная, заглушаная калючымі бодзямі і ціхай, затоенай валошкай, ярыца — неўмалотнае яравое жыта, якое з усіх верасаўцаў сеяў адзін толькі стары Юрачка, як сеяў — таксама адзін — неўмалотную, нізенькую сачыўку; з другога боку густа пахла і, здэцца, шапацела і гнулася ад незлічонага гуду пчол грэчка.

Алеся не любіла гэтай пары, калі цвіла грэчка, няўцям напамінаючы, што блізіцца, нат не паспеў чалавек азірнуцца, смутная восень і пакарацеў дзень. Не любіла яшчэ

і таму, што ў тую восень мама астатні раз рвала грэчку. У Верасаве на пясчанай зямлі ніхто яе не жаў, а найболей, стоячы на колінках, рвалі рукамі.

І цяпер белавата-ружовы, звінючы ад пчол лапік прыгануў Алесі, як яны з мамаю яшчэ да хутароў, калі было поле ў шнурах, прыходзілі сюды, у Глінішчы, на гэты блізенькі ад вёскі палетак, рваць грэчку. Апрануўшы старыя доўгія спадніцы, станавіліся на калені перад сваім, не вельмі вузкім загонам і абедзвюма рукамі цягалі з зямлі саладжава-горкае сцябло, ядрона ссыпанае чорнымі зярняткамі. Нарваўшы тоўсты пук, абівалі аб калена з карэння пясок, рассцілалі за сабою, каб вечарам ужо сабраць і паставіць у кучкі.

Алеся помніць: мама, махаючы ўсё найбольш адною рукою, бо другая надта балела ў плячы, расказвала пра нейкую старую дварчанскую яўрэйку, што, паміраючы, прыклікала да сябе дачок ды сказала на іх: «Падайце мне руку». Меншая, дзяўча яшчэ, не падала. Падала старшая, ужо замужняя, што мела дзіця-калеку. Маці тады заплакала і суцешае яе: «Няшчаслівa ты. Калі ёсцека бог, то я нават на тым свеце выпрашу табе шчасце». І праўда, праз месяц, як яна памерла, з Амерыкі багатыя спадкі-даляры той яўрэйцы прыйшлі.

Мама тады расказала пра гэта і горка засмяялася:

— А што я выпрашу для цябе ў бога?

— Што ты кажаш, мама,— схаладзела, аблілося страхам Алесіна сэрца: яно праўда як чула бяду, як чула, мусіць, і маці.

— А я, дачушка, доўга не пажыву.

— Мама! — Алеся нат не хацела, каб маці гаварыла пра гэта.

— Нейкая нездароўчая я зрабілася.

У тую восень мама і памерла.

Алеся дайшла да лапіка бела-ружовай грэчкі, і ногі як спаткнуліся, а ў вачах ад слёз скаламуцеў свет.

Пераступіўшы глыбокія, аброслыя калматым спарышнікам каляіны, перайшла на другі бок дарогі. Лёгкі віхор краўся па зялёнай ярыцы, гнуў яе, нібы хто вёў вялікаю рукою.

Палахлівы шэпт жыта студзіў вірлівы кіпень Алесіных думак. Высока ў выцвілым ад спякоты небе зморана крумкаў адзінокі крумкач.

Алеся ўсё гэтаксама памалу і ўпарта ішла жаўтлявым паскам дарогі, над якою схілілася, палягло сцяною збож-

жа. Замшэлымі стракатымі лабацінамі з белых дробных кветак сухотніку і шырокіх шчотак крываўніку выглядалі вялікія патайныя камені, і каляіны абміналі іх, зварочваючы да жыта: зачэпленае воссю, ламалася ў пруткіх каленцах ружаватае сцябло — на ім чарнела тлустае шмаравідла. На дарозе ляжалі вырваныя і зжаваныя колам пучкі саломы.

Алеся ішла, нібы плывучы па вадзе, па гэтым асцяватым шорсткім жытнім шуме, уся апанаваная думкамі пра маці: «Каб яна жыла, то, пэўна, у яе, у Алесі, інакш усё павярнулася б».

Над жаўтлява-белаватымі ад спалавелага жыта грудамі ўставалі сіваватыя, набрынялыя дажджом хмаркі. Па стракатым, нібы размаляваным па зялёныя і белаватыя шашачкі, полі бег разбэрсаны калматы цень, і жывым холадам дыхнула адтуль.

Алеся азірнулася, нібы не паверыўшы, ці грэе яно, летняе, яшчэ не астылае сонца, што плыло над цёмна-зялёнымі прысадамі вёскі, над карычнявата-шарымі стрэхамі гумнаў і хат, і, аслепшы ад яго яснасці, спынілася перад высокім грудком на пясчаным растаптаным крыжы дзвюх палявых дарог. Адна з іх, крута падаючы ў лагчыну між густых ялаўцовых кустоў і рабых замшэлых каменняў, бегла ў кучаравы шчытны лясок, над якім разложыстымі пляскатымі кронамі падымаліся старыя хвойкі, другая, хаваючыся ў глыбокім і шапаткім жыце, заварочвала да гранічнага канца, дзе стаяў слупок з высмаленым чорным арлом.

У ружаватай і ценькай мятліцы затаіліся натапыраныя, як нэндзнае кацяня, сінія кветкі паўночніку.

Алеся ўспомніла, што так і не нарвала гэтага соннага зелля, перабіла тады смерць старое Літаварыхі.

За цёмным, мігатлівым і шапаткім роем цяжка звіслых ад поўных зярнятак, асцюкаватых, натапыраных каласоў ганарыста вызіралі шапкі першых, яшчэ ўчора складзеных мэндляў. І там, каля іх, за жывою раскалыханаю сцяною ўрадлівага высокага жыта, махалася чорная пляскатая кепка і вызіраў дзюбок нізка пасунутай на вочы белай хусткі. Там жалі жыта старыя Шайбакі. Ды сёння ўсё Верасава, як змовіўшыся, выйшла на жніво — выгнала ясная, сухая пагода,— і кругом на кароткіх яшчэ загонах цемнаватага ржышча свяціліся жаўтлявай саломай першыя дзесяткі пажатых і пастаўленых пад пякучае сонца тоўстых, у шэсцьдзесят жмень, снапоў.

Сёння Алеся ад нейкай ужо завіднай злосці накрычала на Імполя, што наказаў лезнявіцкім нанятым жнеям прыйсці заўтра. І не ўседзела сама ў хаце: управіўшыся каля печы, хоць позна, але выбегла з дому, каб зажаць ды паставіць на покуці першы снапок.

Цяпер, падыходзячы да шчоткі чужога ржышча, што між лапушыстых, ад скупасці саджаных у кожную баразну, стракатых ад ліловага цвету картопляў далёка адбеглася ад дарогі, учула зноў нясцерпную злосць на Імполя. Каб перабіць яе, крыкнула старым Шайбакам, што жалі ўсёй вялікай сям'ёй:

— Бог помач!

— Дзякуем, Аляксандрачка,— падняла сваю дзюбатую ад насунутай хусткі галаў старая Шайбачыха.

— Жыта гляджу, нябось, не благое,— загаварыла Алеся, ужо наровячы распытаць пра Касю, што, кажуць, прыслала [illegible] Латвіі пісьмо.

— Дай божа спажыць,— аказаўся і сам гаспадар, чорны, як грак, і даўганосы Шайбак, трымаючы пад каласы сярпом і несучы на перавясла нажатую жменю.

— Цяжка старым.

— Дзіва што, мая любка, пастой во ў сярпе,— Шайбачыха махнула рукою за спіну. Мусіць, паказваючы на хворы, што не даваў разагнуцца, крыж.

— Учора іду з жніва, а ў мяне ад слабасці ў вачах ржышча расце,— пажаліўся стары, азірнуўшыся на дачок, гэтакіх даўганосых, як ён сам, што перасталі жаць і слухалі гутарку.

Алеся паставіла на траву збанок, каб пераманіць самлелую руку, і спытала ўжо:

— Як жа ж Кася там? Кажуць, прыслала пісьмо. Ці праўда?

— Ці ж лёгка, мае дзеткі, у чужой старане,— у старой задрыжаў і памякчэў голас.

— А во дзіва,— засмяяўся, выстаўляючы верхнія бязубыя дзясны, стары Шайбак.— Піша, што там у Латвіі не сярпом, а нейкім нажом жнуць і не жменяю, а грабелькамі ловяць жыта. Праўду кажуць, што край, то абычай,— і ён пакруціў сваім доўгім носам.

— Табе смех, а ёй, беднай, не ўмеючы, як там у гаспадара.

— А я думала, яна ў горадзе,— здзівілася ўжо і Алеся.

— У гаспадара, мая любка. Піша, што хоча ўцячы ў горад на ткацкую фабрыку.

— Можа, й добра, што на гаспадарцы яна,— стары злавіў колькі сцяблін і, заламаўшы, шаргануў па іх сярпом.— Горад разбэшчаны,— сказаў і разагнуўся ён.

— Добра, мусі, там, дзе нас няма,— нагнулася, пэўна, каб ужо не паказаць сваіх слёз, старая Шайбачыха.

Алеся памаленьку падняла палівяны, поўны свежай вады, жоўты збанок, топчучы босымі нагамі казытліва-мякенькую мятліцу, прайшла каля нявыспелага сіва-зеленкаватага аўса і жаўтлявага лёну чужую дзялку і спынілася напроці свайго межавога каменя з выдзеўбленым крыжыкам.

Як скінуць вокам ад зялёнае ў ружаватых, як жар, ясных кветках сардэчніку і злінялых ліловых шчотачках перапялічніку нешырокай сценкі да лабатага крутога грудка цягнулася яе поле. Тут ад дарогі, асвяжаючы душу, ціха і густа, нібы растрывожаны мурашнік, шапацела і хілілася, звесіўшы каласы, зраджайнае ў гэты год жыта. Далей за ім ліняў ячмень і цвіла, падспеўшы і на другі ўкос, маладая пахучая канюшына.

Паставіўшы на выспе парудзелай дзяцелінкі свой цяжкі, што адабраў руку, жоўты збанок, Алеся захлынулася ад адчайнае пякельнае радасці, што стаіць каля свае выпакутаванае зямлі. Няхай гавораць што хочуць, а зямля яе — уся, як скінуць вокам, з гэтым, што ўрадзіла, нібы на якую бяду, шапаткім жытам, як ніколі, каласістаю ярынаю. Соннымі выцвілымі вачмі яна ўзіралася на далёкі грудок і, адчуваючы цяжар свайго горда выстаўленага жывата, знячэўку падумала пра тое невядомае жыццё, што тоіцца там, пра сваё дзіця.

«Яму будзе ўсё: і гэтае поле, і зраджайнае жыта»,— у гарачцы падымаліся, віліся і плылі пад зацішны шэпт шорсткіх вусатых каласоў яе думкі.

Яна ўжо колькі разоў малілася і прасіла бога, каб радзіўся сын — жывы ды здаровы. І, пэўна, выпрасіла, выпакутавала гэтага невядомага чалавека. Бог цяпер злітуецца над ёю, бо ў яе ж нічагутка не асталося, толькі яно, дзіця. Адзін ратунак, літасць і спадзяванне. Бо калі не будзе яго, то нашто тады зямля, усе пакуты?...

Пякучы пот шыбануў па ёй і пачаў астываць халоднай ліпучай расою на лобе, на спіне і нават на далонях рук.

Спешная паводка сумнення падтачыла высокі стромы бераг Алесінай радасці. Старалася ж, рабіла ўсё для яго, для Імполя. Дурная, думала жыцьмуць, як людзі. І на

табе... Вострны, салодкі боль зашчымеў у душы — як сплялося, зблыталася ўсё на свеце.

Вольнаю рукою яна выцерла спацелы лоб, палажыла каля збанка клуначак, падаўшыся да высокай сцяны нахіленага на дарогу ў мігатлівай чырвона-залацістай, тамсям не абсыпанай расе задумліва-стоенага жыта. Злавіла звіслы ад поўных і спелых зярнятак шорсткі, што баязліва натапырыў калючыя асцюкі, колас і, пацягнуўшы да сябе, вырвала разам з карэньчыкамі пруткае, у карычняватых каленцах, жаўтлявае сцябло. Вылушчыла шарацвердаватае зярнятка, кінула ў рот і пажавала, учуўшы прэсны, саладжаны смак жытняе мукі.

Яна любіла гэты смак і пах жыта, як любіла і жаць яго, яшчэ змалку, разам з мамаю, а потым, падросшы ды пасталеўшы ўжо, з бабаю Ганнаю.

І зноў штось цёплае ажыло, ачуняла ў Алесінай душы.

Махнуўшы сярпом, яна перахрысціла гэты цёмна-мігатлівы перад вачыма рой каласоў і растапыранымі пальцамі левай рукі залавіла колькі пруткіх, абвітых спаднізу бярозкаю ружаватых сцяблін, заламала іх, і вострны, у дробных зубках серп з тугім, скрыпучым, ад якога аж халадзела душа, шоргатам упіўся і сцяў жыта.

Здаўна чуты, знаёмы пах сырой саломы закружыў Алесі галаў: прыгадалася нябліжкае жніво і тое, як доўга, покуль не высахне або не счарнее на дажджах, будзе во гэтаксама пахнуць калюча-шапаткое, што зарасце нэндзнымі ліловымі буслікамі, ржышча.

Паклаўшы першую палахліва-трапяткую жменю, Алеся зноў злавіла слізкаватае, пруткае, у затоеных кветачках валошкі жыта, зноў туга пацягнула скрыпучым сярпом.

Над мігатлівымі шапаткімі каласамі зноў закалыхаліся, паплылі Алесіны мыслі. Зноў у нейкай пакутнай, змарданай радасці думалася пра сваё дзіця, што зменіць і перайначыць жыццё. Думалася ўсё пра тое, што народзіцца сын, каб не мець горкай бабскай долі.

Забываючыся пра сваю цяжарнасць, Алеся шморгала ды шморгала сярпом, кладучы на калючым ржышчы жмені таго першага снапка, які сёння панясе дадому, каб паставіць у покуці пад абразом. І ён, гэты невялікі, складзены з пяці жменяў снапок, будзе стаяць у покуці на лаве, покуль не прывязуць з поля ўжо сухое жыта, каб, укладаючы торп, першым паставіць яго ў застаронак гумна.

Дзюбнуўшы ў шчотку ржышча свой серп, Алеся ўзяла

дзве жменькі зжатага жыта, склала іх колас у колас, а потым, прыціснуўшы локцем пад пахаю, завіла, закруціла перавясла. Трымаючы яго на ўсю шырыню разведзеных рук, нагнулася палажыць на жоўта-ружаватае сырое ржышча і няждана амярцвела ад моцнага нечаканага болю, што раскалоў напалам увесь крыж. Спалохалася яна не гэтага раптоўнага болю, што, заслаўшы перад вачыма свет, аддаўся ў галаве, а таго, што схапіў ён не ў пору, бо, як вылічыла сабе, радзіць Алеся павінна была яшчэ праз тыдні два. І як трымала ў распасцёртых руках сырое жытняе перавясла, так і абсунулася на ржышча, самлеўшы ад страшнае здагадкі, што, можа, ізноў вынасіла нежывое дзіця.

Не ведаючы, куды ўжо дзецца ад навальных думак, моцнага, невыноснага болю, што выкручваў і ламаў у паясе косці, заскрыгала зубамі і папаўзла колінкамі на дарогу і, уткнуўшыся тварам у мякенькія ружавата-сівенькія каткі, пачала скубці іх рукамі і грабці пад сябе.

Боль як пачаўся, так раптоўна і перасціх. І яна, яшчэ не верачы сама сабе, што яго няма, нечакана стаілася, асцярожна апаўшы на сівавата-мякенькія каткі, нерухома ляжала, чуючы пад сабою вільготна-халаднаватую, што ласкава студзіла ўсё цела, тугую зямлю.

На лобе казытаўся і пякучымі рагамі сцякаў з броваў на вочы едкі пот.

«Што гэта? Няўжо знак, што пачнуцца роды? — не падымаючыся ад сырое мякенькае травы, падумала яна.— Гэта ж рана яшчэ, я ж не данасіла, божа мілы!»

Памаленьку, абапіраючыся на дрыготкія, самлелыя рукі, Алеся пачала падымацца.

«Божа, няўжо ты мяне не пашкадуеш, не злітуешся нада мною? Божа высокі».

Уставала доўга, пахістваючыся з боку на бок.

«Божа, карай як хочаш, але злітуйся над адным — не забірай маё дзіця»,— ледзьве варушыліся яе сухія звялыя вусны.

З-пад хусткі вылезлі, збіўшыся ў каўтуны, русявыя валасы, твар ззелянеў, сцягнуўся, а ў злінялых, як у старое кабеты, і смутна-вадзяністых вачах стаіўся пакутны і адчайны страх.

Ледзьве жывая, нібы змалочаная цяжкімі цапамі, і мокрая, хоць бяры ды выкручвай, стаяла яна на мяккай травяністай дарозе.

«Божа літасцівы, памру тут,— падумалася ёй, абня-

тай, як глыбокаю вадою, ледзяною бояззю.— Ніхто і не ўбачыць. Ніхто! Трэба ісці, уцякаць да людзей».

Азіраючыся на зажатае жыта, з нізенькай, у куточку, шчоткай натапыранага ржышча, яна памкнулася да чужое, карычняватае ад гонкага быльніку мяжы, каб наўпрасты цярэспаля выйсці ў вёску. За вытаптаную сцежачку на ёй яшчэ пекалі з Мондрымі калаціўся злы, трохі недапечаны ды нейкі пунтовы Адамуль Чабоцька. Падняўшыся раз са свае схованкі ў жыце, падскочыў і да яе, да Алесі, калі яна цішком, ужо неяк надвечар, таксама варочаючыся з жніва, бегла гэтаю мяжою дадому. І няведама што было б, каб не надарылася якраз з сярпом і, болей самлеўшы ад страху, чым ад адвагі, не крыкнула: «Хадзі, слінкаты, так галаву і знясу». Ён, згледзеўшы падняты серп, ачах, адскочыўся назад у жыта і там зарагатаў: «Дурная, не біць я цябе хацеў, а на мяжы паляжаць з табою. Радзівон твой, кажуць, нядошлы і няўпраўны стаў».

«Во і ляжаш, мо навекі!» — яна зноў з гразьбой падняла свой серп і скоранька, дай бог ногі, подбегам пайшла дадому.

Цяпер яна ўспомніла пра яго, адышоўшыся ад свайго поля, калі была ўжо якраз на тым месцы, дзе яе пераняў Адамуль, недалёка ад лагчыны, дзе дажджавая ды снегавая ваданазносіла жоўтага пяску і дзе нічога не расло, толькі чэз марны ялавец і, як куры ў гарачым пяску, расплыліся, раскінуўшы нізкія густыя лапы, тры прысадзістыя хвоечкі.

Да вёскі яшчэ было далёка. Алеся, як на ратунак, глядзела на цёмныя, падобныя здалёк да копаў сена, прысады, між якіх вытыкаліся цёмна-карычняватыя замшэлыя стрэхі верасаўскіх гумнаў ды хат. Над шара-белым з вялікімі чырвонымі лічбамі «1938» чарапічным дахам Гарбылёвай хаты дрыжала, пералівалася, як плыценькая вада, густое мроіва. І зводдаль вёскі белым атынкаваным шчытом прымапвала вока Сымонава хата. Дзіраваю сеткаю вецця над ёй звісала адзінокая старая бярэзіна.

«Можа, туды, да цёткі Сцяпані»,— Алеся міжволі саступіла з калючае ад леташняга быльніку мяжы ў рэдзенькую, ледзьве жывую грэчку тут каля ніпічымнай, у пэндзліках сушніку ды шорсткага сухога моху, ялавіны.

«Бо ці ўдома Імполь? Хто яе пакліча? — гразнучы нагамі ў мякенькім і гарачым, як вытрываць, пяску, з крыўдным і балючым смуткам надумала яна.— Можа, дзе паехаў у Дварчаны».

Ногі заблыталіся, запляліся ў нізкіх сцяблах стракатай грэчкі. Ад цвету, што белым кавалкам укрыў поле, і ад пчол, што гвіжэлі і да звону ў вушах гулі тут, пахла цёплым ясным мёдам. Але яна яго ўжо не чула: у крыж стрэліў і аддаўся зноў у галаве той невыносны боль.

Вялікімі, пабялелымі ад страху вачмі Алеся акінула ўсё поле, ці не відаць каго дзе, каб паклікаць на помач, каб наказаць цётцы Сцяпані, і на грудку, дзе чарвяком паўзла змучаная пясчаная дарога, каля жытняга палетка з першымі, яшчэ не пастаўленымі ў дзесяткі, снапамі, убачыла Дзем'януовых, мусіць, таксама нанятых жней.

З трывогай і гэтым, што не даваў ступіць, пякельным болем яна падалася назад з рэдкай кволай грэчкі да прысадзістых хвоечак і кучкаватых ялаўцовых кустоў. З лабатага каменя, што ляжаў у ялаўцы, выставіўшы свой пярэсты ад сівых лішаёў бок, шмыгануў не большы за пацука жаўтлявы, са стракатаю спіною, звярок. Алесі ўспомнілася чутае, што тут на Чабоцькавай ялавіне вядуцца нейкія суслікі.

«Можа, гэта і будзе ён, той суслік?» — яна нават прыпынілася, убачыўшы перад сабою пры неглыбокім, вымытым яшчэ веснавою вадою раўку, сярод сівавата-ружовых пэндзлікаў сушніку жоўтую копку пяску і чорнаю дзірачкаю норкі. Нара была рыхтык мышыная.

Яна хацела абмінуць гэты рабы, у ружаватым дыме мятліцы камень і гэтую яшчэ свежую, нядаўна натачаную і спярэшчаную кветачкамі слядоў горбу пяску, але зноў спаткнулася ад болю ў крыжы, нават не помнячы, як упала на лілова-дымную, ужо трошкі зліналую падушку перацвіўшага чабору. Яна, здаецца, на нейкі міг нібы самлела, адышла ад памяці.

Ачуцілася, не разабраўшы, быў гэты нязносны, што аж хватаў і калоў сэрца, гарачы боль ці не? Толькі чула, як агнём гарэла далонь. Адняла руку ад злінялага чабору і ўбачыла прыдушаную, ледзьве жывую цёмна-бліскучую пчалу з адарваным джалам: загнутай шабелькай яно ўпілося каля вялікага пальца, і там заружавеўся, падымаючыся балючай гарачынёю, тоўсты гузачок.

Алеся вырвала джала, высмактала балячае месца, выплюнула яд.

І цяпер ужо, убачыўшы недалёка ад сябе горбу натачанага пяску з цёмнаю норкаю, адсунулася да задушлівага гаркаватых кветак сівога несмяротніку, што купкамі жаўцеў скрозь па ялавіне, і пачала марудна і далікатна па-

дымацца, са страхам чакаючы, што па крыжы зноў секане гэты гарача-тупы, як ад вялікага джала, нясцерпны боль.

Устала і закалывалася, як нядужае пташаня, ад ценькае радасці, што яшчэ жывая. Пад пахі яе падхапіў, лёгка трымаў свежы, ледкі вецер, з ласкавым халадком краўся за карак, студзячы мокрую спіну, казытаўся каля цяжкіх, набрынялых гарачынёю грудзей.

На яе выгараных, з залацістымі валаскамі бровах навіс едкі, сляпучы пот. Падпухлыя, сінявата-бяскроўныя вусны перасохлі і трэскаліся ад смагі. Успомніўшы пра свой паліваны, што пакінула каля зажатага жыта, збанок з вадою, яна зажадала піць.

Укручаны ў хустку, там астаўся і падвячорак — акраец чорствага хлеба са знойдзеным сёння на градзе ў шорсткім гурочніку шыпаватым гурком і кавалачкам сінявата-ружовай палядвіцы. Каля першых, нажатых жменяў у шчотцы ржышча сядзіць і новы, летась яшчэ выкаваны, серп. І ўсё каля саменькае дарогі — ісці ці ехацьме хто...

Алеся паволі, асцерагаючыся зноў гэтага страшнага, што сціскаў за сэрца, раптоўнага болю, азірнулася на сваё поле: на грудку пераліваліся, то яснеючы, то цямнеючы, раскалыханае ветрам спалавелае жыта. Хвалі адна за адною каціліся, плылі да дарогі, дзе цямнеў куточак выжатага загончыка.

«Жняя з мяне цяперачы. І трэба было ісці адной. Хоць бы, праўда, паклікала Ваўчкову Вольгу,— з нямоцнай, саслабелай злосцю ўпікнула сябе.— Не сцерагуся. Хіба ж не ўспееца? Заўтра прыйдуць жнеі. Не гарыць!» Гэтае самае, калі збіралася на поле, казаў і Імполь.

«Казаў!.. А хіба ж дагадаецца прыйсці зірнуць, ці жыва тут. Прыжджэш».— Алеся махнула ўджаленаю рукою і ўчула, як яе павяло ўбок, і яна памалу, як п'яная, падыпіла да прысадзістай, што раскінула свае сівавата-зялёныя, у растапыраных смолкіх іголках, калматыя лапы, маладое хвоечкі. Сагнаўшы шарую, што пацмоквала і пакалыхвалася на гонкай стрэлцы вяршка, даўгахвостую пташачку, узялася за калючую выгінастую лапу, зноў са страхам падумаўшы, што, калі яшчэ раз схопіць гэты боль, яна ўжо нікуды не дойдзе: ні дадому, ні да цёткі Сцяпані.

Але раптам успыхнуў, затрапятаў цьмяны агеньчык надзеі і спадзявання: «Крычацьму, на ўсё поле крычацьму». І сама ў пейкай саслабелай, зморанай безнадзейнасці хукнула на гэты агеньчык — а хто ж пачуе?

Не ведаючы, які ўжо шукаць сабе ратунак, рашылася — покуль ёсць сілы, покуль не адняло ногі, трэба ісці, каб уратаваць дзіця. Адарвалася ад хвоечкі і цвёрда ступіла на траскуча-калючы мох. Ад слабасці і ад страху самлелі, падагнуліся ногі.

«Няўжо не дайду?» — яна зноў сваім зрокам змерала стракатае ад спелага жыта, зеленаватай ярыны, гароху і картопель доўгае, у некалькі гоняў, поле, за якім у цёмных купах дрэў хаваліся шара-карычняватыя стрэхі будынкаў. Там падымаўся гонкі, як канапліва, топаль, там недзе свяціўся белы атынкованы шчыт Сымонавай хаты.

«Што пагнала мяне на гэтыя зажынкі, што? — Алеся дакарала, вінавaціла і ўжо з ясным спакоем суцяшала сябе.— Але ж яшчэ не пара радзіць, я ж не данасіла два тыдні». І ад страху пачала гарэць і запяклася, счарнела душа: «Няўжо ізноў скіну нежывое дзіця?»

Скіроўваючы на замежак, яна ішла між жоўтых, тамсям пацямнелых, нібы апырсканых ёдам і гэтакіх горкапахучых, як ёд, кветак несмяротніку. Цяпер на спадзе лета іх было гібель на гэтай пераляжалай ялавіне, як увесну было жоўта аж да слепаты ў вачах ад ясных, нізенькіх кветак сівага, што ліпне да зямлі сваімі варсістымі лісцікамі, валасніку.

Сашмаргнуўшыся са ствалка, між пальцаў засела касытлівая чачотка шорсткіх бубачак. Алеся прыпынілася, каб наступіць другою нагою і сашмаргнуць гэтую неадчэпную кветачку, як зноў, нібыта перуном, стрэліў той самы, ужо, здаецца, і забыты боль, разламаўшы ўшчэнт паясніцу. Не помнячы свету, Алеся заенчыла, закрычала і аб'ехала на жоўты сухі несмяротнік.

Заплюшчыўшы вочы, з перакошаным, сцятым ад болю тварам папаўзла па ялавіне, топчучы ўпартыя і пахучыя, як ёд, кветкі несмяротніку. Рукі хапалі і граблі крохкі калючы мох. І яе моцны енк роспачы перайшоў у спакутаваны, надрыўны стогн.

Не адлягаючы, боль разрываў паясніцу, нібы яе рэзала вялікая падоўжная піла, угрызаючыся ўсё глыбей і далей.

Змакрэўшы ад страху, што не вытрывае цёмнай, навальнай мукі і памрэ тут па калючай перасохлай ялавіне, яна скоранька папаўзла, думаючы гэтым уратавацца ад свайго страшнага і нязноснага болю.

Маладая, прысадзістая, з доўгімі і нізкімі лапамі хвоечка стала ёй на дарозе. Алеся ткнулася ў яе галавою,

абкалола аб натапыраную шчотку іголак свой твар і нібы прыйшла да памяці, прылёгшы тут каля калматых, што пахлі цякучаю смалою, лап.

Але боль, як прытоены агонь, гарачым полымем шугануў зноў. І зноў раптоўны страх пра смерць, што яна не вытрывае, сканае тут, каля гэтай прысадзістай хвоечкі, падняў яе на колінкі. Яна ўчапілася рукамі за ліпучую ад смалы лапу і стала памалу падымацца. Ногі ў яе падкошваліся і дрыжалі. Павярнуўшыся да хвоечкі, яна ўзялася за яе другою рукою і нарэшце ўстала. Выцершы з вачэй пот, зноў паглядзела ў той бок, дзе за жоўта-зялёнымі палеткамі віднелася вёска, і ў яе выцвілых вачах заслязіўся раптоўны смутак, што туды яна ўжо не дойдзе. Неспадзявана пільны зрок натрапіў на проставалосую кабету, што бегла праз ясна-жоўты лубін і, спатыкаючыся ў ім, махала, як у звар'яцелым адчаі, белаю хусткаю.

На які міг, перамогшы боль, Алеся знямела ад дзіва, не могучы дабрацца да галавы, што робіцца з кабетай, покуль не ўбачыла, што тая нагнулася, заграбла рукою пясок і сыпнула ўгору, і ўжо тады сцяміла, што кабета стараецца асадзіць раз'юшаны пчаліны рой. Услед за ёю бег і махаў рэшатам мужчына.

«Трэба паўзці да іх»,— сцяўшы зубы і курчачыся ад болю, Алеся памкнулася ўперад, але вялікі клубок полымя перавярнуўся ў яе жываце, аддаючыся цемнатою ў вачах і засланяючы свет, і яна з дзікім моцным енкам упала на ялавіну ў карычнявата-ліловы, перацвіўшы ўжо чабор, каля рабога, абсыпанага лішаём каменя. І ўжо зморaная, звалтужаная болем, у цішнай і балячай пакорнасці прыгатавалася радзіць тут на голай перасохлай ялавіне.

Крычала яна ў беспамяцтве і што было моцы памагаючы сабе.

Гэта быў крык пакуты і радасці.

Як нечакана страшным быў боль, так нечакана стоенай, як зямля пасля навальніцы, была радасць — Алеся ўчула, як закрактала ледзьве жывым, але сваім, тым нясцерпна чаканым кугаканнем дзіця.

Адсланіўшы свет, з Алесіных вачэй сплыла чорная хмара страху, усё кругом асвяціла празрыстая лёгкая яснасць. Перамагаючы слабасць, Алеся павярнулася, знайшла каля ног акрываўленае дзіця і ўчула яго жывое роднае цяпло.

Гэта быў хлопчык. Ён моршчыўся ад першага свайго крыку, ад першага свайго болю — над вочкамі сінелі на-

труджаныя пятнячкі. Алеся жахнулася — няўжо радзімы знак? І страшнай здагадкай па сэрцы паласнуў боль — як у нямой Еўкі.

Палажыла дзіця ў прыпол, думаючы, як разарваць пупавіну, паволі абаперлася рукою, падняўшыся спярша на колінкі, а потым — устаўшы на ногі. Не верачы сваім вачам, глядзела на абліты высокім сонцам і перайначаны свет.

«Божа, няўжо гэта я? — нядужым, ледзьве жывым пакутваннем адзывалася сэрца.— Няўжо асталася жыць? І не адна, а з ім, з дзіцем».

Як вычарпаны калодзесь набіраючыся новай вады, акрыяла і ачуньвала яе душа, на вочы насочваліся слёзы, і ў іх каламутнасці, як у мроіве, дрыжала і калыхалася ўсё поле.

Мяккімі, яшчэ не сваімі нагамі яна ступала па калючай, перасохлай ялавіне, намагаючыся дайсці да мяжы, дзе, паблісквaючы трапяткім лісцем, аблягала на жыта дзікая груша і дзе бегла, шоргаючы па быльніку і белых чачотках крываўніку, вузенькая сцежка.

У прыполе, нібы просячы ратунку, крактала дзіця.

«Скарэй, трэба ж завязаць пупавіну, трэба ратаваць яго»,— успыхнуў гарачым агнём і падагнаў яе страх.

Асцярожна трымаючы акрываўлены прыпол, у якім варушылася дзіця, яна памаленьку, каб не спаткнуцца, перайшла цёплую бурачкова-белую, звінючую ад пчол грэчку, ачуціўшыся каля высокай, з грывамі травы, і ўздзірванелай ад быльніку старой мяжы.

— Алеся! Алеся! — вецер разарваў за спіною нечый далёкі голас.

З другога боку ялаўцовых кустоў, раз за разам нагінаючыся, дзеручы пясок і сыплючы ім угору, бегла растрапаная Ігнасёва Агата. Сарваная з галавы хустка трапяталася ў руцэ.

Высока над ялаўцовымі кустамі разбэрсаным цёплым клубком віўся пчаліны рой. Блытаючыся ў зялёнай ярыцы і разводзячы яе адною рукою, а другою падымаючы рэшата, плыў сюды стары Ігнась.

— Алеся, махні чым! — крыкнула зноў Агата і паказала рукою на рой.— Вунь яны, вунь!

Алеся ўбачыла, як чорна-стракатым маткам, то шырачыся, то звужаючыся, мігатлівы рой пакаціўся на яе і раптам рассыпаўся, завірыў, нібы з сівай каламутнай хмары цёмны снег.

Яна зажмурылася і змярцвела, чакаючы нечага страшнага, як пасля маланкі са страхам чакаюць ляскату перуна, але густы раз'юшаны гуд праплыў недзе збоку.

Алеся адкрыла вочы і ўбачыла перад сабою задыханую з раскалмачанымі сівымі валасамі Ігнасіху: твар у яе таксама перасмыкнуўся і скамянеў, як ад страшнага дзіва.

— Авой, ці не дзіця ў прыполе? І пупавіну не разарвала. Няхай крые бог! — Агата ўсплюснула рукамі і азірнулася на старога, што, змучаны задыхай, сіліўся падбегчы, махаў пустым жоўтым рэшатам.— Не ідзі сюды, кажу, не ідзі!

— Пчолы вунь, рой, глядзі, уцячэ,— угнуўшы галаў з цяжкаю адвіслаю губою, подбегам ішоў сюды стары Ігнась.

— Вот жа ж чалавек! — скоса азірнулася на старога і са злосцю плюнула Агата.— Маладзіца во разрашылася, дзіця прыняла!

— Цьфу! Знайшла месца. Як тая Якубава Магдалена ў авечым хляве,— стары адвярнуўся, ідучы ўздоўж мяжы, яшчэ забубніў:— Мне вунь рой прападзе.

— Нідзе дзенецца твой рой,— старая паплявала на рукі і стала выціраць іх аб прыпол плацянковай, тканай у каробачку спадніцы.

— Што вы, цётка? — адступілася Алеся.

— Пупавіну разарву, а то дойдзеш, крывёю спльівеш, маладзіца,— прыскаліла вока Агата, паказваючы свае крывыя, заеханыя адзін за адзін, зубы.— Ты думаеш, я не спраўная? Вунь не адно прыняла. Не бойся.

— Гляньце, дзіця вунь з радзімым знакам,— сказала і хацела дадаць, «як у Еўкі», але стрывала, абсеклася Алеся, разгортваючы свой прыпол.

— Дзе,— старая прыжмурылася, доўга цікавала і зноў, нібы крышку шапялявячы ад крывых зубоў, загаварыла.— Ад натугі гэтыя сінякі, маладзічка,— і зноў паплявала на рукі.— Думаеш, токі радзіць цяжка, а радзіцца хіба лёгка?

## XXIV

Свет быў празрысты і глыбокі, як нерухомая вада. Сіні чысты купал неба абдымаў спрадвечна плодную зямлю, што зрадзіла, выспеліла ўсё і, аддаўшы свой плён, зморана адпачывала ў сонным цяпле позняга лета.

Рэдзенькая сіняватая смуга лёгенькім вуалем лягла між грудаватых, у жаўтлява-бліскучым ржышчы гораў, замгліла цёмна-зялёную сцяну далёкага лесу. Туды ляцеў і, дадаючы нечаканага асенняга жалю і смутку, хрыпата, расцяжна крумкаў панурыя крумкач.

Дзе-нідзе яшчэ бялеў позні авёс у выспах распушанага асоту і цвіў незааараны пад новае жыта сіні, высокі, што выгнала аж па пахі, палеглы лубін, з-за якога выглядалі крышку з'еханыя набакір шапкі пастаўленых у пашарак мэндляў.

З шапаткое шчоткі ржышча, што зазелянілася маладою сакаўною сырадэляю — выгодны восенню корм для коней — ці проста травою — елачкаю і затоенымі кветачкамі дзюбатых буслікаў, ужо цэлымі грумадкамі падымаліся з жалосным цвірканнем жаваранкі.

На сценках ды палявых дарогах, улёгшыся ў карычневым быльніку ды сівым пахучым палыне, грэлі свае ў аблезлым мосе бакі старыя камені. І калматыя межы, і зямля пахлі гаркаватым, абкіданым жаўтлява-дробнымі пацеркамі цвету, мяккім палыном ды палеглай, збуцвелай ужо, чырваната-рудою травою. Толькі калываў марнымі белымі кветачкамі бязлісты сухотнік ды стракацеў ужо трохі згаслымі кругленькімі шчоткамі перастаялы крываўнік.

Знябыўшыся па восені, усё замірала і сцішвалася ў вялікім неразгаданым спакоі, чакаючы яе. Адно ў сінім, што адбірала вочы, чыстым небе плаўна і няспешна кружыліся, плылі адзін за адным, распасцёршы тугія і шырокія крыллі, што выдавалі цёмнымі з зямлі белыя буслы. І здавалася, што гэтаму ціхаму і бясконцаму лёту не будзе канца. Усё меншаў, аддаляючыся ў глыбокае неба, павольны бусліны круг і меншалі, рабіліся малымі, як варонкі, буслы, што ўсё плылі, не збіваючыся са сваіх пазначаных дарог у гэтым крузе.

Было нешта велічна-гордае і разам нешта і трывожна-смутнае ў іхнім свабодным птушыным лёце.

Яшчэ ўчора на рудым ад здзічалае няскошанае асакі верасаўскім балоце, на топкіх непраходных лавах у вялікую, як заўсёды перад выраем, чараду зляталіся буслы.

Чарада ўсё большала, каб ужо сёння, ціха і непрыкметна, у самы гарачы полудзень падняцца ў неба.

Вірлівы, не вельмі высокі круг Імполь убачыў тады, калі недалёка ад яго закрычаў гадкоў шасці пастушок

у зрэбных, яшчэ са станікам, портачках, бегучы адварочваць ад маладой, ужо добра акрыялай на аўсяным ржышчы капюшыны памаўзлівую вішнёвую карову:

— А во-он! Буслы ў вырай адлятаюць.

Імполь падняў голаў і ўбачыў іх, маўкліва-гордых, у вольным лёце, белых буслоў: не махаючы крылламі, яны кружылі, плылі адзін за адным, нібы па невідушчай сцежцы падымаліся ў неба.

І ўсе, хто тут быў на голым, як бубен, выпасеным да карэньчыкаў сервітуцкім поплаве, на якім стаяў калючы, у сівым пуху чартапалох, паблісквала ружаватая, у клейкай смале, шкодная для скаціны, атрутная расянка і дзе душыліся ўсе верасаўскія каровы, а ў нядзелю — прыведзеныя не столькі ўжо на папас, колькі дзеля таго, каб трохі спачылі ды праветрыліся замуленыя летняй работай коні, усе, хто быў тут — і мужчыны, і дзеці,— пазадзіралі галовы ў ясна-сіняе, што слязіла вочы, і глыбокае неба.

Там кружылі ў марудным лёце, паволі, нібы з гонарам падымаючыся вышай, гэтыя вялікія пташкі. Неразгаданая, свая векавечная таямніца была ў іхніх бясконцых кругах, і душу агортваў смутак, што яны болей не сядуць, не апусцяцца на гэтае шырокае ў чырванаватай, пабітай рудою, палеглай асацэ і конскай цыбулі балота. І над ім будзе стыць перамешаная з рэдзенькай смугою пустая пагодная восень.

А буслы ўсё кружыліся, плылі адзін за адным, горда-маўклівыя і паважныя ў сваім лёце. Іхні шырокі круг няўзнак меншаў і няўзнак падымаўся ў бясконцую глыбіню неба.

Ад утрапёнага зірку ў Імполя на вачах задрыжалі, засцілаючы свет, мігатлівыя слёзы. Ён апусціў голаў, выцер рукавом зажмураныя вочы і абыякава глянуў на рудое балота, убачыўшы, што каля купкаў ружаватага ракітніку нешта бялела, нібы хто з баб збіраў там шчавей, свецячы хусткаю.

Нацягнуўшы ніжай на лоб брылёк выцвілай кепкі, прыгледзеўся туды і дагадаўся, што сярод рудога балота стаіць, пакінуты чарадою, адзінокі бусел.

— А гляньце вэнь на балота,— сказаў ён, чуючы казытлівы холад у душы.

Мужчыны, што стаялі тут,— стары нягодены з сівою шчацінаю на паўпаданых шчоках Міхась Чувак і падперазаны кананлянаю вяроўкаю дробны, даўганосы ў аблез-

лым барашкавым каўпаку Язапат Змысла — таксама навесілі над вачыма руку, закрываючыся локцем ад сонца, каб глянуць туды на далёкі, не скошаны ў самым багнішчы на топкіх лавах клін балота.

— Ага, бусел, халера на яго, астаўся,— сказаў і пакруціў сваім аблезлым барашкавым каўпаком Язапат Змысла.

— Дзе? Што ты кажаш? — глядзеў туды на рудое балота і, мусіць, нічога не бачыў нізкі на вочы Міхась Чувак.

— Зрок у цябе кепскі, ці што? — хмыкнуў Язапат Змысла, падбіваючы на лоб свой зрудзелы, у чорных блішчастых плямах, дзе аблезла воўна, барашкавы каўпак.

— Вунь, збоку ад лазовых кустоў,— падказаў Імполь.

— Ага,— сказаў Міхась Чувак, але, пэўна, нічога не ўбачыў.

— Змарнуецца ён тут,— уздыхнуў Язапат Змысла.

— А мо яшчэ паляціць,— Імполь зноў зіркнуў у неба, дзе кружылі малыя і цёмныя ўжо, як варонкі, буслы.

— Ты кажаш, паляціць? — перапытаў Язапат Змысла і нямоцна ляпнуў сябе па выцвілай калашыне вобраццю.— Не, будзе хадзіць тут да самае зімы, покуль не скалее.

— Адзін жа ж чалавек узяў бусла ў хату, і ён перазімаваў, а на вясну ўскочыў у печ і згарэў. Кажуць, у той самы дзень, як вярнуліся буслы,— расказаў усім ужо чутае не раз Міхась Чувак.

— Значыцца, на пагібель пакідаюць,— шырокімі, нібы расплясканымі за лета ў бясконцай хадзе ступнямі Язапат Змысла прымяў купку цёмнай, што абкружыла каровіну аладку, травы, ідучы да коней, каб адагнаць ад бадлівых кароў.

— Пэўна ж, раз кінулі на смерць, то жывога не прымуць,— целяпаў у такт хадзе галавою худы, згорблены, як сугнет, Міхась Чувак.

Збіўшыся ў купку і настаўляючы вушы, каля мужчын церліся верасаўскія пастухі, слухаючы гэтую нязвыклую гутарку пра буслоў і падымаючы галаў у неба, дзе кружылася і раставала ў глыбокай пустэльні сіняга неба птушыная чарада.

— Летась, ці чулі? — выпрастаўся і перастаў целяпаць галавою Міхась Чувак.— Усе газеты пісалі, як буслы біліся з арламі. Тры дні і тры ночы. Над Міжземным морам.

— І што яны, пташкі, між сабою не падзялілі? — знізу ўверх зіркнуў на яго Язапат Змысла.

— А яны, браце, як і людзі, то вайною адныя на адных ідуць, то замірэння просяць.— Чувак, усё гэтак пацялепваючы ў такт хадзе галавою, дайшоў да коней і кінуў сабе пад бок суконную, што трымаў на сагнутым локці, старую сярмягу, прылёг тут якраз пасярэдзіне поплава, каб не пускаць да коней кароў — барані бог, парне каторая рогам.

— Ты кажаш — вайною ідуць,— забегаў, ніяк не дабе93ручы месца, дзе сесці, гарачы і трапятлівы Язапат Змысла.— Дый пойдуць. Вэнь, кажуць, Англія і Францыя не прыйшлі да замірэння з Расіяй, таму падлашчыўся немец. У газетах пішацца, што Саветы з немцамі пакт аб неагрэсіі будуць падпісваць.

— Выдумаў ты нешта,— заварушыўся Міхась Чувак, абмацаў кішэнь, дастаў капшук з махоркаю.

— Што выдумаў? — абабег круга яго Язапат Змысла.— Дагавор на гандаль падпісалі. Крэдыту немец на сем год дае, дзвесце мільёнаў марак.

— Ды не пойдзе Сталін на замірэнне з Гітлерам,— задраў угору і памахаў сваімі сіняватымі лыткамі Міхась Чувак.

— Ты глянь на яго,— стары падскочыў да Імполя, як падбітым крылом, махнуў локцем, штырхануў у бок.

— І я чуў нешта, Змітрык казаў,— пацвердзіў Імполь, успомніўшы, што надоечы мужчынам чытаў з газеты Корсакаў Змітрык.

— Многа знае твой Змітрык.

Дзеці глядзелі на гэты смешны мужчынскі крык, пачуўшы зноў не вельмі цікавую і зразумелую гутарку пра палітыку, адышліся і прыселі купкаю, пасярод якой укленчыў даўганосы хлопчык, і з яго локця, то пляча, то доўгага брылька кепкі, бліскаючы лязом, замільгаў ножык.

Імполь, не вельмі прымаючыся да гэтае сварлівае гутаркі мужчын, думаў пра Дварчаны, пра Хрысцю, якую ўжо не бачыў цэлае жніво, і абыякава глядзеў, як скакаў, нібы падсмалены, Язапат Змысла і, пазвоньваючы вобраццю, крычаў:

— Міністр спраў заграпічных прыедзе ў Маскву!

Чувак выкрасліў крэсівам снапок іскраў, прыткнуўся скручанаю папяросаю да рудое губкі, што закурэла сівым дымком, зацмокаў, уцягваючы абедзве шчакі.

— Нашто Расіі знацца з немцамі?

— Гарманец вэнь колькі зямлі нагроб, а Расія што,—

зноў махнуў вобраццю Язапат Змысла.— Ты паглядзі, колькі Расія страціла.

— Выходзіць, па-твоему, не замірэнне, а вайне павінна быць? — зацягнуўся ўсмак і спытаў, пыхкаючы дымам, Міхась Чувак.

Язапат Змысла спыніўся, скрывіў набок галаў, прыплюшчыўшы адно вока, і, ужо трохі ачахлы ад гарачкі і раздражнення, ціха, але з цвёрдаю развагаю сказаў:

— А глядзі, што і будзе.

Імполь яшчэ пастаяў каля мужчын, азіраючыся на далёкія, што выглядвалі з-за жаўтлявага ад жытняга ржышча грудка, за роўнымі пашаркамі мэндляў, вострыя вежы дварчанскага касцёла, і раптам не ўтрываў, папрасіў Язапата Змыслу:

— Ты, дзядзька, глянь тут ужо за маім канём.

— Чаго там, гляну,— махнуў назад сваім аблезлым і зеленкавата-рудым, як мох на страсе, каўпаком і раптам падбег за Імполем і, забіраючы ў яго вобраць, спытаў:— А ты куды, мо ў Дварчаны?

Імполь прыстакнуў, як працяты стралою перуна. Перасільваючы гарачыню брыдкасці, пакруціў галавою:

— Не, дахаты хачу збегаць.

— А я думаў, у Дварчаны,— і, як укусіўшы што кіслае, зморшчыўся Змысла.— Цікава было б глянуць, што там робіцца. Можа, крамы разняслі? Глядзі, каб не асталіся без солі ды запалак.

— Гэ,— падхапіўся са свае разасланае сярмягі Міхась Чувак.— Чаго ты ўсё баішся? Ды хваціць на наш век солі! Што будзе міру, то й бабінаму сыну.

Імполь знарок, каб было відаць, што ідзе ў вёску, скіраваў да пацямнелай шчоткі збуцвелага на дажджах ржышча. Адышоўшыся крокаў колькі, ужо з ялаўцовых кусцікаў, што раслі пры полі, крыкнуў старому Змыслу:

— Дык вы ўжо, дзядзька Язапат!..

— Ідзі, ідзі, чаго тут, пагледзімо,— адазваўся за Змыслу Міхась Чувак, махаючы і пазвоньваючы вобраццю.

На грудку ад жытніх пашаркаў, з якіх паздымалі і палажылі на ржышча мокрыя шапкі, пахла падапрэлаю саломаю. Схаваўшыся за ім, Імполь азірнуўся на рудаватае з зялёным вобадам маладое, яшчэ не скошанае атавы верасаўскае балота, на стракатую чараду кароў каля самага поля — і ў вышыні ўжо над усім светам нечакана для сябе зноў убачыў бусліны круг, што паволі вірыў, падымаючыся ў гэтую бясконцую сінечу неба.

Ён замёр, узіраючыся на іх. З памяці, як з глыбокай цяжкай вады, паволі выплываў далёкі, але гэтакі самы пагодны дзень позняга лета і гэтакае самае ў вечным і бясконцым спакоі сінюткае неба. Яны, двое тады пастушкоў, лежачы спіною на мураве і заклаўшы за галаў рукі, узіраліся на гэтых ужо чорных і маленькіх, як варонкі, буслоў, што гінулі, раставалі ў небе.

І калі вочы згубілі і не маглі ўжо знайсці іх у сіняй, што адбірала вочы, і бясконцай вышыні неба, ён, гэты заўсёды з ружаватымі пісягамі на лытках ад пугі, Кузькаў Тадорык — сірата, што гадаваўся пры старшай ужо замужняй сястры — нечакана прызнаўся Імполю:

— Во і мая душа гэтак паляціць і растане ў небе.

— І мая,— не ведаючы, пра што думае Тадорык, сказаў Імполь.

— Не, твая не паляціць, твая астанецца тут на поплаве.

Толькі назаўтра разабраў Імполь, што і да чаго гаварыў Кузькаў Тадорык, калі ўчуў, што за Дварчанамі на калеі яго, разрэзанага таварным поездам, знайшлі рамонтныя рабочыя. Знайшлі яшчэ жывога без абедзвюх ног. Сканаў ён ужо дарогаю, калі рамонтнікі, гонячы на ўсю моц ваганетку, хацелі дамчаць яго ў Дварчаны на станцыю і нават спынілі стрэчны поезд, каб аддаць Тадорыка ў баранавіцкі шпіталь, але было па часе.

Тадорык лёг пад колы, каб хоць смерцю адпомсціць свайму ненавіснаму шваргу, што біў і мэнчыў, набраўшы пасвіць яшчэ чужых дварчанскіх кароў.

Колькі год прайшло, а Імполь, згледзеўшы сабраных перад выраем буслоў, заўсёды прыпамяне таго нэндзнага з чырвоным аблупленым носам Тадорыка, і нечаканая гарачыня абалье грудзі, жаласць замгліць слязьмі вочы.

І цяпер, як у мроіве, закалыхаўся свет. Імполь выцер шорсткім рукавом вочы, пастаяў, счакаўшы, покуль спадзе, разыдзецца гэты мігатлівы туман, і памалу проці лёгенькага ветру, што цёк у расхрыстаную кашулю, пайшоў па цёплай, закуранай пылам траве.

Дарога, збегшы неўпрыкмет у лагчыну, паднялася зноў на груд каля ружавата-белае, з'едзенае туманам грэчкі.

Адсюль з груда ў рэдзенькай смузе відцеліся і адсвечвалі белай яснасцю дварчанскія камяніцы.

Перад вачыма ўстала яна, Хрысця. Бачыў яе астатні раз да жніва, калі вазіў прадаваць у мястэчка камені — якраз тады закладваў фундамент пад новы дом асаднік Шумскі. Нязгорш за камені плаціў, толькі падвозь.

З далёкае Падлеснае вуліцы Імполя, як магнэзам, пацягнула на Паштовую, дзе стаіць прыгожы выштукаваны Грабянкаў дом. І якраз пашэнціла — у гародчыку пад старымі шурпатымі хвойкамі ў жоўтых ад кропу градах убачыў Хрысцю — у валошкавым з нагруднікам фартушку, у краплістай касынцы, што туга перахапіла яе рудаватыя, выгараныя на сонцы валасы. Нейкая паспраўнелая, вылюднелая, нібы ўжо не вясковая, стаяла яна тады з бярэмам зелля, знячэўку выпускаючы яго з рук у разору.

Адпрасіўшыся ў Грабянчыхі і скінуўшы гэты прыгожы фартушок з нагруднікам, яна правяла тады Імполя аж за мястэчка ў напараны і прапахлы, як тарпатынаю, разамрэлаю смалою малады хвойнік.

Ужо сцішны надвячорак млеў над густымі сівавата-натапыранымі маладымі хвоечкамі. Жоўты, худы, з аблезлым хвастом і вострай мызай ліс перад самым возам перабег ім дарогу.

— Глянь, ліс,— Імполь нават прысвіснуў, каб напалохаць яго, і звярок тады ўжо дадаў хады, махануўшы ў лес.

— Вой, скажаш, нейкі аблезлы сабака,— усміхнулася Хрысця, азіраючыся на жоўтую пясчаную дарогу, што бегла ў мястэчка; над вежаю касцёла, зачапіўшыся за крыж, завісла невысокае сонца.

Ціхенька і абрыдла над вухам звінелі згаладалыя за дзень камары.

На голых Хрысціных руках, якія вышай локця закрывалі кароценькія, перацятыя гумкай рукавы, уздуваліся плямы гарачай свярблівай чырвані. Раздзіраючы гэтыя пакусаныя рукі, скоса зіркаючы з-пад навіслай стрэшкі выцвілых валасоў на Імполя — ён ішоў тады на другі бок воза, трымаючыся адною рукою за брудную, з накарэлым сухім гноем драніцу воза,— яна расказала, як да яе чапіўся п'яны свінабой Канэцкі і як яна, не помнячыся, сярод ночы ўцякала да Сулі.

— Во, як брату, нажалілася, і лягчэй мне стала,— горка, адным куточкам рота ўсміхнулася Хрысця.

Цяжкі сухі камяк падпіраў Імполю пад горла, ён ледзьве пракаўтнуў яго:

— Трэба нам сысці адсюль.

— Куды, Імполька?

— У Амэрыку трэба ехаць.

— А хто цябе павязе задарма ў тую Амэрыку. Ці ёсцяка ў цябе даляры? Гаворыш абы-што.

Не ведаючы, якую знайсці на гэта раду, ён і праўда гаварыў, што набегла на розум, а ўжо калі Хрысця вярнулася назад у мястэчка, калі ён астаўся адзін у ціхім перадвечаровым ляску, усё гэтак ідучы каля зморанага і нядужага Мондравага каня, што лянiва трос галавою, ганяючы заедзь, у яго, у Імполя, паднялася адзічалая, лютая рэўнасць да таго невядомага яму свінабоя, які чамусьці здаваўся яму з вусікамі, у ботах з высокімі заднікамі, у вайсковым зеленкаватым галіфэ і ў стракатай, навіслай на адно вуха кепцы, з вялікім скураным партфелем, здаровы і дужы, і нечым падобны да дварчанскага арганістага.

Раўнівая, помслівая злосць не праходзіла да самае хаты, куды ён прыехаў перад самым захадам сонца, што сухой пякучай чырванню адбівалася на абодвух вокнах, і покуль не ўбачыў у сябе на надворку верасаўскіх баб, што, бялеючы хусткамі, выходзілі з хаты, адразу аж тры.

Імполь устрывожыўся, адчуваючы нейкую страшную невядомасць, але калі ўбачыў, што яны ідуць насустрач фурманцы, выскаляючы на смуглявых загарэлых тварах белыя зубы, паспакайнеў, ужо дагадаўшыся, што разрашылася Алеся.

— Даставай там з воза, не скупіся! — першаю закрычала Вольга.— Сын у цябе! Уга які хлопец! Такога ўжо прывяла...

— Хоць і пад кустом.

— Ну, ужо ты выдумай.

— Ай, бабы, абы ўсё добра,— махнула рукою Вольга.— Некалі Магдаленіна Насця пойдзе за вугал з хаты і ўжо нясе ў прыполе. А меншую, во Даню, у авечым хляве нарадзіла. Пайшла даваць нанач скаціне і...

— Выдумляеш ты, Вольга.

— Мне ж сам Якуб казаў. Кажа, чакаў, не дачакаўся, прыйшоў у адчынены хлеў, а там бляюць.

— От у цябе язык,— зняўшы фартух, махнула ім старая Ігнасіха і сказала Імполю, што стаяў яшчэ ўсё з возам на вуліцы, не адкідаючы браму і не заязджаючы ў двор:— А ты не слухай бабскіх плётак, ідзі паглядзі, які сын.

Нешта зблытанае перавярнулася ў Імполевых грудзях: і радасць, што нарадзіўся сын, што не дасць звесціся ні прозвішчу, ні роду, і нейкая шурпатая, што шкрабла за сэрца, брыдкасць з вінаватасцю, што во пядаўна дарогаю думаў пра Хрысцю і меркаваў, як уцячы адсюль, з гэтага ненавіснага і чужога яму Верасава.

— Гэ, дак ты, бачу, і не вельмі рады,— турзанула перад ім браму старая, даючы праехаць фурманцы.

— Чаму ж...— ледзьве паварушыў ён прысохлым да нёба языком.

Распрогшы каня, уцягнуў у падпаветку калёсы і, ужо чуючы дрыжыкі ў нагах, увайшоў у сені, стаіўся тут, настаўляючы вуха да дзвярэй — у хаце, здэцца, як нехта яшчэ гаварыў.

Імполь асцярожна, каб не вельмі груквуць дзвярамі, увайшоў у хату, аслепшы ад нізенькай чырвані сонца, што якраз свяціла ў вочы.

— Во, і бацька прыйшоў,— пачуўся ад ложка Сцяпанішын голас і саўсім збіў [redacted] панталыку Імполя: было нат несамавіта, непамысна, нібы апранулі на цябе нешта гаматнае і цяжкае, ад гэтага нязвыклага слова «бацька».

— Ага, бацька,— пацвердзіла саслабелым голасам Алеся і ўпікнула, нібы паскардзілася старой Сцяпані:— Ездзіць спытай дзе, [redacted] тут жонка паміpae.

— Што такое? — Імполь ступіў туды да ложка, ужо крышку адышоўшы вачмі ад калючага сонца.

— Ай, нічога, усё добра,— устала [redacted] рыпучага заслона старая Сцяпаня і падняла разам [redacted] пялюшкамі чырвоненькае зморшчанае дзіця.— Уга, які хлопец харошы.

Брала дзіва, што ў гэтым чырвоным зморшчаным дзіцяці старая знайшла нейкае хараство.

— Гэта ж во на полі радзіўся,— сказала Алеся.

— Не паслухала, пайшла, хіба ж не ўспелася б [redacted] гэтымі зажынкамі,— Імполь прысеў на лаву, абхапіў абедзвюма рукамі тоўстую дылю. Слухаў.

Старая Сцяпаня расказала, як прыбеглі да яе перапуджаныя ўжо верасаўскія бабы, што памірае там на полі Корсакава Алеся, і як яна сама, не помнячыся і ўжо ледзьве жывая ад страху, ляцела на поле, але балазе ўсё добра.

— Ну, глядзі тут яе, а я памаленьку патупаю дахаты,— і паказала на невялікі чыгунок з напараным зеллем.— Во, мацаўнік, піць ёй давай. І глядзі, каб не ўставала з ложка, бо парушэнне дастане. Я заўтра прыбягу.

Старая яшчэ ўпарадкавала дзіця, што аказалася, закрактала нядужым голасам, і, шаргануўшы доўгаю суконнаю спадніцаю аб парог, схавалася ў сенях.

Імполь, седзячы на лаве, моцна сціскаў рукамі тоўстую дылю, бачыў, як павільгатнелі, як перамяніліся ад радасці Алесіны вочы: у іх бліщчала, адбіваючыся, рэдзенькая з цёмнымі палосамі дрыгатлівая яснасць ад сонца.

— Ну во, у цябе сын,— сказала Алеся, варушачы сухаватымі бяскроўнымі губамі.— Ты давольны?

— Чаму ж не,— цяжка, але чуючы памякчэлую радасць у душы, сказаў ён.

— Велькі, харошы хлопчык радзіўся.

— Хіба цяпер распазнаеш?

— Дзіва што. Бабы вунь зважылі на бязмене. Дзесяць фунтаў.

І гэтая першая радасць, першая Алесіна гутарка за доўгія месяцы тупое, нерухомае, як сцяна, маўклівасці разарвала задзірванелую грэблю ў Імполевай душы — зноў аджыла, заіснела тая ўжо закажанелая пяшчота і ласка да Алесі.

Але гэта, ледзьве акрыялая, ласка як раптоўна знайшлася, так раптоўна пачала спадаць, пакідаючы слізкі глей брыдкасці. Ужо на трэці дзень, калі Імполь прынёс, зняўшы на жэрдцы за хатаю, вымытыя пялюшкі і адна ўпала на зямлю, Алеся нечакана занаравілася, заюхліўшыся зноў ад злосці:

— Не толькі памыць, нават падаць не ўмее! Рукі не служаць!

— Чаго ты? Сціхні.

— Яшчэ і ўспакойвае. Адыдзі з вачэй.

Імполь, звяўшы душою, ■ тою даўняю крыўдаю, падумаў, што жыць яны ў згодзе і спакоі наўрад ці будуць. І стромы, абрывісты бераг яго душы зноў пачала падточваць старая, накіпелая помста: забраць Хрысцю і ўцякаць адсюль, кінуўшы ўсё чыста на свеце — Верасава, прымачча жыццё, Дварчаны. Бо жыцця горшага не будзе, як ёсць. Ды ў яго з Хрысцяю аднакава доля.

Хоць гэтую таямніцу неспадзявана ўжо студзілі думкі пра тое, што ён кідае сваё малое, што не мае ніякага ратунку ў злым і чужым свеце дзіця. І што пра нарадзіны сына, пра гэтую навасць скажа Хрысця? Можа, пераменіцца да Імполя, адыдзе, адкаснецца ад яго. Як віхор, халодны каля сэрца закруціўся страх.

Імполь стаяў на грудку. Перамешаны з пахам сырога ржышча, зялёнае, саладжава-прэснае травы, нядужы ветрык студзіў расхрыстаныя грудзі. Пахла сырая карычнева-белая грэчка пры ружаватай ад мяккіх каткоў дарозе.

Ляскаючы пустым, ненагружаным возам, на грудок паўзла марудная фурманка. Чорная кабылка з вузкімі персямі ўпарта махала цяжкаю галавою. З аднаго боку яе

лёгка і ганарыста ступала цыбатымі нагамі буланае жарабя, з другога боку трос доўгімі вушамі падласы сабака.

Імполь, намацваючы вачмі шары, прысыпаны пяском камень, адступіўся да грэчкі, перайшоў на той бок дарогі, дзе бегла цыбатае жарабя. Але, згледзеўшы чужога чалавека, баязлівы сабака ўгнуў голаў і сам затуліўся за воз.

На возе, звесіўшы праз драбінкі босыя ногі, сядзелі двое хлопцаў. Аднаго з іх, круглявага з твару, у пляскатай кепцы, Імполь адразу ж пазнаў — гэта быў Жорык Кісцень, па мянушцы Чарток, сын царкоўнага старасты. Кульгавы на адну кароткую ногу, ён некалі ў школе, адбіўшыся ад абрыдлай дварчанскае распусты, што здзекавалася з яго, гарнуўся да Імполя.

Ён і цяпер, убачыўшы даўняга свайго заступніка, сарамяжліва засмяяўся, махнуў высокай, ад падкладзенай газеты, кепкаю:

— Здароў быў. Куды разагнаўся?

— Ды во,— сумеўся Імполь, не знайшоўшы, што адказаць.

— А торба дзе? — Чарток зноў выскаліў свае белыя на смуглявым твары зубы.

— Якая торба?

— Соль купляць,— падказаў той, што трымаў за лейцы, прыпыніўшы трохі спакойную кабылку, каля якой круцілася цыбатае жарабя.

— Вунь у Дварчанах аж крамы трашчаць. Людзі хватаюць соль і запалкі.

— Маё астанецца,— махнуў рукою Імполь.

Але, адышоўшыся ад воза, учуў раптам, як у грудзях зашчымела трывога: а што там з ёю, з Хрысцяй, дзе падзенецца ў гэтай калатэчы.

Падбіваючы босымі нагамі карычняватыя, тугія, як бізуны, нераспелыя таўкачыкі бабкі, паімпоў подбегам, але ўбачыў на белаватай пясчанай дарозе, што стрымгалоў збягала з грудка ў лагчыну, яшчэ адну сустрэчную падводу і завярнуў на вузкую, сточаную наздраватымі норкамі, у горбачках жоўтага пяску жвірыстую сцежачку.

Варожачыся, каб нос у нос не стрэцца яшчэ з кім знаёмым, не пайшоў на чыгуначны пераезд, а лужком, у які ўпіраліся местачковыя гароды з сівай, што не бралася яшчэ ў галоўкі капустай, выйшаў да прадмесця з другога боку вакзала.

Тут за штабялямі дроў і жоўтых, што пахлі нагрэтаю высачанаю смалою, дошак перабег іржавыя, зарослыя вы-

сокім стрымбуляватым у нябескіх кветачках, мацаўніком, тупікі чыгуначнай станцыі і каля дашчанага склада раптам наскочыў на дварчанскіх грузчыкаў.

Явы якраз палуднавалі, схаваўшыся ў цянёк каля самае падмуроўкі і палажыўшы на выцягнутыя ў зморапым спакоі ногі свае палатняныя торбы — хто з чым: з кавалкам чорствага хлеба і цвёрдым крамяным антонам ці шыпаватым гурком або бутэлькай цёплага, ужо збрыізглага раніпняга малака.

Бліжай да цвёрдае жвірыстае сцежкі, што абягала склад, сядзеў, падпіраючы спіною шары цэментовы падмурак, Імполеў брат Платон. Сціпіком парэзваў, не дастаючы [redacted] торбы, кавалак падсушанага і выхаванага на гарышчы ажоўклага сала.

Імполь чапіў босаю нагою шары, мусіць, ніколі не ваксаваны чаравік, што разявіў перад, выскаліўшы зубы драўляных цвікоў.

Чаравік нервова турзануўся, і на Імполя зіркнулі, бліснуўшы бялкамі, вырачаныя ад дзіва Платонавы вочы:

— А-а, гэта ты?

— Няўжо ж хто.

— Да мяне што? — ён памянціў тлустым лязом ножыка на шарачковых портках, склаў яго і ўкінуў у адтапыраную кішэню.

— Не,— ад гарачага, што пякло ў плечы, сонца Імполь таксама адхіліўся ў халадок.— Ды во так, у краму.

— Меней швэндайся тут,— Платон абапёрся на руку і адарваўся ад падмурка. Туга зашморгваючы торбу, першым рушыў тупкаю ў калючых каменьчыках сцежкаю за склад, там ужо, як адкрываючы вялікую таямніцу, сказаў:— Сёння ў мястэчку хапун.

— Што? — не зразумеў Імполь.

— Паліцыя арыштоўвае ўсіх падазроных. Унь Давыдоўскі кажа, што блізіцца вайна. Не сёння — заўтра будзе. Ідзі купі хоць запалак.

— На век не накупляешся,— Імполь збоку прыглядзеўся да Платона, змеціўшы, як у таго распаўнеў, зрабіўся нейкі адутлаваты твар. На шчоках выступала падазроная жаўцізна. Здалёк спытаў:— Як сам жывеш?

— Ды нічога во.

— Здароўе, пытаю?

— Ат,— адвярнуўся, не вытрываў пільнага зроку Платон.— Жывот іншы раз хватае. Ці не ўраз нарваў тут, цягаючы мяшкі.

Яны прайшлі гэтай выбітай сцежкай праз сівы высокі палын, што горка пах ужо сваім непрыкметным жоўтым цветам. Да яго дамешваўся пах вугальнага саладжавага дыму, што цягнуўся аднекуль са станцыі — там пагукваў паравоз, мусіць, сюды ў тупік падганяючы вагоны.

— Вунь войска грузіцца другі ўжо дзень,— паслухаўшы, як гукае манеўровы поезд, махнуў туды суконнаю, зношанаю да рубцоў кепкаю Платон і неспадзявана для Імполя папытаў:

— Скажы, праўда ці не? Чуткі тут дайшлі. Пра жонку тваю кажуць...

— Чаго не плятуць цяпер,— недаслухаў, перабіў яго Імполь, ведаючы наперад, што ўчуе брыдкі і гадкі абгавор пра Алесю, і нешта злое, пякучае заварушылася ў яго душы.

— Ты не злуй, але я скажу — кідай ты яе!

— Чаго раптам ты? — Імполь збіўся з хады, падазрона, крадком зіркнуў на брата.

— А ты так не цікуй,— Платон нацягнуў ніжай на вочы злінялую кепку і сказаў ужо з-пад апушчанага доўгага брыля:— Дадому ідзі.

— А ты дзе дзенешся? — Імполь ублытаўся ў высокія бязлістыя стрымбулі мацаўніку, што абапал абступіў вузенькую сцежку.

— Не задушымся, месца досіць. Жыць будзем. У мяне вунь на пошце пяцьсот злотых ляжыць. На хату сабраў. Перабяруся ў сваю...

— Глядзі, каб не асталіся ў купры, як мікалаеўскія. Твар у Платона збялеў, губы засінеліся нежывым холадам нябожчыка:

— Няўжо праўда згінуць?

— Ну, хто знае, як павернецца цяпер? — адступіўся ад свае злосці, памяркоўна сказаў Імполь.

Цяжкая натруджаная Платонава рука лавіла голы стрымбулік мацаўніку з нябескаю, кволаю, як матылёк, кветкаю:

— Няўжо дарма чалавек мучыўся, рваў жылы? А цяпер — нá табе... Няўжо?

— Ты не прамаргай, хоць дрэва купі. Яно не прападзе,— падказаў Імполь.

— На тым тыдні ездзіў у Кашалева, але якое там дрэва, адныя семяннікі-елкі. Ніводнай старалесіны, хвойкі.— Платон закусіў губу, пацёр, мусіць, ужо змакрэлы лоб.— Няўжо ўдраў памылку, што не купіў?

Імполь бачыў, як у Платопа макрэлі вочы, каля куткоў губ балючаю крыўдаю выразаліся глыбокія шнаркі.

Гарачыня жаласці і шкадаванне да брата апяклі Імполевы грудзі. Не ведаючы, што парадзіць і якое знайсці выйсце з бяды, схапіў і турзануў Платона за рукаво:

— У тартак схадзі, можа, там купіш...

— Там брусы, там усё дарагое.

— Ліха з ім, з дарагім.

Не ведаючы, якую знайсці раду ў гэтай бядзе, Імполь спытаў ужо адчэпнае:

— Што там у нашай вёсцы чуваць?

— Чаму не завітаеш? Ды ўсё старое,— Платон гэтым разяўленым, што выскаліў восці драўляных цвікоў, чаравікам калупнуў з травы камень, падбіў яго:— А мо ты і не чуў? Гумно Хвядоры Янэчкавай з перуна згарэла. Са ўсім збожжам. Зяць паспеў адно калёсы выкаціць. Акраз скідаў снапы, калі пярун у старану ляснуў.

— Даўно?

— На тым тыдні, як бура была.

Імполь успомніў градавую хмару, што разарвалася і прайшла бокам за Верасавам, нат не пырснуўшы дожджыкам. Гэта было за дзень ці два да Алесіных родаў. І, успомніўшы зноў пра дзіця, прызнаўся:

— У мяне ж сын нарадзіўся.

— Ну дай бог шчасця яму,— Платон падняў свой нездароўчы адутлаваты твар.— Дак у цябе ўсё добра, а тут былі чаго толькі не прыклалі.

— А што кажуць? — Імполь насцярожыўся, ці не пра яго з Хрысцяй.

— Цяпер свет разбэшчаны, такую злабу пусцяць, гэдак аблаюць і збэсцяць чалавека. Што пераказваць. Нідзе праведнасці няма.— Платон адвярнуўся, узіраючыся на сівенькія, як валошка, растапыраныя кветкі мацаўніку, упікнуў:— Чаму не прыйдзеш калі? Так і жывём, як ваўкі. Ні разу і не сабраліся сем'ямі.

— Ды не з рукі ўсё было.

— Але каго вінаваціць. Заюхлішся ў рабоце, грош да гроша збіраеш, ды ўсё марна, наперакасяк выходзіць.— Платон махнуў рукою, памалу пайшоў цвёрдаю ў ружовых каменьчыках сцежкаю праз сівы рослы палын і сказаў, цяжка азіраючыся:— Вазьмі жонку з дзецем ды прыедзь у нядзельку. Пчолы падладжваць буду. Ты ж не ведаеш, я ж завёў з леташняй восені. Ад цесця чатыры вуллі прывёз.

Як у глыбокім рачным віры апалы лісток, у Імполевых думках кружылася адна і тая ж бездапаможная мысль: як жа ж быць з ёю, [redacted] Алесяй, ці згодзіцца яна?

— Прыеду, калі баба не раскісне,— ужо ачах і няпэўна сказаў Імполь, ціснучы сухую парэпаную Платонаву руку і ўзіраючыся ў яго чырвоныя неэдароўчыя вочы.

Платон бокам адышоўся, яшчэ раз махнуў суконнаю, у косыя рубчыкі кепкаю:

— Ага, дак чакацьму.

Імполь яшчэ пастаяў, паглядзеў, покуль схаваецца за шарым дашчаным складам Платон, і, ужо асалавелы ад сухое гарачыні, што млела ў тупіку чыгуначнае станцыі, рушыў да кароткіх платформаў са жвірыстым баластам і чырвоных доўгіх пульманаў, што здалёк запахлі прысаванымі, гнілымі селядцамі, каб наўпрасты выйсці ў мястэчка.

З цёмнае, каламутнае глыбіні памяці раптам выплыла тое даўняе і баязлівае, што мучыла і дапякала даўно: ва ўсім, што пайшло ў іхнім з Алесяй жыцці наперакос, вінаваты ён, Імполь.

З тых маёвых хрэсьбінаў развязалася, рассыпалася і разбеглася, як пацеркі, і ўжо не сабярэш, іхняе жыццё.

Як з-пад сівае градавое хмары настылым скразняком дыхала і ад Алесі. Гэты холад Імполь чуў і ў скупой, сілком працэджанай праз зубы Алесінай гутарцы, і ў яе косым, спадлоб'я позірку, і нават у тым, як яна, ужо не саромеючыся, пераадзявалася перад сном, толькі павярнуўшыся да яго спіною. Ён не ведаў, ці гэта яна спакушае, ці проста робіць усё, як рабіла, калі нікога не было б у хаце, і чуў, які холад ішоў ад гладкай спіны з разоркаю хрыбетніка, ад яе голых рук, чарнявых пах, ад налітых малаком грудзей, якія было відаць з карычняватым натапыраным саском, калі яна падымала рукі, сцягваючы з сябе сарочку.

Імполь вар'яцеў, сцінаўся ад раптоўнае задушлівае гарачкі, яго разбірала хэнць і адначасна апанала млявай гідкасцю, калі ён збоку бачыў цяжкі пукаты жывот, яе абвіслыя ад цяжарнасці, налітыя ўжо малаком, грудзі. Вялікая, перамешаная [redacted] нянавісцю крыўда раздзірала яго душу. Імполю ўжо здавалася, што ён ніколі не любіў Алесю, і ў атупелай, нязлоснай помсце шкадуючы сябе, думаў пра Хрысцю.

Штосьці празрыстае, як цёплы высокі дзень ранняй

вяспы, абдымала яго. Ён ціпэў, заміраў у спакоі і дабраце, мыслямі плывучы з Хрысцяй праз новае, ім выдуманае, цыснаванае жыццё. І п'янеў ад пахучага дурману сваіх патайных мысляў. Нібы абсыпаная расою павучына, пераліваўся, зіхацеў гэты выснаваны свет. Але не моцны ён быў і не праўдзівы.

Нешта светлае выбліснула ў душы і цяпер, змяніла і перайначыла шарыя, накрытыя замшэлаю драніцаю хаты, якія ён убачыў за брукаванаю вуліцаю, высунуўшыся з-за штабеля рудых ад мазуту і збуцвелых пад рэйкамі шпалаў: і брукаваная ў гладкіх каменнях вуліца, і закурэлае прысаддзе, і фурманка, што сыпала раструшчаны грукат колаў, і сіняе неба з нізкай бялюткаю хмаркаю, набэрсанай на сіні купал царквы, жыло і было напоўнена ёю, Хрысцяй.

У грудзях страпянулася і ад салодкага болю заныла сэрца. Не помнячы сам сябе, Імполь подбегам прайшоў доўгую, што пахла конскім памётам і сухім пяском, выгінастую вуліцу і, ачуціўшыся каля мураванае з пафарбованым па чырвона бляшаным, у пасачкі, дахам яўрэйскае школы, выйшаў на галоўную вуліцу, да Сулінай цукерні. Над нізкай, з дзвюма прыбудоўкамі і заломленым шчытом, атынкованай хатай сплялі свае кроны хвойкі. Дзікі вінаград абвіў ужо мёртвы, нежывы камель аднае з іх, уквеціў у густую зелень свайго лапушыстага лісця пакручастыя галіны некалі кучаравай прыгожай верхавінкі, і мёртвая, ссохлая сасна, уквечаная цёмна-зялёным дзікім вінаградам, здавалася жывою.

Каб не гэтая, увітая дзікім вінаградам, хвойка, Імполь, напэўна, размінуўся б з Хрысцяй. Ён нават не змеціў, як няўмысна спыніўся за невысокім, пафарбованым у нябескі колер плотам, на які нахіліліся цэлым бярэмам цяжкія махрыстыя кветкі бурачковых вяргіняў.

Азіраючы зверху да долу густа, вуж галавы не ўгледзець, абвіты дзікім вінаградам голы, толькі спаднізу ў злубянелым кажушку шурпатае кары, тоўсты сасновы камель, ён убачыў і той прывязаны да яго плецены гамак, у якім, звесіўшы босыя ногі, пагойдвалася Хрысця.

На разасланай злінялай васільковай капе забаўлялася дзіця — трасло касцяною зялёнаю брашчалкаю,— і каля яго, выцягнуўшы ногі на зялёнай траве, сядзела рыжая, з каротка падрэзанымі валасамі і адвіслым падбароддзем пасатая Суля. На прыполе ў яе ляжаў заплецены вянок залацістае цыбулі. Яна брала яе з горбачкі і сплятала

доўгімі, падсушанымі на сонцы хвосцікамі, перавязваючы іх зліняльім матузком.

Суля, падняўшы сваё рудое выцвілае вока, згледзела Імполя. Каб апярэдзіць яго, адразу закрычала:

— Не глядзі! Нічога няма ў мяне. Усё раскупілі. Усё! Увесь цукар.

Імполь, збіты з тропу гэтым крыкам, адступіўся нават ад плота. Бачыў, як аслупянеўшы і нібы сама не свая, на яго пазірае Хрысця.

— Цётка Суля! — нарэшце, затрэпаўшы нагамі і не дастаючы да зямлі, яна выцерабілася з гамака.— Гэта Імполь.

— Які Імполь? — Суля скінула з калень цяжкі вянок цыбулі.

— Ён да мяне,— на твары ў Хрысці чырванню палыхнуў сорам.

Яна нават прыклала да шчакі руку, чуючы, якая яна гарачая, і пайшла сюды да плота; губкі яе выпнуліся ад дзіва, і ў нейкай смешнай міне яна скрывіла набок голаў:

— Чаго ты?

— Да цябе, Хрысця.

Яна спаткнулася і спытала, нібы не ўчула, што ён гаварыў:

— Чаго ты прыйшоў? Ну чаго?

— Сказаць табе нешта хачу,— ён паглядзеў туды, дзе каля абвітай вінаградам хвойкі стаяла, апусціўшы тоўстыя, абсыпаныя рабацівнем рукі, старая Суля.— Мо прайшла б са мною?

— Нікуды я не пайду. Кажы тут.

— Люблю цябе.

— Выдумаў ты.— У яе дробна задрыжаў падбародак.

— Хачу, каб паехала са мною...

— Куды?

— Жыцьмем разам. Абы-куды,— ён рукою злавіў штыкеціну.

— Такое страхоцце на свеце. Вунь, кажуць, вайна будзе.

— Горшай вайны німа, як ужо ёсць. Жыць у Верасаве не магу. Збрыдзела, адзічала ўсё.

— Не грашы, Імполь, хоць ты. Вунь дзіця, кажуць, у цябе знайшлося.

— А што дзіця? Хіба ж яно?..

— Нашто ж каб пры жывым бацьку ды сіратою расло? Нашто ж такі грэх?

— Грэх, кажаш?! — нешта тупое і балючае штырханула яго і адарвала ад рэдзенькіх вострых штыкетаў, ад куста бурачковых вяргіняў, за якімі стаяла яна, Хрысця, недаступна-чужая ў чужой, спярэшчанай ліловымі кветачкамі сукенцы.

Толькі вочы былі тыя самыя, лупаценькія, як у дзіцяці, і з вільготна-цёплым бляскам. Нібы вылушчаны з калючае шышкі спелы каштан.

Не, вочы былі не злыя, добрыя. А можа, толькі падалося Імполю?

Ачах трохі і адышоў ад злосці ён ужо за мястэчкам на гарбатым грудку, які лянуючыся перапаўзала брукаваная ў каламутным бляску каменняў і абсаджаная, перад вечарам рахмана-прыціхлымі, бярэзінамі шаша.

Прыпыніўшыся на жвірыстай, што вілася з краю шашы, сцежцы, ён зноў успомніў гародчык ■ бурачковымі вяргінямі, абвітую дзікім вінаградам сухую хвойку. Нізкі плот і за ім — недаступна-злую Хрысцю. Здаецца, у яе карых лупаценькіх, як у вавёркі, вачах блішчалі слёзы. Няўжо ён не распазнаў, не разабраў тады?

Адступіўся, адтаў зледзянелы прыступ злосці. Нешта добрае, ласкавае высачылася ў Імполевай душы да Хрысці. Хіба ж так знянацку ды пры староннім чалавеку гавораць пра сваю таямніцу і жыццё. Гэта ж спатажыць і зняверыць дзяўчыну.

Ад гэтых думак нібы паспакайнеў і сцішэў душою сам. Прыспешыўшы хаду, звярнуў з шашы на дарогу, каб ужо наўпрасты цярэспаля выйсці да Верасава. Даганяў свой доўгі цень, што бег то па залацістым ад нізкага сонца ржышчы, то па ружаватай, ужо спелай грэчцы, зялёных лапіках пяскошанай канюшыны.

Чуў, як за плячыма астывала, зачапіўшыся за адзінокі сухаверхі топаль, зморанае за дзень сонца. Яго трывожна сухая чырвань ужо затрапяталася ў цёмным шкле верасаўскіх вокнаў, калі ён падышоў да крыжа, дзе яшчэ вісеў неразвеяны пыл, што паднялі клышаногія авечкі.

У вёсцы чуваць было расцяжна-хрыплаватае бляянне барана, што адбіўся недзе ад свайго двара, звонкі крык маладзіц на непаслушных кароў, што галаднаватымі прыйшлі дадому і шукалі каля плота травы, наровячы не пайсці ў хлеў.

— А туцькі! Во нязграбпасць! — на падворку падмахвала рукамі Алеся, і Імполь, блізячыся да плота, з халод-

ным жахам падумаў, што сёння не абыдзецца без упікання і крыку.

Асцярожна ў прычыненых весніках адкінуў іржавы кованы крук.

Ды Алеся, мусіць, прыцікавала яго яшчэ на дарозе ў вёску, бо нават не абярнулася:

— Балазе знайшоўся.

— Ага,— ён хацеў усміхнуцца.

— Яшчэ і выскаляецца.

— А што, плакаць?

— Дак смейся, дзіця вунь захварэла. А дзе цябе халера носіць?

— У Дварчанах быў.

— Куды вецер, туды і дым. Ты ўсё да яе...

І ён учуў, як нейкая гарачыня сплыла яму ў ногі. Стаяў як абязвечаны. Не спадзяваўся, што Алеся ведае і адчувае, пэўна, усё. Ад яе нічагутка не ўтоіш.

— Чаго ж стаіш, як...— яна прыляпнула рукою па сытай цялушцы, падганяючы яе ў хлеў, сказала ўжо цвёрда, але без злосці:— Заганяй во скаціну, я пабягу ў хату, там дзіця з плачу зайшлося.

— Мо Сымоніху паклікаць, няхай пярэпалахі паганяе.

— Во рабі, што кажу. А з пярэпалахамі я й сама дам рады.

Загнаўшы карову з целем, ён доўга стаяў у настоенай смярдзючай духаце хлява, а ў галаве ўсё пульсавала, білася нейкая жылка, што ўжо не першы раз падточвала сыпкі Імполеў бераг: нашто вярнуўся ў Верасава. І зашмаргнулася ўсё ў глухім вузле — а дзе ж дзеўся б. І марудна, як на пакуту, пайшоў у хату.

## XXV

Вайна!.. Яна была чаканай, як чакаюць збавення, нават смерці ад нязлечнай і страшнай хваробы. І яна прыйшла гэтаксама нечакана, як прыходзіць смерць.

Але сюды яшчэ не дакаціўся яе грымотны водгалас, і чорным крылом абложная хмара не займала свет: велічны і бязмежны спакой млеў пад чыстым і высокім сонцам, і кругом стаяла астатняе, празрыстае цяпло лета, замглёнае шчымлівай адзінотай, пад якую ў салодкім смутку думаецца пра смерць і вечную абнову жыцця.

Не паспела яшчэ зазелянець пры густым шорстка-натапыраным, сонным ляску першай радасцю рунь, адно

шарэла пухка-сухаватая ў радках ад бараны і белаватых, выараных плугам каменнях смутная ралля.

Поле было стракатае ад лапікаў злінялага ржышча, ружовага грачанішча, зялёнай, акрыялай на аўсянішчы канюшыны і звялых, падсохлых картопляў.

За карычняваты, што адцвіў на закурэлых горкім пылам дарогах і межах, пруткі быльнік чаплялася і блішчала калючым прамяністым шклом тонюткая павучына.

Чорствыя і пустыя дарогі, то спадаючы ў лагчыны, то ляніва падымаючыся на пагоркі, плылі да сонца.

Сухімі саламянымі стрэхамі ў лагчынах хаваліся вёскі.

Спутаныя коні з доўгімі непадрэзанымі хвастамі і грывамі хадзілі на лужках каля карычняватага, пабітага рудою рыжою і сточанага чорнымі смолкімі чарвячкамі алешніку, пры маладой, што паднялася зялёнай падушкаю, пахучай атаве.

Яе ніхто яшчэ не касіў. Чакалі багача — першага асенняга свята, каб пасля яго ўжо брацца за астатнюю работу: дасяваць жыта, касіць атаву, капаць картоплі ды выбіраць гароды. Упраўляліся пры хаце: перасыпалі старыя хлеўчыкі, пераплятaлі новым частаколам раз'ехаfamous платы, капалі новыя ямы ды папраўлялі пaграбы на картоплі, стрыглі палахлівых трапяткіх авец, каб да халадоў, калі пара будзе рэзаць, на іх адскочыла цёплая, на кажух, воўна. Устаўшы зацемна, яшчэ да снедання, паспявалі збегаць у шчытнік — малады густы саснячок — назбіраць пры грудках па шызым мосе цвёрдых, з карычнева-слізкімі шапкамі, прысадзістых баравікоў ды ў глухім сыраватым гушчары, разгробшы чорна-перапрэлую кастрыцу, натрапіць на чараду маладых жоўценькіх падгрыбніц.

У верасаўцаў у гэтую пору якраз падаспеў новы клопат — рабіць мост.

Трэці дзень за Ваўчковым занядбаным садком, дзе ўжо зачырванеліся лісцем чэзлыя вішні, у цяньку старых лішаістых, звіслых над дарогаю вербаў, чувацьбыў густы шоргат пілы і вострын, што тройчы адбіваўся рэхам, цюк сякеры.

Раз за разам, забіваючы ў цвёрдае жвірыстае дно палі, тупа гупала цяжкая «баба» — трохпудовы молат, што цягалі, абпальваючы рукі аб тугі канат, па двое наперамeнку мужчын. Закасаўшы вышэй калень порткі, яны стаялі ў крынічнай халоднай рэчцы і з крыкам «гоп-ля» падымалі і апускалі на тоўсты, што старчма вызіраў з вады, слуп гэтую цяжкую гіру.

Акоранае ды ачэсанае яшчэ з вясны дрэва праляжала пад старымі вербамі ўсё лета, покуль верасаўцы чакалі свае калейкі, каб узяць у дварчанскага яўрэя Гершановіча на дзён пяць капёр, але ён быў заняты: як ніколі, у гэтае лета прырэчныя вёскі будавалі масты.

Прывезлі яго пазаўчора, і ўсё Верасава — малы і стары — збеглася сюды да чыстае, памялелае ў гарачыню, што выдалася ў статнія дні, рэчачкі, дзе на пясчаным плёсе мужчыны ставілі драўляныя высокія козлы, каб ужо загнаць у тугі жвірысты грунт першую палю.

Сёння іх стаяла ўжо чатыры: дзве на плёсе, дзве ў быстрай вадзе вузкае рэчачкі, што, выгінаючыся на павароце, тугою серабрыстаю стужкаю цягнулася сюды на шырокі брод.

Каля старых, уквечаных жаўтлявым лішаём вербаў, трохі збоку ад раз'езджанае дарогі, з крутога берага да першых паляў падступілася, выкладзеная з каменняў ды высыпаная пяском, грэбля — тут на ёй павінен быў пачынацца мост.

На другім беразе сёння закладвалі яшчэ адну. Міця — загарэлы за лета і трохі зблажэлы з твару, у рудым шарачковым пінжаку і босы — вазіў з поля са сваіх пазарастаных травою крушняў пазеляненелыя каменні.

Сюды да рэчкі і прыйшоў стары Корсак, і не дзеля таго, каб толькі ачэсваць маставіны, а каб прыглядзець за маладым, няспрытным яшчэ ў рабоце канём, якога не вельмі хацеў выпускаць з рук, тым больш даверыць такому, як ён лічыў, няздатнаму гаспадару, як Міця.

— Глядзі ж, не валі столькі,— паказаў ён на воз, калі Міця варочаўся з поля і, зняўшы драніцы, скідаў на затравелы абрывісты берагвагкаватыя каменні.

— Ды я ж во, здаецца, няшмат,— Міця стараўся не ўзнаравіць бацьку, хоць каменняў нагрузіў менш, як іншыя возчыкі.

— Малады конь, лёгка сарваць,— Корсак, нечым незадаволены, з размаху ўбіў тонкае лязо гарбатага склюда ў ачэсаную маставіну і прысеў на яе сам.

Змітрык дагадваўся — бацьку браў клопат за ўчарашняе, калі дадому з дзіцем на руках прыбегла зжоўклая, яшчэ не акрыялая пасля родаў Алеся.

Міця з бацькам якраз былі на падворку каля агню, што патрэскваў пад трыножкамі: на іх стаяў закурэлы чыгунок з першаю маладою картопляю.

Блытаючыся ў сінім, што пахіліўся на сцежку пад

гумно, рэдзенькім дыме, Алеся падышла да агню і зайшлася ад слёз.

— Што з табою? — з перапуду бацька ўзмахнуў рукамі.

— Не ўжыць ужо. Не вытрываць!..

— Ды ўспакойся ты, дай разабраць. Крычыш, аж у небе чуваць.

— Бегае ён да яе. Ляціць няпомнячыся.

— Хто бегае? — ніяк яшчэ не мог уцяміць бацька, а ён, Міця, дагадаўся — вядома, Імполь.

— Мой вунь, мянёк гэты,— нарэшце сказала яна.

— Знайшла, чаго крычаць,— кісла і здзекліва ўхмыльнуўся бацька.— А я табе даўно казаў: вытур гэтага кныра з хаты. Так, нябось, шкода было. Цяпер маўчы.

— А я і маўчу,— усхліпнула Алеся і скоранька завярнула назад пад гумно, трымаючы перад сабою ўкручанае ў сінюю коўдру дзіця.

— І чаго і куды ляціць яна на злом галавы? — бацька нават падбег за ёю.

— Во, дзякуй вам, пагаварыла і з бацькам, і з братам. Дзякуй! — Не азіраючыся, яна схавалася за гумном.

— Разбярэш тут яе,— крыкнуў таксама ўжо раз'юшаны ад злосці бацька.

Гарката і крыўда асядалі і ў Змітрыкавай душы на Алесю. Любіў ён сястру, любіў і таіў гэтую ласку да яе. І шкадаваў, бачачы, што не ўдалося ў яе жыццё з Імполем. Нераўня ён ёй. Толькі звёў, знявечыў, скруціў Алесін лёс. Што зазнала за ім? Адно ганьбу ды абгаворы.

Не раз штось мсціваe і крыўднае за сястру пад'юджвала Змітрыка пайсці ды ўзяць загрудкі Імполя, страсянуць, каб аж забрашчалі зубы, і пхнуць з хаты. А ўчора бацька, нібы прадчуваючы Змітрыкавы мыслі, сказаў, папярхнуўшыся сінім дымком, што чадзіў з-пад трыножак:

— А можа, пайсці ды ўжарыць яму, загнуўшы курну, каб дзесятаму заказаў.— І нечакана асекся, у яго задрыжаў чорны, з іскрамі блішчастай шчаціны падбародак:— Але ўлезеш у чужое жыццё ды наробіш мо горшай бяды! Я ўжо раз паспрыяў ёй: за кульгавага Лабара сватаў. Яшчэ і цяпер сабе дараваць не магу.

— Якога Лабара? — сумеўся, чуючы першы раз гэтую навасць, Змітрык.

— Ат, ці табе ведаць. Вот было, ды ўсё.

Цяпер бацька сядзеў панура, скрыва пазіраючы на Імполя, што на змену з мужчынамі цягаў цяжкую жалез-

пую «бабу» — вада мыла яго валасатыя з закасанымі калошамі ногі.

Прывязаўшы сырамятную лейчыну за шурпаты і тоўсты камель вярбы і пакінуўшы каня, Змітрык падышоў да бацькі. Сюды ў халадок пасядзець на акораных дзеравінах ды перадыхнуць, апякаючы душу моцнай махоркай, збіраліся гультаяватыя мужчыны. Акалелы ад халоднае вады, ганяючы дрыжыкі, з рэчкі хлюпаў Алесін Імполь.

Корсак спадылба зіркнуў на яго, злосна прыкусіў губу і адвярнуўся. Чужыя мужчыны змецілі гэты злы, нядобры зірк. Ваўчок, як падлавіў Міця, перакасіўшы рот, нават падміргнуў Ікону Жытку.

Мужчыны сабраліся не столькі ад таго, што прытаміліся, колькі ад хэнці, што можна пагаварыць ды ўсмак закурыць моцнае гродзенскае махоркі, якая не зводзілася ў жоўтым, выробленым з барановай машонкі, капшуку старога Корсака. Той-сёй з іх нават і наравіў стаць ці сесці каля Корсака, каб у час падставіць жалабок з акуратненька нарэзанай газеты.

Але сёння злы і пануры Корсак свайго мякенькага капшука пакуль што не даставаў.

— Мо перакурым,— паляпаў па сваім парцяным пінжаку Язапат Змысла і адным вокам, дзе на веку выспела рудаватая бародаўка, зіркнуў на адтапыраную ад крэсіва Корсакаву кішэню.

— Сып, сабе намалоціш,— хітра пераглядаліся мужчыны, ведаючы, што Язапат Змысла быў ласы на чужое.

— Такі добра мультан удаўся. Па картоплях садзіў.

— А ўчора казаў, што бесараб,— падцяў Змыслу Ваўчок.

— Ну ліха з ім, бесараб ці мультан, абы моцны,— падсоўваў складзеную жалабком паперу тоўсты, як мянёк, Чабоцька, варушачы рыжымі густымі бровамі.

Змысла вывернуў пустую кішэню і высыпаў перамешаную з крошкамі тытунёвую пацяруху на пясок:

— Гэта ж цэлы капшук зранку нашаткаваў і на́ табе — забыўся. Вот галава.

— А кажа, мультану насеяў.

— Хто сее, хто барануе, бог усіх параўнуе,— адышоў ад злосці і засмяяўся ўжо, гледзячы на знябожанага Язапата Змыслу, Улас Корсак і развязаў жычку ў сваім жоўтым капшуку.

Да купкі верасаўцаў не падышоў адзін Імполь, прысеў на таўставатую, спярэшчаную падсочкай дзеравіну, што ляжала пры беразе рэчкі.

Па тым, як ён украдкам зіркаў з-пад нізкага, насунутага ад сонца брыля то на бацьку, то на яго, Міця дагадаўся, што ўчора вечарам у Алесінай хаце была не адна толькі сварба.

Няўжо біліся яны? Няўжо? І нешта зноў цяжкае, злое, успыхнуўшы раптоўным пякучым полымем, абпаліла душу.

Каб не страчацца вачмі з Імполем, адвязаў ад тоўстае шурпатае вярбы сырамятныя, выгладжаныя рукамі лейцы і завярнуў каня да броду — яшчэ раз з'ездзіць на поле і прывезці каменняў.

Стоячы пасярод рэчкі ў доўгай, што туга абляпіла ногі, мокрай спадніцы, Вайтовічава Марыля таптала ў быструю ваду лёгкія снапкі сухога абабітага пранікам на гуменным току жаўтлява-блішчастага лёну.

На плёсе ляжалі скінутыя з плячэй і развязаныя радзюжкі з жаўтлява-залацістымі, што пахлі алеем, тоўстымі снапкамі.

Старэйшая Вайтовічава дачка, Яніна, мусіць, па яшчэ дзіцячай звычцы, падымаючы на сваіх прыгожых, па-дзявочаму ўжо спакуслівых нагах лёгкую, у васільковыя кветачкі сукенку, падавала мацеры тоўстыя, што пахлі падсмажаным алеем залацістыя снапкі. Нечаканая белізна дзявочых ног задушліва турзанула Міцева сэрца.

Міжволі прыпыніўшы на плёсе каня і каб даць як дзяўчыне прайсці да радзюжкі з лёнам, Змітрык загледзеўся на гэтыя прыгожа і няўзнак заголеныя ногі, што мільгалі ў перламутравых пырсках вады. Дзяўчо, як счуўшы гэты яго пільны і ўжо занадта калючы зірк, збянтэжана турзанула ўніз за калені сабраны ў кулачок край сукенкі, і, можа, першая чырвань ужо сталага дзявочага сораму заружовіла яе круглявы з вострым носікам і пухлымі губкамі тварок. Густыя вейкі мякка схавалі яе шарыя, што скоса глядзелі спадылба, вочы. Яна ціха ўгнула голаў, яшчэ раз туга нацягнуўшы на каленях прыполік сінявата-зліналае, як ужо асыпаная валошка, сукенкі.

— Яня, ці чуеш? — гукнула з рэчкі ўжо маці і пабрыла сюды да плёсу, блытаючыся ў доўгай мокрай спадніцы.

Міця аб'ехаў радзюжкі з лёнам і, падцягнуўшы пугай, сілком загнаў у рэчку маладога пудкага каня.

Здзівіўся, што сам неўспадзеў і ўжо не першы кідае вокам на гэтае, з прыгожым тварком, дзяўчо, што так няўзнак адмянілася і перарэсло ў дзеўку.

Спомніў і той дзень маладога спякотнага лета, калі варочаўся з Баранавіч, і ў душы яшчэ тлела нядаўняя, мяккая, цёплая радасць стрэчы з Чэсяй, і ён нагнаў гэтае прыгожае, ужо вылюднелае ў дзеўку дзяўчо і, ашалелы мо ад свае радасці, загаварыў да яе, як да дзіцяці, з тым прыхаваным жартам і смехам, а яна, нібыта неўдагад, нібыта не зважаючы на прытоенае зманванне, ужо разважліва, па-сталаму адказвала на яго гутарку. Яму тады зрабілася брыдка і нават крыўдна-балюча за сваё праманванне, пыху і лішні гонар. Ён тады, як апомніўшыся, з нечаканым дзівам змеціў, як у нераспушчанай, не раскрытай яблыневай кветцы, яе прыхаванае дзявочае хараство.

Гарачы да шчымлівай радасці ў душы ўспамін неспадзявана перарваў конь — турзануў з усяе моцы пусты воз і, цяжка бухаючы па неглыбокай вадзе капытамі, выйшаў з рэчкі на раз'езджаны пясчаны бераг і тут пудка шмаргануў убок ад складзеных адзін на адзін мокрых снапкоў лёну. Міця нават саскочыў на зямлю, узяў каня за цуглі і толькі цяпер убачыў, што конь пудзіцца не гэтых залацістых, вынесеных з рэчкі і пацяжэлых снапкоў, а прылуцкай Рэпчыхі, што подбегам спускалася з грудка, падмахваючы сабе сашморгнутай з сівай растрапанай галавы хусткаю.

— А божа, а людцэ! — завяла яна, як па нябожчыку, сваім енкам спатажыўшы ды ўспалахнуўшы ўсіх.

І Міця нат сумеўся гэтага плаксівага крыку.

— Што з ёю? — блытаючыся ў цяжкай, змочанай да каленяў спадніцы, з якое цуркам лілася вада, сюды да берага падымалася з рэчкі Марыля.

Рэпчыха махнула перад сабою белаю хусткаю і закрычала зноў:

— Ах, божачка мой! Вы чулі?

— Што там, што? — у халодным сполаху гукалі ўжо з таго берага мужчыны і падымаліся з акоранай дзеравіны.

— Вайна пачалася,— махнула белаю злінялаю хусткаю Рэпчыха.

— Якая вайна?

— Немяц на Польшчу напаў!

— Што ты гаворыш, цётка? — не паверыла яшчэ Марыля, пазіраючы то на Рэпчыху, то на яго, на Міцю.

— Відаць, праўда,— пацвердзіў Міця: гэтай страшнай,

што халадзіла сэрца, повасці ён чакаў даўно, яшчэ з прадвесня, калі прачытаў прамову Гітлера і адказ Рузвельта.

Шмаргнуўшы ўгору за калепі штаны, у рэчку ўлезлі ледзьве не ўсе мужчыны; пад вербамі астаўся адно Улас Корсак, ды збоку, як бусел, што перад адлётам адбіўся ад грумады, стаяў Алесін Імполь.

— А дзе ты чула? — першым брыў упоперак тугой быстрай вады, на якой трапяталася разбітае на асколкі, сляпучае сонца, Марцін Ваўчок.

— Вунь радзіва ў Ахонах, мой Жэнік слухаў.

— Го-о-о! І без радзіва дам веры,— зажмурыўся Язапат Змысла, дайшоўшы да высокае «бабы» з цяжкім, апушчаным на палю молатам, дзе каля пазеляпелых, аброслых цінаю каменняў бушавала раз'юшапая рэчка.

— Бачыш, які прарок,— хіхікнуў там на беразе нехта з мужчын.

— Усё акраз выйшла, як перад Мікалаеўскаю вайною, мы ж тады таксама рабілі мост,— Язапат Змысла падняў сваю худую, аплеценую сеткай ліловых жылак, нагу.— Во гэдак — цэлаю вёскаю.

— Дак што?

— Значыцца, на бяду робім. Будзем гарэць, як тады гарэлі.

— Каб табе ўжо язык гарэў, і што да чаго ты пляцеш,— Марыля падхапіла пад пахі два мокрыя тоўсценькія снапы лёну і, цэдзячы ваду, пайшла гарачаю пясчанаю сцежкай, дзе, як у прыску, згортваліся і шыпелі кроплі вады.

Абапал Марылі на пыльнай дарозе цягнуліся два стракатыя шлякі.

За мацерай, мякенька і пячутка ступаючы спрытнымі смуглява-загарэлымі нагамі, ішла дачка. І не ўцярпела, крадком азірнулася: Міця злавіў на сабе нібыта незнарочны зірк.

І ўчуў брыдкасць, што і яго, як магнэзам, цягне глянуць на гэтае спрытнае і ўжо спакуслівае сваім прыкметным хараством дзяўчо.

— Баранавічы бамбіў,— палахліва расказвала Рэпчыха, стоячы ўжо ў купцы мужчын.

— Скажаш,— не паверыў даўганосы, з маленькімі сівімі вочкамі Ладак Какшучок, па мянюшцы Бацян.

— Людцэ добрыя, гараць тыя Баранавічы!

Міця асадзіў цуглямі ўстрывожанага ад гмызу капя і скамянеў, прыслухаўшыся да гутаркі верасаўскіх мужчып.

Што немінуча блізіцца вайна, для яго ўжо не было навіною — столькі перачытана газет ды перагаворана з людзьмі, трывожыла толькі невядомасць: у які дзень прыйдзе яна, але цяпер, неспадзявана для самога сябе, лядовая свежасць сціснула сэрца, калі ўявіў той цагляны, схаваны разложыстымі кустамі бэзу ад цяжкага безупыннага грукату таварнякоў, доўгі домік і чырвонае траскучае полымя, што шугала з яго вузкіх вокнаў.

У глыбіні неспадзяванай трывогі і страху падбітай пташкай біліся думкі: праўда, могуць бамбіць станцыю, а там блізенька і той цагляны домік, там яна, Чэся...

Ад здранцвення, ад цемнаты гэтых атупелых думак Міцю ачуціў Язапат Змысла:

— Ты вучоны, ты скажы мне, ці даляціць нямецкі араплан да Баранавіч?

— Даляціць,— цераз сілу вымавіў Міця, яшчэ і сам не разабраўшы, праўду кажа ці не.

— Тады бамбілі,— прыплюшчыў вочы і махнуў галавою Язапат Змысла.

— Каб я з гэтага месца не сышла, як я ніпраўду кажу. Што вы, людцэ добрыя, ці ж я махлюю,— Рэпчыха накінула на голаў і туга зашмаргнула пад востраю барадою за натапыраныя ражкі выцвілую баціставую хустку.— Пайду яшчэ Волесю скажу,— прызналася яна і завярнула на кладку, каб не лезці, мусіць, у халодную рэчку.

Мужчыны моўчкі глядзелі на гэтую нізенькую жанчыну, што ішла, чапляючыся доўгаю зялёнаю спадніцаю за белыя кветачкі сухотніку, і нават са шкадаваннем думалі, што яна не ўсё расказала, панесла з сабою нейкую таямніцу.

Работы тут каля моста ўжо не было: вярнуўшыся ў цянёк пад старыя навіслыя вербы, што неўспадзеў, з палахлівым шалпаценнем сыпалі на зямлю, на чые-небудзь плечы ці на шапку яшчэ рэдкае пажоўклае лісце, мужчыны прыселі на ачэсаных дзеравінах, каб успомніць каторы ўжо раз тую яшчэ нядаўнюю, як яны казалі, Мікалаеўскую вайну і як над Верасавам, калі ў ім стаялі немцы, закружыўся маленькі, як варонка, самалёт, а з акопа, што быў за Ваўчковаю хатаю, у яго пачала страляць гармата. Ды так гучна і моцна, што аж у вокнах павысыпалася шкло, але самалёта не збіла: каля яго толькі, успыхваючы цёмна-жаўтлявымі клубочкамі дыму, разрываліся снарады.

І, як заўсёды, гэтая мужчынская гутарка канчалася

тым, што Язапат Змысла пачынаў успамінаць, як ён першы раз пакаштаваў кавуноў, калі недзе за Роўнам іхнюю дывізію на пераправе цераз рэчку бамбіў нямецкі самалёт і нейчы перапуджаны конь перавярнуў цэлы воз кавуноў, і яны, салдаты, пачалі збіраць іх, вядома, пасля таго, як сцішылася перадрага.

— Не тыльма што, ён, як цукар, салодзенькі, і чырвоная ў яго мязга.

— Яно і відаць, што з таго часу ты аблізваешся,— падцяў ягоВаўчок, і мужчыны, забыўшыся пра вайну, сыта і дружна зарагаталі.

Змітрык, каб не слухаць гэты ўжо абрыдлы рогат, ускочыў на воз і, ёмка расставіўшы ногі, замахаў над галавою лейцамі, з гонарам гонячы маладога каня. Не бачыў, што з-пад вербаў на дарогу панура цікаваў і ажно заходзіўся ад пунтовай злосці бацька.

Перад хвойнікам на грудку па сівым шорсткім мосе, якім зарос ніколі не араны аблог, Вайтовічава Марыля з дачкою рассцілала лён. Марыля ішла збоку каля рэдзенька-залацістае пасмы, якую высцілала, трымаючы пры нагах пучок лёну, яшчэ няспрытная да кабечай работы дзяўчына.

— Ой, няўдаліца ты,— прысарамаціла дачку, але, учуўшы ляскат фурманкі, азірнулася на Міцю, засмяялася ўжо:— Во, вучыцца няхай.

Яніна, кінуўшы спадылба цікаўна-скрытны позірк, яшчэ ніжай нагнула галаў у стракатай, звязанай па-дзявочы — ражкамі назад — паркалёвай хустцы.

Міцеву душу абвіў хмель спакусы, што дзяўчо няўцям зіркае ў яго бок. Выехаўшы на лабаты грудок, ён зноў закруціў лейцамі, каб скаранька прыехаць да астатняе крушні з каменнямі.

Трасучы грываю, конь пайшоў шпаркаю дробнаю рыссю. У грудзі дыхнуў тугі, настоены на смале, цёплы дух ляска, горка разамрэлага ялаўцу і едкага, як з аптэкі лякарства, верасу, перад вачыма замахалі доўгімі лапамі густыя натапыраныя хвойкі. Па пяску, што рэдзенькаю пасмаю сцякаў з бліскучых жалезных шынаў, зашалясцелі калёсы. Абапал дарогі паплыла зараслая ценькай спалавелай мятліцай і сіва-ліловымі мякенькімі каткамі ялавіна. Конь, што набраў разгон, неўспадзеў захроп і крута рвануў убок, сцялежыўшы, нахіліўшы на адзін бок воз, недзе па ляcках рыпуча зашоргала кола. Змітрык з усяе моцы цяў лейцы назад, напружыўся ўвесь, але ўстояць на возе

ўжо не мог. Бачачы, што падае з гэтым перакошаным возам, у міг вока пагою злавіў драніцу, абапёрся аб яе і скочыў у цёпла-мякенькія зблытаныя каткі. З размаху спаткнуўся, прыкленчыў на адно калена, губляючы з галавы шапку, але не ўпаў.

На пустым, зарослым спалавелаю мятліцаю гасцінцы, што перасякаўся тут, у зацішным хвойніку, з байчэйшаю верасаўскаю дарогай, стаялі перапалоханыя і здурнела глядзелі два разнамасныя — чорны і карычневы — аблавухія цыбатыя ганчакі. Ад укормленасці, сытасці і дагледжанасці на іх паліскалася і адсвечвала ружаватасцю гладкая пільсць.

Змітрык падняў шапку і азірнуўся на шоргат, тупат і трэск: спатажаны конь, згубіўшы з воза шырокія, збітыя з дзвюх дошак драніцы, уляцеў на злом галавы ў густы шчытны хвойнік, захрас там з перавернутым возам і цяпер з перапуду дрыжаў, падымаючы храпу і косячы назад вялікім, з чырванаватым бялком вокам.

Падымаючы на сябе рэдкі цяпёк, што падаў ад невысокіх хвоечак, сюды па каранiстай сцежцы нехта каціў на старым брынчастым ровары з тугім рыпучым ланцугом. Натужліва горбіўся над нікеляванай загнутай уніз руляй, хаваючы пад доўгім брылём кепкі свой твар; з-за плячэй выглядала і цьмяна паблісквала двухстволка. На грудзях перакрыжаваліся пустыя патранташы. Прывязаныя лапкамі да шырокага паса, на клубе целяпаліся галоўкамі ўніз дзве забітыя качкі: адна чорна-белая, шылахвостая — сапэўна, качар, другая — жаўтлява-рабенькая маладая саміца.

На цёмна-сіняй у балонцы кепачцы з шырокімі, зашпіленымі наверсе вушамі Міця яшчэ здалёк пазнаў маладога, адутлаватага Грабянку і загарэўся ад злосці, падняўшы драніцы, пайшоў да перапуджанага каня, халадзеючы ад страху, што, можа, укалечыў скаціну.

Воз ляжаў на баку двума коламі ўверх і недзе зачапіўшыся адламанаю ручкаю за таўставатыя камлі шурпатых хвоечак.

— Э-э, там! А цо сень стало? — Змітрык учуў за спіною асіплы, што перасядаў у горле, голас Грабянкі, але злосць не давала аказацца.

— Э-э, цо там? — пад'ехаўшы бліжай, Грабянка саскочыў з ровара, падняў вышэй на лоб сваю вушатую, у балонку, кепку: — А нех то холера! І чаго гэта ён дрыжыць так?

— Ды сабак во ўпудзіўся,— азірнуўшыся нарэшце, Змітрык убачыў, як, асцярожна туляючыся за Грабянкоў ровар, зводдаль стаялі два ганчакі і, нібы чуючы віну, хавалі свае асалавелыя вочы.

— Эй вы, пайшлі вон! — зняўшы з лысаватае ўзмакрэлае галавы вушатую кепку, Грабянка махнуў ёю навотліў і асцярожна паклаў на бок свой старэнькі, раз'езджаны з ружаватымі апонамі ровар, каб, мусіць, памагчы Міцю вывесці з хвойніку каня.

— Чакайце, я сам, а то ўпудзіце яшчэ больш,— Міця перапыніў Грабянку, падняў за кола воз і асцярожна паклаў руку на канёвую лапатку, пагладзіў па гладзенькай, што нервова ўздрыгвала, скуры:— Ну чаго ты? Ну не бойся...

Сціпэлы конь пакорна апусціў голаў і цяжка, як ад вялікае крыўды, уздыхнуў.

— Косю, ну чаго ты? — Міця памаленьку, здаючы назад, вывеў яго з хвойніку.

— Ну во, слухае, нябось,— Грабянка, падпраўляючы прывязаных да пояса не столькі дзеля патрэбы, колькі дзеля гонару пастраляных маладых качак, падняў свой ровар.

— Напалявалі? — Міця ўжо сказаў яму ў спіну, на якой сядзела прыгожая, з выштукаванай ложай і прыкладам, цёмна-карычневая дубальтоўка.

У галаве ўсё круцілася адно: распытаць пра Чэсю, пра Баранавічы. Няўжо праўда, што бамбілі іх?

Гутарка пра паляванне міжволі запыніла Грабянку — ён скоса з-пад доўгага брыля кепкі паглядзеў на нежывых, са звіслымі і шырокімі, як лапаткі, дзюбамі прывязаных качак, нібыта цераз сілу, прызнаўся:

— Дзве ў возера ўпалі, не дастаў,— і, наступіўшы аднаю нагою на педаль, другою адапхнуўся.

Міця глядзеў на шырокую і крышку сутулую спіну, што аддалялася ад яго. Бразджаў-парыпваў ровар, і, асядаючы пад цяжарам, ружаватыя колы пакідалі ў мяккіх катках, у ценькай мятліцы вузенькі след. Далёка папярэдзе яго і неяк трохі бокам беглі дагледжаныя, вылашчаныя сабакі.

— Ці праўда, кажуць, вайна? — Змітрык нават рушыў за гэтым рыпучым роварам.— Немцы зрабілі налёт на Баранавічы.

— Не чуў.— Грабянка перастаў круціць педалі, і ро-

вар нахіліўся на правы бок.— Ведаю, што толькі ў Гродне ўшкодзілі касцёл. Я слухаў камунікат [1].

— І што? — задыхнуўся ад нецярплівасці Змітрык.— Няўжо вайна?

— Немцы нарушылі польскую граніцу.— Грабянка саскочыў на зямлю, трымаючы між ног нахілены ровар.

— Калі?

— Дзісь w ноцы [2]. Моцны налёт на Гдыню. Але мы збілі шаснаццаць нямецкіх самалётаў, а страцілі толькі два. Наша возьме. Англія заявіла, што без вагання выканае свае абавязкі.

— А Францыя? — Міця яшчэ бліжай падвёў фурманку.

— Аб'явіла мабілізацыю,— Грабянку нешта запяршыла ў горле, ён адкашляўся і сказаў нібы толькі для сябе, ціха: — Вайна будзе цяжкаю, але мы пераможам.

Ровар зноў нехаця і балюча зарыпеў. Грабянкава сутулая спіна з тоўстым загарэлым каркам схавалася за прысадзістымі разложыстымі хвоечкамі.

Трымаючы неспакойнага, што цяжка соп каля вуха, успуджанага каня, Міця яшчэ доўга слухаў, як натужна скрыпеў ланцуг, як пазвоньваў, наскочыўшы дзе на корань ці трапіўшы ў разорку, расхістаны ўжо, з пагубляны́мі шрубкамі ды вінтамі, стары ровар, а ў душы гарэла нешта балючае і крыўднае, што не спытаў пра Чэсю. Можа, яна тут у Дварачанах?

Перад вачыма замільгала белая ў сінія бубкі сукенка з тым доўгім, як у матросцы, язычком гальштука.

Прыпомніўся парны, шапаткі пасля дажджу дзень, калі ён блукаў па глухіх баранавіцкіх вуліцах з нерухомымі вялікімі лужынамі, у якіх перавярнуліся ўніз платы, мокрыя — у шархаценні кропель — дрэвы. З чорнай гонты курылася рэдзенькая парнасць. Прыпомнілася і бальніца з вялікай брамай, дзе ён нарэшце знайшоў перапалоханую і сарамяжліва-радасную Чэсю.

Турзанулася далёкім водклікам болю сэрца, калі ўбачыў зноў, як ішла яна да бальнічнае брамы, спярша нібы марудна і насцярожана, а потым подбегам, ужо ўбачыўшы яго і зачырванеўшыся ад радасці.

Збіты з тропу і гэтым здарэннем у ляску, і навасцю пра вайну, і гэтым шчымлівым успамінам пра Чэсю, Міця ўжо завярнуў назад пад рэчку.

---

[1] Камунікат — паведамленне *(польск.)*.

[2] — Сёняшняй ноччу *(польск.)*.

Мужчыны, выстудзіўшы плечы, яшчэ сядзелі ў халадку пад вярбою: мусіць, не перагаварылі ўсяго, што бачылі і ведалі пра старую і што чулі пра новую, нязведаную, неперажытую вайну.

Як дагадаўшыся, што ўчынілася ў дарозе, Улас Корсак падняўся на ногі і, прыкусваючы ніжнюю губу, падскочыў да Змітрыка.

— Ты што гойсаеш, што скаціну нэрвуеш?! — Ад злосці ў яго дробна дрыжэў падбародак і крышку касіла, заязджаючы ў куток, адно вока.— Дай каню перадыхнуць. Пашануй скаціну раз, яна цябе дзесяць раз пашануе.

Перапуджаны, знерваваны конь, мусіць, яшчэ не астыўшы ад нядаўняга страху, блішчаў нявыветранаю спацелаю спіною.

Балазе бацька не бачыў яшчэ зломанай ручкі: падклаўшы пад сябе драніцы, Міця сядзеў на возе і адною рукою трымаў, прыставіўшы ў выдзеўбленую дзірку дубовай трайні, адломаны канчар. Гэта, вядома, было ўжо наіўна і смешна.

Але бацьку зашмаргнула падазронасць, чаго дрыжыць спацелы конь.

— Што з ім? — папытаў ужо раз'юшаны гэтай невядомасцю.

— Перапудзіўся трохі,— прызнаўся Міця, каб тут перад усімі не нерваваць бацьку.

— Ты глядзі ў мяне! — ён зноў захліснуўся ад злосці.

Змітрык моўчкі, тоячы пякучую крыўду ў душы, паехаў дадому, каб, там ужо распрогшы, прывесці сюды за рэчку ды навязаць каня на сакаўную атаву.

Забіраць яго прыйшоў ужо на шараку, калі стухла трапятлівая макаўка сонца, узяўшы з сабою ручнік і мыла — спаласнуцца ў новай, вымытай сёлетняй паводкаю бухце пад старымі вербамі.

Конь, убачыўшы гаспадара, спакойна падняў галаў, паўзіраўся адным цікаўным вокам і, зафыркаўшы ад радасці, нагнуўся зноў да мяккай падушкі маладой атавы.

Над шнурком густога алешніку за далёкім седлаватым грудком гарэў чырванавата-малінавы захад, і на чырвані яго лукаткамі, у няроўным лёце, шмыгаў палахлівы кажан.

І, нібы на яго сцішны трапятлівы лёт, застрыг вушамі і падняў галаў чуткі конь.

Міця прыслухаўся: збоку ў сівай асацэ, там, дзе цурчэла, сачылася рыжавая крыніца, дзе смуродзіла і гніло

рудое багнішча, чуваць быў сухі кароткі лопат дзікіх, няпуджаных качак.

Міця падышоў да каня, што з густым рыпучым хрустам скуб траву, раз за разам трасучы грывай і ганяючы ад сябе надаядны гмыз, паляпаў яго па дрыгатліва-слізкай, цёплай спіне і завярнуў да малінавай рэчкі.

Сонца зайшло, і вада на навароце адбівала гарачае, яшчэ не астылае неба. Толькі пад густымі шатамі навіслых, сплеценых крывым галлём вербаў ужо завязваўся і няўцям гусцеў поцемак. Там пад слізкаю чарнатою карчоў, што абраслі зялёнымі чортавымі пальцамі смярдзючай бадзягі, прыхлюпвала і цурчэла вада. Пад вербы, закручваючыся лейкамі, паварочвала цёмная рэчка — там была бухта. Як спусціцца трохі з берага, між дзвюх тоўстых шурпатых алешын была ўжо вытаптана да тлустае чарнаты зялёная купінка, з якое давалі нырца верасаўскія дзеці. Нават яшчэ сёння — у халодную ваду. Хоць стары Корсак не раз і падкрадваўся сюды, расшпіліўшы і трымаючы за спіною папружку, каб спадцішка злавіць ды высвенціць каторага, бо, сабраўшыся цэлаю плоймаю, гэтая басата вытоптвала сенажаць і абвальвала і без таго нямоцныя берагі.

Змітрык паўзіраўся, як круціў і сцішна булькаў сіняваты глыбокі вір, назбіраўшы тут перад ражнамі карчоў апалае лісце, ламачча і жаўтлявы брудны шум, і завярнуў па плыткае, дзе ў прагале алешніку шырокім рэчышчам разлілася вада, выплываючы сюды з-за высокіх, абвітых карэннямі берагоў.

Зайшоў за алехавы кут, каб затуліцца тут, і пачаў распранацца, па-вясковаму, здымаючы спярша порткі, а потым ужо кашулю. Пакатым, у пераспелым конскім шчаўі, берагам, спусціўся ў рэчку. Зайшоў па калена ў ледзяную, што адбірала ногі, настылую восеньскім холадам ваду і пабег па тугой рэчцы, апырскваючы ўсяго сябе, а потым з размаху бухнуў, спрабуючы з усёй моцы плысці проці быстрай вады. Але не задужаў. Падняўся зноў і зноў, як малы, пабег па цяжкай вадзе.

Памыўся скоранька і, ганяючы дрыжыкі, выскачыў з рэчкі. Суравы пруткі ручнік распаліў калелую спіну і пакрэплыя ногі. Зашпіляючы кашулю, учуў тую свежую лёгкасць, ад якой, здаецца, нанова радзіўся на свет. І здумеўся ад нейчага парывістага дыхання за спіною. Азірнуўся — зводдаль стаяла Яніна, прыбраная ў мацерын прыталены з зеленаватым аксамітавым каўнерыкам сачык, у васілько-

вай, з турэцкім узорам, хустцы. Яна, пэўна, падцікоўвала за Змітрыкам у рэчцы і цяпер, засаромеўшыся яго, угнулася, шморгнула рукою па босай назе, ганяючы камароў.

— Гэта ты? — неўспадзеў засаромеўся і ён.

— А неж хто! — яна пырснула смехам, падняла свой падхарошаны чырванаватай яснасцю вечара круглявы тварок з падпухлымі, як у дзіцяці губкамі.

Ён недаўменна, яшчэ не ведаючы, чаго яна прыйшла, глядзеў на яе.

Яна вытрымала гэты пільны Міцеў зірк, нават не маргнуўшы сваімі шара-сіняватымі вачмі, сказала ўжо:

— Ты ж дадому не йдзі.

— Чаму? — насцярожыўся ён.

— Паліцыянты прыехалі.

— Ну й што?

Яна выпнула губкі, адвярнулася:

— Хіба ты не ведаеш — арыштуюць.

— Скуль табе знаць?

— Чула. Гаварылі з татусем. Пыталі пра цябе. Я ўчула і ў міг вока сюды. Бачыла, як ты на кладку ішоў,— яна на босай пятцы перакруцілася круга сябе і сказала зноў: — Ты ж на падазрэнні.

— Хто табе сказаў? — Змітрыку было неўдагад, што яна ведае пра гэта.

— Вот яшчэ,— яна завярнулася, пайшла пад цёмнаю навіссю вербаў.

— Ты дадому ўжо? — здзівіўся ён, узіраючыся, як яна порстка і мякенька ступае босымі нагамі па густой, што ўжо чакала касы, мурожнай атаве.

— Ага, пайду. Мама шукацьме,— яна нават не азірнулася.

— Пабудзь трохі.

Ад гэтых слоў збілася з хады і саступіла на някошаную сцежку, павольі пайшла, ловячы пальцамі босых ног цэпкую мятліцу і, мусіць, задумаўшыся, праўду ён кажа ці шуткуе.

— Смутна аднаму,— сказаў ён, гледзячы, як ружаватыя пяты мнуць зялёную траву.

— Не, пайду, мама чакае, па запалкі ж паслала,— прызналася яна ўжо на хісткай, звязанай з дзвюх гонкіх маладых сосен верасаўскай кладцы з сухімі і крохкімі алехавымі парэнчамі.

Горкі атрутны смутак ці па гэтым дзяўчаці, што пачынае спазнаваць першы сорам ад сваіх вастранькіх, раста-

пыраных у бакі грудзей, ці па ёй, што ўсюды нечакана выплывала з памяці і мучыла хараством і сваёй паставай, Чэсі Доўнар, пакутліва задрыжаў у Змітрыкавых грудзях.

Ён нават не разабраўся цяпер, каго яму больш шкода і з кім ён хацеў бы астацца тут каля соннае рэчкі, што зарасла маладым, але па-асенняму ўжо дзіравым алешнікам, што пахне жоўта-крэмавымі шышкамі хмелю, на гэтым балотцы, дзе сочна скубе сакаўную траву сцішаны конь.

Але нешта тужлівае засмактала пад сэрцам, калі ён убачыў, як яна пераходзіць, асцярожна ловячы босымі нагамі вузенькую кладку і з усяе моцы трымаючыся за крохкую ненадзейную парэнчу.

— Не глядзі,— закрычала яна, стоячы пасярэдзіне разгойданае рыпучае кладкі.

— Чаму?

— Баюся — упаду!

— Ну, я адвярнуся,— прымаючы яе забаўку і чуючы, як заходзіцца, трымціць ад танюткае радасці душа, засмяяўся ён.

— На, частуйся! — азвалася яна ўжо з другога берага і дастала з нашытае кішэні свайго сачыка разломленую папалам шапку сланечніку, скручаную недзе за плотам у глухім гародчыку.

— Што гэта? — спытаў знарок, нібы не пазнаў.

— Сланэчнік,— крыкнула яна і па-бабску, праз галаў, шпурнула чорна-сівую, ужо спелую, палавінку сланечніка.

Пераляцеўшы тут каля кладкі вузкую, сціснутую высокімі берагамі рэчачку, кавалак сланечніку сопка чвякнуўся каля Міцевых ног і разбіўся яшчэ на дзве палавінкі.

— Дзякуй табе, Яніна,— Змітрык, ужо ап'янелы ад яе забаўкі і прымანвання, нагнуўся, каб падняць гэтыя разляцелыя ўроскід палавінкі сланечніку, і насцярожліва застыў, убачыўшы яе ўспуджаны зірк назад, сабе за плячо, і яе трохі выцягнуты ад дзіва, пабрыдчэлы, з разяўленым ратком, твар.

Нават без яе здушанага шэпту, мігаў і таго, што яна перасцярожліва махала рукою, здагадаўся — сюды блізяцца паліцыянты, а потым і сам учуў, як на другі бок рэчкі за густым, пацямнелым ад блізкага вечара алешнікам зарыпелі тугімі ланцугамі і незнарок падзынквалі шапаткія веласіпеды. А пасля аклікнуўся асіплым тоўстым голасам дварчанскі паліцыянт Гура.

Змітрык стрымгалоў ірвануў назад, праскочыў прагал алешніку і сігануў праз жыгучую крапіву і высокі ў белым

пуху асот да кустоў высокай, што лягла на пясчаны плёс, абцярушанай трохі ад лісця, пажоўклай лазы.

Сядзеў тут чуткім насцярожаным зайцам, гатовы зноў даць ногі, чакаў, пакуль паліцыянты не перанясуць, трымаючы за раму, праз хісткую кладку свае веласіпеды і пакуль не зарыпяць над імі нікеляваныя спружыны сёдлаў і не заскрыгочуць тугія ланцугі.

З гаркаватай, што пахла ўжо слізка-тлустым апалым лісцем, лазы выйшаў тады, калі ўчуў, як забражджалі на пясчаным грудку перад хвойнікам блішчастыя веласіпеды і забубнілі ад злосці, саскокваючы з іх, раз'юшаныя паліцыянты. Дзеля асцярогі яшчэ паўзіраўся з-за карычняватага, зараслага спелаю чарадою берага, чакаючы, покуль яны, бліснуўшы ботамі, не перакінуць цераз сёдлы веласіпедаў свае ногі і не схаваюцца за гушчынёю хвоек, і ўжо тады пайшоў да каня.

Акрэпленая першай расою трава пчымліва халадзіла ногі. Каля алешніку над рудымі лёхамі крыніц, над сівавата-ліловым троснікам, над высокім пер'ем цёмна-зялёнага гляжджаю нізкаю нерухомаю хмаркаю вісеў туман. За плечы брала свежасць. Косячы чырванаватым бялком сіняга вялікага вока, паспакайнелы, спутаны конь прагавіта і ўпарта скуб траву. Згінуўшы перад расою і блізкім поцемкам, заедзь ужо не дацінала яго.

Змітрык выцягнуў шворан, на локаць сабраў блішчасты, вышмарганы па зямлі ланцуг. Закінуўшы яго каню на спіну, сеў сам. Лёгенька, з дабратою ляпаючы каню па цёплай шыі, выкіраваў яго на брод.

Са стромага абваленага берага спусціўся да вузенькай і наравістай тут рэчкі, што крута і імкліва рабіла луку, падмываючы аплецепую вузлаватымі карэннямі круглую выспу з пахіленай, сухаверхай алешынай.

Каля канапляных, што пахлі ўжо спелым, тлустым духам семя, верасаўскіх гародаў з зацішнага боку пад'ехаў да вёскі.

— І дзе цябе ліха носіць? Вячэраць пара,— са злосцю каля брамы, адносячы яе, каб упусціць каня, закрычаў бацька.

— Паліцыянты вунь у Вайтовіча былі. Пра мяне распытваюць,— ціха, нібы не чуючы бацькавай злосці, сказаў Змітрык.

— Якія паліцыянты? — бацька яшчэ прыгрукнуў браму.

— З Дварчан. Гуру я пазнаў,— Змітрык саскочыў з каня.

Бацька затосна змоўк, цяжка засопшы носам, пайшоў да хлява, адкрыў адну фортку дзвярэй, схаваўшыся за ёю, глуха, нібы сам сабе, сказаў:

— Цяперашнім часам, глядзі, будуць браць людзей... Вайна.

Вячэралі не запальваючы лямпу. Не вязалася і гутарка. Вялікая пустата разрывала грудзі. Як матылькі на агонь, плылі, біліся трапяткія думкі. Змітрыкавы былі ўсё там, каля таго чырвонага, заглушанага кустамі старога пазелянелага ў камлях бэзу, цаглянага дома з двума высокімі ганкамі, у тым пакойчыку з прыгожа выштукаваным буфетам, з нажной, накрытай вышыванаю салфеткаю, машынай каля акна, аблупчаным метрам на сцяне і падушачкай для іголак, з карычневым гліняным катом-скарбонкай на шафе, там, каля Чэсі, прыгожай у мяккім, малочным святле матавай лямпачкі з пераключальнікам у бронзавым патроне — і Корсакавы тут, каля дому, каля маладога спрытнага каня, якога могуць забраць, выбракаваць для войска, каля бяды, што прыйдзе з агнём і голадам, як было той вайною, калі на возеры вырвалі ўсю крапіву.

— Няма спакою на свеце. Няма,— растрывожаны Корсак нат падхапіўся з-за стала, дзе бялелі ўпоцемку высыпаныя горбаю маладыя, звараныя на надворку на трыножках яшчэ не сыпкія, вадзяністыя картоплі, і болей ужо не сеў.— Глядзі, каб не арыштавалі тых, хто на падазрэнні.— Ён успомніў пра паліцыю, адкашляўся, перасохлым голасам сказаў: — Удома не варта начаваць, сысці трэба. Яны круцяцца не так сабе.

— А куды тут сыдзеш? — Змітрык дапіў з конаўкі кіслае малако і таксама высунуўся з-за стала.

— Да Алесі хоць.

— Якая там схована?

— На разе і гэта не зашкодзіць.

Змітрык зняў са сцяны пінжак, накінуўшы наапашкі, выйшаў на двор. За страхою ў сіняе, што ўжо выяснілася першымі, яшчэ не калючымі, слепаватымі зоркамі, неба падымаліся моцны голас і крык: сабраўшыся недзе каля Ваўчка, на замшэлых каменнях пад бэзам, прыманваліся хлопцы з дзяўчатамі. Змітрык нават уявіў, як там нясмела, туляючыся за старэйшых дзяўчат, стаіць Вайтовічава Яніна і на яе ўкрадкам зіркаюць сталыя хлопцы, не ас-

мельваючыся яшчэ абняць ці недалікатна пашуткаваць, каб не знаравіць і не адбіць ад вечарніц.

Змітрык зноў злавіў сябе на тым, што сёння ўжо не раз прыгадвае Яніну, скоранька выйшаў за гумно на шнурок сцежкі.

Счуўшы тупат ног, на той бок вуліцы ў Мондравым двары гаўкнула і сціхла, прызнаўшы ўжо свайго, уедлівая сучачка.

За высокім крыжам, што цямнеў перакладзінамі напроці зеленаватага, яшчэ не счахлага і трывожнага неба, на шашы рыпела і ляскала позняя падвода; нехта п'яны, чужы, целяпаючыся ў лазовым палукашку воза, цягнуў навабранскую песню:

Паследні поняшні-і дзяпё-ча-а-ак
Гуляю з вамі-і я, друзья-я!

Жалоба брала за сэрца ад гэтай няхітрай, абмытай ужо не раз п'янымі слязьмі, жалоснай песні.

І, узіраючыся на крыж, што адзінока ў спрадвечным смутку цямнеў на фоне нізкай і палахліва-рэдзенькай чырвані неба, Змітрык падумаў пра вайну, пра далёкі ніколі не бачаны фронт. Гэта ўсё чынілася там, дзе чырванела ў астатняй трывозе неба, там, дзе закацілася вялікае, у ясным крузе вечнае сонца.

Нанач у Алесі яшчэ і не прысунулі дзверы, і Змітрык, трохі аслепшы ад сухой чырвані неба, спаткнуўся на парозе цёмнай без агню хаты.

Парыпваючы плеценай лазовай калыскай, прывязанай вяроўкамі да бэлькі, Алеся наспёўвала дзіцяці на сон, сама, мусіць, больш салавеючы ад гэтае песні:

Люлі, люлі,
Пайшоў кот па дулі.
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі.

Улучыўшы момант, калі Алеся трохі перасціхла, Міця даў «добры вечар».

— Вой, хто така? — злякнулася ўпоцемку на ложку і падхапілася Алеся.

— Ха, хто? — пыхнуў ружовай папяросай і засмяяўся на ложку каля печы Імполь.— Я яшчэ праз акно ўбачыў, што гэта Змітрык.

— Вой, не куры ты, чалавек. Дым атрутны, як вытры-

ваць,— зазлавала і асекла яго Алеся, і ўжо да Змітрыка: — Ці не ■ канём што?

— Не, нічога.— Змітрык абвык да поцемку і толькі цяпер убачыў човен плеценае калыскі і за ёю невыразны, белаваты твар з бліскучымі, што адбівалі святло вокнаў, вачмі, сказаў да іх: — Пераначаваць прыйшоў.

— Як кажаш? — шэптам перапытала Алеся.

— Нанач прыйшоў прасіцца.

— А што ж учынілася?

— Паліцыянты заязджалі да Вайтовіча. Пра мяне пыталі.

— Святая матка, і што яны да цябе маюць?

— Вот дзіва табе,— зноў бліснуў ружаватым агнём папяросы Імполь.— Такіх, як Змітрык, цяпер, можа, і шукаюць.

— Хіба ж ён злодзей які?

— Гэ, злодзей. Ён палітыкуе.

— Кінь трэліць. Ты ўжо шмат знаешся,— папярхнулася ад гаркаты махорачнага дыму Алеся — яна ўсё, заступаючыся за Змітрыка, шукала апраўдання для яго.

— Бо й знаю, раз гавару,— ужо не стрываў Імполь і, паддобрываючыся, лісява папытаў у Змітрыка: — А што, няпраўду кажу?

Але нешта абыякава-тупое жорстка зашкрабло ў Змітрыка да Імполя — ён успомніў Хрысцю — і, каб перабіць гутарку, націснуў на пляскаты язычок клямкі, забрэнгаўшы з таго боку дзвярэй цяжкім жалезным заскакам:

— Ну, я пайду.

— Як? — зніякавела, сумелася Алеся.

— У гумно спаць.

— Можа, холадна там? — яна, зашамацеўшы порсткаю, яшчэ не злежанаю саломаю, устала з ложка, недзе каля куфра навобмацак знайшла цяжкую кудзельную коўдру.— Во, накрыешся хоць,— і, нячутна ступаючы босымі нагамі па сухім гліняным току, падала Змітрыку ў рукі. А потым ужо з куфра дастала шурпатую, мусіць, яшчэ неўжываную сукопную радзюжку.

— Сена ў нас з левай стараны,— падказаў Імполь, лянуючыся правесці шваграа.

Але Змітрык, зайшоўшы ў шапаткое ад цішыні гумно, і сам разабраў сярод паху новага, малочапага толькі на сяўбу жыта, саладжавае канюшыны, нядаўна звезенай з поля ярыны, гаркаватага, вяла начаплянага на латы павучыння, учуў і разабраў гэты мякенька-пушысты, п'янкі

пах нядаўна скошанай і высушанай у добрую пагоду маладое атавы, перамешанай, мусіць, з кусцістаю, як рунь пад восень, травою-зубровіцай.

Як ні ў кога з верасаўцаў, сена, даўней у Мондрых, а цяпер — у Алесі з Імполем, было мурожнае, пахучае ад гэтае, падобнае да жытняе сцяблінь з каласком, травы-зуброўкі. Яна, як і жыта, ледзьве не ў адну пору красавала, а пад восень разам з жытам займалася зялёнаю рунню і, гэтаксама, як жыта, акрыяўшы на згоне зімы, першаю зазелянела, і тады на Мондрава балота збягаліся ўсе верасаўскія каровы.

Цяпер да гэтага мяккага, гаркавата-мятнага паху зубровіцы дамешваўся прэсны пах нядаўна скіданай у застаронак сухое грэчкі.

Міця і натрапіў на ядроныя калючыя зярняткі яе, выставіўшы руку ў мігатлівы ружовы поцемак, і ўжо далей, прайшоўшы каля тоўстых дыляў пярыла, за дубовым шулам знайшоў мурожнае сухое сена.

Скаціўшыся на яго, недалёка ад сцяны намацаў належаную ці не Імполем ужо яму-логава, дзе наўгад і разаслаў шорсткую суконную радзюжку.

Спаць не хацелася. Гледзячы ў мігатліва-чорны з залацістымі блёсткамі поцемак гумна, успомніў сённяшні дзень, перапалоханы, ледзьве не звар'яцелы голас Рэпчыхі з Прылуцкіх хутароў і яе, Чэсю. Ізноў з той самаю неадчэпнаю трывогаю — ці не разлучыць іх вайна, ці ўбачацца зноў?

Але гэтыя думкі перабіла раптам, растаўшы ў сырым, што пах ужо восеньскай расою, змроку ночы, нечаканая песня, што паднялася там каля Ваўчковае хаты:

Не полеш лёну — не йдзі дадому,
Астапіся ў полюшку хоць быліною.

Песня сціхла, ізноў зацерушылася, зашапацела сухім пяском порсткая цішыня. Нібы з сыпкага берага, Міця аб'ехаў у гэтую цішыню.

Падаў ён доўга, аж халадзеючы ад страху. Падаў у нейкую бясконцую чорную прорву, што нечакана абарвалася, і пад ім глыбока ўнізе засіпела чыстае неба. І сярод яго, як радасць, свіцілася белая грудаватая хмарка, і ён паляцеў на яе, раптам убачыўшы Чэсю. Яна стаяла на абадку месяца, босымі нагамі, як матка боска, і, як матка боска, з сінім карункавым шалікам і з залатым абадком кругом галавы. Нібы на алтары ў дварчанскім касцёле.

І нібы з вежы касцёла калыхнуўся магутны звон, і ўсё рассыпалася, паплыло ў гэтым надрыўным моцным звоне. Змітрык зноў ляцеў праз чорную і мяккую, як вата, прорву...

Прачнуўся і на міг уявіў чорны бясконцы калодзесь, змакрэў ад халоднага поту, нанова перажываючы ўжо той дзікі страх.

Зайшоўшыся ад заядлага брэху, успамін пра сон перабіла нядрэмная сучачка. Брахала недзе на вуліцы блізка каля брамы, то сціхаючы, то зноў уедліва, нібы знайшла вожыка і не магла ніяк яго ўкусіць, абколваючы пыску.

Нарэшце змаглася, цяўкнула там на вуліцы і прыкацілася на надворак, забрахала з перапуду каля гумна.

Уедлівы брэх нечакана ўваскрэсіў перад Змітрыкам шарую ноч прадвесня, калі яны з Ваўчком выйшлі на варту і, задрамаўшы на халодных каменнях каля бэзу, схапіліся, перапуджаныя скавытаннем Алесінай сучачкі.

Прыбеглі сюды на надворак якраз той час, калі ў гумне канала хворыя на тыф Таквіля з нямою Еўкаю. Міцю яшчэ і цяпер скалануў той моцны, спакутаваны стогн, што чуўся адсюль, з замкнутага на конскае пута Мондравага гумна.

Потым па вёсцы страшнай пошасцю папаўзла злая чутка, што сваю свекрыву з нямою залувіцаю атруціла яна, Алеся.

Змітрык абміраў, халадзеў душою, але не верыў. Спамінаў тую шарую, з сівым замаразкам раніцу, калі яны з Ваўчком прыбеглі сюды на надворак, жалоснае скавытанне сучачкі, перапалоханую, як саму не сваю, Алесю і той падазроны намёк Ваўчка. Пэўна, расказаўшы сваёй языкатай Вользе, ён і пусціў гэтую страшную чутку. А ў Вольгі кожная навіна з камара вырасце на вала.

Міця перавярнуўся на другі бок, чуючы пад сабою шапаткое, трохі ўжо казытліва-калючае, што прабілася праз радзюжку, сухое сена, пацягнуў на сябе цяжкую, у няроўных гарбылях злямцаванай кудзелі, старую коўдру, але заснуць ужо не мог.

Перад вачыма зноў паплыла тая цёмная з прымаразкам даўняя ноч, успомнілася гуканне нядужага малога паравозіка перад вёскаю, сноп чырвоных пякучых іскраў, што цягнуліся за яго комінам, ізноў той страшны, змардаваны стогн скалануў Змітрыкава сэрца.

Успаміналася жалезнае конскае пута, што вісела на тоўстым прабоі дзвярэй.

Зноў злою і неадчэпнаю асою завілася, закружылася думка: няўжо гэтае ўсё страшнае і нечалавечае ўчыніла яна, Алеся.

Няўжо праўда? Не! Не можа быць.

Змітрык сарваў з сябе нагамі цяжкую злямцаваную коўдру і, астываючы ад нечаканае навальнае злосці, ляжаў з адкрытымі вачмі, глядзеў у мігатлівую, з ружавата-залацістым пылам, чарнату гумна, спакайнеў душою, чуючы ўжо, як спадыспаду яе падымалася тая нязрушная і цвёрдая вера, якою ён і жыў дагэтуль: не, не любіла іх Алеся, але не, не ўзяла на сябе такі страшны грэх, каб звесці са свету чалавека. Не! Гэта — плёткі, зводы. Гэта разнеслі куслівыя языкі.

Задушлівая гарачыня зноў абліла Змітрыка, распаліла, растрывожыла памяць. І пакутна-шчымлівая жальба, перамешаная з пяшчотай, затрапяталася ў Міцевай душы да Алесі, і нейкая невядомая і разам з тым неразгаданая крыўда паднялася ў ёй на ўвесь свет, на людзей, на вёску, на жыццё, і на вачах у Змітрыка пякучай гарачынёю высачыліся, пацяжэлі слёзы.

А можа, у Алесі жыла такая вялікая помста на старую свякроў і нямую залувіцу, што яна, Алеся, не магла стрываць? Бывае, накіпіць, балюча нарве ў чалавечай душы такая нянавісць і злоба, што ён ужо не саўладае з сабою.

Змітрык схамянуўся, апомніўся, што тое благое ды грэшнае думае пра Алесю, і, прыбіты, знявечаны гэтымі думкамі, нерухома стаіўся на порсткім, казытлівым сене, слухаў шалпатлівую валтузню разгуляных пад раніцу мышэй, іхні нямоцны піск, сухое, нечакана рэдкае і нібы затоенае палускванне гарохавых струкоў недзе над галавою, на рэдкіх, пакладзеных на тоўстыя круглыя бэлькі, дашчаных вышках.

Сухі і нечаканы, нібы спадцішка, лускат гароху, яго гаркаваты прывялы пах прыганулі Змітрыку сівую раніцу, густы волкі туман, ад якога на вейках сабіралася цяжкая раса, і сябе малога ў гэтай далёкай восені.

Ён гнаў на пашу каровы, насцярожаны і баязлівы ў густым невідушчым тумане. І неўспадзеў, наставіўшы вушы і прынюхваючыся да сівай, шчодра абсыпанай расою, дарогі, палахліва закруціла галавою і зачмыхала старая, з адным скручаным рогам, карова.

Збоку дарогі Змітрык згледзеў нешта белае. Яго і цяпер бярэ дзіва, што ў гэтым невідушчым гумне ён згледзеў не чорныя вялікія купы скошанага і яшчэ не зве-

зенага з поля гароху, а белую хустку. Падышоў бліжай, распазнаў ужо кабету, што ляжала на пустым загоне, уткнуўшыся тварам у зямлю і неяк нядобра, далоняй уверх, падагнуўшы і выкруціўшы сваю руку. З-пад хусткі выглядалі сівыя аброшаныя валасы. Сівеў ад расы і яе зліняль, выцвілы, нібы бардовы, каптан. Стылі на холадзе азраватай раніцы сінія, не прыкрытя згамтанай спадніцай яе босыя ногі.

Туды, дзе ляжала яна, ад дарогі вёў, бэрсаючы ліловыя марныя буслікі і рэдкія кветкі румянку, вытаптаны лакцямі і каленьмі яшчэ свежы на расе след.

Міця, схаладзеўшы ад страху, патурыў каровы назад, каб сказаць удома бацьку.

Потым, ужо нешта праз год, яны дачуліся, што пабітая ды ўкалечаная да бяспамяцтва кабета прыблукала сюды на верасаўскае поле з-пад Дварчан, з далёкае чыгункі, дзе яе выкінуў на хаду з поезда муж, нейкі звар'яцелы чыгуначнік з Вільні. Збіўшыся з тропу і праблукаўшы цэлую ноч, яна пад раніцу сканала каля скошанага гароху ў чужым і невядомым ёй полі.

Цяпер тая нежывая, у белай хустцы, з плямаю крыві, кабета здалася Змітрыку падобнай да старое Мондрыхі. Як аднакавай была іхняя пакутная смерць, так аднакавым нібыта было ў іх усё: і лёс, і худыя кароткія ногі, і твар, якога ў чужаніцы Змітрык не бачыў.

І думкі яго зноў набеглі на Алесю. Але іх успалахнуў расцяжны свіст кукушкі перад верасаўскім пераездам і яе рытмічны, перамешаны з шумам, грукат і ляскание колаў.

Засынаючы, нават уявіў, як над чорным паравозікам вісеў сноп трапяткіх і палахлівых іскраў, прыпомніў той перапалоханы крык Ваўчка каля бэзу і нейчы — старое Таквілі ці нямое Еўкі — спакутаваны стогн тут, у гумне...

Разбудзілі яго сухі, шырокі рып гуменных дзвярэй, жаўтлявая яснасць ад сонца, што калыхалася на сівым вялым павучынні пад латамі, і насцярожана-неспакойны голас Алесі:

— Змітрык, ты не чуў, што рабілася?

— Што? — ён прыпадняўся на локаць, спомніўшы ўедлівы сярод ночы брэх сучачкі.

— Паліцыянты цалюткую ноч віжавалі,— Алеся задзірала чубок свае старое са злінялымі валошкамі хусткі, каб убачыць тут на высокім сене Змітрыка.— Варту правяралі.

— А дадому да нас не завітвалі? — Змітрык скінуў з

сябе коўдру, учуўшы здаровы, пасвяжэлы холад раніцы, якою цягнула праз адчыненыя дзверы ў гумно.

— Не, не прыходзілі,— Алеся сказала ўжо за парогам гумна, стоячы на росным, што зацвіў дробнымі, ледзьве відушчымі бела-ружаватымі кветачкамі, спарышніку.— Ідзі паснедай. Цеперся чакаю, астыла ўсё.

Змітрык скаціўся з сена, ■ пярыла скочыў на сухі, жаўтлява-спалавелы ток у цьмяных вочках утрамбованых у гліну каменьчыкаў і аслеп ад нізкага сонца. Ён зажмурыўся і раптам успомніў раскалыханы бляск вады, сівы ў ліловых мятлушках троснік, жоўтае дно, што свіцілася праз плыценькую ваду, і пад навіслымі над возерам старымі ў жаўтлявых купках амялы бярэзінамі яе, Чэсю, што ішла, разбіваючы босымі нагамі гэтую раскалыханую, у бляску разарванага сонца, плыценькую ваду.

Захлынуўшыся ад радасці, пабег па росным пякучашчымлівым спарышніку даганяць Алесю, нібыта пачужэлую пасля родаў, шырокую ў крыжы і, як здалося яму цяпер, сталую, ужо немаладую кабету, і спаткнуўся: за брамаю мільганула цёмна-сіняя, з доўгім акутым брылём паліцыянтава фуражка, забражджаў веласіпед, і над штыкетамі перакрывілася ад здзеклівага пасмехвання таўсташчокая морда Гуры.

— А-а, то ты, Корсак?

Там за плотам бліснулі арламі яшчэ дзве фуражкі.

Змітрык паслізнуўся на роснай траве, завярнуўшы назад, хоць бачыў, што ўцякаць позна.

— Сердэнько, не думай даць галопа — буду страляць.

— Спіць позна, холера, а мы аж з ног збіліся,— пахнуўшы нагою весніцы, да Міці ішоў і даставаў з кішэні бліпчастыя наручнікі незнаёмы паліцыянт.

— Ай, божачка, што гэта робіцца! — з ганка закрычала і, нібы адыходзячы ад памяці, памкнулася напярэймы паліцыянту збялелая ў твары, на якім яшчэ выразней зацямнеліся, што не сышлі пасля родаў, карычневыя плямы, перапалоханая Алеся.

— Якой холеры яна дрэнчыць,— сюды да Міці ўжо шуганў і Гура. За плотам туліўся і не ведаў, дзе знайсці сабе месца, солтыс Вайтовіч.

## XXVI

Лёгкі, ясны, у затоеным смутку, спакой марудна плыў над засмужанай зямлёю, што шарэла ад злінялага на сонцы і збуцвелага на дажджах ржышча, зрэдзь зазелянелага патапыранаю елачкаю, над ружавата-

рэдзенькаю, што толькі ўгледзелася з пухкай цёплай раллі, маладою руннню, над паскаю лесу, што панура цямнеў каля далёкіх сутокаў бялёсага неба, над чубком страката-жаўтлявай, што палахліва вызірала з-за блізкага грудка, маладой дубровы, над пясчапаю дарогаю ў высокіх старавечных ялаўцах, над калматымі межамі ў карычневым быльніку, збэрсаным сіваю павучынаю, над незааранымі папарам, жоўтым ад яснае свірэпы, што будзе цвісці да самых замаразкаў і пахнуць полем.

Ваўчок мінуў гаркавата-сыры ад маладое свірэпы папар і, выйшаўшы на грудок, на калматай закурэлай пылам траве паставіў свой фанерны, з цяжкай завушніцай замочка, лёгкі куфэрак і нарэшце, мякчэючы і адыходзячы душою, учуў, што ён дома.

Як і ўдома на сваім полі, гаркавата, нібы рэдзькаю, пахла сакавітаю свірэпай.

Ваўчок паставіў на кант свой куфэрак і прысеў на яго, запічаміўшы каленьмі рукі. Адсюль з абветранага жывым халодным скразняком груда было відаць, як далёка ў лагчыне за цёмным чубам дрэў затаіліся карычнявата-шарыя, надсушаныя сухім сонцам стрэхі высокіх гумнаў і лабатых, без шчытоў, хат соннага Верасава.

Там каля сцішна абвіслых доўгім веццем старых бярэзін чырвоным агнём запяўся гарэць адзін бок вялікага разложыстага клёна. За ім хавалася Ваўчкова хата.

Заўсёды, як надыходзіла восень, першым пачынаў жоўкнуць гэты стары вялікі клён. І не ўвесь, а толькі з аднаго боку шырокая раскідзістая лапа. І не жоўкла, а чырванела на ёй разлапістае лісце.

— Дрэва занывае — восень ужо,— няўгад зірнуўшы на гэты вялікі клён, гаварыў хто-небудзь на вуліцы, спатыкаючы Ваўчка, і тады сцюдзёнай крынічкай падточваўся холад, што неўспадзеў прайшло, мінула лета, дні цяпла, высокай яснасці.

Цяпер грудзі асвяжала нецярплівая радасць, што ён бачыць гэты цёмна-зялёны раскідзісты, з жаўтлява-чырвонай падпаленай лапай клёп, што нагадваў чалавека яшчэ не старога, з чарнявай чупрынаю, на якой нечакана заяснела пасма сівых валасоў — знак нечага знячэўку перапакутаванага.

Пры спадзе груда густа, вуж галавы не ўткне, цямнеў маладым, спярэшчаны жаўтлявай яснасцю шапаткога бярэзніку нізкі хвойнік — туды між ялаўцовых кустоў стрым-

галоў ляцела белаватая, раз'езджаная да сыпкага пяску, дарога.

Ваўчок глядзеў па гэты даўпі, знаёмы з маладых год, абходжаны, адчуты босымі нагамі і ўжо да звыклага абгледжаны вачмі свет, а цяпер такі нечакана і раптоўна новы, што спадыспаду чорствай, ужо даўно, здаецца, перагарэлай душы раптам высачылася ласка да ўсяго, і радасць, як паводка, разлівалася ў душы, што ён вярнуўся дахаты, да дзяцей, да Вольгі, пра якую думаў усю дарогу.

Брала нават дзіва, што за гэтыя два дні разлукі яго памаладому няўцерпна цягнула да яе. А ён быў думаў, што ніколі, можа, не любіў свае худое бясклубае Вольгі, спадцішка заглядаючыся на мажную, з залатым зубам, жонку асадніка Чарнецкага, што трымаў у Дварчанах рэстаран. І калі Ваўчку надаралася завітаць па якой патрэбе ў мястэчка, ён наравіў, стараўся прайсці міма мураванага дома з усечаным вуглом, з прыгожа выкаваным жалезным балкончыкам на гэтым вугле і выведкай «Рэстарацыя», каб напаткаць ды паглядзець, калі пашанцуе, на гэтую прыгожую ды гладкую маладзіцу.

Ды асаднік Чарнецкі, што насіў зеленкаваты вайсковы фрэнч з нашытымі кішэнямі і наглянцаваныя хромавыя боты з высокімі заднікамі і раменьчыкамі на тугіх завужаных халявах, быў відны, прыгожы мужчына. І Ваўчок у заюшлівай рэўнасці таіў сваю злосць на Чарнецкага і сваю зайздрасць, соладка млеючы, калі цішком ішоў за асаднічыхаю, не спускаючы вока з яе высокіх і гладкіх ног, з яе танклявай паясніцы, туга абцягнутай шаўковаю, у ліловыя кветачкі, сукняй з прыгожым карункавым шалікам цераз плячо, у саламяным капелюшы з зялёна-бліскучымі стужкамі.

Ён не ведаў і не мог разабрацца, ці было гэта затоенае нязвыклае каханне, ці проста мужчынская, абуджаная хараством, хэнць да кабеты, але ўночы перад сном, калі змораная Вольга пачынала храпці, ён у ашалелай задусе прыгадваў жонку Чарнецкага...

Цяпер, стоячы сярод поля на абветраным грудзе, Ваўчок з пякучай смагай думаў пра Вольгу і чуў радасць, што вярнуўся да яе, да сваіх дзяцей і да сціпнага асенняга поля, да замглёных сінечаю чубкоў недарослага, замшэлага хвойніку.

Ён падняў свой куфэрак, дзе ляжаў брусок укручанага ў чысты палатняны лапік жаўтлявага леташняга сала, пазычанага ў Корсакаў на адробкі, пачаты ўжо бохан хлеба,

чысты ручнік, і рушыў да вёскі, чуючы на губах жорсткі, падняты і падкручаны раптоўным віхрам на дарозе, гаркаваты пыл...

На той бок Верасава каля цёмна-карычневага лапіка пераспелае, нявырванае грэчкі, за пашаркам расстаўленых кучак нібыта хто варушыўся. Ці не яго Вольга прыйшла на поле?

І яму спомнілася — даўно тое было,— як на сухі сівец на балотцы, каля растапыранага пучка высокай, у карычневых шышках, конскае цыбулі ён кінуў сваю Вольгу, змануўшы яе схадзіць па грыбы.

— Божа мілы, дзень, людзі!..

Яна не далася яму тады. Цяпер яго зманвала і пад'юшчвала тое даўняе і маладое, і разбірала саладжавая радасць, што ціхім вечарам у змроку, што аблытае хату, калі ўкладуцца і засапуць насамі дзеці, ён прыгорне да сябе Вольгу і рука яго знойдзе яе цёплае і шаўкавіста-гладкае сцягно...

За познім, што звесіў вусатыя каласы, загончыкам нязжатага ячменю дарог амінула сухі высокі шэпт стракатага бярэзніку і ўшылася ўжо ў смутны пад восень хвойнік.

Ваўчок захлынуўся ад даўкага напаранага паху смалы, кіславатай прэласці кастрыцы, гаркаватага духу падсохлых казякоў.

Прысеў на кукішкі, зазіраючы паверх ценькае спалавелай мятліцы пад нізка навіслыя лапы шырокіх у падолах хвоечак.

Але нічога не знайшоў. І толькі падымаючыся, тут каля дарогі, за круглым ялаўцовым кустом, убачыў, як стары ўжо, мусіць, счарвелы грыб падымаў на сваёй карычнявата-зялёнай, скрыўленай набок шапцы тоўстае струхлелае палена.

Памахваючы сваім куфэркам, Ваўчок падышоў да старога вялікага, з шапку, грыба, але не чапіў: гэта ж дзіва — каля самае сцежкі ўседзеў. Вырас і пат састарэў. А колькі ж вачэй глядзела і не ўбачыла, колькі ж ног прабегла і не наступіла на яго.

Ваўчок стаяў і глядзеў на гэты вялікі з пахіленай шапкай грыб, што трымаў на сабе струхлелае палена, і думаў, што невядома як скончыцца чыё жыццё: і тых, што ўчора паехалі на фронт, і яго з лезнявіцкім хлопцам — Стасем Натапчыкам, з якім ён вярнуўся дадому.

Ён прыгадаў учарашняе: зарослую высокім, у сініх ва-

лошкавых кветках, мацаўніком станцыю Гарадзею, мутны бляск рэек, шэра-цэментовы выступ рампы, што падступала да самае чыгункі і дзе стаяў доўгі чырвоны, ужо загружаны таварняк. З вагонаў выглядалі, падымаючы панурыя галовы, кавалерыйскія коні. Толькі на рампе асталася высокая пераміда складзеных адзін на адзін і незагружаных цюкоў сена. І на каштанавым белапогім кані, што нерваваўся і гарцаваў перад вагонамі, пакрыкваў ганарыста-строгі афіцэр у фуражцы з белым аколышкам:

— До кого мувен, до слупа? Ту станонць, ту!..[1]

— Можа, нашыя грузяцца, можа, нам трэба сюды? — спытаўся той лезнявіцкі хлопец у выцвілых плацянковых портках і ў скураных хадаках, калі яны міналі платформу.

— Чаго мы маем распытваць, нам трэба ў Нясвіж,— сказаў Ваўчок, таксама пазнаючы па белым аколышку на афіцэрскай фуражцы, што гэта дваццаць сёмы полк уланаў, да якога яны былі прыпісаны і куды на выпадак вайны меліся з'явіцца.

У Ваўчковай душы тлела і другое: нашто лішне вытыкацца, можа, дасць бог, удасца на які дзень прыпазніцца, бо ці вялікае шчасце ачуціцца на фронце, у гэтай бойні, дзе чалавека ў кожную хвіліну прашые гарачая сляпая куля ці разарве ўшчэнт невідушчая міна. Закружылася галава ад успаміну, калі яшчэ тою вайною ў Ваўчка на вачах асколак ад снарада распаласаваў салдату жывот і ранены чалавек яшчэ з гарачкі пачаў рукамі грабці ў сябе акрываўленыя, што курыліся параю, сіняватыя кішкі.

Скразняк халоднага страху прабег у Ваўчка па спіне, і ён ужо з цвёрдаю злосцю крыкнуў рэзервісту:

— Ідзем, няма чаго азірацца!

Сустрэліся яны ў вагоне, як толькі выехалі з Баранавіч, угадваючы адзін у адным па куфэрку ды торбе, што рэзервісты, а разгаварыўшыся, здзівіліся, што абодва едуць у Нясвіж на зборны пункт.

Гэтыя дванаццаць вёрст тугою сцежкаю, што вілася збоку шашы, то падымаючыся з закурэлай канавы на абочыну, пад ацяжэлыя ад бойнай чырвані ягад нізкія развесістыя лапы рабін, то спадаючы зноў на адхон да лесу, пад старыя ружова-шурпатыя, з куксамі шэрых тоўстых сукоў, старыя адзінокія хвойкі, яны прайшлі за гадзіны паўтары — ён, Ваўчок, з сваім фанерным куфэркам, а лез-

[1] — Да каго гавару, да слупа? Тут стаць, тут!.. *(польск.)*

нявіцкі рэзервіст з торбаю на плячах, завязанаю пад рэчмяшок, з картоплямі ў ражках.

У насцярожана-прыціхлым гарадку з пабеленымі хатамі і дагледжанымі садкамі, дзе з цёмнага лісця свяціліся жаўтаватыя, налітыя спеласцю бойныя яблыкі, яны напыталі кашары — двухпавярховыя домікі за белым высокім касцёлам: над яго шырокім купалам гарэлі, прапускаючы сонца, выкладзеныя з балонкаў чырвоныя і жоўтыя крыжы.

Абкружаны жалезнай агароджай і старымі разгалістымі клёнамі, касцёл стаяў каля возера, якое рассякала ружаватая ад бруку і высаджаная абапал гузаватымі ясенямі грэбля. На рабенькай, спярэшчанай дрыгатлівымі хвалямі вадзе, выгнуўшы доўгія шыі і трохі растапырыўшы крылы, пакалыхваліся два лебядзі.

— Слухай, гусі якія! Бачыш? — прыпыніўся каля жалезнае брамы ў праменнях прантоў, з прыгожымі меднымі ліхтарамі на мураваных слупах, лезнявіцкі рэзервіст.

Але з вартоўні, што стаяла збоку жалезнай брамы, рыпнуўшы дзвярмі, выйшаў вусаты, у вайсковым фрэнчы стражнік.

— Вам туды. Кашары там,— і махнуў рукою назад, недзе на касцёл.

Азірнуўшыся, Ваўчок з рэзервістам убачылі ў сябе за спіною каля нізкага мураванага дамка, што цягнуўся ад касцельнага муру, яшчэ адну, ужо дашчаную і пафарбаваную на зялёна, вялікую браму. Над трохкутнікам збітых пракладзін падымаўся шчыт з белым арлом на чырвоным фоне.

— А што ж гэта? — яшчэ ўсё азіраўся за возера на зялёны навал старых парудзелых кляноў, за якім падымаліся дзве высокія вежы з зоркамі на вострых шпілях, лезнявіцкі рэзервіст.

— Гэта ж, пэўна, Радзівілаўскі замак.

— Што ты кажаш? — глуха перапытаў і задзёр галаў Стась Патапчык.— Я і гляджу, што і гусі іншага заводу. Я такіх ніколі не бачыў.

— Ідзі, ідзі, не азірайся,— Ваўчок адчыніў таксама пафарбаваную на зялёна, як уся шырокая брама, вузкую фортку і папхнуў туды Патапчыка.

Нехаця ўваліўшыся ў выбрукаваны сіняватым каменнем двор, Патапчык палахліва скасіў вока на вартаўнічую будку, але там нікога не было.

— І дзяжурнага няма?

— Не. Нехта вуньдзека ёсць,— махнуў сваёю задзёртаю набакір кепачкаю Ваўчок, убачыўшы каля чырвонага на два паверхі цаглянага дома каштанавых, запрэжаных у доўгі воз, коней і салдата, што спускаўся з ганка, несучы жоўтую прадаўгаватую скрынку.

З расчыненых пустых стайняў, што расцягнуліся ўздоўж рабенькага возера з сіва-зялёнымі чубкамі гляжджаю, нясло пявыветраным конскім гноем.

Адтуль выйшаў, перабіраючы пальцамі гузікі прарэха, даўганосы афіцэр.

— Стой, балване, доконд сеь пхаш? [1]

— Пане сяржанце,— са сваім куфэркам яму напярэймы зайшоў Ваўчок.

— Ты афэрмо,— наліўся злою чырванню афіцэр.— Не знаш стопня? [2]

— Бо нараменнікі пан зэрвал [3],— хітра ўсміхнуўся Ваўчок.

— Падхаронжы я,— афіцэр паляпаў па плячы, дзе адшпіліўся пагон.

— Мы рэзервісты, прыпісаныя да дваццаць сёмага палка уланаў, павінны з'явіцца сюды з сіняй карткай урляповай [4],— Ваўчок паставіў на брук свой куфэрак і пачаў абмацваць кішэні рудога шарачковага пінжака, каб, мусіць, знайсці і дастаць павестку.

— Ідзіце ў Гарадзею. Полк там. Можа, яшчэ заспееце,— падхаронжы нават не спыніўся, толькі скоса зіркнуў на Ваўчкоў куфэрак.— А тут нічога няма, нават ніводнай пары абмундзіравання. Мы займаемся з ім,— ён махнуў галавою назад, на запрэжаны ў пару коней вайсковы воз,— толькі паперамі. У нас, акрамя дакументацыі, нічога няма.

Ад жалезных падкоўкаў, што блішчалі на абцасах ботаў, недзе за казармаю аддаваўся востры кароткі цюкат.

Ваўчок пацiснуў плячыма, нібы не верачы таму, што гаварыў падхаронжы, нехаця падняў свой куфэрак і пайшоў да брамы.

Шоргаючы хадакамі, услед за ім падаўся Стась Патапчык.

— Войска, курва іх маць,— услед яму ўжо сплюнуў падхаронжы.— Лапця́кі. Пагубімы сеь на амэн [5].

---

[1] — Стой, балван, куды пхнешся? *(польск.)*
[2] — Ты што — дурань, не ведаеш звання? *(польск.)*
[3] — Бо пан сарваў пагоны *(польск.)*.
[4] З прыпісной *(польск.)*.
[5] — Лапцюжнікі. Згінем па аман *(польск.)*.

— Пацалуй ты мяне...— для асцярогі ўжо за брамаю агрызнуўся Патапчык і забубніў: — Памяняўся б на твае боты, чаго ж. Я таксама ўмею ляскаць падкоўкамі.

— Ціха ты,— турзануў яго за рукаво Ваўчок і зашаптаў: — Цяпер дай божа ногі... А ён хай ваюе, хай пагрызе зямлю, ваяка.

— Ты праўду кажаш, пойдзем дахаты,— Патапчык зачапіўся хадаком за вышчарблены і трохі ўздыблены сярод бруку сіні камень.

— А то куды ж.

І яны, пакутліва-шчаслівыя, што ўсё так выдалася, азіраючыся на белы касцёл з фігурамі святых у нішах, і невядомым лацінскім надпісам, які яшчэ ўсё стараўся слібізаваць Ваўчок, рушылі зноў на вузенькую вуліцу з драўлянымі хаткамі, каля якіх ціха драмалі разрослыя, абсыпаныя ўрадлівымі яблыкамі садкі.

Напроці пабеленай хаткі з зялёнаю страхой і шарымі выцвілымі аканіцамі, на гонкай яблыньцы, што абаперлася ацяжэлай лапай на ражны частаколу, красавалі цёмнаружовыя штрыфелі.

Патапчык, глытнуўшы даўкі камяк спакусы, падскочыў на плот і, ухапіўшыся за частаколіну, выцянуў руку да нізкага бойнага яблыка. Але трухлявая частаколіна трэснула, успалашыўшы недзе ўжо за хатаю ўсохлую, што закалывалася сюды, абапіраючыся на арэхавы кіёк, старую бабу.

— Што ты робіш, недавярак! — бліснула яна мутнымі шкельцамі акуляраў, што жалезнымі вушкамі хаваліся за хустку.

— Цьфу ты,— Патапчык паглядзеў на зломак частаколіны, што астаўся ў руках, і шпурнуў на другі бок яшчэ не забудаванай вуліцы, дзе стаяў толькі шары, выцвілы на дажджах і сонцы, падведзены чатырма вянкамі пад вокны, сасновы зруб.

— Каб цябе гніды аб'елі, як ты з'еў гэты плот! Каб цябе!..

— Ціха, баба, не кудахкай,— угнуўшы голаў, лёгенька зашаркаў хадакамі па тонкай сцежцы праз бела-ружаватую дзяцеліну прысарамачаны Патапчык.

— Наеўся, бачыш,— папярхнуўся ад едкага дыму Ваўчок; яны ўжо выйшлі з мястэчка на абсаджаную маладымі, у шчодрай чырвані чачотак, рабінамі вузкую шашу. На яе цягнуўся з блізкага поля мякка-гаркаваты ялаўцовы

дым. За жаўтлява-зялёным падсохлым картаплянікам пастухі расклалі агонь.

І Ваўчок раптам уявіў, як свірчыць на агні густы ялавец і з яго, покуль ён добра не ўгарыцца і не шугане полымя, бэрсаецца і коціцца вялымі клубкамі сіва-зеленаваты дым.

Успомніўшы пра брусок сала і вялікі, з чорнай, пабітай пухірамі скарынкай, бохан хлеба, што ляжаў у куфэрку, завярнуў да агню, да пастухоў з грумадою кароў, што разышліся па лужку пры рэдкіх ялаўцовых кустах.

— Ты куды? Вот галава,— блытаўся ў перасохлай траве на паўмежку Стась Патапчык.

— Можа, і дурная, але шапкаю не прыкрыеш. Трэба сысці з шашы. Не пабежымо ж у Гарадзею.

— Гы-гы, хай іх там яма ўпрача,— зарагатаў здурнелы ад радасці Патапчык.

Каля складзенага з накарчаваных смолкіх корчыкаў звабнага, што саграване таемнасцю, агню, круга якога ляжалі, чакаючы гарачага прыску, ружовыя картоплі, сядзелі трое хлопчыкаў: двум было па гадкоў дванаццаць, трэцяму, што шморгаў носам, з нямытымі, хіба толькі расою, чорнымі ножкамі, гадкоў шэсць.

— Можна прысуседзіцца? — спытаў Ваўчок, падышоўшы да агню і маргнуўшы з-пад свайго доўгага брыля самаму меншаму з іх.

— Чаму ж не,— адказаў за яго старэйшы, з вузенькімі вочкамі і пляскатым, як перабітым, носам.

Ваўчок адчыніў свой таемны для дзяцей фанерны куфэрак, дастаўшы адтуль брусок сала і вялікі прадаўгаваты, з чорнаю падпаленаю да пухіроў скарынкаю, бохан хлеба.

Адрэзаў усім па скрыльку сала і добрай лусце хлеба і прысеў на кукішкі перад агнём. Праткнуўшы ражном сваю скварку, трымаў, пакручваў пад вугольчыкамі, ловячы наздраватаю лустаю шыпячы тлушч.

Тут каля ціхага, што бліскае ў вочы вечнай радасцю, агню яны праседзелі да самага вечара, поцемкам прыйшоўшы ў Гарадзею; вайсковага поезда там ужо не было.

Да Баранавіч у адкрытым, прадзьмутым скразняком тамбуры выпадковага таварняка іх падмеўся давезці нейкі тоўсты, з падкручанымі вусамі, спагадлівы кандуктар — яны сказалі, што даганяюць свой полк. З Баранавіч, украдкам ускочыўшы ў вагон, яны ўжо ехалі віленскім паса-

жырскім, запыўшыся пад лаўкі і думаючы толькі пра адно, каб іх не агледзелі і каб яны не мінулі Дварчаны.

Балазе ў вагоне для маскіроўкі не запальвалі электрычнасці — у адным канцы вагона ў бляшаным ліхтары калыхалася касніком цьмянага полымя нізкая свечачка.

У чадным ад вугальнага дыму купэ шапталіся, спадзеючыся, што іх не чуюць, дзве пані — адна з сабачкам, якога яна, мусіць, трымала на каленях, другая з плеценаю карзінаю, якую ўсё хацела запхнуць далей пад лаўку, штырхаючы Ваўчку ў бок.

Няўзнак адапхнуўшы карзіну, Ваўчок стаіўся, наставуляючы вушы да іхняй палахліва-трывожнай гутаркі:

— Вільня перакопана ўся равамі, чулі?

— Свенты божа, свенты міласэрны! — уздыхнула тоўстым мужчынскім голасам, мусіць, тая, што трымала на каленях сабачку.

— Школы, кажуць, адкрываюцца толькі дванаццатага.

— Што вы кажаце, пані Баранецкая?

— Польскія эскадры збілі шаснаццаць нямецкіх самалётаў. Гітлер прыехаў на фронт.

— Свенты божа, свенты несмяртэльны!

Гутарцы, пэўна, не было б канца, каб яе не перабіў, счуўшы Ваўчка, чуткі сабачка і не заццяўкаў, паглядаючы сюды пад лаўку.

Пані ціхенька перацягнула карзіну ў другое купэ, але там пад лаўкаю затурзаўся Патапчык. Ён іх перапудзіў ужо да смерці, калі, учуўшы, што кандуктар аб'явіў Дварчаны, ірвануўся з-пад лаўкі, незнарок для самога сябе зачапіўшыся торбаю за нейкі штыр ці гак і высыпаючы напечаныя ў запас і па скупасці нават не пакаштаваныя коржыкі.

Патапчык папоўз уздоўж прахода, як мядзведзь, з грукатам рассыпаючы на падлогу з разарванае торбы сухія коржыкі. Падняўся на ногі каля дзвярэй, над якімі ў закураным бляшаным ліхтары моргаў слепаваты агеньчык.

Услед за ім з-пад лаўкі высунуўся і застукаў сваім фанерным куфэркам аб канты лавак ды пранты перагародак, праскочыўшы міма насцярожана-перапуджанага кандуктара на дварчанскі пясчаны перон, Марцін Ваўчок.

Потым ужо, калі яны адышліся ад станцыі ў пагодлівую чырвань раніцы пад малады аброшаны хвойнік з вясёлым ціліўканнем маленькіх шэра-зялёных з шылаватымі дзюбкамі пташачак і прыселі, задыханыя, на аблушчаныя, у злеглай траве, сточаныя восамі пні, Ваўчок ужо з ней-

каю палёгкаю, нібы скінуўшы з сябе што цяжкае, уздыхнуў:

— Нарэшце, лічы, дома.

— Ага,— хацеў унаравіць яму Патапчык, але толькі раззлаваў Ваўчка.

— Каб не свой дурань, то і сам смяяўся б. Ну і грукату ты нарабіў... Можна было і не выскачыць. Балазе кандуктар не змікіціў, што з намі рабіць, а то прапалі б за гнілую рыбу.

— Зрабіў бы ён што мне.

— Замкнуў бы, ды ўсё.

— Мы яшчэ паглядзелі б, рука ў мяне што пранік.

Яны яшчэ пасядзелі з паўгадзіны, астываючы і ад перажытага страху, і ад смуроднае, чаднае гарачыні вагона, ужо ўмовіўшыся, калі зловіць паліцыя ці яшчэ якая халера прылучыцца з кім, не казаць, што бачылі адзін аднаго, нікому, нават жонкам, і разлучыліся ў росным ляску...

Ваўчок нагнуўся, хацеў зняць з шапкі грыба вялікае струхлелае палена, але не, перадумаў — хай ляжыць, хай здзівіць яшчэ каго — і пайшоў, чуючы на спіне сухое, яшчэ пякучае сонца і мінаючы на грудку верасаўскі хвойнік, за якім між зарослых нізенькіх капцоў моглiц густа і мякенька шумелі на лёгкім скразняку цёплага асенняга ветру невысокія, круглыя, як купалы на царкве, кусты цёмна-зялёнага ялаўцу ў сівых дымных ягадках.

Наровячы не патрапіць на ліхое вока, Ваўчок стаіўся за гэтымі ялаўцовымі кустамі, што прымлелі ад гарачыні на пясчаным грудку, прыжмурыўшы адно вока, пільна і доўга ўзіраўся на сіваватыя, ускалмачаныя ветрам купы вербаў, на жоўты мост з тоўстымі сырымі парэнчамі.

Убачыў, што там мільгае чырвоная сукенка і трасуцца кудлы белых, падстрыжаных «пад гаршчок» валасоў яго старэйшай дзяўчынкі, і на вачах высачылася, задрыжала каламутная, пякучая сляза.

Скоранька збег з пясчанага, разбітага калёсамі грудка да парудзелых, у дзіравым лісці, алехавых кустоў.

— А во, тата! — па ліпкіх смалістых маставінах босымі нагамі затупала дзяўчынка, бегучы яму насустрэчу.

— Я, дачушка,— Ваўчок, паставіўшы куфэрак, падняў пад пахі цёпленькую і лёгенькую дачку.

— А цябе не забілі?

— Чаму ж мяне маюць забіць? — ён пагладзіў яе па слізкай выцвілай галоўцы.

— На вайне ўсіх забіваюць,— яна падняла на яго свой надпухлы сплаканы тварок — у чырвоных вачах яшчэ наліваліся слёзы.

— А ты чаго плачаш?

— Косціка не знайду.

— А куды ён пайшоў?

— Не знаю, тут сядзеў,— дзяўчынка выцерла кулачком слязу і паказала на маставіны над мутнавата-зялёным вірам паглыбшанай рэчкі — недзе ў Грабянкавым млыне адкрылі застаўкі, спускаючы з возера ваду.

— Што ты кажаш? — схаладзеў Ваўчок.— А даўно ён сядзеў?

— Я не ведаю.

— Можа, удома дзе?

— Не, удома німа. Я ўжо бегала.

Ваўчок, чуючы, як млеюць ногі, глянуў уздоўж рэчкі, на той круты паварот, дзе тырчалі чорныя пні ад старых спілаваных алешын, дзе верасаўскія бабы паласкалі бялізну, і скоранька перабег мост, пайшоў каля старых з жаўтлявымі лішаямі надрэчных вербаў. Далей стромы бераг аброс маладым, абвітым трывушчымі вяроўкамі лапушыстага, у жоўтых шышках хмелю крохкім алешнікам.

Вытknуўшыся з-за густа зарослых алешын, у каламутна-зялёнай вадзе пад чорным карчом, што разам з берагам пахіліўся ў рэчку, убачыў нешта невыразна-белае і выпусціў з рукі фанерны куфэрак.

Чуючы, як слізгаюцца па траве ногі, як сухая перацвіўшая крапіва апякае рукі, напралом праз яе палез да берага — і змярцвеў: неглыбокі вірок круціў, прыціскаючы да вужаватых, пераплеценых карчоў з нітачкамі ружовых карэньчыкаў, падварушваў нежывое ўжо цельца, закруціўшы яго тут насмерць.

— Татачка, а вунь Косцік! — закрычала на ўсю моц збянтэжаным, перапуджаным галасам дзяўчынка.

Ваўчок гэтак, у чым быў, скочыў у бухту і, здаецца, не чуючы лядовага холаду вады, трымаючы адною рукою за шурпаты камель нейкага ражна, другою злавіў за ручку нежывое ўжо, спруцянела-скурчанае цельца дзіцяці, выцягнуў разам з гнілаватым, аблепленым маленькімі слімакамі, азызлым паленам яго з вады.

Хлопчык, пасінелы ўжо, скачанелы, утапіўся мо з гадзіну назад.

Ваўчок палажыў яго на прылізаную вадою, што пачынала ўжо спадаць, зрудзелую траву і, аглухшы ад крыку

дзяўчаці і ад нечаканасці, што ўчынілася, вылез на бераг.

Узяў хлопчыка на рукі, раптам прыгануўшы тое, што думаў надоечы ў ляску: ніколі не ўгадаеш, дзе чалавека падсцеражэ бяда. І балючым джалам у сэрца ўпіўся дакор, чаму не паехаў з дваццаць сёмым палком уланаў туды на фронт, можа, астаўся б жыць хлопчык. Гэта — кара за тое, што ратаваўся сам. А ад смерці не ўцячэш.

Нібыта абязвечаны і знямелы, стаяўВаўчок, чуючы, як цурчэла з хлопчыка і капала вада і як настылы холад абдымаў яго самога.

Яму ўспомніўся пазаўчарашні такі самы пагодны дзень, аблытаны танюткай радужнай павучынай карычневы быльнік на дарозе, пухкая і цёплая пад босымі нагамі ралля, калі ён баранаваў жыта і да яго на поле, пасадзіўшы на раму Косціка, каб паказаў дарогу, прыехаў пасланец з гміны — худзенькі вуграваты, гадоў пятнаццаці, хлопец.

— Разумны,— сказаў ён пра Косціка, ссадзіўшы яго з рамы.— Ведае, нябось, дзе поле.

— А ці ведае ён, куды выпраўляе бацьку?

— На вайну,— задзіраючы сваю голаў ад аб'еханае на вочы кепкі, сказаў па-сталаму Косцік.

— А там мяне заб'юць.

— Не-е,— заславаў тады Косцік.— Заб'юць мяне.

І яны тады абодва, Ваўчок з гмінным пасланцом, засмяяліся з гэтае дзіцячае гутаркі, што выйшла цяпер на праўду.

Несваімі нагамі, у гарачым бяспамяцтве, трымаючы на руках нежывога хлопчыка, ішоў да стракатага ад малінавага лісця вішанніку. Збоку яго бегла і нема енчыла дзяўчынка. І, як чуючы бяду, каля хаты выў сабака.

Нешта горкае, пелітасцівае і тупое сціснула Ваўчку сэрца, калі падумаў, што няма нічога больш пакутнага на свеце, чым смерць роднага дзіцяці. Няхай ён пайшоў бы ў першы агонь, на той страшны фронт, каб чужыя рукі паднялі ўжо нежывога яго, як тут на сваіх нясе ўтопленае дзіця.

## XXVII

Даехаўшы да рэчкі, перад новым верасаўскім мостам з ачэсанымі пярыламі і круглымі тоўстымі маставінамі прыпыніліся двое пагранічнікаў.

З-пад доўгіх, як шуфлі, і нізка апушчаных брылёў сваіх

фуражак яны пільна і насцярожліва ўзіраліся на ўсланую шылаватым і горкім лісцем пясчаную дарогу, што ў абсадзе старых, тоўстых, з урослым у іх калючым дротам, вербаў падымалася ў вёску. Хатаў за гушчынёю яшчэ незгалелага галля не было відаць, але па тым, як сонна адзін аднаму наперабой і ў розныя галасы трубілі пеўні, як неўспадзеў падымаўся, растаючы ўвысі, востры крык раз'юшаных, што чубіліся біцца, дзяцей і нудна рыкала навязанае на прыгуменні вушатае, яшчэ, пэўна, ▪ гузамі ражкоў вясенняе цяля, можна было пазнаць і дагадацца, што там за старымі, сплеценымі галлём, жаўтлявымі вербамі падазрона стаілася невядомая вёска.

Буланыя, з белымі паскамі на задніх нагах, спрытныя дагледжаныя коні курэлі параю, цяжка саплі ад нагнанае дыхавіцы і рваліся ў рэчку. Іх мучыла смага — яны хацелі піць. Але кавалерысты патурзвалі павады, падсякаючы вострымі жалезнымі муштукамі мяккія ў зеленаватай пене губы, не пускалі разгарачаных коней да вады, каб з далёкай і, мусіць, труднай дарогі не абпаіць іх.

На кавалерыстах былі жаўтлява-зеленкаватыя, пад колер моху, доўгія шынялі і круглыя з зялёнымі аколышкамі, зашпіленыя раменьчыкамі пад бараду і насунутыя крышку на лоб, кавалерыйскія фуражкі.

У аднаго каля нагі звісала, паліскаючы выгнутай похвай, доўгая, ніжай стрэмя, шырокая шабля, у другога з-за левага пляча цьмяна-халодным страхам выблісквала руля кароткага кавалерыйскага карабіна.

Алесю абвеяў скразняк перапуду, калі яна, збягаючы каля занядбанага Ваўчковага садка пад старыя навіслыя вербы, за якімі ўжо жаўцеў новы, высока падняты на тоўстых палях мост і пераліваласяся, выслаўшы дарожку з разарванага сонца, абмялелая за пагодны верасень верасаўская рэчка, убачыла гэтых двух кавалерыстаў з падшпіленымі за раменьчыкі высокімі фуражкамі, на якіх паблісквалі бляшаныя арлы.

Перакінуўшы на другую руку горбу дзіцячых пялюшак, нарваных з старых палатняных сарочак, яна была нават прыпынілася, мяркуючы завярнуць назад або шмыгнуць пад іржавы калючы дрот, каб схавацца за нізкімі і стракатымі ад зялёна-бурачковага лісця Ваўчковымі вішнямі.

Але кавалерыст прышпорыў каня, уз'ехаў ужо па верасаўскі мост і замахаў рукою, падзываючы да сябе Алесю.

Яна ўгнула голаў, быдта не ўбачыла яго, і завярнула

ўздоўж рэчкі да чорных алехавых карчоў, каля якіх верасаўскія бабы паласкалі і мылі бялізну і каля якіх, няхай сцеражэ і бароніць бог, Марцін Ваўчок дастаў свайго ўтопленага хлопчыка.

— Нех пані, зачэка! — крыкнуў кавалерыст ужо з моста, турзаючы павады, каб падагнаць сытага ў персях каня, што пачаў спатыкацца на круглых маставінах.

«Што яны маюць? Можа, каго арыштаваць хочуць, як Змітрыка?» — паслізнулася яна на белай вялікай порхаўцы, што вырасла на вільготным тут пры рэчцы поплаве.

Кавалерыст — малады, з ружаватымі шчокамі і рассечанай верхняй губою, на якой бялеўся звілісты шнарок нарасці, хлопец — асадзіў, падцяўшы цуглямі, перад Алесяю раз'юшанага і зялёнаю пенаю каля цугляў задыханага каня.

Услед за ім пад'ехаў і старэйшы, даўганосы, нечым нават падобны, як Алесі падалося, да верасаўскага Вайтовіча. У яго з-за пляча падазрона выглядваў і цьмяна пабліскваў прымкнутым штыком кавалерыйскі карабін.

Маладзейшы прыжмурыў сінія, што блішчалі ад здароўя, вочы, даў «дзень добры» і спытаў:

— Цо там вэ всі дзее? Большэвікаў нема? [1]

— Якіх бальшавікоў? — сумелася Алеся, адступаючыся ад гэтых змакрэлых раз'юшаных коней, што пазіралі на яе глыбока сіняватымі смутнымі вачмі.

— А як та весь называ? [2] — папытаў даўганосы, з топкімі падцятымі губамі.

— Верасава гэта,— Алеся ўжо ступіла на пясок, на дзіравыя круглыя лісці падбелу, што слаўся пры рэчцы на плёсе.

— А да Здзенцёла далёко?

— Да Зецелы, пытаецеся?

— Так-так.

— Вёрст, як ад нас, пятнаццаць будзе. Ды хіба я ведаю,— сумелася гэтых доўгіх роспытаў Алеся.

— А да Ліды? — махнуў насунутым на вочы брылём малады, з рассечанаю верхняю губою кавалерыст.

— Ці ж я ведаю? Ніколі там не была.

— А можа, у пані знойдзецца адзежа? — спытаў гэты маладзейшы, заварочваючы каня на белы дробны, як вальцаваная мука, пясок, на якім слаўся падбел, і не даючы

---

[1] — Што там робіцца? У вёсцы... Нічога не чуваць? Бальшавікоў няма? *(польск.)*

[2] — А дзе мы? У якой мясцовасці? *(польск.)*

Алесі завярнуць да тых счарнелых пры беразе, гнілаватых і слізкіх алехавых карчоў.

— Што вы пытаеце, якая адзежа? — Алеся наступіла на кветку маладога калючага асоту.

— Быле не жыдовска, то добжэ,— выскаліўся даўганосы.

— Звыклая адзежа: пінжак і порткі,— без ніякага смеху, ужо сур'ёзна сказаў маладзейшы.— Коней аддамо. Пераадзецца трэба.

— І збрую ўсю. З сёдламі. І абмундзіраванне,— даўганосы адкінуў за крысо свой зеленкаваты шынель: — Паглядзі, якое сукно.

— Добрай адзежы не маю, а старая знойдзецца,— нарэшце Алеся разабралася і дагадалася, што хочуць ад яе кавалерысты.

— Нам абы-якая. А коні во, як лялькі,— малады турзануў за повад, адрываючы ад травы каня.— Дзякаваць будзеш. Ды яшчэ з сёдламі...

— Вой, нашто ж мне сёдлы.

— Ну, хто купіл коня, бежэ уздэ [1],— засмяяўся даўганосы і махнуў сваім насунутым на вочы круглым казырком.— Во, ідзі скарэй.

— Я мігам,— Алеся ўжо, мусіць, з гарачкі, няпомнячыся, што будзе мець аднаго з гэтых сытых дагледжаных коней, прыпусцілася подбегам пад старыя вербы да пясчанае дарогі, трымаючы на сагнутым локці брудныя дзіцячыя пялюшкі.

— Але запоментуй,— крыкнуў ён упагон.— Нікому ні слова.

— І праўда ж, ці я маленькая...

— Чы ты веш, цо то значы? [2] — даўганосы злавіў ззаду сябе прыклад карабіна, паляпаў рукою па ім.— Катку жарты, мышцы смерць.

— Якія тут жарты? Ці я каму казацьму,— Алесю ўжо зноў авеяў скразняк страху. «Забяруць адзежу, а коней мо і не дадуць. Бо чаго ім, меўшы коней, ісці пеша?»

Ад хады, ад нядаўняга парушэння, калі падняла на жэрдку мокрую бялізну, учула зноў у крыжы балючы цяжар.

Тады памагла цётка Сцяпаня: нараіла накапаць ды папарыць кучаравенькага, падобнага лісцем да кмену, з бе-

---

[1] — Ну, хто купіў каня, бярэ і ўздзечку *(польск.)*.
[2] — Ці ведаеш, што гэта значыць? *(польск.)*

лавата-жоўценькаю, як у кашкі, кветкаю парушэнцу. Яго ўвар трохі памог. Цяпер адгукнуўся і зноў хапіў той самы моцны, як вытрываць, боль. Алеся, не дайшоўшы да Ваўчковай хаты, прыстакнула каля драцянай калючай загарадзі і абаперлася на сасновы з адлушчанай карою слупок, каб счакаць, покуль не адпусціць гэты тупы нясцерпны боль. Тыцкаючы ў жарству саламяным ветахам, на надворку мыла чорны, закурэлы ў печы цаган Ваўчкова Вольга. Цёмнай чырванню перад вачмі палыхнула полымя жалю, пакуты і шкадавання, калі Алеся зноў успомніла пра ўтопленага хлопчыка.

І, як учуўшы, што тут, на другі бок вуліцы, стаіць нехта, Вольга падняла свой твар, зіркнула зялёнымі лупатымі вачмі за рэдзенькі, з падгнілымі шульцамі, нахілены плот, здзівілася:

— Няхай крые бог, што гэта з табою?

Алеся, пэўна, змянілася, збялела з твару.

— Нічога, так сабе,— не прызналася Алеся.

Не даўшы, мусіць веры, Вольга падышла да плота, трымаючы звязаны ў куклу пук саломы, з якога цурчэла вада. І вочы яе зачырванеліся ад крыві і слёз:

— Як гляну во на рэчку, так і свайго хлопчыка ўспомню.

— Што ты, Вольга? — перасільваючы боль у крыжы, адапхнулася ад слупка Алеся.— Жывым у магілу не ляжаш.

— Але ж і жыцце няміла. Не вытрываць.

— Ці ж сябе будзеш караць? Так ужо лёс наканаваў.

— Не кажы, любка,— і, падымаючы мокрыя, закасаныя ў рудым шарачковым пінжаку рукі, здрыганулася плячмі і зайшлася, завыла ад плачу Вольга.

— Хіба бяду выплачаш? — Алеся хацела супакоіць Вольгу, але, учуўшы, як самую бярэ за сэрца ад гэтага змучанага плачу, памалу пайшла вузенькаю, што зарасла сівым горкім палыном і старым укаранелым бэзам, прырэчнаю вуліцаю, каб завітаць да бацькі ды параіцца наконт коней, якіх мяняюць польскія салдаты.

Каля Сцяпанавага, выкладзенага вялікімі ружовымі каменнямі муру, што падпіраў высокі грудок, дзе стаяла доўгая ў адзін пашарак хата, з саламянаю чубатаю стрэхою заміж шчыта, дзеразаваліся і валтузіліся, сабраўшыся, як вераб'і пад восень, у шчабятлівую грумаду, верасаўскія дзеці.

Прыйшла пара ісці ў школу, але ўсё перайначыла вай-

на: вучобу спярша адклалі на тыдзень, потым яшчэ па пяць дзён, і дзеці цяпер, не ведаючы, як і дзе збавіць час, шнырылі па чужых садах, выбіраючы найбольш тыя, дзе паспелі цукровыя і вялікія, як званы, дулі ці надшыя на смак яблыкі, шасталі па гародах, латошачы з градак моркву ды рэпу, ці качаліся ўпоцемку па калюча-шапаткім гурочніку, каб намацаць бокам ці спіною доўгі нераспелы гурок.

А ўчора, вядома, не падшыванцы, а большыя з іх, што браліся пад кавалераў ды набыльвалі пра дзяўчат, але яшчэ саромеліся далучацца да вячорак, падпільнаваўшы, калі засне пад грушаю-сапяжанкаю ўкручаны ў свой доўгі кажух скупы да смерці Язапат Змысла, спадцішка падкраліся пад дрэва, страсянулі яго ды яшчэ гэльцнулі па соннага чалавека, спатажыўшы і добра памяўшы яму скабы.

І сённячы раніцай старая яго Ганy ся, ідучы вуліцаю, туды і назад цераз усё Верасава, кляла ўжо спрытном усіх, у каго толькі ні ёсць дзеці:

— А каб вас ужо гніды аб'елі, як ты аб'еў усё. Каб табе, божа мілы, гэтак рукі пакруціла, як ты пакруціў гэтае дрэва! Каб табе жыўцом скуру дралі...

Кляцьба не сціхала і вечарам каля калодзеся, і Алеся цяпер, мінаючы гэты вясёлы гармідар дзяцей, што плячыма падпёрлі Сцяпанавы каменні, успомніла ранішні крык, можа, трохі злосна ды недалікатна пажартавала:

— Смеіцеся, а вунь старая Ганyся ідзе.

І тут ужо помсліва і страшна ўпікнулі яе — ажно здрыганулася і амярцвела сама:

— А вунь за ёю і Таквіля.

Алеся нават не распазнала, каторы гэта з іх сказаў: той чорны, ужо нават з пушком на губе, Ясеў Генік, як брахалі на яго, Язюк, бо ўсё лета боўтаўся пад карчамі, ловячы рыбу, ці белы, як маслянка, і недарослы, дробненькі, рыхтык маці, Чувачышын Костак. Той крываногі Клэўсь.

Нечаканая і балючая, як пад ногаць стрэмкай, крыўда ўпілася ў сэрца: не даравала Верасава ёй гэтага страшнага граха, што ўчыніла яна, і дараваць не можа. Помсціла і помсціць будзе, пераказваючы нават дзецям.

Няпомнячыся ад жорсткай і няшчаднай крыўды і злосці, Алеся завярнула на бацькаў двор.

У глухіх, між хлявом і хатай, сутоках з густым натужным звонам шоргала піла.

Тут у Корсакаў была дрывотня, тут заўсёды ляжала старая, шчодра падзёўбаная з усіх бакоў дубовая калодка і стаялі расхістаныя козлы, тут пры тыльнай сцяне пад зацішным ад дажджу застрэшкам і складвалі напілаваныя ды наколатыя дровы.

Алеся зазірнула за шэры непадраўняны вугал хаты, на якім ляжаў бацькаў капшук, мусіць, з той самай моцнай, як атрута, гродзенскай махоркай, і блішчаў кавалак збітага крэсіва.

Бацька адзін, неяк прыкусіўшы ніжнюю губу, цягаў вузкую, з лагчынкай пасярэдзіне, зрэзаную пілу. Прыціскаючы адным каленам, рэзаў доўгае чорна-шурпатае, накладзенае на козлы, алехавае палена, сыплючы сабе ў закарвашы портак ружаватыя пілавіны.

— Чаму не папрасіў? — спытала Алеся, знарок моцна, каб перабіць бацькаву работу.— Хіба Імполь не памог бы?

— А ў мяне ўжо так: ні роду, ні плоду,— бацька перастаў шоргаць пілою і зняў з дзеравіны падлапленае ў старых портках калена.— Цалюткае жыццё адзін, як трусцень.

— Не гнявi бога, тата. Гаворыш абы-што.

— Бачыш, дачакаўся ад сына помачы, а ён у палітыку пасунуўся,— бацька схіліў гутарку на Змітрыка.— Шукала галава гуза, нарэшце знайшла.

У Алесі пад нагамі нібыта гайданулася зямля, пякучым страхам зайшлося сэрца: што з ім і дзе ён, Змітрык.

— Ці вінаваты ён, што́ благога зрабіў? — з жалем спытала ў бацькі.

— Добра, кажуць, усё ўмець, ды не ўсё рабіць. Не трэба было сунуцца ў палітыку...

— Не абышлося без сваіх. Нехта ж падкусіў.

— Няма лесу без ваўка. Ці я не знаю, што ўдалі свае. Але і сам...

— Свет трасецца, як на верацяне. Страх падумаць — вайна,— злякнулася Алеся, успомніўшы пра тых двух пагранічнікаў на дагледжаных буланых конях, што чакалі яе каля рэчкі, і забедавала пра Змітрыка: — Каб дзе ў цюрме не забілі.

— І я во пра што думаю,— Корсак нагнуўся, шмаргануў рукою па калошах, вытрасаючы з закарвашаў ружовыя пілавіны.— Цяперашнім светам згінеш ні за панюх табакі.

— Можа, дасць бог,— у Алесі ажно памутнела ў вачах.

— Што бог? — крыкнуў сярдзіта бацька і ўжо шэптам папытаў: — Чула ці не? Кажуць, Саветы граніцу перайшлі. Але нешта робіцца, раз смаркаты Кот чырвоны бант пачапіў. Ідзе, бачу, голаў задраўшы, і ўжо з голай фігай носа яму не дастанеш. Во свет настаў,— Корсак суха плюнуў на босыя, прыцярушаныя пілавінамі ногі.

— А я во паразумецца прыйшла,— Алеся тужэй скруціла, згамтала нямытыя пялюшкі.

— Што кажаш? — Корсак падняў шапку, выцер рукавом белы, што не бачыў цэлае лета сонца, спацелы лоб.

— Каня хачу выменяць.

— Гародзіш ні зіму ні лета. Якога каня?

— За адзежу вэнь кавалерысты аддаюць.

— Якія кавалерысты? — Корсак нат высунуўся з сутокаў, зіркнуўшы на вуліцу і надворак.

— Ды не тутака яны, вэнь каля рэчкі.

— Глядзі, і свайго не пратаргуй.

— А я нічога не страчу,— Алеся падышла да гонкае, роўнае са страхою, вастраверхае грушы, што расла ад чужое мяжы тут у сутоках, сарвала з ацяжэлае зраджайнае лапы ружаватую і цвёрдую грушку.— Ці моль з'есць Радзівонавы каптаны ды порткі, ці ім аддам. А мо і каня добрага мецьму.

— Ой, глядзі, дачка, каб не падвялі пад дурнога хату.

— Няўжо ж яны? — Алеся высунулася з сутокаў, паглядзела з дзівам на бацьку.

— Цяпер сам сабе не вер, не то што чужому,— Корсак адвярнуўся спіною, апусціўшы доўгія рукі, замахаў імі, дайшоў да парога, прысеў на яго, не падымаючы галавы, папытаўся: — А якую адзежу ім трэба?

— Якую ж? Цывільную, пэўна, каб скінуць сваё вайсковае.— Алеся спешненька пайшла, мільгаючы сваімі жоўтымі патрэсканымі пятамі, не азірнуўшыся, сказала бацьку: — Пашукай і ты што старое. Там жа ж двое коней.

— Не, мне не трэба,— не падымаючы галавы і пазіраючы на свае зацярушаныя ружовымі пілавінамі босыя ногі, адклікнуўся Корсак.— Тут дай бог сваё спажыць. Дарма, што свет шырокі, ды чаравік цесны. Не, на ўсё не разгапяйся. Дай бог сваё спажыць.

Другога каня, прынёсшы нейкія старыя пінжакі, шапкі ды порткі, разам з сядлом забраў Ікон Жыток. Пакінуў толькі на Алесіным надворку зманлівую з жоўтым кутасікам і выштукаванай ручкай кавалерыйскую шаблю.

Пакруціў у руках, выцягнуў з ножнаў, секануў па закурэла-сівым у малінавых шышках лопуху, пакруціў галавою, што вострая, і павесіў на Алесін частакол.

— Няхай пан бярэ. Серп з яе добры выйдзе,— перадзеўшыся ў шарачковы пінжачок, вузкія портачкі і ўжо смешны, здрабнелы, раптам выйшаў з Алесіных сенцаў ладзейшы, з пасечанай губою, кавалерыст.

— Што вы, гэта ўжо зброя.

— Нам досць тэй забавы,— засмяяўся даўганосы, адзеты ў шырокі, мусіць, Імполеў пінжак і падлапленыя на каленях шарыя з цёмнымі палоскамі порткі.— Каваль перакуе на серп. А сталь тут, ого.

— Не столькі тога набытку, колькі клопату мецьмеш: якая ўласць ні прыйдзе — усё пытаць будзе, нашто браў. Ведаю.— Ікон, прыжмурваючы вочы, пакруціў галавою і адышоўся ад плота, беручы за повад стройнага з падрэзанай грывай каня.

Алеся свайго, каб не бачылі лішнія чужыя ды зыркатыя вочы, адразу завяла ў хлеў, выгнаўшы адтуль падлу і здыхату, як яна сказала на змардаванага ды старога Мондравага каня.

— Ай, дарма, добрая рэч,— паказаў на шаблю перадзеты кавалерыст.

— Не, не вазьму, не вазьму,— адмахнуўся рукою Ікон Жыток.

Туды да плота, дзе, пабліскваючы похвай, вісела доўгая шабля, кінуліся верасаўскія дзеці, што, убачыўшы кавалерыстаў, як вераб'і на каноплі, зляцеліся сюды на Мондраў надворак.

— Ану, марш адсюль! — ужо наліваючыся ад злосці чырванню, гыркнуў на іх Імполь.

Ён, мусіць, толькі і чакаў, калі Ікон Жыток, патрымаўшы ў руках ды пазабаўляўшыся, нарэшце павесіць на плот гэтую прыгожую, як цацка, і спакуслівую шаблю.

Імполь зняў яе з сухіх яловых частаколін, панёс у хату, спатыкаючыся ад радасці, пераступіў сухі сенечны высокі парог, каб схаваць у стопцы, дзе ўжо ляжала і пахла яшчэ не выветраным потам знятае з каня новае, што згодзіцца, можа, на боты, кавалерыйскае сядло. Засунуў шаблю ў куток за старыя кубельцы, выйшаў давольны — блішчалі радасцю яго прыжмураныя сіняватыя вочы і смех торгаў сцятыя тонкія губы.

— Нашто, каб хто спытаў, гэтая шабля? Не мела галава клопату! — закрычала Алеся, падгушкваючы на руках

цёпла ўкручанае ў пуховае коўдрачка сваё яшчэ піскля-вае, нядужае дзіця.

— Спатрэбіцца,— ганарыста махнуў галавою Імполь.

— Так, можа, і руж'ё вазьмі,— Алеся паказала на даў-ганосага кавалерыста, што трымаў кароткі карабін.

Але той, пэўна, спалохаўся такога павароту справы і скоранька закруціў галавою:

— Не-не, не оддам. Вам карабін? Вы навэт своіх можэ-це постшэляць [1].

— Карабін нам сень пшыда [2]. З ім усё-такі смялей, не кожны падсунецца,— усміхнуўся малады, крывячы сваю верхнюю губу, на якой бялеў звілісты шнарок нарасці.

Верасаўскія мужчыны, стоячы за плотам, маўчучы па-глядалі на ўсю валынку, што тварылася, падымалася ў Мондравым двары, і іх разбірала хцівая зайздрасць і зацят-тая крыўда, што Алесі з Іконам Жытком дасталіся спраў-ныя дармовыя коні, і яны пачыналі шукаць зачэпку, каб як ужо зганіць для свае пацехі сытых дагледжаных кава-лерыйскіх коней.

— Яму, пэўна, і хамут не адзенеш, не то што будзеш ездзіць,— абышоў тут на вуліцы Жытковага каня, на якім сядзела жоўтае на мякенькім лямцы ганарыста выгнутае сядло, няголены, з ледзьве прыкметнай, як у іншай ба-бы, шчацінай на губе Васіль Міронаў.

— Нічога, прывучым, нідзе не дзенецца,— Ікон Жы-ток, падымаючы за повад, хацеў паляпаць па храпе насця-рожана-пудкага каня, але той вышчарыў ад злосці зубы, ловячы імі Іконаву руку.

— А што, бачыш, куслівы, як сабака.

— Ды яшчэ мо й задам б'е, толькі сцеражыся.

— Ён рахманы,— заступіўся за свайго каня пераадзе-ты кавалерыст з аб'еханай на вочы, трохі не па ім, шап-кай.— Гэта, можа, таму, што здарожыўся.

— Калі ўрадзіўся з лысінкай, то ўжо такі і астанец-ца,— Васіль, асцярожна падступаючы, падышоў да каня, памацаў гладзенькую скуру на сядле, перабраў папруж-кі і нечакана турзануў за адну, вышморгваючы яе з сядла.

— Гэй, што робіш! — закрычалі мужчыны, знарок, каб падражніць Ікона.

— Нічога,— пасмехваўся і паказваў свае чырвоныя

---

[1] — Вы нават сваіх можаце пастраляць *(польск.)*.
[2] — Карабін нам прыдасца *(польск.)*.

бяззубыя дзясны Ікон Жыток.— Каня яму не дасталося, то няхай папружкай цешыцца.

— А што, акраз і падышла,— Васіль аперазаў сябе нешырокай тоненькай папружкай з жалезнай спражкай, зашпіліў на худым, падсохлым жываце і развязаў свой бардовы, тканы казельчыкам пояс, патрымаў яго ў руцэ, але не выкінуў, сабраў, згамтаў у кулаку і паклаў у кішэню.

— Во, каб хоць заміж папружкі пояс у сядло зацягнуў,— рагаталі мужчыны.

— А то глядзі, дальбуг, перакасілася, Ікон не давядзе.

— І сколькі ж гэта з яго ботаў выйдзе?

— Ды глядзі, што пашые на ўсіх сыноў,— падцінalі Ікона хцівыя і ўсё ж праўда такі зайздросныя верасаўцы.

— Каб вам языкі аблезлі, як вы абгаворыце гэтыя сёдлы,— заступілася за Ікона Алеся, няўзнак косячы вокам на пераадзетых пагранічнікаў, што, ужо да смехаты пабрыдчэлыя ў шарачковых пінжачках і зношаных портках, з-пад якіх падазрона, як чужыя, паблісквалі хромавыя вайсковыя боты, тапталіся на Мондравым надворку.

— Пані, мам яшчэ інтэрас,— злавіўшы Алесін зірк, сказаў даўганосы, з насунутай на вочы вялікаватай кепкай старэйшы кавалерыст.

Ужо па звычцы гушкаючы дзіця, што нечакана заснула пад сыты і давольны мужчынскі рогат, Алеся падышла да кавалерыста, наставіла вуха.

— Можа, сала пані на дарогу дасць?

— Вой, галава, я ■ гэтым гармідарам начыста забылася,— яна сарамяжна засмяялася і маргнула Імполю, каб залез на гарышча, дзе ў кошыку хаваўся на ўсялякі нечаканы дзень астатні падсохлы апольчык сала.

Калі Імполь вынес завязаную на тоўсты вузел палатняную торбу, кавалерысты нечакана павесялелі і, прыпадымаючы над галавою кепкі, пачалі развітвацца, ківалі ўсім галовамі.

— На Бяліцу нам трэба,— сказалі яны ўжо за брамаю, стоячы ў канцы Мондравага плота.

— На Бяліцу? — перапытаў Міронаў Васіль і, прытопваючы босымі нагамі густую ў бела-ружаватых кветках дзяцеліну, падаўся да іх: — Наўпрасты ідзеце, як вунь бачыце за шашэю дарогу. Там — Бяліца.

— У Літву, мусіць, уцякаюць? — сказаў Ікон Жыток, папусціўшы повад, каб конь нагнуўся да травы.

— Скуль ты знаеш? — хмыкнуў і не паверыў Васіль.

— А што тут знаць: немцы ўжо ў Варшаве, туды ж не пойдзеш.

Мужчыны, успёршыся локцямі на плот, глядзелі, як да крыжа марудна па гразкай пясчанай дарозе з раўка падымаліся нераадзетыя і здалёк саўсім падобныя да вясковых хлопцаў два нізкарослыя кавалерысты. У аднаго толькі падазрона вісеў за спіною жоўценькі новы карабін.

— І нашто яму гэта кульша? — спытаў Жыток.

— Нас баяўся, таму не аддаў,— сказаў Імполь, гледзячы прыжмураным і зайздросным вокам туды пад шары абамшэлы крыж з новым белым ручніком.

— Ты, гляджу, узяў бы,— Алеся паднялася з дзіцем на ганак, загадала ўжо адтуль: — Каня вунь ідзі пакармі!

Мужчыны, нібы задыхнуўшыся ад даўкае цішыні, узіраліся на кавалерыстаў, што пераходзілі глухую, завешаную стракатымі бярэзінамі шашу і вузкакалейны, у белых слупках пераезд.

— Значыцца, Саветы блізка, бачыш, як джгаюць,— паказаў туды за шашу Ікон Жыток, дзе прыспешылі хаду перапуджаныя кавалерысты.

— А што ім — ногі на плечы ды пайшлі.

— Далёка не ўцякуць.

— Далёка ці блізка, а дзе сыдуцца нямцэ з бальшавікамі, вайна будзе, ці што? — патурзаў за частаколіну плота, па якім віўся і цвіў пустым жоўтым цветам гарбуз, і неўспадзеў заварушыў ніжняю тоўстаю губою негаваркі і пануры Чувак Петрык.

— Не чуў, ці што? Замірэнне нямцэ з Расіяй падпісалі.

— Чуць-то чуў, але дзе граніца ляжа?

— Бывае, што і вёску дзеляць. Во новая Васілёва хата мо да немцаў адыдзе,— неўпапад пажартаваў Язапат Змысла.

— А твой стары грыб, што́ — пад Саветы? — выплюнуў дакураны ўжо да самага кончыка, што пёк у нячуткія, абкураныя да жаўцізны пальцы, канчар папяросы даўганосы, з навіслымі рудымі бровамі Юлісь Самахвал.

— А ён, можа, як той Рэпка, чакае, што бальшавіке дадуць новую, з вазонамі нават.

— Новую не новую, а асадніцкую забяром,— дробным смехам затросся Язапат Змысла і раптоўна змоўк, адным непрыжмураным вокам, з белым сальнікам на веку, цікуючы ў другі бок вуліцы пад Сымонаў калодзесь, на доўгім жураўлі якога пакалыхвалася мокрае драўлянае вядро: адтуль, трохі накульгваючы і падвалокваючы нагу,

подбегам шыбаваў сюды высокі, незнаёмы верасаўцам мужчына, падпяразаны паверх пацямнелага кажушка шырокім рэменем з начэпленым на яго салдацкім кінжалам у жалезнай бліскучай похве, і бег нізенькі, што ледзьве даставаў яму да пахі, расхрыстаны Жэнік Рэпка; на кляпе ў яго растапыранымі крыльцамі трапятаўся чырвоны прышпілены бант.

— Дзе яны? — задыхнуўся ад скорае хады Жэнік Рэпка. На твары ў яго гарачынёю плямаў ірдзела чырвань і губы сохлі і трэскаліся ад смагі.

— Кавалерысты дзе? — махнуў суконнаю з адваротам шапкаю худы, цыбаты мужчына, усё мацаючы карычневую ручку свайго сёння, мусіць, начэпленага кінжала з круглай гарошынай на канцы похвы.

У гэтым высокім мужчыну з нездароўчым худым тварам, на якім толькі значыўся доўгі гарбаваты нос, тойсёй з верасаўцаў пачаў пазнаваць Саўку Аўсяніка з далёкіх адсюль Доўбніч, што гніў у турмах за палітыку і, чуваць было, памёр там, а цяпер нібы ўваскрос тут на верасаўскай вуліцы.

— Гэ, ці не Сцяпана Аўсяніка сын будзеш? — асцярожна падбіваючы ўгору свой зрудзелы барашкавы каўпак, папытаўся Язэпат Змысла.

— Буду,— нават з гонарам адазваўся высокі мужчына.

— З Доўбніч, што хата за раўком?

— Хата на гэты бок раўка,— засмяяўся даўганосы мужчына,— але ў Доўбнічах.

— А я так сабе і думаю, рыхтык Сцяпанаў сын,— выскаліўся давольны Язэпат Змысла, што нарэшце такі ўгадаў таго самага Саўку Аўсяніка.

— Ты, дзядзька, зубы не загаворвай,— умяшаўся ў гутарку Жэнік Рэпка, і ў голасе яго задрыжала нават грозьба.— Кавалерысты дзе?

— Коні іхнія во,— паказаў на буланага беланогага каня, з якім за гумны адыходзіўся Ікон Жыток, і хітра заблішчаў вачмі, падбіваючы свой зрудзелы каўпак, Язэпат Змысла.— А кавалерысты вунь, за шашою на шырокай дарозе.

Трохі скрывіўшы пабок галаў, Жэнік Рэпка зіркнуў туды за шашу, дзе ў прагале трапятлівых звіслых бярэзін жаўцела пясчаная дарога, марудна падымаючыся на круглыя боханы грудкоў — там мурашкамі чарнелі пераадзетыя кавалерысты,— і махнуў рукою на Ікона Жытка:

— Давай каня сюды, я іх улаўлю.

— Гэ, каня. Пайдзі вазьмі свайго,— Ікон Жыток па тупкай, выбітай у зялёнай мураве сцежцы разам з канём завярнуў за шарае з замшэлай карычняватай страхою Корсакава гумно.

— Конь, калі хочаш знаць, можа быць і наш. Мы ўжо ўласць тут,— крыкнуў Жэнік Рэпка, ірвануўшы туды за гумно.

— Ты бачыш, уласць,— здзекліва хмыкнуў Жыток.— Брыды кусок.

— Што? — у Аўсяніка перакасіўся худы нездароўчы твар. Ён аберуч ухапіўся за кінжал, вырваў яго з ножнаў — халодным страхам заблішчала сіняватае вастрыё — і зачыкільгаў, прыпадаючы на адну нагу, услед за Жэнікам Рэпкам.

— Каня не дам, і не вельмі страш,— спыніўся Ікон Жыток і выцер ужо і ад злосці, і ад нервовасці свой спацелы лоб.

— Аддасі!

— А во паглядзіш! — Ікон, турзаючы за повад каня, павярнуўся да падрубы гумна, выграб адтуль даўгаваты, як молат, камень.

Верасаўцы скоса назіралі, чакаючы, што будзе далей, не ўмешваючыся ў гэтую валынку, адно толькі Імполь, выбегшы за плот, дагнаў на другі бок вуліцы тонкага і высокага, як жэрдка, Саўку Аўсяніка:

— Конь знойдзецца, вунь мой ходзіць каля гумна. За чым спор,— гукнуў Імполь, азіраючыся на вокны, ці не цікуе з хаты Алеся.— Дый кавалерыйскі ў хляве, але толькі голымі рукамі тых пагранічнікаў не возьмеш, карабін у іх.

— Ага, хлопцы, карабін.

— Куды вы на злом галавы? — загаварылі ўжо ўсе верасаўцы.

Саўка Аўсянік нечакана аціх, запхнуў у похву кінжал і азірнуўся зноў туды на дарогу, дзе, пераваньваючы ўжо за грудок, хаваліся польскія пагранічнікі — былі відаць толькі іхнія плечы ды шапкі.

— Хлопцы, трэба дагнаць іх, забраць карабін! — махнуў рукою нервова-трапяткі, з белаватымі, як адзічалымі, вачмі Жэнік Рэпка.— Ідзём утрох.

— Чакай, тут у мяне ёсць,— Імполь вобмельгам ускочыў у сені, вынес пачэпленую на шырокую папругу доўгую шаблю, спаткнуўся на ганку. Услед за ім выскачыла

Алеся, растрапаная, з непрышпіленай кофтай, з якой белаватымі грудкамі вызіралі сакаўныя, налітыя малаком грудзі: яна, мусіць, карміла дзіця.

— А ты куды гэта? — Яна спешна адною леваю рукою лавіла ў кофце і ніяк не магла злавіць перламутравы, што адліваў ружаватасцю, гузічак і пайшла подбегам раптам, зрабіўшы Імполю заступ дарогі,— стала ў адчыненых веснічках.

Яе бяскроўныя, сінявата-звялыя пасля родаў губы сутаргава перакрывіліся:

— Аціхні, ідзі, кажу, у хату!

Імполь, перапуджаны яе ціхім, занадта, можа, спакойным голасам, збіўся з хады, прыпыніўся перад веснічкамі — знаў яе натуру, затнулася яна ў гэтай злосці не дарма. На яе як надышло затлумленне — чакай бяды. Але завярнуць назад у хату перад усімі верасаўскімі мужчынамі было ўжо не ў гонар.

— Якая ліхата нясе цябе туды? Гэтакае шаленства на свеце,— у Алесі ад нервовасці, ад злосці прыжмурылася і пачало касіць адно вока.— Ён граматны во,— і паказала на Саўку Аўсяніка, што зачыкільгаў па сухім пяску ў канец вуліцы.— Ён начальнікам будзе, а ты як быў прымаком — так і будзеш. Якая ўласць ні прыйдзе...

— Ты што гародзіш? — страпянуўся і няўмела на хворай назе павярнуўся цыбаты Аўсянік.

— Гародзіць, гаворыць, а на праўду выходзіць,— выскаліўся і падняў пад навіслым каўпаком бровы Язапат Змысла.— Бо хто ж гэта з ражном ідзе на карабін?

Гэтае ўпіканне ў прымацтве нібыта перуном аглушыла Імполя, і, нібыта водгалас яго, у душы загрукала злосць.

— Пусці! — Імполь ірвануў веснічкі, і яны трэснулі, сарваліся з іржавага завеса.

— Тады не прыходзь, во кажу перад усімі! — хрыплавата крыкнула Алеся, ідучы побач, каб схваціць і вырваць у яго шаблю.

— Не страш, магу не прыйсці,— ён нават не азірнуўся, прыспешваючы крок, каб ускорыць за мэнткім Жэнікам Рэпкам, што мінаў ужо равок, зашпільваючы на сабе шырокую салдацкую папругу з доўгай шабляй.

Алеся, анямеўшы ўжо ад крыўднай ганьбы і злосці, рынулася ад зламаных веснічкаў назад пад хату. На ганку спынілася, злавіла рукою вушак і доўга стаяла, цяжка і парывамі дыхаючы. Чула, як захлынаецца сэрца і як душаць яе сухія слёзы.

У крыжы, здаецца, разламаўшы ўсю сярэдзіну, зноў сekануў няшчадны боль, адняў абедзве нагі разам, не даў ступіць, і Алеся аб'ехала на парог.

Ды з верасаўскіх мужчын, што прыліплі плячмі да плота, ніхто гэтага не змеціў, усе глядзелі на пясчаную дарогу ў доўгіх і калматых косах ружаватага, што зацвіў ледзьве відушчым дробным цветам, спарышніку, які тапталі трое мужчын, пусціўшыся ўпагон за пераапранутымі пагранічнікамі, але, выбегшы на грудок да рэдзенькае, яшчэ не акрыялае ліловае руні, завярнулі на шашу, завешаную сумна-стракатым веццем старых бярэзін.

— У Дварчаны, мусіць, пабеглі,— падрапаў каля вуха сівы кучаравы чубок валасоў Язапат Змысла.

— Пэўна ж, туды.

— І розум мелі, а то падсунулі б лабаціны.

— Дзіва, з голымі рукамі на ўзброеных.

— Яны ў Дварчанах зброю дастануць,— махнуў доўгім пераламаным брылём свае кепкі Петрык Чувак.

— Ага, скажаш.

— А тое і скажу — паліцыю пабеглі раззбройваць.

— Скуль ты ўсё знаеш? — не паверыў яму Язапат Змысла.

— Знаць мо і не знаю, а чуць чуў, як тут гаварылі.

Сіпаваты глухі Чувакоў голас ужо саўсім даканаў Алесю: перад вачыма ўсталі Дварчаны і яна, Хрысця, з дзіцячай каляскай на бліщчастых колцах, і ў вушах чулася ўпарта-дурнаватая грозьба: «Не страш, магу не прыйсці».

Алеся ў самлелай і адчайнай знямозе падумала, што цяпер папраўдзе можа ён не прыйсці, і абсунулася з высокага парога ў сені на халодны ток.

Падала нячутна, нібы ў чорную мяккую вату.

## XXVIII

Лагер — гектары са два збузаваных картопель і здратаванага, як на стойбішчы, жытняга перасохлага ржышча з мышынымі норамі, там, дзе некалі стаялі пашаркі мэндляў, абгароджаныя новым, яшчэ сівым калючым дротам,— быў недалёка ад занядбанага маёнтачка, над якім дажывалі свой век цёмныя старыя ліпы. Між іх бялеў атынкованы дом з чырвоным чарапічным дахам і шарэлі выцвілай на сонцы драніцай стрэхі гумна і аборы. Зводдаль ліпаў за здзічалым ужо, недагледжаным садам, дзе ў гушчыні лісця свіціліся яснасцю на-

ліўныя спелыя антоны, стаяла мураваная каплічка — пэўна, магільны склеп тутэйшых гаспадароў маёнтка.

Спускаючыся з грудка, сюды бегла шчытна абсаджаная абапал гонкімі, як канапліны, пірамідальнымі таполямі вузенькая дарога. Адтуль на лагер каціўся клубкамі і асядаў сухі, што потым хрумсцеў на зубах, гаркаваты пыл. Дарогаю снавалі «ценжароўкі» — крытыя нямецкія грузавікі, тады-сяды, ляскаючы на карэнні, цягнулася доўгая, з ручным жалезным тормазам, нямецкая фура, запрэжаная ў пару шыраказадых бельгійскіх коней. Пускаючы смуродлівы сіні дымок, лапаталі матацыклы з люлькамі, у якіх трасліся немцы ў вузкіх, як гарнушкі, і напушчаных на вушы сталёвых касках.

Там, у маёнтку, жыла варта — чыстыя, падстрыжаныя пад кароткую «польку» салдаты, ад якіх заўсёды пахла танным адэкалонам і цыгарэтным дымам, калі яны прыходзілі сюды да калючага, туга і густа нацягнутага на высокіх слупах, сіваватага дроту, за якім, як мурашкі перад холадам, збіўшыся ў купу, кіпелі палонныя польскія салдаты. Іх тысяч пяць, прыгналі сюды з тыдзень назад, адзетых як стой — найбольш у палявых лёгкіх мундзірах, а то нават у споднім замурзаным кашулі і босых. Толькі ў тагосяго вісеў на пашках доўгі, ледзьве не па самыя пяты, жаўтлява-зеленаваты, як падсушаны мох, з шырокімі кляпамі кавалерыйскі шынель.

Сёння палонным нарэшце дазволілі ўставаць: покуль рабілі загарадзь, яны мусілі сядзець, збіўшыся ў купу каля разложыстае калючае дзічкі, што ўкаранела на запушчаным замежку. Трамбаваў гэтую купу вусаты рыжы вахмістр, абыходзячы круга яе і б'ючы палонных у спіну жалезнаю падкоўкаю абцаса. Палоннаму дазвалялі толькі збегаць да глыбокага, выкапанага замест туалета рова. Але хадзіць туды ўжо не было чым. Хіба толькі крывёю. Тойсёй, ужо знясілены голадам, зваліўшыся ў яму, даходзіў там, просячы яшчэ ратунку:

— Калега, падай руку. Калега...

Але кожны ўжо паравіў скарэй адысці ад ямы, каб, ратуючы нябогу, не ўсунуцца самому.

Увесь гэты тыдзень палонных ніхто не карміў. Ад голаду ратавалі хіба толькі сырыя ружаватыя картоплі, выкапаныя з зямлі са збузаваных і стаптаных барознаў, каб, абчысціўшы з іх маладую слізкую скурку, з'есці сырымі: дроў, раскласці агонь, вядома, не было. Ды пра які агонь хто яшчэ дбаў у цесна збітай купе людзей, што сядзелі па

кукішках, адзін да аднаго спіною, наўкруг разгалістае ўкаранелае дзікае грушы.

Думалі пра другое, найбольш пра той смачны пах нямецкага фасолевага супу, падтоўчанага мясам і падсмуроджанага перцам з лаўровым лісцікам, які перагонамі пацягвала з маёнтка перад самым полуднем,— там стаяла нямецкая кухня. Ад яе густога паху ў згаладалых людзей пачыналі балець нейкім цягучым пустым болем жываты, пераварочваліся і вуркаталі кішкі, пад горла гнала кіслую асцу. Варушачы перасмяглымі губамі, салдаты глыталі цягучую даўкую сліну і пачыналі выграбаць тут у барознах сырыя картоплі.

— Швабы, пся крэў, яны задушаць нас гэтым смуродам,— хто-небудзь пачынаў лаяцца, каб як адагнаць ад сябе глыбокі нясцерпны голад.

— А што, брат, аблізваешся? — рагатаў даўганосы, нацягваючы на лоб прастрочаны радкамі нітак, загнуты брыль рагатыўкі.

— Яко там супа — стаганы ў ім плаваюць, як бога кохам [1].

— А, нябось, не адмовіўся б.

— Няхай іх д'яблы возьмуць, каб я еў. Помню, курва іх маць, як дома, прыйдзем з ворыва, а на стале стос грэцкіх аладак. Ды яшчэ з лоем — во, брат, яда.

— Ды сціхні ты, бо зараз!..

— Пацалуй мне веш дзе?

Салдаты сціхалі, потым нехта ізноў пачынаў, толькі пра другое.

— Кіснемы тутай, нават у карты не можна заграць [2].

Літавар слухаў салдацкую гаману, і яго разбірала яшчэ большая злосць — да голаду дамешвалася нейкая цягучая і нязносная, нервовая смага закурыць. Яшчэ пазаўчора ў яго выйшла астатняя пляскатая і напалавіну высыпаная махорачная папяроса. Ён вытрусіў з кішэні перамешаную з сівым накачаным ворсам шчопаць тытуню, але курыць гэтую смярдзючую пацяруху ўжо не мог — прыйшлося прасіць у іншых, каб пакінулі пацягнуць хоць пару разоў чужы раз'еханы ды размоклы ад сліны канчар. І ён разам з іншымі капашыўся пад дзікаю грушай, што расла тут сярод картаплянага поля з ужо абабітымі і аб'едзены-

---

[1] — Які там слуп — макрыцы ў ім плаваюць, дальбог *(польск.)*.

[2] — Кіснем тут, нават у карты нельга згуляць *(польск.)*.

мі грушкамі, выбіраючы з пажоўклае травы на замежку счарнелае апалае лісце. Яго нямоцны прэсны і нейкі гаркаваты дым, здаецца, трохі перабіваў нясцерпную прагнасць закурыць і адганяў голад.

Гэты голад Літавар учуў нават на першы дзень вайны, падбегшы з кацялком да палявое кухні. З катла пахла «грохувкай» — разваранным гарохавым супам. У Літавара ад салодкага болю зайшоўся жывот, і ён пачаў глытаць даўкую сліну, учуўшы цёплы і смачны пах з катла. Перад ім асталося не больш як трое салдатаў, калі нечаканы і трохі пісклявы голас паручніка адагнаў іх ад кухні:

— Крый сень![1]

Убачыўшы, як адбегся і лёг між купешак тоўсты, у белым каўпаку кухар, бразгаючы пустым кацялком, Літавар адскочыў у заглушаны чарадою і плыценькай крынічкай меліярацыйны роў.

Вечарам, напярэдадні вайны, іхні трэці батальён 79-га слонімскага пяхотнага палка з бункераў і траншэяў выслалі сюды, у куп'істае, але ўжо высушанае гарачым спякотным летам балота, на стык з 78-м баранавіцкім палком, што затаіўся за невялічкай, абсаджанай густымі кустамі лазы жаўтлявацю тарфяною рэчкай. Траншэяў і акопаў тут ніхто не капаў — той-сёй толькі нарэзаў лапаткаю і накідаў на абрывісты бераг тарфянога тлустага дзярна, клаў на гэтае дзярно карабін, прымяркоўваючыся, як будзе страляць у далёкія, засіненыя, як вада з малаком, смугою грудкі — там, за вёрст пятнаццаць адсюль, была нямецкая граніца.

Як ад цяжкай градавой хмары, адтуль, здаецца, дыхала трывогай. Там пасля заходу сонца крывяной палахлівай чырванню гарэла і доўга не стухала неба.

І калі Літавар узіраўся на яго, душу неўспадзеў працінаў лядовы холад.

Гэты холад Літавар учуў і тады, калі ўпаў пад навіслы з белаватымі, што віселі, як жмут валасні, карэньчыкамі тарфяны бераг. Там ужо соп, падграбаючыся далей і стараючыся зашпіліць пад барадою раменьчык каскі, чарнявы, як цыганчук, з гарбаватым носам Валодзя Жывакост — украінец недзе з-пад Станіслававa. Здружыліся яны з Літаварам, радуючыся, што хоць ёсць з кім пагаварыць, калі іх гналі сюды ўчарашняй ноччу. Жывакост усё пытаўся: «Куды нас гоняць? Я ж нічога яшчэ на свеце не

[1] — Хавайся! *(польск.)*

бачыў. Заб'юць, як барана. Але калі цябе раніць — выратую».

Цяпер, стрымгалоў падаючы ў тарфяны роў, Літавар успомніў гэтае абяцанае Жывакостам — «выратую». Аднекуль з-пад граніцы скоранька блізіўся і шырэў, засланяючы ўсё неба, цяжкі — з парывамі — звінючы гуд. Раптам да яго дамяшаўся тупаваты, як грукат картопель у глыбокі пограб, стук кулямётаў. Ціснучы голаў пад сыпкі смярдзючы тарфяны бераг, Літавар краем вока змеціў, як невысока над ровам цёмным распластаным ценем мільганулі так блізенька і першы раз убачаныя нямецкія самалёты, панёсшы з сабою гэты нечаканы і раптоўны гуд. Падымаючы рудаваты тарфяны пыл, нешта адначасна секла па канаве, аддаляючыся ўслед за імі. І покуль Літавар паспеў дагадацца, ён убачыў, як каля яго выпусціў з рук кацялок, разліваючы сабе на калені жоўты гарохавы суп і аб'язджаючы набок, дробненькі маладзенькі салдат з іхняй роты Казік Міткусь.

Нешта заенчыў і папоўз сюды да Літавара, набіраючы на сябе чэпкую луску нераспелай чарады, гарбаносы Валодзя Жывакост.

— Ты не ранены? Не? — задыхаўся ён.

Літавар, нават яшчэ не верачы, прыслухаўся да сябе і засмяяўся ад нейкай звар'яцелай радасці, учуўшы, што яму нічога не баліць, што ён жывы ды здаровы.

— Здэцца, не.

Мінуўшы Літавара, Жывакост падпоўз да Міткуся, падняў яго голаў — і Літавар раптам убачыў зялёпыя, ужо нерухомыя ашклянелыя Міткусёвы вочы.

— Ён ужо ўсё, яго напавал. Якраз недзе ў сэрца.

Жывакост азірнуўся і махнуў рукою, мусіць, згледзеўшы санітара.

Прытрымліваючы адною рукою напакаваную сумку з чырвоным крыжыкам, па плыткай, зацягнутай смугою сіняватай плеўкі, крынічцы да іх ужо плюхаў задыханы санітар.

Самалёты, зрабіўшы круг, варочаліся назад — мацнеў і нізка слаўся над зямлёю ядавіты гуд. Ён, здаецца, прашінаў дрыгатлівым страхам сэрца.

— Яны, пэўна, нас тут усіх,— зашаптаў Жывакост, цярэбячы са свайго шыняля шчоткаю начапляную чараду.— Бачыш, у іх арапланы, а ў нас што? А крычалі: «Ні аднэго гузіка не аддамы!» Да якіх тут гузікаў, тут глядзі галавы. Але калі цябе раняць — не бойся, выратую.

Спярша з вострым свістам, потым ужо з віхраватым гудам, аж усё прылягала да зямлі, імкліва праплыў цёмна-зялёны, як шчупак у вадзе, нямецкі самалёт.

Нешта злое было ў яго натужным чмяліным гудзе. Прыціскаючыся да берага, Літавар згледзеў на яго гарбатым тулаве, крышку бліжай да хваста, чорна-белы крыж. І раптам зноў бесперабойна і тупавата застукаў кулямёт, але шапаткога граду куль ужо не было чуваць — яны секлі, мусіць, там, дзе была кухня, дзе страшна заіржаў ранены ці спуджаны конь.

Самалёты ішлі далей — пэўна, на Млаву, дзе ў бункерах і траншэях сядзелі тылы іхняй 20-й баранавіцкай дывізіі з батальёнамі «аброны нарадовай», заступіўшы немцам шашу. Там ужо грымела кананада.

— Ты не бойсая, мы не згінем,— услухаўшыся ў гэтыя далёкія і цяжкія, як грукат акованых дзвярэй, гарматныя выбухі, раптам загаварыў Жывакост.— Я табе памерці не дам. Калі не паложыць на смерць, а толькі раніць, я выратую. Мой бацька — фельчар. Я тое-сёе таксама ўмею, прыдбаў.

І праўда, ужо праз гадзіну пасля страшнага атрылерыйскага абстрэлу, калі руды гаркаваты торф змяшаўся з смуродлівым пахам трацілу і яны, разгубленыя, перапалоханыя польскія салдаты, пад нейчы звар'яцелы крык «Газы!» пачалі скоранька надзяваць маскі, калі, нарэшце апомніўшыся і ўбачыўшы на далёкім грудку шэры, рассыпаны ланцуг немцаў, неспадзявана для саміх сябе падняліся ў атаку, калі Літавар, разам з усім сваім нялёгкім рыштункам, што быў за плячыма, блытаючыся каленьмі ў шынялі і захлынаючыся ад ветру, пабег уздоўж лазовых кусцікаў па куп'істым балоце, яго зноў абнадзеіў блізкі Жывакостаў голас:

— Не бойся, калі раніць, я выратую...

Але беглі яны па гэтым рудаватым падсушаным балотцы нядоўга. Адтуль, з грудка, падпусціўшы іхні батальён бліжэй, нейкай раз'юшанай гарачынёю застукалі нямецкія кулямёты. І польскія салдаты, нібы спаткнуўшыся на гэтыя ў шорсткай, як плашчуга, і дзікаватай траве купіны, пачалі знянацку падаць.

Літавар, спяшаючыся за Жывакостам і чуючы адкрытым ротам густы пахучы вецер, быдта зачапіўся плячом за нязгледжаную сукаватую лапку, здагадаўся, што гэта, мусіць, куля. На бягу памацаў плячо — шынель быў разарваны, нібы яго прасла мыш. Яму зрабілася горача, і

пачало сушыць у роце. І ён з перапуду ўжо перасмяглым, хрыпаватым голасам крыкнуў удагон Жывакосту, што, падтрасаючы квадратны пляцак, бег, трохі выперадзіўшы яго:

— Валодзя! Валодзя!

Жывакост спыніўся і, неяк нават паяснеўшы ў твары, трывожна-радасна спытаў:

— Ты ранены?

Літавар, чуючы, як ные і шчыміць ад гарачага болю плячо, на ўсякі выпадак упаў між высокіх у збэрсаных грывах рудаватай травы купешак. Бачыў, як заспяшаў сюды, на хаду расшпільваючы ў пляцаку спрожкі, каб скінуць яго з плячэй — там ён, пэўна, хаваў сваё патаемнае лякарства,— Валодзя Жывакост і нечакана, нібыта зачапіўшыся за купешку, паляцеў тварам у высокі пучок зрудзелай конскай цыбулі. З чорнае, стрыжанае пад кароценькую «польку» галавы ў яго звалілася, мусіць, не зашпіленая пад барадою, і пакацілася, робячы круг і заварочваючы назад, зеленкаватая, пад колер чэзлай травы, каска.

Літавар, халадзеючы ад страху, што ён астанецца адзін і ніхто ўжо не ўратуе яго на гэтым рудым, перакопаным меліярацыйнымі канавамі перасохлым балоце, па якім усё б'юць нямецкія кулямёты, косячы, як на роўным стале, іхні трэці батальён, падпоўз да пучка конскае цыбулі, дзе носам уткнуўся Жывакост, неяк няёмка падвярнуўшы назад адну руку, другая, пэўна, з гарачкі, яшчэ растапыранымі пальцамі то сціскала, то адпускала карычняватае, з раўком, ложа карабіна.

І раптам Жывакост, падграбаючы пад сябе калені і ўпіраючыся галавою ў растапыраны пучок конскае цыбулі, пачаў падымацца, але не здужаў і перавярнуўся на бок: каля вуха з круглае, як прабітае швайкаю, раны высачылася і пацякла на шчаку крывою рагаю цёмна-чырвоная кроў. Вочы яго, зашэрхлыя нерухомым лёдам, глядзелі на Літавара, але ўжо нічога не бачылі.

— Санітар! Санітар! — закрычаў, прыпаднімаючыся, Літавар, але голас яго заглушыў чырвоны агонь, што бліснуў наперадзе і падняў сноп рудога торфу.

Раз'юшаным чмялём над Літаваравай галавою прасвістаў гарачы асколак. Запахла смярдзючым і сырым вывернутым балотам.

Немцы білі ўжо па гэтай зрудзелай ад няскошанай асакі балоцістай лагчыне з мінамётаў.

Падаючы між высокіх з палеглаю травою купешак і чуючы жывы холад зямлі, Літавар успомніў пра лапатку і тое, што надоечы гаварыў ім трапятлівы, але, зрэшты, і не злы падпалкоўнік Забароўскі, калі іхні полк перакідвалі сюды на гэтыя Млаўскія балоты: «Жолнежэ! Кохайце лапаткі!» [1]

У гарачцы, не чуючы болю ў плячы, пачаў шукаць і расшпільваць ад паска вастрадзюбую лапатку.

Мо яна выратавала яго, калі ён, выкапаўшы між куп'я неглыбокую ямку, уткнуўся сюды галавою, пасля кожнага блізкага глухога выбуху міны чакаючы смерці. Колькі ляжаў, стараючыся як найглыбей урыцца, уціснуцца ў гэты руды торф, ён не помніць. Помніць толькі, як блізенька застагнаў і раптам падняўся і пабег проста на Літавара, мусіць, звар'яцеўшы ад раны, ад страху, што памрэ, маладзенькі, даўганосы, як дзяцел, салдат. «Лажыся!» — крыкнуў ашалелы ад боязі Літавар, але ўчуць яго ды ўпасці даўганосы салдат не паспеў — недзе блізенька, ажно Літавар сцяўся ўвесь і заплюшчыўся, гупнула міна. Адкрыў вочы і зноў жахнуўся ад страху, ледзьве ўжо не вар'яцеючы сам,— у салдата, як ссечаны вострым нажом качан капусты, з плячэй з'ехала і ўпала, плюхаючы крывёю, галава, а салдат яшчэ бег, свецячы чырвоным каратышом шыі. З яе таксама свістала гарачая неастылая кроў, абліваючы шынель, покуль не падагнуліся ногі і тулава не ўпала, спярша на калені, і мякка — ужо на грудзі.

Здранцвеўшы ад страху, Літавар пачаў рукамі грабці пад сябе крохкі смярдзючы торф, каб схавацца, уціснуцца глыбей у зямлю, але нечаканы грукат, што закладваў вушы і раздзіраў жыўцом сэрца, пачаў радзець, покуль зусім не перасціх.

І ад гэтае неспадзяванае цішы нудна звінела ў вушах. Толькі недзе блізка, нібы на выгодзе і ў зацішку, чахкаў конік і ціха плыў асотавы пух. Не верачы цішыні, у Літавара яшчэ ўсё сціналася і ныла ад тупаватага млоснага болю трапяткое перапуджанае сэрца, чакала зноў грукату, страху, смерці.

І яны, польскія салдаты, кінуўшы забітых на гэтым здратаваным, перарытым мінамі балоце, з ямкамі і кучамі чорнага торфу, пачалі адпаўзаць назад у меліярацыйныя равы, з гарачкі і смагі п'ючы смярдзючую, у тлустых

---

[1] Салдаты! Любіце лапаты! *(польск.)*

скалках руды, ваду і абмываючы мурзатыя, аблітыя рагамі поту твары. І каля іх забегаў зноў пізенькі збялелы паручнік, суцяшаючы, што прыйдзе падмацаванне, што трэба выстаяць, хоць да ночы, а назаўтра іх зменяць і яны пойдуць у тыл.

Але падмацавання не было. Пасля полудня неспадзявана нешта загуло зноў, але не ўгары, а недзе нізка за сінім хвойнікам. Там слаўся, шырачыся і наплываючы, як градавая хмара, цяжкі з перабоямі вуркат. Ад яго аж дрыжала ўсё ўсярэдзіне. Ён пагрозліва мацнеў і няўмольна блізіўся і, здаецца, пачаў угінаць зямлю. Мроівам дрыжала і нібыта пакалыхвалася там за сінім ляском чыстае і сіняе да болю ў вачах асенняе неба. Пасля рэдзенькага туману зранку млеў пагодны дзень, мякчэла, схіліўшыся на вечар, сухое сонца, шархацелі празрыстымі крыльцамі жаўтлявыя стракозы, і, нібыта сослепу, віліся, не ведаючы, дзе сесці, салатавыя матылькі, а ад гэтага страхотлівага невядомага грукату цямнеў свет. І Літавара зноў пачынаў калаціць страх, дрыжалі, як ад вялікай натруджанай работы, рукі, і аблівалася гарачынёю, лекацела сэрца.

А гэтая невідушчая хмара нізкага грукату шырылася, расла і мацнела, абдымаючы, здаецца, усё кругом.

За цёмна-зялёным ляском на грудзях пачаў падымацца, мяшаючыся з сінім небам, сівы пыл — там у абход балота, зжынаючы, здаецца, сваім грукатам усё на дарозе, ішлі танкі.

Не вытрываўшы, мусіць, іхняга грукату, праз рэчку, што зарасла абапал крушынаю і нізкаю жаўтлява-карычневаю лазою, пачалі перабягаць перапалоханыя салдаты з першага батальёна, хлюпаючы мокрымі чаравікамі і несучы на насілках збялелага, з прастрэленым жыватом капітана.

Тады яшчэ большы страх працяў, ахапіў усіх, абліваючы нейкім пякучым холадам сэрца. Усе пачалі ўслухвацца ў блізкі, што поўз за маладым хвойнікам, натужлівы з глухім вуркатаннем і лязгатам ненавісны грукат, раптам дагадваючыся, што танкі перарэжуць дарогу, не дадуць нават адступіць, акружыўшы ў гэтым парэзаным меліярацыйнымі равамі і зрытым, як дзікімі свіньмі, мінымі ўзрывамі голым балоце, што ўсіх, хто астаўся жыць, чакае страшная невядомая пагібель.

І яны, збіўшыся ў купку, як перапалоханыя куранята, што згубілі квактуху, сядзелі да вечара, на сходзе дня

ўчуўшы і распазнаўшы далёкае і ўжо глухавата-нязлоснае бухканне гарматаў — фронт недзе даўно мінуў іх. На шараку, калі стухла зеленаватае неба, пакінуўшы толькі ліловую палосу, яны назіркам рушылі з гэтага балота і, выходзячы палявою дарогаю на шашу, каля нейкае вёсачкі наткнуліся на скрыгатлівы абоз, і нехта, ашалелы ад радасці, кінуўся да цёмных нераспазнаных будаў, і адтуль нечакана пачуўся гергатлівы і першы раз чуты, неразборлівы для Літавара нямецкі крык, і застракаталі, бліскаючы сполахамі едкага чырванаватага агню, кулямёты, і яны, польскія недабітыя салдаты, кінуліся назад у поле. У Літавара пад нагамі спярша зашахкала незааранае ржышча, што раптам змянілася мяккаю, у якой глыбока гразлі ногі, вільготнаю раллёю, потым засцёбаў па каленях сухі картаплянік, і Літавар пачаў спатыкацца на высокіх градусах і, ужо задыханы наўнэт, самлела, як нежывы, ляпнуўся ў неглыбокую разору, пакутна зайздросцячы нявядомаму салдату, што цяжка сапучы і шалпочучы картаплянікам, бег далей. А адтуль з шашы, раскалыхваючы ціш вечара і прашываючы поцемак, бухалі стрэлы, і лапаталі скоранькімі сполахамі агню аўтаматы, і стаяў гергатлівы крык.

Па доўгай і, здаецца, бясконцай разоры падсохлага, шапаткога і смярдзючага картапляніку, цягнучы за рулю карабін, Літавар выпаўз зноў на нейкую абгароджаную жардзяною загарадкай дарогу, толькі цяпер падумаўшы, што ўцякаў па-дурному, што яго маглі падстрэліць, як зайца.

Аднак, калі на шашы сціх гергатлівы крык і недзе прапалі, растаўшы ўпоцемку ночы, свае, Літавар учуў раптоўны страх адзіноты, няпэўнасці, затоеную боязь, што згіне ў гэтым чужым цёмным полі, і ў нейкай гарачцы зноў пайшоў подбегам, спатыкаючыся ў разорах, мяккім полем і мінаючы чорную, злітую ў адну палосу вёску, дзе спыніліся на начлег немцы і над якою цяпер ціха-глуха выкочваўся позні чырвоны месяц, хаваючыся за цёмнаю сцяною купчастых дрэў. Гэта былі бярэзіны, што сціпсным смуткам навіслі над шашою, і за імі хавалася і яснела, падымаючыся вышай, поўня.

Ад яе чырвані, як ад пажару, кралася ў сэрца насцярожлівая трывога. І сухім сполахам пад нагамі шастала чорная, пядаўна, мусіць, скошаная канюшына.

З-пад ног у Літавара пырхнулі і, адчайна-палахліва цвіркнуўшы, згінулі ў нізкім поцемку два разбуджаныя жаваранкі. Іх тут было чамусьці шмат, і Літавар кожны раз уздрыгваў, знянацку надышоўшы на іхні спуджаны пырхат, прыпыняўся і зноў шыбаваў далей, не адыходзячыся далёка ад шашы, каб не збіцца з тропу. Вузенькая, выбрукаваная і абсаджаная абапал бярэзнікам шаша, як ведаў Літавар, вяла недзе на поўдзень, на Варшаву.

За чуйна-абвіслымі вяршкамі бярэзін ужо каціўся, паменшаўшы, жоўта-залацісты месяц, церушыў на немае поле рэдзенькую парахню яснасці, і пашырэла, заліўшыся дробным пылам сіняватага святла, асенняя насцярожаная ноч.

Шаша, цьмяна заблішчаўшы ад месяца гладкім, выезджаным брукам, падымалася на грудок, дзе густа чарнеў клін лесу.

Не ведаючы, якую даць сабе раду — мінаць гэты лес, але згубіць шашу ці скіравацць на яе, каб часам дзе насунуцца на немцаў,— Літавар усё ж такі адважыўся выйсці на яе і наўпрасты, блытаючыся ў пераспелай, нявырванай грэчцы, што абдала яго гаркавата-прэсным пахам сырога сцябла, выйшаў да глыбокае канавы. Прыслухаўся і, не счуўшы нічога падазронага, слізгаючыся на роснай траве, падняўся на палогі насып.

Лёгшы ўпоперак, як зрэзаныя дрэвы, вузкую шашу заваліў цень ад калматых хвоек, порсткая мігатлівая цемната варушылася пад навіссю дрэў. Уцікоўваючыся ў гэтую шапаткую цемнату і чуючы на сабе, як вастрыё нажа, нейчыя вочы, Літавар сціснуў вагкі настылы карабін і прыспешыў хаду.

Неўзабаве ўчуўшы наперадзе востры, раструшчаны, што аддаваўся водклікам у сцішаным чорным лесе, ляскат колаў, ён з радасцю, што гэта, можа, свае, пачаў наганяць фурманку, убачыўшы ў стракатых палосах сіняватай месячнай яснасці на завароце шашы каня — ён цягнуў кароткі, на двух колах, вазок. Фурмана, здаецца, не было відаць — конь ішоў адзін, быдта ведаючы дарогу. Але, учуўшы за сабою Літавара, раптам павярнуў галаў, дробна заіржаў і спыніўся — ён, мусіць, быў няпоены і хацеў вады.

І ад гэтага дробнага ржання, у якім была і пакорлівая просьба, і радасць спаткання, у Літавара з грудзей зваліўся той нечаканы страх, што гнаў яго ўвесь час, знайшлася адвага, і ён, спагадліва ўсміхаючыся і радуючыся, як малое

дзіця, забыўшыся, што можа ізноў насунуцца на немцаў, падбег да фурманкі.

Конь пакасіў вялікім бліснучастым ад месяца вокам і, азіраючы Літавара, цяжка ўздыхнуў. Ад яго змакрэлай спіны пахла едкім гарачым потам, на цуглях, за якімі валокся, невядома як не ўкруціўшыся ў кола, кавалак адарванай лейчыны, стыла белая пена. Спуджаны стралянінай ці грукатам танкаў, ён, сарваўшыся з прывязі і наганяючы пэўна, калаццё ў баках, невядома колькі бег, шалеючы ад вялікага страху ў вачах.

Загнаўшы сябе да змору, конь хрыпата і глыбока раз за разам дыхаў, раздзімаліся круглыя бакі, а ў пакатым воку, скошаным на Літавара, слязіліся пакорлівае спадзяванне і надзея. Натапырваючы прыветліва вушы, ён заіржаў зноў.

Літавар паляпаў яго па спацелай шыі, чуючы цёплую радасць у грудзях, што ён не адзін у гэтым глухім, сцішным хвойніку, над якім, бачачы ўсё, што робіцца на зямлі, маўкліва і абыякава да чалавечага лёсу цадзіў сінявае святло белы месяц і калюча мігцелі, усыпаючы ўсё неба, дробныя зоркі. Цяпер ад усяго невядомага і страшнага, што затаілася і падпільноўвала ў калматым поцемку, ратаваў гэты задыханы, загнаны вайною і страхам вайсковы конь, запрэжаны ў двухколку.

Яна была накрыта брызентам. Літавар з трапятлівай і ўжо нечаканай прагавітай радасцю падскочыў да яе, адшпіліў папружкі і, адкінуўшы брызент, учуў задушлівы пах ёду і камфары. У скрыні, папраўдзе, былі кардонныя каробкі з лякарствам, папяровыя скруткі ваты і бінту, але далей у самым куту рука намацала адзежу.

Літавар выцягнуў яе і, разгортваючы пры рэдзенькай месячнай яснасці, пазнаў афіцэрскі шынель. Ад яго таксама дыхнула церпка-валяр'янавым настоем лякарства. Папярхнуўшыся ад задушлівага паху, Літавар хацеў шпурнуць назад у скрыню гэты кінуты вайсковым доктарам шынель, але раптоўная хцівасць узяла верх, і ён, павесіўшы яго на левую руку, зноў перавалыўся ў скрыню, пачаў абмацваць кардонныя каробкі з лякарствам, так нічога больш і не знайшоўшы там.

Яшчэ раз азірнуўшыся кругом сябе, ці нікога няма, як злодзей, чуючы дрыготлівы страх, падбег да каня, рассупоніў хамут і вышчаміў з гужоў аглоблі. Яго ўжо распальвала гарачая здагадка, што з канём ён не згіне: паганіць сваіх або выменяе яго ў блізкай вёсцы на цывільную адзе-

жу. А хто вельмі разбярэцца ды пазнае ў пераадзетым, што ён салдат. Тады можна будзе напытваць дарогу дадому. Кінуўшы на двухколку свой і надзеўшы цеснаваты ў плячах афіцэрскі шынель, Літавар распрог каня і, хваціўшыся абедзвюма рукамі за каротка падстрыжаную грыву, сеў на слізкую спацелую спіну і прышпорыў яго акутымі абцасамі чаравікаў. Ад шыбкае хады ў змучанага каня нудна заёкала каса. Востры, нібы малатка па кульцы, цюкат падкоў затахкаў, прашываючы спуджаную цішлесу. Шаша рабіла заварот, падымаючыся на пакатыя, зарослыя, мусіць, грабнікам і гарэшнікам груды, і, выбіўшыся з цемнаты лесу, пачала спадаць у лагчыну, да чарады алешніку, дзе нечаканаю пятлёю бліснула, адсвечваючы разарванае месячнае святло, вузкая рэчка. На шашы чарнелі недагараныя драўляныя цярылы, а з вады тырчалі іклы круглых паляў.

Літавар з'ехаў [redacted] высокае пічарбатае грэблі шашы да трапятліва-быстрай рэчачкі, дзе плаваў разарваны на мігатлівыя асколкі месяц. Конь, тыцнуўшыся пысаю ў мігатлівае сляпучае золата, пачаў з прысмокам піць ваду, стараючыся здаволіць сваю прагу, але Літавар турзануў да сябе звязаны [redacted] ляйчын повад, каб не апаіць разгарачанага каня. Ён нават на якую хвілю забыўся пра вайну, пра свой нядаўні страх, глухую адзіноту ў гэтым трывожным свеце, неўспадзеў спомніўшы Верасава, рэчачку пад старымі смутнымі вербамі, пару маленства, калі ён, вар'яцеючы ад радасці, прыводзіў паіць туды сваю невялічкую чорную кабылку Мушку і яна, напіўшыся і яшчэ пасопшы ў рэчцы, фыркаючы, выходзіла на цёплы і мякенькі, як пытляваны, пясок дарогі, кленчыла на пярэднія ногі, падала на спіну, трапечучы заднімі нагамі, пераварочвалася на другі бок і, устаўшы, доўга атрасалася ад пяску, звонячы цуглямі.

Але гэтую кароткую і залаціста-ружаватую, як маланка, радасць неўпапад затушыў нейчы злы нечаканы голас:

— Стой, ані кроку далей!

І Літавар знямеў, убачыўшы, як з высокае шашы, адтуль, дзе цямнела старая з выпаленым камлём зламаная вярба, на якой раскінула шырокую лапу адна галіна і густым пучком падняліся пасынкі, заварушыўся калматы цень. Звонячы падкоўкамі чаравікаў і трымаючы нагатове вінтоўку, сюды бег цыбаты высокі салдат у караткаватым шынялі.

Упэўніўшыся, што гэта не немец, і распазнаючы арла

на рагатай фуражцы, Літавар усё роўна скалануўся ад неспадзяванасці і халодна-казытлівага страху.

— Хто такі? З якога палка? — трымаючы наперавес карабін, спытаў салдат, прыпыніўшыся над абрывам шашы.

— Свой,— пасмялеў Літавар, турзаючы за повад каня і адрываючы яго ад вады.— Шараговы[1] 79-га слонімскага пяхотнага палка, 20-й баранавіцкай дывізіі.

— Выязджай сюды! Што стаіш? Дакументы,— зноў сказаў салдат, з-за шашы падняліся і беглі сюды яшчэ трое, і сярод іх, як пазнаў Літавар па шчытных, з высокімі халявамі ботах, спяшаў невысокі, з крывуватымі нагамі афіцэр.

Літавар наўскос па крутым адхоне падняўся на шашу і, скочыўшы з каня, зажмурыўся ад сляпучага бляску ліхтарыка — у вочы яму свяціў афіцэр.

— Куды едзеш? — не спытаў, а ўжо крыкнуў афіцэр, свецячы на Літаваравы пагоны і, мусіць, шалеючы ад здзіўлення, што гэта ніякі не шараговы.

У Літавара на спіне мурашкамі заказытаўся страх і падымалі рагатыўку валасы — у слупку святла дрыжала, нацэленая на яго, сінявата-кароткая руля пісталета.

— Дадому іду,— Літавар ледзьве паварушыў сухім, што ліп да нёба, языком.

— Калегі, шпег ён! Бачыце ў яго афіцэрскі шынель? Ён страляе польскіх афіцэраў! — закрычаў раптам звар'яцелым голасам афіцэр і адскочыўся ад Літавара.

Аслепшы ад гэтага пякучага ліхтарыка і ўжо нічога не бачачы, Літавар учуў, як у яго млеюць і падгінаюцца ногі.

— Што вы, я свой, я з 79-га палка,— спяшаючыся, загаварыў Літавар у гэты чорны, што стаяў за святлом ліхтарыка, поцемак.

— А дзе ўзяў шынель? — хрыплаватым, як заспаным, і надта ўжо спакойным голасам спытаў нехта з тых двух салдат.

— Я знайшоў, вунь у лесе, у вазку быў.

— Ён страляў польскіх афіцэраў. Сяржант, ромбнонць го і ідземы далей![2] — зноў тым самым дрыготкім сарваным голасам крыкнуў афіцэр.

Літавар не помніць нават, калі адабралі ў яго гэты афіцэрскі шынель, што было далей, помніць адно, як руляй

---

[1] Шараговы — радавы *(польск.)*.
[2] Сяржант, кокнуць яго, і пойдзем далей! *(польск.)*

карабіна моцна штырханулі ў лапатку, як скоранька пагналі ўздоўж рэчачкі па слізкай і роснай няскошанай атаве, усё прыгаворваючы:

— Ідзі, ідзі. Я тут не вінаваты, я выконуе росказ поручніка [1].

І Літавар, чуючы за сабою марудны тупат чужых ног і, здаецца, пякучы холад настаўленага карабіна, што вось зараз прастрэліць яго навылёт, ірвануў ужо з усіх астатніх сіл у цёмныя, залітыя месячным святлом кусты алешніку. Заблытаўся ў вялікай па пахі і горкай траве і, звар'яцелы ад страху, падумаў, што ўжо не ўцячэ. Аб'ехаў на колінкі і, няпомнячыся, стаў прадзірацца праз росную шорсткую траву да рэчачкі, нечакана шабултыхнуўшы ў халодную ваду і быдта апрытомнеўшы. Выскачыўшы з рэчачкі на другі бераг і зацвякаўшы цяжкімі, поўнымі вады, чаравікамі, чуў, як моцны і кароткіляскат стрэлу скалыхнуў сінякаватую месячную ноч. Недзе далёка, адкаціўшыся ад сцяны лесу, адгукнулася рэха.

Літавар праскочыў прагал нізкага алешніку і стаіўся за разложыстым кустом лазы. Не дыхаючы, слухаў, што робіцца на другі бок рэчачкі,— там цяжка гупалі ногі і соп, як кавальскі мех, задыханы салдат.

— Пачакай! Не бойся. Страляць не буду.

Літавар сцяўся ўвесь і захлынуўся ад соннага булькату пад карчом крынічнай рэчкі і шорагу па ацяжэлай, аброшанай мятліцы чужых ног; салдат шукаў яго. І неўспадзеў густа і палахліва зашалясцеў куст алешніку, заплюхала і зазвінела вада. Надзеўшы на плячо карабін, у рэчцы боўтаўся, падымаючы па-бабску полы шыняля, салдат. Марудна брыў якраз сюды, на лазовы куст.

Чуткім перапуджаным зайцам Літавар замёр тут на росным беразе пад лазовым кустом, раптам набраўшыся адвагі кінуцца з берага на салдата, збіць яго з ног, зваліць у рэчку, бо ўцякаць ужо, калі салдат пачне страляць, будзе куды горш.

Але салдат як счуў, што думае Літавар, і для ўсякае перасцярогі, здушаным, каб не было вельмі чуваць, голасам загаварыў зноў:

— Не хавайся, чуеш. Я сам уцякаю ад таго паручніка. Нех жэ го д'яблі вэзмон[2]. Ён звар'яцеў.

Літавар не ведаў — верыць ці не. І на выпадак чаго

---

[1] Я выконваю загад паручніка *(польск.)*.

[2] Няхай жа яго д'яблы забяруць *(польск.)*.

туліўся за аброшаны, што пах гаркаватым лісцем, лазовы куст.

— Ён, мусіць, кантужаны, ці што,— вылазячы на бераг і задыхаючыся, гаварыў салдат.— Ён чуць не пастраляў нас. Гнаў назад. Мы тут падпальвалі мост. Я звечара падмеціў, што яму стрэліла ў лоб: шпіёны, шпіёны.— Чвякаючы мокрымі чаравікамі, салдат падыходзіў да куста, убачыўшы Літавара, спыніўся зводдаль, мусіць, яшчэ асцерагаючыся, расказваў:— Ты думаеш, што збіраўся цябе застрэліць? Не! Нема юж розказув. Конец. Сконьчылосе войско [1]. Адзін толькі гэты вар'ят будзе сядзець.

І потым, калі пайшлі разам подбегам уздоўж рэчачкі, каб адысціся ад шашы, ад гэтага кантужанага ці здурэлага паручніка, што мог сесці на каня ды дагнаць іх, салдат раптам прызнаўся:

— Браце, я ж убачыў адразу, які ты шпіён. Нават па носе відаць. Гэдакая дуля, як і ў паляка. А паручнік здурэў. Бывае, з велькага перапуду. Добра, што надарыўся ты. А так невядома, чым скончылася б. Ён пагнаў бы нас на чолгі. Але пес з ім!

Унурыўшыся і сапучы сабе ў нос, моўчкі чвякаў расквашанымі чаравікамі Літавар: думкі перабівала нейкая гарката — хто ведае, што напаткае яшчэ на гэтай дарозе і чым скончыцца ўсё.

Мармытліва точачыся ў вянку маладога алешніку, навіслых вербаў, што ўжо асыпалі мокрае ад расы і шалпатлівае ў галлі лісце, рэчка бегла недзе на поўдзень, дзе яснеў месяц. У прагале алешніку на вадзе, разыходзячыся кругамі, мігацеў-пераліваўся яго бляск.

З гразкіх, пазарастаных купамі лазы і крушыны балот сачыліся і ціха цурчэлі ў рэчку вузкія петлі крынічак. Над імі плаваў нізкі і ліловы, падсвечаны жоўтай яснасцю далёкага пажару волкі туман. Літавар, выкруціўшы на сабе трохі споднікі і чвякаючы раскіслымі ад вады ды ўжо і ад густое расы чаравікамі, сціпна плёўся за сяржантам, які ўсё гаварыў, нібы сам сабе, нібы Літавару:

— Не, мы пойдзем на Варшаву. Я знам тэ околіцэ, як власнэ кішэнь. Жэбы достаць які лахі. Нам толькі перадзецца. А адтуль ужо і табе дадому блізка.

Слухаючы яго, Літавар таксама забедаваў пра вайсковага каня і шынель, што кінуў каля моста, але гутарку яго перасек уядны сабачы брэх.

[1] Няма ўжо загадаў. Канец. Войска перастае быць войскам (*польск.*).

У садку, што падымаўся на грудок радкамі маладых купчастых яблынь, дзе ў чарнаце лісця яспелі бойныя яблыкі, каля будкі рваў ланцуг асіплы злы сабака.

На самым грудку, бліжай да пабеленай мураванкі, стаялі рамкавыя вуллі.

На гэты сабачы брэх у хаце рыпнулі дзверы. Счакаўшы, сюды ў садок выплыла чорная постаць, як потым распазналі — старая кабета.

Затуліўшыся за кусты і ўздрыгваючы ад нечакана-халодных, што пападалі за каўнер, кропель расы, Літавар з сяржантам чакалі, што будзе далей. Але кабета пагаварыла да сабакі, некага закляла і пасунулася зноў пад хату.

— Трэба яе дагнаць, спытаць, ці былі тут немцы,— раптам заварушыўся сяржант.

— Каб ведаў, што гэта за чалавек,— засумняваўся Літавар, напуджаны перадрагаю каля моста.

Зняўшы з пляча вінтоўку і трымаючы яе наперавес, сяржант зачвякаў мокрымі чаравікамі ўздоўж калючай загарадзі, спатыкаўся на разорах.

Падбіваючы злеглую ад расы траву, не спяшаючыся, падаўся за ім Літавар. Сабака, ірвучы ланцуг і пераціскаючы нашыйнікам горла, аж хроп ад злосці. Нейкім страхам кругом варушыўся поцемак, чырванеў і нік месяц.

Кабету яны нагналі аж за садком, каля самага гародчыка, што яснеў ад жоўтых, наваленых на плот вяргіняў.

Босая высакаватая з накінутай на галаў і плечы доўгай хусткай старая аж паслізнулася на роснай сцежцы, калі яе ціхенька аклікнуў Літавар. Адышоўшы крышку ад перапалоху і аглядаючы іх, мусіць, ужо слепаватымі вачмі, пасля прызналася:

— Цо мне впадло до гловы, гляджу на вас і думаю — немцы. Езус Марыя, немцы — думаю.

— Матко, а немцаў у вас нема? — перабіў яе божканне Літавар.

— Дзенькі богу, нема, не відзелі іх ешчэ,— старая падняла свой даўгавіды пануры твар, паказала туды на садок, дзе ў цёмным лісці свіціліся спелыя антоны.— На Дэмбек яны пайшлі. Учора там грымела. Свенты Езус. Цо бэндзе, то бэндзе? Няўжо на людзей упала боская кара?

Ад гэтае старое яны і дазналіся, калі ўжо сядзелі ў цеснай, з кіслым духам, кухні, дзе на століі гулі, прачнуўшыся, сонныя мухі, што ў вёсцы на другі бок рэчачкі, з паўвярсты адсюль, поўна польскага войска. Найбольш, кажуць, коннай артылерыі.

Сюды на кухню паказаўся і сам гаспадар — нясклалны высокі мужчына з чорнымі, як наклеенымі, пад навіслым носам вусікамі, што, пэўна, цікаваў за вайсковымі людзьмі з акна,— прынёсшы збан кіслага малака і паўбохана кменнага хлеба. У светлай палавіне хаты, завешанай ад кухні злінялай радзюжкай, не спала і маладзіца — чуваць была яе мармытлівая ў нос калыханка і грукат на няроўнай падлозе дзіцячага ложка з набітымі дужкамі.

Перабіўшы голад гэтым кменным хлебам з кіслым малаком, яны як забітыя і заснулі на шапаткім і пахучым, як чай, сене ў цёплым, што яшчэ не выдыхала спякоту дня, гумне, куды іх прывёў гэты нясклалны доўгі паляк з чорнымі вусікамі, кінуўшы яшчэ па радзюжцы і папрасіўшы, каб, крый бог, не курылі: «Панове, толькі не курыце. Ведаеце — гаспадарка... Толькі летась перабраўся на хутар, колькі кошту»,— топчучыся на току, пажаліўся ён.

— Божа, ратуй нашу айчыну. Яшчэ адзін дурань. Пся крэў!— не стрываў і вылаяўся сяржант, калі зачыніліся, забраўшы скупую месячную яснасць, дзверы гумна.

Пад яго зласлівае мармытанне Літавар і заснуў, прачнуўшыся ад раптоўнага грукату, ад якога дрыжала гумно. З перапуду ў садку за гумном выў навязаны сабака. Праз шчыліны ўжо прасачыліся косыя сонечныя слупкі, у якіх густа плаваў залацісты пыл, і круглымі люстэрачкамі наліплі на выпуклыя нямошчаныя дзеравіны гумна.

Боўтаючыся ў радзюжцы, Літавар услед за сяржантам з порсткага шапаткога сена ссунуўся на ток. Сяржант папхнуў дзверы, і вочы Літавару апаліла сляпучае нізкае сонца. Збоку ад яго ўгору вяла цягнуўся ружаваты падсвечаны дым: на грудку цераз балотца за зялёным навалам ліп і алешын гарэла вёсачка.

Ядавіта зароўшы і пабліскваючы бакамі, над ёю ястрабамі віліся тры нямецкія самалёты.

Высунуўшыся з хаты ў паласатай без каўняра кашулі, туды глядзеў гаспадар. У садку за гумном, мусіць, не ведаючы, куды дзецца ад грукату бомбаў і гэтага шырокага, што расплываўся на ўсё неба, рэву самалётаў, тоненька, палахліва скавытаў гаспадароў сабака.

Падбегшы туды бліжай, Літавар убачыў, як сівым росным балотцам сюды пад алешнік да хутара артылерысты гналі спуджаных коней. З грудка, з ахопленай залацістым полымем страхатлівай вёскі, падбіваючы полы шынялёў, сыпаліся салдаты, каб схавацца ў цяністым алешніку. Без хусткі, у белай кофце, распускаючы на плечы валасы

і трымаючы на руках малое дзіця, за імі ляцела босая маладзіца.

Пераварочваючыся адным шырокім крылом уніз і паказваючы чорныя крыжы, сюды на хутар заварочваў нямецкі самалёт. Нізка над алешнікам слаўся яго вуркат, што, здаецца, ішоў ад мігатлівага кольца прапелера.

— Гэй, хлопцы, падній! — крыкнуў сяржант, азіраючыся і шукаючы, мусіць, якога схрону.— Шваб валі на нас [1].

Літавар яшчэ тады, выскачыўшы з гумна, згледзеў зводдаль ад хаты за маладою стракатаю ад жоўтага лісця бярэзінаю невысокую набудоўку пограба з малым, у адну шыбу, аконцам. Цяпер, бачачы, як сюды на хутар мкне, распрасцёршы крылы, несучы перад гарбатым носам мігатліває кольца прапелера, нямецкі самалёт, Літавар вобмельгам кінуўся да шарай драўлянай набудоўкі з чубатай саламянай стрэшкай, з гарачкі ніяк усё не могучы адкінуць зашчапіцу на дашчаных дзверцах.

Уваліўшыся ў гэты затхлы яшчэ ад леташняе картоплі і не выветраны пограб, учуў, як падкоўкамі чаравікаў яму ў спіну гахнуў сяржант, але вылаяцца і спагнаць злосць не паспеў — у гэты міг моцны ўдар, недзе, як спаднізу, ажно з драўлянай, заплеснелай столі пасыпаўся пясок, скалыхнуў каменны мур пограба.

Нешта з трэскам паляцела і сыпанула на саламяную стрэшку. У Літаваравых вушах заныў, ніяк усё не астываючы, тугі звон. Праз гэты казытлівы, што залажыў вушы, звон Літавар чуў, як натужна роў, мусіць, падымаючыся ўгору, нямецкі самалёт.

— Ах божа, ах божа,— застагнаў, боўтаючыся босымі, мокрымі ад расы нагамі, завісшы локцямі ў вузкім лазе і не паспеўшы ўваліцца ў пограб, нягеглы гаспадар.

— Цо сень стало? [2] — закрычаў сяржант, схапіўшы яго за ногі і цягнучы ў пограб.

— Ах божа, нема хаты! — босыя ногі, шукаючы апоры, ударылі сяржанта ў грудзі і высунуліся з пограба.

— Пачакай, не лезь,— крыкнуў сяржант у ясную, адслоненую ўжо дзірку пограба,— а то падстраляць, як качку.

Глухім водклікам на гэты крык над пограбам затупалі ногі.

— Вар'ят,— плюнуў сяржант і, ужо счакаўшы і ўпэў-

---

[1] — Гэй, хлопцы, падай. Шваб валіць на нас *(польск.)*.
[2] — Што там зрабілася? *(польск.)*

ніўшыся, што самалёта няма, прыставіў да каменняў невялічкія, расхістаныя драбінцы, палез з пограба сам.

Літавар, чуючы ў душы схаладзелую насцярогу, што ўчынілася вялікая бяда, услед за сяржантам выскрабся з цвілой цемнаты на сухі сляпучы свет. Не верачы яшчэ сабе, глядзеў на цёмна-зеленаваты, перамешаны з пылам, смярдзючы дым, што цехаця цягнуўся адтуль, дзе была хата, і густа асядаў на стракаты ад дзяцеліны надворак. Ён паволі адсланяў салаватую, аклееную шпалерамі сцяну з высаджаным акном і раскалыханай, што ўтрымалася на цвіку, рамкай з картачкамі, другая палавіна хаты, зламаўшы плот і падтаптаўшы пад сябе махрыстыя вяргіні, крыгаю асела на гародчык.

Тут, дзе чырвонай разваленай горбай падымалася цаглян без коміна печ, чарнела яма: бомба ўпала на кухню, сарваўшы страху і разваліўшы глухую сцяну хаты. Каля плота ў гародчыку пакалыхваўся на жоўтай кары адсечаны асколкам вяршок маладое, прывязанае счарнелым перавяслам да калка, яблынькі. На друз, шырока распасцёршы рукі, як па кладцы, каб не ўпасці, лез сяржант, а за ім, нібы адышоўшы ад памяці, на каленях поўз гаспадар.

Папярхнуўшыся ад горкага пылу, перамешанага з смуродлівым гарам траціла, і азіраючыся ўгору, ці няма дзе таго гарбатага, з уедліва-звінючым вуркатам самалёта, Літавар апярэдзіў гаспадара-паляка і палез туды, дзе, прыгнуўшыся, стаяў сяржант.

— Глядзі, мо хто жывы?

— Жывы? Ты цо, ошалялэсь?! [1] — сяржант кіўнуў галавою на апырсканы крывёю ніжні слупок печы і з нейкай, быдта здзеклівай, ухмылкай сказаў: — Хіба толькі во кацяня пішчыць. Яны жывучыя, халера на іх.

— Слухай, а мо дзіця? — Літавар успомніў учарашні грукат на няроўнай падлозе дзіцячага ложка і аднастайнасонную калыханку маладзіцы: «Гняды конкі, гняды...»

— А ты глядзі, што, можа, і яно,— раптам занепакоіўся сяржант, падбіраючыся туды, дзе ацалеў рог хаты.

Пераступаючы разломаныя дошкі, Літавар убачыў там голае, зацярушанае чырвоным цагляным пылам, плячо маладзіцы, што ляжала над знявечаным дзіцячым ложкам, і ўжо выразна ўчуў, як недзе пад ёю крэкча дзіця. Яна, налёгшы на ложачак, пэўна, карміла грудзьмі дзіця якраз тады, калі ўдарыла бомба і кінула яе да сцяны, акурат

---

[1] — Ты што, ашалеў?! *(польск.)*

галавою — там крывянела, сплёўшыся з валасамі, нейкае ружаватае месіва. Літавару заблажыла пад грудзьмі, і ў рот пагнала горкую асцу...

Яго ў той дзень ванітавала не раз, калі ён успамінаў, як яны даставалі з-пад нежывое ўжо маладзіцы з таго разламанага, знявечанага ложачка ўкручанае ў пялюшкі і спавітае шырокім шарсцяным паяском жывое дзіцятка. Яму было не больш як месяцы два. Цяжка ды невыносна было глядзець і на мужчыну, што неяк адрачона, не прыйшоўшы яшчэ да розуму, узяў гэты спавіты скрутачак на рукі. Не сканала, не дайшла яшчэ і старая, якую яны таксама вывалаклі з-пад друзу.

Ад хутара яны ўжо далёка і не прайшлі, завярнуўшы ў вёску і на вуліцы ўбачыўшы зялёныя, з цёмна-белымі крыжамі танкі і немца ў чорным камбінезоне, як потым дагадаліся, танкіста, што прысеў за гумном, чытаючы газету і расшпіліўшы камбінезон. Напалохаліся яны, але напалохаўся і ён, падцягваючы спешна порткі і хаваючыся за другі рог гумна. Апомніўся, мусіць, тады, калі яны ўжо былі пад рэчачкаю і рушылі павольней, топчучы ў алешніку шапаткое нацярушанае лісце: адтуль з вёскі неўпапад забахалі стрэлы. Іх, пэўна, ніхто і не думаў даганяць. Ды нашто было. На немцаў яны надышлі самі і нават па-дурному. Назаўтра, праседзеўшы ў сухім, пыльным, што не бачыў дажджоў, ляску, высунуліся з-пад калючага граба на картаплянае поле, каб дайсці да блізкага ў кучаравым садку хутара ды папрасіць што пераадзецца, як ззаду на бурачкова-зялёнай ад палеглай травы палявой дарозе залапаталі нямецкія матацыклы. Іх было два, з кулямётамі на люльках.

— Немцы! — ціха ўжо аклікнуўся Літавар, умлеўшы ад неспадзяванасці і трывогі, што тут, на голым полі, нікуды ўжо не ўцячэш.

— Не бондзь дурны, то нашы,— не паверыў падслепаваты, нізкі на вочы сяржант, але нарэшце, калі ўчуў гергатлівы крык, што было моцы пусціўся ўцякаць, дабегшы толькі да бура-зялёнага падсохлага картапляніку — па ім ўдарылі з кулямёта, што стаяў на люльцы матацыкла, і ў сяржанта мякка падагнуліся і заплялізя ногі. Упаў ён каля картопель на замежку ў белых кветках крываўніку.

Літавар, падняўшы рукі, пайшоў да матацыклаў сам, убачыўшы першы раз так блізка немцаў у іхняй шара-зялёнай нязвыклай форме, асабліва маладога, чарнявага, у вузенькай, як гарнушак, касцы. Ён, аблапаўшы Літавара

і сарваўшы з шапкі арла, паказаў ісці дарогаю наперадзе матацыкла, ды не ісці, а нават бегчы. І Літавар бег, можа, вярсты тры пад лапатанне матацыклаў і рогат немцаў, чуючы, як перасохла ўсё ў роце, як ужо млеюць і робяцца калам

і ногі і што ён ужо далёка не дабяжыць.

— Schneller, schneller, polnische Banditen! [1] — ззаду падганяў яго п'янаваты і вясёла-дурны голас.

Літавар і сам не ведае, як тады дабег да шашы, дзе спынілася калона немцаў і дзе ў закурэлай канаве сядзелі палонныя польскія салдаты — чалавек, можа, трыццаць. Сярод іх Літавар убачыў таго самага, як падалося яму, паручніка, што загадваў застрэліць яго ўчарашняе ночы каля спаленага моста. Без рэменя, з адарванымі пагонамі, толькі на чорным аколышку фуражкі паблісквала зорка, ён таксама прыглядаўся да Літавара белымі, звар'яцелымі вачмі.

Не даўшы нават папіць вады, іх пагналі сюды пад Варшаву ў гэты маёнтак, каго ў чым — у шынялі, у палявым мундзіры або проста ў споднім кашулі. Цямнела ў вачах ад духаты, рабілася млосна ад смагі. Дарогаю натрапілася здратаванае коньмі балотца, дзе ў ямках гніла рыжаватая вада, і перасмяглыя салдаты сталі падаць і, захлынаючыся гразёю, піць рыжавую ваду. Немцы падымалі іх, бязлітасна б'ючы прыкладамі і таўчучы ботамі з жалезнымі падкоўкамі. І Літавар з жахам убачыў, як, выхваціўшы з бліішчастай з гарохавінкай на канцы пляскатай похвы кінжал і трымаючы яго аберуч, малады чарнявы немчык парнуў у распластанага над лужынай паручніка. Якраз пад левую лапатку. На вачах усіх, каб болей не разбягаліся з калоны. Брала дзіва, што паручнік нават не войкнуў, не застагнаў, а толькі выгнуўся, расцягнуў рукі і ціха апаў у чорную, перамешаную конскімі капытамі гразь.

Перакошваючы твар, немец вырваў з яго спіны тлуставаты, абліты скалкамі крыві кінжал, плазам выцер аб чубок прыжухлай травы.

Змэнчаныя смагаю, ад якой, здаецца, перагарэла і запяклося ўсё ўсярэдзіне, палонныя кінуліся ўжо да пажарных, укопаных у зямлю бочак, калі іх прыгналі на чыгуначную станцыю да дашчанага, напалавіну заваленага газавымі маскамі, склада. Разгробшы зверху зялёную брасню, той-сёй і пачаў хлябтаць атрутную ваду, каб потым ужо сярод ночы, скрыгочучы зубамі ад нязноснага

[1] — Скарэй, скарэй, польскі бандыт! *(ням.)*

болю, дайсці ў гэтым задушлівым ад мноства людзей і смярдзючым ад гумавых масак дашчаным складзе.

Літавара як асцерагаў бог. Ён, перасільваючы смагу, зарокся, няхай нават сканае, а гэтых гнілых, заразных змылкаў, дзе за сухое гарачае лета завялася і кішма кішэла нейкая вадзяная брыдота, піць не будзе.

Ваду ім далі толькі на трэці дзень, ледзьве ўжо жывым, каля гэтага занядбанага маёнтачка на жытнім, затканым танюсенькай павучынкай іржышчы, што раптам заблішчала проці нізкага паружавелага сонца, калі доўгую калону закурэлых, як на малацьбе, палонных салдат прывялі пад калючую, укаранелую на замежку дзічку.

Глытаючы сліну, згаладалыя, ашалелыя людзі кінуліся рваць на ёй дробныя, рабенькія ад чорных плям і даўкія грушкі, покуль у цёмнае лісце не бабахнуў з вінтоўкі бялявы і сутулаваты вартавы, загадваючы ўсім сесці.

Кожны вечар перад змярканнем, паставіўшы зводдаль кулямёты, начная варта абыходзіла іхні гурт і шчыльненька трамбавала іх у цесную кучу, б'ючы ў плечы акутымі ў жалезных падкоўках і ў плешках шыпоў цяжкімі ботамі.

Усе гэтыя дні яны, польскія палонныя, рабілі для сябе высокі, пераплецены ў некалькі столак сівым калючым дротам, часовы загарад. Сёння хадзіў і Літавар — укопваць тэлефонныя слупкі: немцы, мусіць, збіраліся правесці электрыку. Тут ён і напаткаў, разгаварыўшыся, высокага, чарнявага, з залатым зубам Васіля Харошку. Пазнаў адразу, па гутарцы, калі яны падымалі сыры, з увінчанымі шклянымі кубкамі, тэлефонны слуп і Харошка закрычаў на гультаяватага ды, мусіць, і нядужага палячка-мазура:

— Што ты трапечашся, як той у портках? Бяры!

— Гэй, ты адкуль? — зарадаваўся Літавар, пазнаўшы свайго «красавяка».

— Яка ружніца,— скасіў на Літавара злое вока, яшчэ не астыўшы ад злосці, Харошка.

— Па гутарцы чую, што свой.

— Ды падымай ты, свой ці чужы,— не даваўся загаварыць Харошка, а потым ужо, калі іх, змучаных работаю, прыгналі ў маёнтак і налілі кацялок астылага, што астаўся ад немцаў, фасолевага супу, Харошка, скоранька высербаўшы сваю долю, раптам падабрэў, спытаўшы ўжо сам:

— Ды ты кажаш — свой. А скуль жа сам будзеш?

— З-пад Дварчанаў. З Берасава, мо чуў?

— Го-о,— Харошка абцёр жменяю рот.— У Дварчаны я на фэст хадзіў. Дзеўку там з Дубатоўкаў меў.

Ужо ў лагеры, калі яны прымасціліся на замежку пад грушаю і па лісці з нізкага неба зашапацеў холадам нудны дождж, Харошка спадцішка дыхнуў Літавару ў вуха:

— Скалеем, дойдзем тут, або вошы заядуць. Па мне гвіжаць, не ўседзець...

— А ты хочаш у горы жыўшы з перцам есці.

— Нашто так жыць,— ізноў дыхнуў цяплом у вуха,— уцякаць трэба...

— Як ты ўцячэш? — у Літавара ажыло, страпянулася нейкае здушанае, змардаванае спадзяванне на ратунак.

— Тут [redacted] Моўчадзі адзін,— Харошка папярхнуўся, закашляўся і, азіраючыся кругa сябе, зноў прыхіліўся да Літавара.— Учора ўцёк. Клікаў нават мяне...

— І чаго ж? — новасць задухай сціснула Літавару горла.

— Халера, збаяўся, а сёння каюся,— нехаця прызнаўся Харошка. І ўжо таямніча зашаптаў: — Там за ровам, куды ходзім па сваёй патрэбе, хлопцы прымаскавалі пад дротам дзірку. Там лягчэй прашмыгнуць. Вартавыя ўцякаюць далей ад гэтага ванішча.

— А не нарвёмся? За дротам ужо не пашкадуюць. Канец на месці...

— Баязліваму і корч мядзведзь.

Палахліва-шапаткую ціш дожджыку, [redacted] разам і гэтую гутарку, абарваў, палыхнуўшы чырвоным агнём, блізкі за калючым дротам стрэл.

— Гэта яны так, для перапуду, страшаць нас,— счакаўшы, азваўся Харошка і зноў застагнаў пра сваё набалелае: — Трэба ўцякаць. Не сёння, дык заўтра. Няма чаго марудзіць, [redacted] то дойдзем тут.— І ён паставіў высокі каўнер свайго кавалерыйскага шыняля.

Курчачыся ад азыраватага холаду, Літавар маўчаў: перад вачыма, як з глыбокай каламутнай вады, выплывала белаватая, у вянку стракатага бярэзніку, шаша, пясчаная дарога, што лянiва перапаўзала яе, высокі перад вёскаю крыж і свая за маладым цёмным клёнам хата...

## XXIX

За польскімі пагранічнікамі верасаўская пагоня выбегла толькі на грудок, да нясмела зялёнай, трохі ліловай, што адно ўгледзелася, маладой руні, рассечанай шарай палявой дарогай. Мужчыны дагадваліся, што ў блізенькім, спярэшчаным жоўта-яснымі бярэзінкамі, хвойніку прыціхлі гэтыя два спешаныя пагранічнікі, каб

узяць, падпусціўшы бліжай, каго-небудзь з іх на мушку. Тым больш што верасаўцы беглі не ўрассыпную, а паавечы збіўшыся ў купку.

Першым пайшоў вальней, а потым і зусім спыніўся Імполь Верамей:

— Што мы маем салдатаў лавіць, што салдаты вінаватыя?

— Карабін у іх забяром,— раз'юшана захроп, пераскокваючы глыбокую з разбоўтанай зацiркай гразі каляіну, Жэнік Рэпка.

— Хваліся,— Імполь Верамей абмацаў сваю шаблю, нібы не верачы, што яна вісіць пры боку, паправіў яе.— Во зараз як бабахнуць з-за хвойкі — такі і дасі дуба.

— Мусі, ён праўду кажа,— нехаця спыніўся і высокі, выпетраны, з паўпаданымі, у зеленкаватым мосе, шчокамі Саўка Аўсянік.— Трэба бегчы пастарунак раззбройваць: там руж'і і паперы сакрэтныя.

— Што з тых папер, нам зброя трэба,— выцер рукавом сухія, запечаныя ад гарачыні губы Жэнік Рэпка.

— І я кажу,— Імполь Верамей першым завярнуў назад.— Тут не да юру, абы вынесці скуру. Да сябе яны не падпусцяць, будуць страляць...

Гэтая валтузня на грудку і выратавала мо ад немінучае смерці аднаго з гэтых трох, бо ў іх ужо цэліўся, прыкленчыўшы за шырокаю з неацярэбленымі лапамі хвойкаю, старшы даўганосы пагранічнік, але яго перапыніў малодшы:

— Зачэкай, здаесе, жэ одэшлі.

— Пайшлі. А ведаеш, што было б, каб яны дагналі нас бяззбройных?

— Абсікалі б мы з табою гэтыя хвойкі ад страху,— засмяяўся маладзейшы.

— Мордэрцы [1], курва іх маць! Добра, што не аддаў карабін.

— Опануй сень, есьлі хцэш жыць — то мільч! [2]

— А я юж го мам в дупе [3],— сказаў даўганосы, але апусціў карабін, вылазячы з-пад прысадзістае хвоечкі і чапляючыся доўгім брылём кепкі за натапыраныя зялёныя лапы. Падняў яе і засмяяўся: — Ну і шапку мне далі.

— Не шапка, а вроне гняздо,— засмяяўся маладзейшы.

---

[1] — Забойцы *(польск.)*.
[2] — Апомніся, калі хочаш жыць — то маўчы! *(польск.)*
[3] — Пляваць я на яго хацеў *(польск.)*.

— За такога каня такую шапку,— пакруціў галавою даўганосы,— халеры на іх нема.

— Цяпер глядзі не шапкі, а галавы. Кідай кульбу.

— Што? Май літасць.

— Схавай пад хвойку карабін і давай лапу-цапу. Шыбчэй.

— Ты што, хворы?

— Кажу, кідай і пайшлі, покуль тыя ідыёты не адумаліся.

Але пагоня, завярнуўшы з грудка, ужо мінула позняе, што рэдка выткнула з пабаранаванай раллі два зялёна-бурачковыя вузкія лісцікі, жыта і, шоргаючы шорсткім, зарослым сівенька-ружовымі натапыранымі каткамі ржышчам, сігала цярэспаля да высокага насыпу вузкакалейкі, што бегла тут каля Верасава поруч з шашою, абвешанай сухаватым шэлестам бярэзін.

Прытрымліваючы адною рукою доўгую, з кутасікам на ручцы, шаблю, каб не вельмі замінала ісці, Імполь Верамей сігаў першым. Глыбокая, патайная радасць віравала ў яго душы. Што чынілася на свеце, выразна ён не ўяўляў сабе, але ведаў, што чынілася нешта вялікае. Яго займала тая, сёння чутая навіна, што бальшавікі перайшлі граніцу і ідуць сюды.

Кажуць, што яны будуць адбіраць у асаднікаў і дзяліць на бедных зямлю, што настане роўнасць. Але якая яна, Імполь дадумацца, дапытацца ў самога сябе не мог: як ён зраўняецца і праўда з граматным Грабянкам?

Ён думаў цяпер пра другое: адкрыецца граніца з Расіяй — і ён уцячэ туды з Хрысцяй. Уцячэ. Забярэ яе і паедзе. Там, кажуць, ёсць шахты, дзе добра зарабляюць. Ён пойдзе туды рабіць, на тыя невядомыя, нябачныя вугальныя шахты, што здаваліся яму вялікаю чорнаю ямаю, дзе людзі білі кіркамі, калолі вугаль і адвозілі ў тачках. Такі малюнак ён бачыў некалі ў школьнай кніжцы.

Імполь паглядзеў на цёмна-зялёныя, у чубках лесу, далёкія груды, за якімі хаваліся Дварчаны, і падумаў пра Хрысцю. Як яна там цяпер у Грабянкаў? А можа, дзе паехала разам з ім, уцякла. Паўзла чутка, што асаднікі, хто як можа, пруць пад Літву, як гэтыя пераадзетыя пагранічнікі.

Падыходзячы да высокага насыпу вузкакалейкі, Імполь набраў разгон, узбег на жвірыстае палатно, пайшоў ім, стараючыся трапіць нагою на шпалы.

Жорстка рыпеў, хрумстаў пад нагамі жвірысты пясок у Жэніка Рэпкі — ён подбегам ішоў з другога боку рэек, а пасярэдзіне іх сіплавата дыхаў, хрон хворымі грудзьмі худы сутулы Аўсянік. На яго бледна-зеленаватых шчоках выступіла нездароўчая, як у сухотніка, чырвань.

Ён суха захыркаў, хацеў адкашляцца, але не здужаў, сказаў асіплым голасам:

— Учора дадому прыйшоў. З наваградскай турмы.

— Як? Пусцілі? — падымаючы шаблю, каб не зачапіцца ёю за рэйкі, Імполь перайшоў на другі бок насыпу.

— Чакай — пусцяць,— зачмыхаў у свой задзірысты кароткі нос Рэпка.

— Варта ўцякла, і мы ўжо тапчанамі дзверы высадзілі,— Аўсянік прыпыніўся, глытнуў тугога вільготнага ветру і хрыпата са здушаным свістам закашляўся.

«Сухоты ў яго, мусіць»,— падумаў Імполь, але яго гэтыя мыслі перабіў Жэнік Рэпка, раптам паказваючы наперад шашы, дзе з яе зварочвала, гнучыся пад поўнымі мяшкамі, грумадка босых кабет з цыбатым нядужым мужчынам, што адставаў ад іх.

— Чаго яны ўцякаюць? Староняцца нас?

— Пэўна, нечага ў мястэчку набралі. Баяцца, значыць,— сказаў Імполь, узіраючыся, як цераз перакапанае картаплянішча да ружаватых ▪ голым ужо пруццем, на вяршках якога трапятаўся паслед лісця, кустоў ракітніку ўцякалі чатыры бабы з цыбатым мужчынам. У яго ад цяжкага мяха падгіналіся і запляталіся ногі.

— Трэба пераняць,— хрыпата задыхаў Аўсянік,— даведацца, што робіцца ў мястэчку.

— Дай шаблю! — падскочыў да Імполя Жэнік Рэпка: яму, мусіць, як малому, хацелася патрымаць у руцэ ды паганарыцца гэтай страхатліва-прыгожай цацкай.

Імполь выцягнуў з жалезнай похвы доўгую, што, як маланка, бліснула неспадзяваным страхам, крываватую шаблю.

Жэнік Рэпка, нібы захмялеўшы ад нечаканае радасці, выхапіў яе з Імполевых рук, занёс у правай руцэ над галавою, ловячы халоднай адпаліраванай сталлю жаўтлявае, што схавалася ў імгле, сонца, зароў з усяе моцы:

— Стой, кажу!

Бабы, падпуджаныя гэтым нечаканым крыкам, што было моцы замільгалі рудымі загарэлымі лыткамі, толькі нядэшлы мужчына прабег колькі крокаў і скінуў з цябе цяжкі мех. Стаяў, выціраючы рукавом упрэлы лоб і, му-

сіць, не баючыся гэтай аголенай шаблі, што мігатліва паблісквала над Жэнікавай галавою, нечакана і зверавата спытаў:

— Ну, чаго ты хочаш?

Жэнік Рэпка, зачапіўшыся за кучы сухога, накіданага ў разоры картаплянікy з нераспелым у сіваватым пуху асотам, спыніўся таксама, паказаў шабляю на мяшок:

— Што нясеш?

— Соль. Не бачыш, што цяжкая,— мужчына скасавурыўся вачмі на шаблю.

А бабы, прыгнуўшыся і думаючы, што іх нэ бачаць за рэдзенькім ракітнікам, як курапаткі, адна за адною беглі далей.

— А ў іх што? — паказаў туды за ружаваты ў рэдзенькім лісці ракітнік Жэнік Рэпка.

— А што ж у іх? — варухнуў тоўстаю цяжкаю адвіслаю губою мужчына.— Таксама соль. Вунь на станцыі ў складзе яе гібель. Ідзі бяры. Адна ўжо наелася. Завярнула глыбаю.

— А ты што гасударственнае дабро цягаеш? — падыходзячы сюды з Імполем, учуўшы здалёк гутарку, папытаў Аўсянік.

— Якое ўжо гасударства,— сказаў мужчына з доўгім тварам і адвіслаю тоўстаю губою.— Паліцыя вунь пахавалася. Людзі бяруць усё.

— Ты кажаш, разбеглася паліцыя? — захыркаў і зайшоўся ад задухі Аўсянік.

— Людзі казалі, і я кажу. Сёняшнім светам разбярэш? — адступіўся ад мяшка і ўгнуў голаў даўгавіды мужчына.

— Хлопцы, скарэй,— махнуў рукою Аўсянік, заварочваючы назад на шашу і падцягваючы сваю ўкалечаную нагу.

— Можа, сюдэю, цямровую дарогаю праз лясок,— прыпыніў яго Імполь.— Барзджэй будзе.

Рвучы між кустоў ракітніку залаціста-сіняе вастрыё мігатлівае павучыны, яны пусціліся на бурачкова-шары ад нераспелае чарады лужок.

У смутна-пажухлым алешніку радасцю свіціліся, рдзелі на сонцы зманлівым жарам чачоткі бойных ягад высокай гнуткай каліны.

Слізгаючыся на барoдах спалавелага сушніку, туды да маладога, што не асыпаў яшчэ дзіравае лісце, алешніку памкнуўся Жэнік Рэпка:

— Гэ, хлопцы, а што гэта за ягады?

— Сарві сабе бант, яшчэ адзін начэпіш,— засмяяўся Імполь, але, убачыўшы, як Рэпка секануў шабляю па звіслай верхавіне тонкага дрэўца, ужо са злосцю закрычаў: — Жывое не губі!

— Не бойся,— злавіў адсечаны вяршок у чырвані налітых сокам і празрыстых ягад Жэнік Рэпка.

Бабы, згледзеўшы, што трое незнаёмых з блішчастаю шабляй завярнулі ў іхні бок, са сполаху яшчэ больш паддалі сабе ходу.

— Цю-у, лаві іх,— прысвіснуў, жмурачы проці сонца свае вузкія, як у ката, вочы, Жэнік Рэпка.

— Ты што, здзяцінеў? — паслізнуўся на барадах спалавелага белаватага сушніку Аўсянік.

— Чаго там, няхай патрасуць сваімі цыцкамі,— Жэнік Рэпка наводліў шпурнуў ссечаную, у празрыстай чырвані ядроных ягад каліну.

— А вот таго,— раптам змяніўся з твару і яшчэ больш уцягнуў голаў у плечы сугнет Аўсянік: — Мы, лічы, тут рабочая гвардыя, а табе ўсё смешачкі. І парадак, паслушэнства павінна быць.

— Так ужо, можа, назначыў сябе і ў старшыя?

— Лічы, што так.

— Ну,— страпянуўся Жэнік Рэпка.— Ты гэта нас: кось-кось ды ў аглоблі.

— Аглобель німа, а парадак мусі быць як у войску.

— Ты глядзі, га,— Жэнік Рэпка падскочыў да Імполя, махнуў локцем: — Які мудры.

— Аціхні, а то ходзіш, як на вастрыі,— Імполь нібыта незнарок працягнуў руку, забіраючы шаблю.

Жэнік сумеўся і сярдзіта змоўк, тоячы злосць і на Імполя.

Адчужаныя адзін ад адпаго, увайшлі ў стракаты ад жоўтага лісця, з высокім над галавою сухім шалясценнем бярозавы гаёк. Па нагах запілёгаў пруткі, абсыпаны ўжо выцвілым цветам верас, блыталася зялёная, шырокая, пер'ем падобная на асаку трава, між спрадвеку зялёных і гаркавата пахкіх кустоў ялаўцу ліпуча і туга рвалася сіняватая павучына. Ногі чулі мякаць волкага бура-зеленкаватага моху, усыпанага жаўтлявым лісцем.

Пераганамі, калі ўздыхнуў, ідучы стараною, вецер, на волкі мох, на павучыну, на дарогу з чорнымі каляінамі, дзе Імполь убачыў пруткі, з чырвонай, крышку вывернутай ад натугі галоўкай, што занач падняўся, маладзенькі асавік,

плыло з смутным палахлівым шалясценнем сырое бярозавае лісце.

Ад яго ўзбунтаванага трапяткога шолпату Імполя брала спішнасць. І неўспадзеў пачаў падкрадвацца ў душу холад сумнення — чаго ёп ідзе з гэтымі двума арыштантамі, што на злом галавы пруць у мястэчка, каб прыдбаць зброю і паласавацца чым-небудзь. Падсунеш разам з імі мазгаўню. І, як смолкая жывіца з падсечанай хвойкі, выступала і дадавала адвагі і жудаснай радасці, што Аўсянік не падобны да канакрада ці злодзея. Адно неразгаворлівы і пануры, як сыч. І сухотны. Страціў здароўе — аднялі мо на пастарунках. Там, кажуць, білі гумамі па пятах, адбіваючы ад касці мяса. Бо ідзе, як спутаны, падграбае праваю ногою, і яна нібыта не служыць яму.

Імполь прыглядаўся да Аўсянікавай хадзьбы, покуль той па калені не схаваўся ў парасонах пабурэлага, пабітага рудою папаратніку, што заглушыў край высекі.

За ёю пачыналася лагчына з чубкамі паджоўклае конскае цыбулі, рудое, у бурачковых вяршках, асакі. Далей свіціўся жоўты разложысты, уперамешку з пруткім грабнікам, шыракалісты гарэшнік, за ім цьмянай чырваннюзагарэлася шчотка скошанага грацкоўішча, з карычневымі шарэнгамі ядранае, пастаўленае ў кучкі грэчкі. У бура-зялёным картапляпішчы, угінаючы голаў з доўгаю нястрыжанаю грывай, за плужком, які трымаў вусаты, у пляшывым аблезлым каўпаку мужчына, цягавіта і панура ішоў пераласы конь.

Выворвалі картоплі. На мяккім полі стаяла ўжо некалькі поўных, з кароткімі жычкамі, завязаных і накрытых картаплянікам мяхоў.

За плужком, разграбаючы зямлю і выбіраючы ружаватыя картоплі, з шарымі карапёвымі кошыкамі ішлі тры кабеты. Тоўстая мажная маці з дзвюма высокімі таюткімі дочкамі — роўнымі і падобнымі адна да адной, мусіць, блізнятамі з сарамяжліва-прыгожымі тваркамі.

За картаплянішчам, абгароджаная шчытным яловым частаколам, расцягнулася доўгая, з сенцамі і хлявом у адным шары, крытая чарапіцаю хата. За ёю прысела, нібы рассунулася ад збожжа, гумно.

Там, цягаючы за кольца, звінеў ланцугом чорны сабака, душыўся і хроп ад злосці.

— Здарова былі, цёткі! — абыходзячы тугія гузаватыя мяшкі і топячыся сваімі скрыўленымі жоўтымі чаравікамі ў мяккай разварушанай зямлі, павітаўся Аўсянік.

— Здарова,— нехаця, заместа прыціхлых дачок і жонкі, што скрыва пазіралі на падазроных, узброеных кінжалам і шабляю хлопцаў, адказаў мужчына ў рудаватым пляшывым каўпаку, прытрымаўшы ў баразне сытага дагледжанага каня.

— Нікога німа там у хаці?

— А хто ж павінен быць? — ад злосці шлёгнуў ляйчынаю каня, што лез і крывіў баразну, насцярожаны гаспадар.— Старая вунь на печы ляжыць.

— Я пра салдат ды паліцыянтаў пытаю. Яны цяпер на хутарох адседжваюцца.

— Што ты, чалавек, якія паліцыянты,— загаварыла з картавасцю ў голасе тоўстая, жаўтлява-нездароўчая з твару кабета.— Валацугі нейкія нядаўна пабеглі.

— Якія валацугі?

— Вот праўду кажуць: карову б'юць за зык, а бабу за язык,— сказаў гаспадар, кладучы набок плужок з растапыранымі ручкамі і падыходзячы бліжай.

— Асаднікі вунь з мястэчка. Пэўна, Грабянкі ў сваю асаду на роварах паехалі. Ды мо і паліцыянты пераадзетыя з імі. Чалавек пяць.

У Імполевай душы страпянуўся зноў легкакрылы мяккі страх — што з ёю, з Хрысцяй?

— А вы хто ж будзеця? — высыпаўшы ў мяшок ружаватыя картоплі, махнула пустым кошыкам жаўтлявая, нездароўчая ў твары кабета.

— Вот ты, баба, пытаеш,— шлягнуў у яе бок вузлаватаю пужкаю трапятлівы гаспадар.— Ці не бачыш, во чырвоны бант на грудзях.

— Спярша правер, а потым вер,— пакруціла тоўстаю хусткаю жонка.— А ты ўжо раздаверыўся.

— Ну што будзе міру, то і бабінаму сыну,— махнуў карычневым пляшывым каўпаком гаспадар.— Але ж свае, здэцца, людзі,— і зноў зіркнуў на Імполеву шаблю.

— Свае, свае, чаго там,— хрыплавата і ўдушліва закашляўся Аўсянік.— З Доўбніч я, а яны — верасаўскія.

Дзяўчаты скоса і моўчкі паглядалі на Імполя з Рэпкам.

— А з руж'ямі былі ці не? — злавіўшы іхні зірк, спытаў Рэпка.

— Здэцца, не відаць было руж'яў,— за дачок, нібы асцерагаючы іх, адказала маці.

— Ну, хлопцы, можа, зменім маршрут? — нечакана

зарадаваўся Аўсянік і закульгаў упоперак поля, падцягваючы непаслушную нагу.

— У нас і выходзіць: так-сяк пакасяк, абы не палюдску,— цыркнуў слінаю Жэнік Рэпка і не хочучы пайшоў, азіраючыся на блізнят-хутаранак.

Забыўшыся пра сваю злосць, каля шашы ўжо, топчучы жоўта-шархатлівае, насыпанае на чорствую сцежку бярозавае лісце, прыцмокнуў языком:

— Ну й хутаранкі, халера, хоць вады напіся.

— Хараство, кажуць, прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца,— крыва, неяк адным бокам рота ўсміхнуўся Аўсянік.

— Можа, і так,— Жэнік сышоў са сцежкі, блытаючыся ў звінючых сухіх бадылях з кілішачкамі насення, параўняўся з Аўсянікам.— Жаніцца, можа, і ўсяраўно. Міла не міла, а купіў, дак еш, а любіць — не, праўда, Імполь? — Ён знарок лісліва спытаў, слухаючы спіною, што адкажа той.

— А я, спытай, чаго тут? — збіўся з хады Імполь.

— А што ты тут — ясна як у божы дзень.

— Каму ясна, а каму не.

— Да Хрысці бяжыш. Што, не, няпраўду кажу? — задраў угору брылёк свае кепачкі Жэнік Рэпка.

На Імполя шугануў гарачы вар, перад вачмі застракацелі, зліліся ў адзін чорны пас камлі струпатых бярэзін. Сцінаючыся, як ад болю, ён ледзьве вымавіў:

— Не заўсёды світае, як певень спявае.

— Тады, можа, пойдзем у Дварчаны?

— Мне адна халера.

— Не кажы...

— Нічога, хлопцы, туды паспеем, а паліцыянты папраўдзе паўцякалі з мястэчка,— перайшоў на мерную хаду Аўсянік.

— Сядзяць у Грабянкавай асадзе, як мышы пад венікам. Нават і не дыхаюць. Ах ты, ядры тваю дагары,— зайшоўся ад рогату Рэпка.

— Глядзі і ты, каб дагары зубы не задраў,— Імполь азірнуўся на Дварчаны: брала злосць на Рэпку, што над'юшчыў усіх звярнуць у Грабянкаву асаду.

— Не бойся, я першым пайду, шаблю толькі дай,— падміргнуў ён Імполю і ўжо крыкнуў Аўсяніку: — Слухай, камандзір, шуруй шыбчэй.

Аўсянік хацеў нешта сказаць і толькі зяхнуў, задушыўся ад раптоўнага кашлю і, сіпата бухаючы ім у такт сваёй няскладнай хадзе, пайшоў услед за Рэпкам.

Яны ўсе трое, мінаючы хутар, зашоргалі чаравікамі па ружаватай шчотцы грацкоўішча, каб выйсці на груд — там, хаваючыся ў мяккую заціш ялаўцу, выкладзены абапал шарымі, абвеянымі дымам мятліцы каменнямі, бег у круцілаўскі млын, у Грабянкаву асаду гразкі, непраезджаны ад глыбокага пяску ўлетку і тугавата-чорствы, як бітая дарога, у дажджлівыя дні, дварчанскі гасцінец.

Збоку каля яго, мінаючы кусты зраджайнага, у сівых ягадах ялаўцу, бегла лёгкая, як падмеценая, сцежка, тамсям пабітая чорнаю воспаю норак, з горбачкамі наточанага пяску.

Ідучы першым, Аўсянік незнарок гроб праваю клышаногаю нагою гэты дробны, як прасеяны на сіта, пясок. Нарэшце зачапіўся за вылушчаны ▪ зямлі шара-сухі, абадраны ад кары ялаўцовы корань, хрыпата мацюкнуўся.

— Нага во не служыць. А ўсё праз іх. Білі ў пастарунку, на хрыбетнік стаўшы каленьмі. Нэрв недзе ў шыі зашчамілі. І рука была аднялася саўсім. Яшчэ і цяпер як не свая.

— Няўжо ад нэрва прылучылася? — здзівіўся Імполь, пазіраючы, як Аўсянік трохі падвалокваў сваю нагу ў аблезлым ад едкае расы і, мусіць, ніколі не ваксаваным чаравіку з вялікаю латкаю збоку над мезеным пальцам.

— Дзіва,— Аўсянік паглядзеў на свой шары, зашнураваны сырамятным шнурком чаравік.— Месяц падняцца не мог. Чуць не заходалі.

— Ну дух з іх вон, пападуцца і яны,— Рэпка сцяў зубы і патрос кулаком на замглёную сіняватую лагчыну, дзе ў зацішку жоўтых дрэў стаілася шара-карычневая вёска. Зводдалек яе трапяткім жывым бляскам пераліvалася і грала, адбіваючы глыбіню сіняга, у бела-сівых, набрынялых на дождж хмарак неба, вялікае возера. За ім бялеў у чырвані канадскіх кляноў цагляны будынак асады, шарэлі чарапічнымі дахамі доўгія будынкі гумна і стайні.

— У вёску зойдзем,— Аўсянік закульгаў на сцежку ў зялёнай, яшчэ не згаслай, з ружаватымі шышкамі дзяцелінцы.

— А чаго? — не разабраў Рэпка.— Цьмянаю дарогаю да асады лепш падысці.

— Наразе чаго трэба распытаць, што робіцца там.

— І праўда, а то нідаткнёмся,— за Аўсяніка стаяў Імполь, асцерагаючыся Рэпкавай гарачкі, ён бачыў, што

Аўсянік больш памяркоўны і развяжлівы, і нейкая павага затлелася ў яго душы да гэтага чалавека.

Яго заўсёды душыла пакутлівая зайздрасць і затоеная павага да людзей, якія чулі і ведалі шмат. Яму здавалася, што яны ведалі тую таямніцу, якую ён не ведаў і не мог разгадаць.

— Давай прыспешвай,— зверавата азірнуўся, нібы ўгадаў Імполевы думкі, Рэпка.— Нешта ты ўсё агінаешся.

— Ішоў ваякам, а назад ракам. Адважны знайшоўся,— каламуццю закіпела ў Імполя злосць на Рэпку.

Стрымгалоў [redacted] грудка гасцінец збег у хваёвы, з чырвонымі мухаморамі лясок. Ад іх ажно гарэла ў вачах і гаркавата пахла імі. Жалосным танюткім ціліўканнем на гутарку мужчын адзывалася белашчокая сініца. Гасцінец злучаўся [redacted] дарогаю, і яна ўжо, як пашырэлая, поўная рэчка, убегла ў вёску, загорбіўшыся між частаколавых платоў ружаватым, засмечаным саломаю ды згаджаным каровінымі аладкамі брукам.

У развілцы перад вёскаю, абгароджаны штыкетнікам, распасцёр сваю крыжавіну высокі, пафарбованы на чырвона крыж. На пабелены плоцік аблягглі ясна-жоўтыя кветкі позніх, што не вельмі баяцца марозу, зімовых вяргіняў.

Рэпка, дайшоўшы першым, смальнуў нагою ў плоцік, выбіў штыкеціну. Потым ускочыў туды ў пераплеценыя вяргіні і, бузуючы іх, пачаў турзаць, не могучы зрушыць з месца, глыбока ўкопаны дубовы крыж.

— Глядзі, бо зараз і вёску ўзбунтуем,— Аўсянік зашкроб нагою па калматай траве, пераходзячы каляіну.

— Панастаўлялі тут.

— Пачакай, не панікуй.

— Не вырваць, халера,— Рэпка, узяўшыся рукамі за штыкеціны, перакінуў цераз плоцік абедзве нагі, выскачыў з яго.

Імполь убачыў, як з-за разложыстай, што раскашавала і гарэла жарам спелых ядроных ягад, нізкай рабіны перад першаю хатаю высунулася і схавалася зноў сінявата-зліняла хустка.

Далей на вуліцы, каля счарнелае гнілое ўжо лаўкі, што падперла плот, збілася купка дзяцей.

Яны сціпыліся, утупілі ў зямлю вочы, убачыўшы трох чужых мужчын. Няўзнак зіркалі, то на Імполеву шаблю, то на Аўсянікаў пабіты ржою, недзе доўга хаваны пад застрэшкам кінжал.

— Ну што, вераб'і, маўчымо? — спыніўся каля іх Аўсянік.

Меншы хлопчык, з таўкачом, што ўпёрся ў губу, раптам скрывіўся, зашморгаў носам і прыпусціўся ўцякаць, мільгаючы з-пад ломкіх кудзельных штаноў ружовымі пятамі.

— Во дае лататы, думае, струк адрэжам,— пакруціў галавою Жэнік Рэпка і ўжо маргнуў большаму сярод іх і ажно рудому ад густога рабаціння хлопцу: — А вы не баіцеся?

— Не-а,— кісла хмыкнуў і прыжмурыў свае вузкія вочы рабы хлопчык.— Хіба мы маленькія?

— А што чуваць у асадніцкім двары? — Рэпкавы жарты перабіў Аўсянік.

— Хіба ў вас вушэй няма? — зазлаваў хлопец, скрыва і з бояззю пазіраючы на Аўсянікаў пабіты ржою кінжал.— Страляюць вуньдзека.

— Як страляюць? — страпянуўся Жэнік Рэпка.

— Туды няможна хадзіць, мама будзе сварыцца,— адазваўся другі з-пад вялікай, насунутай на вочы шапкі.

— Асаднікаў ловяць,— дакладней падказаў большы, густа заляпаны на худзенькім твары бурым рабацiннем.— Усе з вёскі пабеглі.

— Няўжо?

— Ага, адно нас патурылі.

— А паліцыянты там ёсць? — асіпла перапытаў Аўсянік.

— Мусека, ёсць.

— Ну, хлопцы, рушылі, чаго маем стаяць,— ад раптоўнае гарачыні Жэнік Рэпка расшпіліў каўнер зліняласі кашулі з карычневай бірулькай замест гузіка.

Каля нізкіх, з пабеленымі сценамі хатаў, што ўзіраліся на вуліцу цёмна-сляпымі вокнамі, здаецца, нікога не было. Толькі пад яблыняй, што аблягла цяжкімі лапамі на рагатыя падпоры, каля шара-зялёнага плота, абапіраючыся на кіёк, стаяў высокі і белы як лунь чалавек у чорнай камізэльцы на споднай палатнянай сарочцы.

— Дзень добры, дзядзька,— павітаўся Імполь, чапіўшы нават сваю кепку.

— Дзень добры,— адказаў белы як лунь чалавек у чорнай камізэльцы на споднай сарочцы і прызнаўся: — Сляпы я, не бачу, чые ж вы будзеця?

— Верасаўскія мы,— прыпыніўся Імполь, прытрымліваючы, нібы хаваючы за сябе, шаблю.

— Няўжо праўда, што Саветы ідуць?

— Праўда, пазаўчора граніцу перайшлі,— сказаў і зайшоўся ад задухі Аўсянік.

— Што вы кажаце?

— Ды яны ўжо мо каля Наваградка! — крыкнуў Рэпка.

— А вы ці не ў двор?

— Ага.

— Мы перад калядамі, як немцы адсюль адыходзілі, гэты фальварак разбівалі. Я сам палкаю ўсе вокны вымалаціў, а што з таго? У жыцці, пэўна, дабра німа. Знойдзецца зноў якая халера.

— Мы ўжо, дзядзька, гэту халеру...— не дагаварыў Рэпка.

— Крый бог, каб свой на свайго руку падняў.

Імполь глядзеў на старога ў чорнай зношанай камізэльцы, на яго твар з белаю лёгкаю, як дым, барадою, на яго з вузламі сіняватых жыл доўгія рукі, што апчаперылі гарэхавы кіёк.

За яловым плеценым частаколам ■ асенняга гародчыка пахла сопкімі падаспелымі памідорамі і жаўтлявымі, што спалі ў разорах, нібы варушачы хвосцікамі, тоўстымі насеннымі гуркамі і бурачковымі, сточанымі дападнымі восамі, паападанымі грушамі-гарасімкамі.

І Імполю спомнілася нешта даўняе, як ён пералазіў украдкам у чужы сад, як яго лавіў гэтакі самы нямоглы стары.

Ён усміхнуўся тому даўняму здарэнню і засяшаўся збоку плота, топчучы расплясканыя павукі спарышніку.

За доўгаю вёскаю, што пахла яшчэ не вывезеным гноем з раскрытых хлявоў, яны завярнулі пад млын.

Перайшоўшы каля закрытага на завалу млына драўляны мост, дзе з высокіх заставак цяжкім шыпучым груката падала на зялёныя замшэлыя каменні і віравала ў белай пене жаўтлявая вада, скорапька пашыбавалі чорнаю тупкаю, што блыталася ў парудзелай асацэ, сцежкаю ўздоўж возера.

Над разарваным бляскам вады, над рэдкім пры беразе сітнікам у бяспамятнай радасці плавала, шмыгала ластаўка з ружаватым, як аблітым крывёю, воллем.

Імполь, чуючы, як недзе пад сэрцам занывае лёгкім болем сцішны, перамешаны з невядомасцю і цікавасцю страх, апярэджваў Аўсяніка, што ўсё задыхаўся ад скорае хады і суха, дзярката кашляў.

Наперадзе траслася ясная, у сіняватыя балонкі Жэнікава кепка: ён як сам не свой, задраўшы голаў, спяшаў туды ў Грабянкаў двор.

Праз бурачковы, падпалены восенню драсён і буравconfigured палеглую траву тупкая сцежка завілася пад жаўтлявыя, што асыпалі лісце, гузаватыя ў камлях ясені.

Там за чорнымі камлямі дрэў, за вянком чырванаватага, як апечанага першым замаразкам вішанніку, за кустамі зрадзелай акацыі, цёмна-зялёнага бэзу ясна бялеў сваёю сцяною дом пад цынкавым, у шашачкі, дахам, утыканым чырвонымі камінамі, ■ трохкутным франтонам, дзе палавінкаю месяца суха паблісквала акно.

Нешта таемнае было ў гэтым доме, што свіціўся за чорнымі шурпатымі камлямі старых дрэў, за вянком нізкіх кустоў акацый і бэзу. І нейкі здушаны таемны крык ішоў адтуль.

Тупа разрываючы гэтую ціш, бахнуў і тройчы адклікнуўся ў лагчыне над возерам у навіслых жаўтлявых вербах нечаканы стрэл.

Здаецца, ад яго, ад гэтага стрэлу, з маладога клёна сарваўся і паляцеў, кружачыся лейкаю, і сеў Рэпку на плечы чуткі разлапісты ліст.

— Што та? — прыгнуўся і палахліва зіркнуў назад Жэнік Рэпка.

— Чакай, не спяшы,— Аўсянік затуліўся за гузаваты чорны камель ясеня.

— Страляюць,— Рэпка прыпыніўся на сыравата-хрусткай, высыпанай пяском дарожцы, абапал якой зялёным пер'ем блішчала нядаўна скошаная і зноў ачунялая атава.— Мо асаднікі?

— Не,— аддыхваўся Аўсянік і выціраў на лобе клейкую расіцу поту.— Тут робіцца іншае.

— Што іншае?

— Бачыў, у вёсцы нікога няма. Яна тут уся. Разнесяць асаду.

— А страляюць чаго? — Імполь стаяў у крузе чуткага шапаткога лісця, што нападала з маладога, заглушанага старымі дрэвамі клёна.

— Можа, асаднікі, я ж і кажу. Дай шаблю! — пад нагамі ў Рэпкі зарыпела жвірыстая сцежка — ён вярнуўся да Імполя.

— Чакай, шабля не зашкодзіць і мне,— ловячы абедзвюма рукамі шаблю, Імполь адвярнуўся ад Рэпкі.

— Можа, і праўда, дай яму. Хай сходзіць гляне,— ціха папрасіў Аўсянік і зайграў хрыпатымі грудзьмі.

Імполь вырваў з похвы шаблю, аддаў Рэпку, адчуваючы яшчэ доўга на далоні жалезны холад яе ручкі.

Стральбы болей не было, толькі за цёмна-зялёным вянком бэзу напуджаным чорным вараннём падымаўся крык.

— Ды пальні ты!

— Чаго думаеш?

І нейкі трэці, ужо аслабелы, голас па-польску:

— За цо? Свенты божа.

— Яшчэ й пытае!

— За цо? Езус Марыя.

Ізноў той першы — звонкі і моцны:

— Страляй, кажу, чаго слухаць, што яна дзяўгае!

Трымаючы ў выцягнутай назад руцэ, каб ужо з размаху падняць над галавою аголена-пякучую шаблю, Рэпка скоранька захрусцеў па жоўтым жвірыстым пяску дарожкі. Звязаныя ззаду на халяўках у яго целяпаліся доўгімі канцамі разбэрсаныя шнуркі.

Каля нізкіх дзяркатых кусцікаў з снежна-белымі, як град, ягадамі сцежка дабегла да зялёнага бэзу і схавалася там.

Схавалася там і ясная, у цёмныя балонкі, пасаджаная набакір, Жэнікава кепка.

Аўсянік аблізаў сухія звялыя губы і таксама выцягнуў са стракатай, пабітай сыпкаю ржы жалезнае похвы зеленаваты, што цьмяна блішчаў ад тлушчу, кінжал. Спаткнуўшыся на цагляным бардзюры, перайшоў дарожку і ад спешнасці зноў закульгаў на правую нагу.

Імполь, чуючы трапятлівою душою, што зараз будзе нейкая праява, ішоў услед за Аўсянікам.

Невыразна, як у сне, яму зноў успомнілася Хрысця, у той чужой, вялікаватай ёй сукенцы, сарамяжліва зачырванелая ў твары, перапуджаная, збітая з тропу, што неўспадзеў напаткала Імполя з Ваўчком, калі яны прыязджалі прадаваць рыся.

І ўцякала тады, саромеючыся, мусіць, і чужой сукенкі на сабе, і каляскі з чужым дзіцем.

«А можа, яна тут, у двары, разам з Грабянкам»,— Імполь прыспешыў хаду, выперадзіў Аўсяніка і, абыходзячы нізкія з бурачковым, апечаным холадам восені лісцем і белымі, як град, ягадамі невядомыя яму кусты, падышоў да бэзу, што густым вянком акружаў дом з мала-

дым, не абабраным ад ясных налітых антонаў і вялікіх чарнагузаў садам. Скалануўся ад неспадзяванага.

Босы, у галіфэ, у сподняй расхрыстанай кашулі, свецячы мокраю спацелаю лысінаю, на каленях стаяў малады, шырокі ў плячах Грабянка.

А перад ім, нібы пабойваючыся яго, калаціўся і не мог устояць на месцы палахлівы, з шырокім пляскатым носам мужчына ў рудым шарачковым пінжаку і залапленых на каленях злінялых портках. У руках яго дрыжала цёмна-карычневая дубальтоўка. Цяжка апусціўшы сцятыя кулакі, кружком каля яго стаялі панурыя мужчыны. Зводдалек ад іх узмахвала рукамі і нешта неразборлівае прамаўляла сівавалосая, з перакрыўленым ад пакуты тварам старая Грабянчыха.

Імполь нават не паспеў згледзець, як да Грабянкі ззаду падскочыў Жэнік Рэпка і ўзмахнуў шабляй: бліснуўшы маланкай, яна ўпілася ў лысіну і раскроіла напалам галаў. З глыбокай раны захлістала і закурылася параю цёмна-чырвоная кроў, залiваючы белую споднюю кашулю на шырокай спіне. На каленях стаяў і ўсё не падаў, а толькі турзаўся засечаны насмерць Грабянка.

Заенчыўшы, аб'ехала і на колінках папаўзла, аслабела ўсплясквaючы перад сабою рукамі, старая Грабянчыха.

У Імполя за спіною мацюкаўся і душыўся ад сухога кашлю Аўсянік:

— Што за самасуд, душу тваю вон! Па якому праву?

Імполь азірнуўся і ўбачыў: каля белага дома з трохкутным франтонам, які падпіралі чатыры драўляныя калоны, кіпела раз'юшаным мурашнікам купа вясковых людзей.

Чарнявы даўганосы мужчына камлюкаватым, адвязаным ад цэпа бічом з усяго размаху біў па цёмным шкле ў вокнаў — звонкі лускат шкла, што сыпалася каля падмуроўкі на кветнік з белымі, натапыранымі, нібы ад холаду, астрамі, нечаканым болем працяў Імполева сэрца: а можа, тут разам з Грабянкамі і яна, Хрысця.

Імполь подбегам кінуўся туды, прытрымліваючы пустую похву ад шаблі, што біла па пазе.

У разбітым акне скразняк, надзімаючы гарбом, падымаў угору фіранкі. І там у хаце за капелюшом распісанага ў чырвоныя кветкі шклянога абажура настольнай лямпы Імполь убачыў старога Грабянку: ён нерухома сядзеў, абхапіўшы рукамі галаў і ўзлакаціўшыся па абрус.

Блытаючыся ў кветніку, Імполь падлез да акна і застыў зноў ад сполаху — на стале на абрусе ўжо расплылася вялікая пляма крыві.

— Што гэта з ім? — Імполь устрывожана азірнуўся на мужчыну, што трымаў у руцэ прыгожае, з залацістымі кветкамі на белай абіўцы, крэсла.

— Што, не бачыш? Жылы сабе перарэзаў.

Імполь, пераступаючы белы холад астраў, адыходзіўся ад акна да насцярожанай грамады падлеткаў, баб і мужчын, што пачалі адступацца, мусіць, змеціўшы, што сюды ўжо ідзе, падвалокваючы нагу і бліскаючы сінявата-калючым, як промень, вастрыём паднятай шаблі, Саўка Аўсянік.

## XXX

У камеры пахла сырою прэсна-гаркаватаю вапнаю. Пад самаю столлю ў кутку шурпатым лішаём зашалушылася чорна-зеленаватая цвіль.

Недзе з дзіравага даху ці з расколатага карніза сюды ў камеру прасочвалася вада, і на мокрым тынку за ноч вырас ценькі з чорнай ножкай грыбок.

Першым яго згледзеў высокі, лупаваты, як заяц, і з тонкім гарбаватым носам, нечым для Змітрыка падобны да іхняга верасаўскага Літавара, збіты над Варшавай і абгарэлы нямецкі лётчык, з забінтаванай галавою і цяжкай, на перавязі, загіпсаванай рукою.

Ён, задраўшы голаў і бліснуўшы залатою каронкаю, зарагатаў і замахаў локцем здаровай рукі, паказваючы ў куток камеры, дзе на сцяне тырчаў, трохі сагнуўшыся на крываватай ножцы, жаўтлявы грыб.

— Ці бачыце, во грыб вырас? — сказаў па-польску лупаваты немец.

І ўсе, хто быў у камеры, задраўшы галовы, убачылі на сцяне гэты доўгі на тонкай ножцы грыб. Ён тырчаў, як загнаны цвік з шырокай плешкай. Толькі не мог падняць галавы, лежачы на цэментовай сырой падлозе і нудна бесперастанку стогнучы, збіты да паўсмерці малады русявы мужчына ў акрываўленай палатнянай сарочцы і суконным карычневым галіфэ.

— Ты скажы, га? Няўжо грыб, га? — прыскальваючы адно вока і пераступаючы цераз гэтага непрытомнага мужчыну, цікаваў туды ў куток пад столлю Давыдоўскі — дварчанскі, як на яго казалі, магазінер.

З яго сівае, кучаравае, як воўна ў стручках, галавы падала страката-жоўтая суконная кепка.

— Цвік, табе кажу,— падняўшы Давыдоўскага кепку і чапляючы яму на вочы, выскаляўся, дзеля дурных жартаў, жулікаваты, арыштаваны, як прызнаўся ён сам, за хаванне зброі баранавіцкі Болек Грушка.— Цвік, кажу, я загнаў!

— Каб табе так рукі служылі, як ты ўжо загоніш цвік,— адварочваўся і пляваў у куток Давыдоўскі.

Яны ўзненавідзелі адзін аднаго яшчэ больш, калі ўжо на шарай гадзіне, стаіўшыся ў кутку камеры, Давыдоўскі дастаў з свае торбы пахучы бохан сітняга хлеба.

Як пахла гэтая сітніца! Змітрык чуў, як яны ўсе, хто быў у васемнаццатай вузенькай, з дашчанымі нарамі і напалавіну забітым рыжавай бляхай акном сырой камеры, каўтнулі сліну. Ім, згаладалым за тры дні, мусіць, аж да страты прытомнасці, захацелася есці — астатнія дні іх кармілі рэдзенькім, як вада, нішчымным крупнікам, не даючы нават кавалачка хлеба, і не выганялі сёння на разгароджаны на квадраты і пераплецены калючым дротам турэмны двор на размаітыя вайсковыя муштры.

Арыштантаў знарок ужо марылі і мучылі голадам.

І тут у камеры запахла пухкай свежай сітніцай, гаркавата-духмяным кменам — у поцемку кутка, прысеўшы на кукішкі і разламаўшы на калене бохан, смачна чвякаў і варушыў скіўіцамі Давыдоўскі.

Праглынуўшы кіславатую асцу, Змітрык ледзьве не выхапіў гэты бохан сам, але яго апярэдзіў Грушка, аж зарагатаўшы ад радасці і ў міг вока вырваўшы яго ■ рук у Давыдоўскага. Змітрык адно ўскораў прыгадаць смак хатняга, спечанага на кляновым лісці ды прасяванага хлеба, як немалы, адломаны ад бохана акраец лёг яму на калені, а адтуль, ■ кутка камеры, з шарага поцемку, пачуўся гугнявы крык:

— Аддай, аддай хлеб!

— Сціхні, гніда, а то задушу! — зашыпеў Грушка.

Бохан сітніцы раздзялілі на ўсіх. Нічога не ўзяў толькі знявечаны да паўсмерці вязень.

Не ўтрываўшы ўжо і нават адкусіўшы, Змітрык быў нават наважыўся вярнуць свой акраец Давыдоўскаму, але тут ужо Грушка раздабрыўся:

— Не скавычы, на й табе. Вунь немец нават падзяліўся чакалядам.

— Што ты дурыш голаў, аддай хлеб!

І тут адчыніліся дзверы, святло ліхтарыка закалола Змітрыку ў вочы, пабегла па камеры, высвеціла сівую голаў Давыдоўскага, яго насцярожаныя, лупатыя, з чырванаватымі бялкамі вочы.

— Хлеб адабралі, хлеб! — аслеп ад калючай яснасці і моцна зажмурыўся Давыдоўскі.— Хлеба няма.

— Можэ, пану, арбаткі? Га? — зарагаталі сытым тоўстым голасам з калідора.— Цось, пан, хоры? Холернэ, не хцэ мі сень врацаць [1],— выскаліўся нехта яшчэ з паліцыянтаў, цьмяна бліскаючы арлом на круглай фуражцы.— Я прынёс бы.

Шырокі снапок святла ўжо набег на таго новага вязня, што ляжаў, уткнуўшыся тварам у падлогу, і ніяк не мог ачуняць: перад гэтым Змітрык трос яго, але дапытацца, хто і адкуль ён, не здолеў — вязень толькі адказваў глыбокім, змардаваным стогнам. Цяпер, учуўшы ў сябе на цёмным з запечанай крывёю брыве гэтае калючае святло кішэннага ліхтарыка, ён заварушыўся.

— Там ест новы,— падказаў нехта са стражнікаў.

— Новы, встань! — Змітрык пазнаў голас каменданта каравульнай роты. За ім таўкліся яшчэ чацвёра ўзброеных карабінамі стражнікаў.

Зноў, як і ўчора, пачынаўся начны абход, зноў выбіралі, мусіць, на расстрэл. Дзён тры назад з камеры забралі ціхага, здалося Змітрыку, бяскрыўднага дзядзьку з рэдзенькай пасівелай чупрынай і вялікімі кавальскімі рукамі Мазуру, прыгнанага сюды ў Картуз-Бярозу босым недзе з-пад Беластоку.

Сёння ўдзень, схадзіўшы па ваду для камеры, Змітрык учуў каля помпы ад худога, з упалымі шчокамі, брытагаловага вязня, што з камер пачалі выбіраць самых заядлых камуністаў. Кажуць, іх забіраюць на расстрэл, а нібыта вязуць у Кобрын у бальніцу.

Цяпер з калідора зноў крычаў хрыплавата-атлусцелым і хваравітым голасам камендант каравульнай роты:

— Эй, там, новы, встань!

— Но ты, не бондзь такі,— нехта паддобрываўся і памагаў каменданту.— Жылінскі, вставай! — і ўжо праз сціснутыя зубы: — Царска твоя маць!

— Копні яму там,— загадаў нехта яшчэ ўжо ім, арыштантам.

---

[1] Халера, не хочацца варочацца *(польск.)*.

Але Жылінскі не варушыўся.

Двое стражнікаў, грукаючы падкоўкамі і жабкамі ботаў, ускочылі ў камеру, дружна перакінулі Жылінскага на спіну і, схваціўшы за рукі, пацягнулі яго з задраным дагары нязголеным падбародкам; па цэментовай падлозе шкрабаліся стаптаныя незашнураваныя чаравікі. Адзін зваліўся з нагі.

Давыдоўскі пагнуўся, падняў яго, але кінуць за парог ужо збаяўся, так і трымаў у руцэ. Рэдзенькае святло ліхтарыка зноў абегла камеру, знайшло вастраносага, з белым абручом бінта на лобе і тоўстай на перавязі абпаленай рукою палоннага немца.

— А кто тэн огромны, нібы жмудзкі Баўбліс? [1]

— Шваб.

— Правда? Цо-о?

— Відзі, пан камендант, правда.

— Гэта той збіты лётчык?

— Ага.

— О холера, курва его мацъ! — сноп святла здрыгануўся, споўз з перабінтаванага немца.

— Можа, узяць? — спыталіся ўжо з калідора.

— Нех жэ го д'яблі вэзмон [2]. Не трэба.

Ліхтарык, як адно вялікае пугачова вока, драпежна і калюча ўставіўся на Змітрыка:

— Корсак?

Міця, успомніўшы ўжо расказанае каля помпы, што ўночы забіраюць на расстрэл, учуў, як халодны слізкі вуж страху падпоўз пад сэрца. Сухі даўкі камяк перапіснуў горла, не даў вымавіць сваё прозвішча.

— Корсак я,— раптам аказаўся і заварушыўся на сваім сенніку дробненькі, з рэдкімі валасамі Мазура, што распытваў, ці не будзе Змітрык з суседняе ятвязі.

— Хіба ты Корсак? — хмыкнулі, не паверыўшы, на калідоры.

— А хіба я не ведаю, хто я? — Мазура ўжо стаяў, трохі сагнуўшыся і трымаючы ў адной руцэ сваю палатняную торбу. На ёй дрыжала святло ліхтарыка і нечакана згасла, нібы самкнула дзве сцяны цяжкай задушлівай цемнаты.

— Холера! Пся крэў! І цо, пан, на то? — гаварылі ў поцемку. А тут, нібы чакаючы прысуду, цяжка соп Мазура.

---

[1] — А хто той вялікі, нібы жмудскі дуб? *(польск.)*

[2] — Няхай яго д'яблы возьмуць *(польск.)*.

— Номер твой? — крыкнулі з калідора.— Павярніся спіною.

Між лапатак у Мазуры на шарым палатне ліхтарык высвеціў вялікія чорныя лічбы нумара «3100».

— Значыць, тут не адзін Корсак.

— Не, я адзін.

— Тэж хват, курва! — ужо вылаяліся там і загадалі зноў мурлатаму паліцыянту: — Гаек, натыхмяст цягні яго сюды.

Пякучаю маланкаю святло зноў ударыла ў камеру, і невысокі, у вялікай і круглай, як рэшата, фуражцы, з апушчаным пад бараду падпінкам стражнік схапіў Мазуру за плячо. Мазура крутнуўся, скінуў руку і пайшоў.

— Дасі рады? — спыталі з калідора.

— Ды ўпраўлюся,— сказаў стражнік, спіною закрываючы рэдзенькае святло ад ліхтарыка з выпуклым вялікім шкельцам.

Жалезны лязгат і грукат дзвярэй раздушыў пухір рэдзенькага святла, і яно пыхнула густою чуткаю чарнатою. І яна нібыта зашапацела, асядаючы ў камеры.

Цяжка, нібы задыхаючыся ў ёй, аказаўся Давыдоўскі:

— Хвала богу, хвала богу! Пэўна, нас ужо не зачэпяць.

— А ты хоць выспавядаўся, каб было лягчэй паміраць? — ужо сур'ёзна і нават са злосцю папытаў Грушка.— А за другога пайшоў бы во так на смерць?

— Чэго тэн сукін сын, пророк панскі, хоча ад мяне? Хлеб аддай! — упоцемку страпянуўся Давыдоўскі.

— Я пытаю, ты пайшоў бы на смерць за другога чалавека?

— Скуль ты знаеш, што яны пайшлі на смерць?

— Знаю, раз гавару.

— Добра гаварыць аб непрытомным, ты скажы пра сябе.

— Што пра сябе? Я хачу жыць. Мяне ў Баранавічах чакае Ванда. Слухай, Бэрак, ты ведаў, што такое дзеўка?

— Раны боскія,— сіпата і натужліва засмяяўся ўпоцемку Давыдоўскі.— Ён вучыць бацьку, як рабіць дзяцей.

— Слухай, сэрданька, маеш шчасце, што яны могуць вярнуцца, а то я табе...

Тады Зміцер убачыў, як з поцемку пачаў выплываць, бялеючы перавязанымі бінтамі, нямецкі лётчык, ссоўваўся з дашчаных нараў. Ён, мусіць, не стрываў гэтай гутаркі, нават крыкнуў па-польску:

— Пожондэк! Мусі быць пожондэк! Цырк тут зрабілі, цырк! Ці ведаеце, што будзе з Польскай праз тры дні?

— Што? — устрывожыўся Грушка.

— Тут будуць немцы. Яны ўжо, мусіць, блізка. Бачыце, няма электрычнага святла. Варта ўцякае. Мысліш?

— Анёлку, а ты не страш, я не напушчу ў кальсоны.

— Гэ-э, не, ты, пэўпа, як збавення, чакаеш бальшавікоў. Але дарэмна, будзеш сядзець і ў іх. Улада ёсць улада.

— Чуеце, што ён балбоча? Эх, засрана наша доля,— плюхнуў і захаркаўся ў сваім кутку Давыдоўскі.

— Так, так, якая ні прыйдзе ўлада, ён будзе сядзець, і нават не дзьмухнеш,— сваё пацвердзіў немец.

— Гы-гы,— неспадзеў зарагатаў Грушка.— Ванда мая — хват, знойдзе сабе, курва, каханца. Крутне дунай — і як трутні на мёд... А я што, сядзець буду, курва?

— Не квакай, дай паслухаць,— сцішыў яго Давыдоўскі.

Змітрык, ашаломлены, збіты з панталыку тым, што адбылося, думаў пра старога сутулага Мазуру. Яго прыгналі пазаўчора босага і адзетага як стой, проста з бульбянага поля, і ён, увайшоўшы ў камеру, пачмыхаў сваім доўгім sклюдаватым носам, убачыў у кутку «кібель» і заміж прывітання сказаў:

— А тут у вас файне пахне, чуеце, хлопцы?

Быў ён да смешнага пацешны дзядзька, на якога Змітрыку шапнуў, нават перад гэтым брыдка вылаяўшыся, Грушка:

— І ўрэдны ж свенты божа: дасць аднаму тое, што нават двум было б залішне. Праўду кажуць — мае нос, як агурок за грош.

— Сціхні ты,— штырхануў яго Змітрык.

— І галава, халера, як клінок сыра,— тросся ўжо ад здушанага рогату Грушка.

А ўночы ўжо, дачакаўшыся, калі Мазура засне, і заклаўшы пад коўдру свой бот, гукнуў у халяву:

— Мазура Антоні!

Выдавала, голас ішоў з-за дзвярэй ці аднекуль з-пад зямлі.

— Што такое, што? — прачнуўся на злямцаваным, перацёртым, што курэў саламяным пярпыстым пылам, сеннiку Мазура.

— Ты чуеш, Мазура, гэта я, калідорны стражнік.

— А што ты хочаш, што? — Мазура ніяк не мог разабраць спрасоння, дзе і адкуль гавораць.

— Пракуратар пытае, за што ты асуджаны?

— За што? Хіба ён не знае?

— Ты не дуры. Коні краў?

— Што?

— Слухай, Мазура. Ты гаворыш, нібы ты не ведаеш, што табе грозіць?

— Я не меў справы да коней і не хадзіў іх красці.

— А таго пераласага, што ў хляве стаіць?

Змітрык бачыў у шарым, што цадзілася з аконца, электрычным подсвеце, даўганосага лысаватага Мазуру — ён таптаў колінкамі сяннік, задзіраючы, як певень, свой дзюбаносы твар на дзверы і, мусіць, не дагадваючыся, што пытаюць не з-за дзвярэй.

І Змітрык ужо не стрываў і што было моцы ўдарыў нагою ў горб пад коўдрай, ажно зарагатаў, задзіраючы ад радасці ўгору доўгія ногі, перавязаны, з шырокім абручом бінта на галаве, палонны лётчык.

Грушка дзіка і сыта, як кабан з убітаю метка швайкай, захроп і перавярнуўся на другі бок, блытаючыся і ніяк не могучы выцерабіцца з-пад коўдры. Нарэшце ракам падняўся і, трымаючыся за жывот, скрывіўся, адным вокам паглядзеў на Змітрыка:

— Ешчэ едно ідыёта. Скуль жа ж яны бяруцца?

— Маеш шчасце, што не пацэліў у зубы.

— Анёлку, ды я табе зараз,— але не палез да Змітрыка біцца, закруціўся па камеры, замармытаў: — Салага! Не хачу толькі пэцкацца ў смаркачы.

А Мазура, распасцёршы шырока рукі, стаяў, аслупянелы, збіты з тропу і яшчэ ўсё не верачы, што гэта з ім гаварыў не стражнік, а Грушка, што з яго паздзекаваліся — смешна, як з малога дзіцяці.

— Ён гэта, ён,— падказваў нарэшце Змітрык.— У бот гаварыў.

Убачыўшы адну разутую Грушкаву нагу, нехаця, але, мусіць, паверыў. І ўжо адкапыліўшы губу і звесіўшы свой доўгі нос, адвярнуўся ў кут і з крыўды, брыдкасці і ад таго, што не можа адпомсціць, горка, без слёз заплакаў.

І ўсе гэтыя дні гарнуўся да Змітрыка: ці што перапытаць, каб зноў не трапіць у прасак, і ўжо на ўсе вычварані Грушкі толькі са злосцю касавурыўся: «Зляпіў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу». Даверыўшыся, расказаў Змітрыку, што ўдома сямёра дзяцей асталося: большы на

год ці на два старэйшы за Змітрыка, а меншаму пайшоў усяго шосты гадок.

А ўчора глуха і скоранька зашаптаў, каб не чулі іншыя страшную нечаканую весць: «Пагаворваюць, што мы жыўцом адсюль не выйдзем», і суцешыў сябе, гаруючы ўжо над Змітрыкам і спачуваючы толькі яму: «Я-то што? Лічы, аджыў сваё, пяцьдзесят пяць маю, а ты яшчэ свету не бачыў. Гэ, жыць табе, хлопец, трэба, жонку добрую ўзяць, дзяцей яшчэ прыдбаць... Я, лічы, усё зведаў і спазнаў, з сямі, як гаворыцца, печаў хлеб еў...»

Цяпер Змітрык перабіраў у памяці ўсё, што гаварыў Мазура, і верыў і не верыў, што ён, гэты даўганосы, брыдкі з твару, але сцішны, ласкавы душою чалавек, пайшоў за яго, за Змітрыка, на смерць.

А можа, ён хацеў вырвацца з турмы, спадзяваўся выйсці на волю, такім спосабам знайсці ратунак. Ці, можа, яго дапёк распусны, жулікаваты Грушка, і ён уцякаў абы-куды, хоць у пекла. Бо Грушку таго першага здзеку даравапь не мог і ўжо ў вочы ўпікаў: «З твару яйко, а ўсярэдзіне — баўтун».

Але не, Мазура ведаў, што сёння з камеры выклікаюць толькі смертнікаў. Ён нават, здэцца, ірвануўся да Змітрыка, але яго за плячо растапыранаю пяцярнёю схапіў стражнік...

Мазура нават не ўскораў нічога сказаць...

А можа, вінаваты сам Змітрык, што не паспеў аказацца, не перабіў Мазуру, не прызнаўся, што Корсак — ён. Хоць стража, пэўна, дагадалася, ды, зрэшты, бачыла па нумары. Ды чаму ж тады ўзяла Мазуру? Проста так, для пацехі, дзеля таго, каб правучыць?

Можа, яны яшчэ вернуцца, можа, прыйдуць па яго, па Змітрыка?

Міця сцішыўся ад сваіх збэрсаных і пацяжэлых, як павучына ў расе, думак. Прыпомнілася, як тры тыдні назад, азыравата-вільготнаю раніцаю, арыштавалі яго, надзеўшы далікатна-маленькія паручнікі на Алесіным надворку, калі ён бег з гумна ў хату. Ён думаў, што гэтак аднаго і пагоняць у Дварчаны; рэвізію яны зрабілі без яго і спехам,ператросшы толькі кніжкі. Бацька з Алесяю паспелі толькі ў пагон ужо на мосце, што яшчэ пах сырою смалінаю, перадаць торбу з салам — паліцыянты прыспешвалі, нават не далі зайсці ў бацькаву хату, каб узяць цяплейшую марынатку ды які аловак з папераю — па пісьмы.

І сшытак, і аловак, ператросшы ў марынатцы кішэні, забраў адразу ж Гура. Адзежу, праўда, аддаў ужо ў лясаку, дзе стаялі дзве падводы з гэтакімі, як Змітрык, пасажырамі, набранымі, мусіць, за ноч па навакольных вёсках: на першым возе, хаваючы босыя ногі ў саломе, сядзела і ўхутвала плечы ў суконную, з шырокімі балонкамі, хустку нездароўчая, жаўтлява-схуднелая маладзіца. Была яна недзе адных год з Алесяю і, пэўна, знаёмая, бо перапытала, калі да гэтага воза падвялі Змітрыка:

— Ці не брат твой, Аляксандра?

— Мой, Олечка,— Алеся тады залілася слязьмі і забожкала, як па нябожчыку, покуль яе, настаўляючы шырокі, насаджаны на карабін багнэт, не адапхнуў крываногі, у галіфэ і ў цяжкіх ботах паліцыянт.

Змітрык толькі паспеў падаць бацьку руку, чуючы яго сухую шурпатую далоню і бачачы нейкія пякучыя і, здаецца, злыя бацькавы вочы.

Цяпер яны ўспомніліся зноў: сухія, з маўклівым упіканнем.

Пасля сырой дварчанскай лядоўні, дзе арыштаваных пратрымалі да вечара, даўшы ўвобмель толькі напіцца вады, быў ужо вагон, што стаяў у тупіку станцыі за пакгаузам.

Тут у адным купэ са Змітрыкам апынуўся дварчанскі лістаноша, нібыта таксама немец, а за дашчанаю перагародкаю хрыплаватым голасам загаварыў дварчанскі магазінер Давыдоўскі.

— Чуеце, куды нас вязуць? Чуеце, куды? — пытаўся ён у маўклівага і насупленага паліцыянта, што вартаваў купэ.

— Чаго ты,— супакойваў яго пануры і быдта абыякавы да ўсяго лістаноша.— Не да цешчы на бліны.

Ужо толькі як выехалі з Баранавіч, за перагародкаю зноў глухавата, нібы толькі сам да сябе, нехта загаварыў:

— Ці не ў Бярозу? Га? Быў я там.

— Не хваліся пабыўшы, а хваліся пажыўшы,— заззлаваў тады і затрапятаўся Давыдоўскі.

— Не адракайся, пажывеш і ты.

Тут у Бярозе, ужо на турэмным пляцы, разгароджаным калючым дротам на квадраты, куды іх гналі, як перапуджаных авец, між двух радоў стражы, што пад крыкі «бегам марш», прыскальваючы для меткасці адно вока і крывячы ад асалоды рот, няшчадна секла іх гумамі,

арыштантаў разлучылі. А ў колішняй кавалерыйскай казарме пры доктарскім аглядзе, пакінуўшы ў чым маці нарадзіла, Змітрыка яшчэ раз ператраслі, перашукалі і, адабраўшы торбу з харчамі, упіхнулі ў гэтую камеру, дзе сядзеў толькі перабінтаваны немец. Ён і зарагатаў, убачыўшы, як Змітрык спыніўся каля дзвярэй, трымаючы абедзвюма рукамі свае порткі, з якіх малады вуграваты стражнік вышмаргнуў папружку і жыўцом вырваў два аплічкі, скоса пазіраючы на вузенькі сяннік на дашчаных нарах — а дзе ж спаць яму?

Немец варухнуў забінтаванаю, на падвязцы, рукою, паказаў на сяннік каля сябе:

— Біттэ! Месца хопіць, як-небудзь памесцімся. А то мне абрыдла аднаму. Каб не было так смутна, гадаваў павучка. Ён там у куточку жыве. А цяпер ты... Ну што ж, тры павучкі — будзе весялей.

Змітрык прыглядаўся да яго мышаватага без пагонаў і адпоратых пятліц мундзіра, на якім бліпчалі белыя алюмініевыя гузікі.

Немец дагадаўся, маргнуў лупаватымі вачмі:

— Мне пакінулі, не выпаралі. Я ж нямецкі афіцэр, лётчык.

І, мусіць, убачыўшы, што гэта здзівіла і адначасна заінтрыгавала Змітрыка, пацвердзіў:

— Так-так, баявы лётчык. Я зрабіў два налёты на Варшаву, на трэцім мяне збілі. Гэтыя польскія свінні, што пачалі з намі вайну.

Пасля таго як Змітрык прымасціўся на абслізганым да матавага бляску дашчаным палку, зноў махнуў перабінтаванаю галавою з шырокім, што перасякаў наўскасяк зморшчаны лоб, бруднаватым паскам. Твар у яго быў хударлявы, і дзве глыбакаватыя баразны крутымі дугамі акружалі злы тонкі рот.

— А за што інтэрнавалі сюды? — перапытаў ён яшчэ раз па-польску, трымаючы перад сабою на падвязцы забінтаваную руку.

— За вершы.

— Як? Ты пішаш вершы? — лётчык нават адсунуўся.— Дай глянуць на цябе.

— Пісаў... і нават па-беларуску.

— Чакай, а хто такія беларусы? — немец паварушыў кароткімі кончыкамі сваіх пальцаў, што выглядвалі з бінта.

— А вы хіба не чулі? — у Змітрыка ад нервовасці, ад гэтых нядаўніх удараў гумавымі палкамі, што яшчэ смылелі і нылі на руках і спіне, затурзалася адно вока.

— Не наракай на мяне, я лётчык, я, вядома, чуў пра Расію, а пра вас — не. Такіх народаў шмат, што страцілі сваю самастойнасць. Яны не маюць прыроднае сілы і цвёрдае гордасці перад богам і людзьмі. Таму яны мяккага характару і нораву, як ты. І не злуй. Во мой сяннік. Невядома, ці табе яшчэ прынясуць.

І яны першую ноч спалі разам на гэтым смярдзючым, з перацёртымі ў сечку стружкамі, сенніку, прагаварыўшы да поўначы. Лётчык расказаў, што гадаваўся сіратою ў старэйшай за яго на семнаццаць год сястры. Таксама пісаў вершы. Любіў філалогію. Вывучаў польскую мову. Збіраўся нават паступіць ва універсітэт, але на якія кошты ён мог вучыцца: з сястрою таксама прылучылася бяда — яна папала пад трамвай, ёй адрэзала абедзве нагі, і ён змушаны быў пайсці ў лётную школу.

— Слухай,— павярнуўся ён да Змітрыка і задыхаў у патыліцу,— я таксама пісаў вершы. Як усе мы, я пісаў пра моц нямецкага духу. Ты, пэўна, ведаеш, усе паэты хочуць перадаць гэтае «gemüht» — глыбокае адзінства душы і ўсю жыццёвую паўнату яе існавання. Але бачыш, замест паэта я стаў вайсковым лётчыкам, скідаў бомбы. Я некага ўжо забіў і, пэўна, астануся жыць. Гіне звычайна той, хто робіць дабро.

— Пачакай,— перапыніў яго Змітрык.— Выходзіць, я нікога не забіў, значыць, я згіну?

— І гэта не толькі твой лёс, але і лёс твайго народа. Разумееш. Усе лімітрофы трапяць пад нейчую ўладу.

— А хто астанецца?

— Толькі той, хто мае сілу вялікага духу і вялікае памкненне да асабістай волі.

Змітрык стоена слухаў пад сонны шэпт дажджу на аконнай бляхе гаваркога, што насумаваўся, як труцень на адзіноце, лётчыка.

— Зрэшты, мо паможам вам, каб стрымаць перад Еўропай Расію. Мы хочам вытруціць хваробу чалавецтва, разнесеную жыдамі-бальшавікамі. Калі мы прайграем — катастрофа, значыць, гэтыя з шырокімі тварамі і расплясканымі насамі азіяты пакораць свет. Але ты не бойся, сюды прыйдуць немцы. Яны прынясуць цывілізацыю. Бачыў, як нізка над лагерам ляцелі нашы самалёты. Значыць, мы кантралюем усю тэрыторыю Польшчы.

Цяпер Змітрык стаіўся зноў, прыслухоўваючыся да натужнага гуду самалёта, цягучага і доўгага. Сапучы насамі, на шары квадрацік акна — там ужо цямнела раняя асенняя ноч — задзіралі галовы ўсе арыштанты. На вышках, дзе звычайна стаялі кулямёты, не было святла. Не запальвалі электрычнасці і ў турэмным двары.

Баяцца бамбёжкі? Ці толькі яе? Сёння не выганялі арыштантаў на калідор на праверку. Не пералічвалі, як заўсёды, перад сном. І не запалілі нават у камеры цьмянай, абкручанай каўпаком з сіняе паперы лямпачкі.

Значыць, сёння робіцца нешта іншае ў гэтым глухім лагерным корпусе. І гэты тупат, беганіна і нейкая глухая валтузня на калідоры. Што гэта значыць?

Маўчала і наструнена слухала гэтую цішыню на калідоры, падазроную валтузню ўся камера. Толькі Давыдоўскага біла цяжкая ад курыва ці ад астмы задуха, і нешта суха і дзярката хрыпела, грала пеўнямі ў яго дзіравых лёгкіх. І ён пачынаў бухаць сухім, сіпатым да надрыву ў грудзях кашлем і перабіваў, глушыў гэты падазроны тупат, бегатню і гутарку на калідоры.

— Міцек, у плечы ты яму, у плечы тумака грымні,— стагнаў, надзімаўся і ажно лопаў ад злосці Грушка.

— І што гэта за памяшчэнне без храпу і свішчэння,— адкашляўшыся, пачынаў агрызацца Давыдоўскі.

— Ну, я табе зараз!..— на колінках да Давыдоўскага ішоў Грушка, але ўдарыць не паспеў.

Насцярожанасць камеры раздзёр ужо моцны ды ўладны голас нямецкага лётчыка:

— Ціха вы! Варта ўцякае. Заўтра тут будуць нашы, вы чуеце?

— А Расія дзе? Дзе Расія? Яна ідзе сюды. Чуеш ты, шваб? — перакрывіў лётчыка і зашыпеў, быдта ўшчэмлены ў расколіну, Давыдоўскі.

— Ты не бядуй, ты сядзець тут не будзеш, для цябе будзе гета. Ты парушыў усе законы жыцця. Тваё месца толькі ў гета. Ты павінен таксама нешта стварыць, а не жыць з чужое працы.

— Што, я з тваё працы жыву? Я? — зашамацеў на сваім сенніку Давыдоўскі.— А ты ведаеш, колькі для Германіі, для ўсяго свету зрабілі яўрэі?

— Яны выдумалі толькі бальшавізм.

Але гэтую сварбу перарваў раптоўны крык на калідоры:

— Таварышы!

Жалезная настылая ціша, здаецца, разам са столлю ўпала на ўсіх, а потым нечаканы і моцны ўдар збіў гэты голас.

Маўчалі ўсе і нават, здаецца, не дыхалі, чакаючы зноў гэтага балючага сярод сырых і глухіх сцен камяніцы адчайнага крыку.

Але заміж яго недзе далёка ў канцы калідора балюча-жалезным, ад якога шэрхла скура і ледзянела душа, скрыгатам зарыпелі цяжкія акутыя дзверы.

А тут ў камеры ўсе цяжка, з перадыхам саплі, насцярожана і чутка ловячы ціш.

Стаіўшыся, Змітрык нават не чуў, як праваліўся ў мяккую чарнату сну: пераходзіў невядомую рэчку, густая быстрая вада збівала яго з ног. На беразе стаяў Давыдоўскі і крычаў:

— Дай руку!

Ад гэтага крыку Давыдоўскага Змітрык і прачнуўся:

— Уставай, чуеш!

Змітрык нарэшце ўцяміў, дзе і што з ім.

— Чуеш, камеры ломяць.

— А можа, правакацыя? — спытаў глуха і асіпла, як са сну, Болек Грушка.

З малога закратаванага і да палавіны забітага бляхаю акна ў камеру цадзілася скупое шарае святло блізкага дня.

Адчайна і звонка, быдта ў пустую бочку, білі недзе ў акутыя дзверы камеры.

— Таварышы,— паўтарыўся той, абарваны сярод начы, голас.— Слабода.

— Уцякла варта! — крыкнуў нехта другі, звонкім і танчэйшым.— Выходзьце на слабоду!

Змітрык убачыў, як да дзвярэй ірвануўся лётчык, закрыўшы плячмі замок, павярнуўся тварам сюды да камеры: у лупаватых злых вачах адбівалася і раз'ятрана блішчала святло с малога закратаванага акна, на лобе распаўзлася, аслабла тугая павязка. Правую забінтаваную да локця руку ён выцягнуў з перавязі, падняў яе і абапёрся на тоўсты выступ дзвярнога праёму, нібы загарадзіўшы ёю дзверы, левую, як баксёр, трымаў нагатове.

— Ніхто ані кроку,— сказаў ён спакойна, свідруючы ўсіх злымі, што глядзелі спадылба, вачмі. Яго тонкія, сціснутыя ў злосці губы абдымалі тугія дужкі глыбокіх сухіх зморшчын.

— Гэй, ты, шваб! — сцяў кулакі і памаленьку пачаў падступацца да дзвярэй Грушка.

— Абверфэн! [1]

— Ты што, шваб?

— Гальт, гальсрынг! [2]

— Ды я цябе!..— Грушка павярнуўся да нараў, пачаў ірваць дошку, але не здужаў.

— Гальтэн лассен! [3]

— Вы чуеце, вы бачылі, што ён вычварае? — Давыдоўскі стаяў, шырока расставіўшы ногі і скрывіўшыся трохі набок.

— Загадваю ўсім аставацца на месцы,— па-польску, як ужо мог, закрычаў зноў перабінтаваны палонны немец.

— Хто ты такі, ну хто, што ты загадваеш? — не стрываў ужо Змітрык, чуючы, як грыміць і ломіцца ўвесь калідор, уздрыгвае турма ад цяжкіх удараў жалеза і трэскату сухога дрэва.

— Я — інструктар, ваш найбольшы начальнік — і загадваю спакойна чакаць новай улады. Яна разбярэцца.

— Ды сюды ідуць не немцы, а бальшавікі, гэй ты, дурны шваб! — зарагатаў Грушка.

— Вас не выпусцяць і бальшавікі, вы ворагі для ўсіх. Вы палітыканы. Вы не прывыклі нічога рабіць, толькі бунтаваць. Вы шкодныя для ўсіх улад. І найперш ён — гэты юда,— лётчык адарваў ад сцяны сваю забінтаваную руку і паказаў на Давыдоўскага.— Ён і яго паганы род. Чалавецтва і бог павінны выракчыся і асудзіць іх на знішчэнне.

— Хлопцы, ды што мы стаімо,— пачаў заікацца Давыдоўскі.— Бі, лупі яго, хлопцы!

Давыдоўскі падскочыў да лётчыка, але той быў ужо нагатове, і ўдар яго быў неспадзяваны і меткі — якраз між ног Давыдоўскаму.

Давыдоўскі глуха, з глыбокім унутраным крыкам зароў і аб'ехаў, ашчаджаючы абедзвюма рукамі балячае месца.

Змітрык бачыў, што яму з Грушкам збіць так проста гэтага рослага і, мусіць, няблага вымуштраванага для бойкі немца наўрад ці ўдасца.

— Не бойся! — nібы чуючы Змітрыкаву насцярогу,

---

[1] — Адвалі! *(ням.)*
[2] — Стой, хамут! *(ням.)*
[3] — Загадваю спыніцца! *(ням.)*

крыкнуў Грушка.— Заходзь з тылу, толькі смялей,— і закрычаў ужо немцу: — Одэйдзь, ты свініо!

— Сядай і боньдзь ціхо! [1] — павёў на яго лупатым вокам немец.

Але Грушка, у міг вока, як рысь, скочыў на немца, хватаючы яго за забінтаваную руку, каб заламаць яе назад, і цяпер Змітрык дагадаўся, што трэба рабіць, калі немца выманўць на сярэдзіну камеры, як яны рабілі ў школе: адзін прысеўшы ў каго-небудзь ззаду, а другі папіхнуўшы ў грудзі.

Але немец, змеціўшы Грушкава падморгванне ці дагадаўшыся, акутым, на падкоўцы абцасам чаравіка цяў Змітрыку ў бок, забіўшы дыхавіцу. І тут папаўся сам: Змітрык ускораў схапіць за гэтую шарую калашыну суконных порткаў, потым ужо абедзвюма рукамі і за худаватую лытку.

Немец, стоячы і трымаючыся на адной назе, яшчэ закруціўся на месцы, покуль па ёй з размаху не ўдарыў Грушка. Адкінуўшы голаў і распасцёршы белыя забінтаваныя рукі, лётчык грукнуўся на спіну, і да яго ўжо, ачуняўшы і падхапіўшыся на ногі, падскочыў Давыдоўскі.

Прыкусваючы ніжнюю таўставатую губу, ён цаляў немцу нагою ў голаў, на якой ужо матляўся раз'ехаprevious і разбэрсаны бінт.

Немец толькі круціўся на спіне, малоцячы куды пападзе сваімі доўгімі нагамі.

Раз'юшанага і нібы адышоўшага ад памяці Давыдоўскага ўжо не адцягнулі б, каб у замку дзвярэй не забрашчаў, не зашчоўкаў ключ...

— Выходзь на волю, усе хто ёсць! Сюды ідуць бальшавікі! Мы чырвоная гвардыя! — крыкнуў мужчына з абвіслымі вусамі, у карычняватым кажушку з чорным каўнярам. За яго спіною стаялі арыштанты ў шарых палатняных куртках і шарых турэмных лодачках-пілотках на галаве.

— А гэты хто, забінтованы? — паказалі на немца, што падымаўся, заліты крывёю, з падлогі.

— Гэ, гэта шваб,— цяжка адсопваўся Давыдоўскі.— Ён не пускаў нас з цэлі [2].

— А-а,— задзёр голаў вусаты мужчына.— Іх тут шмат. Мы з імі вунь бої у варотах вытрымалі. Яны спадзяваліся, што прыйдуць немцы, але пралічыліся...

---

[1] — Сядзь і ўціхамірся! *(польск.)*

[2] Цэля — камера *(польск.)*.

— Трэба затрымаць гэтую брыду, паскудства гэта,— зморшчыўся Давыдоўскі, выскокваючы наперадзе Змітрыка на калідор.

— Халера знае, што з імі рабіць,— сказаў чалавек у дублёным кажушку і павярнуўся да немца спіною.

Не адкрыўшы замок, у суседняй камеры білі драўляным цяжкім тапчаном у дзверы. Аблушчваўся тынк, крышылася сухая цэгла. Ад пылу едкае вапны пяршыла ў горле.

Змітрык кінуўся па вузкім калідоры ў той бок, куды беглі ўсе — да выхаду, спатыкаючыся на старых, стоптаных да вузлаватых сукоў дошках шарае, ніколі не фарбованае падлогі.

У грудзях гарэла дрыготкім, трапяткім агнём радасць, нешта тое, што ён не мог і вызначыць сам, але што падымалася ў яго душы ад гэтай бегатні, узбуджанасці, ад голасу людзей, ад сухога рыпучага трэску вушакоў у разбітых і зламаных дзвярах, ад поцемку ў калідоры, сухога едкага пылу, ад грукату руйнавання і салодка-помслівай радасці арыштантаў.

Запылены, як і ўсе, ён выскачыў нарэшце на двор, задыхнуўся ад волкай, азыраватай прахалоды, роснасці і неспадзявана-раптоўнага адчування, што ён на свабодзе.

Азірнуўшыся на высокі шчытны з калючым наверсе дротам паркан, за якім падымаўся цёмна-чырвоны, захутаны сівым туманам трохпавярховы блок турмы, ён не ўчуў песід ім таго страху, які чуў першы раз, калі ўбачыў гэты будынак здалёк, як гналі сюды арыштантаў з чыгуначнай станцыі. Цяпер у душы пераварочвалася толькі нязлосная, можа, трохі гідкая, тупаватая помста, і хацелася зняважыць тую мурлатую морду насатага стражніка Пытлі, што секануў гумаю Змітрыка па плячах у драцяным калідоры на турэмным двары.

Уздоўж паркана абапал ружаватай брукаванай вуліцы бялелі нейкай першай радасцю пасаджаныя тут каля турмы, як на здзек, ліловыя і белыя астры, і Змітрыку раптам убачыліся Баранавічы, за густым бэзам чырвоны цагляны дом, яна, Чэся, у белай з сінім каўнерыкам і ў сіні гарошак сукенцы.

І ад нечага ўжо новага, неспазнанага да яе, страпянулася сэрца.

— Хто на Баранавічы? — крычалі недзе на гэтай ружаватай, што хавалася ў тумане, вуліцы.

Змітрык павярнуўся на той далёкі голас і неспадзявана ўбачыў перад сабою нямецкага лётчыка; разлезлая павязка наязджала яму на вочы, падпухла і крываточыла ніжняя губа.

Ён таксама, згледзеўшы Змітрыка, падскочыў да яго:

— Што, гэта праўда, сюды ідуць бальшавікі?

— А ты што, ніяк яшчэ не паверыш?

Лётчык падняў з вачэй раз'ехануюю павязку:

— Запомні: тут будзе Германія.

— Не, ты пралічыўся, сюды ідуць Саветы,— крыва ўсміхнуўся Змітрык і павярнуў туды ў волкі туман, куды па бруку цякла ў шарых палатняных штанах і куртках з «лодкамі» на астрыжаных галовах, акалелая, з сінімі пакрэплымі рукамі, купа людзей.

— Хто на Шчучын? На Вільню хто? — чулася з густога сівага туману.

— Пінск, Пінск тут!

Змітрык чуў, як ад густое расы ацяжэлі вейкі.

Туман, здаецца, гусцеў яшчэ больш. І ў гэты сівы невідушчы туман ішла, бегла і гупала па настылым мокрым бруку сваімі чаравікамі бясконцая грумада людзей.

Двое вялі высокага худога без пілоткі мужчыну. Ён паказваў рукамі на дарогу, на ацяжэлыя ад расы жаўтлявыя бярэзіны, з якіх з шоргатам пляскала вада, і крычаў:

— Там яны, нашы збавіцелі, там! — і раптам пачынаў плакаць.— Глядзіце, там вунь выламаны краты.

Змітрык убачыў у чалавека збялелыя ад страху вусны, вялікія налітыя здзіўленнем вочы. Ён, мусіць, адыходзіў ад розуму.

— Слухайце,— зноў крыкнуў гэты мужчына.— Там ломяць сцены! Чуеце ці не?

Ён з усяе моцы адапхнуў ад сябе гэтых двух праважатых і стаяў, распасцёршы рукі, худы, брытагаловы, у расхрыстанай палатнянай арыштанцкай курткы.

І праўда, у сівым тумане, што глытаў гэты шэры натоўп, дзе бялеліся толькі, як лапікі далёкага снегу на згоне зімы, кабечыя хусткі, Змітрык таксама ўчуў нейкі грукат — ён ішоў, падымаўся паволі, нібы з-пад зямлі, рос, шырыўся і, здаецца, падмінаў усё пад сябе.

Азіраючыся на гэтага звар'яцелага мужчыну з распасцёртымі рукамі, на грумаду людзей, што прыспешвала крок на ружаватых каменнях мокрага бруку між пажоўклых, што зацерушылі апалым лісцем абочыну шашы, высокіх бярэзін, Змітрык сышоў у канаву і пабег спярша

макраватым картапляніпічам. а потым зялёнай, пасівелаю ад расы рунню. Услед за ім, скіраваўшы з шашы, пабеглі іншыя.

Міцю выперадзіла босая худая маладзіца і, сарваўшы з чорнае, ажно сіняе, каротка падстрыжанае галавы хустку, замахала ёю:

— Няхай жыве слабода!

Ёй на шашы нядружна адгукнуліся асіплыя прастуджаныя галасы.

Задыхаючыся, трацячы ўжо астатнія сілы, Змітрык апярэдзіў маладзіцу, выскачыў на шашу і ўбачыў там зялёную, уквечаную наламаным бярозавым веццем высокую жардзяную браму. Над ёю чырванеў волкі ад туману і нерухомы сцяг.

Каля брамы спынялася і закручвалася, як нечакана затораная вада, гэтая бясконцая грумада людзей.

Сюды на яе надыходзіў, нібы падмінаў пад сябе шашу, магутны, з выразным жалезным лязгам, грукат танкаў.

Каля Змітрыка цяжка соп, задыхаўся ў суконным каўпаку, у суконным сівым бурносе, у зморшчаных хадаках стары мужчына. Збоку яго, заглядваючы ў няголены твар, стаяў гадоў дзесяці босы, з вывернутаю наперад пятою калекі хлопчык.

— Ты скажы, ты малады, ты ведаеш,— стары лёгка чапіў Міцю скурчанаю, у сініх жылках, дрыготкаю рукою.— Няўжо праўда, што бальшавікі не вераць богу?

— Праўда, дзядзька,— Міця жахнуўся, што сказаў гэта.

Стары завярнуўся, пайшоў па мокрую, у тлуставата-блішчастых лужынах дарогу, што разразала роўнаю паласою кусцістую зялёную рунь.

— Дзед, куды ты, дзед? — крычаў яму хлопчык.— Чолгі вунь, ідуць чолгі!

Змітрык убачыў, як туды, на гэты лязгат і грукат, ірванулася і захліснулася ў бегу густая грумада людзей. Спатыкаючыся ў разорах, бегма ляцеў калекі хлопчык. «Няўжо чалавек заўсёды бяжыць насустрач невядомаму?» — падумаў Корсак і таксама прыспешыў крок.

*1977—1981*